НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Том 10**

**П**



МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
2005

УДК 811.161.3’373.6’374
ББК 81.2Беи-4
Э 93

*Выпуск выдання ажыццёўлены*
*па заказу і пры фінансавай падтрымцы*
*Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

Укладальнікі:

Р. М. Малько: *Прасніца — Прушыць*; М. П. Антропаў: *Пры — Прыняць*;
М. П. Антропаў, Р. М. Малько: *Прып — Птэлея*;
Г. А. Цыхун: *Пубздыр — Пяяць*, а таксама асобныя артыкулы:
*прастол, прастора, прахоны, прачыстая, пройда, пролубка, пролумка, прораб, просцень, просьба, пругло*$_1$*, прудзішча, прузік, прыбамбахі, прывіціца, прывячаць, прызвадзіць, прыймо, прыкамець, прыклякаць, прымол, прыпень, прыродазнаўства, прыстаць, прысушак, прыткі*$_1$*, прыткі*$_2$*, прытны, прыцінь*$_2$*, прыць, прышамець, прэціль.*
У падрыхтоўцы тома таксама прынялі ўдзел: М. Б. Лычкоўская (папярэдняя распрацоўка часткі слоўнікавых артыкулаў фрагмента *пры — прыняць*),
А. М. Рудэнка (папярэдняя распрацоўка часткі слоўнікавых артыкулаў фрагмента на *пя-*),
В. Дз. Астрэйка (адбор усходнеславянскіх адпаведнікаў да слоў фрагмента *пры — птэлея*),
І. І. Лучыц-Федарэц (упарадкаванне сістэмы скарачэнняў),
І. І. Лапуцкая (падрыхтоўка тэкстаў да друку)

Рэдактар

доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук С. М. Запрудскі,
кандыдат філалагічных навук М. Н. Крыўко

© Малько Р. М., Антропаў М. П.,
Цыхун Г. А., укладанне, 2005
© Афармленне. РУП “Выдавецкі дом
“Беларуская навука”, 2005

**ISBN 985-08-0651-6 (Т.10)**

# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

Адм. — Арашонкава Г. У., Чабатар Н. А. Тлумачальны слоўнік адметнай лексікі ў творах Якуба Коласа. Мн., 2003.

Арк. — Аркушин Г. Сказав, як два зв'язав: Народні вислови та загадки із Західного Полісся і заходної частини Волині. Люблін; Луцьк, 2003.

Бел. нав. тэрм. — Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Мн., 1922. Вып. 1. і наст.

БНТ, Гульні — Гульні, забавы, ігрышчы. 2-е выд. Мн., 2000 (Беларуская народная творчасць).

Ваўр. — Ваўранюк А. Беларускія гульні. Беласток, 1998.

Доўн.-Зап., Чародейство — Довнар-Запольский М. В. Чародейство в Северо-Западном крае в XVII—XVIII вв. // Этнографическое обозрение. 1890. № 2.

Жарт. песні — Жартоўныя песні. Мн., 1974.

Матус. — Матусевіч Г. Маленькі слоўнік тубыльцаў // Наша Ніва. 1997. 25 жніўня.

## ЛІТАРАТУРА

American Contrib. to the 13th Intern. Congr. of Slavists — American Contribution to the 13th International Congress of Slavists. Bloomington, 2003. Vol. 1.

Анікін — Аникин А. Е. Этимологический словарь русских диалектов Сибири. Заимствования из уральских, алтайских и палеоазиатских языков. 2-е изд., испр. и доп. М.; Новосибирск, 2000.

Бълг. реч — Българска реч. Популярно списание за езикова култура, I. София, 1995 і наст.

Даніловіч, Бел. дыял. фраз. — Даніловіч М. А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова. Гродна, 2003.

Зб. Нахцігалу — Slovansko jezikoslovje: Nahtigalov zbornik. Ljubljana, 1977.

Исслед. по слав. диал. — Исследования по славянской диалектологии, 5: Актуальные проблемы славянской лингвогеографии. М., 1998.

Карпенка, Назв. — Карпенко Ю. А. Названия звездного неба. М., 1981.

LB — Linguistica Baltica: International Journal of Baltic Linguistics, I. Warszawa, 1992 і наст.

Лекс. ландш. — Лексічныя ландшафты Беларусі: Жывёльны свет. Мн., 1995.

Манаенкава, Словарь — Манаенкова А. Ф. Словарь русских говоров Белоруссии. Мн., 1989.

Неўская, История слав. этим. — Невская Т. В. История славянской этимологии в XIX в. (основные этапы развития): АКД. М., 1991.

Новое в рус. этим. — Новое в русской этимологии, I. М., 2003.

Общ. лекс. — Общая лексика германских и балто-славянских языков. Киев, 1989.

Palaeoslavica — Palaeoslavica // International Journal for the Study of Slavic Medieval Literature, History, Language and Ethnology. Cambridge, Massachusetts, 1993 і наст.

Rasprave — Rasprave Zavoda za hrvatski jezik, 1. Zagreb, 1975 і наст.; Rasprave Instituta za hrvatski jezik i jezikoslovlje, 22. Zagreb, 1996 і наст.

Саднік — Айцэтмюлер — Sadnik L., Aizetmüller R. Vergleichendes Wörterbuch der slavischen Sprachen. Lieferung 1. Wiesbaden, 1962 і наст.

Сакалоўскі, Ptaki — Sokołowski E. Ptaki ziem polskich, I—II. Warszawa, 1958.

SSLP — Studies in Slavic Linguistics and Poetics. New-York; London, 1968.

Талстой, Избр. тр. — Толстой Н. И. Избранные труды, I—III. М., 1997—1999.

Турска, Powstanie — Turska H. O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie = Турска Г. О происхождении польскоязычных ареалов в Вильнюсском крае. Vilnius, 1995.

ZfBalk, 1981 — Zeitschrift für Balkanologie, Bd. 1. Wiesbaden, 1962 і наст.

Česká slavistica, 1998 — Češká slavistica 1998. Češké přednášky pro XII. Mezinárodní sjezd slavistů. Praha, 1998.

Чурко — Чурко Ю. М. Белорусский хореографический фольклор. Мн., 1990.

Шмід, Vok. — Schmidt J. Zur Geschichte des indogermanischen Vokalismus, 2. Weimar, 1871—1875.

Шымкевіч, Корнеслов — Шимкевич Ф. Корнеслов русского языка, сравненного со всеми главнейшими славянскими наречиями и с двадцатью четырьмя иностранными языками, I—II. Спб., 1842.

Этнолингвистика текста — Этнолингвистика текста: Семиотика малых форм фольклора. Тезисы и предварительные материалы к симпозиуму. М., 1988. Ч. 1, 2.

Etnolingwistyka — Etnolingwistyka, 1. Lublin, 1988 і наст.

Язык, слово, действительность — Язык, слово, действительность. Материалы междунар. научной конференции. Мн., 2000. Ч. 1.

# П

**Пра́сніца** ‘прыстасаванне, да якога прывязваецца кудзеля пры прадзенні’ (ТСБМ, Касп.; в.-дзв., Сл. ПЗБ; карм., Мат. Гом., Бяльк., Влад.), *пра́сліца* ‘тс’ (Касп., Шат., Влад.), *пра́ліца* (Сл. ПЗБ; рас., Шатал.), рус. *пря́сница, пря́слица*, польск. *przęślica*, чэш. *přeslice*, славац. *praslica*, серб.-харв. *пр̏еслица*, славен. *préslica*. Прасл. **pręsnica* (Трубачоў, Этимология—1963, 20) і **pręslica* (Махэк$_2$, 494). Утварэнні з рознымі суф. ад **pręsti, pręd*ǫ (гл. *прасці*).

**Прасо́л** ‘расол’ (Юрч. Фраз. 1), ‘засол’ (Ян.), ‘ляк у селядцах’ (Вешт.), *прасуол* ‘булён’ (Федар. 7), *пра́саль* ‘расол’ (пух., Сл. ПЗБ). Укр. *просíл* ‘салёная рыба, род халоднай стравы з салёнай рыбы’, рус. *просо́л, про́соль* ‘лёгкі, свежы засол’, ‘усё, што засольваецца ў запас: сала, рыба, гароднiна’, серб.-харв. *préso* ‘сок, у якім захоўваецца сыр’, славен. *présol* ‘расол, ляк’, балг. *прясул* ‘падсоленая вада для захоўвання брынзы або салёнай гародніны’, макед. *пресол* ‘тс’. Прасл. **persolъ*. Да *саліць*. Семантычная палеска-паўднёваславянская паралель (гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 128).

**Праспе́кт$_1$** ‘вялікая, шырокая вуліца ў горадзе’ (ТСБМ). З рус. *проспе́кт* ‘тс’ (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79) якое, як мяркуюць, праз ням. *Prospekt* ‘від, перспектыва’ ўзыходзіць да лац. *prōspectus* ‘від’, аб рус. слове гл. Фасмер, 3, 379. Ст.-бел. *проспектъ* ‘агляд’ < польск. *prospekt* ‘тс’ (Булыка, Запазыч., 267).

**Праспе́кт$_2$** ‘падрабязны план, змест’ (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *проспе́кт* ‘тс’, якое, магчыма, праз польск. *prospekt* ‘тс’ з заходнееўрапейскіх моў: параўн. ням. *Prospekt* ‘аб’ява, прэйскурант’, англ. *prospektus* ‘праспект (кнігі вучэбнай установы і г. д.)’. Як і *праспект$_1$*, слова ўзыходзіць да лац. *prōspectus*.

**Праста́к** ‘дурань’, ‘неахайны’ (Ян.), сюды ж *прастакава́ты* ‘праставаты, ніякаваты’ (Нас., Ян.). Рус. *проста́к* ‘прасцяк’, укр.

*прошта́к* 'просты чалавек', польск. *prostak* 'прасцяк, неадукаваны чалавек, просты чалавек', чэш. *prostáček* 'прасцяк', серб.-харв. *проста́к* 'прасцяк, неадукаваны, нявыхаваны чалавек', славен. *prosták* 'звычайны, просты чалавек', балг. *проста́к* 'неадукаваны, нявыхаваны чалавек', макед. *простак* 'тс'. Ад *просты* з суф. *-ак*. Суфікс яшчэ праславянскі, гл. Слаўскі (SP, 1, 89), але першапачаткова слова, відаць, мела значэнне 'просты чалавек' у процілегласць высакароднаму, што гаворыць аб самастойным утварэнні ў розных славянскіх мовах, параўн. Банькоўскі, 2, 788; Сной$_2$, 586 і інш.

**Прасталы́ка** 'прасцяк, нетактоўны чалавек' (ТС). З *прастарэ́ка* (гл.) з заменай другой часткі на *лыка*; магчыма, намёк, што такі чалавек носіць *лыкавыя* лапці. Параўн. рус. *ла́потник* 'прасцяк; вясковы неадукаваны чалавек'.

**Прастапа́д** 'перпендыкуляр' (Дуж-Душ.). Наватвор 20-х гадоў XX ст. на аснове прыслоўя *прастапа́дла* 'перпендыкулярна' (пач. XX ст. — гл. Гіст. лекс., 252) < польск. *prostopadły* 'перпендыкулярны'. Да *просты* і *падаць* (гл.).

**Прастапо́ліца** 'не зараслае (лесам або кустамі) поле' (карэл., Нар. словатв.), *прастапо́льніца* 'поле, на якое ніколі не клалі гной' (Скарбы). Польск. *prostopole* 'поле на лясной паляне, з якога звычайна быў добры ўраджай'. Да *про́сты* і *поле*, складанае, аформлена суфіксам *-іца*. Сюды ж *прастапо́лё* 'неўрадлівае поле' (слонім., Сцяшк.), *прастапо́ль* 'няўгноеная глеба' (ваўк., Сл. ПЗБ). Магчыма, адлюстроўвае сістэму падсечна-агнявога земляробства, параўн. ст.-бел. *полѧ простого моркгъ* (Статут 1588); славен. *prosto polje* 'адкрытае, чыстае поле', г. зн. 'ляда', а таксама ў песні: *Ой, у полі-прастаполі / Там зрадзіла проса* (Песні Беласточчыны. Мн., 1997, 503). Гл. Цыхун, Зб. Абрэмбскай-Яблонскай, 53.

**Прастарна́к** 'калочак, якім хлопцы прыбіваюць на начлезе лапці да зямлі ў соннага для жарту' (Бяльк.). Няясна. Сюды ж *пастарна́к* (гл.), якое, паводле Лучыца-Федарца (там жа), да *пастарнак* 'расліна'. Але да апошняга ўзыходзіць, відаць, толькі значэнне 'галоўны корань яблыні', а *пастарнак* у значэнні 'калочак пры вяроўцы, якім карыстаюцца пры навязванні жывёлы на пашы' сумесна з *прастарнак*, відаць, звязаны з групай слоў тыпу *штыр* (гл.), рус. *стырь*; параўн. рус. пск. *стыро́к* 'шпя-

нёк', 'вось воза' і інш. Не выключана сувязь з польск. *pasternik* 'агароджаная паша для цялят з шалашом для пастуха', *pasternia* 'шалаш для пастуха' (адносна іх гл. Банькоўскі, 2, 512), або з дзеясловам тыпу рус. *стыра́ть* 'дражніцца', параўн. *насты́рны* (гл.).

**Прастарча́ка** 'корч, карчажына' (Ян.). Гл. *патырчака, старчакол*.

**Прастарэ́ка** 'той, хто многа гаворыць пра пустое; гаварун, жартаўнік', 'малы, які гаворыць, як дарослы' (ТСБМ, Шат.; глус., Янк. Мат.), 'балбатун' ("трапло") (Воўк-Лев., Татарк., 182), 'які паволі гаворыць пустое, няважнае' (Нас.), 'прастак' (Янк. 1), 'скамарох; крыўляка' (полац., Садоўскі, вусн. паведамл.), параўн. укр. *просторíкати* 'многа гаварыць', рус. *просторечи́вый* 'той, хто гаворыць проста', *просторе́чие* 'простая мова', чэш. *prostořeký* 'той, хто гаворыць занадта шчыра'. Аддзеяслоўны назоўнік ад **прастарэ́кацъ* 'гаварыць пра пустое, балакаць', якое ад *про́сты* і **рэ́каць* (гл. *урачы*). Аднак адсутнасць фіксацыі зыходнага дзеяслова (*прастарэ́каваць* 'гаварыць несур'ёзнае, пустое' ад *прастарэ́ка*) прымушае дапусціць уплыў літ. *prieštariẽkas*, якое паводле Атрэмбскага (Gramatyka, 2, 284), з'яўляецца nomen agentis ад *prieštaráuti* 'працівіцца, пярэчыць'.

**Прастаста́віць** 'ставіць перпендыкулярна ці амаль перпендыкулярна' (Янк. 3). Складанае слова з *прост-* (гл. *про́сты*) і *ста́віць*. Параўн. яшчэ *праставá́ць*.

**Прасто́л** 'трон манарха; алтарны стол (у царкве)' (ТСБМ). З рус. *престо́л* 'тс', што з ц.-слав., ст.-слав. **прѣстолъ** < **прѣ-** і **столъ**, апошняе са значэннем 'лава, услон', параўн. балг. *стол* 'крэсла'.

**Прасто́ра**, *прасто́р* 'разлегласць, абшар', 'свабода, воля' (ТСБМ, Нас.), укр. *простíр*, рус. *просто́р*, польск. *przestwor* (з **przestor* пад уплывам *otworzyć* 'адкрыць, адчыніць', гл. Банькоўскі, 2, 911), славац. *priestor*, чэш. *prostor*, славен. *próstor*, серб.-харв. *про́стор*, балг. *просто́р*, макед. *простор*. Прасл. **prostorъ* роднаснае **prosterti* (гл. *прасцерці*). Супастаўляюць са ст.-інд. *prastaráḥ* 'падсцілка з саломы; раўніна', *staraḥ* 'пласт', лат. *stara* 'паласа' і інш. (Бязлай, 3, 127; БЕР, 5, 774; Сной$_2$, 586).

**Прасто́та** 'зборня простых людзей' (Нас.). Ад *про́сты* з суф. зборнасці *-ота*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 120 і наст.

**Прастра́нак** 'адлегласць' (Ян.). Да *прасцерці* (гл.); параўн. рус. *простра́нный* ад *простереть*, *простру*. Відаць, да *прастора*

(гл.), параўн. *прастранак міжда Лоева і Мохава* (Ян.), якое да **prostornъ* ‘прасторнасць’. Аналагічныя ўтварэнні: укр. *прóсторонь* ‘прастора’, польск. *przestroń* ‘тс’. Параўн. *старана* (гл.).

**Прастрóга** ‘перасцярога’, ‘строгае спагнанне’ (Нас.), *прастрэ́га* ‘перашкода’ (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *przestroga* ‘перасцярога’ (там жа).

***Прастругáць**, *проструга́ты* ‘прамыць (роў, даліну, шчыліну) цякучай вадой’ (брэсц., З нар. сл.). Укр. *проструга́ти* ‘прастругаць; прачысціць дарогу’. Да *стругаць, струга* (гл.).

**Прастрэ́ліна** ‘незабудаванае месца на вуліцы’ (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *прастрэ́ліць* ‘прабіць, прадзіравіць’ < *страляць, страла* (гл.).

***Прастрэ́ч**, *простре́ч* ‘прастуда ад ветру’ (ТС). Фармальна і семантычна можна параўнаць з укр. *пристрíт, прíстреч* ‘хвароба, якая, па павер’ях народа, здараецца ад благой сустрэчы’, *пристрíти* ‘сурочыць’, рус. дыял. *пристре́т* ‘сурокі’. Далей да *сустрэча, устрэць* з іншай прыстаўкай: **про-стрэт-jъ*. Сюды ж, магчыма, *простро́чыц* ‘прапусціць, не заўважыць’: *не прострочы воўка* (тураў., Цыхун, вусн. паведамл.).

**Прасту́да** ‘ахаладжэнне арганізма чалавека’, ‘хвароба ад ахаладжэння’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *прасту́дзенне* ‘прастуда’ (ТС). Рус. *просту́да* ‘тс’. Аддзеяслоўны назоўнік ад *прастудзіць(цца)* < *студзіць* (гл.).

**Пра́сты** ў песні: *Пайду я на пра́сты глядзець, як мая мілая прадзець* (міёр., Ант.). Значэнне, відавочна, ‘папрадухі’. Ад *прасці* з суф. *-т-*. Аб суфіксацыі гл. Карскі 2—3, 30; Слаўскі, SP, 2, 35 і наст. Суфікс праславянскі, непрадуктыўны, таму слова з’яўляецца архаізмам.

**Прастыту́тка** ‘публічная жанчына’, ‘прадажны, беспрынцыповы чалавек’ (ТСБМ). Праз рус. *проститу́тка* ‘тс’, якое з зах.-еўрап. моў, параўн. англ. *prostitute*, ням. *Prostituierte*. У рус. мове слова было аформлена па тыпу назоўнікаў ж. р. на *-ка*. Крыніца слова — у лац. *prostituta* ‘прастытутка’ (Даль, 3-е выд.) < лац. *prostituere* ‘публічна выстаўляць сябе’. *Прастытуцыя* ўзыходзіць да лац. *prostitutio* ‘тс’ (Голуб—Ліер, 398).

**Прастэ́** ‘нажатае збожжа не ў снапах’ (Сцяшк. МГ). Да *прост*$_1$ (гл.); тут, відаць, мн. л. з дыялектным канчаткам *-э́* на месцы *-ы́*.

**Прастэ́ча** 'прастата́' (ТСБМ). Дэрыват ад *просты* з суф. *-эч-а*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 102.

**Прасце́нак** 'частка сцяны паміж аконнымі ці дзвярнымі праёмамі' (ТСБМ, Шушк., Нас., Касп.; в.-дзв., Сл. ПЗБ). Рус. *просте́нок* 'тс'. Канфіксная (*про-* + *-ак*) утварэнне ад *сцяна* (гл.).

**Прасце́нь**$_1$ 'мера палатна ў даўжыню' (Мік., Інстр. 2), 'мера аснаванай для ткання пражы ў даўжыню ад сцяны да сцяны' (Інстр. 2), 'пража, якая з двух верацён змотана на адно' (гродз., бераст., арш., горац., Трухан, вусн. паведамл.). Гл. *про́сцень*.

**Прасце́нь**$_2$, *прасце́нак* 'прамая дарожка, якая раздзяляе поле' (Нас., ТСБМ, Касп.). Дэрываты ад *про́сты* з суф. *-ень* (*прасцень*), да якога потым далучыўся яшчэ суф. *-ак*. У семантычных адносінах параўн. *просць* (гл.), рус. *прость* 'прамая дарога'.

**Прасце́ра** 'прасціна' (глус., Мат. Маг.). Дэрыват ад *просты* з суф. *-ера*, адносна апошняга гл. Сцяцко, Афікс. наз., 100, 137. Параўн. *прасціна́* (гл.).

**Прасце́рці** 'распасцерці' (ТСБМ). Рус. *простере́ть*, *простру́*, ітэратыў *простира́ть*, укр. *просте́рти*, *простира́ти*, в.-луж. *přestrěć*, н.-луж. *pšestřeś*, *pšesćěraś*, чэш. *prostřít,* славац. *prestriet',* *prestierat',* серб.-харв. *пр̀острijети*, славен. *prostrẹ́ti*, *prostírati*, балг. *простра́, прости́рам,* макед. *простре, простира*, ст.-слав. **простр҄ѣти**, таксама **простьр҄ѣти** 'цягнуць, нацягваць; прасціраецца'. Прасл. **(pro-)sterti* (Фасмер, 3, 379). У славянскіх мовах звязана чаргаваннем галосных з **prostorъ* (гл. *прастора*) і **storna* (гл. *старана*). Роднасныя: ст.-інд. *str̥ṇā́ti, str̥ṇṓti, stárati* 'ён сыпе, кідае', авест. *staraiti* 'распасціраць', лат. *stirinât* 'рухаць, трэсці', лац. *sternō, strāvī, strātum* 'сыпаць, рассцілаць' і інш. (Траўтман, 287; Вальдэ—Гофман 2, 590 і наст.; Махэк$_2$, 589; ESJSt, 12, 727, з літ-рай).

**Прасцёл** 'выжатае месца (гароху і да т. п.)' (петрык., Шатал.). Да *прасцілаць*, *прасцяліць* (гл. *пра-* і *слаць*, *сцяліць*); відаць, 'вольнае месца, на якое можна што-небудзь рассцілаць'.

**Пра́сці**, *праду́* 'скручваючы лён, кудзелю, воўну, рабіць ніткі' (ТСБМ, Шат., Касп.), *прасьць* 'тс' (Бяльк., Сл. ПЗБ), *пра́стэ, прэ́стэ* 'прасці; віць вяроўку (ганц., Сл. ПЗБ). Рус. *прясть, пряду́*, укр. *пря́сти*, ст.-рус. *прясти*, польск. *prząść*, в.-луж. *přasć*, н.-луж. *pšěsć*, чэш. *příst*і, славац. *priast',* серб.-харв. *пре̏сти,* сла-

вен. *présti*, балг. *предá* 'прасці', макед *преде* 'тс'. Прасл. **pręsti (< *pręd-ti)* (Фасмер 3, 394). Роднасныя: літ. *spréndžiu*, *spréndžiau*, *spręsti* 'абцягваць, абмерваць', лат. *spriêžu*, *spriêst* 'нацягваць, расцягваць', літ. *sprindis* 'пядзя', англ.-сакс. *sprindel* 'сіло, кручок' (гл. Траўтман, 278; Мацэнаўэр, LF, 14, 184; Персан, 873; ESJSt, 12, 710). Інакш, менш верагодна Махэк$_2$ (494), які параўноўвае з ням. *spinnen* і зыходнай формай славянскага кораня лічыць **spend-,* дзе потым было *s-* заменена на ўзмацняльнае *-r-*.

**Прасцікавáць** 'хадзіць напрасткі' (Сл. ПЗБ). Дзеяслоў ад **прасцяк* 'прамая дарога' (гл. *прасцякóм*).

**Прасцінá₁** 'прадмет пасцельнай бялізны' (ТСБМ, Сцяшк.), *прасціня*, *прастаня* 'тс' (Сл. ПЗБ), *прасцінка* 'тс' (Нас.). Рус. *простыня*, дыял. *прóстынь*, ц.-слав. *простыни* 'тс'. Прасл. **prostyni* ад *просты*, г. зн. 'прамое палатно, не сшытае і не падшыванае' (Фасмер 3, 381, з літ-рай). Аб суфіксе *-*yni* гл. Слаўскі, SP, 1, 139—141. У бел словах адбылося, відаць, больш позняе набліжэнне да прадуктыўнага словаўтваральнага тыпу на *-ін-*.

**Прасцінá₂** 'няўдобіца' (воран., Сл. ПЗБ). Ад *просты* з суф. *-іна*.

**Прасцірáдла** 'прасціна', 'коўдра' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп.; слуц., Шн. 2; В.В., Сцяшк.), *прасцірáдло*, *прасціядла* 'пакрывала' (Сл. ПЗБ). З польск. *prześcieradło*, *prześciradło* 'тс' (Кюнэ, Poln., 90), якія ўзводзяць да **prostrati, *prosterti* 'разаслаць, праслаць', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. дыял. **prostiradlo*, параўн. чэш. *prostěradlo*, в.-луж. *přesćěradło*, н.-луж. *pśesćěradło* (Банькоўскі, 2, 913).

**Прасціраць**. Гл. *прасцерці*.

**Прасціць** 'прабачыць'(Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка (там жа) узводзяць да рус. *простить* 'тс' < прасл. **prostiti*, параўн. укр. *простúти*, ст.-рус. *простити* 'прабачыць', 'вылячыць', серб.-харв. *прòстити*, славен. *prostíti*, чэш. *prostiti* 'звольніць'. Да **prostъ* (гл. просты), г. зн. 'зрабіць вольным ад чаго-небудзь'; гл. Фасмер, 3, 380. Параўн. *прошча*.

**Прасцяг** 'свабодны, вялікі прастор' (ТСБМ, Гарэц.). Нульсуфіксальнае ўтварэнне ад *прасцягáць* 'прасціраць, распаўсюджваць' (Стан.); да *цягці* (гл.) або да *сцяг* 'група прадметаў, размешчаных у рад': *сцяг гаравы* 'горны хрыбет' (гл.). Тады першаснае значэнне 'перспектыва'. Укр. *простягтú* 'прасцерці,

распаўсюдзіць’ разглядаецца як вынік кантамінацыі *протягти́* і *розтягти́* (ЕСУМ, 4, 607).

***Прасцяком**, *просцякóм* ‘напрасткі’ (ТС). Укр. *простякóм* ‘тс’. Тв. скл. ад **прасцяк* < *просты* ‘прамы (пра дарогу)’. Параўн. рус. дыял. *прóсто* і *прóстец* ‘прамая дарога, напрасткі’. Гл. яшчэ *праставáць*.

**Прасцярóга** ‘перасцярога’ (Касп.). З польск. *przestroga* ‘тс’, параўн. з поўнагалоссем укр. *пересторóга* (з польск., гл. Банькоўскі, 2, 910).

**Прася́нік** ‘расліна бор, Milium L.’ (маг., Кіс.). Рус., укр. *прося́ник*, польск. *prosownica,* чэш. *prosník.* Да *проса*, па знешняму выгляду (гл. Махэк, Jména, 289 і наст.).

**Прася́ніца** ‘брыца, Echinochloa L.’ (віл., Сл. ПЗБ). Да *проса*; па знешняму выгляду: ‘пустазелле з чорнымі зярнятамі’. Гл. яшчэ *прасянік*.

***Пратагáніць**, *протагáніць* ‘прывязаць лодку’ (ТС), *протагáнка* ‘вяроўка, якой прывязваюць лодку’, *протагáншчык* ‘вясляр, які абавязаны прывязваць і адвязваць лодку’ (ТС). Да *тагáніць* ‘цягаць’ (Нас.), што да *таган(ы)* ‘трыножнік, да якога прывязвалі калыску, кацёл і пад’ (гл.).

**Пратáк** ‘вельмі рэдкае рэшата’ (Сл. рэг. лекс.). Параўн. чэш. *přetak* ‘сіта, рэшата’, славац. ‘ток, гумно’, якое, паводле Махэк$_2$, 646, з’яўляецца зваротным дэрыватам ад *točiti* ‘кружыць’, што ўказвае на тэхніку ачышчэння збожжа на рэшаце (гл. *скружваць*). Да *ток*, *тачыць*. Відаць, запазычанне праз польскую, калі ўлічыць лінгвагеаграфію, але польск. слова нам не вядома.

**Пратакóл** ‘дакумент, у які запісваюць усё, што было сказана, зроблена і вырашана на сходзе, допыце’ (ТСБМ). Праз рус. *протокóл* ‘тс’, дзе з зах.-еўрап. моў: франц. *protocole,* ням. *protokoll* < лац. *protocollum* < грэч. πρωτόκολλον ‘ліст, які прыклеены спераду на скрутак папірусу’ (гл. Фасмер 3, 383 і наст.); не выключана, з улікам судовай практыкі ў ВКЛ, непасрэднае запазычанне з лац. *prōtocōlum*, параўн. Банькоўскі, 2, 792.

**Пратáліна** ‘месца, дзе растаў снег і агалілася зямля’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ), *пратáлка, протáлка* ‘тс’, ‘агрэх (пры сяўбе)’ (Шчарб., ТС; Жд. 1), *протáлак* ‘тс’ (Касп.), ‘паляна’ (віл., шальч., Сл. ПЗБ), ‘лапіна, дзе вымакла збожжа’, ‘вузкі праход паміж будынкамі’ (астрав., Сл. ПЗБ), ‘пропуск, зроблены

пры сяўбе' (Сцяшк.). Рус. *прота́лина*, *прота́лок*, укр. *прота́лина*, *прота́лка* 'праталіна', польск. *przetalina* 'тс'. Дэрываты ад **пратáць* 'растаць, утварыўшы праталіну', **пратáлы* 'расталы (снег, лёд)', што адлюстроўвае варыянтнасць *тáяць/-таць* (параўн. *патáць, адтáць* (Стан.), аналагічную да *стаяць стáць*, гл. *таяць*. Банькоўскі (2, 915) бачыць кантракцыю ў польск. *przetalina* < **przetajalina*. Гл. таксама *тал*, *таліна*.

**Пратáліцца** 'растаць месцамі' (ашм., Сцяшк. Сл.). Дэрыват ад *праталіна*.

**Пратанýць** (у лаянцы) 'згінуць, прапасці, утапіцца' (Шат.). З *патануць* з заменай прыставак *па-* на *пра-* (пад уплывам *прапасці*?).

**Пратапóп** 'святар (іерэй) вышэйшага чыну' (ТСБМ), *пратапóпа* 'протаіерэй' (Нас.). З рус. *протопóп* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 74). Стараж.-рус. *протопопъ*, серб.-ц.-слав. *протопопъ*. З грэч. πρωτοπαπᾶς (Фасмер 3, 384), дзе 'πρωτο- — узмацняльная прыстаўка (ад πρωτοδ 'першы') і πάππας 'бацька; бацюшка' (Фасмер, там жа, 383; Праабражэнскі 2, 136).

**Пратарнавáцца** 'памучыцца, папакутаваць' (астрав., Сцяшк. Сл.). Да *тарнавáцца* 'прыстасоўвацца, звыкацца' (гл.).

**Пратасóк** 'верхняя частка грабель з зубамі' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Дэрыват ад **працясаць* < **цясаць* (гл. *цесля*) з узнаўленнем этымалагічнага *-t-*, параўн. пін., стол. *пóтэсь*, драг. *пóтась* 'прасніца'; аб апошніх гл. Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 4. Відаць, маюцца на ўвазе драўляныя граблі, у якіх вычэсваецца гэта частка грабель.

**Пратасэ́я**, *пратасе́я*. Гл. *пратэса*.

**Пратаўчы́** 'заскварыць' (воран., Сл. ПЗБ). Прэфіксны дэрыват ад *таўчы́* з нявызначанай прыстаўкай *пра-*, звычайна *за-*, параўн. *затаўчы́* 'заправіць'; гл. яшчэ *затаўка*. У аснове слоў, відаць, літ. *taukaĩ* 'тлушч, сала', параўн. *тук* (гл.).

**Прáтаць**$_1$ 'прыбіраць', 'засоўваць, запіхваць (рукі)' (Нас.), 'прыбіраць, упарадкоўваць, чысціць', 'даглядаць', 'хаваць' (свісл., Сл. ПЗБ; Шатал., Сцяшк. Сл.), 'ачышчаць ад карэнняў, кустоў' (Стан.). Параўн. рус. *пря́тать, пря́чу* 'хаваць', *опря́тный* 'ахайны, чысты', *пря́танье* 'карчаванне зямлі пад ворыва', *опря́тывать* 'прыбіраць, упарадкоўваць', 'адзяваць нябожчыка', укр.

*прятати* ‘прыбіраць, упарадкоўваць’, ‘хаваць’, ст.-рус. *с(ъ)пря-тати*; польск. *sprątać* ‘прыбіраць’, *sprzęt* ‘начынне, прыбор’, серб.-харв. *прѐтати* ‘закопваць, засыпаць попелам’, *спрȅтан* ‘лоўкі’, славен. *spréten* ‘годны, лоўкі, жвавы’, балг. *опрéтам се* ‘падрыхтоўваюся да працы’, ст.-слав. **прѧтати** ‘ціснуць, пры-гнятаць; перашкаджаць’. Прасл. **prętati* з першасным значэннем ‘рваць, вырываць, расчышчаць зямлю пад сяўбу’ (Мяркулава, Этимология—1974, 70), магчыма, звязанае з **prędati, *pręsti* (гл. *пратаць* ‘біць’), паводле Куркінай (Балто-слав. иссл., 15, 201), з першаснай семантыкай ‘рэзка рухаць, тузаць’. Іншая па-шыраная версія — аб роднасці з *прут* (**prǫtъ*); гл. Праабражэнскі 2, 145 і наст.; Брукнер 436; аднак Фасмер (3, 396) указвае на се-мантычны недахоп гэтай этымалогіі — **prętati* не мае значэння ‘аплясці, плясці’. Супастаўленне з с.-в.-ням. *sprenzen* (Мацэнаўэр, LF, 14, 403; Младэнаў, 515) Фасмер (там жа) таксама лічыць сум-неўным, паколькі апошняе звязана са слав. **prędati* (гл. *прáдаць*). Агляд іншых версій гл. ESJSt, 12, 710—711. Гл. таксама *апратаць*.

**Прáтаць₂**, *прятаць* ‘біць, лупцаваць’ (Нас., Бяльк., Юрч.), ‘біць бялізну’ (Інстр. 1). Этымалагічна тое ж, што і *пратаць₁*; змяненне значэння адбылося ў выніку семантычнай кантаміна-цыі з дзеясл. *праць* (гл.).

**Прáтва** ‘месца на рэчцы, дзе пяруць бялізну’ (Янк. 1, ТС), ‘старое рэчышча’ (Сл. Брэс.). Да *прáтаць₂* у значэнні ‘біць бя-лізну’. Аб суфіксе *-ва* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 85.

***Прáтла**, *прáтло* ‘пратва — кладка для прання бялізны на ва-даёме’ (ТС). Да *прáтаць* ‘праць бялізну’ з суф. *-ло*. Аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 49.

**Пратóка** ‘рака, якая злучае два вадаёмы; канал’ (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Нас.), *протóка* ‘тс’ (ТС). Параўн. рус. *протóка*, ст.-польск. *przetoka*, чэш. *průtok*, славац. *prietok* ‘працяканне; ка-нал’, балг. *прóток* ‘праліў’. Вытворнае з суф. *-а* ад *працякаць* з чаргаваннем галосных. Узнаўляецца прасл. **protokъ* (БЕР, 5, 790), **pertoka* (Банькоўскі, 2, 916).

**Прáтушкі** ‘гульня ў ханкі’ (свісл., Нар. словатв.). З рус. *прятки* ‘тс’ з іншай суфіксацыяй.

**Пратхлáнне** ‘перадышка, прасвятленне (ад працы)’ (Янк. 3, Шат.). Гл. *адхлын*.

**Пратырча́ка** ‘палка, якая тырчыць з зямлі’ (Ян.). Гл. *прастарчака*, параўн. варыянтнасць *тырчэ́ць/стырчэ́ць* ‘вытыркацца’, з семантычна няяснай прыстаўкай.

**Праты́чка** ‘дубчык або тое, чым можна пратыкаць’ (Нас., Касп.), *проты́чка, прота́чка* ‘дроцік для прачысткі цыбука ў люльцы’ (ТС). Да *пратыкаць* (гл. *тыкаць*). Сюды ж, відаць, і *прытычка*: О, прадала чумачыха індычку/А купіла для чумака прытычку (барыс., БНТ, Жарт. песні, 252).

***Пратэ́**, *протэ́* ‘аднак, усё ж, таму’ (ТС). З укр. *проте́* ‘тс’, якое з прыназоўніка *про-* (гл. *пра$_2$-*) і займенніка *то* (гл. *тое*) (ESSJ, 1, 217). Параўн. польск. *przeto* ‘таму’, чэш. *proto* ‘таму што; для чаго, каб’, славац. *preto* ‘таму, вось чаму’, в.-луж. *přeto* ‘затое’, н.-луж. *pšeto* ‘ўсё ж, таму’, што выводзяцца з **pro-*, **per-* і **to* (Шустар-Шэўц, 2, 1174; ЕСУМ, 4, 608).

**Пратэ́з** ‘штучная частка цела, якая замяняе страчаную прыродную’ (ТСБМ). Праз рус. *проте́з* ‘тс’ (польск. *proteza*) з франц. *prothèse* ‘тс’, якое з грэч. πρόσθεσις ‘далучэнне, прыбаўленне’ (Чарных, 2, 73; ЕСУМ, 4, 609).

**Пратэ́са** ‘царкоўная харугва’ (Нас., Бяльк.), *пратэ́сня* ‘тс’ (Нас.), *пратасэ́я, пратасе́я* (Гарэц., Мядзв., Шат., Касп., Др.-Падб.) ‘хаўтурная харугва’ (бых., Рам. 8). Паводле Карскага (Труды, 425), з польск. *procesja* ‘працэсія’ ад лац. *prōcēssio* ‘тс’.

**Пратэ́ст** ‘рашучае пярэчанне супраць чаго-небудзь, заява аб нязгодзе’ (ТСБМ), ст.-бел. *протестъ* ‘тс’ (1711 г.), *протестовати* (1598 г.), укр. *проте́ст* ‘тс’, рус. *проте́ст* ‘тс’. Адваротны дэрыват дзеяслова *протестовати*, адпаведніка лац. *prōtestāri* ‘ўрачыста абвяшчаць, сведчыць’; у далейшым запазычанне з ням. *Protest* у сучасным значэнні, што выводзяць з італ. *protesto* ‘апратэставанне векселя’ (ЕСУМ, 4, 609; Банькоўскі, 2, 791; Фасмер, 3, 382).

**Пра́ўда**, *проўда* ‘ісціна, адпаведнасць рэчаіснасці’, ‘правільнасць’, ‘справядлівасць’, ‘на самай справе, сапраўды’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, ТС), ‘няўжо’ (паст., Сл. ПЗБ), ‘так, але, дакладна’ (ТС), ст.-бел. ‘права’: *ни грабили товара силою без правды* (Станкевіч, 1, 369). Рус., укр. *пра́вда*, ст.-рус. *правьда*, польск., в.-луж. *prawda*, н.-луж. *pšawda*, чэш., славац. *pravda* ‘праўда’, серб.-харв. *пра̑вда* ‘праўда; судовая справа’, славен. *právda* ‘закон; палажэнне; судовая справа’, балг. *пра́вда*

'праўда', 'пагалоўе скаціны', макед. *пра́вда* 'праўда, справядлівасць', ст.-слав. **правьда** 'тс'. Прасл. **pravьda* (Слаўскі, SP, 1, 63) разглядаецца як іменны дэрыват ад **pravъ* (гл. *правы*) (Фасмер 3, 352; Махэк$_2$, 481; Шустар-Шэўц, 2, 1152; Мартынаў, Этимология—1968, 248; Скок, 3, 26; Снойі$_2$, 559), аналагічны да *крыўда* (гл.), насуперак Трубачову (Этногенез$_2$, 222—223), які на падставе словаўтваральнай сувязі суфікса *-ьda* з дзеяслоўнымі ўтварэннямі на *-iti-* выводзіць гэтыя назоўнікі ад **kriviti* і **praviti* (гл. *правіць*) з семантыкай 'правеж, катаванне'. Сюды ж дэрываты: *праўдзівы* 'справядлівы, шчыры' (Нас., ТС), *про́ўдзіць* 'гаварыць праўду' (Шат.), *пра́ўдзіць* 'збывацца' (Сл. ПЗБ). Але *праўдзівы* ў значэнні 'сапраўдны, нефальшывы' — з польск. *prawdziwy*. Параўн. *правдзівы грыб*, гл. наступнае слова.

**Праўдзі́вік** 'баравік, Boletus edulis' (Сцяшк. Сл.), *праўдзя́к* 'тс' (там жа), *праўдзівы грыб* 'тс' (Сцяшк. Сл., Бір.; шчуч., лях., ганц., беласт., Сл. ПЗБ), *прады́вый грыб, правды́вэць, правдзу́н* 'тс' (Сл. Брэс.). З польск. *prawdziwy hrzyb, prawdziwik* 'тс', якое ад *prawdziwy* 'сапраўдны, шчыры'. Геаграфія слова сведчыць таксама на карысць запазычання.

**Праўзу́к** 'матузок, вяровачка' (Сцяшк.), *правзу́к* 'тасёмка фартуха' (Сл. Брэс.), *праўзакі́* (слуц., Сл. ПЗБ). Рус. *приу́з* 'вяровачка, завязка', 'рамень цэпа', дыял. пск. *приву́з, при́вузи, при́вза* 'тс'. Беларускае слова — конфікснае ўтварэнне (*пра-* + *-ук*) ад кораня *-ўз-*, які ў словах *вузел, уза* і роднаснага *вязаць* (параўн. Фасмер 3, 368). Гл. *прузук*.

**Праўко́м** у выразе: *(шыю, спіну) праўком паставіла* 'стан, калі страчана ад захворвання рухомасць' (Янк. 1). Да *правы* ў значэнні 'прамы'.

**Праўша́** 'праварукі'. У слоўніках слова не адзначана, хаця, несумненна, вядомае і зразумелае; тое ж адносіцца і да рус. *правша́,* якое знаходзім толькі ў Даля ў значэннях 'правая рука; праварукі'. У запісах слова сустракаецца ў выразе *на праўшу* 'ў правы бок' (ТС). З-за адсутнасці слоўнікавай фіксацыі старажытнасць слова ўстанавіць цяжка. Утворана ад *правы* з суф. *-ша*, аналагічна *ляўша*. Аб суфіксацыі гл. Карскі 2—3, 33; Сцяцко, Афікс. наз., 134.

**Праўшня́к** 'вушак у дзвярэй' (Тарн.), *прушня́к* 'тс' (ваўк., слуц., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *проўшня́к, прушня́к, прыўшэ́нь* 'вушак'

(пін., івац., Нар. сл.), *пр́оўшаваць* ‘змацоўваць бярвенне ў плыце’ (в.-дзв., Нар. сл.). Да *правушына* (гл.), параўн. рус. *про́ушина* ‘праём, адтуліна’. Да *пра*$_2$*-* і *вуха*. Семантычную матывацыю гл. *вушак*.

**Прафа́н** ‘недасведчаны ў якой-небудзь галіне чалавек’ (ТСБМ). Крыніца слова ў лац. *profānus* ‘неазнаёмлены; непасвячоны; які знаходзіцца па-за святыняй’, якое ад *pro-* ‘перад’ і *fānum* ‘асвечанае месца, храм’. У сучасных мовах з франц. *profane* ‘асоба, якая не належыць да клану артыстаў’, распаўсюджана ў артыстычным жаргоне (Банькоўскі, 2, 779).

**Прафе́сар** ‘вышэйшае вучонае званне выкладчыка і супрацоўніка вучэбных устаноў’, ‘вялікі знаўца чаго-небудзь’ (ТСБМ). Ст.-бел. *професоръ* ‘настаўнік, прафесар’ (XVI—XVII стст.) праз польск. *profesor* (Булыка, Запазыч., 268); пасля, магчыма (але неабавязкова), праз рус. *профе́ссор* з ням. *Professor*, крыніца ў лац. *professor* ‘публічны настаўнік’ ад *profiteor* ‘адкрыта аб’яўляць (аб прадмеце сваіх заняткаў, аб сваёй спецыяльнасці)’ (гл. Фасмер 3, 384; Банькоўскі, 2, 780).

**Прафе́сія** ‘род заняткаў, працоўнай дзейнасці, які патрабуе пэўнай падрыхтоўкі’ (ТСБМ). Ст.-бел. (XVII ст.) *профессия, професия, проффесыя* ‘праца, занятак’ < польск. *profesja* < лац. *professio* (Булыка, Запазыч., 268). Сучаснае слова запазычана з заходнееўрапейскіх моў (параўн. франц. *profession*, ням. *Profession*) з лац. *professio* ‘публічная заява, уласна афіцыйная заява аб сваім званні; род заняткаў’ праз польск. або рус. (*профе́ссия*) пасрэдніцтва, гл. Фасмер 3, 384; Банькоўскі, 2, 780. Прыметнік *прафесі́йны* з польск. *profesyjny* (Гіст. лекс., 260).

**Прафі́т** ‘прыбытак, польза’ (ТСБМ), *про́фіт* ‘харчаванне’ (Гіст. мовы, 2, 264), дыял. *прахві́т, про́хвіт* ‘мізэрнае штодзённае харчаванне’. Калі браць пад увагу акцэнтуацыю, то запазычанне адбывалася двума шляхамі: праз рус. *профи́т* (> *прафі́т, прахві́т*) і польск. *profit* (*про́фіт, про́хвіт*). Крыніца слова ў франц. *profit* ‘прыбытак’, якое ўзыходзіць да лац. *profectus*, дзеепрым. ад *proficere* ‘ісці на карысць’ (Голуб—Ліер, 395; Банькоўскі, 2, 780—781).

**Прах** ‘цела чалавека пасля смерці’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), ‘пыл’, ‘зямля; пагібель’ (Нас.), ‘гніллё’ (Ян.), ‘мноства, шмат’ (ТС), *пра́хі* ‘малаздольныя, гультаяватыя пачаткоўцы-нячысцікі,

якія служаць на пабягушках у іншых нячысцікаў' (Нік., Няч.). Запазычанне з ц.-слав. *прахъ* замест усх.-слав. *порохъ* (гл. Фасмер 3, 355; ESJSt, 12, 697). Адносна шляхоў запазычання гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 61; Цыхун, Зб. памяці Талстога, 418. Значэнне *пра́хі* выводзіцца з 'мелкі, дробны'. Ускосная семантычная аналогія ў чэш. *prachy* 'грошы', першапачатткова — 'дробныя грошы' (гл. Махэк$_2$, 478). Паводле Нікіфароўскага (Нік., Няч., 33), эўфемізм да слова *чэ́рці* (гл. *чорт*), параўн. чэш. дыял. *prachél* 'чорт'. Значэнне 'мноства' на базе значэння 'пыл' ('многа, як пылу'). Відаць, не звязана з н.-луж. *prach* 'толькі што, якраз', адносна якога гл. Шустар-Шэўц, 2, 1148. Далей гл. *порах*.

**Праха́дзка** 'прагулка, шпацыр', 'дарога' (Мядз., Нас.), *прахо́жка* (Нас.), *прахо́дка* 'прагулка' (брагін., Шатал.), *праха́джваць* 'прагульвацца' (узд., Сл. ПЗБ). З польск. *przechadzka* 'прагулка' (Кюнэ, Poln., 90), *przechadzać się* 'прагульвацца, прахаджвацца'. *Прахо́жка, прахо́дка, прахо́джваць* адаптаваныя да адпаведных *прахадзі́ць, прахо́джвацца.*

**Прахажа́й** 'прайдзісвет, хлус' (Нас.). Дэрыват ад *прахо́жы* < *прахадзі́ць* з суф. *-ай.* Аб словаўтварэнні гл. Сцяцко, Афікс. наз., 23.

**Прахажа́к** 'прахожы' (паст., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад асновы *прахож-* (параўн. *прахо́жы*) з суф. *-ак*, відаць, пад уплывам *міна́к* 'тс'. Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 24.

***Прахалды́кнуць**, *прохалды́кнуць* 'праглынуць' (ТС). Фармальных адпаведнікаў слову няма. Відаць, нейкая кантамінацыя. Частку кораня *хал-* можна звязаць з рус. *ха́лкать* 'прагна глытаць', якое, паводле Ільінскага, мае гукапераймальнае паходжанне (гл. Фасмер, 4, 218), параўн. і ўкр. *прохала́вкнути* 'праглынуць з прагнасцю', адкуль можа выводзіцца і гукапераймальнае **халдык*, параўн. *кульдыкаць* 'невыразна гаварыць', *кулды́к* (гродз., Цыхун, вусн. паведамл.), што імітуе перакульванне і пад.

**Прахало́да** 'свежасць паветра', *про́халадзь* 'халадок, умераны холад' (ТСБМ). Укр. *прохоло́да*, рус. *прохла́да* 'тс' (< ц.-слав. *прохладъ* 'прахалода, свежасць'; гл. Фасмер, 3, 385) . Дэрыват з суф. *-а* ад *прахалодаць* 'астыць', параўн. укр. *прохолодати.* Далей да *холад*, параўн. *ахало́на* (гл.).

***Праха́ць**, *проха́ць, проха́ці, проха́ты* 'прасіць' (Булг.; мазыр., Шн. 3; ТС). Укр. *проха́ти*, рус. курск. *проха́ть* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 385), наватвор ад *прасіць.*

**Прахваста́цца** 'прасвістацца, прамарнаваць' (Шат.), *прахваста́ць* 'высцебаць розгамі' (Нас.). Гл. *хвастаць*.

**Прахво́ст** 'нягоднік, падлюга' (ТСБМ, Нас.), *прохво́ст* 'тс' (ТС). Рус. *прохво́ст* 'тс', стараж.-рус. *профо́с(с)* 'наглядчык за салдатамі, узятымі пад варту; прыстаў' (з XVII ст.). З нова-в.-ням. *Profoss* 'асоба на вайсковых караблях, якая сочыць за выкананнем статуту на караблі і карае яго парушальнікаў', што другасна было набліжана да *хвост* (гл.). Па іншай версіі, магчыма, з с.-нідэр., нідэр. *provoost* < ст.-франц. *prévost* (франц. *prévôt*) 'суддзя, начальнік жандармерыі', што з лац. *praepositus* < *praeponere* 'класці наперад' (Фасмер 3, 385). Беларускае слова, калі меркаваць па яго распаўсюджанню, запазычана з рускай.

**Прахо́дка.** Гл. *прахадзка*.

**Прахо́ны** (*прахо́ный*) 'рэдкі (пра хлеб)' (Бяльк.), сюды ж *прахо́на* 'рэдкавата, нягуста' (Гарэц.), рус. дыял. *прахо́ный* 'рэдкі, нягусты (каша, цеста); наздраваты (пра хлеб)'. Паводле Малько (Бел.-рус. ізал., 65), да ц.-слав. *прах* 'пыл', параўн. рус. *праховый* 'рэдкі, нягусты'. Магчыма і іншае тлумачэнне: ад **прахо(д)ны*, параўн. *прахо́н* 'вольны доступ, праход, шчыліна' (Нас., Гарэц.), што да *ход*, *хадзіць*, адносна фанетыкі параўн. *ахалона* 'ахаладжэнне' (гл.).

**Пра́ца** 'працэс уздзеяння чалавека на прыроду, чалавечая дзейнасць', 'работа' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Гарэц., Мік., Шпіл., Мядз., Сл. ПЗБ, ТС). Ст.-бел. *праца, працовати* і інш. вытворныя ад назоўніка адзначаюцца ў канцы XVI ст. (Булыка, Запазыч., 257), укр. *пра́ця*, рус. дыял. *пра́ца* 'тс'. Запазычанне праз польск. *praca* пры ст.-польск. *proca* з чэш. *práce* (Карскі, Белорусы, 156; Фасмер 3, 355; Цвяткоў, Запіскі, 1, 74; Кюнэ, Poln., 89). Прасл. дыял. **portja* ўзнаўляецца пры параўнанні з серб.-харв. *пра̏тити* 'суправаджаць', славен. *prátiti* 'тс', *prátiti se* 'збірацца ў дарогу' (Міклашыч, 261; Брукнер, 434). Трубачоў (Фасмер, 3, 356) параўноўвае **portja* яшчэ з серб.-харв. *пра̏тити* 'пасылаць' і балг. *пра́тя* 'паслаць' і канстатуе семантычную эвалюцыю 'пасылаць' > 'праца, справа', якая прадстаўлена таксама ў серб.-харв. *по̏сао* 'справа, праца' < **posъlъ*; параўн. прасл. **posъlati* (гл. *паслаць*). Аб апошняй групе дзеясловаў гл. яшчэ Куркіна, Этимология—1975, 19 і наст. Іншыя параўнанні (напр.,

Голуб—Копечны, 290) з грэч. *πράσσω*, *πράττω* ‘раблю’ лічацца непрымальнымі (гл. Фасмер, 3, 355). Таксама з польск. *pracować* бел. *працаваць*. Гл. таксама Шустар-Шэўц, 2, 1157—1159; ЕСУМ, 4, 557; SEK, 4, 113—114. Інакш і непераканаўча Банькоўскі, 2, 757 (з с.-в.-ням. — суч. бавар. *pratze* ‘лапа, нага (хворая)’).

**Працаве́ль** ‘працавіты’ (чэрв., Сл. ПЗБ). Ад *працаваць* з суф. *-ель*. Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Працві́чка** ‘частае пакаранне розгамі’ (Нас.). Дэрыват з суф. *-к-* ад *працві́чыць* ‘пакараць розгамі’ (Нас.), магчыма, пад уплывам польск. *ćwiczyć się* ‘практыкавацца’. Сюды ж, відаць, *працві́чыцца* ‘дазнацца’ (нясвіж., Сл. ПЗБ).

***Працёка**, *протёка* ‘праток’ (Клім.). Да *працякаць* < *цячы* (гл.).

**Працíвак** ‘сцяна ў хляве супраць дзвярэй’ (Касп.). Да *процíў* (гл.).

**Працíве́нь** ‘ток у гумне’ (віл., паст., Сл. ПЗБ). Рус. наўг. *про́тивень* ‘свіран насупраць хаты’. Да *процíў;* семантычная матывацыя паводле прасторавай арыентацыі.

**Працíвень**, *працíўнік* ‘непрыяцель’ (ТСБМ, Янк. 3), ‘працíўны’ (Касп.). Параўн. рус. *проти́вень* ‘вецер у твар’, *проти́вник* ‘непрыяцель’. Дэрываты ад *процíў, працíўны* з рознымі суфіксамі.

***Працíро́жна**, *процíро́жно* ‘насуперак, наперакор’ (ТС). Утварэнне ад *процi* (гл.) з другой часткай да *рог* (гл.), параўн. выраз *у ро́жкі* ‘супраць каго-небудзь (выступаць)’; да *ражон* (гл.), параўн. *ле́зці на ражо́н* ‘задзірацца’ ці пад.

**Працíўку** ‘насуперак’, ‘насупраць’, ‘у параўнанні з’ (Нас.). З польск. *przeciwko* ‘тс’.

**Працíўны** ‘супрацьлеглы’, ‘непрыемны’ (Нас., Ян.). ‘хітры, брыдкі’ (віл., Сл. ПЗБ), *процíўны* ‘ўпарты’ (ТС), *процíўно́та* ‘ўпіра’ (ТС). Рус. *проти́вный* ‘супрацьлеглы; непрыемны; брыдкі; упарты’, укр. *проти́вний* ‘тс’, польск. *przeciwny* ‘супрацьлеглы; той, хто працівіцца’, чэш. *protivný*, славац. *protivný* ‘супрацьлеглы’, серб.-харв. *про̏тиван* ‘супрацьлеглы; той, хто працівіцца’, славен *protíven* ‘тс’, балг. *проти́вен* ‘тс’, макед. *противен* ‘супрацьлеглы; непрыемны’. Прасл. **protivьnъ*, дэрыват з суф. *-ьnъ* ад прасл. **protivъ* (гл. *процi*).

**Праціу́ства** ‘супраціўленне’ (Гарэц.). Да *проці, праціўны.* Адносна мажлівасці вывядзення nomina abstracta ад архаічных бяссуфіксных прыметнікаў тыпу **protivъ* або ў выніку дэзінтэграцыі суфіксальнага элемента *-ъп-* у прыметніку **protivъпъ* гл. Краўчук, Дифференц., 23—24. Сюды ж *працівéнства* ‘тс’ (Нас.) з польск. *przeciwieństwo* ‘супрацьлегласць; перашкода, памеха’.

**Працмы́га** ‘пралаза, праныра, прайдзісвет’ (Нас.). Да *цмыгаць* ‘бегаць, шастаць’. Гл. яшчэ *цмыга*, у семантычным плане аналагічнае да *прайдоха, прайдзісвет* і інш.

***Працу́піць**, *процу́піць* ‘праняць, прабраць да здранцвення’ (ТС). Гл. *цуп, цупаць.*

**Працыцырава́ць** ‘абгаварыць каго-небудзь’ (паст., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (4, 105), з рус. *цити́ровать* ‘цытаваць’.

**Праць** ‘мыць, б’ючы пранікам (бялізну, палатно)’ (ТСБМ, Нас., Некр., Янк. 1, Юрч., Бес., Мік., Шн. 2, Янк. Мат.), *пра́ці, пра́ты* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *пра́ті* ‘тс’ (Сл. Брэс.), ‘біць, лупцаваць’ (Юрч., Нікан.), ст.-бел. *прати* ‘тс’. Рус. *прать* ‘мыць, калаціць бялізну, укр. *пра́ти* ‘мыць, калаціць’, ст.-рус. *пьрати, перу* ‘мыць бялізну’, польск. *prać* ‘мыць бялізну’, в.-луж. *prać*, н.-луж. *praś*, палаб. *perĕt*, чэш. *práti*, славац. *prat’*, серб.-харв. *пр̏ати*, славен. *práti* ‘біць, калаціць, мыць’, балг. *перá* ‘тс’, макед. *пере* ‘тс’. Прасл. **pьrati*, першаснае значэнне ‘біць, лупцаваць’. Роднасныя: літ. *per̃ti, periù* ‘біць, сячы лазневым венікам’, лат. *pȩ̀rt* ‘біць венікам у лазні’, арм. *harkanem* ‘б’ю’ (Фасмер 3, 355; Траўтман 215; 468). Значэнне ‘таўчы, таптаць’ у якасці зыходнага прымаюць Младэнаў, 418; Бязлай, 3, 104; Сной$_2$, 559 (< і.-е. *per-* ‘таўчы’), што зусім верагодна, улічыўшы архаічны палескі спосаб прання, пры якім бялізну топчуць нагамі, параўн. літ. *spìrti* ‘таптаць нагамі’, што, паводле Фасмера (3, 355), роднаснае **perti*, гл. *перці*.

**Працэ́нт** ‘сотая доля ліку’, ‘даход за кожныя сто рублёў капіталу’, ‘плата за пазыку’ (ТСБМ), *про́цэнт* ‘тс’ (Нас.), *працэ́нты* ‘надзел сенакосу ў разлік за працу ў калгасе’ (Сцяшк. Сл.). Як сведчыць націск, праз рус. *процéнт* з ням. *Prozent*, якое, у сваю чаргу, з італ. *per cento*, якое потым набыла лацінізіраваную форму *pro cento* ‘за сто’ (аб рус. слове гл. Фасмер, 3,

386, з літ-рай). Форма *прóцэнт* у Насовіча з польск. *procent* 'працэнт', хаця параўн. рус. нар. *прóцент* 'працэнт'. Пра гісторыю слова ў беларускай мове гл. Дода, Тэрм. бюлетэнь, 1, 42—45.

**Працэ́с** 'паслядоўная змена з'яў, ход развіцця', 'актыўнае развіццё хваробы' (ТСБМ). З рус. *процéсс* 'тс', якое праз ням. *Prozess* з лац. *prōcēssus* 'рух наперад' (аб рус. слове гл. Фасмер 3, 386). Ст.-бел. *процесъ, процессъ* 'працэс, учынак' праз польск. *proces* < лац. *prōcēssus* (Булыка, Запазыч., 269).

**Працэ́сія** 'ўрачыстае мнагалюднае шэсце' (ТСБМ), 'хрэсны ход' (Нас., Гарэц.). Крыніцай слова з'яўляецца лац. *prōcēssīo* 'рух наперад' (Фасмер 3, 386), але вызначыць, праз польскае ці рускае пасрэдніцтва было запазычана слова, цяжка (Гіст. лекс., 260). Відаць, у першым значэнні слова запазычана з рус. *процéссия* 'тс', якое, у сваю чаргу, праз польск. *procesja* 'хрэсны ход, царкоўнае шэсце; шэсце, чарада' ўзыходзіць да вышэйназванай лац. крыніцы (параўн. Фасмер, там жа), а ў другім — з польскай. Ст.-бел. *процесия, процесыя, процессия, процессыя* 'шэсце' з польск. *procesja* < лац. *prōcēssiō* (Булыка, Запазыч., 269).

**Праця́г** 'прадаўжэнне' (ТСБМ, Гарэц.). Нульсуфіксальны дэрыват ад *праця́гваць*; не выключана і запазычанне з польск., параўн. *przeciąg* 'даўжыня, працягласць'. У беларускай мове з'явілася ў пач. XX ст. (Гіст. лекс., 255).

**Праця́гуваць** 'мець акцэнт пэўнай мовы' (воран., Сл. ПЗБ). З польск. *(za)przeciągiwać* 'тс'.

**Праця́жнік** 'знак прыпынку ў выглядзе гарызантальнай рысы' (ТСБМ). Дэрыват з суф. *-ік* ад *праця́жны* < *праця́гваць*. У пачатку XX ст. у тым жа значэнні ўжывалася *працяжка* (Гіст. лекс., 253).

**Праця́жны** 'які гучыць павольна, цягуча, не адрывіста' (ТСБМ), 'марудлівы' (люб., Сл. ПЗБ). Рус. *протя́жный* 'павольны, цягучы', укр. *протя́жний* 'працяглы'. Гл. папярэдняе слова.

**Праця́жына** 'прадаўгаватае ўзвышэнне сярод балота' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *працяжны, працяг* (гл.).

**Прач**[1] 'пранік (для мыцця і абмалоту насення льну)' (Бес., Выг., Зн., дыс., Уладз., Клім., Дразд., ДАБМ; драг., пруж., кам., беласт., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.; бяроз., Шатал.; Ян., Сцяшк. Сл.). Укр. *прач*, рус. паўдн. *прач*, польск. дыял. *pracz* 'тс'. Вытворнае

ад *праць* 'біць, калаціць' з суф. *-ч*, як *біч* < *біць* і да т. п. Параўн. Слаўскі, SP, 1, 102.

**Прач**$_2$, *прáчык* 'апалонік' (Клім., Сл. Брэс.; бяроз., пін., Шатал.; Чэрн., Бес., Дразд.). Укр. *прáчик* 'тс'. Да *прач*$_1$ у выніку метафарычнага пераносу. Параўн. *апалонік*.

**Прач**$_3$ 'шнурок даўжынёю каля паўметра, з якога вілі вяроўкі' (пух., Нар. словатв.), 'прывязь з дубцоў, пры дапамозе якой звязваюцца бярвенні з пакладзенымі на іх жэрдкамі', 'ліна з вітак' (віл., Сл. ПЗБ), 'скрутак ільновалакна' (кам., Сл. ПЗБ), 'мера льновалакна ў 15 павесмаў' (палес., Трухан, вусн. паведамл.), *прáчук* 'пучок ільну' (Мат. Маг.), *пря́чык* 'тоўстыя ніткі з канапель, з якіх уюць вяроўкі' (Бяльк.). Польск. падляшск. *pracz* 'звязка прыгаршняў ачасанага льну', '15 прыгаршняў' (Фалінская, Sł. tkac., 241). Этымалагічна тое ж, што і *pracz*$_1$, перанос значэння па знешняму падабенству. Значэнне 'ліна з вітак', відаць, у выніку пераносу 'скрутак ільновалакна' > 'скрутак вітак' > 'ліна з вітак'. Варбат (Этимология—1975, 31) параўноўвае з рус. пск. *пруч* 'састаўная частка вяроўкі' і ўзводзіць да прасл. **pręčь*/ **pročь*, суадносныя з **pručiti*, гл. *пручацца* 'напружвацца'. Сумнеўна.

**Прач**$_4$ 'прылада для ўтрамбавання тока' (тураў., Нар. словатв.). Паводле Лабко (там жа), суадносіцца з *прач*$_1$ і ўтворана таксама ад *праць* 'біць, калаціць'.

**Прач**$_5$ 'прыціскач саломы на страсе' (ТС), 'завостраны калок даўжынёю каля метра': *прачэм прыціскаем салому да прывязваем до лаціны* (тураў., Нар. словатв.). Паводле Лабко (там жа), магчыма, утворана як *прач*$_4$ — ад *праць* 'біць, калаціць'.

***Прачáхці,** *прочáхці* 'прасохнуць, падсохнуць' (ТС). Гл. *чахнуць*.

**Прачáцца** 'прачнуцца' (рагач., Сл. ПЗБ). Ітэратыў да *прачнуцца* (гл.).

**Прачвáра** 'жартаўнік; гарэзнік; пранырлівы' (нясвіж., драг., Сл. ПЗБ), *прочвáра* (ТС), *прачвэ́ра* (карэл., Сцяшк. Сл.) 'тс'. Гл. *пачвара, чварыць, чвэ́рыць*.

**Прáчка** 'шырокая ступня' (віц., Нар. словатв.). Утворана ад *прач*$_1$ (гл.) з суф. *-к-*.

**Прачнýцца** 'перастаць спаць, прабудзіцца', 'стаць актыўным, выйсці са стану застою, спакою', 'з'явіцца, выявіцца (пра

пачуцці, уласцівасць, якасць)’, дыял. варыянты *прочкну́цца, прочихну́цца, прочхну́цца* (Нас., Дзмітр.) з устаўным *-х-* (*-к-*). Рус. дыял. *прочну́ться* ‘прабудзіцца; ачнуцца’, укр. *прочну́тися* ‘тс’. Гл. *ачнуцца, ачхнацца*; форма *прошнулася* (гом., Рам.), на думку Карскага (1, 360), у выніку замены *-с-* на *-ш-*; малаверагодна, хутчэй з *-чн-*, параўн. *рушні́к* < *ручні́к*, *сма́шны* < *сма́чны* і пад.

***Прачо́мацца**, *прочомацца* ‘прачнуцца, апрытомнець’ (ТС). Гл. *ачомацца.*

***Прачо́мхаць**, *прочо́мхаты* ‘пратаптаць (панчоху)’ (Клім.). Да *чомхати* (гл. *чомхаць*) ‘шаркаць, шлёпаць’.

**Прачува́ць** ‘прадчуваць’ (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *przeczuwać* ‘тс’.

**Прачу́ліваць** ‘прыводзіць да прытомнасці; да ўсведамлення зробленага’ (Нас.). Да *чулы* (гл.).

**Прачу́тка** ‘чутка, гаворка’ (Янк. 3), *без прочу́тку* ‘без просыпу’ (ТС). Да **прачуць* < *чуць*.

**Прачуха́нка** ‘пакаранне за п’янства, строгае пакаранне за свавольства’ (Нас.), *усыпаць прачуха́нца* ‘моцна пабіць’ (Ян.), *даць прачуханкі* ‘даць наганяй’ (Янк. БФ), *прочуха́нец* ‘прачуханка’ (ТС), ‘гультай’ (Сцяшк. Сл.), *прачу́хацца* ‘працверазіцца’ (Шат.), *прочы́хацца* ‘ачухвацца’ (ТС). Рус. дыял. *прочуха́нка* ‘наганяй, нагонка’, укр. *дати прочуха́на, прочуха́нкі* ‘тс’ (гл. Макіенка, Бел.-рус. ізал., 111). Дэрываты ад *прачухацца* (гл. *ачухацца*) з суф. *-анка, -анец*.

**Пра́чык**, гл. *прач*$_2$.

**Прачы́стая**, *прачы́ста* ‘Багародзіца; свята Раства Божай Маці’ (Нас., Сл. ПЗБ), *заўтра прочыста, шчоб у хаце было чысто* (ТС, пад *чысто*); *прачы́сцянка* (*пречистенка*) ‘тс’ (Нас.). З ц.-слав., ст.-слав. **прѣчистъ**, з **прѣ-** (гл. *пера-*) і **чистъ** (гл. *чысты*), першапачаткова ‘нявінная, беззаганная’, прэфікс *пра-* (< **per-*) перадае высокую меру якасці, гл. ESJSt, 12, 703.

**Прачыха́цца** ‘прасынацца’ (воран., Сцяшк. Сл.). Да *прачхнуцца* (гл. *прачнуцца*). Параўн. *ачхнуцца, ачхнацца.*

**Прачэ́сць** ‘адлегласць ад берда да вараціла (на яго навіваюцца ніткі асновы) у кроснах’ (Касп.). Гл. *прасесць.*

**Прашавярэ́ніцца** ‘не выканаць загаду’ (Нас.). З прыст. *пра-*, прыст. *ша-* аргатычнага паходжання і *вярэ́ніцца*. Апошняе паходзіць ад *вярэня,* параўн. *вярэнька* ‘някемлівы, мешкаваты чала-

век' (гл). Сюды ж з іншай суфіксацыяй рус. цвяр. *шáверзить* 'строіць падкопы', *шáверзні* 'плёткі', *шáверзень* 'пляткар' і бел. *вярзці* (гл. Фасмер, 4, 393).

**Прашатравáцца** 'абцерціся', 'хадзіць туды-сюды, прабегчыся, каб адчуць рух (аб кані)' (Федар. 7). Гл. *шатраваць*.

**Прашвáбніцца** іран. 'правініцца, праштрафіцца' (Сцяц.). Гл. *шваб*, *швабіць*.

**Прáшка**, мн. л. *прашкі* 'хлусня', 'глупства' (Нас.). Насовіч (там жа) параўноўвае з *прахъ*, але слова, несумненна, з польск. *fraszka* 'драбяза'. Параўн. яшчэ чэш. *fraška* 'фарс, бурлеск'. З італ. *frasca* 'галінка', мн. л. *frasche* 'дробязь, глупства' (Брукнер, 127; Голуб—Ліер, 173).

**Прашкáпіцца** 'правінавацiцца' (стаўб., Нар. сл.), *прашквáпіцца* 'праштрафіцца' (брагін., Шатал.), *праквáпіцца* 'прапусціць, упусціць' (Ян.). Укр. *прошкéпитися, прошпéтитися* 'правініцца'. З *прашпэ́ціцца* 'памыліцца, правініцца', якое зафіксавана ў Насовіча. Апошняе да *шпэціць, шпэтный* (гл.). Іншыя формы, відаць, зазналі розныя фанетычныя змены ў сувязі з экспрэсіўным характарам слова.

**Прашкóда** 'перашкода' (Нас., трак., Сл. ПЗБ), *прашкóдзіць* 'перашкодзіць' (брасл., Сл. ПЗБ). З польск. *przeszkoda*, *przeszkodzić* 'тс'. На базе запазычанняў утвораны бел. *прашкóджваць* 'праліваць па неасцярожнасці', *прашкажáць* 'перашкаджаць', *прашкóдны*, *прашкóдлівы* 'шкодны' (Нас.), гл. *шкода*.

**Прашлéц**, *прашляк, прашля́чка* 'прайдзісвет' (Нас.). Пранікненне з рускамоўнай тэрыторыі, параўн. *прошлéц, прóшлый человек*, *прошля́чка* 'тс', якія ад *прошлый*, дзеепрым. прошл. часу ад *пройти*. Параўн. семантыку *прайдзісвет, пройда, прахадзімец*.

**Прашны́ра** 'прайдоха, прайдзісвет' (Нас.). Да *шны́рыць* (гл.).

**Прашпэ́ціцца** 'памыліцца, правініцца' (Нас.). Укр. *шпéтити* 'абражаць, зневажаць', рус. *шпéтить* 'зневажаць, абражаць, высмейваць'. Выводзяць з польск. *szpecić* 'забруджваць, псаваць' (Фасмер, 4, 472), якое, паводле Брукнера (553), з ням. *Spath* 'хвароба ног у коней'. Гараеў (425) і Праабражэнскі (гл. у Фасмера, 4, 472) лічаць крыніцай слова ням. *spotten* 'насміхацца'. Усе этымалогіі няпэўныя. Сюды ж і чэш. *špatný* 'благі, дурны', дыял. *špetný* 'тс' (Махэк$_2$, 620).

**Праштра́фіцца** ‘правініцца’ (ТСБМ). Да *штраф* (гл.). Параўн. рус. *проштра́фиться* ‘тс’.

**Праштро́п** ‘правіннасць’ (Нас., Касп.). Да *штроп* ‘штраф’, *штрапава́ць* (гл.).

**Прашту́клівы** ‘жартаўлівы, здольны на выдумкі’ (Ян.). Да *штука*, *штукар* (гл.).

**Пра́шча** ‘старадаўняя ручная зброя для кідання камянёў’ (ТСБМ). Укр. *пра́ща*, рус. ж. р. *праща́*, м. р. *пращ*, польск. *proca*, серб.-харв. *пра̏ħа*, славен. *práča*, балг. *пра́ща, пра́щка* ‘тс’, макед. *пра́ка* ‘прашча; рагатка’, ц.-слав. **праща, пращица** ‘зложаны пятлёй рамень, вяроўка, куды кладуць камень, які кідаюць з вялікай сілай’, ст.-слав. **прашта** ‘страмянны рамень’. Прасл. **por-tja*, якое ўзводзяць да *per-* ‘біць’ (параўн. *праць*, *Пярун*) і лічаць роднасным рус. *по́рок*, ст.-рус. *порокъ* ‘асадная машына для праломлівання сцен’ (Мее, Études, 398), што адпавядае *о́парак, во́парак* ‘прашча’ (Скарбы). Мацэнаўэр (LF, 13, 189 і наст.) параўноўвае яшчэ з літ. *pùrtyti, pùrtau* ‘трэсці’, але Фасмер (3, 356) лічыць гэта параўнанне неапраўданым. Куркіна (Этимология—1975, 21—23) першасным значэннем лічыць ‘страмянны рамень, рамень для прымацавання хамута’ і ўзводзіць да этымалагічнага гнязда **sper-* ‘вярцець, матаць’. Паводле ESJSt (12, 698), запазычана са ст.-слав. **прашта**, пра што сведчыць і адсутнасць дыялектнай фіксацыі ў Беларусі.

***Прашчаве́рваны**, *прошчаве́рваны* (хлеб, страва) ‘пракіслы’ (жыт., Вешт.). Да **шчавер*, палес. *шшэ́вэр, ш'ш'а́вер* ‘шчаўе’ (Бейл.). Параўн. яшчэ *ашчавець, шчавы*.

**Прашчалы́ка** ‘хлопчык ці дзяўчынка, якія любяць падглядваць’ (Нас.), *прашчалы́га* ‘прайдзісвет, махляр, круцель’ (ашм., Стан.). Рус. *прощелы́га* ‘прайдзісвет, жулік, ашуканец; насмешнік’. Рускае слова ўзводзяць да *щель* ‘шчыліна’ (гл. *шчэлка*) і ўключаюць ў семантычны рад *пройдоха, проныра, пролаза* (гл. Гараеў, 283; Праабражэнскі 2, 137; Фасмер, 3, 387). Пранікненне з рускай мовы?

**Пра́шчацца** ‘хавацца’: *гадзіна прашчацца ад нас* (воран., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (4, 108), з рус. *пря́таться* ‘тс’ (= сапсаванае *прячется*).

**Пра́шчур** ‘далёкі продак, родапачынальнік, прапраўнук’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС). Ст.-бел. *пращоръ* ‘нашчадак’, *прашуръ*

‘продак’, *працуря* ‘нашчадак’. Рус., укр. *пра́щур* ‘далёкі продак, родапачынальнік’, ст.-рус. *пращур, пращюръ* ‘прапрадзед, прапраўнук’, польск. *praszczur* ‘далёкі продак, прапраўнук’ (з усходнеславянскіх моў, Банькоўскі, 2, 760), *plaskur* ‘прапрадзед’, *praskuł, prazgulę* ‘прапраўнук’, ст.-польск. *praskurzę, praszczur* ‘прапраўнук’, ст.-слав. **праштоуръ, праштура** ‘прапраўнук’. Прасл. **pra-sk(j)urъ* ‘прапрадзед, родапачынальнік’ (рэканструкцыя Трубачова, История терм., 72 і наст.). Значэнне ‘прапраўнук, г. зн. далёкі продак, але па сыходнай лініі’ лічыцца даследчыкамі другасным. Этымалогія выклікае спрэчкі. Трубачоў (там жа) услед за Бернекерам (IF, 10, 155) і Міклашычам (344) узводзіць слав. слова да і.-е. кораня **(s)kur-* і параўноўвае з літ. *prakūrėjas* ‘продак’, ст.-ірл. *caur, cur* ‘герой’, санскр. *çávīra-s* ‘магутны’, *çūras* ‘моцны, герой’. Наяўнасць рус. *щ (< skj)* ён тлумачыць існаваннем гэтага і.-е. кораня з велярным *k* і магчымасцю чаргавання форм **(s)kour-* і *(s)keur-* (як, напрыклад, у рус. *гнус* і *гнюс*). Пазаславянскія адпаведнікі (без *-s*) указваюць на тое, што тут было рухомае *s*. Фасмер (3, 356) параўнанні Бернекера і Міклашыча лічыць неверагоднымі, не прыводзячы контраргументаў. Другія версіі (супастаўленне з *шурын*, рус. *чур меня!*) адхіляюцца ім (там жа) па фанетычных прычынах. Гл. таксама Шаўр, Etymologie, 66—67 (тлумачыць неадрознасць назваў прабацькоў і праўнукаў); Банькоўскі, 2, 599 (выводзіць славянскія формы з і.-е. **prōskouros*, **prōskeuros*).

**Прашы́бісты(й)** ‘спрытны’ (шуміл., Сл. ПЗБ). Да *шыбаць, шыбкі* (гл.).

**Прашы́кацца** ‘праматацца, прамантачыць грошы’ (Шат.). Да *шыкаць* (гл.).

**Прашэ́сць**. Гл. *прасесць*.

**Projáва** ‘незвычайнае здарэнне’, ‘з’ява, з’яўленне’, ‘выяўленне сваіх здольнасцей’ (ТСБМ, Нас., Шат., Др.-Падб., Гарэц., ТС), ‘свавольнік’ (Нас.), ‘прайдзісвет’ (Касп., ТС), ‘дасціпны чалавек’ (Сл. Брэс.), *проя́ва* ‘бяда, прачвара’, ‘назойлівы’, ‘прадвесце’ (Сл. ПЗБ), *пръя́ва, пръя́віна* ‘звышмодная ў адзенні і паводзінах жанчына’ (міёр., З нар. сл.), ‘глыбакаводная яма’ (житк., стол., Яшк.). Рус. *проя́ва* ‘цуд, дзіва, незвычайнае здарэнне’, укр. *проя́ва* ‘здарэнне; дзіўны, незвычайны чалавек’, польск. *przejaw* ‘прымета, сімптом; праяўленне’ (“rutenizm”, гл. Банькоўскі, 2, 844), чэш. *projev* ‘тс’. Дэрыват з суф. *-а* ад *праявіць* < *явіць,*

*яўляць* (гл.). У форме ж. р. і з адметнай семантыкай ‘дзіва, незвычайнае здарэнне’ і да т. п. — усходнеславянскае ўтварэнне. Паводле Немчанкі (УЗ Латв.У, 92, 55), у рускіх гаворках Літвы < літ. *prajovas, prajõvas* ‘пудзіла, прывід’ (з беларускай мовы).

**Праяслівы** ‘пражэрлівы’ (рагач., Сл. ПЗБ; Ян.). Дэрыват з суф. *-лів-* ад **праесціся* ‘аб’есціся, пераесці’ < польск. *przejeść się* ‘тс’.

**Праты́рыць** ‘прайграць грошы’ (Нас.). Магчыма, слова ўтворана на беларускай глебе ад польск. *tyrać, terać* ‘губіць, знішчаць; трацiць (час, годы і да т. п.)’ з дапамогай прыставак *пра-* і *а-* (гл. $a_2$) з інтэрвакальным *-j-*. Няясна, ці адносіцца сюды ж рус. паўн. *проты́рить, проты́ркаць* ‘прагуляць, прамантачыць’. Магчыма, апошняе да *ты́ркаць, то́ркаць*. Хутчэй за ўсё, да гукапераймальнага *тырр*, параўн.: *грошы тырръ, и покацились* (Нас.).

**Пржалётнік** ‘дзяцеліна горная, Trifolium montanum L.’ (гродз., Кіс.). Запазычана, відаць, вусным шляхам з гіпертрафічнай транслітэрацыяй з польск. дыял. *przelot* ‘расліна пералёт, Anthyllis L.’. Далей гл. *пералётнік*.

**Пржаля́шчка** ‘пралеска’ (Дэмб. 1). З перадачай напісання з польск. *przylaszczka* ‘тс’. Гл. *пралеска.*

**Пró-**. Націскны варыянт прыстаўкі *пра-* (гл.)

**Пró6а** ‘ўзор’, ‘невялікая частка чаго-небудзь, узятая для праверкі; вызначэнне якасці’, ‘выпрабаванне’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Сл. ПЗБ), *проб* ‘тс’ (Ян.), сюды ж *про́боваць* ‘каштаваць’ (ТС). Запазычанне з польск. *próba* ‘праверка, выпрабаванне’ (Карскі, Белорусы, 156; Брукнер, 437; Кюнэ, Poln., 89), таксама як і рус., укр. *про́ба* (Фасмер, 3, 370). Крыніца слова ў с.-лац. *proba* ‘проба’ ад *probāre* ‘правяраць, выпрабоўваць’, якое трапіла ў польскую мову праз ням. *Probe* (гл. Брукнер, там жа; Банькоўскі, 2, 797). Адносна формы м. р. *проб* параўн. рус. *пороховой проб* (1705 г.). Ст.-бел. *проба* ‘катаванне, мука’ з польскай (Булыка, Запазыч., 264).

***Про́бажыць**, *про́божыты* ‘галасіць, стагнаць’ (Клім.). Да *бог*; гл. *бажыцца.*

**Про́башч** ‘ксёндз, які стаіць на чале парафіі’ (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ), *про́баш* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *про́баршч* ‘плябан (у касцёле)’ (ашм., Стан.). Запазычанне з польск. *proboszcz* ‘тс’. Ужо ст.-бел. *пробощь (проборщъ)* ‘прыхадскі ксёндз’ (1474) < ст.-польск. *proboszcz*, якое праз ст.-чэш. *probošt* узыходзіць да ст.-в.-ням. *probōst* (Булыка, Лекс. запазыч., 174) і, далей, да лац. *prōpositus*

‘якi прадстаўлены’ < *proponere* ‘прадстаўляць’ (гл. Голуб—Лiер, 394). Таго ж паходжання і ст.-рус. *пробощь, пребощь* (з XIII ст.) ‘прэлат каталiцкай саборнай капiтулы, iгумен’, ‘ксёндз’. Гл. яшчэ Мiклашыч, 264; Брукнер, 457; Голуб—Копечны, 294; Фасмер, 3, 371; Банькоўскi, 2, 777—778.

**Прóвад**$_1$ ‘правадыр, камандзiр’ (Шн.). Нулявы дэрыват ад *правóдзiць*; параўн. і ўкр. *провiднíк* ‘праваднiк, кiраўнiк’, польск. *przewodnik* ‘тс’, *przewód* ‘важак’ (рыбаводны тэрмiн).

**Прóвад**$_2$ ‘дрот для перадачы электрычнага току’ (ТСБМ). Запазычанне або калька рус. *прóвод* у тым жа значэннi.

**Прóвад**$_3$, *прóвады, прóводы* ‘пахаванне, хаўтуры’ (Нас., Касп.; лях., Сл. ПЗБ; ТС), ‘радаўнiца’ (Сцяшк. Сл.). Укр. *прóвiд* ‘пахавальная працэсiя’, рус. *прóводы* сярод iншых значэнняў ‘пахаванне, хаўтуры; радаўнiца’, чэш. *provod* ‘другая нядзеля пасля Пасхi’. Этымалогiя iдэнтычная *провад*$_1$; больш падрабязна гл. *правóдная нядзеля.*

**Прóваль**, *прóвэль* ‘прорва, бездань’ (Нас., Нiкан.). Рус. *прова́ль* ‘тс’. Дэрыват ад *правалíць(ца)* з суф. *-ь*. Гл. яшчэ *права́лле*.

**Прóвар** ‘вiнакурня, бровар’ (Нас., Др.-Падб.; брасл., Рам., 8; Грыг., Мiк., Янк. 2, Сл. ПЗБ), *прóраў* (Сл. ПЗБ). З *бровар* (гл.) пад уплывам *праварыíць*. Сюды ж *права́рня* ‘вiнакурня’ (Нас.).

**Прóвесна** ў выразе *на прóвеснi* ‘на прадвеснi’ (ТС). З *про-* і *вясна* або з *правéсне* (гл.), дзе канчатак М. скл. быў заменены на канчатак Н. скл. па аналогii з наз. ж. р. на *-а*.

**Прóвiсь** ‘рыбалоўная сетка’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *правiсаць* (гл. *вiсець*).

**Прóга** ‘праход у агароджы’, ‘жэрдка, якой закрывалi што-небудзь’ (смарг., Сл. ПЗБ), ‘палонка, прабiтая ў лёдзе для лову рыбы’ (мiёр., Жыв. НС). Аўтары слоўнiка (Сл. ПЗБ, 4, 109) выводзяць з польск. *proga* ‘перакладзiна’. Грынавяцкене (там жа) параўноўвае з лiт. *próga* ‘праход у агароджы’. Гл. *прага*$_2$; пра варыянтнасць *прага/прога* гл. Крывiч, 8, 107.

**Прóдаж** ‘прадаванне, гандаль’ (ТСБМ, Шат.). Укр. *прóдаж* ‘тс’. Гл. *прадажа*. Iншы нацiск і суфiксацыя, вiдаць, пад уплывам польск. *sprzedaż* ‘продаж’. Форма *прада́ж* (паст., Сл. ПЗБ) кантамiнуе *прадажа* і *продаж*.

**Прóдак** ‘папярэднiк у сям’i, родзе, племенi’ (ТСБМ, Нас.). Паводле Вярхова (З жыцця, 67), да другой паловы XVI ст. ужывалася ст.-бел. *предокъ*, пасля — *продокъ*. З польск. *przodek* ‘тс’

< *przed* 'перад' (Карскі, 1, 178; Цвяткоў, Запіскі, 2, 63). Гл. таксама Брукнер, 442; там жа і аб пераходзе *е* > *о*. Параўн. *прэдок* (гл.) і рус. *предок* < ц.-слав. *прѣдокъ* < *прѣдъ* (Праабражэнскі, 2, 40; Фасмер 3, 357).

**Про́дух**, *про́духа* 'прадушына' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), 'адтуліна' (Сл. Брэс.). Гл. *прадуха.*

**Про́дзіў** 'цуда з цудаў' (Нас.): *нейкий продзіў тут случыўся.* З польск. *przedziw(y)* 'тс', якое, магчыма, ад прым. *przedziwny* 'дзіўны; вычварны', дзе *prze-* — прыстаўка са значэннем найвышэйшай ступені; *dziwny*, гл. дзіва. Гл. таксама *прыдзіў.*

**Про́жар**, *про́жыр* 'зяўра, глотка', 'пражэрлівы, прагны да яды чалавек' (ТСБМ, Сцяшк., Мік.; шчуч., Сл. ПЗБ, ТС), 'здабыча драпежнай рыбы' (паўн.-усх., КЭС). Гл. *пражора.*

**Про́за** 'невершаваная мова', 'будзённасць' (ТСБМ). Замацавалася, таксама як і *празаік*, у пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 251). З рус. *про́за* (Крукоўскі, Уплыў, 85), што, у сваю чаргу, з ням., італ. *prosa* 'невершаваная мова', штучны тэрмін на базе першаснага лац. *ōrātiō* 'простая гаворка', *pro(r)sa* < *prōrsus* 'галавой наперад (ляжаць, бегчы)' (Банькоўскі, 2, 797; Сной$_2$, 588).

**Про́зарна** 'ясна' (Касп.), *прозо́рно* 'празрыста' (ТС), *празо́рная* (труба) 'падзорная' (Мат. Гом.). Да *зорыць, зрок.*

**Про́іск** 'пошук' (*поѣхавъ въ проискъ бѣглыхъ людзей*) (Нас.). Да *іскаць* (гл.).

**Про́йда** 'прайдоха, пралаза' (Нас.). Утварэнне ад асновы цяп. часу дзеяслова *прайсці* (гл. *ісці*) — *прайду*, якая адрозніваецца ад інфінітыўнай асновы старой суфіксацыяй (гл. Варбат, Слав. языкозн., IX, 70).

**Про́йгра** 'апладненне пчалінай маткі' (Сцяшк. Сл.), *про́јигра* 'тс' (Анох.), *про́игра* 'вясенні вылет пчол' (Манаенкава, Словарь). Рус. *про́игра* 'вылет і таўкатня пчол каля вулля, каб прасушыцца і ачысціцца перад зімоўкай'. Да *ігра, іграць* (гл.); што да семантыкі слова, то параўн. такія значэнні дзеяслова *іграць*, як 'спарвацца (аб птушках)', 'аб злучцы жывёлы' і да т. п.

**Про́йма$_1$** 'адтуліна, праход', 'выраз у адзежы для рукі, рукава' (ТСБМ, Сцяшк. Сл.; Сл. Брэс.). Рус. *про́йма* 'тс'. Да *праймаць*, параўн. *праём.*

**Про́йма$_2$** 'скразняк, скразны вецер' (Гарэц., Др.-Падб., ТСБМ, Нас.), 'расслабленне' (Др.-Падб.). Этымалагічна тое ж, што і *пройма$_1$*.

**Пр́окідзь** ‘заправа, закраса’ (Сл. ПЗБ). Гл. *пракідаць.*

**Пр́окляць** ‘праклён’ (Шат.), ‘пракляцце, погань’ (ТС), *прокля́ціна* ‘дрэнь, погань’ (ТС). Дэрываты ад *пракляць* з суф. *-ь* і *-іна*. Гл. *клясці.*

**Пр́окмець** ‘момант, міг’ (барыс., леп., Стан.). Да *кмеціць* ‘заўважаць’ (гл.).

**Пр́оламка** ‘адтуліна ў лёдзе, палонка’ (ТСБМ, Стан., Варл.). Ад *праламáць* (гл. *ламаць*), аналагічна да *пр́орубка* (гл.).

**Пр́олівень** ‘праліўны дождж’ (Нас.), *пралі́вень* ‘тс’ (мядз., Сл. ПЗБ). Ад *праліваць* < *ліць* з суф. *-ень*; аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Пр́олубка**, *пралу́бка* ‘палонка’ (Нас.; Нік. Очерки; Гарэц.; Касп.; Бяльк.; паўн.-усх., КЭС; ашм., Стан.), *пр́олуб, пролу́б(к)а, пралы́бка* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), рус. *пр́олубь, пролу́бка* ‘тс’; укр. *пр́олуб* ‘тс’, польск. дыял. *przełąbka* ‘тс’, славац. *prieluba* ‘палонка; засек’. Лічыцца другасным да адпаведных форм з **ro̜bati* і **ro̜biti* ‘рубіць’ (гл. *прарубка*); *л (ł, l)* у выніку дыстантнай асіміляцыі да *р (r)* у прэфіксе **pro-* , **prě* (гл. *пра-*). Гл. Борысь, Зб. Лімінгу, 194; Фасмер, 3, 377.

**Пр́олумка** ‘ўпадзіна’ (Ласт.). Да *пралуміць* ‘праціснуць’, што, відавочна, звязана з *лу́міна* ‘яма, упадзіна’, *лу́мка* ‘палонка’ (гл.).

**Пром** ‘паром’ (свісл., Сл ПЗБ). З польск. *prom* ‘тс’ (там жа). Этымалогію гл. *паром.*

**Пр́омень** ‘прамень, вузкая светавая паласа’ (ТСБМ, Сцяшк.; воран., Сл. ПЗБ), ‘вясёлка’ (глыб., ДАБМ, камент., 901). Запазычанне з польск. *promień* ‘палоска святла’ (Стан., Зб. тв., 1, 32); мяркуецца, што ўсходнеславянская форма захавалася ва ўкр. *п́ороміль* ‘тс’, што да прасл. **pormy*, ад **perti*, гл. *пе́рыць* ‘біць’ (ЕСУМ, 4, 452). Гл. *прамень.*

**Пр́омець** ‘нябачная сіла, якая вельмі хутка рухаецца’: *кінуцца на пр́омець* ‘стрымгалоў’ (Нас.), *пр́оміццю* ‘стрымгалоў, вельмі хутка, імгненна, з рэзкімі рухамі’ (бялын., Янк. Мат.; в.-дзв., Сл. ПЗБ). Гл. *праме́тная, апраме́тная*; параўн. таксама *прокмець* (гл.).

**Пр́омешка** ‘мука, прызначаная на корм жывёле’ (Янк. 2), *пр́омішка* ‘тс’ (Варл.). Да *мяшаць*. Гл. яшчэ *абмешка.*

**Пр́омзлы** ‘чуць закіслы; ні салодкі, ні кіслы (пра малако)’ (полац., Нар. сл.; в.-дзв., красл., Сл. ПЗБ). З **промзглы*, параўн. рус. *пр́омзглый* ‘пракіслы, прагорклы; затхлы, сапсаваны, той,

які загніў', *про́мзгнуть* 'псавацца, гніць, горкнуць', *мзга* 'гніль, цвіль, сырое надвор'е', *мзглой, мо́зглый* 'друзлы, вялы, гнілы з сярэдзіны, прэлы'. Фасмер (2, 617) на аснове параўнання з рус. *мозглый* (гл. *прамосклы*) узнаўляе праформу **мъзга*. Тады, відаць, да *мазго́ліць* 'пэцкаць; біць', *мазгля́вы* (гл.). Параўноўваецца з грэч. μύσος (з *μύδος) 'ганьба; апаганенне', ст.-ірл. *mosach* 'нячысты', н.-нём. *mussig* 'брудны', лат. мн. л. *mudas* 'гнілыя водарасці', літ. мн. л. *músos* 'цвіль' (Міклашыч, 207; Буга, РФВ, 72, 198 і наст.). Набліжэнне да літ. *mazgóti* 'мыць, паласкаць', ст.-інд. *máyjati* 'ён апускае', Фасмер (там жа) лічыць менш верагодным. Параўн. *мазглявы*.

**Про́мысел** 'здабыванне звяроў, птушак лоўляй, паляваннем', 'занятак, рамяство як крыніца сродкаў існавання' (ТСБМ), *прамы́сл* 'прамысловасць; занятак, рамяство' (Стан.), ст.-бел. *промыслъ* 'клопат, апека, нагляд'. Паводле Крамко (Гіст. лекс., 245), неалагізм XIX ст. Рус. *про́мысел* 'тс' < *промыслить, прамышлять* 'здабыць (здабываць), абзавесціся (абзаводзіцца) нечым', далей да *мысль* (Фасмер, 3, 375); укр. *про́мисел, про́мисл* 'вытворчасць, здабыванне' (< **promyslъ*, ЕСУМ, 4, 597), польск. *przemysł* 'прыкідка, хуткая рэакцыя; індустрыя' (< *przemyslić* 'прадумаць, прыкінуць', Банькоўскі, 2, 871—872); чэш. *průmysl* 'знаходлівасць, ініцыятыва, індустрыя' (з рус. *промысел*, Махэк$_2$, 488), славац. *priemysel* (з чэш.). Запазычанне або калька з рускай, дзе, відаць, з ц.-слав. *промыслъ*, сінонім *провидѣние* 'божая ласка, клопат' (паводле БЕР, 5, 760, — з рус.); усходнеславянская форма захавалася ў назве горада *Перемышль* (Банькоўскі, 2, 871). Неаславянізм, што калькуе ням. *Industrie*?

***Про́пад**, *про́падам* у выразе *прападзі ты пропадам!* (ТСБМ). Параўн. рус. *пропади ты про́падом*, укр. *про́па́д, про́падом* 'тс', польск. *przepad* 'страта залогу, закладу', чэш. *propad* 'люк; правал', серб.-харв. *pròpȁd*, славен. *propàd* 'заняпад, упадак'. Аддзеяслоўны дэрыват ад **propadǫ, *propasti*. Гл. *прапасці*. Параўн. *пропадзь, пропасць* (гл.). Відаць, у спецыяльных значэннях незалежныя ўтварэнні ў розных славянскіх мовах (гл. Фасмер, 3, 376; ЕСУМ, 4, 599; Банькоўскі, 2, 883); Сной$_2$, 584 (рэканструюе **propadъ* 'падзенне, ухіл').

**Про́падзь** 'пагібель' (Нас.), ц.-слав., ст.-слав. **пропадь** 'цясніна, пропасць'. Прасл. **propadь*, дэрыват з суф. *-ь* ад **propadǫ*,

**propasti* 'прапасці' (Слаўскі, SP 2, 50) першапачаткова *nomina abstracta*. У Насовіча, відаць, з царкоўнаславянскай, паколькі ў гаворках слова не зафіксавана. Развіццё значэння аналагічна *пропасць* (гл.).

**Про́паліс** 'клейкае смалістае рэчыва, якое пчолы выкарыстоўваюць у якасці будаўнічага матэрыялу' (ТСБМ). Гл. *прапо́ліс*.

**Про́пасць** 'бездань', 'пагібель, смерць', 'безліч, шмат' (Нас.; шальч., Сл. ПЗБ), 'глыбокае месца на балоце, у рацэ, бяздонне' (нясвіж., рэч., слаўг., стол., шчуч., Яшк.), 'глухое месца' (слаўг., там жа), 'балота, непраходныя зараснікі' (лун., Шатал.). Рус. *про́пасть* 'бездань, правал; пагібель, смерць; безліч, шмат', укр. дыял. *про́пасць* 'бездань, глыбокая пропасць', 'круты адвесны бераг', 'пагібель', польск. *przepaść* 'бездань', чэш. *propast*, славац. *priepast* 'пропасць, правалле ў карставых мясцовасцях', макед. *пропаст* 'тс', серб.-харв. *про̏па̄ст* 'пропасць', балг. *про́паст* 'бездань; пагібель', ст.-слав. **пропасть** 'бездань' (аб паўднёваславянскіх формах гл. Куркіна, Этимология—1976, 30). Прасл. **propastь*. Дэрыват ад **propadati*: **propasti* < **padati*, г. зн. 'тое, што з'явілася ў выніку прападзення, правальвання зямлі', з суф. *-tь*: *pro-pad-tь* (Фасмер 3, 376; Махэк$_2$, 425, Слаўскі, SP, 2, 49 і наст.). Статус слова ў сучаснай беларускай мове сумнеўны нягледзячы на тое, што яно было вядома раней, параўн. "*бездна*: пропасть", "адъ: местце пропастное або пекло" ў Бярынды (Німчук, Давньорус., 114). Такія значэнні, як 'глухое месца', 'балота, непраходныя зараснікі' абазначаюць, уласна, не формы рэльефу, а з'яўляюцца вытворнымі ад 'пагібель, смерць', г. зн. 'пагібельныя месцы'. Практычна поўная адсутнасць слова ў цэнтральнай зоне можа сведчыць аб яго пранікненні з сумежных тэрыторый (з рускай ці ўкраінскай). Магчыма, сваю ролю тут адыграў і сам характар ландшафту беларускай тэрыторыі.

**Про́пісь** 'узор правільнага каліграфічнага пісьма', 'агульнавядомая ісціна' (ТСБМ). З рус. *про́пись* 'тс', якое ад *прописать* з суф. *-ь*.

**Про́плач** 'з плачам, са слязьмі' (Янк. 1; калінк., З нар. сл.). Слова ўтворана ад *праплакаць* з суф. *-j-*; параўн. *сустрэч* < *сустракаць*; гл. аб гэтым тыпе прыслоўяў Карскі, 2—3, 71.

**Про́ра** 'від шва пункцірам' (Клім.). Няясна.

**Пpóраб** 'палонка, прабітая ў лёдзе для лоўлі рыбы' (міёр., Жыв. НС). Гл. *прорубка*; фанетыка дыялектная або пад уплывам *прарабіць* 'зрабіць'.

**Пpóразка** 'пятля ў вопратцы для гузіка' (Інстр. 2; брагін., Шатал., Сакал., Ян.), 'прарэх' (лун., Шатал.), *прóрыска* 'тс' (раг., чэрв., драг., Сл. ПЗБ), *прóрэзка* 'шырынка, прарэх' (ТС, Сакал.). Гл. *прарэзка*.

**Пpóранка** 'пятля для гузіка' (пін., Шатал.). Гл. *прырамак*.

**Пpóрасля**, *прóрасць, прóразь* 'амярцвелы ўчастак кары і драўніны', 'праслойка мяса ў сале або наадварот', 'валакністыя ўтварэнні ў мякаці плода' (ТСБМ, Янк. 3; смарг., ашм., чэрв., асіп., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *прóрасль* 'прамежак у расчлененым капыце парнакапытных' (Лекс. ландш., 56), *прóраст* 'прарошчанае збожжа' (Ян.). Да *прарасці*; дэрываты з рознымі суфіксамі. Аналагічныя ўтварэнні ў іншых славянскіх мовах: рус. *прóрость* 'праслойка мяса ў сале і да т. п.', укр. *прóріст, прóрісь* 'усходы', польск. *przerost* 'нарост', серб.-харв. *про̏ра̄ст* 'ракавая пухліна; нарост'.

**Пpóрба** 'невялікі паўвостраў' (навагр., Сл. ПЗБ). З *прорва* (гл.). Семантыка тлумачыцца пераносам значэння 'новая прамая пратока, новае рэчышча, прамытае ракой' — 'частка сушы (паўвостраў, востраў), адрэзаная новым рэчышчам'.

**Пpóрва**₁ 'глыбокі, стромкі абрыў, бездань', 'мноства', 'пражорлівы чалавек' (ТСБМ, Нас., Касп., Др.-Падб., Ян., ТС), 'крыніца' (Сцяшк. Сл.), 'месца, размытае вадой' (Нас., Касп., Гарэц.), 'пратока', 'невялікі астравок' (Сл. ПЗБ), 'новае рэчышча, прамытае ракой' (Ян.), 'бездань' (Растарг.), 'багна на балоце ці возеры, зарослая травой' (ТС), 'завадзь' (Бяльк.), 'вокнішча ў балоце' (ДАБМ, камент., 980; слаўг., слонім., стол., Яшк.). Рус. *прóрва* 'бездань, глыбокая яма; месца, размытае вадой; новае прамое рэчышча ракі, прамытае вадой', 'пражора', 'мот', 'шкода' і г. д., укр. *прірва* 'месца прарыву плаціны', 'яма ў рацэ, моры'; таксама 'бездань'; 'стромкі схіл гары', 'стромкі бераг', польск. *przerwa* 'разбурэнне; перапынак', чэш. *průrva* 'роў, вузкая і глыбокая даліна, прамытая вадой', славац. *prierva* 'тс'. Паўн.-прасл. **prorъva* 'месца (бездань), прамытае вадой'. Аддзеяслоўны дэрыват ад прасл. **prorъvati* 'прарваць' (Талстой, Геогр., 175, 202—203), параўн. яшчэ ў Бярынды: "прорва... мѣсце урваное в(ъ) рѣцѣ".

**Про́рва**$_2$ ‘ўвярэднік балотны, Pedicularis palustris L.’ (брэсц., гродз., Кіс.), ‘трыпутнік’ (лях., Сл. ПЗБ). Этымалагічна тое ж, што і *прорва*$_1$: да *прарыва́ць, прарва́ць*. Але матывацыя зразумелая толькі ў адносінах да трыпутніка, які прыкладаецца да ран, а таксама скул і нарываў, каб іх *прарваць*, даць выхад гною.

**Про́рубка** ‘палонка’ (Мат. Маг.). Да *прарубіць*. Параўн. *пралубка, пролубка* (гл.).

**Про́са** ‘злакавая культура, Panicum miliaceum L.’ (ТСБМ, Сцяшк., Нас., Бес., Сл. ПЗБ), *прасцэ́* ‘тс’ (Ян.). Рус., укр. *про́со*, ц.-слав. *просо*, польск., в.-луж., чэш., славац. *proso*, н.-луж. *pšoso*, палаб. *prüsü*, серб.-харв. *про̏со*, славен. *prosó*, балг. *про́со́*, макед. *просо*. Пэўнай этымалогіі слова няма, паколькі адсутнічаюць надзейныя роднасныя формы. Параўноўвалі перш за ўсё са ст.-прус. *prassan* ‘проса’, але яно, магчыма, было запазычана з польскай, гл. Фасмер, 3, 378. Параўноўваюць таксама (Голуб—Копечны, 295) з лац. *pressī, premō* ‘ціснуць’, г. зн. **proso* першапачаткова ‘расціснутае зерне’, але гэта паралель адхіляецца на той падставе, што лацінскае слова ніколі не мела значэння ‘таўчы зерне’ (параўн. Нідэрман, Зб. Развадоўскаму, 1, 112 і наст.). Фасмер (там жа) лічыць магчымым падтрымаць параўнанне з грэч. περκνός ‘стракаты’, ст.-інд. *pṛ̥́çnis* ‘тс’, ст.-в.-ням. *forhana* ‘фарэль’; г. зн. першапачаткова ‘стракатае, плямістае’. Пра магчымую сувязь з і.-е. **pro-sə* ‘пасеў’ (гл. *сеяць*), што, відаць, адлюстравана ў своеасаблівай figura etymologica, параўн. з народнай песні: *а мы проса сеялі, сеялі*; серб. *Јелисије просо сије*, гл. Лома, Огледна св., 65—66. Іншыя версіі гл. Фасмер, 3, 378—379; Шустар-Шэўц, 2, 1151; Скок, 3, 52; Бязлай, 3, 127; БЕР, 5, 767. Гл. яшчэ *просяніца*.

**Про́сва**, *про́саўка* ‘жалезны шворань, прэнт для закрывання аканіц’ (ТСБМ, Мік., Нас.). Рус. *просо́в, просо́ва, просо́вка* ‘засаўка для закрывання аканіц або дзвярэй’, балг. *про́сва*. Да *прасо́ўваць, сунуць*. Пытанні выклікае *просва*. Паколькі прасл. **sovati, sujǫ* ў слав. мовах не мае нулявой агаласоўкі кораня, то, мабыць, тут адбылося пераўтварэнне па аналогіі тыпу *про́шва, вы́спа* і г. д. або моцная рэдукцыя паслянаціскнога галоснага. Варбат (Морфонология, 89) бачыць у гэтым слове рэфлекс старажытнага каранёвага імя і ўзнаўляе прасл. **prosъva*.

***Про́свішча**, *про́свышча* ‘назва выспы ў балоце’ (бяроз., КТС–А. Казловіч). З **про-спышча* ад *сыпаць.* Параўн. *выспа.*

**Про́сеніца** ‘пладаносная частка проса’ (лун., Шатал.), ‘прасяная салома; прасяная мякіна’ (ТС), *просені́ца* ‘абмалочаная прасяная салома’ (Выг.). Рус. *просяни́ца* ‘каша з проса’, ‘від высыпкі’, укр. *просяни́ца* ‘прасяная салома’, ‘высыпка на скуры’, серб.-харв. *просѐница* ‘хлеб з проса’, славен. *proseníca* ‘прасяная салома’, ‘від высыпкі’. Прасл. **prosenica.* Ад *проса* з суф. *-іса*, які тут субстантывуе прыметнікі (гл. Слаўскі, SP,1, 98). Значэнне ‘высыпка’ другаснае, па падабенству з зярняткамі проса (Фасмер 3, 381).

**Про́серка** ‘просвіра’ (беласт., Сл. ПЗБ). Ад *про́свірка* (гл. *просвіра*) або *праскур(к)а* (гл.), якія ў дыялектах маюць вельмі разнастайныя формы з нерэгулярнымі фанетычнымі змяненнямі.

**Про́сeрэ́д** ‘пясчаны востраў ці каса на рацэ’ (ТС), *прасяро́д* ‘востраў на рацэ’ (Талстой, Геогр.). Укр. *просере́д* ‘пясчаная каса каля берага ці пасярод Дняпра’. Да *сярод, сярэдзіна* (гл.).

**Про́сесць** (*prósiść)* ‘месца ў кроснах, дзе палатно мяжуецца з ніткамі’ (Варл.), ‘прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок’ (мін., Шатал.), *про́сець* (петр., Шатал.). Паводле Раманавай (Наим., 121), першапачатковая мера палатна, параўн. рус. *про́шесть,* была збліжана з дзеясловам *сесть* ‘сесці’, г. зн. ‘тое, што можна зрабіць за адзін прысест, не адрываючыся’. Сумнеўна. Гл. *прасесць.*

**Про́слі** ‘пасля’ (ТС), *про́сля* ‘пасля’ (Чуд., Сл. ПЗБ). З *пасля, после.* Аб устаўным *-р-* паміж галоснымі і зычнымі ва ўсходнепалескіх гаворках гл. Лысенка, СПГ, 12; прыклады з паўднёва-заходніх гаворак гл. Карскі, 1, 315.

**Про́слых** ‘чуткі’ (Гарэц.), *про́слух* ‘тс’ (Нас.). Укр. *про́слух* ‘тс’. Да *праслухаць* (гл. *слухаць, слых*).

**Про́снік**, *проснь* ‘мера напрадзеных нітак’ (Інстр. 3), ‘вялікае верацяно, на якое перамотваюць ніткі з малых верацён’ (Нас.). Дэрываты ад *про́сты* (гл. *прасцень*). Першаснае слова ўтворана з суф. *-нік, проснь* з’яўляецца скарачэннем слова *прасцень*, відаць, у выніку рэдукцыі паслянаціскнога галоснага *е* пры пераносе націску на першы склад.

**Про́спа** ‘абуджэнне ад сну’ (Нас.). Аддзеяслоўны дэрыват з суф. *-а* ад *праспаць.*

**Прост$_1$** ‘рад роўна пакладзенага на іржышчы зжатага, не звязанага ў снапы збожжа’, ‘поле з такім разасланым збожжам’ (ТСБМ, Выг.), *пакладка на прост* (нараўл., ДАБМ, камент., 872). Польск. *na prost* ‘пакладка на прост’. Да *про́сты*.

**Прост$_2$**, *про́стік, про́шчыня* ‘тэхніка ткання, калі кожная нітка ўтка пераплятаецца з кожнай ніткай асновы пад прамым вуглом’ (Уладз.). Рус. пск. *про́стка* ‘простае палатно ў дзве ніці’. Да *про́сты* ‘прамы’ (гл.).

**Про́ставар** ‘вакса’ (Касп.). Утварэнне ад кораня *прост-* (гл. *просты*) і *вар,* якое, мусіць, як і ў рус. *вар*, мае тут значэнне ‘шавецкая смала’. *Просты*, магчыма, меў значэнне ‘самаробны’.

**Про́стацца** ‘слабець, станавіцца нягнуткім’ (лід., Сл. ПЗБ). Да *просты* (гл.) у значэнні ‘прамы, роўны’.

**Про́стка** ‘месца, размытае і залітае вадой’ (Ян.), ‘прамая пратока паміж двух выгібаў ракі’ (ТС), ‘ход ракі па цячэнні, прастора’, ‘выпростваючая пратока, якая прарывае намыўны перашыек’ (басейн Дняпра) (Яшк.). Да *просты* ‘прамы, роўны’. Гл. яшчэ *прость.*

**Про́сты** ‘элементарны, аднародны па саставу’, ‘не складаны для разумення’, ‘грубы па якасці’, ‘няхітры, адкрыты, неганарлівы’, ‘звычайны, негатунковы’, ‘прамы, роўны’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Гарэц., Бір. Дзярж., Шн. 2, Выг., Шатал., Сл. ПЗБ, ТС, Клім.), ‘свабодны’ (Нас.), ‘слабы, некруты (аб пражы)’ (Уладз.), ст.-бел. *простый* ‘свабодны, вольны’ (Ст.-бел. лексікон). Рус. *просто́й*, укр. *про́стий*, ст.-рус. *простъ* ‘прамы, адкрыты, свабодны, просты’, ст.-слав. **простъ** ‘прамы, просты’, польск., в.-луж. *prosty,* н.-луж. *pšosty*, чэш., славац. *prostý* ‘просты, прамы’, серб.-харв. *про̏ст* ‘няхітры, просты; дараваны, памілаваны’, славен. *pròst* ‘натуральны, свабодны, звычайны, просты’, балг., макед. *прост* ‘просты, нявыхаваны’. Прасл. **pro-stъ* ад *pro-* (гл. *пра-* і **sto-*). Апошняе параўноўваюць з літ. *ãpstas* ‘багацце’, *apstùs* ‘багаты, шчодры, шырокі’, *atstùs* ‘аддалены’, лат. *nuôst* ‘прэч’ (< **nuo-stu*), ст.-інд. *suṣṭhú-* ‘які знаходзіцца ў добрым стане’, оск. *trstus* ‘сведка’, ст.-в.-ням. *ewist* ‘аўчарня’. Першаснае значэнне **prosthos* ‘тое, што выступае; той, які выступае’, параўн. ст.-інд. *prastha-* ‘горная раўніна, плошча’, ірл. *ross* ‘лес, мыс’ (гл. Фасмер, 3, 380). Іншыя версіі: Міклашыч (321)

выводзіў слав. **prostъ* з **prostrъ* ‘разасланы’ і набліжаў да *прастор* і роднасных; Махэк$_2$ (485) роднаснымі славянскаму слову лічыў літ. *prantù, pratau, pràsti* ‘прывыкаць’ (г. зн. **prostъ* з **prot-tos*), аднак пры гэтым цяжка вытлумачыць яго семантыку. Паводле Аткупшчыкова (Балто-слав. иссл., 1984, 94—95), роднаснае літ. *prãstas*, лат. *prasts* ‘просты; дрэнны’, літ. *pràsti* ‘прывыкаць’, таксама Банькоўскі, 2, 788. Трубачоў (ЭССЯ, 13, 137—138) адносіць другую частку слова да **stojati* (гл. *стаяць*) аналагічна да *ku-stъ* ‘куст’. Гл. таксама Шаўр, Slavia, 50, 52—60; Гомалкава, Studia Etym. Brun., 1, 71. Паводле Сноя$_2$ (586), першасная семантыка — ‘які стаіць спераду’, параўн. *про́сто* ‘насупраць’: *просто хаты* (ТС).

**Про́сцень** (*про́сцинь*) ‘некалькі звітых і звязаных разам ніткамі ручаяк (верацён з пражай) на адным доўгім верацяне’ (Нік. Очерки). З $^{+}$*простьнь* ад *просты*, паводле Трубачова (Ремесл. терм., 101), другаснае ў ролі тэкстыльнага тэрміна, параўн. *прасце́нь* ‘прамая (простая) дарога’, *про́снік* ‘вялікае верацяно, на якое зматваюць пражу з малых верацён’ (гл.).

**Про́сцілка** ‘прасціна’ (петрык., мазыр., Шатал.), ‘посцілка’ (ТС). Да *прасцілаць*.

***Просціра**, *простіра* ‘прасціна’ (?) (маг., Шн.; Карскі, Труды, 313). Відаць, захаванае ст.-бел. *простира* ‘прасціна; кавалак тканіны’, што ўжывалася паралельна з *простирадло* ‘тс’ і *простица* ‘тс’. Верагодна, утварэнне ад дзеяслова **прасціраць* ‘распасціраць’, ад якога гэта было б рэгулярным дэрыватам з суф. *-а*, аднак у гэтай форме на беларускай тэрыторыі ён невядомы. Адаптаваны паланізм? Параўн. *прасціра́ла* ‘прасціна’ (Ласт.) з польск. *prześcieradło* ‘тс’, укр. *простира́ло* ‘тс’ (паводле ЕСУМ, 5, 606, узыходзіць да **prostira(d)lo*).

**Просць**, *пруосць* ‘частка ракі (прамое, някручанае цячэнне)’ (Сержп. Грам.), *просць* ‘вузкае месца на рацэ’ (ТС), ‘прасцяг’ (слаўг., Яшк.). Рус. *прость* ‘дарога напраскі’, укр. *прість* ‘правал, бяздонне’. Дэрыват ад *просты* (гл.); адносна семантыкі ўкраінскага слова гл. ЕСУМ, 5, 588; іншыя паралелі гл. Куркіна, Этимология—1968, 102.

**Про́сьба** ‘прашэнне; зварот, пажаданне’ (ТСБМ, Гарэц.; ашм., Стан.), ст.-бел. *прозба* (1530 г.) ‘тс’ (Карскі, 1, 278), рус. *про́сьба* ‘тс’, польск. *prośba* ‘тс’; чэш. *prosba* ‘тс’. Суфіксальнае

ўтварэнне ад *прасіць* (**prosьba*), параўн. *гульбá, стрэ́льба* і *стральбá* і пад.

**Прóсьбіт** 'той, хто звяртаецца з просьбай, прашэннем да каго-небудзь' (ТСБМ). Да *просьба* < *прасіць* з агентыўным суф. *-im*; параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 44.

**Прóся** 'папрашайка' (навагр., З нар. сл.; капыл., Нар. словатв.). Да *прасіць*, як, напрыклад, *мя́мля* < *мя́мліць*. Параўн. Слаўскі, SP, 1, 60 (аб актыўнасці суф. *-а* пры ўтварэнні экспрэсіўных назоўнікаў м. р.).

**Прóтар₁** 'востры металічны пруток або іголка са зламаным вушкам, швайка' (ТСБМ, Нас., Шат.; слонім., Арх. Бяльк.), 'кавалак хлеба ці мяса з іголкай у сярэдзіне (даецца сабаку, каб загубіць яго)' (кір., Нар. сл.), *прóтор, прóторг, прóтур* 'швайка, іголка са зламаным вушкам; вялікая іголка' (Шатал., Клім., Сл. Брэс.. Выг., ТС, Сл. ПЗБ, Нар. лекс.), *прóтыр, прóтырч* 'іголка без вушка' (навагр., Нар. сл.). Укр. *прóтір* 'іголка без вушка', *прóторг* 'тс'. Аддзеяслоўные дэрываты ад *працéрці* < прасл. **terti, *toriti* (Патабня, РФВ, 3, 180; Праабражэнскі, 2, 136; Фасмер 3, 384), гл. *цéрці, тóрыць*, інакш ЕСУМ, 4, 611: звязваецца са ст.-рус. *протъргнути ся* 'прарвацца, разарвацца', што ад *търгати* 'біцца, дрыжаць', параўн. *тóргацца* (гл.). Не выключана, што гэта другаснае збліжэнне.

**Прóтар₂** 'страта' (Нас.), мн. л. *прóтары* 'выдаткі; расходы (звычайна па судовых справах)' (ТСБМ, Чач., Нас.). Рус. *прóтор, протóра, прóторь* 'тс', ст.-рус. *проторъ* 'расходы; страты'; відаць, сюды ж польск. *przetór* 'праход, прарыў'. Этымалагічна тое ж, што і *прóтар₁* (Фасмер, 3, 384). Спецыяльна аб гэтым слове гл. Варбат, Этимология—1971, 17. Да семантыкі параўн. *запратóрыць* 'закінуць, захаваць; згубіць' (ТСБМ).

**Прóўка** 'хустка' (мін., саліг., ДАБМ, камент., 946). Няясна; няма ніякіх дадатковых дадзеных аб рэаліі і параўнальнага матэрыялу. Можа быць, гэта скарачэнне і пераробка дыял. навагр. *грапóўка* 'шарсцяная квяцістая хустка з кутасамі', але апошняе таксама не мае этымалогіі.

**Прóфіль** 'абрыс, від збоку (твару, прадмета)', 'вертыкальнае сячэнне прадмета, від, форма' (ТСБМ). Запазычанне з зах.-еўрап. моў (параўн. франц. *profil*, ням. *Profil*) праз польск. *profil* або рус. *прóфиль* 'тс'. Крыніцай слова з'яўляецца італ. *profilo* ад *filo* 'лінія, паласа', лац. *filum* 'нітка' (гл. Фасмер 3, 384, з літ-рай).

**Про́хма**: *прохма прасіць* ‘вельмі прасіць, упрошваць (Тураўшч., 1, 68). Несамастойны дэрыват ад *прасі́ць* у складзе тыповай figura etymalogica з аднаўленнем “першаснага” *х*, параўн. *прахаць* (гл.).

**Про́ца** ‘рагатка’ (драг., Сл. Брэс.), ‘прашча’ (Скарбы), ст.-бел. *проць* ‘прашча, прастка’. З польск. *proca* ‘прашча’. Этымалогію гл. *прашча.*

**Про́цераб** ‘месца, дзе высечаны лес; расцярэбленыя кусты’ (слаўг., Яшк.), *про́церэб, про́тэрэб, про́терэб* ‘тс’ (Выг.; лун., Шатал.), ст.-бел. *протеребокъ* ‘раскарчаванае месца; працярэблены ўчастак лесу’ (Ст.-бел. лексікон). Да *церабіць* (гл.), параўн яшчэ *выцераб.*

**Про́ці** ‘супраць’ (ТСБМ, Ян., ТС), ‘насуперак’, ‘насупраць’, ‘у параўнанні з’ (Нас.), ‘у прысутнасці’, ‘насуперак’, ‘напярэдадні’ (Сл. ПЗБ), ‘наперад’ (Ян.), *процій* ‘тс’ (Нас., Шат. ТС), ‘напярэдадні’ (ТС), *праці́* ‘супраць’ (Стан.). Рус. *про́тив*, дыял. *про́ти, проть* ‘насупраць, насустрач’, укр. *про́ти, про́тив* ‘супраць, перад; насустрач’, ст.-рус. *противъ, противу*, ст.-слав. **противъ** ‘супраць’, польск. *przeciw*, дыял. *proci*, чэш. *proti, protiv*, славац. *proti*, в.-луж. *přećiwo*, н.-луж. *pśeśiwo* ‘супраць’, серб.-харв. *про̏тӣв* ‘супраць, насупраць’, славен. *prọ̑ti* ‘насустрач’, *próti* ‘ў напрамку да’; *protivo* (прысл.), балг. *проти́в* ‘супраць, насупраць’. Прасл. **proti*, таксама **protivъ*, што было ўтворана як прыметнік ад **proti, *protivǫ;* апошняе з’яўлялася В. скл. адз. л. назоўніка ж. р. *protiva*, якое захавалася толькі ў чэш. *protiva* ‘праціўны чалавек’. Бліжэйшыя адпаведнікі прасл. **proti* (**preti*) у лат. *pretī, pretiem* ‘насустрач, супраць’, *pret* ‘проці, перад; да, у параўнанні з’, ст.-інд. *práti* ‘супраць’, лац. *pretium* ‘кошт, цана’, гл. Фасмер, 3, 382—383, з літ-рай. Інакш Копечны (ESSJ, 1, 226), які ўслед за Зубатым (Studie, 2, 50) зыходнай формай лічыць **protiva* наз. ж. р., з якога потым развіліся прыметнікавыя формы **protivǫ,* што ў выніку скарачэння далі **proti*, таму што і.-е. **proti* павінна было б даць у славянскіх мовах **protь*. Махэк$_2$ (48, 3) канцавое *і* ў **proti* тлумачыць падаўжэннем *-ь*, “каб слова мела належны аб’ём”.

**Про́ціва**, *про́цьва* ‘месца на беразе вадаёма, дзе мылі бялізну’ (уздз., Сл. ПЗБ). Гл. *пратва, працьва* < *праць. О* ў корані

гіперкарэктнага характару пры пераносе націску або, магчыма, пад уплывам *проці*.

**Про́цівень** ‘тое, на чым пякуць піражкі, мяса’ (Інстр. 1), *про́твень* ‘патэльня’ (Жд. 2), *про́цвінь* ‘самаробная патэльня, бляха’ (Мат. Маг.), *про́цвіна* ‘тс’ (шуміл., Сл. ПЗБ). З рус. *про́тивень* ‘тс’, якое з ням. *Bratpfanne* ‘тс’, з магчымым набліжэннем па народнай этымалогіі да слова *против* ‘проці, супраць’. Гл. аб рускім слове Фасмер, 3, 383.

**Проціпе́рсніца**, *проціпе́рсціца* ‘вострае запаленне скуры’ (паст., Сл. ПЗБ). Слова ўтворана ад прым. **проціперсны* < *проці* і *перст* ‘палец’, гл. *персцень*. Параўн. *міжперсніца, міжыпарніца*.

**Про́ціў** ‘той, хто працівіцца, упарты’ (Шат.). Аддзеясլоўны нулявы дэрыват ад *праці́віцца* < прасл. **protivъ* (гл. *проці*).

**Про́ціўня** ‘пласт вашчыны з мёдам у вуллі, які вісіць тарцом да лятка’ (ТС). Дэрыват ад *праці́ўны* ‘проціле́глы, супрацьлеглы’ < **проціў* (гл. *проці, супраць*) з суф. *-ja*.

**Про́цьма** ‘вялікае мноства, безліч’ (ТСБМ, Гарэц., Касп., Сцяшк., ТС; мін., Шн. 2, Шат., Др.-Падб.), ‘змрок, цемра’ (Шат., Др.-Падб.), ‘поўнасцю, цалкам’ (ТС), *про́цьменны* ‘пражорлівы’ (Касп.). Па тыпу словаўтварэння аддзеясլоўны дэрыват з нулявым суфіксам. Тады трэба дапусціць дзеясլоў **працьміць*. Далей гл. *цьма*.

**Проч**$_1$ ‘акрамя’ (Нас., ТС). З *апроч* (гл. *апрача*) з адпадзеннем галоснай пратэзы.

**Проч**$_2$ ‘прэч’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (там жа), з рус. *прочь* ‘тс’, што неабавязкова, параўн. ст.-бел. *прочъ*: *вышол прочъ* (Карскі, 1, 322).

**Про́чка** ‘праход у агароджы’ (паст., Сл. ПЗБ). Дэрыват з суфіксам *-к-* ад **прачкнуць* (гл. *чыкаць*$_1$).

**Про́чкі** ‘пакіданне на некаторы час сваёй хаты, сям’і з прычыны нязгоды, неладоў’ (ТСБМ, Гарэц.; баран., Шн. 2, Др.-Падб., Сцяшк.; Растарг.), *ісці ў проч* (мін., Шн. 2; Нас.), *ісці прочкі* (калінк., З нар. сл.), *ісці ў прочкі* (лях., Сл. ПЗБ) ‘тс’. Рус. смал. *прочкі* ‘адсутнасць, адлучка’. Утворана ад *проч*$_2$ (гл.) з суф. *-кі*; аб словаўтварэнні гл. Карскі, 2—3, 69; Шуба, Прыслоўе, 62 і наст.

**Про́шва** ‘карункавая або вышываная палоска, якую ўшываюць у настольнік, ручнік’ (ТСБМ, Інстр. 1, Сл. Брэс.), ‘навалач-

ка' (брэсц., Нар. лекс.), *про́шыўка* 'тс' (Сл. Брэс.). Рус. *про́шва, про́шивка* 'аблямоўка, палоска іншага колеру (у тым ліку карункавая або вышываная), якія ўшываюцца ў адзежу, настольнік, ручнік і да т. п.', укр. *про́шивка* 'каўнер жаночай кашулі'. Дэрыват ад *прашы́ць* з суф. *-ва* (адносна суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34) і *прашыва́ць* з суф. *-ка*, гл. *шыць*.

**Про́швуст** 'сатканае, але яшчэ не адрэзанае ад асновы палатно' (брэсц., Нар. лекс.). Нейкая кантамінацыя, магчыма, з *прошва* і *хуста* (гл.).

**Про́шка-рабо́шка** 'божая кароўка' (віц., Шатал.). Утворана ад уласнага імя *Прохар* > *Прошка* і ад *рабы*. Аб другасным асэнсаванні назваў божай кароўкі ў сувязі з імёнамі людзей і святых гл. Трубачоў, Этимология—1975, 12.

**Про́шкі** 'парашкі' (шальч., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *прошекъ* 'парашок'. З польск. *proszek, proszki* 'тс'.

**Про́шукі** 'скрытыя, тайныя дзеянні, накіраваныя на дасягненне заганных ці злачынных мэт' (ТСБМ). Да *шукаць* (гл.). Калька рус. *поиски* 'тс' < *искать* 'шукаць'.

**Про́шча$_1$** 'месца (крыніца, камень) у лесе, сярод балота, надзеленае надзвычайнай сілай; святое месца' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Доўн.-Зап.), 'капліца': *абракацца хадзілі людзі ў прошчу* (светлаг., SOr, 39, 356); 'багамолле' (Нас.). Укр. *про́ща* 'паломніцтва; адпушчэнне грахоў; надмагільная прамова', рус. *про́ща* 'адпушчэнне грахоў, цудоўнае выздараўленне', ст.-рус. *проща* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 387), узыходзіць да **prostja* ад *prostъ* (гл. *просты*), першапачаткова ў значэнні 'вольны', параўн. ст.-бел. *простый* 'свабодны, вольны', у тым ліку 'вольны ад хваробы, грахоў', чэш. *prostiti* 'вызваліць', ст.-рус. *простити* 'зрабіць здаровым', укр. *прости́ти* 'дараваць', што паўплывала на першасную семантыку слова (гл. ЕСУМ, 4, 606).

**Про́шча$_2$** 'неахайніца' (Касп.). Этымалагічна ўзыходзіць да *просты* (гл.), г. зн. 'непрыбраная, недагледжаная жанчына'; да семантыкі параўн. *проставалосая* 'з непрычасанымі валасамі на галаве', да фанетыкі ст.-бел. *прощъ* 'проста, прама'. Параўн. яшчэ *прасцяк, прастуха* і да т. п.

**Про́шчыня** 'палатно, вытканае ў 2 панажы' (пін., Шатал.), *прошчыне́* 'тс' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *про́шчын'а́, про́шчыне́* 'тэхніка ткання на дзвюх нічанках і двух па-

4. Зак. 1697.

нажах, калі кожная нітка ўтка пераплятаецца з кожнай ніткай асновы пад прамым вуглом' (Уладз.). Да *просты* (г. зн. просты від пляцення) з суф. *-j-* або *-ja* (**prostja*) і з суф. **-ynі > ыня,* як у рус. *простыня́* < **prostynі* (аб суфіксе гл. Слаўскі, SP, 1, 139 і наст.).

**Про́шыб** 'памылка' (Сцяшк. Сл.). Дэрыват з нулявым суфіксам ад дзеяслова **прашыбаць*, параўн. рус. *прошиби́ть* 'прабіць, праламіць', 'памыліцца, зрабіць промах'. Да *шыбаць, ашыбаць* (гл.).

**Пруг** 'падоўжаная палоска па краі тканіны' (ТСБМ, Нас., Касп., Сцяшк., Уладз.; бых., шкл., КЭС) 'рубец у шытве' (Нас., Уладз.), 'рубец на скуры' (беласт., Сл. ПЗБ), 'ліштва ў бёрдзе для замацавання трасцінак' (ТС), 'папярочка паміж слупамі ў калодзежы' (ельск., Нар. сл.), *пругі́, пругы́, пруге́* 'тонкія дошчачкі, якія прытрымліваюць палатно, каб яно не сцягвалася' (Шат., Уладз., Бяльк.; брагін., Нар. сл.) або 'каб не блыталіся ніткі асновы' (Касп., ТС, Дабрав., Кросны, Інстр. 3, Сл. ПЗБ). Рус. *пру́га* 'пружына', укр. *пруг* 'край, рабро, кант', ст.-рус. *пругъ* 'сетка', польск. *prąg, pręga*, в.-луж. *pruha*, н.-луж. *pšuga*, чэш. *pruh, prouha*, славац. *pruh* 'паласа', серб.-харв. *пру̏г* 'расцягнуты', *пру́га* 'паласа, лінія', славен. *próga* 'паласа, лінія, кант', балг. *пръг* 'кій (у кроснах), рама', *пъ́ргав* 'пругкі', макед. *пруга* 'паласа'. Прасл. **prǫgъ, prǫga* 'паласа, край'. Першапачаткова 'тое, што нацягвае, напружвае', звязанае чаргаваннем галосных з **pręgti* 'нацягваць, запрагаць'. Параўноўваюць з літ. *sprangùs* 'той (або тое), што душыць', с.-в.-ням. *sprinke* 'пастка', нова-в.-ням. *Sprenkel* 'сіло для птушак, зажым', ст.-в.-ням. *springen* 'скакаць; біць струмянём', ст.-ісл. *springa* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 387 і наст.; там жа і інш. літ-ра; БЕР, 5, 816). Відаць, няма падстаў аддзяляць ад *папруга* (гл.), параўн. Скок, 3, 31; Шустар-Шэўц, 2, 1164; Бязлай, 3, 126. Памылкова Кюнэ (Poln., 90) разглядае віцебскае *пруг* 'край; рубец' як запазычанне з польск. *próg* 'парог'.

**Пру́гкі** 'які хутка прымае першапачатковую форму пасля сціскання або згінання, пруткі, нядрузлы, не вялы; крамяны, моцны' (ТСБМ, беласт., Сл. ПЗБ). Да *пруг* (гл.), *пру́га* 'моцна, туга' (Нас.), параўн. рус. *упру́гий* 'пругкі', а таксама словаўтваральную паралельнасць *пруг//пру́гкі, прут//пру́ткі, пруд//пру́дкі.*

**Пру́гліць** 'спружыніць' (ТС). Да *пруг, пругло* (гл.).

**Пру́глічка** 'драўляны падгалоўнік у ложку' (рас., Шатал.). Паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 126), паколькі слова не этымалагізуецца на славянскай глебе і ягоны арэал блізкі да балтыйскага, яно магло быць запазычана з балтыйскіх моў; параўн. літ. *brūklỹs* 'тоўстая палка, кавалак дрэва', лат. *sprũngulis* 'маленькі круглы адрэзак дрэва; палка, пень'.

**Пругло́**$_1$ 'дужка паміж ручкамі ў папярочнай піле', 'прыстасаванне для лоўлі дзікіх качак' (ТС), рус. *пругло́* 'сілок, пятля, пастка для птушак', ст.-рус. *пругло* 'цянёты, сетка, пастка', чэш. *pruhlo* 'сіло', в.-луж. *prudło*, н.-луж. *pšudło*, славен. *prógla*, серб.-харв. *пру́гло* 'тс', балг. *прегло* 'пастка для птушак'. Прасл. **prǫglo*, паводле Слаўскага (SP, 1, 104), утворана ад дзеяслова **pręgǫ, prękti* 'напружваць' з інструментальным суфіксам *-lo*. Першаснае значэнне, відаць, 'наведзенае, нагнутае дрэўца, да якога прымацавана пятля, сіло', параўн. Махэк$_2$, 488 і апісанне пругла ў ТС, 4, 233: "Як толькі качар праплываў праз уваход, ён чапляўся за наведзенае пругло. Яно паднімалася і зацягвала пятлю на шыі ў качара. Качар павісаў". Гл. яшчэ Варбат, Этимология—1975, 31, якая ў якасці паралеляў прыводзіць нова-в.-ням. *Sprigel, sprügel, sprugel, sprogel* 'пругкая дужка, сілок', нова-в.-ням. *Sprenkel* 'сіло'. Параўн. Фасмер, 3, 388; БЕР, 5, 631; Шустар-Шэўц, 2, 1163; далей гл. *пруг, пругкі*.

**Пругло́**$_2$ 'калодзежны журавель' (ТСБМ, Янк. 1, Янк. 2, Бір.), 'вочап' (слуц., Нар. словатв.), 'бервяно-рычаг калодзежнага жураўля' (чырв., З нар. сл.), 'палка, якой замыкаюць кубел' (Варл.). Паводле ДАБМ (к. 243), слова ў значэннях 'вага' і 'журавель' распаўсюджана на Случчыне, а на астатняй беларускай тэрыторыі — спарадычна. Польск. *prągło* і роднасныя ў аналагічных значэннях вядомы ў Вялікапольшчы, Сілезіі і на Веліньску (Ляшчынскі, RS, 31, 1, 30). Асноўнае значэнне разглядаемага слова 'бервяно; палка' і тэрыторыя яго пашырэння наводзяць на думку аб запазычанні. Параўн. бел. *пруглічка*, якое Лаўчутэ (Балтизмы, 126) параўноўвае з літ. *bruklýs* (з менай *-p-/-b-,* тыповай для балтыйскіх моў) 'тоўстая палка, адрэзак дрэва', лат. *sprũngulis* 'маленькі круглы адрэзак дрэва; палка, пень'. Не выключаным застаецца і лакальнае семантычнае развіццё слав.

**proglo* 'пастка', параўн. дэфініцыю рус. *пругло́* ў Даля: 'усякая трымалка; падпорка; рычаг'.

**Пругме́нь**, *пругме́не, пругме́ня, пругмянё* 'панадворак; прыгуменне' (Сл. ПЗБ; стаўб., Нар. лекс.; слуц., Нар. словатв.; чырв., З нар. сл.). З *пры-* (гл.) і *гумно́* (гл.), параўн.: *пругменё кала гумна* (там жа). Гл. *прыгуменне.*

**Пруд₁**, *прудок* 'будынак млына; млын (звычайна вадзяны)' (Нас., Шат., Мік., Яруш., Бяльк., Касп.; маг., Шн. 2; полац., Нар. лекс.; Мат. Маг., дубр., Хрэст. дыял.), 'невялікі вадаём, сажалка', 'раўчак', 'яма ў вадаёме' (калінк., гродз., паст., воран., Сл. ПЗБ), 'штучнае возера, ставок' (Касп., Мік., Мядзв.), 'курган, высокае месца, якое агібаецца ракой' (слаўг., Яшк.). Сюды ж *пру́днік* 'млынар' (Нас., Касп., Мік.). Рус. *пруд* 'сажалка', укр. *пруд* 'хуткае цячэнне', ст.-рус. *прудъ* 'паток, напор; запруджанае месца', польск. *prąd* 'паток, цячэнне', чэш. *proud*, славац. *prúd* 'тс', серб.-харв. *пру̑д* 'водмель, дзюна', славен. *pród* 'галька, водмель'. Прасл. **prodъ* перш за ўсё ў значэнні 'тое, што стварае перашкоду, сціскае, звужае магчымасці вольнай плыні', найлепш прадстаўленае ў *запру́да* 'гаць, плаціна'; чаргуецца з *pręd-*, якое ў *пра́нуць* 'кінуць', рус. *пряда́ть, пря́нуть* 'адскочыць'. Роднасныя ў іншых і.-е. мовах: с.-в.-ням. *sprinzen* 'скакаць', ст.-ісл. *spretta* 'скакаць; пырскаць, пускаць парасткі, струменіць', с.-в.-ням. *sprenzen* 'пырскаць, крапіць', *spranz* 'ускокванне; прарастанне' (гл. Міклашыч, 263; Махэк₂, 485 і наст.; Фасмер 3, 388; тут гл. і інш. літ-ру; Бязлай, 3, 125; Банькоўскі, 2, 768; ЕСУМ, 4, 616; Шустар-Шэўц, 2, 1163).

**Пруд₂**, *прут, пруды́* 'паз у драўляным посудзе' (лаг., віл., Сл. ПЗБ), *прут* 'паз' (круп., Нар. сл.). Гл. *апруды, абруд, прыд.*

**Пруда́ны** (Шат.), 'госці маладой, якія суправаджаюць яе з пасагам ў дом маладога', *пруда́ныя* 'тс' (пух., Сл. ПЗБ), *пруда́нкі, прыда́нкі* 'тс' (Касп.), *пруда́ны, прыда́нікі, прыда́ныя* 'тс' (Сцяшк. Сл.) Укр. *прида́не, прида́нки* 'тс', рус. пск. *прида́нный* 'вясельны паязджанін'. Да *прыданае* (гл.).

**Пру́дзіць** (адзежу ў лазні) 'знішчаць вошы, прапарваць над вуголлем, дэзінфіцыраваць' (Нас., Касп., Гарэц., Мік., Др.-Падб., Сл. ПЗБ; кіраў., Нар. сл.), 'апырскваць хімікатамі' (іўеў., Сл. ПЗБ), *пру́дзіцца* 'сохнуць' (Сцяшк.), 'прасушвацца ў лазні ў духу

(пра бялізну)' (талач., в.-дзв., Шатал.). Рус. арл., калуж., разан., смал. *прýдиться* 'грэцца (каля печкі)', чэш. *pruditi* 'гарэць, награваць', польск. *prędanie* 'гарэнне' (Міклашыч, 263). Сюды ж серб.-харв. *pruditi* 'гарэць, паліць', *prúda* 'крапіва' (Скок, 3, 60). Паводле Фасмера (3, 388), магчыма, звязана з *пруд*$_1$; у семантычных адносінах ён параўноўвае слав. **vrěti* 'кіпець' і літ. *vérdu, vìrti* 'кіпець, бурліць, варыць'. Махэк$_2$ (488) узнаўляе прасл. **pruditi*, якое лічыць роднасным ням. *brennen* 'паліць'. Гл. яшчэ Коген (Запіскі, 2, кн. 9, 93), які паўтарае версію Петарсана аб тым, што гэтыя словы ўзыходзяць да і.-е. **prend-// *prond-* і далей звязаны з *прагнуць* (гл.). Сюды таксама *апрýдзіцца* (гл.), параўн. серб.-харв. *oprudilo* (пра дзіця, якое абмачылася і ў яго пячэ ў паху) (Скок, 3, 60).

**Прýдзішча** 'месца, дзе быў млын' (Нас.), ст.-бел. *прудище* 'сажалка, высахлы ставок'; славен. *prodišče*, серб.-харв. *прȳдиште* 'рачны нанос', балг. *прѣдище* 'месца, дзе цякла рака і нанесла пясок і жвір'. Прасл. **prǫdiště*, вытворнае ад **prǫdъ*, гл. *пруд*$_1$. Гл. Бярнар, RÉS, 27, 31—40; БЕР, 5, 819—820.

**Прýдкі** 'пругкі, дужы, з жалезнымі мускуламі' (Янк. 1, Некр., Янк. БП, ТС), 'хуткі' (Нас., ТС, Нар Гом.), *прýдка гліна* 'гліна высокай цвёрдасці' (карэліц., Нар. словатв.). Сюды ж *прýдзенькі* 'дзябёлы, моцны' (шчуч., Сл. ПЗБ), *прудóк* 'спрытны, хуткі чалавек' (ТС, Нар. Гом.). Рус. дыял. *прýдкий* 'хуткі', укр. *прýдкий*, польск. *prędki*, кашуб. *prądki*, чэш. *prudký*, славац. *prudký* 'тс', славен. *prǫdek* 'імклівы, бадзёры'. Да *пруд*$_1$ (гл. Фасмер 3, 389; Махэк$_2$, 485; Брукнер, 438). Прасл. **prǫdъkъ*, паводле Борыся (MJ, 40—41, 53), з'яўляецца дэрыватам прыметніка **prǫdъ* з суфіксам *-ъкъ*, параўн. серб.-харв. *пруд* 'злы, хуткі, упарты (пра чалавека)', балг. *прѣд* 'спрытны, лоўкі, хуткі', макед. *прънд, пренд* 'нервовы'. Гл. спецыяльна БЕР, 5, 818—819; Огледна св., 66. Звязваюць з серб.-харв. *прȕдити, прусти* 'гарэць, паліць', *прýда* 'крапіва' (Скок, 3, 60), гл. *прýдзіць*. Неабгрунтавана Булыка (Запазыч., 269) аб запазычанні ст.-бел. *прудкий* з польск. *prądki*. Параўн. і *пруткі*. Як відаць з агляду значэнняў, у бел. слове назіраецца несумненны ўплыў семантыкі прым. *пруткі*.

**Прýдня**, *прýтня* 'конусападобная плеценая лазовая сетка' (Касп.). Да *прут* (гл.); *-д-*, відаць, пад уплывам *пруд*.

**Пру́жаць** ‘смажыць’ (мядз., Сл. ПЗБ). З *пра́жыць* (гл.) з лакальным змяненнем *о* > *у*.

**Пружмо́** ‘колца ў пастромках’ (паст., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад кораня *пруж-,* які ў словах *спружына, пружыноўка* і да т. п. з суф. *-мо*, як у *вязьмо, пражмо*.

**Пружнава́ць** ‘быць без ужытку’, ‘гультаяваць, быць без справы’ (Нас.). З польск. *próżnować* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 1, 56).

**Пружы́на** ‘спружына’ (Скарбы), ‘прыстасаванне для лоўлі дзікіх качак і звяроў’ (ТС). Рус., укр. *пружи́на*, польск. *sprężyna*, *prężyna* ‘спружына’, в.-луж., *pružina*, н.-луж. *pšužyna* ‘дзяржанне лука’, чэш. *pružina* ‘прут’, славен. *próžina* ‘спружына’, серб.-харв. *пру̏жина* ‘будан (з галінак)’, балг. *пръжи́на* ‘шост для ўмацавання снапоў на возе’. Прасл. **prǫžina* (Трубачоў, Этимология—1963, 20), якое, паводле БЕР (5, 821—822), ад прасл. **prǫgъ* (гл. *пруг*) з павелічальным суф. *-ina*. Інакш Махэк$_2$ (488): славянскае слова лічыць дэрыватам з суф. *-ina* ад прыметніка *pružný*, якое ад прасл. **pružiti*, звязанага з прасл. **prǫgъ, *prǫga* (гл. *пруга*). Гл. яшчэ Фасмер 3, 389. Сюды ж *пружы́нка* ‘ручны рыхліцель’, ‘спружыноўка’ (Мат. Маг.). Гл. *спружына*.

**Пружыно́ўка** ‘культыватар’ (беласт., Сл. ПЗБ), *пружы́нывка* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Мацкевіч (Сл. ПЗБ, 4, 118) лічыць, што гэта запазычанне з польск. *sprężynówka* ‘тс’. Смулкова (Смул., 64), адзначаючы распаўсюджанне слова ў Беларусі (Віцебскі і Старобінскі р-ны), лічыць магчымым утварэнне слова ўжо на ўсходнеславянскай глебе ад *пружына* пры дапамозе суфікса *-оўка*. Параўн. яшчэ Куркіна адносна рус. *пружи́ть* ‘баранаваць’ (Зб. Слаўскаму, 156).

**Пруза́к**, *прузу́к* ‘частка цэпа’, ‘вузкі, доўгі раменьчык; завязка, вяровачка’ (Сцяшк. Сл., Шатал., Клім.; пруж., Выг.; зэльв., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., Сакал.; зах.-палес., ДАБМ, камент., 259). Укр. палес. *прузу́к* ‘прывязка цэпа’, *приза́к, прузу́к* ‘тс’ (Бел.-укр. ізал., 25, 32). З **пры-узак* < **пру-узак* > *прузак, прузук*. Палескі фанетычны рэгіяналізм; параўн. рус. *приу́з* ‘вяровачка, завязка’, ‘раменьчык у цэпа’, дыял. пск. *привя́з, привя́за, при́вза* ‘тс’. Да *вузел, вязаць* (гл.).

**Пру́зік** ‘конік’ (Ласт.), укр. *пруз, пру́сик, пру́зик* ‘тс’, рус. дыял. *пру́зик, прус* ‘дробная саранча; конік’. Утварэнні на базе ст.-рус. *пруг*, мн. л. *пру́зи* ‘саранча’, ст.-сл. **прѫжиѥ** ‘конікі’,

што да *prǫgъ, роднаснага с.-н.-ням. *spranke, sprinke* 'конік', другой частцы ст.-в.-ням. *howespranca* 'тс' (літаральна 'які скача па сене'), аснова якіх выступае ў ст.-в.-ням. *springen* 'скакаць', ст.-ісл. *springan* 'тс' (Фасмер, 3, 387; БЕР, 5, 815; ЕСУМ, 4, 616). Разглядаецца як іменны дэрыват ад дзеяслоўнага кораня **pręg-*, для якога характэрнае значэнне 'напінаць, напружваць' (ESJSt, 12, 730). Сюды ж, магчыма, і *полёвы прус* 'невялікае насякомае з дзвюма вострымі выпусткамі на канцы, якімі шчыпае' (беласт., Ніва, 1979, 16 снеж.). Гл. *пруг, пругкі*. Аднак адзінкавая фіксацыя ў слоўніку Ластоўскага не дае падстаў лічыць слова народным.

**Пруль** 'гультаяваты чалавек' (Варл.). Няясна.

**Пруме́няц** 'прыбудоўка да хаты, у якой захоўваецца збожжа, мука, апрацаваны лён, соль' (лях., Янк. Мат.). З **пругмен(ец)*, гл. *пругмень*, або да *прымен* (гл.).

**Прус**, *пруса́к, пруша́к* 'рыжы таракан, Phyllodronua germanica' (ТСБМ, Шат., Касп., Сцяшк., Янк. 1, Бес., Сл. ПЗБ, ТС). Рус. *пруса́к* 'чорны таракан, Blatta orientalis'. Выводзяць ад *пруса́к* 'жыхар Прусіі' (Праабражэнскі, 2, 138) аналагічна чэш. *švab* 'рыжы таракан' < 'жыхар Швабіі'. Паводле Путанца (Rasprave, 25, 315—317), першапачатковае ням. *Schabe* 'чорны таракан' (з-за шматлікасці і агрэсіўнасці насякомага) ператварылася ў *Schwabe* 'тс', а пасля па гэтай мадэлі ў *Russen* і *Preussen* 'тс'. На трансфармацыю назвы паўплываў навуковы тэрмін для называння рыжага таракана — Blotella germanica L. Версія Патабні аб яго паходжанні ад рус. *прус* 'від саранчы' адхіляецца Фасмерам (3, 389 і наст.).

**Пруса́к** 'ураджэнец або жыхар Прусіі; паўночна-ўсходні немец', *пру́сы* 'група балтыйскіх плямён, якія насялялі паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора' (ТСБМ), *Прусы, Прушчына* 'краіна Прусія' (Варл.). Рус. *пруса́к* 'жыхар Прусіі', *пруца́к* 'немец', дыял. *пруц*, укр. *прус* 'прусак', ст.-рус. *Прусы* 'Прусія', польск. *prusak* 'прусак', *Prusy* 'Прусія'. Ва ўсходнеславянскіх мовах праз польск. са ст.-прус. *prū́sis* 'прус', літ. *prū́sas*, лат. *prūsis* 'тс', *Prūšmale* 'Прусія' (Мюленбах—Эндзелін 3, 400). Этымалогіі этноніма няма. Траўтман (Altpreuβ., 411) тлумачыў назву з **Po-rusi*, г. зн. 'тыя, якія жывуць паблізу Русі, па Русі', што з'яўляецца непрымальным. Брукнер (439) выводзіў слова ад

*praũsti* ‘мыць’, *prusnà* ‘морда, пыса’, што таксама вельмі няпэўна (Фасмер 3, 389; ЕСУМ, 4, 617).

**Прусакі́**, *прусаке́* ‘крупы’ (Сцяшк. Сл.). З **прасакі́, прасаке́* < *проса* з генералізацыяй значэння.

**Прусянкі** ‘від зялёнак’ (полац., Нар. сл.). Мабыць, з **прасянкі* < *проса*, паводле выгляду шапачкі (як бы пасыпанай лускавінкамі).

**Прут**$_1$ ‘тонкая доўгая палачка, галінка, дубец, розга’, ‘доўгі металічны стрыжань’, ‘кавалак дроту’, ‘вітка’, ‘вочап у студні з жураўлём’, ‘тупы край касы — патоўшчаная яе частка, супрацьлеглая вастрыю’, ‘прут у жолаба навою для прымацавання палатна’ (ТСБМ, Нас., Шат., Янк. 2, Сцяшк.; маст., Шатал., ТС; брэсц., Нар. словатв., Сл. ПЗБ), ‘прут у ярме’ (ЛА, 2, 355), *пруто́к* ‘стрыжанёк, на якім абарачаецца цэўка ў чаўнаку’ (Тарн., Бяльк., Янк. 2; Уладз.; лун., в.-дзв., Шатал.), ‘адзін рад саломы на страсе’ (ТС), ‘кіёк у ніце’ (ТС, Скарбы), ‘сухі чалавек’ (полац., Нар. лекс.), *пруткі́* ‘спіцы для вязання’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Гарэц., Сцяшк.; віл., беласт., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.), *пруты́* ‘жалезныя цягі, якімі злучаюцца ручкі плуга з дышлам’ (Тарн.), *прут* ‘жалезны прут, якім злучаюцца ручкі плуга’ (Смул.), ‘металічныя стрыжні ў аснове бараны’ (драг., Выг.; лях., Сл. ПЗБ), ‘тонкія жэрдкі, якія прымацоўваюць упоперак латы пры крыцці саламянай страхі’ (Сцяшк., ТС), *пру́цік* ‘спіца для вязання’ (Мат. Маг.), ‘палачка ў бёрдзе’ (віл., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *прутъ* ‘адзінка вымярэння даўжыні і плошчы’ (гл. падрабязна Скурат, Меры, 24 і наст). Рус. *прут* ‘галінка, дубец, розга; металічны стрыжань, кавалак дроту’, *прутки́* ‘вязальныя спіцы’, укр. *прут* ‘галінка, дубец’, ст.-рус. *прутъ* ‘прут, дубец’, польск. *pręt*, палаб. *prǫt*, в.-луж. *prut*, н.-луж. *pšut*, чэш. *prut*, славац. *prút*, серб.-харв. *пру̑т*, славен. *prȏt*, балг. *прът* ‘прут’. Прасл. **prǫtъ*, паводле Фасмера (3, 390) і Брукнера (436), роднаснае слав. **prǫdъ-* ‘цячэнне’ (гл. *пруд*) з першасным значэннем ‘галінка’, параўн. у семантычных адносінах рус. *побе́г* ‘ветка; парастак’ ад *бежа́ть*. У і.-е. мовах у якасці роднасных прыводзяцца ст.-ісл. *spretta* ‘ўскокваць, пырскаць, прарастаць’, англ. *sprint* ‘мчацца’, с.-в.-ням. *sprenzen* ‘пырскаць’ і да т. п. Менш верагодныя параўнанні з рус. *пря́тать* (бел. *пра́таць*), (Брукнер,

436; Праабражэнскі, 2, 145 і наст.); з рус. *прыть, прыткий* (Брукнер, 436), з польск. *promień* (Петарсан, BSL, 82). Інакш таксама Махэк$_2$ (488), які параўноўвае **prǫtъ* з чэш. *prtiti* 'ўсходзіць вясной з зямлі (аб траве)' і да т. п.; з'яўленне насавога галоснага ён тлумачыць "афектаваным" характарам слова, якое прывяло да падваення зычнага ў канцы слова: **prъttъ* > *prъntъ* > *prǫtъ*, што вельмі штучна. Гл. Шустар-Шэўц, 2, 1164; ЕСУМ, 4, 617; БЕР, 5, 831; Банькоўскі, 2, 776. Гл. яшчэ *прэнт*. Аб *пруто́к* у ткацкай тэрміналогіі гл. Трубачоў, Этимология—1963, 20.

**Прут$_2$** 'раскладка снапоў для малацьбы' (ДАБМ, камент., 872), 'укладка посуду аднаго ў адзін' (Вярэн.). Да *прут$_1$*; гэтыя значэнні можна вывесці з 'рад, роўны, як прут'; параўн. *прут$_1$* 'рад саломы на страсе', а таксама *пакладка на прост* (пад *прост$_1$*).

**Прут$_3$** 'згуба, пагібель, смерць' (капыл., Нар. словатв.). Адваротны дэрыват ад *пруцяне́ць, апруцяне́ць* (гл.). Параўн. яшчэ паралельныя ўтварэнні *апру́да* 'смерць', *апру́дзіцца* 'цяжка захварэць, акалець'.

**Пру́ткі** 'цвёрды, але гнуткі'; 'жорсткі, каляны, цвёрды' (ТСБМ, Шат., докш., Янк. Мат.), 'дзябёлы, моцны' (Сл. ПЗБ), 'пругкі' (Сл. ПЗБ). *пру́ткасць* 'пругкасць' (воран., Сл. ПЗБ), *пру́тко* 'туга' (брэсц., Нар. лекс.), *прутчэ́ць* 'мацнець' (Сцяшк. Сл.). Рус. дан. *пру́ткий* 'гнуткі'. Да *прут$_1$*. Але *пру́тка* 'хутка, імкліва' (іўеў., Сцяшк. Сл.) з *прудкі* (гл.); параўн. Брукнер (436), які польск. *prętki* лічыць вынікам адбітку вымаўлення ў правапісе.

**Пруто́к**, *пруто́к* 'абрус' (драг., ДАБМ, камент., 929). Да **порто́к* < *порт, парцяны* (гл.).

**Прутэ́** 'дыван, вытканы з самаробных нітак' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Відавочна, з **портэ́*, параўн. палес. *пуртяны́* 'з порту' (Уладз.) у выніку перастаноўкі гукаў. Далей гл. *порт*.

**Прутэ́сія** 'іконы, якія насілі ў час царкоўнай працэсіі' (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *пратэсія*.

**Прухні́ца** 'зморшчкі' (гродз., Сл. ПЗБ), 'перагной' (Скарбы). З польск. *próchnica* 'перагной, гумус'.

**Прухно́** 'парахня' (іўеў., гродз., Сл. ПЗБ). З польск. *próchno* 'тс' (Мацкевіч, тамсама, 4, 120). Сюды ж *пру́хнуць* 'гніць' (Нас.) < польск. *próchnieć* 'тс' (Кюнэ, Poln., 90; Цвяткоў, Запіскі, 1, 56),

а таксама *пру́хлы* 'трухлы, спарахнелы, сатлелы' (Нас., Гарэц.), *прухня́вы* 'гнілы, сатлелы' (Нас.), якія маглі быць запазычаны або ўтвораны на беларускай глебе.

**Пруце́нь** 'рыбалоўная лавушка з дубцоў' (полац., Нар. сл.), *пру́тніца* 'тс' (віц., Нар. лекс.). Да *прут* (гл.).

**Пру́цы** 'забалочаная мясціна' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, з польск. *pręcie* 'галлё', г. зн. 'месца, дзе расце хмызняк' па распаўсюджанай мадэлі назваў балот па прызнаку расліннасці; гл. аб гэтым Талстой, Геогр., 164 і наст. У гэтым выпадку слова было адаптавана паводле мн. л. м. р.

**Пруцяне́ць** 'станавіцца нягнуткім, нерухомым; карчанець' (ТСБМ). Гл. *апруцянець*.

**Пруця́нка** 'кошык з прутоў' (Касп.). Дэрыват ад прым. *пруця́ны* < *прут*.

*__Пру́чацца__, *пру́чатысь* 'намагацца, сіліцца' (Клім.), *пру́чатіся* 'тс' (брэсц., Нар. лекс.), *пру́чаті* 'падымаць што-небудзь цяжкае' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *пруча́тися* 'ўпірацца, натурыцца, супраціўляцца', *пручну́тися* 'ірвануцца, кінуцца', чэш. дыял. *vyprúčit' (-čat', -čovat')* 'прагінацца, каробіцца (аб сценах дому, дошчачках бочкі)', 'ганарыцца', *(vy)prúčat sa* 'ганарліва прагінацца назад', славац. *pručit'* 'выгінаць, згінаць'. Прасл. **pručiti* 'надзімацца, выгінацца, намагацца', 'працівіцца' < прасл. **pruk-* працягвае і.-е. аснову **(s)preuk-* (Варбат, Этимология—1975, 31). Борысь (Зб. Русэку, 41—44) далучае сюды харв. чакаўск. *prȕčit* 'марнатравіць, раскідваць (грошы)' і выводзіць першаснае значэнне прасл. **pručiti* 'прымушаць рассыпацца, разлятацца, растрэсквацца', суадносьнага з ітэратывам **pručati*.

**Пру́шчына** 'прасціннае палатно' (пух., Сл. ПЗБ), 'белы паркаль' (стаўб., Жыв. сл.; З нар. сл.; навагр., Нар. словатв.), 'белы матэрыял на сарочкі' (Сцяшк. Сл.), *prúščyna* 'белае палатно, танчэйшае за кужаль' (Варл.). Утварэнне ад прыметніка *просты* з суф. *-j-іна*: **prostjina* < **prostъ*. Гл. *прошчына*.

**Пру́шыць** 'церушыць' (гродз., Сл. ПЗБ). З польск. *prószyć* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 4, 120).

**Пры** — прыназоўнік (з М. скл.) і прэфікс, параўн. ст.-слав. **при**, ст.-рус., ст.-бел. *при*, укр. *при*, рус. *при*, польск. *przy*, каш. *pře* (памор. *přå/přä*), палаб. *prai-* (прэфікс.), в.-луж., *při*, н.-луж.

*pśi* (дыял. *pśa*), чэш. *při*, славац. *pri*, славен. *pri*, серб.-харв., макед., балг. *при*. Асноўныя значэнні, якія развіліся на зыходнай праславянскай семантычнай базе: прасторавае з указаннем на цесную блізкасць; указанне на адносіны падпарадкавальнасці, падсобнасці, аднесенасці да чаго-небудзь; на наяўнасць чаго-небудзь у каго-небудзь; на час, абставіны, становішча. Найбліжэйшымі паралелямі да прасл. **pri* лічацца літ. *priẽ* 'пры, каля, да' (жамойц. *pry*, таксама з нарашчэннем *-gi*: *príegi/priẽg*) з Р. скл., ст.-прус. *prei* 'да, пры' з Д. скл. (Фрэнкель, 652—653; Траўтман, 230; пра праблематыку ст.-літ. постпазіцыйнага *-pi*, які ідэнтыфікуецца з лат. прыназ. *píe*, прасл. і літ. прыназ. з *-r-* гл. Ваян, RÉS, 33, 109). Больш далёкія і.-е. адпаведнікі: ст.-лац. *prī*, грэч. *πάραι* 'пры', ст.-інд. *parḗ*, таксама хец. *pa-ra-a* = *parā* 'ўперад, з (адкуль-небудзь)'. Аб іранскім інгрэдыенце ў семантыцы **pri* (=**kъ*, суадносным з сагдз. *kw* 'к') гл. Мартынаў (Язык, 50—51). У якасці прэфікса, які працягвае прасл. **pri-*, утварае перш за ўсё дзеясловы са значэннямі: давядзення дзеяння да канчатковай мэты (*прыйсці*, *прыхіліцца*); дабаўлення, збліжэння, замацавання чаго-небудзь з чым-небудзь (*прыдрукава́ць*, *прышы́ць*); накіравання дзеяння да сябе, выканання дзеяння ў сваіх інтарэсах (*прыва́біць*, *прысво́іць*); накіравання дзеяння на прадмет зверху ўніз (*прымя́ць*, *прыці́снуць*); паўнаты, вычарпанасці дзеяння (*прывучы́ць*, *прыахво́ціць*); непаўнаты, слабой меры дзеяння (*прыспа́ць*, *прыадчыні́ць*); суправаджальнасці дзеяння (у дзеясловах на *-(оў)ва*: *прыгаво́рваць*, *прытанцо́ўваць*). Утварае назоўнікі і прыметнікі са значэннямі: непасрэднага прымыкання да чаго-небудзь (*прыла́знік*, *прыбра́мнік*); дадатковасці (*прыпло́д*, *прыпёк*). Большая частка гэтых значэнняў мае агульнаславянскі характар. Гл. таксама Фасмер, 3, 362; Скок, 3, 39; Махэк$_2$, 492; ESSJ, 2, 210—216 (з падрабязным аглядам літ-ры і версій); БЕР, 5, 690.

**Прыабрэ́ць** 'набыць' (віл., Сл. ПЗБ). Пры адсутнасці бяспрэфікснай формы хутчэй за ўсё запазычана з рус. *приобрести* 'тс', параўн. іркуц. *приобрекчи́* 'тс'; аднак наяўнасць старой карпата-палескай ізалексы, укр. *приобрі́ти* 'прыдбаць' — *прыобры́ты* 'тс' (Клімчук, Бел.-укр. ізал., 35) сведчыць пра зыходную ц.-слав. форму **обрѣсти** 'знайсці', роднасную *сустрэць*, *стрэчанне* (гл.).

**Прыаса́міцца** ‘прыняць самавіты выгляд; адчуць уласную сілу; выпрастацца; фарсіста прыбрацца’ (Нас.). Да зафіксаванага там жа *аса́міцца* (гл.), *аса́місты* — народнаэтымалагічнага пераасэнсавання (пад уплывам *сам*) слова *аса́ністы*. Параўн. аналагічнае рус. дыял. *приоса́миться* ‘падбадзёрыцца, прыняць паважны выгляд’.

**Прыасётак** ‘прыбудоўка пры восеці, ёўні; заканурак у гумне, паміж ёўняй і сцяной, у які сыплюць колас, мякіну’ (Некр., Янк.). Да *асе́ць, во́сець* (гл.). Параўн. *засётак* (гл.).

**Прыато́снік** ‘жалезная пласцінка на аглоблі, за якую чапляюць атосы’ (смарг., Шатал.), *прыто́сак* ‘канец атосы ў выглядзе кальца’ (міёр., ЖНС), *пры́тасьнік* ‘драўляны або жалезны падцяжнік, які надзяецца на вось і за які прымацоўваецца атоса’ (в.-дзв., Шатал.). Да *ато́са* (гл.). Зафіксаваныя ў рускіх гаворках Літвы і Латвіі арэальна блізкія *при́тоска, при́тосник* ‘металічная дэталь, якая злучае атосу з канцом пярэдняй восі драбін’— з суседніх беларускіх гаворак.

**Прыбабо́ны** ‘забабоны, прымхі’ (Касп.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **бабо́ны* з той самай семантыкай, адкуль і значна больш распаўсюджанае *забабо́ны* (гл.); параўн. укр. *бабо́ни* (падрабязна гл. ЕСУМ, 1, 106), каш. *babonë*, якія да прасл. **bobonъ* (SP, 1, 288). Сюды ж *прыбабунькі* ‘показкі’ ў Р. Барадуліна, вытворнае *прыбабу́нькаваць* ‘прыгаворваць, рабіць невыразныя заўвагі’ (міёр., Жыв. НС), рус. дыял. *прибабу́ни* ‘пустаслоўе, плёткі’. Гл. таксама ЕСУМ, 2, 214; SEK, 1, 81.

**Прыбагну́цца** ‘ўздумацца’: *пе́вень, як колі ему́ прыбагне́цца, покрычы́ць, кукарэ́кує* (ПСл). Належыць да агульнага ўсходнепалескага лексічнага фонду, параўн. укр. *прибáгти́, прибагну́ти, прибага́ти* ‘мець, займець моцнае жаданне’ — прэфіксальнае ўтварэнне ад *багти́* < прасл. **bažěti*, **bažati* < **bagēti* (падрабязна гл. ЭССЯ, 1, 172—173; ЕСУМ, 1, 111). Гл. *бажаць*.

**Прыбало́туха**, *пры́боло́туха, пры́балатка* ‘грыб каўпак кольчаты’ (Нар. лекс., Сл. ПЗБ, ГЧ; ТС), *пры́балотуха, пры́болотка, пры́болоцянка* ‘сыраежка з вострай шапачкай’ (Псл), *прыбало́тка* ‘ядомы грыб, які расце каля балота’ (Жд.). Да *бало́та* (гл.), паводле характэрнага біятопа — імшыстыя хваёвыя лясы пры балотах. Параўн. укр. палес. *прибо́лотуха, при́болотка* ‘грыб Tricholoma Russula’ (Лысенка, СПГ), *прэ́булутуха* ‘сыраежка шэрая’ (Бел.-укр. ізал., 62).

**Прыбамба́хі** мн. л. экспр. 'прычындалы, прыстасаванні': *гармонік з прыбамбахамі* (ЛіМ, 1998, 31 ліпеня), *прыбамба́сы* 'дадатковыя элементы, дэталі' (Наша Ніва, 1997, 24 сакав.). Відаць, на базе гукаперайманняў *бам!, бах!*, гл. *бахаць*.

**Прыбарышы́цца** 'прысуседзіцца' (ТС). Да незафіксаванага **барышы́цца*, якое ад *бары́ш* (гл.). Да семантычнага развіцця параўн. крым.-тат. *baryš* 'мір, прымірэнне'.

**Прыбасе́ць** 'абнасіцца абуткам, зрабіцца босым' (Бяльк.). Да незафіксаванага **басе́ць* з той самай семантыкай, якое ад *бо́сы* (гл.). Параўн. рус. пск., цвяр. *босе́ть* 'тс' (СРНГ).

**Прыбау́тка** (*прібау́тка*) 'прыказка' (Бяльк.). Улічваючы месца фіксацыі, трэба лічыць запазычаннем з рус. *прибау́тка* 'забаўная, трапная, звычайна рыфмаваная прымаўка', 'прыпеўка', прэфіксальнае ўтварэнне ад *бау́тка* 'дасціпны, трапны выраз; прымаўка' (Даль), што працягвае прасл. **bavǫtъka*.

***Пры́бач**, *пры́боч* 'збоку' (ТС). Лексікалізацыя прыназоўнікава-склонавага спалучэння *пры бо́ку/баку́*. Сюды ж прыметнік *прыбо́чны* 'які знаходзіцца заўсёды пры баку, пры поясе; які знаходзіцца неадлучна пры якой-небудзь асобе' (Нас.). Параўн. рус. дыял. *при́бочи* 'збоку', укр. *при́бочний* 'бакавы'.

**Пры́башч** 'невялікі конусны будан з жэрдак з вогнішчам пасярэдзіне' (ГЧ). Няясна.

**Прыбе́жышча** (*прыбе́жышчэ*) 'прыстанішча, прытулак' (ТС). Запазычана з рус. *прибе́жище* 'тс', утворанага ад прасл. **priběžati*/**priběgati* (БЕР, 5, 691—692).

**Прыбе́лены** (*прібі́лены*) 'крыху адбелены (аб палатне)' (Уладз.). Да *бялі́ць* (гл. *белы*) са значэннем непаўнаты дзеяння.

**Прыбе́рдзіцца** 'здацца' (ТС). Да **бе́рдзіцца* з аналагічнай семантыкай, варыянт *брэ́дзіцца* < *брэ́дзіць* 'хлусіць, узводзіць паклёп; трызніць' (гл.). Параўн. рус. дыял. *прибре́диться* 'прымроіцца; здацца'

**Прыбіва́ць**: *прыбіва́ць рукі* 'заключаць здзелку' (ашм., драг., Сл. ПЗБ), а таксама драг. *пырыбыва́тэ* 'тс' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *біць* (гл.), параўн. *біць па руках* 'тс', літаральна 'завяршаць справу, б'ючы па руках'.

**Прыбі́рышча** 'раскарчаваны ўчастак' (ст.-дар., Сл. ПЗБ). Да *прыбіра́ць, прыбра́ць* са значэннем 'расчысціць'. Параўн. балг.

дыял. *прибѝрище* 'тое, што нарадзілася за год, ураджай'. Гл. *браць*.

**Прыблакуня́цца** (*приблукуня́цьца*) 'прывалачыцца, прыплясціся' (Нас.). Звязана з *прыблука́ць*, *прыблука́цца* 'блукаючы, апынуцца дзе-небудзь; прыплясціся куды-небудзь' (Др.-Падб., ТСБМ), якое з *блука́ць* (гл.), афармленае экспрэсіўным суфіксам *-ун-*. Параўн. рус. наўг. *приблу́каться* 'прыстаць, прыбіцца да каго-небудзь, чаго-небудзь, блукаючы', укр. *приблука́ти* 'заблукаўшы або блукаючы, прыйсці куды-небудзь'.

**Прыблу́да**, *прыблу́д, прыблу́дак* 'чужы, нетутэйшы чалавек; прыблудная жывёліна' (Нас., Ласт., Растарг., ТСБМ; брасл., мін., Сл. ПЗБ; ТС), *прыблу́днік* 'той, хто далучыўся да каго-небудзь, пристаў, прыблудзіўся да якога-небудзь месца' (ТСБМ), *прыблу́дыш* 'беспрытульны, немаведама чый' (Бяльк.). Назоўнікі, утвораныя ад дзеяслова *прыблудзіць* (*-цца*) < *блудзіць* (гл).

**Прыблюсці́** (*пріблю́сьць*) 'ашчадзіць, захаваць на будучы час' (Бяльк.). Да *блюсці́*, *блюсьць* 'берагчы' (гл.), параўн. у суседніх гаворках рус. смал., наўг. *приблюда́ть, приблю́сти* 'захоўваць, зберагаць, прыхоўваць'.

**Прыбо́ец** 'шомпал' (Ласт.). Улічыўшы адзінкавасць фіксацыі, вельмі верагодна аўтарскае ўтварэнне ад дзеяслова *прыбі́ць* 'утрамбаваць', гл. *біць*.

**Прыбо́іна** 'папярочная жэрдка ў плоце' (петрык., Шатал.), толькі мн. л. *прыбо́і* 'папярочныя перакладзіны ў кроснах' (Сл. ПЗБ). Да *прыбі́ць, біць* (гл.).

**Прыбо́й** 'прабой (у дзвярах)' (паст., Сл. ПЗБ), *прыбо́ј, прыбо́јник* 'металічная дужка, убітая ў дзверы, якая служыць для навешвання замка' (Шушк.), *прыбуой* 'тое, на чым вешаюць замок' (беласт., Ніва, 1979, 30 вер.). Да *прабой* (гл.), але, як і тут, цалкам верагодны ўплыў семантыкі дзеяслова *прыбі́ць* 'прымацаваць', да *біць* (гл.); аналагічнае рус. дыял. *прибо́й* 'дзвярны запор, засаўка', укр. *при́бо́й, прибо́єц* 'прабой', параўн. балг. дыял. *прибо̀й* 'калок для прывязвання жывёлы'.

**Прыбо́ліць** 'прыбавіць' (Нас., Байк. і Некр.), *прыбо́ліць* 'павялічыцца' (астрав., Сл. ПЗБ). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *бо́лей,* гл. *бо́льшы*, параўн. рус. смал. *прибо́леть* 'колькасна павялічыцца'.

**Прыбо́р**₁ 'камплект, набор прадметаў для карыстання; прыстасаванне, апарат' (Нас., Ласт., ТСБМ), 'вупраж' (Сл. ПЗБ),

‘ткацкая прылада’ (Сл. Брэс.). Запазычана з рус. *прибóр* — аддзеяслоўнага назоўніка ад *прибирáть* з рэалізацыяй гістарычнага чаргавання *и/о* ў корані. Гл. *браць*.

**Прыбóр₂**, *прыбóры* ‘ўбор, убранне; адзенне; форма’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Касп., Растарг., Жд.; в.-дзв., бярэз., Сл. ПЗБ; Ян., Нар. Гом.), *прыбóры* ‘прыбранне, адзенне’, *прíбóры* ‘прыборы, уборы’ (Бяльк.). Сюды ж *прыбóр* ‘зборы ў дарогу; падрыхтоўка да падарожжа’ (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Да *прыбірáць, браць* (гл.). Параўн. рус. паўдн. *прибóр* ‘адзенне, убор, убранне; набор прыгожых рэчаў’, ‘галаўны ўбор’, ‘аздабленне на адзенні ці на галаве’, укр. *прибíр* ‘адзенне, убор; апрананне, прыбіранне; узорная вышыўка каляровымі ніткамі па лацкане кажушка’.

***Прыбóркаць**, *прыбóркаты* ‘прыручыць (пра хатнюю жывёлу)’ (кобр., Нар. лекс.). Да незафіксаванага **бóркаць* ‘падрэзваць крылы (хатняй) птушцы’, параўн. укр. *бóркаты* ‘тс’, якія працягваюць прасл. **bъrkati (sę)*, дзеясл. на *-ati* ад асновы гукапераймальнага паходжання з надзвычай разнастайнай семантычнай разгалінаванасцю ў слав. мовах (гл. ЭССЯ, 3, 125—127). У значэнні ‘прыручыць; прыстасаваць’, відаць, усходнеславянскае, параўн. рус. разан. *приборкáться, приборкнýться, прибуркáться* ‘прыстасавацца, прызвычаіцца да нечага’, укр. *прибóркати, прибóркувати* ‘падрэзаць крылы птушцы; прыбіраць, прыбраць да рук; уціхамірыць, скарыць, падпарадкаваць’, што суадносяцца з *бурковáць, борковáць, бýркаць* ‘назначаць, памячаць’, *буркóваны* ‘падрэзаны (пра пер’е на крылах), надрэзаны (пра перапонкі на лапах)’ (ТС).

***Прыбóрніца**, *прыбы́рныця* ‘прыбіральшчыца’ (Клім.). Да *прыбірáць, браць* (гл.). Параўн. укр. *прибірни́ця* ‘тая, якая прыбірае’, рус. дыял. *прибóрно* ‘чыста; прыбрана’.

***Прыбрóдка**, *прыбрю́тка* ‘прыблудная жанчына (прыйшла з другога сяла)’ (Сіг.). Сюды ж, відаць, зафіксаванае Ластоўскім *прыбрэдка* з рэканструяваным, магчыма, пераносным значэннем ‘падхалім, падхалімка’ (Ласт.). Да *прыбрысці́, брысці́* (гл.), параўн. *наброд* (гл.).

**Прыбрóнак** ‘вяроўка, за якую зачэплены плуг’ (астрав., Сцяшк.). Значэнне, відаць, няпэўнае ці змененае, таму што корань яўна да **брóна* ‘барана’, запазычанага з польск. *brona*.

Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне на беларускай дыялектнай глебе.

**Пры́бруч**: жарт. *пры́бруч легчы* 'легчы на жывот' (Марц.). Да *бру́ха* або *бру́х* (гл.), што, відаць, аднолькава магчыма. Сюды ж метафарычнае ўтварэнне *прыбру́шыцца* 'дарвацца; з прагнасцю есці або піць' (жлоб., Нар. словатв.). Параўн. рус. дыял. *прибрю́хий* 'з вялікім жыватом, пузам', *прибрю́шистый* 'тс', *прибрю́шие* 'вялікі жывот, пуза', укр. *при́брюш* 'каханак', адносна апошняга гл. ЕСУМ, 4, 568.

**Прыбудо́ва**, *прыбудо́ўка* 'прыбудаваны будынак да асноўнай пабудовы' (Гарэц., Інстр. 1, Янк. 2, ТСБМ; смарг., баран., шванч., Сл. ПЗБ), 'прыбудоўка да хаты або хлява, пуні для дроў; павець' (Шушк.), *прыбудуо́вка* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ), *прыбудо́віна* 'прыбудова (прыбудаваны будынак)' (Нар. Гом.), *прыбудава́ньня*, *прыбудува́ньня* (Бяльк.), *прыбуды́нак* 'прыбудаванае памяшканне' (Байк. і Некр.). Утвораны ад дзеяслова *прыбудава́ць*, да *будава́ць* (гл.). Больш слушна, аднак, меркаванне Лер-Сплавінскага (Studia, 184—185) аб першасным характары польскай дзеяслоўна-назоўнікавай пары *przybudować* — *przybudówka*, адкуль формы без прэфікса. Такім чынам, *прыбудо́ўка* таксама запазычана з польскай, а форма *прыбудо́ва* з'яўляецца другасным уласнабеларускім ўтварэннем, параўн. укр. *прибудо́ва* 'прыбудова', *прибудо́вати, прибудува́ти* 'прыбудоўваць, прыбудаваць'.

**Прыбу́ркацца** экспр. 'прыйсці' (ТС); сюды ж, відаць, зафіксаванае там жа з блізкай семантыкай *прыбу́рыцца* 'знайсці прытулак'. Няясна. Магчыма, звязана з коранем *бур-*, які рэалізаваны ў рус. іркуц. *прибуро́вить* 'прыйсці, прыехаць; прыбыць', іркуц., свярдл. *прибуро́виться* 'прыйсці, прыцягнуцца, прывалачыся' (СРНГ), параўн. і *буровіць* 'круціцца; несці бязглуздзіцу' (ТС), што вельмі прыпамінае серб. *бо̀равити* 'жыць, пражываць', балг. *бора́вя* 'рабіць нешта', якія ўзводзяцца да **byti* (гл. *быць*) (ЭССЯ, 2, 195—197). Параўн. і славен. *priburiti* 'нечакана з'явіцца'.

**Прыбу́цца** 'абуцца' (даўг., Сл. ПЗБ). Рэгіянальны словаўтваральны карэлят да *абу́цца* (гл.), створаны на яго базе з адценнем значэння некаторай непаўнаты (незавершанасці) дзеяння. Параўн. рус. смал. *прибу́ть* 'абуць', *прибу́тый* 'абуты'.

**Прыбы́ць**, *прыбыва́ць* ‘прыйсці, прыехаць, паступіць, быць дастаўленым (пра груз і пад.)’; ‘павялічыцца, прыбавіцца (колькасна, у аб’ёме (напр., пра Месяц), велічыні і пад.); з’явіцца ў дадатак да чаго-небудзь; дабавіцца’ (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк. МГ; карэліц., Сл. ПЗБ), *прыбува́ць* ‘прыбаўляцца (пра ваду, вагу і інш.)’ (ТС). Сюды ж аддзеяслоўныя іменныя ўтварэнні, якія працягваюць семантыку дзеяслова: *пры́быль* ‘прыбытак, даход’ (Ян.; астрав., Сл. ПЗБ), *пры́буль* ‘тс’ (ТС), *пры́быль* ‘паводка, разводдзе’, *прыбыльны́*: *прыбыльна́я вада́* ‘паводка’ (Ян.), *прыбу́тка* ‘вада, якая прыбывае’, *прыбутны́* ‘паводкавы’ (ТС), *прыбы́так*, *прыбу́ток* ‘прыбытак, даход; карысць, выгада; з’яўленне патомства’ (Нас., Ласт., Байк. і Некр., Бяльк.; ашм., беласт., Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж таксама *прыбы́тнік* ‘маладыя парасткі хваёвых дрэў’, *прыбы́тныя дні* ‘першая і другая фазы Месяца’ (Сл. ПЗБ), *пры́быш* ‘перасяленец з іншай мясцовасці’ (стаўб., Сл. ПЗБ), *прыбыле́вец* ‘перасяленец’ (б.-каш., ЛА, 3), *прыбу́лец* ‘прыезджы’ (ТС), *прыбыу́на́я вада́* ‘паводка’ (Ян.). Узыходзіць да прасл. **pribyti*, далей ітэратыўна-дуратыўны **pribyvati*, якія, у сваю чаргу, ад **byti*, **byvati* (гл. *быць*) з кардынальнай зменай семантыкі зыходных дзеясловаў (пра апошняе гл. ЭССЯ, 3, 155, 157—158).

***Прыбэ́цкаць**, *прыбэ́цькаты* ‘прывесці’ (кам., Жыв. НС). Магчыма, звязана з *прыбыць* са зменай вакалізму кораня і суфіксальным афармленнем, абумоўленымі экспрэсіўнасцю ўжывання. Параўн. *прыбрысці́* > *прыбрэ́дка*, гл. *прыбро́дка*.

***Прыбягны́**, *прыбыгны́й* ‘пазашлюбнае дзіця’ (кам., ЛА, 3). Да *прыбе́гчы*, *прыбяга́ць* з метафарычным пераносам значэння.

**Прыбядзі́ць** (*прыбедзі́ць*) ‘зрабіць кепскае; прынесці гора, бяду; зрабіць няшчасным, збедніць’ (ПСл; ТС). Да *бе́дны*, *бяда́* (гл.). Параўн. укр. дыял. *при́бідок* ‘у дадатак да бяды, дадатковая бяда’.

**Прыва́біць** ‘імітуючы голас (звычайна птушак), паклікаць; прыцягнуць увагу, погляд і пад.’ (Шпіл., Нас., ТСБМ, ТС), *пріва́біць* (Бяльк.), *прыба́віць* ‘прывабіць’ з метатэзай (ТС). Сюды ж вытворныя: *прыва́ба* ‘тое, што прываблівае, прыцягвае да сябе, прынада; прывабнасць’ (Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бяльк., ТСБМ), ‘пчаліная прынада’ (ваўк., лаг., Сл. ПЗБ; міёр., Жыв. НС), *прыва́бнік*, *прыва́бачнік* ‘невялікі вулей, які ставяць

на дрэве ў лесе для прываблівання пчол' (ваўк., лід., нясвіж., Сл. ПЗБ; ЛА, 1). Узыходзіць да праславянскага прэфіксальнага ўтварэння **privabiti*, якое ад **vabiti*, гл. *вáбіць*. Укр. *привáбити* 'прывабіць, прыцягнуць', рус. дыял. *привáбить* 'прынадзіць', ст.-рус. *привáбити* 'запрасіць, паклікаць; угаварыць, прыцягнуць да сябе', польск. *przywabić*, чэш. *přivabiti*, серб.-харв. *привàбити*.

***Пры́вад**, *прíвод* 'слушнасць, дарэчнасць; лад, толк, сэнс': *дáрма не скажуть, а усе ік прíводу* (лельч., Нар. лекс.). Сюды ж устойлівае словазлучэнне *даць прывóд* 'вывесці ў жыццё (пра дзяцей)' (ТС). Аддзеяслоўны назоўнік ад *прывóдзіць*, незак. тр. да *прывéсці,* сярод іншых значэнняў 'паведаміць што-небудзь для падмацавання свайго меркавання, спаслацца на каго-, што-небудзь' (ТСБМ). У абстрактным значэнні параўн. рус. дыял. *привóд* 'заклінанне пастухоў, якое, паводле забабонаў, засцерагае скаціну ад звяроў', 'навучанне, натацыя', укр. *привíд* 'кіраўніцтва, камандаванне; падстава, аснова', польск. *przywód* 'намова, заахвочванне' і пад. У канкрэтным значэнні 'нараджэнне, прыплод' вядомае і іншым славянскім мовам, параўн. балг. *прѝвод* 'прыплод ад жывёлы, што была дадзена ў якасці пасагу', параўн. БЕР, 5, 702 (да прасл. **privodъ* 'тое, што прыведзена'). Гл. таксама Jakobson, Word, 7, № 2, 1951, 190; Варбат, Этимология—1963, 213—216.

**Прывáда** 'тое, чым прынаджваюць птушак, рыб, жывёл; тое, што прыцягвае, прываблівае' (Нік. Очерки). Субстантыў ад *прывáдзіць* 'прынаджваць птушак, рыб, жывёл; прыцягваць, прываблівацъ', параўн. *прывáдіть* 'прывучыць' (Растарг.), якое ад *вáдзіць₂* (гл.), аналагічныя укр. *прівáда* 'прынада', рус. дыял. *привáда* 'звычка, патуранне; цяга, прыхільнасць'.

**Прывалáць** (*прыволáць*) 'прыцягнуць сілай' (ТС). Відаць, з польск. *przywołać* 'паклікаць', зблiжанага з *прывалачы́* < *валачы́* (гл.). Да апошняга параўн. *прыволóка* 'набрыдзь' (ТС).

**Прывáл** 'прыпынак у дарозе для адпачынку ў час паходу' (ТСБМ): *лежáць у прывал* 'доўга вылежвацца' (ТС), *прывáлка* 'месца для прыпынку ў дарозе, прывал' (Нас.), *прывáл*, *прывáлак* 'пагорак; высокі бераг' (мядз., Нар. сл.; брасл., Сл. ПЗБ), *прывáлак* 'нізкае месца ў канцы загона' (брасл., ігн., Сл. ПЗБ), *прывáлак, пры́валок, пры́вéлок* 'прымурак — выступ печы, на якім можна сядзець або ставіць што-небудзь' (Буз., ТС), 'прымастка,

палаці каля печы' (Сцяшк., Сл. рэг. лекс.), 'дошка, прыбітая ля печы' (Жд.), *прывале́нь* 'прымак' (гарад., Нар. лекс.). Да *прывалі́ць* 'прыперці, прыхіліць; прыкрыць, прыціснуць зверху, прыстаць, прычаліць (пра судна); прыйсці, сабрацца ў вялікай колькасці; з'явіцца, прыйсці (пра што-небудзь нечаканае або ў вялікай колькасці)' (ТСБМ), да прасл. **privaliti*, якое ад **valiti*, гл. *валі́ць*.

**Прыва́рак**, *пры́ва́рок* 'гатаваная страва; прадукты харчавання, якія ідуць на прыгатаванне стравы; заправа, якая дадаецца да галоўных прадуктаў пры гатаванні гарачых страў; прыкраса' (Нас., Янк. 2, Касп., Бяльк., ТСБМ, Ян.; петрык., Шатал.; ашм., Стан.; ТС), 'вадкая, пераважна прэсная страва, якая варыцца ў дадатак да асноўнай'; 'мука; мука з ячменю і грэчкі; крупы; бабовыя', *прыва́ркі* 'агародніна' (Нар. лекс., Сл. ПЗБ), *прыва́р* 'крупы і мука розных гатункаў' (Нік. Очерки), *прыва́рак* 'мука з (абдзёртага) ячменю' (Др.-Падб.; полац., Янк. 2), *прыва́ркавая*, *прыварко́вая*, *прыворко́ва*, *прыва́рашная* (мука) 'тс' (Інстр. 3, Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *прыварко́вая* (мука) 'з ячменю і грэчкі', *прыва́ркавая* (мука) 'з сумесі зерняў розных культур' (Др.-Падб., Нар. лекс., ЛА, 4), *прыва́ркавы* 'які дадаецца да звычайнай стравы' (Нас.). *Прывары́ць* 'зварыць яшчэ, у дадатак да ўжо зваранага' (ТСБМ), 'згатаваць страву, якая хутка варыцца; моцна сцебануць, хваснуць' (Янк. 3), 'паварыць некаторы час' (лід., Сл. ПЗБ), перан. 'прываражыць, прычараваць' (ТС). Да *вары́ць$_1$* (гл.).

**Пры́варатка** 'частка навітай на навой асновы, якая адпускаецца для ткання з задняга навоя за адзін раз' (в.-дзв., Шатал.). Суфіксальны назоўнік ад *прывараці́ць* < *вараці́ць* (гл. *варо́чаць*).

**Прыва́рваць** 'прыпарваць' (ТС). Да *вары́ць$_2$* 'моцна грэць (пра сонца); парыць (пра надвор'е)' (гл.). Відавочна, усходнеславянскае, параўн. рус. *прива́ривать* 'пячы гарачынёй, спёкай'.

**Прываро́жка** (*прываро́шка*) 'звычай, павер'е' (паст., Сл. ПЗБ). Субстантыў ад *прываражы́ць* < *варажы́ць* (гл.) 'у забабонных уяўленнях — варажбой выклікаць любоў, прыхільнасць да каго-небудзь'.

**Прываро́т** 'прычароўванне, варажба; чароўная сіла варажбы' (Нас., Байк. і Некр., Растарг.), 'тое, што можа прывабіць, выклікаць любоў да каго-небудзь' (Нар. Гом.). Сюды ж *пры́воротынь* 'піжма звычайная' (Сіг.), *прыварaті́ть* 'прываражыць'

(Растарг.), *прыварóтны* ‘ў забабонных уяўленнях — які можа прывабіць, выклікаць любоў да каго-небудзь’ (ТСБМ), *прывáратны карэнь* ‘корань для чаравання, любчык, любіста’ (Др.-Падб.), нарэшце, *прыворотны́й* ‘добразычлівы, прыхільны’ (Клім.) са стратай базавай семантыкі. Да *прывараціць* ‘прычараваць’ < *вараціць* (гл. *варóчаць*) з семантыкай (і практыкай) рытуальнага дзеяння, накіраванага на вяртанне аб’екту магічнага ўздзеяння, параўн. ст.-бел. *приворотити* ‘аднавіць, вярнуць’, *приворотитися* ‘апамятацца, апрытомнець’.

***Прыварóцце** (*прыворóтьте*) ‘вір, глыбокая яма на рэчцы’ (бяроз., ЛА, 2). Лексікалізацыя словазлучэння прыназоўніка *пры* і дзеяслоўнага кораня *варóт(-ч-)/-ц-*. Гл. *варочаць*.

**Прывáтны** ‘які належыць пэўнай асобе’ (Гарэц., Байк. і Некр., ТСБМ), *прывáтны*, *правáтны* ‘ўласны’, *прывáтне* ‘ўласна’ (смарг., паст., брасл., Сл. ПЗБ); ст.-бел. *приватный*, *прыватный* (з 1595 г.) са ст.-польск. *prywatny* (XVI ст.), якое, у сваю чаргу, з лац. *prīvātus* (Булыка, Лекс. запазыч., 33). Сюды ж *прывáта* ‘пабочны даход, асабліва за прыватныя ўрокі’ (Нас.), якое працягвае таксама запазычанае са ст.-польск. *prywata* < лац. *privata*; Булыка (Лекс. запазыч., 262) лічыць лацінскае слова непасрэднай крыніцай запазычання ст.-бел. *привáта* ‘асабістая выгада, прыватнасць’; параўн. таксама чэш. *privát* ‘прыватная кватэра; прыватныя ўрокі’.

**Пры́вен,** *пры́вян*, *пры́вянь*, *прыӯня* ‘частка жылога будынка, якая знаходзіцца перад жылымі памяшканнямі і праз якую ўваходзяць у іх; сені’ (Інстр. 1, Сцяшк., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., ЛА, 4). Запазычана з літ. дыял. (паўн.-зах.) *pryvenẽ* ‘пярэдні пакой, прыхожая’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 38). Параўн. *пры́мен*.

***Прывéраваць**, экспр. *прывéроваць* ‘прычапіцца, прывязацца, прыліпнуць’ (ТС). Няясна. Параўн., аднак, *уверáцца* ‘чапляцца, дакучаць прычэпкамі’, *увéрыцца* ‘апрацівець, надакучыць’, фразеалагізм *увéрыцца ў косці* ‘тс’ (ТС), ст.-бел. *прівара* ‘загана, недахоп’, што дае падставы атаясамліваць слова з польск. *przywrzeć* ‘прыліпнуць, прыклеіцца’, *przywierać* ‘прыліпаць’, *przywara* ‘рэшткі прыгарэлага варыва; дрэнная схільнасць, недахоп’, што да *-wrzeć*, *-warzyć* (Банькоўскі, 2, 954, 955), гл. *урэ́ць*, *варыць*, параўн. *варыць ваду* ‘здзекавацца, сварыцца’ (ТС), польск. *wrzeć, warzyć* (na kogo) ‘злавацца’. Падрабязней гл. Варбат, ИАН ОЛЯ, 54, 4, 62; Чарныш, Слов. лексика, 181).

**Прыве́т** ‘зварот да блізкага пры сустрэчы’ (ТСБМ; шчуч., Сл. ПЗБ), *прівéтка* ‘прывітанне’ (Бяльк.), *прывітанка* ‘тс’ (Нік. Очерки); сюды ж дзеясловы *прывéціць* ‘прыязна, ласкава сустрэць каго-небудзь, аднесціся да каго-небудзь’ (ТСБМ, Бяльк., Ян.), *прывéціцца* ‘прывітацца’ (чэрв., Сл. ПЗБ), *прывітáць*, *прывітáцца* (Мік., Байк. і Некр., Пал., ТСБМ; воран., ашм., ігн., Сл. ПЗБ). Маючы на ўвазе ст.-слав., балг. і ст.-рус. формы, можна выказаць меркаванне аб працягу прасл. **privětiti* > **privětъ*, якое ў сваю чаргу з’яўляецца прэфіксальным утварэннем ад добра адлюстраванага ў славянскіх мовах прасл. **vět-* (у другой ступені чаргавання — **vit-*). Укр. *привіт* ‘прывітанне, вітанне’, *привітáти* ‘прыняць каго-небудзь, павітацца з кім-небудзь’, *привітáтися* ‘павітацца’, *привітáння* ‘прывітанне, вітанне’, рус. *привéт* ‘прывітанне’, *привéтить* ‘даць станоўчы адказ свату жаніха пры першым наведванні нявесты’, *привитáть* ‘ветліва, ласкава адносіцца, звяртацца да каго-небудзь, берагчы каго-небудзь’, стараж.-рус. *привитати* ‘знайсці прытулак’, *привѣтъ* ‘вітанне, зварот; выслоўе, слова; намер’, польск. *przywitać się* ‘прывітацца’, балг. *привѐт*, *прѝвет* ‘прывітанне’, ст.-слав. **привитати** ‘пасяліцца, знайсці прытулак’, ‘намер, (добрая) задума’. Аб развіцці значэнняў лексем, звязаных з **vit-/vět-*, падрабязней гл. Рудніцкі, 1, 400; ЭСБМ, 2, 165—166; гл. таксама Фасмер, 3, 363; ЕСУМ, 4, 569 (прасл. **privětъ* выводзіцца з **privětiti*); БЕР, 5, 701.

**Прыве́траніцы** ‘дзве дошкі або жэрдкі, якія прыбіваюцца да лат з абодвух бакоў франтона’ (жыт., Нар. сл.). Да *вéтраніцы* ‘тс’ (гл.).

**Пры́вечар** ‘пачатак вечара’ (Нас.), прысл. *пры́вечар* ‘пад вечар’ (Байк. і Некр.). Лексікалізацыя словазлучэння *пры вéчары*, дзе рэалізуецца вельмі архаічнае значэнне прыназоўніка *пры* ‘пры азначэнні часу, які набліжаецца, ці часу, на працягу якога адбываецца дзеянне’, параўн. ст.-слав., стараж.-рус. **обласи съ нама ѣко при вечерѣ естъ**. Рус. дыял. *прúвéчер* ‘надвячорак’, *прúвечерь*, *прúвечер* ‘пад вечар’, *прúвечёрок* ‘надвячорак; позні вечар’, укр. *привечерíтися* ‘змеркнуцца’.

**Прыві́д** ‘здань’ (ТСБМ), з далейшым семантычным развіццём — ‘спалох’ (Інстр. 3), ‘знешні выгляд’ (астрав., Сл. ПЗБ). Наўрад ці назоўнік з’яўляецца прэфіксальным працягам *від₁*

(гл.); хутчэй ад *прывíдзіцца* ‘ўявіць’, *прывíджвацца* ‘здавацца’ (в.-дзв., віл., Сл. ПЗБ), *прывіжáцца* ‘тс’ (ТС). Прэфіксальнае ўтварэнне да **вíдзіцца* < *вíдзець* ‘бачыць’ (гл.), параўн. ст.-слав. *привиденье* ‘мара, мроя’ (Ст.-бел. лексікон), *привижеватися* ‘марыцца, мроіцца’ (там жа), рус. *привидéние* ‘прывід’, *прúвиды* ‘здані, прывіды’, *привúдеться* ‘памыліцца, падмануцца’, *привидáться* ‘здацца; прысніцца’, *привижéние, привиждéние* ‘прывід, здань’, укр. *прúвид* ‘прывід, здань; няясныя, ледзь акрэсленыя контуры, ілюзія’, *прúвúддя* ‘прывід, здань’, *прúвидки* ‘прывіды, здані’, *привúдітися*, *привúджуватися* ‘ўявіцца, здацца, прымроіцца’; параўн. таксама серб.-харв. *прѝвидити се* ‘здацца, уявіцца’, *привид* ‘ілюзія, падман зроку’.

**Прывілéя** ‘выключнае права, якім карыстаецца хто-небудзь у адрозненне ад іншых’ (Бяльк., ТСБМ), *прывілéй* ‘права ўвогуле, якое засноўваецца на пісьмовым дакуменце; прывілея’ (Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб.). Працягвае ст.-бел *привилеи* (Грамата Вітаўта 1388 г.), *привилей*, *прывилей*, *привелей*, *привилий*, *привилье*, *прывилье* ‘ўрадавы ўказ, прывілея’ (з 1434 г.), якое са ст.-польск. *przywilej* (1393 г.) < лац. *prīvilēgium* (Булыка, Лекс. запазыч., 57). Таксама з польскай і іншыя усходнеславянскія формы: рус. смал. *привúлье* ‘павяленне, указ; прывілея’, укр. *привілéй*, *привилéй* ‘прывілея’ (Фасмер, 3, 363; ЕСУМ, 4, 569; Банькоўскі, 2, 954).

**Прывíля** ‘недамаганне’ (маст., Хромч., дыс.). Няясна. Магчыма, звязана, з *вілíць* ‘зварочваць з прамога шляху, зварочваць убок’; перан. ‘крывіць душой’ (гл.) з семантычным зрухам, апошняе Карскі (Труды, 394) звязваў з літ. *vylióti* ‘падманваць, заманьваць, спакушаць’, *vỹlius* ‘падман, хлусня’.

**Прывíціца** ‘расліна бярозка’, *прывíтуха* ‘тс’ (ТС). Ад *прывівáць* ‘звіваць’; *прывíтуха лён прывівае* (ТС). Да *віць*, гл. наступнае слова. Параўн. рус. дыял. *привúтица* ‘расліна Calistogia, бярозка’ і іншыя славянскія назвы з гэтым коранем (Мяркулава, Очерки, 107—108).

**Прывíць**, *прывівáць* ‘прымусіць, засвоіць, надаць (якую-небудзь уласцівасць, звычку і пад.)’, *прывíцца* ‘замацавацца, укараніцца, стаць звычайным’ (ТСБМ), *прывíцца* ‘прыкруціцца (калі ўюць вяроўку, то ў вяроўку можа ўкруціцца, увіцца штонебудзь пабочнае)’, ‘назойліва прычапіцца (напр., пра пчалу)’

(Янк. 3), *прывіва́цца* 'часова жыць' (Юрч.). Да *віць₂* (гл.). Сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі са сферы ткацкай лексікі: *прывытні́к* 'верацяно, на якое змотваецца пража з некалькіх — звычайна з 2—3, радзей з большай колькасці верацён для прасушкі', *прыві́вак* 'верацяно, з якога звіваюць пражу на другое для прасушвання' (Уладз.), *прыві́ванка* 'дзве ручайкі пражы на адным верацяне' (ТС); а таксама *прыво́й* '(часовае) месцазнаходжанне' (Мат. Маг.).

**Прыво́лле** 'шырокае адкрытае месца; прастора'; перан. 'адсутнасць абмежаванняў; свабода, воля' (ТСБМ), *прыво́лье* 'прыволле' (ТС). Суфіксальныя ўтварэнні ад прым. *прыво́льны*, які ад *во́ля*; параўн. рус. *приво́лье*, укр. *приві́лля* 'прыволле, раздолле'. Сюды ж *прыволіца* 'тс' (Ласт.).

**Прыво́рак** 'заварот у канцы загона (на роўным месцы)' (паст., ЛА, 2). Вытворнае ад *прыво́рваць*, зак. тр. *прыара́ць* 'узараўшы, далучыць да якога-небудзь поля, участка, заараць'. Гл. *араць*.

**Прывушы́ць** 'прымайстраваць, прыладзіць да вушака (раму)' (міёр., Жыв. НС). Утварэнне ад *вуша́к* (гл.). Сюды ж дыялектныя формы назоўнікаў з чаргаваннем *-ву-/ў-*, *-ы-/-э-*: *пры́ўшэнь*, мн. л. *пры́ўшні*, *прэ́ўшэнь*, *прэ́вшэнь*, мн. л. *прэ́ўшні* 'вушак (вертыкальны)' (івац., пін., Нар. сл., Шатал., Сл. ПЗБ, Жыв. сл.; ЛА, 4), якія з'яўляюцца лексікалізацый словазлучэння *пры вушаку́* з фактычна поўнай стратай уласнай семантыкі прыназоўніка.

**Прывы́драцца**, *прыву́драцца* 'прыблытацца, прывалачыся' (ТС). Да *вы́драцца* (< *вы́драць*, гл. *драць*) са зменай семантыкі, абумоўленай экспрэсіўнасцю ўжывання; параўн *ву́драцца* 'найсціся, нечакана з'явіцца', *ву́драць* 'адшукаць, дастаць', першасным значэннем якога з'яўляецца 'нанава распрацаваць поле' (ТС), г. зн. 'навіна'.

**Прывы́кнуць**, *прывыка́ць* 'набыць прывычку; прывучыцца; асвоіцца' (Бяльк., ТСБМ). Працягвае ст.-бел. *привыкнути*, *привыкати*, якое ад *выкнути*, гл. *вы́кнуць* (< прасл. **vyknǫti*); сюды ж *прывы́чка* 'схільнасць, манера паводзін, звычай' (ТСБМ, Сл. ПЗБ).

**Пры́высака** 'высакавата', *пры́высакі* 'высакаваты' (Нас.). Да *высо́кі* (гл.) са значэннем непаўнаты, якая перадаецца прыстаўкай *пры-* (гл. *пры*).

**Прывядзёнак** 'дзіця, прыведзенае ў хату другой жонкай' (Шат.), *прывядзёнка*, *прывыдінка* 'падчарка' (ЛА, 3, Клім.). Да *прывесці*, гл. *весці*, відаць, праз стадыю назоўнікаў на *-ень* (*прыведзень*), утвораных ад дзеепрыметнікавых асноў, што, паводле Вярхова (Аб нек. асабл., 33—40), характэрны для сучаснай беларускай мовы.

**Прывязёнка** 'чужая, прывезеная з чужых краёў' (Нар. Гом.). Да *прывезці*, гл. *везці*.

**Прывя́зка** 'вяровачка, шнурок, раменьчык для прывязвання чаго-небудзь' (Байк. і Некр., ТСБМ), *пры́вязка* (Ян.,), *пры́візка*, *прі́візь* 'тс' (Бяльк.), *пры́вязка* 'прывязь у цэпе' (гродз., навагр., ганц., клім., Шатал., Сл. ПЗБ), *пры́везка*, мн. л. *прыве́зкі* 'раменьчыкі ў цэпе' (Выг. дыс., ТС), *пры́візінь*, *прі́візінь* 'раменьчык, якім прывязваюць біч да цапільна' (Бяльк.), *пры́вязка* 'кальцо, якім замацоўваецца каса на касільне' (нараўл., ДАБМ), *пры́вязка* 'галіна для прывязвання латаў да крокваў у саламянай страсе' (Шат.; ашм., Стан.), 'тонкая жэрдка, якой прыціскаюць салому на страсе' (арш., Шатал.; Мат. Маг., Сл. ПЗБ), *пры́вязка*, *прі́візка* 'тонкая жардзінка, якою прывязваецца рад саломы да латы на страсе ў час крыцця' (Бяльк.), *пры́вяз*, *пры́вязь*, мн. л. *пры́вязкі*, *прі́візкі*, *пры́везкі*, *пры́візкі*, *пры́віскі* 'паплёт (у страсе паверх саломы)' (ЛА, 4), з іншым суфіксальным афармленнем: *пры́вязіна* 'паплеціна' (Сл. ПЗБ), *прі́вязіно*, мн. л. *прі́вязіны* 'жэрдкі, што ўтрымліваюць салому на страсе, да якой салома прымацоўваецца' (П.С.). Ткацкую семантыку, развіццё якой звязана тут з асаблівасцямі ткання, калі ўток прыбіваў менш шчыльна і палатно атрымоўвалася горшае, як бы "прывязанае" да добрага, захоўваюць *прывя́зка*, *пры́вязь* 'палатно з горшага валакна; горшае валакно' (Касп.); сюды ж *пры́вызнына* 'мяккія адходы валакна пры часанні льну' (кам., Жыв. НС). Узыходзіць да прасл. **privęzъ*, **privęza*, **privęzъka* (падрабязней у БЕР, 5, 700; ЕСУМ, 1, 442—443, з літ-рай). Ст.-слав., ст.-рус. *привязати* 'прывязаць, утрымаць', *привязъка* 'прывязь, тальмах' (Сразн.), ц.-слав. **привѧзъ**, **привѧза** 'вяровачка для прывязвання, шнур', *привяска* 'звязванне', серб.-харв. *привеза*, *привезак*, балг. дыял. *привез* 'прывязка', старое *привезка* 'хустка', славац. *privez*, *priveza*, польск. *przywiązka*, рус. дыял. *привя́зка* 'прывязь для жывёлы; завязка', 'тонкая жэрдка, якая ўтрымлівае страху', 'частка цэпа',

укр. *прúв'язка, прúв'язок, прúв'язь* 'шнурок, вяровачка ці што-небудзь падобнае, скарыстанае для прывязвання'. Гл. *вязáць*.

**Пры́вярка** 'адтуліна ў венцяры, праз якую заходзіць рыба' (гродз., Жыв. НС). Няясна. Магчыма, звязана з *верая* (гл.), параўн. польск. *przywierać* 'прысланяць, прычыняць' (што да **verti* 'адчыняць, зачыняць' і пад.), *wierzej* 'аднастворкавая брамка' і *wierzeja* 'двухстворкавая брамка з дошак', параўн. таксама ст.-польск. *wierzejny* 'агульны, адкрыты'. Параўн. Антропаў, Супр. чыт. III, 17. Гл. наступнае слова.

**Прывярнýць** 'павярнуўшы, прыперці, прыхіліць да чаго-небудзь; прываліць; зачараваць, прываражыць' (ТСБМ, Янк. 2), 'прыкідаць, прываліць, накіраваць статак да чаго-небудзь' (Янк. 2), *прыверня́ць* 'прывальваць' (ТС). Да *вярнýць* (гл.). Адносна значэння 'зачараваць, прываражыць' гл. *прываро́т*.

**Прывячáць** 'вітаць, прыхільна сустракаць' (Наша Ніва, 2002, 15 ліст.). Ітэратыў да *прывецíць*, гл. *прывет*.

**Пры́гаваразка** 'прымаўка' (Сл. ПЗБ). Кантамінацыя семантычна блізкіх *прыгаво́рка* і *пры́казка* (гл. *прыгавары́ць* і *прыказáць*).

**Прыгавары́ць** 'назначыць пакаранне; рашыць, вырашыць; угаварыць, прываражыць, прывярнуць' (ТСБМ), *прыговоры́цца* 'падлашчыцца, паддобрыцца ў размовах' (ТС), *прыгаво́рны* 'хвароба, якую прыгаворваюць' (Нар. Гом.). Да *гавары́ць* (гл.). Сюды ж аддзеяслоўныя бяссуфіксныя назоўнікі з працягам і развіццём семантыкі: *прыгаво́р* 'рашэнне суда, пастанова, рашэнне, меркаванне па якому-небудзь пытанню' (ТСБМ, Др.-Падб.), *пры́гавар* 'ухвала (на вясковым сходзе)' (Др.-Падб.), *прíгаво́р* 'прыгавор' (Бяльк.); *прыгаво́р*, звыч. мн. л. *прыгаво́ры* 'словы, якімі суправаджаюць якое-небудзь дзеянне; урокі' (ТСБМ; маг., ЛА, 3), *прыгаво́рны* 'сурочаны' (Байк. і Некр.), *прыгаво́р* 'прымаўка' (брасл., даўг., в.-дзв., красл., лях., Сл. ПЗБ), *прíгывыр* 'тс' (Бяльк.); сюды ж памянш. *прыгаво́рка*, *пры́гово́рка* 'вострыя, забаўныя словы, словазлучэнні, якія ўжываюцца для ажыўлення гаворкі, прымаўка' (Растарг., ТСБМ; гродз., в.-дзв., карэліц., Сл. ПЗБ; ТС).

**Прыгадáць**, *прыгадвáць* 'узнавіць у памяці; прыпомніць' (ТСБМ), *прыгадавáць* 'гаварыць, лічыць' (брасл., Сл. ПЗБ). Сюды ж з далейшым развіццём семантыкі — 'прыдумаць; задумка'

(Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб., Растарг.), ‘адшукаць; знайсці’: *пригадай скорей верёвку, штоб взлезци* (Нас.), таксама *прыга́дпівы* ‘знаходлівы’ (Нас.) і *прыгада́ць* ‘дапамагчы; паспачуваць’: *не плачь — мы твоей беде пригадаем* (Дабрав., Кросна). Да *гада́ць* у значэнні (згодна з ТСБМ — размоўным) ‘меркаваць’ (гл.), укр. *пригада́ти* ‘ўзгадаць’, *пригада́ти* ‘прыдумаць’. Спецыяльна гл. Булахаў, Развіццё, 43.

**Прыгадзі́ць**, *прыгодзі́ць* ‘даць, паспрыяць’ (ТС), *прігадзі́цца* ‘спатрэбіцца; прыдацца’ (Бяльк.), *прыгадзі́ць* (безасаб. *прыгадзі́ла*) ‘нечакана прыйсці’: *коли цебе тут пригодзило?* (Нас.). Працягвае ст.-бел. *пригодити* ‘дапамагчы’, *пригодитися* ‘спатрэбіцца; адбыцца, здарыцца’ (Ст.-бел. лексікон), *пригожатися* ‘здарацца; трапляцца, прыходзіцца’ (Статут 1529), якое, у сваю чаргу, з прасл. **prigoditi* (*sę*) < **goditi* (*sę*) (Бабік, Зб. памяці Слаўскага, 65; ЭССЯ, 6, 188—190); параўн. ст.-рус. *пригодити* ‘дапамагчы’, *пригодитися* ‘спатрэбіцца, быць прыдатным; аказацца, быць; адбыцца, здарыцца’, серб.-харв. *пригодити* (*се*), *пригађати* (*се*) ‘здагадвацца’, балг. дыял. *прига́дам* ‘дагаджаць, рабіць прыемнасць’, *прига́ждам* ‘тс’, чэш. *přihoditi* ‘дадаць, прыбавіць’, славац. *prihodit’* ‘тс’, рус. дыял. *пригоди́ть* ‘даць магчымасць зрабіць, садзейнічаць, спрыяць’, пск., смал. *пригоди́ться*, *пригожа́ться* ‘спатрэбіцца’, ‘удацца, выпасці; выдацца’, укр. *пригоди́ти* ‘дагадзіць’, *пригоди́тися* ‘здарыцца, адбыцца’.

**Прыгалавач**, *пры́головач*, мн. л. *пры́головачі*, *прыгалавашкі*, *приголовашкі* ‘кароткія папярочныя барозны, засаджаныя бульбай’ (пін., калінк., стол., лельч., ЛА, 2), *прыголо́вач* ‘некалькі папярочных баразён ў канцы дзялянкі’ (драг., стол., Выг.), ‘канец агарода, сядзібы’ (ТС), параўн. рус. яросл. *приголова́шник* ‘размешчаная з краю падоўжная паласа зямлі (у якую ўпіраюцца іншыя кароценькія зямельныя палосы, т. зв. шахматы)’. Да *галава*, *галавач* (гл.). Спецыяльна гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 54.

**Прыгалаве́шка** ‘два палены, якія кладуцца на паду ў печ паралельна, а на іх канцамі кладуцца дровы’ (Янк.), мн. л. *прыгало́вічы*, *пры́галавічы* ‘доўгія палены дроў (звычайна два), якія кладуцца спераду ў печ’ (Жд., Нар. сл.), параўн. укр. *при́голова́ч*, *при́голо́вачок*, *при́головок* ‘палена, якое кладзецца ўпоперак печы, каб на яго можна было класці палены ўпоперак’. Да *галава*, *галавешка* (гл.).

**Прыга́лак** ‘невялічкая палянка ў лесе пасля пажару; прагалак’ (Шат.). Да *прага́лак* (гл.). Але нельга цалкам выключыць і ўплыў семантыкі прыназоўніка *пры* са значэннем лакалізацыі — ‘каля чаго-небудзь’. Гл. *гала.*

**Прыгало́ўе** ‘месца на пасцелі, ложку, куды кладуцца галавой; узгалоўе’ (ТСБМ), *прыго́лаўе* ‘галовы, падгаловак, узгалоўе, падгалоўе’ (Нас.), *пры́галавак* ‘спінка ў ложку’, *прыгало́вяц* ‘тс’, *прыгалава́шка* ‘месца каля пярэдняй спінкі ложка’, *прыгало́ўнік* ‘вузгалоўе ў возе’ (Сл. ПЗБ), *приголовчик* ‘хустачка, якую надзяваюць на новапароджанага’ (Серб.), параўн. рус. *приголо́вье* ‘ўзгалоўе ў ложку’, *при́голо́вок* ‘тс’, *при́головок*, *при́головка* ‘падушка’, укр. *приголів’я*, *приголо́в’я* ‘ўзгалоўе’, *при́голо́вач, при́головок*, *приголо́вчик* ‘узгалоўе’. Да *галава* (гл.).

**Прыга́на**, *прыга́нка* ‘недахоп; загана’ (ТСБМ, Дзмітр., Нас., Нас. Доп., Янк. БП). Відаць, сюды ж фальклорнае *прыга́нка* з няясным значэннем (Шн. 1, з паметай “Прынёманне”): “А соро́чки, як прыданки, /скачуць каля лаўки: //Бедна наша голо́венька, /не маем *прыганки*”. Вядомае ўжо ў ст.-бел. *пригана* ‘загана’, параўн.: “Несть въ речахъ твоихъ ни единое *приганы*” (Сл. Скарыны); параўн. таксама аналагічныя фармальна і семантычна укр. *прига́на* ‘ганьба, знеслаўленне, папрок; недахоп, загана’, польск. *przygana* ‘абгавор’, чэш. *příhana* ‘дакор’, славац. *príhana* ‘тс’. Усё гэта дае падставы рэканструяваць прасл. дыял. **prigana*, прэфіксальнае ўтварэнне ад **gana*, якое, у сваю чаргу, ад **ganati*, суадноснага і роднаснага **ganiti* (ЭССЯ, 6, 99—100, з літ-рай), гл. *га́ніць*. Разам з тым нельга цалкам выключыць і магчымасць старога запазычання з заходнеславянскіх моў, у такім выпадку ст.-бел. *пригана* — з чэш. (у мове Скарыны), іншыя формы — з польскай, гл. Банькоўскі, 2, 934, дзе адпаведнае слова адзначана з 1399 г. Параўн., аднак, *зага́на* і *нага́на* (гл.).

**Прыга́нак** ‘парэнчы пры ганку’ (Нас.), *прыґа́нак* ‘веранда’ (барыс., Янк. 2), ‘прыступкі пры ганку’.(Байк. і Некр.). Да *га́нак* (гл.), параўн. польск. *przyganek* ‘бакавы ганак’, укр. *при́ґанець* ‘памяшканне для аўчароў і малочных прадуктаў’ (адносна апошняга гл. ЕСУМ, 4, 569).

**Прыганя́ць**, *прыгна́ць* ‘прывесці, даставіць; прымушаць, падахвочваць’ (ТСБМ), *прыгыня́ць* ‘тс’ (Бяльк.). Узыходзіць да прасл.

**prigъnati/*prigoniti/*prigan'ati*, прэфіксальных ўтварэнняў ад **gъnati/*goniti/*gan'ati*; гл. *ганя́ць, гнаць*. Сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі з развіццём і пашырэннем семантыкі: *прыго́н*, *прыго́нка* 'дастаўка; прымус прыйсці, з'явіцца; згон' (Нас., ТСБМ); *прыго́н* 'пасаг маладой у выглядзе жывога інвентару, статак' (Федар.), *прыгі́н* 'дамашнія жывёлы, якіх бацькі далі як пасаг заручоным' (Сіг.); з архаічнай словаўтваральнай структурай *прыганя́ты* 'слуга памешчыка, які наглядаў за працай сялян у час прыгону; цівун; аканом' (ТСБМ, Нас., Мядзв., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр.); параўн. маляўнічая вобразнае мн. л. перан. *прыгыня́тыя* 'нязжатыя сцяблы збожжа, якія засталіся ззаду' (рас., Шатал.).

**Пры́гарады** мн. л. 'загарадкі' (пух., Сл. ПЗБ). Бяссуфікснае ўтварэнне ад **прыгарадзі́ць*, дыялектнага дэрывацыйнага карэляту *агарадзі́ць*, *абгарадзі́ць*, гл. *агаро́д*; параўн. станаж.-рус. *приграда* 'агароджа; агароджванне, засцярога', *приградъ* 'знешняя агароджа' (Сразн.), рус. дыял. *при́город* 'агароджанае месца ў полі для жывёлы, пастаўнік'. Параўн. таксама ст.-слав. **приградъ** 'памяшканне перад уваходам у келлю'.

**Прыга́рка**, *прыга́ркі* 'падгарэлае месца на чым-небудзь печаным, смажаным, вараным (у печы, духоўцы)' (Мік., Шат., Вешт., Жд., ТСБМ; быx., Сл. ПЗБ; Жыв. НС, ЛА, 4), *прыга́рак*, *прыга́рок*, *прыга́ра* 'тс' (Жыв. сл., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 4), *пры́гаркі*, *прыга́ркі* 'тс' (лун., Шатал.; Растарг.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *прыгарэ́ць* < *гарэ́ць* (гл.); параўн. рус. *прига́рка* 'падгарэлая ежа; падгарэлая скарынка бульбы, хлеба і пад.', пск. *прига́рок* 'падгарэлая ежа; падгарэлыя часцінкі ў ёй', укр. *пригара*, *при́гарок* 'падгарэлыя часткі стравы', палес. *прига́рка* 'прыгарэлая плёнка на малацэ'.

**Прыгару́дацць**, 'добра пастарацца; назапасіць, сабраць, забяспечыцца' (слонім., Арх. Федар.). Да *гаруд, аруд* 'застаронак, засек' (гл.).

**Пры́гаршчы**, *прыго́ршчы* 'абедзве далоні з прыгнутымі пальцамі, складзеныя так, каб імі можна было што-небудзь набіраць, зачэрпваць, трымаць і пад.; колькасць чаго-небудзь, якая ўмяшчаецца ў складзеныя такім чынам далоні' (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Інстр. 1; ушац., капыл., КЭС; Сцяшк., ТСБМ, Сл. ПЗБ), *пры́гарашчы*, *пры́горшчы*, *пры́гаршы* 'тс' (Сл. ПЗБ, ТС),

*пры́гаршч* ‘тс’ (Ян.), ‘далонь; горстка’ (Шпіл., Байк. і Некр.), *пры́гаршчы* ‘горстка’ (Ласт.), параўн. з развіццём семантыкі *прі́горчі* ‘мера сыпучых рэчываў’ (Бес.) і менш яснае, але ўсё ж такі звязанае з асноўным значэннем, *пры́гаршча* ‘сноп бобу’ (петрык., ЛА, 2); сюды ж адз. л. *прыго́рсць* ‘прыгаршчы’ (Гарэц.; Бяльк.). Узыходзіць да прасл. **prigъrstь*/**prigъrstia*, прэфіксальнага ўтварэння ад **gъrstь* (падрабязна гл. ЭССЯ, 7, 212—213); параўн. *го́рстка*, гл. таксама *ґа́рсць*. Сюды ж больш познія назоўнікі з суф. *-н’(а)*: *пры́горшня*, мн. л. *пры́гаршні* ‘складзеныя ў выглядзе лодачкі далоні рук’ (Інстр. 1, Ян., ТС). Параўн. укр. *при́гірщ, при́горщ, при́горщи* ‘прыгаршчы’. Рус. дыял. *при́горщь* ‘прыгаршчы’, *при́го́ршни* ‘тс’, смал. *при́го́рстка* ‘вялікія прыгаршчы чаго-небудзь’, ст.-рус. *пригърща*, *пригръща*, *пригорща* ‘жменя, прыгаршчы’, польск. *przygarść*, *przygarśnie*, *przygarstnia*, *przygarstek*, каш. *přëgårsc*, *přëgarst*, *přëgarscnë*, *přëgarstńica*, чэш. *přehršel, přehrštle*, славац. *priehršť*, *prehrštie*, славен. *praíšče*, серб.-харв. *prȅgršt, prȅgrst*, балг. *пригръ́ща*, *пригаща, пъ́ргъща.* Бязлай (3, 119) першапачатковай формай лічыць **prigъrstьje* або **prigъrstьja*. Гл. Фасмер, 3, 363; БЕР, 5, 706; 6, 78.

**Пры́гатка** ‘гаток з праходам для рыбалоўнай снасці’ (ТС). Прэфіксальнае да *га́тка*, дэмінутыва ад *га́ць* (гл.). Параўн. укр. *прига́та*, *прига́ток* ‘маленькая гаць каля берага; запруда’.

**Пры́гаўка** ‘бальзамін звычайны, Impatiens noli tangere L.’ (Інстр. 2, Кіс.). Да *пры́гаць* (гл.). Матывацыя назвы звязана з асаблівасцямі распаўсюджвання насення гэтай расліны: яно выскоквае з плода ад дотыку; адсюль і іншая назва — *пстрыкаўка* (гл.); параўн. рус. дыял. *прыгу́н* ‘купена, Convallaria Polygonatum L.’ і пад.

**Пры́гаць**, *пры́гнуць* ‘скакаць, скокнуць’ (Бяльк.), *прыга́ць* ‘тс’ (Янк. 2); таксама перан. *пры́гаць* ‘знаходзіцца ў перыядзе цечкі (пра карову)’ (чач., ЛА, 1). Агульная ўсходнебеларуская лакалізацыя зафіксаваных форм паказвае на запазычанне з рус. *пры́гать*. У рускай мове лічыцца ўласным утварэннем ад прасл. кораня **pryg-* < **prūg-*, які з’яўляецца працягам і.-е. **preu̯-*/**prou̯-*/**prŭ-* з фармантам *-g-* (Чарных, 2, 77). Без гэтага фарманта корань (часткова ў назалізаванай форме) рэалізуецца таксама ў назоўніку *пружы́на*, прыметніку *пры́ткі₁* (гл.), дзеяслоўнай

аснове рус. *пряг-* (< **pręg-*, параўн. *напрягать*). Роднасныя неславянскія ўтварэнні знаходзяць перш за ўсё ў балтыйскіх мовах з пачатковым *s-*: літ. *sprùgti*, *(is)sprùkti*, *sprùkstu* 'ўцячы, выслізнуць', лат. *sprùga*, *sprūgt*, *sprùku* 'тс' (Фасмер, 3, 390—391; Чарных, 2, 77; там жа гл. іншыя, больш далёкія паралелі і крытычны агляд папярэдняй літ-ры). Гл. таксама *прыі́жсыць₂*.

**Прыга́ць**, *прíгáць* 'прагна есці' (жытк., Нар. словатв.; ТС). Дыялектны фанематычны варыянт дзеясловаў *пра́гнуць*, *прэ́гці* (гл.).

**Прыгаша́ць** 'прыбіраць, прыгожа адзяваць' (Ласт.). Да незафіксаванага **го́шыць*/**гашы́ць* 'прыводзіць у належны стан; гатаваць, рыхтаваць і пад.', параўн. ст.-рус. *гоши(ти)* 'рыхтавацца' (берасцяная грамата XII ст., Зализняк, Древненовг., 318), *гошити* 'рабіць, рыхтаваць' (наўг., Сразн., помнік XVI ст.), рус. смал., пск., наўг., цвяр., ярасл. *гоши́ть* 'гатаваць, рыхтаваць; збіраць у дарогу; назапашваць', укр. закарп. *гоши́ти*, *гоші́ти* 'падпільноўваць каго-небудзь; што-небудзь вельмі любіць', *гоши́тися*, *гоші́тися* 'гатавацца; узбуджацца'. Філін (Происх., 593) лічыў *гошити* старажытным паўночна-заходнім лексічным дыялектызмам, які быў вядомы і на крайнім паўднёвым захадзе. Звязваюць таксама з *гоноши́ть* 'нагрувашчваць, збіраць', *гоноши́ться* 'рыхтавацца' (так ЕСУМ, 1, 578), што не падаецца пэўным (параўн. у гэтым кантэксце прасл. **gonositi* ў ЭССЯ, 7, 25—26). Этымалогія беспрэфіксальных форм няясная. Ва ўсякім выпадку, не мае рацыі апеляцыя да вельмі сумнеўнага **го́ха* 'харчовыя прыпасы' (ЕСУМ, 1, 578). Параўн. рус. пск., цвяр. *пригоша́ть, пригоши́ть* 'гатаваць, рыхтаваць на запас', пск. *приго́ха* 'страва; харчовыя прыпасы'. На семантыку наўг. *приго́ха* 'прыгожая дзяўчына, жанчына; прыгажуня', як і бел. *прыгашаць* 'прыбіраць, прыгожа адзяваць', паўплывала, безумоўна, семантыка лексем з коранем *прыго́ж-*. Гл. Антропаў, Palaeoslavica, XII, 1, 2004, 141—142.

**Прыгла́баць**. 'прыбраць да рук'(Байк. і Некр.). Прэфіксальнае ўтварэнне да *гла́баць* 'забіраць, рабаваць' (гл.). Гл. таксама ЕСУМ, 1, 518 (пад *глабі́на*).

**Прыго́да** 'нечаканы выпадак; цікавае, незвычайнае або рызыкоўнае здарэнне' (ТСБМ, Шпіл., Нас., Гарб., Мал., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Ян., ТС), 'падстава, прычына' (Мік., Гарэц.); з працягам семантыкі *прыго́д* 'хваравіты стан, перапуд

у выніку нечаканага здарэння, выпадку' (Нар. Гом.) і вытворны прыметнік *прыгóдлівы* 'нешчаслівы, непаспяхóвы' (Шпіл.). Сюды ж дэсемантызаванае *прыгóда*, якое ўжываецца ў значэнні неазначальнага займенніка: — Де ваш аграном? — *Прыгода* его знае, не знаю (Ян.), ст.-бел. *пригода* 'выпадак; нечаканы выпадак, у выніку якога што-небудзь здарылася; абставіны'. Узыходзіць да прасл. **prigoda* < **prigoditi* (гл. *прыгадзíць*), прэфіксальнае да **goditi*. Магчымае развіццё семантыкі можа выглядаць наступным чынам: 'дапамагчы, спатрэбіцца і пад.' → 'дапамагчы пры выпадку' → 'выпадак'. Укр. *пригóда* 'патрэба, карысць; прыгода, здарэнне; няшчасце, няшчасны выпадак', рус. зах.-бранск. *пригóда* 'прыгода', смал. 'бяда, нягода, няшчасце', ст.-рус. *пригода* 'выпадак; непрыемнасць, няшчасце; пярэчанне', польск. *przygoda*, каш. *prëgoda*, чэш. *příhoda* 'здарэнне, выпадак', славац. *prihoda*, в.-луж. *příhoda*, н.-луж. *pśigoda* 'тс', серб.-харв. *прйгода* '(зручны) выпадак', балг. *прѝгòда* 'выпадак; зручнасць'. Таксама сюды ж утварэнні з захаваннем першаснай семантыкі прасл. **prigoditi (sę)*: *прыгóда* 'дапамога; выгада' (Нас., Мал.), *прыгóда* 'патрэба' (мін., Шн. 2; ваўк., Арх. Федар.; Нар. Гом.) у выразе: *быць (стаць) у прыгодзе* 'згадзіцца, спатрэбіцца' (ТСБМ, Нар. Гом.), *стаць у (вялікай) прыгодзе* 'спатрэбіцца пры выпадку, спатрэбіцца ў цяжкім становішчы, пры незвычайным здарэнні' (Янк. БФ), *прыгóдны* 'такі, які падыходзіць да чаго-небудзь, які можа спатрэбіцца, здатны, які прыносіць карысць; прыдатны для выкарыстання' (Байк. і Некр., ТСБМ), *прыгóдлівы* 'статны, прыгожы' (Нар. Гом.). Гл. Копечны, Zákl. zásoba, 290—291; БЕР, 5,706.

**Прыгóжы** 'прыемны, гожы, сімпатычны' (ТСБМ, Шпіл., Нас., Мік., Ласт., Байк. і Некр., Яруш., Растарг.; чэрв., Сл. ПЗБ), *прігóжый* 'тс' (Бяльк.). Сюды ж вытворныя рознасуфіксальныя назоўнікі: *прыгажóсць*, *прыгóжасць* 'уласцівасць прыгожага; што-небудзь прыгожае, чароўнае; хараство; прыгожае (агульнае паняцце); прыгожы знешні выгляд; прыгажуня', толькі мн. л. *прыгажóсці* 'прыгожыя мясціны; тое, што робіць уражанне сваім прыгожым выглядам', у значэнні выклічніка 'выклікае захапленне, адабрэнне і пад.' (Шпіл., Байк. і Некр., Яруш., ТСБМ), *прігажóсьць*, *прыгóжысьць* 'прыгажосць' (Бяльк.). Працягвае ст.-бел. *пригожии* 'прыгодны, прыдатны, адпаведны, належны' (Сл. Скарыны), прэфіксальнае ўтварэнне ад *гóжы* (гл.).

**Прыго́н** перан. ‘грамадскі лад, заснаваны на прыгонным праве; прыгонніцтва; дармавая прымусовая праца сялян на памешчыка ў часы прыгоннага права; паншчына; збор працаўнікоў, якіх прыгналі на паншчыну’ (Мік., Мядзв., Др.-Падб., Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Касп., ТСБМ, ЛА, 3), *прыго́н*, *пріго́н* ‘прыгон, паншчына’ (клім., Бяльк.), *прыго́н*, *прыгуо́н* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *прыго́ншчына* ‘прыгонніцтва’ (Нік. Очерки), *прыго́ннік* ‘прыгонны селянін; працаўнік, якога прыгналі на паншчыну; працаўнік, якога нанялі на пэўны тэрмін працаваць 2—3 дні ў тыдзень’ (Нас., Ласт., Байк. і Некр., Касп.), *прыго́нка*, *прыго́нніца* ‘прыгонная сялянка; працаўніца, якую прыгналі на паншчыну’ (Нас.); параўн. з процілеглымі значэннямі: *прыго́ннік* ‘памешчык, які карыстаўся прыгонным правам, меў прыгонных сялян; рэакцыянер’ (ТСБМ), *прыго́ншчык* ‘той, хто прыганяе або назірае за працай на паншчыне, падганяе да працы’ (Нас., Байк. і Некр.). Ст.-бел. *пригнати*, *пригоняти*, *пригнатися*, *пригонатаи* ‘наглядчык’ (Сл. Скарыны). Да *прыганя́ць* (гл.).

**Пры́горніца** ‘загнетак’ (ПСл). Да *прыгарну́ць* ‘прысыпаць’, гл. *гарну́ць*, *гарта́ць*.

**Прыго́ўтацца** (*прыго́ўтаціса*) ‘супакоіцца’ (пруж., Сл. ПЗБ). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **го́ўтацца*. Няясна. Цікава, што арэал распаўсюджання роднасных форм (верагодна, агульны) — паўднёварускі і ўкраінскі: кур., арл., разан., варонеж. *приголта́ться* ‘прызвычаіцца, асвоіцца; прыцярпецца’, варонеж. ‘налажыцца; прыстасавацца’, укр. *приго́вта́тися* ‘асвоіцца, азнаёміцца’ < *приго́втати* ‘прывучыць; асвоіць, азнаёміць’. Параўн. *аго́ўтацца* (гл.).

**Прыгро́за** ‘пострах’ (Нас., Яруш.). Бяссуфікснае ўтварэнне ад *прыгразі́ць*, што да *гразі́ць* (гл.), параўн. дзеепрым. *прыгражо́ны* ‘запужаны’ (брасл., Сл. ПЗБ).

**Прыгру́ніць** ‘прымусіць, змусіць; падагнаць; прымусіць хутчэй рабіць што-небудзь’ (Шат.). Да *гру́ніць* з той самай семантыкай. Сюды ж прысл. *грунь*, *угру́нь* ‘бягом, вельмі хутка (бегчы)’ (Гарэц.), *грунём* ‘вельмі хутка; бягом; бегчы з усёй моцы’ (барыс., бых., клім., бялын., Бяльк., Нар. сл., Нар. словатв.,), якія працягваюць зыходнае для вытворных прасл. **grǫdnь* ‘асаблівы конскі алюр; рысь’ (ЭССЯ, 7, 148). Семантычнае развіццё можа выглядаць наступным чынам: ‘конскі

алюр' → 'вельмі хуткі, імклівы рух' → 'прымушэнне рабіць хутчэй' і г. д.

**Прыгрэ́бка** 'пограб, склеп; прыбудоўка перад уваходам у пограб, склеп' (ТСБМ, Юрч., Жд.), *прыгрэ́бак* 'тс' (Нар. Гом.), *прыгрэ́бнік* 'пограб, склеп; памяшканне над пограбам; прыбудоўка перад уваходам у пограб, склеп; пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад' (ТСБМ, Байк. і Некр.; брагін., ДАБМ; Жд., Ян.), *прыгрэ́бня* 'насціл над склепам' (Ян.), *прыгрэ́біца* 'пограб; частка пограба (надбудоўка над ім), як бы сенцы' (петрык., Маш.; чырв., З нар. сл.; слуц., Нар. словатв.), *прыгрэ́бачка* 'невялікі склеп' (слонім., Сл. ПЗБ); сюды ж *прыгрэ́бка* 'прызба' (Жд.). Аддзеяслоўныя назоўнікі ад *прыгрэ́бці* 'зграбаючы, сабраць, насыпаць', прэфіксальныя да *грэ́бці/грэ́баць* (гл.) < прасл. **grebati/*grěbati*, таксама **grebti* (ЭССЯ, 7, 108—109, 109—110). Параўн. *прыгрэбці* 'прыгрэбці, закапаць (нябожчыка)' (ТС).

**Прыгу́біць** 'прыклаўшы да вуснаў, крыху адпіць' (ТСБМ). Улічваючы адсутнасць фіксацый у жывой мове, трэба меркаваць, што тут, як, дарэчы, і ва ўкр. *пригу́бити* 'прыклаўшы да вуснаў, крыху адпіць (звычайна гарэлкі, віна); пакаштаваць' — запазычанне з рус. *пригу́би́ть* 'тс'. Магчыма, звязана з *нагбо́м* (піць), гл.

**Прыгубі́ць** 'прывесці да страт' (ТС). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *губі́ць/губля́ць* (якое таксама да прасл. **gubiti*) 'страчваць' з семантыкай 'непаўнаты, слабой меры дзеяння'.

**Прыгу́знік** 'палюбоўнік' (Пятк. 2). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне метафарычнага характару ад *гуз* у значэнні 'зад, задняе месца' (Гарэц.), параўн. *гуз*$_1$; гл. таксама ЕСУМ, 1, 614 (*гуза́*).

**Прыгуме́нне**, *прыгуме́нь* 'месца, плошча каля гумна' (ТСБМ, Янк. 2, Інстр. 2, ЛА, 4), *прыгу́мнік*, *прыгуме́ча* 'тс' (Сержп., Бір. дыс., З нар. сл.), *прыгуме́нок* 'прыгуменне; месца, адгароджанае ад жывёлы, на якім сушаць снапы' (ПСл), *прыгуме́ння, прыгу́нньк* 'агароджанае месца для жывёлы; месца перад гумном' (ДАБМ, Бяльк.), *прыгуме́нне*, *прыго́мнік* 'прыгуменне' (Сл. ПЗБ), *пругумэ́нне, прыгумэ́нік* 'месца (пляцоўка) каля гумна; прыбудоўка да гумна' (Шушк.), *прыуме́льнік*, *прыгуме́нка*, мн. л. *прыгу́мкі* 'прыбудова да гумна' (Сл. ПЗБ). Да *гумно́* (гл.).

6. Зак. 1697.

**Прыд** ‘выраз у ніжняй частцы бочкі ці цэбра, у які ўстаўляюць дно’ (Мат. Маг.), *прыд*, *прыдо́к* ‘край у дне драўлянай пасудзіны’ (Нас.), *прыды́* ‘выразанае заторам шнуравіднае заглыбленне ўнізе драўлянай пасудзіны, куды ўстаўляецца дно’ (Мядзв.); з працягам і развіццём семантыкі *прыд* ‘пруг, край палатна’: *не садзіся на край красён — прыд адціснеш* (Бяльк.). Разам са смал. *прид* ‘ніжняя частка бочкі (разам з дністчам)’ утварае адзіны арэал. Узыходзіць да прасл. **pridъ*, дзе *pri-* — прэфікс, а *d-* — нулявая ступень кораня **dě(ja)ti* < і.-е. **dhe-* ‘ставіць, класці; рабіць, дзейнічаць’ ці **dati* ‘даць’ < і-е. **dō-*, прадстаўленых, напр., у такіх праславянскіх лексемах, як **sǫ-dъ* ‘суд; пасудзіна’, **obъ-do* ‘скарбніца’, **na-da* ‘надзея; настаўка, дадатак; сталь’ і інш. (падрабязна гл. Пятлёва, ОЛА, Исследов., 1994—1996, 207—209 з амаль вычарпальнай папярэдняй літ-рай; без уліку беларускага матэрыялу). У зах.- і паўд.-слав. мовах зафіксаваны фармальна ідэнтычныя лексемы, але з семантыкай, якая істотна адрозніваецца ад папярэдняй: чэш. *příd’* ‘пярэдняя частка; нос (судна)’, каш. *přid* ‘даплата пры куплі’, балг. *прид* ‘прыданае і пад.’, дыял. (Самоков) *прит* ‘дадатак (пры размене)’, серб.-харв. *пр̑ид*, ж. р. *при́да* ‘прыдача (пры абмене); прыбаўка (пры куплі-продажы)’, славен. *prìd*, *prída* ‘карысць’, дыял. *pŕda* ‘адзенне, якое нясуць за нявестай у дзень вяселля’ (<**pridъ* ‘тое, што прыбаўляецца, дадатак, карысць’, гл. Бязлай, 3, 120—121); стараж.-рус. *придъ* ‘прыбытак, карысць’, ц.-слав. **придъ** ‘абмен’ (‘прыдача’). Семантычная калізія вырашалася па-рознаму. Так, Запрудскі (дыс., 86—87) узводзіў, як, дарэчы, і Скок (1, 382), серб.-харв. словы да прасл. **pridъ* з коранем *d-*, а бел. *прыд* прапанаваў суаднесці з *брыды́* ‘канцы клёпак ля дна кадушкі’ (гл.), дзе аглушэнне пачатковага *б* такое ж, як і ў пары *бро́вар* — парыц. *про́вар* (Некр.), што, зразумела, вельмі няпэўна — і не толькі з-за адзінкавасці фіксацыі. Пятлёва, аналізуючы гэтыя лексемы з боку суадноснасці іх з семантыкай дзеясловаў **dě(ja)ti* < і.-е. **dhe-* ‘ставіць, класці; рабіць, дзейнічасць’ і **dati* ‘даць’ < і-е. **dō-*, лічыць, што **pridъ* магчыма звязаць як з першым значэннем ‘штосьці прыстаўленае, дададзенае, прыробленае’ альбо ‘дададзенае, прыбаўленае’ (магчыма, пра днішча ці, дададзім, пра нос (судна), як у чэшскай), так і з другім — у гэтым выпадку гаворка пойдзе пра адзіны **pridъ* з двума значэннямі

‘прыдача, прыбаўка’ і ‘ніжняя частка бочкі з днішчам’ (там жа, 209). Інакш БЕР, 5, 706—707, дзе балг., серб.-харв. і стараж.-рус. лексемы (іншыя славянскія не адзначаны) лічацца аддзеяслоўнымі ўтварэннямі ад прасл. **pridāti*. Паводле Папоўскай-Таборскай (SEK, 4, 128), каш. *přid* ‘даплата; дадатак’ і адпаведныя формы з гэтым значэннем у іншых славянскіх мовах, насуперак Трубачову (Слав. языкозн., V, 182), не звязаны са словам. Спецыяльна пра польск. дыял. *przyd* гл. Шыманскі, JP, 53, 1973, 48—50. Параўн. *прыда́нае* (гл.).

**Пры́дабра** (*прі́дыбра*) ‘закраса; затаўка’ (Бяльк.; клім., ЛА, 4). Відаць, ад *прыдо́брыць* ‘палепшыць’ (гл. *прыдобрыцца*).

**Прыда́нае** ‘пасаг’ (Растарг., Ян., ЛА, 3), *пры́дань*, *пры́дано*, *прыда́нэ*, *пры́данна*, *пры́даная* ‘тс’ (Нар. лекс., Сл. ПЗБ, ТС), *прыда́нне* (*prydánje*) ‘зямельны надзел у пасаг маладой за межамі ўласнай вёскі’ (Маш.), *прыда́нства* ‘тс’ (Бяльк., Мат. Маг.). Сюды ж назвы вясельных чыноў: *прыда́нка*, рэдка м. р. *прыда́нак*, часцей мн. л. *прыда́нкі, прыда́ныя*, *прыда́ные*, *прыда́ні* ‘шаферкі нявесты, якія дапамагаюць ёй шыць пасаг, а на вяселлі збіраюць на яе карысць падарункі; удзельніцы вяселля — замужнія жанчыны сярэдніх гадоў, маладзіцы ці дзяўчаты, звычайна госці з боку маладой, якія дапамагаюць пры падрыхтоўцы і перавозцы прыданага, пасагу; удзельнікі вяселля, якія прыйшлі без запрашэння з падарункамі для маладых’ (Нас., Кос., Федар., Касп., Хрэст. дыял.; чырв., віл., З нар. сл.; в.-дзв., Шатал.; Сіг., Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс., Цых.), *прыда́ны*, *прыда́нкі* ‘госці вясельныя’ (Нар. Гом.), *прыда́нэ* ‘маладыя з бацькамі маладога ў гасцях у бацькоў маладой’ (беласт., Сл. ПЗБ). Аддзеяслоўныя ўтварэнні ад *прыда́ць* < прасл. **pridati*, прэфікс. да **dati* (гл. *дар*). Параўн. рус. *прида́ное*, укр. *при́да́не* ‘пасаг’, а таксама адно са значэнняў балг. *пр̀идав* ‘пасаг (не жывёльны)’, якое ад *придавам* (БЕР, 5, 707).

**Прыдаро́жыцца** ‘прытаміцца, стаміцца ў дарозе, за дарогу; здарожыцца’ (ТСБМ). Магчыма, эліпсіс фраземы *прыбіцца ў дарозе* > *прыдаро́жыцца* з пераходам назоўнікавага кораня ў дзеяслоўны пад уплывам зыходнай формы *прыбі́цца*; гл. *прыбі́ць*. Нельга выключыць ўплыў дзеясл. *здаро́жыцца* з аналагічнай семантыкай. Гл. *дарога*.

**Прыда́рыцца** ‘здарыцца; пашчасціць’ (Нас., Байк. і Некр., Ласт.). Безумоўна, звязана з коранем *-дар-* (< прасл. **darъ*,

**dariti*), якi, нягледзячы на фармальныя цяжкасцi, вылучаецца i ў *здáрыцца* (гл.; апошняе разам з укр. *здáритися* ЕСУМ, 2, 254 лічыць запазыч. з польск.). Семантычнае развiццё ад 'дар, падарунак i пад.' да 'здарыцца, адбыцца' становiцца больш зразумелым у сувязi з наяўнасцю ў *прыдáрыцца* значэння 'пашчасцiць'.

**Пры́дасвет** 'свiтанне, досвiтак; перыяд часу да ўзыходу сонца' (Мядзв.). Лексiкалiзацыя словазлучэння *пéрад свéтам* 'на досвiтку' з гутарковай трансфармацыяй прыназоўнiка ў сцягнутую форму *пры́д*..., якая разам з мiжкансанантным iнтэрфiксам *-а-* стала выконваць функцыю прэфiкса.

**Прыдáтак**, *прыдáток*, мн. л. *прыдáткi* 'дадатак; зямельная надбаўка да асноўнай паласы' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт., Байк. i Некр., Др.-Падб., Касп.; докш., Янк. Мат.; тураў., Выг. дыс.; Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс., ЛА, 2). Сюды ж *прыдáтны* 'прыгодны, здатны, здольны' (ТСБМ, ТС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *прыдáць* < прасл. **pridati*, прэфiксальнае да **dati* (гл. *дар*).

**Прыдáць** 'зрабiць': *сам собе смерць прыдаў* (ТС). Улiчваючы кантэкст, трэба лiчыць культурным (кнiжным) запазычаннем з рус. *предать смерти* з дыялектнай трансфармацыяй прэфiкса.

**Прыдáча** 'тое, што дададзена, прыдадзена; прыбаўленне да цаны' (ТСБМ, Мiк., Др.-Падб., Нас., ТС), *пры́дача* 'прыдача, удача' (Байк. i Некр.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *прыдáць*. Сюды ж вытворныя *прыдáчлiвы* 'шчаслiвы, удачлiвы; якi мае асаблiвы нораў' (Нас.), *прыдáчны* 'ўдалы, удачны; выгадны' (Нас., Байк. i Некр., Янк. 1). Таксама да гэтага гнязда другасны вытворны назоўнiк *прыдáка* 'ўдачнiк; удалы, зухаваты; неўтаймоўны, непадобны характарам на родных' (Нас., Байк. i Некр.) з далейшым зрухам семантыкi — 'выпадак; нечаканасць'(Нас.). У апошнiм выклiкае цiкавасць не зусiм яснае (адваротнае) чаргаванне *-ч-/-к-*, якое, магчыма, выклiкана пераасэнсаваннем формы слова пры субстантывацыi. Верагодна, усх.-слав., параўн. рус. *придáча*, *придáчливый* 'здольны, умелы; спрытны', укр. *придáча*.

**Прыдбáць** 'набыць, займець; нажыць; павялiчыць маёмасць' (Гарэц., Ласт., Байк. i Некр.; парыц., Некр., Др.-Падб., Iнстр. 3; навазыбк., Пал.; Бяльк., ТСБМ). Прэфiксальнае ўтварэнне ад *дбаць* з асноўным знач. 'клапацiцца' (гл.) з далейшым развiццём

семантыкі. Параўн. рус. дыял. *придбáть* ‘назапасіць, нажыць, набыць’, ‘завесці дзяцей’, укр. *придбáти* ‘набыць’.

**Прыдвéчны** ‘стары’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Відаць, дыялектная трансфармацыя *спрадвéчны* (гл.). Параўн. рус. дан. *предвéчный* ‘надта стары’.

**Прыдзéлаць** ‘прырабіць, прыбудаваць’ (Бяльк.), *прыдзéлаць, прыдзя́лаць* ‘прымацаваць, прымацоўваць’ (рагач., Сл. ПЗБ). Усходнебеларускі арэал фіксацыі гэтых дзеясловаў, а таксама шырокая распаўсюджанасць карэляту *прырабíць* (гл.) сведчаць, хутчэй, на карысць запазычання з рус. *придéлать*. Падаецца, аднак, што гэта другасная, больш позняя з’ява, таму што наяўнасць добра вядомых ў жывой народнай мове аддзеяслоўных субстантываў з коранем *-дзел-* немагчыма трактаваць інакш, як на карысць спрадвечнасці ўласнай дзеяслоўнай пары *дзéлаць/ прыдзéлаць* (< прасл. **dělati*, гл. ЭССЯ, 4, 231—232), якая была паступова выціснута семантычна ідэнтычнай *рабíць/ прырабíць*, параўн. *прыдзéл* ‘прыбудова да хаты’ (Бяльк., Мат. Маг.), *прыдзéлак* ‘тс’ (Мат. Маг.) ‘унутраная перагародка ў хаце, канявая сцяна’, ‘сенцы (частка хаты, якая не абаграваецца)’ (калінк., чавус., ЛА, 4), *прыдзéлок* ‘жылое памяшканне, прыбудаванае да хаты’ (Шушк.), ‘прыбудова (да хаты, хлява)’ (Ян.), *прыдзéлак* ‘скрынка ў куфры’ (баран., Сл. ПЗБ). Параўн. ст.-рус. *придѣлъ* ‘частка праваслаўнага храма з самастойным прастолам’, рус. дыял. *придéл* ‘асобнае памяшканне ў доме’, ‘пярэдні пакой у хаце, святліца’, *придéлок* ‘жылая прыбудова да хаты’, ‘прыбудова да двара, хлява’, укр. палес. *придє́л, придє́лок* ‘прыбудова да асноўнай будовы’.

**Прыдзірáць**, *прыдрáць* ‘ачысціць ад дзёрну і дадаць да асноўнага ўчастка палоску зямлі’ (нараўл., жыт., Выг.; ТС), *прыдзéрці* ‘прыараць цаліны’ (ТС). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *дзéрці/драць* (гл.) са звужэннем семантыкі, што ўзыходзіць да прасл. **derti/*dьrati*. Сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі, якія працягваюць семантыку дзеясловаў: *пры́дзір* ‘кусок зямлі, прыараны да старога пляца; поле, выраблёнае на сенажаці’ (Бяльк.; лях., ЛА, 2), *прыдзíрак* ‘маленькі кусочак поплава’ (ст.-дар., Жыв. НС), *прыдзíрок, прыдзю́р, прыдзёр* ‘дадатак прыаранай цаліны’, *прыдзёра* ‘ўпершыню апрацаваны ўчастак зямлі, дададзены да асноўнага’ (Выг., ТС), *прыдíрок* ‘кусок поля, узнятай цаліны,

што прылягае да вялікага масіву поля' (Сл. Брэс.), *прыдзёр* 'кавалачак поля, які прыворваюць, "прыхопліваюць", дадаюць да свайго поля ці агарода' (Сіг.), а таксама словы з іншай, але блізкай семантыкай: *прыдзіра́ць, прыдра́ць* 'пазначыць лініі паза ў бервяне "драчкай" (Шат.), *прыдзіра́ць* 'выбіраць драчку', *прыдра́ць* 'намеціць месца падгонкі бярвенняў драчкай' (ТС). Параўн. семантычна аналагічныя ўтварэнні з прэфікс. *вы-*: *выдзёр, вы́дзірак*$_1$, *вы́дранка* (гл.).

**Прыдзі́ў** 'суpокі' (віл., Сл. ПЗБ). Верагодна, прыставачна-бяссуфікснае ўтварэнне ад незафіксаванага **прыдзіві́ць/*прыдзіві́цца* 'сурочыць' < *дзіві́ць/-цца* (гл.). Фармальна сюды ж таксама пін. *прыды́ў* у выразе *на прыды́ў* 'на выгляд': *у саду вышенька на прыды́ў чырвоная* (Доўн.-Зап., Пін.), аднак, яно, відаць, з польск. *na przedziw* 'на дзіва'.

**Пры́дзіць** 'мачыцца (выпускаць мачу)' (Нас.). Фанематычны варыянт *пру́дзіць* (гл.).

**Прыдме́та** 'прыкмета': *буркаўкі ідуць па вадзе — апяць дошч пойдзіць — прыдмета такая* (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Верагодна, кантамінацыя слоў *прыкме́та* і *прадме́т* (гл.) з-за страты імі, асабліва апошнім, у жывой гаворцы ўласнай семантыкі, што магло адбыцца ў сувязі з іншамоўнасцю слова, гл. *прадме́т*. Параўн. аналагічныя рус. дыял. *придме́та* 'тс', *придме́т* 'тс'.

**Прыдо́ба** 'спрыяльныя прыродныя ўмовы; выгода, раздолле' (Бяльк.; ст.-дар., бярэз., Янк. 1; Сл. ПЗБ, ПСл, ЛА, 5), *прыдо́бства* 'зручнасць, выгада' (Ян.), *прыдо́бны* 'ўрадлівы' (калінк., Сл. ПЗБ). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *до́ба* з семантыкай 'уласная прырода, уласцівасці (пра чалавека); асяроддзе' (гл.), што да прасл. **doba* '(зручны) час, перыяд часу, тэрмін, момант; узрост'. У SP (3, 285—286) прапануецца звязваць прыведзеныя вышэй значэнні з **doba*, якое ўзыходзіць да і.-е. назоўніка з асновай на *-r-* (*-r-/-n-*) — **dhabhō(r)* > **dabō(r)* > Р. скл. адз. л. **dabons* > **doby*; параўн. асабліва літ. *dabar̃* 'цяпер'. З другога боку, існавала аманімічнае першаму **doba*, але з асновай на *-ā*, роднаснае літ. *dabà* 'прырода, натура, характар, звычай' і лат. *daba* 'спосаб, уласцівасць, звычай, характар'. Прыняўшы гэтае меркаванне і маючы цяпер ў падмурку поўны слоўнікавы матэрыял і асабліва семантыку ўтварэнняў з прэфіксам *пры-* (сюды ж укр. *придо́ба* 'добрыя ўмовы жыцця; зручнасць; зручнае для чаго-небудзь месца'),

можна ўпэўнена рэканструяваць у прасл. **doba* сінанімічныя дыялектныя значэнні ‘прырода, (добрыя, спрыяльныя) прыродныя ўмовы; прырода, уласцівасці (чалавека)’, параўн. тут яшчэ крыху аддаленыя серб.-харв. *прѝдобница* ‘цяжарная’, в.-луж. *doba* ‘запас, наяўнасць’. Гл. таксама ЕСУМ, 2, 96—97; Анікін, Этимология, 214—215.

**Прыдóбрыцца** ‘выклікаць чыю-небудзь прыхільнасць да сябе, увайсці ў ласку да каго-небудзь, робячы паслугі, падарункі і пад.; паддобрыцца’ (ТСБМ), *прыдабры́цца* ‘прыкінуцца добрым’ (ашм., Стан.). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *добр-*, гл. *добры.*

**Прыдóлле** ‘добрая доля, долечка’ (ваўк., Федар.). Лексікалізацыя словазлучэння *пры дóле* ‘маючы (добрую) долю’.

**Прыдóражня** (*прыдóрожня*) ‘прыгуменне’ (лун., Нар. сл.). Суадносіцца з *дóражнік* ‘двор для жывёлы’ (Шат.); *даржні́к* ‘агароджанае месца, куды летам заганяюць статак’ (Варл.; ашм., Стан.), што магло б даць падставы рэканструяваць прасл. **dьržьnikъ* ‘месца, дзе (часова) утрымліваюць статак’ з нерэгулярным, але і не ўнікальным пераходам *-ь-* у спалучэнні з плаўным у галосны непярэдняга раду, параўн. шырока распаўсюджанае рус. дыял. *доржáть* ‘трымаць, мець у руках і пад.’ (СРНГ, 8, 130). Аднак больш верагодна, што аснова слова з’яўляецца мадыфікаванай пад уплывам *дарога* літуанізмам *daržĩnė* ‘адрына, гумно’, параўн. *даржэ́нь* ‘двор’, ад літ. *daržas*, лат. *dārzs*, латг. *dāržes* ‘месца, дзе адпачывае свойская жывёла’ (Блесэ, SB, 12; Лучыц-Федарэц, Лекс. Палесся, 174).

**Прыдóхнуць,** *прыдóхнуцца* ‘прытухнуць’ (Ян.). Кантамінацыя дзеясловаў *прытóхнуць/прытýхнуць* (гл.) і *дóхнуць* (гл.).

**Прыдры́гацца** ‘стаміцца, прытаптацца’; іран. ‘прыйсці’ (Юрч.). Экспрэсіўнае ўтварэнне на базе дзеяслова *дры́гаць* (гл.).

**Прыдры́паць** экспр. ‘прыдыбаць, прыйсці з цяжкасцю’ (ТС). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *дры́паць* разм. ‘ісці, дробна і часта ступаючы’ (ТСБМ; у ЭСБМ адсутнічае), якое, безумоўна, узыходзіць да прасл. **dripati* (ЭССЯ, 5, 115; тут падаецца адзначанае слоўнікам Байк. і Некр. *дры́паць* ‘брудзіць падол’), параўн. адно са знач. чэш. *drpač’* ‘дробненька хадзіць’, а таксама

укр. *придрі́патися* ‘прыйсці ў слату’. Гл. яшчэ ЕСУМ, 2, 128 (пад *дри́пи*).

**Прыду́біць** ‘прывезці ці прынесці надзвычай цяжкі груз’ (Янк. 1), ‘прывалачы’, *прыдубі́цца* ‘прывалачыся’ (ТС). Мясцовае ўтварэнне ад *ду́біць* ‘цягнуць’ (ТС), якое толькі фармальна можна ўзвесці да прасл. **dǫbiti*, аднак цяжкасці ўзнікаюць з семантычнага боку. Няясна, магчыма, звязана з **ды́біць*, *ды́біцца* (гл.)?

**Прыдзю́жыць** ‘моцна пайсці (пра дождж)’ (рэч., Нар. сл.). Відаць, экспрэсіўнае ўтварэнне з коранем *дзюж-*, у якім спалучаецца семантыка прысл. *ду́жа* ‘вельмі’ і прым. *ду́жы* ‘моцны’ (гл.).

**Пры́дур**, *пры́дурь* ‘прыдуркаватасць; вар’яцтва’ (Бяльк.). Арэал сведчыць, хутчэй, на карысць запазычання з рус. разм. *при́дурь* ‘тс’.

**Прыду́рак** экспр. ‘прыбудова; каморка’ (брасл., Сл. ПЗБ). Суфіксальна аформленае запазычанне з літ. *priedurà* ‘тс’, у якім корань звязаны з *дзве́ры* (гл.), на што таксама паказвае лакалізацыя слова. Стылістычная памета адназначна паказвае на другасную семантычную сувязь з разм. *прыду́рак* ‘дурань’.

**Прыдусі́ць** ‘прыціснуць (пра хваробу)’ (воран., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *przydusić* ‘тс’, прэфіксальнага ўтварэння ад *dusić* ‘душыць; ціснуць’, якое ўзыходзіць да прасл. **dušiti*. Адносна палемікі вакол зах.-слав. *-s’-* на месцы прасл. *-š’-* (архаізм ці наватвор?) гл. ЭССЯ, 5, 165, а таксама ў Брукнера, 104; Слаўскага, 1, 181. Параўн. рус. прыбалт. *дуси́ть* ‘душыць’, якое таксама, відаць, з польскай (Анікін, Этимология, 279; тут і меркаванне аб літоўскай крыніцы).

**Прыду́ха** ‘стан вады (нястача ў ёй кісларода) пад лёдам, калі гіне рыба; замор’ (Янк. 3; рагач., Сл. ПЗБ; Крыв., ТС), ‘незамерзлае месца на рацэ’ (Бяльк.), ‘незамерзлае месца на рацэ, куды збіраецца рыба’ (Ян.). Бяссуфіксны назоўнік ад *прыдушы́ць* з “адваротным” чаргаваннем у фіналі асновы, прэфіксальнае да *душы́ць* (гл.). Параўн. рус. дыял. *приду́ха* ‘нястача кіслароду ў вадаёме пад лёдам’, ‘адтуліна ў лёдзе, дзе збіраецца рыба ў пошуках прытоку паветра’, укр. *приду́ха* ‘недахоп кіслароду (у тым ліку і ў вадзе)’, палес. *приду́ха* ‘палонка; вада, што ў час адлігі з’яўляецца на рэчцы’, польск. *przyducha* ‘недахоп паветра пад лёдам’ (калі гэта не запазычанне з усх.-слав.).

**Прыдушка́ць** ‘захутаць усяго цалкам’ (Ян.). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *душа́* (гл.) з матывацыяй ‘схаваць душу (г. зн. чалавека; тут немаўля)’.

**Прыду́шны** (*прыду́шні*) ‘прытухлы’ (калінк., Сл. ПЗБ). Верагодна, лексікалізацыя словаспалучэння *пры ду́ху* ‘з пахам’ або ўтварэнне па архаічнай мадэлі з прыстаўкай *пры-*, што паказвае на непаўнату якасці, ад *ду́шны* ‘затхлы’, параўн. Німчук, Давньорус., 120.

**Прыды́баць** ‘прыйсці з цяжкасцю (звычайна пра старога, кульгавага і пад. чалавека)’ (Ласт., ТСБМ, ТС), *прыдэ́бацъ* ‘ледзь прыйсці’, *прыды́баті* ‘спаткаць’ (Сл. ПЗБ), таксама вытворнае м. р. *прыдыба́йло* ‘чалавек, які прычыкільгаў або прыйшоў употайкі, хаваючыся’ (ваўк., Федар.). Прэфіксальнае ўтварэнне, што да *ды́баць* (гл.). Параўн. рус. смал. *приды́бать* ‘прыйсці, дабрацца куды-небудзь з цяжкасцю’, укр. *приди́бати* ‘прыплесціся, прыйсці; сустрэць каго-небудзь’. Гл. таксама ЕСУМ, 2, 64; Анікін, Этимология, 296—297.

**Прыды́гнуць** ‘прысесці з паклонам (аб дзяўчынцы)’ (Нас.), ‘прысесці’ (Байк. і Некр.). Да *ды́гаць* (гл. *ды́гаць*) < прасл. **dygati* (ЭССЯ, 5, 198—199; аб бел. слове — “калі апошняе не з польск.”).

**Прыдылі́ць** ‘ледзь-ледзь прысыпаць; ледзь засыпаць тонкім слоем’ (Мядзв.). Прэфіксальнае да *дылі́ць/дыле́ць* ‘ледзь сыпацца, церушыць (пра снег)’ (Варл.), параўн. *падылі́ць* ‘пакрапаць (пра дождж), пацерушыць (пра снег)’ (Касп., Шат., Варл.). Падрабязней гл. Антропаў, Супр. чыт. III, 5. Гл. таксама *дыле́ць* ‘імжэць’, *дыл.*

**Прые́мны** ‘які прыносіць задавальненне, радасць; прывабны’ (ТСБМ), *прыёмны* ‘ветлівы; удзячны’ (Ян.), *прые́мны*, ‘той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі’ (гродз., ЛА, 3), *прыямне́йшы* ‘больш прыемны’ (дзятл., Сл. ПЗБ), *прыёмны* ‘ветлівы; гасцінны’ (Сл. ПЗБ, ТС); таксама цікавыя *прінёмчасты*, *прынёмцыстый* ‘тс’ (віц., гарад., ЛА, 3) з другасным узнаўленнем гістарычнага суф. *-н-*, які асэнсоўваецца як пачатак займеннікавага кораня. Узыходзіць да прасл. **prijьmьnъjь*, прэфіксальнага ўтварэння ад **jьmьnъjь* з рэалізацыяй у заходніх і ўсходніх славян (ЭССЯ, 8, 230; параўн. Слаўскі, 1, 561 і SEK, 1, 346). Інакш ЕСУМ (2, 296), дзе ўсе вытворныя разам з зыходнымі

формамі адносяцца да прасл **imati*. Польск. *przyjetny* 'прыемны', чэш. *příjemný*, славац. *príjemný*, рус. дыял. *приимный* 'гасцінны, той, хто з ахвотай, ласкава, сардэчна прымае', укр. *приємний* 'прыемны', *прийóмний* 'гасцінны'. Паводле Векслера (Гіст., 210), форма *прые́мны* запазычана з польск. *przyjetny* 'тс', а лексема *прыёмны* — з рус. *приёмный* (там жа, 190); інакш Станкевіч (Зб. тв., 2, 156), які разглядае іх у агульным радзе з *узае́мны*, *яе́чня*, *Трае́цкі*, што проціпастаўляюцца рус. *взаимный*, *яичница*, *Трóицкий*. Гл. таксама пра бел. *непрые́мны* Унбегаўн, RÉS, 1929, 1—2, 19.

**Прыём** 'прыстанішча, прыстанак' (Ян.), таксама *прыймó* 'прыём' (Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб.). Сюды ж вытворнае *прыёмыш* 'прыёмны сын або прыёмная дачка' (ТСБМ) і яго дэрывацыйны варыянт *пры́мыш* 'прыёмыш; прымак' (Нас.). Бяссуфікснае ад *прыймáць/прымáць* (гл.).

**Прыжáляць** 'крыху падгарэць на гарачай печы, ляжанцы (пра адзенне, тканіну)' (дзярж., Нар. сл.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *жáлець* 'тлець' (гл.; таксама *жýляць*, *жýраць*), для якога, відаць, можна прапанаваць прасл. **žalěti*, параўн. таксама каш. *žaleć* 'тлець' (на апошняе, як і на ст.-польск. *žal* 'працэс гарэння', звярнуў увагу яшчэ Ільінскі; гл. Бярнштэйн, Чередования, 12). Такім чынам, ёсць падставы рэканструяваць пару **žalěti*/**žalь*, адпаведную **žariti*/**žarъ*. Абедзве пары суадносяцца з і.-е. сінанімічнымі каранямі *$g^{u}$*her-*/*$g^{u}$*hel*; параўн. яшчэ і.-е. **g(e)u-lo-* 'жар; тлеючае вуголле', добра адлюстраванае ў германскіх мовах (Покарны, 1, 399, 495; Супрун, Зб. Геаргіеву, 268—272). Параўн. таксама балг. дыял. *прижулям* '(пра сонца) прыпячы, напячы', якое, згодна з БЕР, 5, 710, ад *жуля* 'пячы, шчымець', што, магчыма, звязана з зыходнай формай.

**Прыжанýць** 'прыгнаць' (Ян.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **жанýць*/**жэнýць*/**жынýць*, форма якога звязана з прасл. **ženo̧* (1 ас. адз. л. цяп. час) ад **gъnati* (гл. ЭССЯ, 7, 196—197). Падаецца, аднак, што з улікам ст.-бел. *приженути* 'прыгнаць; спешна прыехаць', а таксама рус. наўг. *прижáнуть* 'наблізіць усутыч', *приженýть* 'падсунуць да нечага' з вельмі блізкай семантыкай, з'яўляецца магчымасць для рэканструкцыі інфінітыўнага карэляту **ženo̧ti*.

**Пры́жар** ‘пах гарэлага, прыжаранага; чад’ (стаўб., Жыв. сл.; гродз., Жыв. НС). Бяссуфіксная ўтварэнне ад *прыжа́рыць*, гл. *жарыць*, *жар*.

**Прыжа́хаць** (*прыжа́хыць*, *пріжа́хыць*) ‘хутка прыбегчы’ (Бяльк.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *жа́хыць* ‘хутка бегаць’ (Бяльк.). Параўн. з блізкай семантыкай укр. дыял. *жахну́ти* ‘кінуцца’, *же́кнути* ‘імкліва кінуцца на каго-небудзь’ (Жэлях.). Разам з *жа́хнуць* ‘гучна ўдарыць, бахнуць; з сілай кінуць, паваліць’, рус. *жа́хнуть* ‘ударыць, выцяць’, укр. *жа́хнути* ‘тс’ з’яўляюцца, відаць, экспрэсіўнымі ўтварэннямі (так і ЕСУМ, 2, 189, але без уліку беларускіх адпаведнікаў). Гл. *жах*.

**Прыжда́ць** ‘дажыць да таго часу, пакуль здзейсніцца якое-небудзь жаданне, ажыццявіцца жаданае; дачакацца’ (ТСБМ, Бір. дыс, Вяр.), *прыжда́ты*, *пріжда́цца* ‘тс’ (Бяльк.; кам., Жыв. НС). Прэфіксальнае ўтварэнне да слаба зафіксаванага *ждаць* (гл.) < прасл.*žьdati*.

**Пры́жкі** ‘які здольны скакаць’ (ТС). Да *пры́гаць* (гл.); сюды ж вытворнае ад яго *пры́жыць* ‘спружыніць’ (там жа), хаця адносіны паміж імі могуць быць і адваротнымі (што, праўда, не падаецца абавязковым).

**Пры́жма**, мн. л. *пры́жмы* ‘паплёт (у страсе паверх саломы)’ (слаўг., чэрык., ЛА, 4). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад слаба зафіксаванага (вынік выціскання групай з коранем *ціс(н)-*) *жаць*, *жму* ‘ціснуць’ (гл.) < прасл. **žęti*, **žьmǫ*. Параўн. рус. разан., калуж., арханг. *прижи́м* ‘тонкая жэрдка, якой прыціскаюць, замацоўваюць саламяную страху’.

**Прыжмо́** ‘каласкі жыта, падсмажаныя на агні’ (Нар. Гом.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *пры́жыць$_1$* ‘пражыць, смажыць’ (гл.). Гл. таксама *пражмо́*.

**Прыжу́рыць** ‘змяніць колер ад агню, але не прыгарэць’ (бярэз., Жд. 3), *прыжаўрэ́ць* ‘зачырванець, запунсавець’ (Ласт.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *жу́раць/журэ́ць* (гл.), якое працягвае прасл. **žur-* ‘тлець’.

**Прыжы́ліць,** *прыжы́ліваць* ‘прыгнятаць, уціскаць; настойваць зрабіць што-небудзь звыш моцы’ (Нас.). Да *жы́ліць* ‘прымушаць; гвалтоўна патрабаваць, выцягваць’, зваротнае *жы́ліцца* (гл.), якія працягваюць прасл. **žiliti* (*sę*) ‘напружваць жылы’ → ‘натужвацца’ < **žila*, гл. *жы́ла*.

**Пры́жыць**, *пры́жыці* ‘прэгчы, пражыць; прэгчы (гарох)’ (пруж., шчуч., лях., ганц., Сл. ПЗБ; карэліц., Жыв. НС; зэльв., стаўб., лях., клец., капыл., ЛА, 4), ‘падсмажваць, сушыць’ (Мал.), *пры́жаны* ‘пражаны’ (круп., Сл. ПЗБ). Да *пра́жыць* (гл.) з нерэгулярнай зменай націскной галоснай. Спецыяльна гл. Куркіна, Этимология—1975, 31.

**Прыжэ́кнуць**, *прыжэ́кчы* ‘сказаць’ (астрав., Сл. ПЗБ). Суфіксальна аформленыя запазычанні з польск. *przyrzekać* ‘абяцаць’, да *rzekać* ‘гаварыць’ < прасл. **rekti*, гл. *рэкнуць*.

**Прыжэ́ніна** ‘верашчака’ (шуміл., Сл. ПЗБ). Суф. да *пры́жыць* (гл.).

**Прыз**, *прыс* ‘праз, скрозь’ (Яруш.; беш., стол., ЛА, 2). Да *праз* (гл.); адносна змены націскной фанемы параўн. *пры́жыць*.

**Прызагра́дак** (*прызагрудак*), *прызагру́док*, *прыза́гараднік* ‘агароджаная частка двара для жывёлы’ (Інстр. 2; жыт., ДАБМ), *пры́згородок* ‘тс’ (петрык., лельч., З нар. сл.). Лексікалізацыя словазлучэння *прыз* (дыял. варыянт *праз*) і *агаро́да* з дыялектнымі варыянтамі кораня, або *пры* і *заг(а)рада(к)*; да фанетыкі параўн. сучаснае народнае *Нава́градак* (< ст.-бел. *Новогородок*), *Навагру́дак*.

**Прызаўны́ць** ‘засмуціцца’ (Бяльк.), *прізаўны́ць* ‘засумаваць’ (Юрч. СНС). Прэфіксальнае ўтварэнне ад зафіксаванага там жа *ўныва́ць* ‘падаць духам’. Стварае адзіны мікраарэал са смал. *призауны́ть* ‘зрабіцца маркотным, засумаваць, прыціхнуць’.

**Пры́зба**, *пры́зьба*, *пры́сьба*, *пры́зва*, *пры́зыва*, *пры́зва*, *пре́зва*, *пріі́зба*, *пры́зьба* ‘невысокі, звычайна земляны насып уздоўж сцяны хаты (часта абабіты дошкамі), зроблены для ўцяплення памяшкання’ (ТСБМ, П.С., Бес., Гарэц., Дразд., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., Касп., Шат., Растарг., Янк. 2, Сцяшк., Шушк., Шатал., Ян., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 4), *пры́збіна* ‘прыстаронак’ (бяроз., Нар. сл.). Узыходзіць да прасл. **pristъba* < **pri-jьstъba*, якое, відаць, даволі рана пачало змешвацца з **prisъpa* < **pri-sъpa* ‘тое, што прысыпана’ (Карскі, 2—3, 92), параўн. ст.-рус. *присъпа*, *приспа* ‘насып, вал’ (Сразн.); далей па існуючай мадэлі — *пры́спа* ‘тое, што прысыпана звыш меры; аддача з верхам пазычанай меры мукі’ (Нас.). Аддаленым вынікам гэтай кантамінацыі трэба лічыць фактычную дээтымалагізацыю лексемы ў формах з *-зв-* у частцы гаворак. Па той самай мадэлі, але з каранёвой часткай,

якая звязана з *зямля́* (<**zemja*), утворана *пры́зьма* 'прызба' (шчуч., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. дыял. *при́стьба* 'земляны насып вакол падмурка хаты, прызба', *при́зба, при́зьба, пры́зба* 'невысокі земляны насып вакол хаты', 'частка хаты, адасобленая сенцамі, пакойчык', укр. *при́зба, при́зьба, при́спа* 'невысокі, звычайна земляны насып уздоўж сцяны хаты', польск. *przyzba* 'тс', *przyspa* 'тс' і 'пясчаная каса ў рацэ'. Паводле Банькоўскага (2, 956), у літаратурную мову форму *przyzba* ўвёў Міцкевіч. М. Младэнаў (Балк. Ез., XIV, 2, 1970, 29) лічыць балг. *при́сба* 'пакрытая тэраса перад домам' запазычаннем з рум. *prispă* 'тс'. Гл. таксама БЕР, 5, 733; ЕСУМ, 4, 577.

**Прызбіро́к** 'невялікі кошык для ягад' (дзятл., Сл. ПЗБ). Суфіксальнае ўтварэнне ад разм. *прызбіра́ць* < *збіра́ць* < прасл. **sъbirati*, гл. *браць*. Не выключана ўсходнеславянскае паходжанне прэфіксальных дзеясловаў, параўн. рус. дыял. *присбира́ть* 'назбіраць (ягад, грыбоў і пад.)', укр. *призбира́ти* 'паступова назбіраць; назапасіць'.

**Прызвадзі́ць** (*прізвади́ть*) 'вырабляць' (Дабр.). З рус. *производить* 'тс'. Паводле Карскага (1, 267), вынік змяшэння прыставак *про-* (гл. *пра-*) і *пры-* (гл. *пры-*).

***Пры́звіска** (*прю́звыско*) 'мянушка' (Сіг.). Да *про́звіска* (гл.). Параўн. укр. *пр́ізвисько* 'мянушка; прозвішча'.

**Прызво́ліцца** 'прызнацца' (астрав., Сл. ПЗБ). Магчыма, звязана са ст.-бел. *призволити* 'дазволіць', укр. *призво́лити* 'выявіць ласку, міласць; даць дазвол, згоду на што-небудзь', што можа сведчыць на карысць уласнага развіцця на ўсх.-слав. моўнай глебе.

**Прызе́лліць** 'напаіць зеллем, зачараваць' (Ян.), *прызы́лі́ты* 'прываражыць, прычараваць' (Клім., Сл. Брэс.), сюды ж *прызі́л* 'спосаб варажбы' (Клім.). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *зе́лле* (гл.).

**Прызе́місты** 'нізкі на выгляд; прысадзісты', *прызёмісты* 'тс' (Нас.), *прізёмістый* 'тс' (Бяльк.), *прызё́мкуваты* 'прыземісты; невысокі ростам, але шырокі ў плячах' (Клім.). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *зямля́* (гл.), параўн. рус. *призе́мистый* 'тс', укр. *призе́мний* 'нізкі, які расце каля самай зямлі', *призе́мок* 'маленькага росту, каржакаваты чалавек'.

**Прызíмак**, *прызíмок*, мн. л. *пры́земкі* ‘пачатак зімы, калі выпадае першы снег’ (нясвіж., івац., капыл., ЛА, 2), *прызíмкі* ‘вясеннія дні з замаразкамі’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Прыставачна-суфіксальныя ўтварэнні ад *зімá* (гл.).

**Прызірáцца** ‘ўглядацца, прыглядацца’ (маст., гарад., Сл. ПЗБ, ТС, Скарбы), сюды ж вытворныя назоўнікі, відаць, іранічныя назвы, пра што сведчыць і канец слова, аформлены “польскім суфіксам” *-дло*: *прызірáдло*, *прызырáдло* ‘люстра’ (баран., іван., Сл. Брэс.). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад звязанага ў сучаснай мове кораня *-з(і/о)р-*, параўн. рус. старое *зреть*, укр. *зрíти* < прасл. **zьrěti*. З улікам ст.-слав. **призирати** ‘глядзець’ трэба канстатаваць, прынамсі, усходнеславянскае паходжанне дзеяслова; параўн. рус. арл. *призирáться* ‘прыглядацца’, укр. *призирáтися* ‘прыглядацца’. Сюды ж *прызóрысты* ‘падслепаваты, блізарукі’ (ТС).

**Прызлíшна** (*прызлíшно*) ‘вельмі свабодна, прасторна’ (Нар. Гом.). Верагодна, своеасаблівая найвышэйшая ступень ад прысл. *залíшне* ‘звыш меры, занадта’ з рэдукцыяй пераднаціскнога *-а-*.

**Пры́зма** ‘вяроўка, скручаная з лазы, для замацавання дэталяў сахі’ (Скарбы). Гл. *прызьмó*.

**Пры́знак** ‘прымета’ (ТС, Скарбы). Відаць, як і чэш. *příznak*, балг. *прѝзнак* ‘тс’ запазычана з рус. *прúзнак*, што, у сваю чаргу, з ц.-слав. *признакъ* ‘паметка, заўвага’, параўн. БЕР, 5, 711. Не выключана, аднак, і самастойнае развіццё ад *прызначыць* ‘пазначыць’, (гл.), асабліва ў значэнні ‘метка, адзнака’, параўн. *знáчыць* і *знаковáць* ‘меціць’ (ТС).

**Прызнáць**, *прызнавáць* ‘пазнаць; пагадзіцца, устанавіць’ (ТСБМ; шальч., даўг., лях., Сл. ПЗБ; ТС). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *знáць* ‘ведаць’ (гл.). Паводле Трубачова (Этногенез, 188), слав. **priznati* сінтэзуе значэнні ‘быць родным’ і ‘знаць’, што адлюстроўвае архаічнасць мыслення, параўн. рус. дыял. *признáть* ‘атрымаць звесткі, даведацца’, ‘вызначыць, распазнаць’, укр. *признáти* ‘прызнаць, пагадзіцца, успрыняць, устанавіць’, ‘прызнаць сваім’, балг. *признáвам* ‘пагаджацца, прымаць да ведама’, ‘паважаць’.

**Прызнáчыць**, *прызначáць* ‘загадзя намеціць’, ‘назначыць; устанавіць’, ‘намеціць, зрабіць метку’ (Нас., Байк. і Некр., ТСБМ, ПСл), ‘адпусціць (сродкі)’ (ашм., Сл. ПЗБ). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *знак* (гл.).

**Прызніяць** ‘прыгарэць’ (Касп.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **зніяць* ‘гарэць’ з коранем *зн(і/о)-* < прасл. **zn’-*, які рэалізуецца ў назоўніку **znoj* і дзеяслове **zněti* (<**znoįti*) ‘гарэць’ (гл. *зніч*, *зноіць*), параўн. чэш. *zněť*, *zňat* ‘тлець; паліць’, рус. *знеть*, *знеять* ‘тлець, распаляцца’. Відаць, у сувязі з наяўнасцю *пры-зніяць* можна прапанаваць магчымы карэлят для **zněti*, а менавіта **zniti*/**znijati*. Аб сувязях з прасл. **gnětiti* ‘распальваць, запальваць, паліць’ гл. Анікін, Этимология, 431—433.

**Прызнусціць**, *прізнусціць*, *прізнушчаць* ‘прымусіць падманам, угаворамі; падмануць; прывабіць’ (жлоб., слаўг., Нар. словатв.), *прызнушчаць* ‘прымушаць’ (Ян.). Да *знусціць*/*знушчаць*, гл. зваротнае *знушчацца*, якое не мае агульнапрынятай этымалогіі. Спроба звязаць укр. *з(г)нущатися* з прасл. **gnusъ*, якую прапануе ЕСУМ (2, 272), таксама не пераконвае.

**Прызорніца** ‘сядзелка’ (Ласт.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад незафіксаванага **прызорваць* ‘даглядаць’, гл. *зорыць*. Відаць, сюды ж *прызор* ‘кампанія’ (ашм., Сл. ПЗБ: “Як вып’я, то шукая *прызору*”) — метафарычны перанос зневажальнага характару размоўнага значэння *прызор* ‘нагляд’.

**Прызыкаць** экспр.‘прыбегчы (толькі пра кароў)’ (шуміл., Сл. ПЗБ). Да *зыкаць, зыкацца* ‘бегаць з ровам; гаворыцца пра кароў, бегаючых ў час летняй спякоты ад укусаў насякомых, якіх называюць *зыкаўкамі*’ (Нас.).

**Прызырыць** ‘прыпячы’ (ТС). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад зафіксаванага там жа *зыр* ‘гарачыня, спёка, жар’ (гл.). Верагодна, сюды ж трэба аднесці *прызырыць* ‘прымусіць; прыструніць’ (Шат., Хрэст. дыял., ТС) з далейшым развіццём семантыкі ‘пячы’ → ‘біць’. Гл. таксама Антропаў, Супр. чыт. III, 14.

**Прызыў** ‘дзеянне і людзі, адначасова прызваныя ў армію’ (ТСБМ), *прызыў* ‘тс’ (Растарг.), *прызаў* ‘прызыў (у войска)’ (Ян.), толькі мн. л. *прызвы* ‘служба ў арміі’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Запазычана з рус. *призыв*, дыял. *призов* ‘тс’.

**Прызьмо**, *прызмо* (*pryzmó*), *прызьмо*, *прызма* ‘прывязка, якою прымацоўваецца біч да цапільна; вяроўка, скручаная з лазы, для замацавання дэталяў сахі; лазовы калач, (вяровачная) прывязка, якою прывязваюць ярмо да рагача (аглабель); прут, які засоўваюць у ярмо’ (Байк. і Некр.; парыц., Некр.; Маш.; смаляв., бялын., Янк. 1; ДАБМ, ПСл, Скарбы; бераст., ЛА, 2). Аддзея-

слоўны назоўнік ад *прывязáць* са стратай пачатковага складу кораня: *прывязáць* > *пры(вя)зьмó* > *прызьмó*.

**Прызя́бнуць** ‘прыхапіць лядком’: *быстры речки призябнули, ручаёчки ни цекуць* (Дзмітр.). Да *зя́бнуць* ‘мёрзнуць’ (гл.) < прасл. **zęb(nǫ)ti* з пашырэннем семантыкі.

**Прызялéнны** (*прызелéнны*) ‘няспелы’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *зéлень*, гл. *зялёны* з відавочным семантычным зрухам ‘зялёны’ → ‘няспелы’.

**Пры́зямлянка** (*пры́землянка*) ‘жаваранак’ (ПСл; верагодна, маецца на ўвазе жаваранак чубаты, Galerida cristata L.). Лексікалізацыя словаспалучэння *пры зямлí*, якое паказвае на звычайны біятоп гэтай птушкі. Параўн. *зямля́нка* і пад. для назваў берагавой ластаўкі, сітаўкі жоўтай і жаваранка чубатага (падрабязна гл. Антропаў, Назв. птиц, 259).

**Прыістóбашнік** ‘прыбудова да істопкі’ (Ян.), *прыстóбашнік*, *прыстóпчынік* ‘частка стопкі перад уваходам’ (рагач., пух., Сл. ПЗБ), *прыстóпнік* ‘перад клеці; кладоўка’ (Ян.; люб., ЛА, 4). Ад *істóпка/стóпка* ‘памяшканне для захавання агародніны і іншых прадуктаў’ (гл.) з узнаўленнем этымалагічнага *-b-*.

**Прыймó** — прапанаваны Станкевічам заменнік для *прыём* (гл.), які лічыцца русізмам, па тыпу *пераймó* (гл.) і пад. (Станкевіч, Зб. тв., 1, 59).

**Прыймя́** ‘прыназоўнік’ (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр.). Позняе прыставачна-бяссуфікснае ўтварэнне ад *імя́* (гл.). Параўн. такога ж кшталту лінгвістычны тэрмін *займя́* ‘займеннік’. Не выключаны ўплыў польск. *przyimek* ‘займеннік’, які, паводле Банькоўскага (2, 935), з’яўляецца “скарочаным наватворам” **przyimionek*.

**Прыйсцí**, *прыйсцíць*, *прысцí*, *прыцí* ‘прыйсці’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *приити*, *прити* (Сл. Скарыны). Узыходзіць да прасл. **priiti* (Копечны, Zákl. zásoba, 291) < **pri-jьti*, гл. *ісцí*. Параўн. укр. *прийтú* ‘тс’, рус. *прийтú*, *придтú*, польск. *przyjść*, каш. *přinc*, чэш. *přijít*, славац. *prísť*, славен. *príti*, серб.-харв. *priići*, в.-луж. *přińć*, н.-луж. *pśiś*, ст.-слав. **приити**, стараж.-рус. *приити* (Сразн.).

**Прыкаву́лак** (*прыкаву́лык*) ‘завулак’ (Бяльк.). Дэрывацыйны карэлят да *закаву́лак*, параўн. рус. *закоу́лок*, усходнеславянскае прэфіксальнае ўтварэнне ад **коулок* < **улок* ‘вуліца’ (КЭСРЯ, 114), параўн. тут яшчэ ст.-рус. *улъка*, *улка* (Сразн.). Наяўнасць

беларускага слова пацвярджае рэальнасць даволі праблематычнага раней *коулок* і робіць прапанаваную ўжо даўно версію прымальнай. Гл. таксама Шанскі (2, 6, 40). Параўн. *вýлка* (гл.).

**Прыкагáлак** 'яўрэйская суполка, якая ў сувязі з малалікасцю не мае свайго старшыні і таму прыпісаная да бліжэйшага вялікага таварыства, асабліва гарадскога' (Нас.). Да *кагáл* (гл.).

**Прыкадóліцца** 'прыладзіцца' (Касп.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **кадóліць/кадóліцца*, параўн. рус. арханг. *кодóлить* 'прывязваць каня на пашы', якія ад *кадóл/кадóла* 'вяроўка (рознага прызначэння)' (гл.), што, магчыма, сведчыць пра запазычанне.

**Прыкакóшыць** 'прыбіць, забіць' (карэліц., Нар. сл.; ваўк., Сл. ПЗБ). Да незафіксаванага **какóшыць*, якое ўзыходзіць да прасл. **kokošiti* (< **kokošь* 'курыца; певень') з шэрагам значэнняў, сярод якіх, аднак, семантыка, звязаная з 'біць', адзначаецца толькі ў рускіх дыялектах, параўн. уладз. *прикокóшить* 'пабіць, набіць', калуж. 'забіць на мяса, зарэзаць'. Верагодна, сюды ж *прыкукóшыцца* 'прыладзіцца' (шальч., Сл. ПЗБ) з дысімілятыўнай варыятыўнасцю першага пераднаціскнога кораня і таксама да дзеясл. **какóшыць* < **kokošiti*, але з семантыкай (далейшым яе пашырэннем), якая адлюстравалася ў балг. *кокóша се* 'ўсаджвацца, як квактуха', славац. *kokošiť sa* 'надзьмуцца, натапырыцца', што можа разглядацца як беларуска-славацка-балгарская ізалекса.

**Прыкалáчваць** (*прыкалáчываць*) 'запраўляць мукой для густаты' (полац., Нар. сл.), *прыколоціць* 'тс' (ТС), *пры́калатка* 'мачанка' (Жд., Сл. ПЗБ), *прыколóта* 'суп з бульбы, падкалочаны мукой' (кам., Жыв. НС; ТС). Да *калаціць* (гл.). З гэтай семантыкай, відаць, уласна беларускае ўтварэнне.

**Пры́камецъ** (*прíкамецъ*) 'урокі' (гом., ГЧ). Няясна, гл. *пры́хамаць*. Магчыма, звязанае з *прыкмéціць* (гл.).

**Прыкáн** 'паркан, плот, агароджа' (клім., Бяльк.). Да *паркáн* (гл.).

**Прыканды́чыць** 'цягаць за валасы' (Нас.); параўн. таксама *прыкундóсіць* 'пабіць' (Нас., Рамз.). Да зафіксаванага там жа *канды́чыць* з той самай семантыкай. Апошняе з'яўляецца фанематычным карэлятам (які, магчыма, разумеўся як "антыэкспрэсіўная" форма) да незафіксаванага **кунды́чыць*/**кундóчыць*, чар-

гаваннем у фіналі асновы звязаным з *кундóсіць* ‘цягаць за валасы’ (гл.) < **кýнды* < *кýдла/-ы* ‘валасы’ (гл.) < прасл. **kǫdьla/-o* (ЭССЯ, 12, 53—54). Безумоўна, не самым абгрунтаваным месцам з’яўляецца тут сувязь рэканструяванага **кýнды* з *кýдлы*, таму ЕСУМ (3, 142) прапануе іншую, даволі арыгінальную і несупярэчлівую ў семантычным плане версію — бачыць ва ўкр. *кундóсити*, бел. *кундóсіць* “зваротнае запазычанне” з якой-небудзь балтыйскай мовы, што можа быць зведзена да балт. **kundas* ‘кудзеля; валасы’ (параўн. літ. *kuõdas* ‘чуб’) як адлюстравання прасл. **kǫda* (*-у*) ‘кудзеля’, параўн. *кòнди*, *кòнда* ‘кудзеля, ачоскі льну, канапель’. Пачатковае значэнне дзеяслова было, такім чынам, ‘трапаць, церці (лён, кудзелю)’.

**Прыкарáскацца** ‘прывязацца, прычапіцца, прыстаць’ (Байк. і Некр., Растарг., Янк. 1, Ян.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *карáскацца* ‘карабкацца’ (гл.) з развіццём (зменай) семантыкі; прараўн. аналагічнае зах.-бранск. *прикарáскаться* ‘прычапіцца да некага дакучліва’. Бяспрэфіксны дзеяслоў надзейнай этымалогіі не мае. Спроба яшчэ Брукнера (219) звязаць з *карáсь*, паўтораная таксама ЭСБМ (4, 264), выглядае зараз этымалагічным кур’ёзам. Падаецца, што лагічней бачыць тут рэгрэсіўную дысіміляцыю выбухной групы -[*пк*]- у *карáбкацца* > -[*ск*]- у *карáскацца*, абумоўленай, магчыма, экспрэсіўным ужываннем.

**Пры́караткі** ‘караткаваты’ (ТСБМ; брасл., Сл. ПЗБ), сюды ж *пры́каратка* ‘невялікая колькасць’ (Інстр. 3), *пры́каратка* ‘недастакова, мала; караткавата’(Нас., Шат.), *пры́карацаь* ‘караткавата’ (Жд.). Вытворныя ад кораня *карóт-/кóрат-* з семантыкай непаўнаты, якая захоўваецца ў прэфіксе. Цвяткоў (Запіскі, 1, 51) бачыць тут паралель да польск. *przykrótki* ‘караткаваты’. Гл. *карóткі*.

**Прыкаркнýць**, *прыкоркнýты*, *прыкархнýць*, *прыкурхнýць* ‘прыладзіцца да сну, заснуць на кароткі час, прыхіліўшыся да чаго-небудзь; задрамаць’ (Нас., Ласт., Сержп., Сцяшк., Клім., ТС, Сл. Брэс., Скарбы), *прыкахнýць* ‘задрамаць’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **каркнýць* з далейшай рэканструкцыяй семантыкі ‘храпянуць’ → ‘задрамаць’, якое ў сваю чаргу працягвае прасл. **kъrknǫti* ад гукаперайманьнага **kъrkati*, што, як слушна заўважае Трубачоў (ЭССЯ, 13, 236), “цалкам падыходзіла як экспрэсіўнае абазначэнне

дзеянняў ‘ударыць’, а таксама ‘раптоўна задрамаць, храпянуць”. Варбат (Балто-слав. этнояз. отнош., 7) у формах з *-у-* ў аснове бачыць балтыйскі ўплыў ва ўмовах моўных кантактаў.

***Прыкарэ́нкаваты** (*прыкорэ́нковатый*) ‘нізкі, каранасты’ (стол., Нар. лекс.). Утварэнне ад *ко́рань* (гл.) з развіццём семантыкі. Параўн. рус. дыял. *прикорёнок* ‘тоўсты і мала唐рослы чалавек’, укр. *при́корень* ‘частка ствала каля кораня, пень; невялікі калок, убіты ў зямлю’.

**Прыкарэ́ць** ‘прысохнуць у выглядзе коркі; прыліпнуць і засохнуць’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бяльк.), перан. экспр. ‘прычапіцца’ (астрав., Сл. ПЗБ). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *карэ́ць* (гл.), параўн. рус. смал. *прикоре́ть* ‘прысохнуць; пакрыцца коркай’, укр. чарніг. *прикорíти* ‘засохнуць у выглядзе коркі’.

***Прыкасці́ць**, *прыкосці́ць* ‘зрабіць дрэнным, слабым, нікчэмным’ (ТС). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *касці́ць* ‘смяціць (на падлогу); псаваць’ (гл.), сюды ж *касці́цца* ‘мучыцца, перабівацца’ з далейшым пашырэннем значэння. Беспрэфіксальныя дзеясловы ўзыходзяць да прасл. **kastiti* (*sę*).

**Прыке́міць** ‘прыкмеціць’ (Байк. і Некр.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *ке́міць* ‘разумець, разбірацца, цяміць’ (гл.), якое не мае пэўнай этымалогіі.

**Прыкіда́цца** ‘прыставаць (пра хваробу); прыключацца, прыставаць (няшчасцю); наскокваць, накідвацца; прыкідвацца, прытварацца’ (Нас., Мядзв., Гарэц., Байк. і Некр., Касп., Нар. Гом.), *прыкі́даваццa* ‘прыставаць (пра хваробу)’ (віл., Сл. ПЗБ), *прыкі́дывыцца* ‘прыкідвацца, прытварацца’ (Бяльк.), *прыкі́нуцца* ‘прыставаць (няшчасцю, хваробе)’ (Бяльк.), таксама зак. тр. *прыкі́нуцца* ‘прыняць пэўны выгляд з мэтай падману; прытварыцца; раптоўна наступіць, прыстаць (пра хваробу, штосьці нядобрае)’; перан. ‘прывязацца, прыхіліцца’ (ТСБМ, ТС). Сюды ж амонімы з іншай семантыкай: *прыкіда́цца* ‘трапляцца, пападацца; прызнаваць сваяцкія сувязі, роднасць; спрыяць, ставіцца з прыхільнасцю; прыставаць’ (Ян., ТС), *прікіда́цца* ‘пападацца’ (Бяльк.). Да *кіда́ць/-ца* (гл.). Таксама сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі, якія працягваюць семантыку ‘прыстаць (пра хваробу)’: *пры́кідзь*, *пры́кісь* ‘запаленне; дзіцячая хвароба, вогнік’ (чэрв., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ), *пры́кісь* ‘ускладненне хваробы’ (ашм., Стан.), *прыкі́дка*,

*прыкітка* 'запаленне' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), і прыметнікі з далейшым семантычным развіццём: *прыкідны́* 'ветлівы, ласкавы, прыхільны' (навагр., Нар. сл.; ст.-дар., Сл. ПЗБ; ТС), *прыкідлівы*, *прыкідчывы* 'той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі' (слаўг., лельч., нараўл., ЛА, 3), *прыкідліву* 'прыветлівы' (ТС).

**Прыкла́д** 'драўляны або каменны помнік на магіле; абчасаная гранямі калода' (Зянк., Байк. і Некр., Сцяшк.), *пры́кла́д*, *пры́кла́т* 'тс' (ганц., лях., Сл. ПЗБ), *пры́клады* 'надмагільная пліта' (Мат. Маг.), параўн. словазлучэнне з рэдкім адсубстантыўным дзеясловам: *прыкла́двацъ чалавека* 'ўстанаўліваць надмагільны помнік' (лях., Сл. ПЗБ), таксама *прыкла́дзіны* 'абкладанне магілы драўляным зрубам; чатырохвугольная дошка, якую кладуць на магілу; памінальны абед (таксама і з прычыны абкладання магілы *прыкла́дзінамі*)' (Дзмітр., Крачк., Нас.), 'старадаўні звычай — абед як памяць па нябожчыку' (Янк. 2), *прыкла́дзіны*, *прыкла́дзены* 'ўпарадкаванне (магілкі)' (глыб., віл., Сл. ПЗБ). Сюды ж з іншай (сумежнай) семантыкай: *прыкла́д*, *прыкла́дзіна*, *пры́кла́днік* 'казёл на вільчыку' (ТС), *прыкла́дзіна* 'стрэшка над стажком' (ветк., ЛА, 2), *прыкла́дзіна* 'мянушка' (Жд.), толькі мн. л. *прыкла́дзіны* '(зямельныя) прырэзкі' (віл., Сл. ПЗБ), мн. л. *пры́кладні* 'раскіданыя ў беспарадку, зваленыя ў кучу рэчы' (ветк., Растарг.); *прыкла́жа* 'прыбаўленне, прыбаўка да паклажы' (Нас.). Утварэнне ад *прыклада́ць*, гл. *класці*.

**Пры́клад**, рэдка *прыкла́д* 'канкрэтная з'ява, факт, які прыводзіцца для тлумачэння; узор для пераймання' (Шпіл., Нас., Гарэц., ТСБМ). Паводле Кюнэ (Poln., 89), запазычана з польск. *przykład*, паводле Банькоўскага (2, 937), першапачаткова тэрмін цяслярства (пра прадмет для ўзору, які прыкладаўся да матэрыялу); ст.-бел. *приклад* 'узор, прыклад', якое працягвае прасл. **prikladъ* (Копечны, Zákl. zásoba, 291), параўн. і ст.-слав. **прикладъ** 'сімвал, эмблема, знак', або запазычана з чэш. *příklad* 'тс'. Вытворныя кшталту *напры́клад* (гл.), *прыкла́дам* 'напрыклад' (Нас., Байк. і Некр., Яруш.) узніклі пазней на ўласнай глебе як еўрапейскія калькі, параўн. франц. *par exemple*, ням. *zum Beispiel*, рус. *например* 'тс'. Гл. наступнае слова, а таксама Фасмер, 3, 364.

**Пры́кла́дны** 'ўзорны, прыстойны, старанны, дбайны; ветлівы' (Нас., ТСБМ, Марц.; смарг., Сл. ПЗБ), 'звязны, складны'

(ТСБМ). Да *прыкладáць*, якое ў сваю чаргу ўзыходзіць да прасл. **prikladati* (гл. *прыклáсці*); балг. дыял. *прѝкладен* 'ласкавы, прыязны, ветлівы, згаворлівы', серб.-харв. *прѝкладан* 'суадносны', укр. *прикладнúй* 'зручны, які падыходзіць, прыдатны', дыял. *прúкладний* 'дакладны', рус. *прикладнóй* 'дзелавіты, практычны, кемлівы'. Сюды ж *пры́кладка* 'выдумка' (Нас.), з далейшым семантычным развіццём *пры́кладна* 'складна, звязна' (Жд.), *пріклáдна* 'тс' (Бяльк., Юрч. СНС), *прыклáдна* 'складна, красамоўна' (Яруш., Шат.), *прыклóдна* 'старанна, як след; дбайна' (Марц.) з фанематычнай зменай націскнога.

**Прыклáсці**, *прыкладáць, прыклáдваць* 'пакласці, прыціснуць; дадаць, далучыць; прыдумаць, дадаць ад сябе' (ТСБМ; ваўк., Сл. ПЗБ; Ян., ТС), з іншай семантыкай — *прыклáдваць* 'распальваць, раскладаць агонь', *прыклáдаваць цяпло* 'раскладаць агонь' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *прикладывати* 'даваць частку чаго-небудзь' (Ст.-бел. лексікон). Да *клáсці* (гл.).

**Прыклéнчыць** 'стаць на калені, укленчыць' (Байк. і Некр., ТСБМ), *прыкля́нчувацца* 'тс' (смарг., Сл. ПЗБ). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *клéнчыць* з той самай семантыкай (гл.), якое з польск. *klęczyć* (Цвяткоў, Запіскі, 1, 65) < прасл. **klękati* (ЭССЯ, 10, 32—33). Параўн. *прыкля́каць* (гл.).

**Прыклéт**, *прыклёт, прыклéць, прыклéцце, прыклéтак, прыклéтнік* 'прыбудова (звычайна да клеці, свірна); месца каля клеці, перад клеццю (іншы раз з насцілам і страхой); ганак (іншы раз з навесам) перад клеццю' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Касп., Інстр. 2; чашн., ДАБМ; Юрч., Хрэст. дыял.; рэч., светлаг., б.-каш., чач., Мат. Гом.; мядз., в.-дзв., лун., Шатал.; Мат. Маг., Ян.; паст., віл., в.-дзв., рагач., Сл. ПЗБ), *пераклéць, пяраклéць* 'камора каля ганка клеці, звычайна пад адной з клеццю страхой' (полац., Шн. 2; Гарэц.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *клець* (гл.).

**Прыклёп**, *прыклёпка, пры́клеп, пры́кляп* 'падстава, прычына, зачэпка; удзел у якой-небудзь справе толькі для бачнасці' (ваўк., Арх. Федар.; дзярж., Нар. сл.; сакол., Стан.), *для (дзеля) прыклёпу* 'для бачнасці, для прыліку' (слонім., Нар. словатв.; Нар. Гом.). Утварэнні ад *кляпáць* 'паклёпнічаць' (гл.; канстатуецца яшчэ праславянская даўніна гэтага значэння) < прасл. **klepati* гукапераймальнага характару (ЭССЯ, 10, 7—9) з далейшым развіццём семантыкі, часткова абумоўленым значэннем непаўнаты

дзеяння, якая ўтрымліваецца ў прэфіксе. Параўн. таксама Варбат, SlW, 155. Станкевіч (Зб. тв., 2, 182) лічыць слова адпаведнікам польск. *pretekst*, рус. *повод*.

**Прыклі́ка** 'прэтэнзія, прычына да незадаволенасці; прымета, від; напасць; праклён' (Нас.), *пры́клі́ка* 'прычына, падстава' (Кос., Растарг.); сюды ж *прыклю́к* 'прычына, прычэпка' (пін., Нар. лекс.) з дыялектным чаргаваннем націскнога галоснага і *пры́кляўка* 'зачэпка, падстава' (жлоб., Мат. Гом.) з суфіксальным фармантам на месцы ўсечанай часткі кораня. Да *клі́каць* 'голасна зваць' (гл.), параўн. *прыкляка́ць* 'заўважаць, звяртаць увагу' (Мат. Гом.) < прасл.**klikati* гукапераймальнага характару (ЭССЯ, 10, 41) з далейшым семантычным развіццём. Усходнеславянскае арэальнае ўтварэнне, параўн. рус. смал., зах.-бранск. *при́клика, пры́клика* 'прычына, падстава, нагода', бранск. 'абгавор, паклёп', смал. *при́клик* 'нагода, падстава'.

**Прыключы́цца** 'здарыцца' (Ян., ТС), 'стаць, зрабіцца' (светлаг., SOr, 39, 356), *пріключы́цца* 'тс' (Бяльк.), *прыключы́цца* 'прыстаць (пра хваробу)' (в.-дзв., мядз., Сл. ПЗБ); сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі з развіццём і пашырэннем семантыкі: *пры́ключка* 'прыгода': *ліха пры́ключкі шукае* (Ян.), *прыклю́чка* 'падстава для папрокаў' (шальч., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *приключай* 'выпадак' (Ст.-бел. лексікон), *приключение* 'выпадковасць' (Сл. Скарыны), укр. *приключи́тися* 'здарыцца', *при́ключка* 'прыгода; падстава, нагода, прычына', рус. *приключи́ться*, ст.-рус. *приключитися* 'адбыцца, здарыцца', *приключаи* 'выпадак', *по приключаю* 'выпадкова', *приключение*, *приклучение* 'выпадковасць' (Сразн.), славен. *prikljúčiti se* 'далучацца; адбывацца', балг. старое *приключа се* 'здараецца', ст.-слав. **приключити сѧ** 'адбыцца, здарыцца', **по приключаю** 'выпадкова'. Узыходзіць да прасл. **prikl'učiti* (*sę*) < **kl'učiti* (*sę*) з шэрагам значэнняў, рэалізаваных у славянскіх мовах (ЭССЯ, 10, 50), у тым ліку 'далучацца, злучацца', параўн. *ключ*$_4$ (гл.). Гл. таксама Фасмер, 3, 364; ЕСУМ, 2, 468; БЕР, 5, 714, 715.

**Прыкляка́ць** 'кленчыць' (Ласт.), *прыклякну́ты* 'прысесці ад удару, перапуду; прысесці на кукішкі' (ЛА, 2), *прыклякнуць* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *приклякати*, *приклякнути* 'тс'. Апошняе, паводле Карскага (Труды, 311), "усвоено из польского"; параўн., аднак, *кляк* 'загнутая галіна ці корань' (ТС) < прасл. **klęk*, што не выключае самастойнага развіцця, параўн. *кля́каць*, *кля́кнуць* (гл.).

**Прыкмéнь** ‘марыва’ (ТС). Суфіксальнае ўтварэнне ад *прыкмеціць* (гл.) з незвычайным семантычным развіццём.

**Прыкмéціць** ‘убачыць, звярнуць увагу; заўважыць; запомніць; намеціць’ (ТСБМ, Яруш., ТС), таксама з семантычным зрухам *прикміэтилося* ‘здалося, падалося’ (Бес.). Сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі: *прыкмéта* ‘адметная рыса, па якой можна пазнаць, вызначыць; у забабонных уяўленнях — рыса, з’ява, што прадвяшчае што-небудзь’ (ТСБМ, Янк. 2), *прыкамéта* ‘прыкмета’ (Мат. Гом.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *кмéціць* ‘заўважаць, разумець, цяміць’ (гл.), якое ў сваю чаргу працягвае прасл. **kъmětiti* < *kъ-* + дзеяслоў **mětiti* (ЭССЯ, 13, 198; толькі з укр. адпаведнікамі).

**Прыкмéць** ‘набыць’ (Мат. Гом.). Верагодна, кантамінацыя дзеясловаў *прыкмéціць* і *(зай)мéць/прыймáць* (гл.).

**Прыкóзелкі** (*прыкóзэлкі*) ‘злучаныя парамі накрыж кароткія жэрдкі, якімі прыціскаюць салому ці кастрыцу на вільчыку’ (іван., пін., стол., Нар. сл.). Да *кóзелкі*, памянш. ад *казёл*$_3$ ‘умацаванне саламянай страхі’ (гл.) < прасл. **kozьlъ* са значэннем ‘прыстасаванне (драўлянае) паводле падабенства да (рагоў) жывёлы’ (ЭССЯ, 12, 32—33).

**Прыкóл** ‘паля, кол, убітыя ў зямлю (для прычалу, для прывязвання жывёлы і пад.)’ (ТСБМ, ТС), *прыкáл* ‘тс’ (Ян.). Няясна. У якасці дэрывацыйнай крыніцы прапануецца *прыкалóць*, гл. *калоць* (ССБМ, 281), што наўрад ці адпавядае семантычнаму развіццю. Магчыма, да *кол* (гл.) ці ад *калаціць* (гл.). Параўн. ст.-рус. *приколъкъ* ‘калы, убітыя ў дно для ўмацавання рыбалоўных сетак, закол, забой’ (Сразн.), рус. дыял. *прикóл* ‘калок, убіты ў дно ракі для ўтрымання сеткі ў неабходным становішчы падчас рыбнай лоўлі’; ‘рыбалоўны закол’, укр. *прúкол* ‘невялікі калок, убіты ў зямлю’, *прúкілок* ‘калок’.

**Прыкóмкаць** экспр. ‘пазабіваць’ (брасл., Сл. ПЗБ). Да *кóмкаць* ‘камячыць’, якое ад *кóм* (гл.) з экспрэсіўным пераносам значэння ‘збіць у камяк’. Параўн. рус. смал. *прикóмкать* ‘завалодаць чужым, прысвоіць’.

**Прыкóнец** (*прыкóнэц*) ‘сплеценая з конскага воласу вяровачка, якая прывязваецца да арапніка (пры ўмелым размаху гучна ляскае)’ (пін., Нар. лекс.), *прыконéчнік* ‘тонкі раменны кончык пугі’ (ТС); сюды ж фалькл. *прыкýньчик*: *прыкуньчика прыточу*

(Доўн.-Зап., Пін.). Лексікалізацыя словазлучэння *пры канцы́*. Параўн. аналагічнае укр. *приконе́чник* ‘канец (пугі, бізуна)’.

**Прыко́пак** ‘малая ўкладка сена на сенажаці’ (нясвіж., ЛА, 2), *пріко́пык* ‘невялікая капа, складзеная асобна або каля вялікай капы ці стога’ (Юрч., Мат. Маг.). Да *капа́* (гл.).

**Прыко́снік** ‘клінок для замацавання касы’, *прыко́сься* ‘лучок, прылада да касы, калі косяць збожжа, каб скошанае зграбалася і клалася касой у адну кучу’ (Бяльк.) Да *каса́₂* (гл.), параўн. рус. варонеж. *при́кос* ‘клінок для замацавання ляза касы на касільне’, *при́косок* ‘тс’.

**Прыко́цаць** ‘забіць’ (віл., Сл. ПЗБ). Няясна. Фіксацыя слова дазваляе суаднесці з літ. *kùcas* ‘дубіна, палена’. Не выключана і кантамінацыя з незафіксаваным гукапераймальным **ко́цаць* < *ко́каць/ко́кнуць* (гл.).

**Прыкра́сіць** ‘аздобіць, упрыгожыць’; перан. ‘упрыгожыць выдумкай, перабольшаннем апавяданне, пераказ’; ‘дадаць у ежу што-небудзь для каларыйнасці або смаку; закрасіць’ (Нас., ТСБМ); сюды ж сінанімічныя аддзеяслоўныя назоўнікі: *прыкра́са,* часцей мн. л. *прыкра́сы* ‘аздоба, упрыгожанні; перабольшанне, выдумка’ (ТСБМ), *прікра́са* ‘аздоба’ (Бяльк.), *прыкра́са* ‘тое, што дабаўляецца ў ежу для каларыйнасці або смаку (мяса, тлушч, пахучыя прыправы і пад.; закраса)’ (Нас., ТСБМ). Параўн. з антанімічнымі значэннямі, што надаюцца семантыкай прыстаўкі, якое ў дадзеным выпадку з’яўляецца сінанімічным значэнню прыстаўкі *пера-* ‘давядзенне дзеяння да адмоўнага выніку’: *прыкрасі́цца* ‘паблякнуць’: *краса прыкрасіцца, а розум прыгадзіцца* (шуміл., Сл. ПЗБ). *прыкра́са, перэкра́са* ‘непрыгожая дзяўчына’ (Растарг.). Да слаба адлюстраванага — і толькі на ўсходзе — мглін., зах.-бранск. *кра́сіць* ‘упрыгожваць’ (Кос., Растарг.), якое яшчэ ў прасл. **krasiti* набыло значэнне ‘дадаць у ежу’ (ЭССЯ, 12, 99—100). Параўн. рус. дыял. *прикра́сить* ‘прыправіць, закрасіць (пра страву)’, ‘пахваліць некага’, укр. *прикра́сити* ‘ўпрыгожыць, зрабіць прыгажэйшым’.

**Пры́кры**, *пры́крый*, *пры́крый*, *пры́клы* ‘непрыемны, брыдкі; крыўдны; надакучлівы, нязносны; прытарны, агідны; нясмачны’ (Нас., Нік. Очерки, Бес., Ласт., Байк. і Некр., Яруш., ТСБМ; смарг., шальч., баран., чэрв., Сл. ПЗБ; ТС, ЛА, 3), *пры́кра* ‘непрыемна, брыдка; крыўдна; надакучліва, нязносна; прытарна,

агідна' (ТСБМ, Мядзв., Нас., Нік. Очерки, Гарэц., Байк. і Некр., Шат., Бяльк., ТС), 'горка' (Байк. і Некр.), *прі́кра* 'прыкра; горка' (Бяльк.). Сюды ж з іншымі архаічнымі значэннямі: *пры́кры* 'стромы (бераг)' (Мат. Гродз., Сцяшк.), *пры́кры*, *пры́крый* 'абрывісты, круты (бераг)' (лід., іван, пін., Сл. ПЗБ; ЛА, 2, ТС), *прэ́кры*, *прэ́крый* 'круты, стромкі (пра бераг)', *прэ́кро* 'крута, стромка' (Сіг., ЛА, 2). Таксама сюды ж вытворныя назоўнікі і дзеясловы, якія захоўваюць семантыку прыметнікаў: *пры́красць*, *прі́крысь*, *прі́крысць* 'непрыемнае пачуццё, непрыемнасць' (Нік. Очерки, Ласт., Байк. і Некр., Яруш., ТСБМ), *пры́кросць* 'прыкрасць, непрыемнасць', 'круцізна, абрывістасць', *прыкрэ́ц* 'круты бераг' (ТС), са стратай каранёвага *-р- пры́кун* 'круты бераг' (Мат. Гродз.); *пры́крыць* 'надакучваць; назаляць; рабіцца прытарным, агідным' (Нас., Нік. Очерки, Байк. і Некр.), *прыкрэ́ць* 'рабіцца прытарным, больш салодкім' (Нас.), *прі́кріцца* 'апрыкрыць, надакучыць' (Бяльк.), *пры́крыць* 'рабіць непрыемнасці' (ашм., Сл. ПЗБ); ст.-бел. *прикрии*, *прикрыи* 'круты', *прикрыи* 'непрыемны', *прикритство* 'строгасць, жорсткасць' (Сл. Скарыны). Параўн. укр. *при́крий* 'непрыемны; моцны, надзвычайны; рэзкі (пра колер); злы; круты; стромы', рус. дыял. *при́крый* 'прытарны', 'цяжкі, недаступны, недасягальны (пра шлях, работу і пад.) ', польск. *przykry* 'прыкры, аскомісты', чэш. *přikrý*, славац. *príkry* 'прыкры, брыдкі, непрыемны, аскомісты, востры'. Узыходзіць да прасл. **prikrъ(jь)* 'круты; востры, горкі; непрыемны; рэзкі і г. д.', якое калі не спрадвеку было полісемічным, то набыло шэраг значэнняў (аб якіх падрабязна гл. Пятлёва, Этимология—1983, 43—45; тут таксама крытычны агляд папярэдніх версій і аналіз семантыкі) даволі рана, што, безумоўна, можа быць звязана з патэнцыяльна невычэрпнай семантыкай і.-е. **qer-* 'рэзаць', да якога (з прэфіксам *pri-*) праславянскае слова ўзводзіў яшчэ Петарсан (гл. Фасмер, 3, 364; Пятлёва, там жа). Іншыя версіі (Міклашыч, 264; Голуб—Копечны, 301; Махэк$_2$, 493) падаюцца пэўнымі ў значна меншай ступені. Кюнэ (Poln., 89) па лінгвагеаграфічных прычынах лічыў польскім запазычаннем у беларускай мове, што не мае падстаў у сувязі з народным характарам слова.

**Прыку́р**: *ён бага́ты прыку́р за ёй узёў* (пух., Жд. 1). Цёмнае слова, магчыма, звязанае са ст.-бел. *преикур* 'прымак' (< літ. *preykur*

(Лаўчутэ, Балтизмы, 95), рэдк. *preikuras* ‘прымак; зяць, прыняты ў дом жонкі’). Нельга, аднак, выключыць, што гэта т. зв. “лексікаграфічны фантом”, у якім пры аналізе зробленага рукапіснага запісу былі пераблытаны *р* і *п*; такім чынам першасная форма магла выступаць у выглядзе *прыку́п* с празрыстай семантыкай.

**Прыкусны́** ‘тонкі, гнуткі, які добра прыстае, пякуча б’е’ (карэліц., Жыв. сл.). Да *куса́цца*, зваротнага ад *куса́ць* (гл.) у пераносным значэнні ‘моцна пячы, раздражняць скуру’. Да семантыкі параўн. рус. дыял. з далейшым развіццём *прику́сина* ‘дасціпны выраз (слова, фраза і пад.); досціп, востры жарт’.

**Прыку́таць**, *прыкута́ць* ‘закрыць, прыкрыць, прычыніць’ (Ян., Бяльк., Растарг.), таксама *прыху́таць* ‘пахаваць’ (Жд.), з развіццём семантыкі *прыку́таць* ‘прымусіць’ (Ян.); сюды ж аддзеяслоўнае *прыку́тка* ‘прыкрыццё (напр., дзвярэй)’: *нещитная прикутка дзверей* (Нас.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *ку́таць* ‘закрываць’ < прасл. **kǫtati*/**kutati*. Параўн. рус. дыял. *прику́тать* ‘захутаць, добра ўкрыць’, ‘пакрыць (пра зямлю)’, ‘закрыць, прыкрыць; зачыніць’, укр. *прику́тати* ‘прыкрыць, захутаць зверху’.

**Прыку́ць** ‘прыкаваць; прымусіць’ (Нас., Байк. і Некр., Бяльк., ТСБМ). Да *ку́ць*, словаўтваральнага карэляту *кава́ць* (гл.) з субстытуцыяй *-ав-* > *-у-*. Параўн. укр. *прику́ти* ‘прыкаваць’.

**Прыкуча́ць** ‘надакучваць’ (Нас.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад слаба зафіксаванага *ку́чыць* з той самай семантыкай (Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), якое ў форме **куча́ць* больш вядома ў прыставачных ўтварэннях, параўн. *дакуча́ць*/*даку́чыць*, *надаку́чыць* (гл.). Бяспрэфіксны дзеяслоў узыходзіць да прасл. **kučiti* (*sę*). Параўн. арэальна блізкія смал. *прику́чить* ‘тс’, *прику́чливый* ‘сумны, невясёлы; дакучлівы’.

**Прыкушмэ́рыцца** ‘падхадзіцца, упыніцца з дамашняй работай’ (стаўб., Жд. 2). Прэфіксальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **кушмэ́рыцца*, фанематычнага карэляту *кушма́рыцца* ‘гуляць з агнём; важдацца’ (стаўб., Нар. сл.), зваротнага ад **кушмэ́рыць*, параўн. *кушме́рыць* ‘горача напальваць печ’ (гл.). Усе да *кухма́рыць*/*кухма́рыцца* (гл.).

**Прыла́вак** ‘падстаўка’ (Мат. Гом.), *прыла́вок* ‘выступ каля печы’ (ТС). Да *ла́ва*$_1$ (гл.) з развіццём семантыкі, якое працягвае прасл. **lava* (ЭССЯ, 14, 52—55; ЕСУМ, 3, 175—176).

**Прыла́дзіць** ‘прымацаваць, прырабіць; падрыхтаваць; падагнаць’ (Нас., ТСБМ), *прыла́дзіць, пріла́дзіць* ‘тс’ (Бяльк.); сюды ж *прыла́дзісты* ‘зручны ва ўжыванні, спрытны’ (Нас.) і аддзеяслоўныя назоўнікі *прыла́да* ‘прыстасаванне, прыбор, механізм’ (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Яруш., Бяльк., ТСБМ), таксама вытворныя: *прыла́дак* ‘прыбор’ (ТСБМ), *пріла́дка* ‘дастасаванне’ (Бяльк.), зборн. *прыла́ддзе* ‘прылады’ (Нар. Гом.). Да *ла́дзіць* (гл.). Рус. дыял. *прила́дить* ‘зрабіць, прыгатаваць’, укр. *прила́дити* ‘прыладзіць’.

**Прыладня́цца** ‘прыстасоўвацца’ (жлоб., Нар. словатв.). Верагодна, як і *ладна́ць* ‘рыхтаваць’ (гл.), з укр. *приладна́тися* ‘прыладзіцца’, *приладна́ти* ‘прыладзіць’. Аб гэтым жа сведчыць арэал рус. дыял.: кур. *приладня́ться* ‘падладжвацца, падлізвацца да некага’, бранск., арл. *приладня́ть* ‘прыладзіць, прымацаваць што-небудзь’.

**Прылажы́цца** ‘набыць навык’: *не магла прылажыцца па-руску гаварыць* (смарг., Сл. ПЗБ). Да *прылажы́ць* < *лажы́ць* (гл.) з пашырэннем семантыкі. Параўн. укр. *приложи́ти* ‘прыстасаваць’.

**Прыла́зка** (*прыла́ска*) ‘вялікая дарога’ (Касп.). Разам з серб.-харв. *пр̀илаз* ‘падыход, подступ’ утварае сепаратную ізаглосу, працягваючы, такім чынам, прасл. **prilazъ* ‘прасека; дарога і пад.’ < * *lazъ* з вельмі шырокай семантычнай базай (ЭССЯ, 14, 72—76), у якую ўваходзіць магчымае зыходнае значэнне ‘месца, што стала праходным пасля раскарчоўкі лесу’ (Бернекер, 1, 696—697). Параўн. укр. *полазо́к* ‘палянка ў чорным лесе’. Ст.-бел. *прилазъ* ‘выбіранне мёду з вуллёў’ звязана з *лазити* (гл. *ла́зіць*$_2$), ст.-рус. *лазити пчелъ, медъ* ‘тс’ (падрабязней аб гэтым значэнні гл. ЭССЯ, там жа, 66). Параўн. балг. *подлез* ‘праход пад мостам’ (БЕР, 5, 452).

**Прыла́знік** ‘памяшканне ў лазні, дзе распранаюцца і апранаюцца’ (ТСБМ, Нік. Очерки, П.С., Ласт., Касп., Інстр. 1, Янк. 1). Прыставачна-суфіксальнае да *ла́зня* (гл.). Параўн. смал. *прила́зник* ‘тс’.

**Прылама́ць** у выразе *прылама́ць языка* ‘навучыцца гаварыць’ (Ян.). Да *лама́ць* (гл.) з пашырэннем семантыкі, якое працягвае прасл. **lamati* са значнай семантычнай базай (ЭССЯ, 14, 25—26). Гл. таксама ЕСУМ, 3, 188—189.

**Прыла́паць** 'прытупаць' (ТС). Да *лапа́ць* 'тупаць' (ТС), параўн. *ла́паць₁* 'хапаць, махаць рукамі', 'лавіць' (гл.), якое працягвае прасл. **lapati*. Дзеяслоў са значэннем 'хадзіць, тупаць', відаць, утвораны ад гукапераймальнага *лап!*

**Прыле́га** 'прэласць': *хлеб аддае прыле́гаю* (ваўк., Арх. Федар.). Бяссуфікснае ўтварэнне ад *прыле́глы* 'які сапсаваўся ад доўгага ляжання', запазычанага з польск. *przyległy* 'тс'. Адтуль і ўкр. *приле́глий* 'прэлы'. Аднак нельга выключыць і адваротны дэрыват ад *прыляжа́лы* 'прагніўшы ад доўгага ляжання' (Нас.), параўн. рус. дыял. *прилежа́ться* 'сапсавацца (ад доўгага ляжання, дрэнных умоў захоўвання і да т. п.)'.

**Прыле́пак** 'патаўшчэнне на нітцы (пры прадзенні)' (трак., Сл. ПЗБ), *прыле́пка* 'нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў' (свісл., Шатал.), *прылёпка* 'тс' (круп., Нар. сл.), сюды ж мн. л. *пры́лінкі* 'бакавыя нарасці ў печаным хлебе' (навагр., дзятл., Нар. сл., Жыв. сл.), *прыле́паш* 'нараст на буханцы хлеба' (швянч., Сл. ПЗБ). Для часткі слоў, з улікам геаграфіі, можна дапусціць запазычанне з літ. *príelipas*, *prìliepa* 'патаўшчэнне на нітцы (пры прадзенні)', *príelipas* 'бакавая нарасць ў печаным хлебе', аднак астатнія, хутчэй за ўсё, да *прыле́пваць*, *ляпі́ць* (гл.), параўн. *пры́лепень* 'камячок бруду' (чач., Жыв. сл.), укр. дыял. *при́лінка́* 'акраец', рус. смал. *приле́пушек* 'тое, што прылеплена або прымацавана да нечага', польск. *przylepka* 'нарасць ў печаным хлебе'.

**Прылёп** іран. 'прымак' (Мат. Гом.), *прылёпісты* 'той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі; назойлівы' (рагач., Сл. ПЗБ, ЛА, 3). Прыставачна-бяссуфікснае ўтварэнне ад *прыляпі́цца* 'прычапіцца, прыліпнуць', гл. *ляпі́ць, лі́пнуць*, што ўзыходзяць да кораня **lьp-, lěp-, *lip-*. Паводле Варбат (SlW, 153), дзеясловы гэтага гнязда шырока вядомы ў славянскіх мовах са значэннем 'прылучыцца да каго- ці чаго-небудзь; навязацца, аддацца', параўн. аддзеяслоўныя ўтварэнні: рус. *приле́па* 'нешта прылепленае', польск. *przylepa* 'акраец', серб.-харв. *при̏леп* 'зараза', балг. *при́леп* 'кажан' (адносна апошняга слова гл. БЕР, 5, 717—718). Велчава (Бълг. реч, I, 4, 17) прыводзіць рэдкія ст.-балг. **прилѣпъ** 'савакупленне, coitus', **прилѣпенъ** 'які мае інтымныя сувязі', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **prilěpъ* 'каханак'.

**Прылі́к**, *прылі́ка* ў выразе: *для (дзеля) прыліку (прылікі)* ‘для выгляду, для стварэння патрэбнага ўражання; дзеля прыстойнасці’ (Мядзв., ТСБМ, ТС). Узыходзіць да прасл. **prilikъ*, **prilika* < **prilikovati* (параўн. ц.-слав. **приликовати** ‘быць падобным’, серб.-харв. *(ис)приликовати*, славен. *prilikovati*), якое ад **likъ* (БЕР, 5, 718). Параўн. рус. дыял. *прили́к* ‘прыстойнасць, прыстойны выгляд’, ‘пашана, павага’, ст.-рус. *прилика* ‘прыклад’ (Сразн.), славен. *prilika* ‘выпадак’, серб.-харв. *при́лика* ‘зручны выпадак; спрыяльныя абставіны’, балг. *прилѝка* ‘суадноснасць з умовамі; памяркоўнасць ва ўчынках; зручны выпадак’, ‘падобнасць’, *прѝлика* ‘прыстойнасць, падобнасць’, ‘выпадак, магчымасць’. Гл. таксама *лік*$_2$.

**Прылі́стак**, *прылісьцік* ‘лістападобны парастак, які знаходзіцца ў аснове ліста некаторых раслін’ (Ласт., Байк. і Некр., ТСБМ). Лексікалізацыя словазлучэння *пры лісце*; параўн. аналагічнае ўкр. *при́листок* ‘тс’.

**Прылі́ць** ‘заліць’, *прыліва́ць* ‘настойваць (настойку)’; таксама аддзеясловны назоўнік *прылі́ўка* (*прылі́вачка*) ‘падліўка’ (Ян.). Да *ліць* (гл. *лі́цца*) з развіццём і пашырэннем семантыкі; ст.-рус. *приливати*, рус. *прилива́ти*, укр. *прилива́ти* ‘залівацъ; паліваць; даліваць’.

**Прылі́чны** ‘прыстойны; дзябёлы, мажны’ (Ян.); відаць, сюды ж семантычна (да 1-га знач.) і арэальна блізкае *прылі́цы* ‘той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі’ (рэч., ЛА, 3) з рэгулярным чаргаваннем канцавога зычнага асновы. Узыходзіць да прасл. **priličьnъjь*, прэфіксальнае ўтварэнне ад **ličьnъjь*, гл. таксама *лі́чны*$_2$. Укр. *прили́чний* ‘адпаведны, слушны, дарэчны’, рус. *прили́чный* ‘які падыходзіць, прыстойны’, ст.-рус. *приличьныи* ‘падобны’, ц.-слав. **приличьнъ** ‘тс’, чэш. *přiličný* ‘адпаведны’, славен. *príličen* ‘які падыходзіць, значны, вялікі’, серб.-харв. *прѝличан* ‘дастатковы, значны; прыстойны’, балг. *прили́чен* ‘падобны’. Гл. Фасмер, 3, 364.

**Прыло́ж** (*прыло́ш*) ‘абложная зямля’ (іван., ДАБМ). Фанематычны карэлят з рэгулярным чаргаваннем зычнага асновы (магчыма, пад уплывам *абло́жны*) да незафіксаванага **прыло́г*, якое працягвае прасл. **prilogъ* < **priložiti* < **ložiti*, гл. таксама *лажы́ць*. Рус. дыял. *прило́га* ‘прырэзаны зямельны ўчастак’, старараж.-рус. *прило́гъ* ‘дадатак’ (Сразн., XI ст.), польск. *przylóg*,

*przyłóg, przełóg* 'цаліна', славен. *prilog, priloga*, серб.-харв. *прилог*, балг. *прилог* 'дадатак, дабаўка', ст.-слав. **прилогъ** 'прыбаўка, прыбаўленне, дадатак'. Гл. таксама Скок, 2, 282; БЕР, 5, 719. Звяртае на сябе ўвагу семантычнае супадзенне з рум. *pêrlóg* 'аблог', запазычанае ў сваю чаргу з балг. *прелог* 'тс' (БЕР, 6, 94).

**Прыло́нне**, *прыло́нак* 'лона; калені; месца (для дзяцей) на каленях' (Нас., Байк. і Некр.); таксама сюды ж *прыло́нне* 'аб'ём, абхват рукамі; мера пры куплі-продажы' (Нас., Інстр. 3). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *ло́на* 'грудзі; чэрава; калені; ахапак, бярэмя' (гл.) < прасл. **lono*, якое ўжо мела як гэтыя, так і семантычна блізкія значэнні (ЭССЯ, 16, 32—35).

**Прыло́ўчыць** 'прыстасаваць', *прыло́ўчаныя* 'прыстасаваныя' (мядз., Жд. 3). Ад *ло́ўкі* 'спрытны, умелы, добры, якасны' (гл.), якое працягвае прасл. **lovъkъ(jь)*.

**Прылу́дзіць** 'адбяліць (напрыклад, палатно)' (паст., Сл. ПЗБ). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *луг₃* 'шчолак з попелу, залітага варам' (гл.) з чаргаваннем у фіналі асновы, магчыма, пад уплывам *лудзіць* 'пакрываць палудай'.

**Прылуне́ць** 'здурнець', *прылуне́лы, прылуне́ўшы* 'не зусім разумны; псіхічна хворы' (валож., брасл., барыс., глыб., Сл. ПЗБ; ЛА, 3). Да *лунь₃* (гл.).

**Прылу́пка** 'палонка' (віл., Сл. ПЗБ). Да *про́лубка* (гл.) у выніку дээтымалагізацыі і збліжэння з *лупіць* 'біць, здымаць кару' (гл.).

**Прылуча́й** 'выпадак' (Нас.), таксама вытворныя *прылу́чка* 'тс' (Бяльк.), *прылучэ́нне* 'збег абставін, здарэнне, прыгода' (Нас.). Сюды ж таксама вытворнае, якое захавала спрадвечны націск, *прылу́ка* 'здарэнне, выпадак; прыгода' (Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Жд., Стан.) з рэгулярным (тут "адваротным") чаргаваннем у фіналі асновы. Узыходзіць да прасл. **prilučějь* < **prilučiti (sę)*, прэфіксальнага да **lučiti (sę)*, гл. *лу́чыць* (гл. таксама ЭССЯ, 16, 162—163 з падрабязным аналізам семантыкі). Ст.-слав. **прилоучаи: по прилоучаю** 'выпадкова', ст.-рус. *прилучаи* 'абставіны; выпадак; няшчасце, бяда; лёс', балг. *прилу̀ка* 'зручны выпадак; прыгода' (БЕР, 5, 720: аддзеяслоўнае вытворнае ад *прилуча*), рус. дыял. *при́лучь* 'выпадак; здарэнне', *прилу́чай* 'выпадак', а таксама *прилукну́ть* 'набыць выпадкова',

*прилуча́ться, прилучи́ться* 'здарацца, адбывацца', укр. *прилуча́тися, прилучи́тися* 'здарацца, здарыцца'. Варбат (Этимология—1972, 48—49) лічыць роднасным і польск. дыял. *przyłyka* 'жанчына, якая прыехала з мужам з іншай мясцовасці', што адрозніваецца ступенню каранёвай галоснай.

**Прылучы́ць**, *прылуча́ць* 'уключыць, далучыць' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт.), *прілучы́ць* 'далучыць' (Бяльк.), *прылучаць* 'прычашчаць' (Ласт.); ст.-бел. *прилучати*, *прилучатися* 'далучаць, далучацца', *прилучити*, *прилучитися* (Сл. Скарыны), аддзеяслоўны субстантыў *прылучэ́нне* 'далучэнне' (Нас., Гарэц., ТСБМ), 'прычашчэнне' (Ласт.). Сюды ж вытворныя: *прылу́чны* 'які выпадкова прыбіўся не да свайго статку' (Нас.), дзе часткова захоўваецца семантыка *прылуча́й* 'выпадак', *прылу́ка* 'муж, што пасяліўся пасля жаніцьбы ў доме сваёй жонкі' (Інстр. 2). Узыходзіць да прасл. **priloçiti*, прэфіксальнае ўтварэнне ад **loçiti*, гл. *лучы́ць₁* 'яднаць, злучаць' (гл. таксама ЭССЯ, 16, 132—134). Укр. *прилуча́ти* 'далучаць; дадаваць; уключаць'. Ст.-рус. *прилучити* 'прылучаць; даць, падараваць', рус. дыял. *прилуча́ть, прилучи́ть* 'прынаджваць, прывабліваць, далучаць'. Гл. таксама Фасмер, 3, 365; ЕСУМ, 3, 315—316, Варбат, Слав. языкозн., IX, 66—67.

**Прыльну́ць** 'прыціснуцца, прыпасці'; перан. 'старанна ўзяцца за работу' (Юрч.). Адзіная фіксацыя сведчыць, хутчэй, на карысць запазычання з рус. *прильну́ть*. На ненародны (г. зн. нспрадвечны) характар беспрэфіксальнага *ільну́ть* (гл.) звяртаў увагу яшчэ Карскі (1, 262).

**Прылюбі́ць** 'упадабаць; прымаць з прыемнасцю' (Нас.; б.-каш., ГЧ), сюды ж *прылюбоу́нік* (= рус. *прелюбодей*) (Тураўшч., 1, 59). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *любі́ць* (гл.) з развіццём семантыкі. Укр. *прилюби́ти, прилюбля́ти* 'зачараваць, прывабіць, любіць, прымаць з прыемнасцю', *прилюби́тися* 'прыахвоціцца'. Стараж.-рус. **прилюбитисѧ** 'аддацца любві': *Богови прилюбистеся* (1578, Сразн.), рус. дыял. *прилюби́ть*, *прилюба́ть* 'аказваць садзейнічанне, дапамагаць', *прилюби́ться* 'спадабацца, прыйсціся да густу, да спадобы'. Гл. таксама ЕСУМ, 3, 319—320.

**Прылячы́ць** 'вылячыць' (б.-каш., ГЧ). Да *лячыць* (гл.).

**Пры́ма** 'падмурак; першае звяно зруба' (Сл. рэг. лекс.). Семантыка, безумоўна, звязана з запазычаннямі, якія працягваюць лац. ж. р. *prīma* 'першая', але шляхі пранікнення слова ў гаворку

вызначыць цяжка. Параўн. зафіксаванае ў тым жа рэгіёне *прымапрэ́ля* ‘першае красавіка’ (шчуч., Сцяшк.).

**Пры́мавіска**, *пры́мавіско, пры́мовіско* ‘прымаўка; прывычка паўтараць пэўныя словы, словазлучэнні і г. д.’ (Сл. ПЗБ, Скарбы), *пры́мовыско* ‘мянушка’ (Клім.). Запазычана з польск. *przymowisko* ‘прымаўка’ з пераносам націску на прэфікс, памянш. ад *przymówka*, аб чым сведчыць арэал распаўсюджвання лексем. Параўн. *пры́маўка.*

**Прымадзе́ць** ‘прытаміцца’ (Байк. і Некр.). Да *мадзе́ць* ‘жыць у цяжкіх умовах, гараваць; марнець; бязмэтна існаваць’ (гл.), якое ўзыходзіць да прасл. дыял. **mъděti*, параўн. рускія дыялектныя формы, якія захоўваюць спрадвечную семантыку: паўн.-дзвін. *промоди́ть* ‘зрабіць кіслым, тухлым, прагнілым’, тул. *промоде́ть* ‘чэзнуць, марнець на працягу пэўнага часу’.

**Прыма́к**, *прыма́ка, прымаке́, прымакіе́, прыма́ч, пры́ма, пры́мень, пры́муш, пры́мыш, прама́ка* ‘муж, якога прынялі ў сям’ю жонкі, які жыве ў доме жонкі’, *прыма́кі* ‘прыманне прымака’ (ТСБМ, Нас., Шн. 1, Нік. Очерки, Кольб., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Шат., Касп., Растарг., Янк. 1, Янк. Мат., Інстр. 1, Мат. Гродз., Жд., Жыв. сл., Сл. ПЗБ, ТС), *прымук* ‘прыёмыш’ (Ласт.), *прыма́чка* ‘жонка зяця, прынятага ў дом цесця’ (Нас.; навагр., Нар. сл.), *пры́мачка* ‘тс’ (Байк. і Некр.), *прымі́чка* ‘тс’ (саліг., Нар. словатв.), таксама *пры́мы*, *пры́мачы*, *пры́мічы*, *пры́мкі*, *пры́му* ‘пасяленне, пражыванне мужчыны пасля жаніцьбы ў сям’і жонкі; прымацтва’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, ТС); параўн. перан. *прыма́к* ‘калок у плоце для ўмацавання падгніўшага слупа’ (ТС). Сюды ж *прыйма́к* ‘прымак; зяць, прыняты ў дом цесця’ (Растарг.), ‘прыёмыш’ (Ласт.), *прійма́ч* ‘зяць, які жыве ў цесця’ (Бес.), *пры́йміч*, *пры́ймыш* ‘прыёмыш; зяць, прыняты ў дом цесця’ (Нас.), *прыйма́к* ‘сезонны рабочы, якога наймалі цягнуць плыты супраць рачной плыні’ (пін., Нар. лекс.), толькі мн. л. *пры́ймы* ‘жаніцьба ў тым выпадку, калі жаніх ідзе ў дом да нявесты’ (мазыр., рэч., Доўн.-Зап., 2). Рознасуфіксальныя вытворныя ад *прыма́ць*/*прыйма́ць* (гл.). Рус. дыял. *прима́к* ‘муж, прыняты ў дом жонкі’, ‘прыёмны сын’, *прима́ка* ‘тс’, *при́ма* ‘муж, прыняты ў сям’ю жонкі’, смал. *прима́ч* ‘тс’, *при́мень* ‘тс’, *при́муш* ‘чалавек, якога ўзялі працаваць у гаспадарцы, прынялі

ў свой двор', укр. *приймáк, приймáка* 'прыёмыш; муж, які перайшоў у сям'ю жонкі', *прúйми* 'прыёмыш', *у прúйми пітú* 'не маючы сваёй гаспадаркі, прыйсці на гаспадарку жонкі, жыць у яе хаце'. Мартынаў (Бел.-укр. ізал., 51) мяркуе пра ўплыў літ. *priim̃ti* 'прыняць зяця ў двор', аднак адсутнасць фармальных падстаў робіць меркаванне аб балтыйскім пранікненні праблематычным.

**Прыманíць**, *прымáньваць* 'прывабіць да сябе; дадаць ад сябе, прыдумаць' (ТСБМ, Шпіл., Шат., ТС), таксама *прыманýць* 'прынадзіць' (навагр., Сл. ПЗБ); з далейшым развіццём семантыкі: *прымонýцца* 'заманацца', *прыманýцца* 'прыкінуцца, прытварыцца' (ТС), 'прывыкнуць' (іўеў., Сл. ПЗБ), *прымантьíты* 'прываражыць, прывабіць' (кобр., Нар. лекс.). Сюды ж аддзеяслоўныя ўтварэнні: *прымáна* 'спакуса; прыманка' (Нас.), *прымáнны* 'прывабны' (ТС), *прымáнка, прымáннык* 'прынада (у тым ліку пчаліная); (цёмная) шапка, якую кладуць на сук або вешаюць на дрэва, каб сеў [пчаліны] рой; невялікі вулей, які ставяць на дрэве ў лесе для прываблівання пчол' (Інстр. 1, Ян., Нар. сл.; трак., Сл. ПЗБ; Скарбы; пін., мазыр., ЛА, 1), *прімáнка* 'мядовы раствор, розныя пахучыя расліны, якімі націраюць або абпырскваюць вулей для прываблівання пчол' (слаўг., Нар. сл.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *маніць/манýць* (гл.) < прасл. **maniti* (*sę*). Укр. *приманúти* 'прынадзіць, прывабіць', *примáна* 'прынада; спакуса', *примáнка* 'прынада; прываба', рус. дыял. *примáнывать* 'прынаджваць, прываблiваць', *приманáться* 'прычапіцца, прывязацца', *примáн, примáнка* 'прынада'. Гл. таксама ЕСУМ, 3, 382—383.

**Пры́маразак**, часцей мн. л. *пры́маразкі, пры́морозкі* 'лёгкія маразы, звычайна ранішнія або начныя восенню і вясной' (ТСБМ, Шат., Растарг.; стаўб., З нар. сл.; брасл., ваўк., Сл. ПЗБ; ТС), *пры́морозок* 'пачатак зімы, калі выпадае першы снег' (ганц., ЛА, 2). Прыставачна-суфіксальныя ўтварэнні з рэалізацыяй значэння непаўнаты да *марóз$_1$* (гл.). Відаць, арэальная паўночнаславянская інавацыя, параўн. рус. дыял. *при́морозок, при́морозки* 'ранішні мароз', *при́морозь* 'замаразак', *при́мороз* 'тс', укр. *при́морозок, при́морозь* 'ранішні мароз', чэш. *přimrazek*, польск. *przymrozek* 'прымаразак'. Гл. таксама ЕСУМ, 3, 515; Банькоўскі, 2, 942.

***Прымару́жыць**, *прымору́жыць* 'прыжмурыць', *прімору́жыцца* 'прыжмурыцца' (жытк., Нар. словатв.; ТС), *прыморуу́жаный* 'прыжмураны' (кобр., Жыв. сл.). Да *мору́жыць* 'жмурыць' (ТС), гл. **мару́глы*. На поўнагалосныя формы, параўн. рус. *моро́говатый* 'падслепаваты', магчыма, паўплывалі запазычаныя з польск. *мружыць*, *мружыцца* (гл.), укр. *примру́жити*, *примру́живати* 'прыжмурыць'.

**Прымасо́ліцца** 'падбівацца, лашчыцца, шукаючы прыхільнасці' (Нас.). Да *масо́ліцца* 'пэцкацца чым-небудзь; поркацца, прыладжвацца да каго-небудзь, шукаючы прыхільнасці', што ад *масо́ліць* 'грызці костку; пэцкаць у што-небудзь слізкае' (Нас., Байк. і Некр., Юрч.). Адносна апошняга гл. *масо́л*, а таксама **mosoliti* (ЭССЯ, 20, 20—21).

**Пры́мастка** 'палаці каля печы, дзе спяць' (Сцяшк.), 'дошка, прыладжаная да печы ці да ложка' (гарад., Сл. ПЗБ), *пры́мастак* 'насціл з дошак паміж печчу і сцяной у курнай хаце' (Скарбы), *пры́мосток*, *прэ́мусток* 'ляжак ля печы', мн. л. *пры́мосты*, *пры́мусты* 'насціл з дошак на невялікіх падстаўках (козлах) каля печы, на якім спалі' (Сіг., Сл. Брэс.), *прэ́муст* 'шырокая лава каля печы' (Сіг.), толькі мн. л. *пры́масткі* 'седала' (ашм., Сл. ПЗБ), *прымо́сце*, *прыму́сте* 'насціл з дошак каля печы' (Шушк.), мн. л. *прымо́сткі* 'памост' (Раст.). Да *мост* (гл.). Параўн. рус. дыял. *примо́стка* 'шырокая лава каля рускай печы для спання', укр. *при́мостка*, *при́містка* 'прымацаваная да чаго-небудзь лава, памост'.

***Прыматкабо́жыцца**, *прыматкобо́жытысь*, *-ся* 'прымасціцца' (драг., Нар. лекс.; Сл. Брэс.), *прымоткобо́жытысь* 'тс' (Клім.). Дзеяслоўная лексікалізацыя словазлучэння *пры Матцы (Маці) Бо́жай* з першапачатковым значэннем '(прымасціцца, уладкавацца) каля абраза (Божай Маці)'. Лакальная заходне-палеска-пабужская ізалекса, параўн. укр. *приматкобо́житися* 'падлабуніцца, прылашчыцца, падмазацца; уладкавацца, прымасціцца'. Паводле ЕСУМ (4, 573), ад частага паўтарэння польск. *Matko Boża* 'Божая Маці'.

**Прымаўля́ць**, *прымоўля́ць* 'прыгаворваць; угаворваць; папракаць; прыгаворваць пры варажбе; прыварожваць' (Шпіл., Нас., ТСБМ, ТС), 'ужываць прымаўкі, прыказкі', 'галасіць', 'наймаць' (шчуч., віл., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Сюды ж вытворныя:

*прымаўка, прымоўка* ‘ўстойлівы выраз; прыгаворка; папрокі; лаянка; словы, якія выкарыстоўваюцца пры чараванні, варажбе’ (Шпіл., Гарб., Нас., Байк. і Некр., Касп., Растарг., Яруш., ТСБМ; глыб., ганц., Сл. ПЗБ; ТС), ‘нагавор; заклінанне’ (Ян.), ‘урокі’ (кіраў., ЛА, 3), *прымоўны* ‘хвароба, якая лечыцца замовамі, прымаўленнем’ (Нар. Гом.), ст.-бел. *примолвяти* ‘заклінаць’, *примолвение* ‘замова, заклінанне’ (Сл. Скарыны). Ад *мовіць* (гл.). Падобна на тое, што значэнне ‘прыгаворваць пры варажбе; замаўляць’ было першасным, параўн. стараж.-рус. *примълвление, примолвление* ‘замова, заклінанне’, *примълва, примолва* ‘прыгавор’, рус. дыял. *примáвливать, примóвлить* ‘запрашаць (у госці)’, укр. *примовляти* ‘прыгаворваць, прымаўляць; гаварыць, казаць, умешвацца ў размову’, *прúмівка, прúмовка, примóвля* ‘прыказка, прымаўка’, *примóва* ‘замова’, *примовляння* ‘прыгаворка; замова’, *примівник* ‘чараўнік, які лечыць замовамі, шаптун’. Гл. таксама ЕСУМ, 3, 491—492.

**Прымáцца** ‘перажываць’ (слонім., Нар. словатв.). Да *прымáць₁* з пераносам значэння. Параўн. укр. *приймáти* ‘ўспрымаючы што-небудзь, рэагаваць пэўным чынам; выяўляць сваё стаўленне да чаго-, каго-небудзь’.

**Прымáць₁**, незак. тр. да *прыняць* (гл.) (ТСБМ, Нас., Мал.). Узыходзіць да прасл. **prijьmati*, прэфіксальнага ўтварэння ад прасл. **jьmati*, гл. *мець*. Сюды ж дзеясловы з захаваным *-j-*: *прыймáць* ‘прымаць (у розн. знач.)’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.), *прыймáты* ‘прыбіраць’ (драг., Сл. ПЗБ), *прыймавáць* ‘зазнаваць; цярпець’: *не доведзи Богъ, што мы отъ его прiймуемъ* (Нас.), ст.-бел. *приимати, приимовати* ‘атрымліваць, браць; прымаць; прызнаваць’ (Ст.-бел. лексікон), ст.-слав., ст.-рус. *приимати* ‘тс’, рус. дыял. *примáть* ‘браць, атрымліваць; прымаць’; ‘прыбіраць, здымаць’, *приймáть* ‘прымаць, браць; зазнаваць (гора, няшчасце)’, *приимáть* ‘прымаць, браць да сябе; даваць прытулак’, ‘запрашаць, ветліва сустракаць’, ‘цярпець, зазнаваць (непрыемнасці, пакуты)’, укр. *приймáти* ‘прымаць; атрымліваць, браць; цярпець, зазнаваць’, польск. *przyjmować*, дыял. *przyjmać* ‘атрымліваць, браць’, серб.-харв. *прúмати* ‘атрымоўваць, прымаць’ і пад.

**Прымáць₂** ‘браць мужа ў сям’ю жонкі’ (Ян.). Да *прымáць₁* з вядомымі значэннямі, але, відаць, з захаваннем старой семан-

тыкі, параўн. літ. *priim̃ti* ‘прыняць зяця ў двор’, таксама рус. дыял. *примáть* ‘пускаць у дом, да сябе’, укр. *приймáти* ‘браць каго-небудзь у сваю сям’ю як мужа, зяця, нявестку і пад.’. Паводле Мартынава (Бел.-укр. ізал., 51), з’яўляецца балтыйскім пранікненнем, што магчыма прыняць толькі для часткі беларускіх і ўкраінскіх гаворак. Параўн. *прымáк* (гл.).

**Прымгнýць** ‘задрамаць’ (паст., Сл. ПЗБ), *прымгнýты* ‘тс’ (кобр., Нар. лекс.), *прымгнýць*, *прымгнýцца* ‘прыжмурыць; задрамаць’, рус. кур., смал. *примгнýть* ‘заснуць ненадоўга, задрамаць’, з працягам семантыкі ‘прыціхнуць, супакоіцца; патухнуць, згаснуць’. Параўнанне з літ. *primìgti* ‘тс’ дае падставы рэканструяваць арэальна абмежаванае прасл. **primьgnǫti*, прэфіксальнае ўтварэнне ад **mьgnǫti* (гл. з аглядам форм і семантыкі ЭССЯ, 21, 97—98). Гл. таксама *мжыць*; ЕСУМ, 3, 456 (*мжúти*).

**Прымéк**, *прымёк* ‘заметка’ (Нас., Гарэц.), *ня ў прымёк* ‘неўпрыцям’ (Гарэц.), *прымéка* ‘прыкмета, заметка’ (Нас.). Да *прымячáць/прымéціць* (< *мéціць*, гл. *мéта*) з рэгулярным чаргаваннем у фіналі асновы. Параўн. цікавае рус. пск., цвяр. *примекáться* ‘навучыцца, набыць вопыт’.

**Пры́мен** ‘сені, сенцы’, *пры́мян, пры́мень*, *прымнó* ‘тс’ (Шн. 3; ваўк., Федар. 7; Сцяшк.; маст., іўеў., гродз., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс., Скарбы; гродз., ЛА, 4), *пры́мень* ‘павець’ (Сл. Брэс.), *пры́менё* ‘свіран’ (лях., Сл. ПЗБ), *прумéняц* ‘памяшканне, прыбудаванае да хаты, у якім захоўваецца збожжа, мука, апрацаваны лён’ (лях., Янк. Мат.). Вядома ўжо ў ст.-бел.: *применъ* ‘сенцы ў лазні або ў свірне; прыбудова’ (1522, Булыка, Запазыч., 263; Ст.-бел. лексікон). Запазычана з літ. *prieменẽ* ‘пярэдні пакой, прыхожая’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 38). Параўн. *пры́вен* (гл.).

**Прымéркнуць**, *прымéркнуцца* ‘пра надыход няпоўнага, першага змроку’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), таксама незак. тр. *прымяркáць* ‘цямнець’ (Нас.), *прыміркáць* ‘вечарэць, змяркацца, цямнець’ (Бяльк.), зах.-бранск. *прымерькáть* ‘тс’ (Раст.), сюды ж дзеепрым. *прымéрклы* ‘змрочны’ (Нас.), а таксама вытворныя назоўнікі *прымяркáнне* ‘надыход няпоўнага, першага змроку; вячэрняя пара’ (Нас., Гарэц.), мн. л. *пры́меркі*, *пры́мрак* ‘змрок’ (Нас., Байк. і Некр.). Ст.-бел. *примрак* ‘цемра’. Прэфіксальнае

ўтварэнне ад *мéркнуць* (гл.). Укр. *примеркáти, примеркáтися* 'цямнець, змяркацца', *прúмерки, примеркáння* 'прыцемкі', стараж.-рус. *примракъ* 'змрок, цемра', рус. дыял. *примéркнуть* 'цямнець, пераставаць свяціць', *примеркáние* 'пачатак першай квадры, калі месяца не бачна', *прúмерки* 'прыцемкі, змярканне'.

**Прымéта** 'знак', *прыкмéта* (ТСБМ, Ян.), сюды ж дзеяслоў *прымéціць* 'заўважыць', *прыкмéціць* (ТСБМ) 'адзначыць, назначыць' (Бяльк.), таксама зваротнае *прымéціцца* 'прыцэліцца' (Бяльк.). Укр. *примíта, примíтка* 'прымета, прыкмета, знак', *примíтити* 'прыкмеціць, заўважыць', *примíтний* 'прыкметны', *примíтливий* 'уважлівы, той, які ўсё пераймае і засвойвае', рус. *примéта*, 'заметка, знак; след', *примéтить* 'заўважыць', *примéтный*, *примéтливый* 'прыметны, заўважны', польск. *przymiot* 'прымета, адзнака', чэш. *přimět(a)* 'пацёртасць каля ранкі', в.-луж. *přimjet*, н.-луж. *pšimjet*, серб.-харв. *примéтити* 'прымеціць; зазначыць'. Працягвае прасл. **priměta* < **priměiti*, прэфіксальнае ўтварэнне ад **mětiti*, гл. *мета*. Гл. таксама Махэк$_2$, 493 (лічыць слова заходнеславянскім); ЕСУМ, 3, 485; 4, 573.

**Прымéтнік** 'часціна мовы, ад'ектыў' (ТСБМ). Фіксуецца з пачатку XX ст. (Красней, Бел. лекс., 90). Відаць, запазычана з польск. *przymiotnik* 'тс' (з першапачатковага *imię przymiotne* як пераклад лац. *adiectivus*, г. зн. 'імя, якое перадаецца, дадаецца', гл. Банькоўскі, 2, 941—942); гл. таксама Кюнэ (Poln., 90). Булахаў (Развіццё, 43) у якасці ўзору дапускае укр. *прикмéтник* 'тс', што менш верагодна.

**Прымéць** 'магчы, змагчы; мець сілу, магчымасць'; *каб прымéў* 'калі б мог' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Некр., Янк. 2, Янк. БП, Жд.; слонім., Жыв. НС), *прыймéць* 'магчы' (ТС), *примéтсь* 'папасці ў рукі' (Шпіл.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *мець* (гл.). Рус. бранск. *примéть* 'магчы', укр. *примíти* 'тс', *прéміч* 'сіла, найбольшая моц'.

**Прыміж**, *прымíш* 'паміж' (Бяльк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *прымеж* 'між' (Нас.). Прэфіксальнае да *між$_1$* (гл.) < прасл. **medji* (ЭССЯ, 18, 48—49, толькі са ст.-бел. адпаведнікамі; ЕСУМ, 3, 472); сінонім аг.-бел. *паміж*. Параўн. аналагічныя рус. смал. *прúмиж* 'між, паміж', варонеж. *примúж* 'тс'.

**Пры́міна** 'жэрдка, якой прыцiскаюць салому на страсе' (ганц., Сл. ПЗБ), таксама *прыміца*, *праміца*, *прімніца* 'паплёт

(у страсе паверх саломы)' (лун., Шатал.; ц.-палес., Нар. сл.; ТС; стол., ЛА, 4), мн. л. *прíмыцы* 'пруты, якімі замацоўваецца салома на страсе' (Шушк.), *прыíмкі* 'жэрдкі ў страсе' (трак., Сл. ПЗБ); сюды ж больш далёкае ад словаўтваральнай асновы *прыíйма* 'тс' (пін., Нар. сл.) з эпентэзай, якая, магчыма, з'явілася ў выніку народнаэтымалагічнага збліжэння з *прыíймаць*. Утворана ад *прымінáць/прымя́ць*, гл. *мяць*. Інакш Лаўчутэ (Балтизмы, 126), якая звязвае назвы на *-іц-* з літ. *prìemietis*, дыял. *prýmietis*, мн. л. *prýmiečiai* 'калок, які ўваткнуты каля плотавага кала; падпорка, падбойка', што фармальна цалкам верагодна, але семантычна няпэўна. Гл. *прынíць*.

**Прымінтрэ́жыць** 'перашкодзіць' (астрав., Сл. ПЗБ). З пашырэннем семантыкі да *мінтрэ́жыць* 'хваляваць, трывожыць', якое, у сваю чаргу, ад *мінтрэ́га* < *мінтрэ́нга* (гл.), запазычанага з польск. *mitręga* 'перашкода'.

**Прымíрлівы** 'памяркоўны' (бых., ЛА, 3). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *мір*$_1$ (гл.). Параўн. аналагічнае ўкр. *примúрливий* 'які спрыяе, садзейнічае прымірэнню; які вызначаецца беспрынцыпнасцю, цярпімасцю, памяркоўнасцю'.

**Прымісцігавáцца** экспр. 'прыладзіцца' (воран., Сл. ПЗБ). Прэфіксальнае ўтварэнне да незафіксаванага **місцігавáцца*, экспрэсіўнага карэляту *мясцíцца*, гл. *мéсціць*.

**Прымкнýць** 'закрыць, зачыніць няпоўнасцю; прысунуцца блізка, шчыльна да чаго-небудзь; стаць прыхільнікам, удзельнікам у якой-небудзь справе' (ТСБМ), 'замкнуць ненадоўга', *прымкнýты* 'тс' (брасл., драг., Сл. ПЗБ), *прымукнýць*, *прымыкнýць* 'замкнуць ненадзейна', *прымýкваць* 'прымацоўваць' (ТС); сюды ж з развіццём значэння 'далучыцца' зваротнае *прымкнýцца* 'ўзяцца шчыра (за работу)' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да рэдкага *мкнуць* 'пацягнуць, ударыць дубцом', 'кінуцца бегчы', *мкнýцца* 'крануцца з месца; ударыцца; паткнуцца' (Нас.), гл. *мкаць*. Усходнеславянскае ўтварэнне, параўн. рус. *примкнýть* 'далучыцца', дыял. *примкнýться* 'далучыцца', 'налегчы (на вёслы)', укр. *примкнýти* 'прычыніць, зачыніць няпоўнасцю; стаць прыхільнікам, паслядоўнікам чаго-, каго-небудзь'.

**Пры́мніца** 'чатырохкантовая частка рамы ў варотах' (ТС). Няясна. Магчыма, да *пры́міца*, *пры́міна* (гл.), што можа разглядацца як адаптаваны балтызм.

**Прымо́л** 'круты бераг ракі', *прымо́лісты* 'круты, абрывісты' (ТС). Відаць, той самы корань, што і ў балг. *подмо́л* 'бераг, навісшы над ракой', славен. *podmȍl* 'размыты ракой бераг', славац. *podmol'* 'размытае (падмытае) вадой месца', што да прасл. **podъmolъ, *podъmoljь* ад **podъmelti*, параўн. славац. *podomliet'* 'размыць, падмыць, падкапаць', в.-луж. *podmlěć* 'падмыць, падкапаць (бераг)' пры зыходным *mlěć* (гл. *мало́ць*); аналагічна чэш. *vу́mol*, славац. *vу́mol'* 'нара, вымытая вадой', рус. *вымол* 'прыстань' (Бернекер, 2, 74; БЕР, 5, 458). Адсутнасць фіксацыі адпаведнага дзеяслова, які лёгка ўзнаўляецца на падставе дзеясловаў тыпу *прывары́ць* 'зварыць, прыгатаваць', *прыморы́ць* 'змарыць' (ТС) і пад., не можа выклікаць сур'ёзных пярэчанняў супраць названай версіі. Аднак сувязь з **melti* трактуецца як другасная, што паўплывала на выцясненне першаснай аманімічнай асновы **-mьlěti, *-milati, *-moliti* са значэннем 'выступаць, паказвацца з-за чаго-небудзь', якая параўноўваецца з алб. *mal* 'узгорак з крутымі схіламі; абрыў; бераг' (падрабязна пра апошняе Бярнар, Бълг. изсл., 264), лат. *mala* 'край, бераг' і пад. (Куркіна, Этимология—1973, 34—37); супраць роднасці з названымі формамі Трубачоў (ЭССЯ, 9, 49), вяртаючыся да зыходнага **melti, *molъ* 'малоць, церці'. Калужская (Палеобалк. реликты в совр. балк. языках. М., 2001, 126) тураў. *прымо́л* звязвае з грэч. πρoμoλή 'падэшва гары; выток ракі' і далей з алб. *mal*, арум. *mal* 'бераг', літ. *malá* 'край, вобласць', *jū̃rmala* 'марское ўзбярэжжа', лат. *jūrmala* 'марскі бераг', ст.-ісл. *mǫl* 'вал з дробнага камення ўздоўж берага', а таксама славен. *móla* 'выступ, балкон, вастрыё', 'уздоўж' разам з усімі названымі формамі да і.-е. **mol-* 'выступаць, выдавацца'. Магчыма, тут назіраецца супадзенне слав. **molъ* (< **melti*) з субстратным коранем, вядомым у больш шырокім значэнні на значнай індаеўрапейскай тэрыторыі. Сувязь з *мул* 'іл', якая прапануецца для ўкр. *ви́мул* 'вымытае паглыбленне' (ЕСУМ, 3, 532), здаецца малаверагоднай, параўн. *приму́лина* 'нанесены вадой глей, мул'. Гл. таксама Глухак, 505: *promóliti (se)*.

**Прымсціцца** (*пры́мсьціцца, пры́мсьціць*) 'здацца, падацца; прымроіцца' (Ласт.), параўн. рус. *примсти́ться* 'прымроіцца, здацца; прысніцца'. Арэальнае ўтварэнне ад незафіксаванага **мсціць/мсціцца* адпаведнай семантыкі (гл. амонімы ў артыкуле

*мста* ‘помста’), якое працягвае прасл. **mьstiti (sę)*$_2$ ‘здавацца, мроіцца’, этымалагічна тоеснага **mьtьsь* і роднаснага лексемам гнязда прасл. **mitъ/mitь*, **mitě*, **mititi*, **mitusь*, **mitusiti*, **mьtina* (ЭССЯ, 21, 171—172). Параўн. *прымха* (гл.).

**Прыму́дры** (*пріму́дры*) ‘выдумкі, вычваранне’ (Юрч. СНС). Бяссуфікснае ўтварэнне ад *прымудрава́ць*, якое ад *мудрава́ць* (гл.). Параўн. рус. смал., дан. *примудря́ться* ‘ўмудрацца, ухітрацца; лаўчыцца’, укр. *примудрува́ти* ‘прыдумаць, ухітрыцца’.

**Прыму́лок** ‘ручка касы; лучок’, *прымо́лок*, таксама (з сінкопай) *прымлок* ‘тс’ (жыт., ДАБМ; Выг., ТС). Прыставачна-суфіксальныя ўтварэнні з фактычнай дэсемантызацыяй значэння прэфікса ад *му́ліца*, *му́лец*, *му́ліц* ‘ручка (касы, сахі, вясла)’ (гл.) і часткова з дыялектнай субстытуцыяй націскнога галоснага, якія не да *му́ліць* (гл.), а працягваюць прасл. **mulica* з адпаведнай семантыкай кантынуантаў (гл. ЭССЯ, 20, 180—181).

**Прыму́рак**, *прымо́рак*, *прумо́рак*, *прімо́рок*, *пры́морок, пры́морочэк* ‘тое, што прымуравана, прыбудавана; выступ (радзей выемка), карніз печы, на якім можна сядзець або ставіць, класці што-небудзь; выступ на бакавой сценцы печы, па якім залазяць на печ; ляжанка, тапчан пры печы як яе частка’ (ТСБМ, Інстр. 1, Шушк., Янк. 2, Лексика Пол., З нар. сл., Шатал., Нар. словатв., Жд., Сл. ПЗБ; маладз., дзятл., стаўб., слуц., ЛА, 4; ПСл). Прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *мур* (гл.). Параўн. аналагічнае ўкр. *при́мурок* ‘карніз печы; каменная прыбудова; бакавая сцяна ганчарнай печы’.

**Прыму́сіць**, *прымуша́ць* ‘сілаю або іншым уздзеяннем дамагацца, каб нешта было зроблена, выканана; абавязаць, патрабаваць зрабіць што-небудзь’ (ТСБМ, Мядзв., Нас., Мал., Ласт., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж вытворныя: *прымусо́во* ‘пад прымусам’ (карэліц., Сл. ПЗБ), *пры́мус*, *прыму́с*, *прыму́сы* ‘прымушэнне, уціск, прыгнёт’ (ТСБМ, Нас., Нік. Очерки, Мядзв., Мал., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бяльк.; вільн., швянч., Сл. ПЗБ), *прыму́шаньня* ‘тс’ (Бяльк.), *прыму́сіны* ‘тс’ (Нар. Гом.), *прыныму́с* ‘тс’ (кам., Жыв. НС), *прымусо́ўка* ‘пакаранне; месца, дзе можна жыць толькі пад прымусам’ (Ян.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад запазычанага са ст.-польск. *му́сіць* (гл.). Укр. *примуша́ти, приму́сити* ‘тс’, *при́мус* ‘прымушэнне; настойлівае ўгаворванне і прымус гасцей да пачастунку’. Гл. таксама ЕСУМ, 3, 539.

**Пры́мха**, часцей мн. л. *пры́мхі* ‘забабоны, забабонныя прыкметы’ (ТСБМ, Шн. 1, Растарг.; лях., Сл. ПЗБ, ТС), *пры́мухі* ‘прымхі; жарты’ (Ян.). Няясна. Верагодна, з’яўляецца аддзеяслоўным утварэннем ад *прымсці́ць/прымсці́цца* (гл.) з экспрэсіўным *-х-* на месцы *-с-* у фіналі асновы (чакалася б **пры́мс(х)а*) і развіццём першаснай семантычнай базы (гл. Краўчук, Бел. лекс., 86). Іншыя версіі выказвалі Мікуцкі (сувязь з *муха*, параўн. польск. *muchi w nosie* ‘пра ганарлівага, непрадказальнага’, гл. падрабязней Неўская, История слав. этим., 21; параўн. яшчэ макед. *мушичка* ‘мошка; капрыз’), Свобада (Studies in Slavic Ling. and Poetics, N.Y. — London, 1968, 247). Ткачэнка (ЕСУМ, 4, 574) параўноўвае з рус. *па́мха* ‘перашкода, ліха, пошасць’, *помха* ‘неўраджай’, што да *мох* (гл.), **мъха* ‘хвароба коласа; іржа’; Трубачоў (ЭССЯ, 22, 194) адносіць да **mъхъ* (гл. *мох*) у сувязі з павер’ямі, але не выключаецца і сувязь з **mъšъka* ‘мошка, мушка’. Параўн. укр. *при́мхи* ‘тс’, *при́мха* ‘капрыз, недарэчнае жаданне, выдумка’, *при́мхати* ‘капрызіць’, *при́мхливий, примхува́тий* ‘капрызны, пераборлівы’. Спецыяльна гл. Мяркулава, Этим. иссл., 6, 23.

**Пры́мы** ў словазлучэнні *прыстаць у прымы* ‘пайсці ў прымакі’ (Мартынаў, Лекс. Палесся, 15). Гл. *прыма́к*, *прыма́ць*$_2$.

**Прымяка́ць** ‘прымяраць (спехам, недакладна)’ (Юрч.). Магчыма, іранічная сувязь з *прымя́каць* ‘прыбіць каго-небудзь чым-небудзь тупым’ (Нас.), прэфіксальнае да *мя́каць* (гл.), і *намяка́ць* ‘намякаць’, параўн. *намя́каць* ‘адлупцаваць’ (гл.).

**Прымяні́ць** ‘ажыццявіць на справе, выкарыстаць’ (ТСБМ), *прымяні́ць* ‘прыстасаваць’ (Бяльк.), *прымені́цца* ‘налаўчыцца’ (ТС); сюды ж зваротныя *прымяні́цца* ‘прыцэньвацца, прыкідваючы па грошах’ (брагін., З нар. сл.), *прыміня́цца* ‘тс’ (Бяльк.) з, відаць, першасным значэннем. Прыставачна-суфіксальнае да *ме́на* ‘абмен’ (гл.). Параўн. аналагічныя рус. арханг. *примени́ть* ‘ажыццявіць; выкарыстаць’, свярдл. *примени́ться* ‘прыцаніцца’, укр. *примі́ни́тися* ‘прыстасавацца’. Паводле Пацюпы (Гармонія, 11), “славянізм”, з рус. *примени́ть* ‘выкарыстаць’, што, відаць, можна сцвярджаць толькі ў дачыненні да літаратурнай мовы.

**Пры́на́гліць** ‘гвалтам, нахабна прымушаць да чаго-небудзь’ (Нас.). Да *на́гліць* ‘нахабна хлусіць; прымушаць’ (гл.), якое ад *на́глы* (гл.). Хутчэй за ўсё, сюды ж таксама *прынаглядáць* ‘пры-

мушаць’ (шальч., Сл. ПЗБ), якое, такім чынам, трэба лічыць вынікам кантамінацыі *прына́гліць* з *наглядаць*.

**Прына́да** ‘тое, чым прывабліваюць птушак, рыб, жывёл; тое, што прыцягвае, прываблівае’ (ТСБМ, Чач., Нас., Мал., Арх. Федар., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., Шат., Бяльк., Растарг., Сцяшк.; віл., лях., маст., Сл. ПЗБ, ТС), ‘настой пахучага зелля (якім крапілі вуллі)’ (віл., З нар. сл.), ‘ласунак’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *пріна́да* ‘прынада’ (Бяльк.), *пріна́дка* ‘невялікі вулей з кары для прывабліваня пчол, які ставяць на дрэве’ (слаўг., Нар. сл.), *принадэнка* ‘прынада’ (Булг.), ст.-бел. *прына́да*, *прына́да пташа* (Ст.-бел. лексікон). Аддзеяслоўны назоўнік ад *прына́дзіць*. Стараж.-рус. *принада* ‘прыбаўленне, далучэнне’, рус. паўд., зах., смал., бранск., дан. *прина́да* ‘тое, чым прынаджваюць розных жывёл’, дан. ‘сіло (для лоўлі птушак)’, смал. *прина́душка* ‘прынада’, укр. *прина́да* ‘тс’. Інакш Фасмер (3, 365), які прапануе складаны шлях утварэння: прыстаўкі **при-*, **на-* + кантынуанты і.-е. каранёў **dō-* ці **dhē-*, што не пераконвае; гл. таксама Пятлёва, ОЛА, Исследов., 1994—1996, 207.

**Прына́дзіць** ‘прыцягваючы ўвагу чым-небудзь (звычайна кормам), прымусіць наблізіцца (птушку, рыбу, жывёл); прыцягнуць да якой-небудзь справы’ (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Растарг., Шатал., ТС), *прына́дыты* ‘прыцягнуць, завабіць’ (Клім.); сюды ж зваротнае *прына́дзіцца* ‘пайсці на прынаду (пра птушак, рыб, жывёл)’; разм. ‘прызвычаіцца быць, бываць дзе-небудзь; панадзіцца, унадзіцца’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.; маг., Янк. 2, Ян.; пух., Сл. ПЗБ), таксама перан. *прыно́дзіцца* ‘ўладкавацца, прыстасавацца, прыладзіцца’ (полац., Жыв. НС), ст.-бел. *принажоный* ‘прываблены’. Верагодна, да прасл. **prinaditi* (*sę*), прэфіксальнага ўтварэння ад **naditi* (гл. *на́дзіць*). Стараж.-рус. *принадити* ‘прыбавіць, далучыць; прыцягнуць, прывязаць’, рус. смал., бранск. *прина́дить* ‘прынадзіць жывёлу (звычайна кормам-прынадай)’, дан. ‘прывабіць, прыцягнуць да сябе ўвагу’, укр. *прина́дити* ‘прынадзіць, прывабіць’, *прина́дитися* ‘панадзіцца’ *прина́дність* ‘прывабнасць; прыгажосць’, *прина́дний* ‘спакуслівы, прывабны’, *прина́дно* ‘спакуслíва, прынадна, прывабна’. Параўн. польск. *przynęcić* ‘тс’ (< **nǫtiti* > *nęta*) ‘прынада’, якое можна параўнаць з *нуціць ракі* ‘прынаджваць, лавіць ракаў’ (Ласт., пад словам *рак*).

**Прынаку́чыць** ‘абрыднуць’ (Некр.). Сцягнутая форма не зафіксаванага, але цалкам магчымага **прынадаку́чыць* < *надаку́чыць* ‘надаесці’ (гл.).

**Пpына́мсі** ‘ва ўсякім разе’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр.), *прына́мся* (Др.-Падб.), *пріна́мсі*, *прына́мсці* (Бяльк.), таксама *прына́мні*, *пpынá(й)мней* (Шпіл., Нас., Гарэц.), *прына́мнэ* ‘тс’ (Булг.). Верагодна, першаснай формай з’яўляецца *прына́(й)мней* — вынік лексікалізацыі словазлучэння кшталту *пры на́йменей*. Развіццё іншых форм абумоўлена далейшымі ўнутрыслоўнымі працэсамі (у прыватнасці, прагрэсіўнай дысіміляцыяй назальнай групы *-мн-*), выкліканымі фармальным разыходжаннем дэрыватаў. Паводле Кюнэ (Poln., 89), формы з *-мн-* запазычаны з польск. *przynajmniej* ‘па меншай меры’, што як і ўкр. *принаймні* ‘тс’, калькі ням. *am mindesten* (ЕСУМ, 4, 574; Банькоўскі, 2, 942—943).

**Прынапу́траны** ‘расфранчаны, адзеты па-святочнаму’ (рагач., Нар. Гом.). Прэфіксальнае ўтварэнне да незафіксаванага **напу́траны* ‘напудраны’ з распадабненнем выбухной групы *-др-*, параўн. аналагічныя ўтварэнні рус. дыял. *принапу́трить* ‘напудрыць’, *принапу́дрить* ‘тс’, *принапу́дриться* ‘напудрыцца’.

**Пры́ндзіцца** ‘надрывацца (з крыку, піску і пад.); паказваць незадаволенасць; капрызіць’ (слонім., Жыв. сл.; Нар. Гом., ТС); сюды ж экспр. *пры́ндзіцца* ‘паміраць’ (гродз., Сл. ПЗБ; тут падаецца яшчэ ў якасці магчымай паралелі літ. *pasispréndе* ‘выцягнуцца’, уплыў якога цалкам верагодны). Таксама сюды ж *піры́ндзіць* ‘вельмі тонка прасці; нагаворваць на каго-небудзь’ (навагр., Жыв. НС) з эпентэтычным *-і-* ў гістарычным прэфіксе, які “ўзнаўляе” складовасць, і цікавым семантычным развіццём. Хутчэй за ўсё, звязана з *прыну́дзіцца/прыну́дзіць* (гл.) са значэннем ‘занудзіцца, зажурыцца’ і пад. Размоўны перанос націску на прэфікс абумовіў рэдукцую да нуля націскнога *-у́-*, а фармальная аддаленасць асноў — семантычныя змены (параўн. ніжэй аналагічныя працэсы ў рускай і ўкраінскай мовах). Не выключаны толькі ўсходнеславянскі характар дзеясловаў, параўн. рус. дыял. *пры́ндик* ‘сярдзіты, недаступны на выгляд чалавек’, ‘надзвычай напышлівы, фанабэрысты чалавек’, *пры́нтик* ‘тс’, укр. *при́ндитися* ‘фанабэрыцца, важнічаць; капрызіць; трымацца малайцом; бадзёрыцца, казырыцца; сердаваць’, *при́нда* ‘пыха, фанабэрыя; напышлівы, фанабэрысты чалавек; капрызы; капрызны чалавек’ (адносна апошняга гл. ЕСУМ, 4, 575: “няясна”). Гл. *апры́ндзіцца*.

**Пры́нік** (*прі́нік*) ‘драўляны выступ каля печы замест ляжанкі’ (Мат. Маг.). Бяссуфікснае ўтварэнне ад *прыні́кнуць* ‘прыціснуцца’ з пераносам націску на прэфікс і звужэннем семантыкі. Параўн. аналагічнае рус. пск. *прини́ка* ‘прытулак, прыстанак’, а таксама семантыку дзеясловаў: том. *приника́ть* ‘межаваць, прылягаць’, укр. *приника́ти*, *прини́кнути* ‘шчыльна прытуляцца да каго-, чаго-небудзь’.

**Прыні́ка** ‘чалавек, які дрэнна бачыць’ (Жд.). Як і папярэдняе, да *прыні́кнуць*, але са значэннем ‘прыпасці’ і звужэннем семантыкі. Параўн. аналагічнае ўтварэнне (прыслоўе) у рус. арханг. *прини́чиво* ‘пільна (углядацца і пад.)’.

**Прыні́ць** (*прыні́ці*) ‘прымацоўваць паплёт паверх саломы’, *пры́ніца*, *праніца*, *прыні́цы* ‘паплёт (у страсе паверх саломы)’ (ТС; лун., столін., ЛА, 4). Падаецца, што можна прапанаваць два шляхі ўтварэння дзеяслова. Найбольш верагодны — вытворны адсубстантыўны: ад назоўнікаў *пры́ніца*, *праніца*, *прыні́цы*, якія ў сваю чаргу ўтварыліся як размоўныя другасныя карэляты першасных *пры́міца*, *праміца*, параўн. асабліва *прімні́ца* ‘паплёт (у страсе паверх саломы)’, гл. *пры́міна*. Другая магчымасць — семантычны перанос з аднačасовым сцяжэннем ткацкага тэрміна *прыні́ціць* ‘прывязаць кабылку ў ніце’ (брагін., Нар. сл.), прэфіксальнае да *ні́ціць* (гл.), у гэтым выпадку назоўнікі кшталту *пры́ніца* маюць аддзеяслоўнае паходжанне.

**Прыно́жак** ‘дэталь у калаўроце, на якую наступаюць нагой, каб прывесці ў рух кола’ (Скарбы), мн. л. *прыно́жкі* ‘планкі, якія злучаюць ніжнія часткі ножак стала’ (паст., Сл. ПЗБ). Суфіксальная лексікалізацыя словазлучэння *пры назе́*; параўн. аналагічнае, але з іншай семантыкай рус. дыял. *прино́жка* ‘перакладзіна, якая змацоўвае стойкі ткацкага станка’.

**Прыно́жыцца** ‘стаміцца пасля вялікага пераходу’ (чэрв., Жд. 3). Суфіксальная лексікалізацыя словазлучэння *прытаміць ногі*. Параўн. *прыдаро́жыцца* ‘здарожыцца’ (ад *даро́га*, гл.).

**Прыно́с**, мн. л. *прыно́сы* ‘падарункі’ (пух., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *принос* ‘ахвяра; прынашэнне’. Узыходзіць да прасл. **prinosъ* < **nositi* (*sę*) (гл. *насіць*, а таксама ЭССЯ, 25, 206—210; зрэшты, не выключана і іншая магчымасць, а менавіта: **prinosъ* < **nosъ*$_2$ з адпаведнай семантыкай, гл. ЭССЯ, там жа, 216). Ст.-слав.

**приносъ** ‘прынашэнне; ахвяра, дар; прыбытак, даход’, ст.-рус. *приносъ* ‘прынашэнне; ахвяра, дар; пасаг (?)’ (Сразн.), польск. *przynos*, балг. *при́нос*, рус. дыял. *прино́с* ‘у вясельным абрадзе — падарунак (нявесце, маладым, бацькам маладых)’, *прино́сный* ‘падораны’, укр. *при́нос* ‘падарунак; прынашэнне, ахвяраванне; ахвяра’, *прино́сини* ‘падарунак; прынашэнне’. Параўн. цікавае каш. *bradło* ‘пасаг’ з “адваротнай” семантыкай — ‘тое, што бяруць’ (SEK, 1, 138). Гл. таксама БЕР, 5, 726.

**Прыну́дзіць** ‘прымусіць’ (Ян.), *прынудзілавец* ‘хто працуе па прымусу’ (паст., Сл. ПЗБ), *загнаць у прыну́д* ‘прымусіць зайсці сілай’ (ТС), сюды ж дзеясловы з іншай семантыкай, адлюстраванай у *ну́дзіць* (гл.): *прыну́дзіць* ‘занудзіцца, зажурыцца’ (Ян.), *прыну́дзіцца* ‘тс’, *прыну́дзіць* ‘затхнуцца (пра рыбу)’ (ТС); таксама сюды ж аддзеяслоўныя субстантывы *прыну́да* ‘туга’ (ТС), *пріну́жа* ‘прынука, прымус’ (Бяльк.). Ст.-бел. *принудити* ‘прымусіць, загадаць’. Узыходзіць да прасл **prinuditi*, прэфіксальнага ўтварэння ад **nuditi* (*sę*). Ст.-слав. **приноудити** ‘прынудзіць’, ст.-рус. *принудити* ‘прымусіць, прынудзіць; загадаць; пераканаць; прызначыць’ (Сразн.), рус. *прину́дить* ‘прымусіць’, укр. *принуди́ти* ‘змучыць, змарыць тугою, смуткам’.

**Прыну́ка́ць**, ‘прымушаць, патрабаваць’ (Нас., Ласт., Байк. і Некр., ТСБМ), *пріну́кыць* ‘тс’ (Бяльк.). Сюды ж вытворныя назоўнікі *прыну́ка* ‘прымус, прымушэнне’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., Янк. БП), *пріну́ка* ‘тс’ (Бяльк.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *ну́ка́ць* (у ЭСБМ адсутнічае), параўн. *панука́ць* (гл.), якое, верагодна, праз *ну́ка́ць*, адносяць да ўзмацняльнай часціцы *ну* (гл.). Больш абгрунтаванай падаецца версія аб праславянскім характары адносін **nukati* (*sę*) і **nu* (ЭССЯ, 26, 30—32; 43—44). Прэфіксальныя ўтварэнні ўсходнеславянскага характару, параўн. рус. зах. *принука́ть* ‘прымушаць’, укр. *прину́кувати* ‘прымушаць, вымушаць’. Польск. *przynukać*, *przynuka*, верагодна, усходнеславянскія запазычанні (Брукнер, 352).

**Прынцыпа́л** ‘начальнік, гаспадар у адносінах да падначаленых’ (ТСБМ), *прынцыпа́лка* ‘завадатарка’ (Нас.), *прынцыпа́луха* ‘ахайны чалавек’ (Сіг.). Адзначаецца ўжо ў ст.-бел. з цікавым значэннем — *принципалъ* ‘завадатар якой-небудзь крымінальнай справы’. Запазычана са ст.-польск., сучаснае польск.

*pryncypał* ‘шэф, кіраўнік’, адтуль жа і ўкр. *принципáл* ‘гаспадар, начальнік; пра кіраўніка якой-небудзь установы, прадпрыемства’, што, у сваю чаргу, з лац. *principālis* ‘першы, галоўны, найважнейшы’ (ЕСУМ, 4, 575; Банькоўскі, 2, 806).

**Прынцэ́са** ‘сукенка з шырокімі фальбонамі’ (віл., Жд. 3). Пераноснае з *прынцэ́са* ‘тытул жонкі або дачкі прынца’, якое праз ням. *Prinzessin* з франц. *princesse* (Фасмер, 3, 365). Параўн. аналагічныя рус. дыял. *принцécса* ‘жаночая прыгожая доўгая сукенка (звычайна адразная, з расклёшанай ці складкаватай спадніцай, фальбонамі)’, *принцécс* ‘тс’, ‘сукенкі’.

**Прыню́шчыцца** ‘сцішыцца’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Верагодна, прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне з лагічным пашырэннем значэння да *ню́шчыць* ‘муркаць’ (гл.), якое Грынавяцкене (там жа) лічыць запазычаннем з літ. *niáukšẽti* ‘тс’.

**Прынясёнка** экспр. ‘падчарка’ (віл., Сл. ПЗБ). Суфіксальнае ўтварэнне ад *прынécці* з цікавым развіццём дзеяслоўнай семантыкі. Параўн. *прывядзёнка* (гл.).

**Прыня́ць**, зак. тр. *прыня́цца* ў розных значэннях ‘прыняць’ (ТСБМ), ‘з глыбокай уразлівасцю ўспрыняць што-небудзь’ (Жд. 2), сюды ж аддзеяслоўнае ўтварэнне *прыня́тае* ‘аплодненае яйцо’ (воран., ЛА, 1). Ст.-бел. *приняти* ‘атрымаць; узяць; авалодаць, заваяваць; прызнаць’, укр. *прийня́ти* ‘прыняць; прыняць, палічыць за што-небудзь; атрымаць, узяць; узяцца; зазнаць, перанесці, вытрымаць’, рус. *приня́ть*, параўн. з вялікім шэрагам значэнняў у гаворках. Узыходзіць да прасл. **prinęti*, прэфіксальнага ўтварэння ад прасл. **ęti* з больш позні́м *п-*, якое лічаць прэфіксальным, гл. *няць*.

**Прып** (*прiп*) ‘перадпечны выступ з цаглянай пляцоўкай’ (Нік. Очерки). Няясна. Відаць, з *пры́пек* ‘выступ печы’ (гл.) з адсячэннем фіналі слова, успрынятай у якасці памяншальнага суфікса *-ек*.

**Прыпавécтка** ‘дадатак да аповесці, апавядання; прымаўка’ (Нас.), *прыповесьць* ‘прытча’ (Ласт.), ст.-бел. *приповѣсть* ‘прымаўка’ (Ужэвіч, 1616, гл. Карскі, 2—3, 92), *приповесть, приповястка* ‘тс’, *приповясть* ‘прытча’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. *приповíстка, приповíсть* ‘прыказка, прымаўка; апавяданне; прытча’, *приповíдка* ‘прыказка, прымаўка’. Улічваючы фанетыку, магчыма, запазычана з польск. *przypowieść* ‘прытча, прымаўка’, па-

водле Банькоўскага (2, 946), ад *przypowiedzieć* 'расказаць з маральна-дыдактычным намерам'. Глухак (503) аналагічнае харв. *pripovijédati* 'расказваць' лічыць калькай лац. *praedicare*, што зусім не абавязкова пры наяўнасці **povědati* 'распавесці', параўн. таксама серб.-харв. *при̏повест* 'прымаўка', *prȉpovijetka* 'апавяданне, казка', славен. *pripovêdka* 'тс'; гл. Сной$_2$, 578.

**Прыпа́дак$_1$**, *прыпа́док*, *прыпа́дък*, *прiпа́дък*, *прiпа́дык* 'раптоўны прыступ якой-небудзь хваробы; падучая хвароба, эпілепсія' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.; мазыр., Нар. Гом.; брасл., шуміл., нараўл., Сл. ПЗБ, ЛА, 3), *прыпа́дык* 'тс', *прапа́дак* 'эпілепсія', мн. л. *прыпа́дкі*, *прыпа́ткі*, *прыпа́дкы*, *прыпа́ткы* 'тс' (Сл. ПЗБ, Мат. Маг., ЛА, 3), *прiпа́дык* 'прыпадак, прыступ эпілепсіі' (Бяльк.), *прыпа́дны* 'хворы на эпілепсію; халерык, істэрык' (Янк. 1), *пры́падзь* 'разнастайныя нервовыя прыпадкі, галоўнай прычынай якіх з'яўляецца спалох' (Шат.). Рус., укр. *припа́док* 'раптоўны прыступ хваробы; рэзкае, моцнае праяўленне чаго-небудзь', рус. дыял. 'істэрычная хвароба ў жанчын', 'хвароба; бяда; няшчасце'. Да *прыпада́ць, падаць* (гл.); дэрыват з суф. *-ак*, да семантыкі параўн. *падучая хвароба, падучка* (гл.). Параўн. Мяркулава, Этимология—1967, 164.

**Прыпа́дак$_2$**, *прыпа́док* 'выпадак; прыгода' (Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., Мат. Гом., ТС), са звужэннем семантыкі *прыпа́дак* 'страта' (шчуч., Сл. ПЗБ), *прыпа́дкам* 'выпадкова, нечакана' (Нас., Байк. і Некр.), *прыпа́дны* 'які як раз падыходзіць, выгадны' (Нас.), *прiпа́дым* 'выпадкам' (Бяльк.), *прыпа́дкамі* 'прыхваткамі' (паст., Сл. ПЗБ). Сюды ж рус. дыял. (у Літве і Латвіі) *припа́док* 'няўдалы выпадак, няшчасце', укр. *припа́док* 'выпадак', *припа́дком* 'выпадкова', польск. *przypadek* 'выпадак; выпадковасць', *przypadkiem* 'выпадкова', чэш. *případ* 'выпадак', славац. *prípad* 'выпадак, прыгода', в.-луж. *připad*, н.-луж. *pśipad* 'тс'. Арэальнае ўтварэнне ад *прыпасці, прыпадаць* 'выпадаць, здарацца', параўн. ст.-бел. *припалый* 'які здарыўся, адбыўся' (Ст.-бел. лексікон), якое, паводле прынятай версіі (Шустар-Шэўц, 2, 1178; Банькоўскі, 2, 943), калькуе лац. *casus*, ням. *Zufall* 'тс'. Паводле Кюнэ (Poln., 90), беларускае слова запазычана з польскай.

**Прыпада́ць$_1$** 'нізка нахіляцца, апускацца; прыціскацца', 'даставацца, выпасці каму-небудзь; здарыцца, аказацца', 'прыйсці-

ся' (ТСБМ, ТС), 'апускацца' (ТС), 'спадабацца на смак' (паст., Сл. ПЗБ), 'здарацца, выпадаць' (Бяльк.). Рус. *припада́ть* 'прыхіляцца, прыціскацца; нахіляцца', 'здарацца, адбывацца', 'нечакана з'яўляцца', 'шчыльна прылягаць', 'кульгаць' і да т. п., укр. *припада́ти* 'падаць, класціся на што-небудзь', 'нахіляцца', 'падыходзіць; пасаваць', 'кульгаць', ст.-рус. *прыпадати* 'схіляцца, прыгінацца', 'падаць, здыхаць', польск. *przypadać* 'прытуляцца', 'пазбягаць, падскокваць', 'здарацца', чэш. *připadati* 'прыходзіцца (на долю); наставаць', славац. *pripadat'* 'прыходзіцца; прыпадаць (на долю)', в.-луж. *připadać* 'прыналежаць; прыходзіцца', серб.-харв. *при́падати* 'належаць; даставацца на долю', 'прыхіляць, прыціскаць', славен. *pripádati* 'даставацца на долю'; 'належаць', балг. *припа́дам* 'схіляцца, падаць', 'страчваць прытомнасць'. Прасл. **pripadati* з першасным значэннем 'упасці да ног', захаваным у ст.-слав. **припасти** (Сной$_2$, 577). Прэфіксальны дэрыват ад **padati*.

**Прыпада́ць$_2$** 'прыставаць (пра хваробу)' (смарг., Сл. ПЗБ). Рус. дыял. з Латвіі і Літвы *припада́ть* 'хварэць, хілець', польск. *przypadłość* 'хвароба, недамаганне'. Да *прыпада́ць$_1$*; параўн. Мяркулава, Этимология—1967, 164. Параўн. яшчэ рус. *пасть* (аб скаціне) 'здохнуць'.

**Прыпа́дзісты$_1$**, *прыпа́дістая* 'аб зямлі — неўраджайнае поле з мноствам ям' (Выг. дыс.). Рус. смал., цвяр. *припа́дливый* 'зацвярдзелы (пра зямлю, глебу)', кур. *припа́дный* 'тс'. Да *прыпада́ць$_1$* (гл.) у значэнні 'шчыльна прылягаць', параўн. таксама *прыпадзь$_2$* (гл.).

**Прыпа́дзісты$_2$** 'прыземісты' (чэрв., Сл. ПЗБ). Укр. *припа́дистий* 'пакаты, спадзісты', *припа́дливий* 'нізінны'. Да *прыпада́ць$_1$* (гл.).

**Пры́падзь$_1$** 'закалец — сыры, недапечаны слой хлеба каля ніжняй скарынкі, які ўзнікае пры неналежным выпяканні', *пры́падлівы* 'з закальцам, як бы трохі прылеплены да поду' (Нас.). Магчыма, перанос значэння з наступнага слова — 'сыры слой у хлебе, як глей', але не выключана і незалежнае ўтварэнне ад *прыпада́ць* з семантычнай матывацыяй: 'нізкі; які не падняўся; злеглы' і да т. п.

**Пры́падзь$_2$** 'слой глеістай зямлі; падзол' (Нас., Байк. і Некр., Варл.), *пры́падлівы* 'глеісты, з падзолам' (Нас.), *прыпа́длівый*

‘вільготны, злеглы (аб зямлі)’ (Бяльк.). Рус. зах. *прúпадь* ‘падзолістая глеба’, смал., цвяр. *припáдливый* ‘зацвярдзелы (пра зямлю, глебу)’, укр. *прúпадь* ‘нізіннае месца; чарназём з гразкай глінай’, *припáдливий* ‘нізінны’. Да *прыпадаць₁* ‘нахіляцца, прыціскацца’, ‘шчыльна прылягаць’.

**Пры́пазна** (*пры́пызна*, *прі́пызна*) ‘позна, пазнавата’ (Бяльк.). Рус. смал. *прúпоздно* ‘надта позна’. Да *позні*, *позна* з прыстаўкай *пры-* (гл.), што перадае непаўнату прыметы дзеяння.

**Прыпáлы** ‘які прыспеў нечакана’ (Нас.). Да *прыпадаць₁* ‘нечакана з’яўляцца’ (гл.).

**Пры́пáл** ‘прыпол’ (астрав., ашм., Сл. ПЗБ). Гл. *прыпóл*.

**Прыпаласíсты** ‘паласаты’ (лід., Сл. ПЗБ). Рус. карэл. *приполóсица* ‘папярочная нітка на дарожцы, тканай з ануч’. Ад *пры-* і *паласá* (гл.).

**Прыпалёўваць** ‘прымацоўваць’ (пух., Сл. ПЗБ). Да *паляваць₂*, *палёваць* ‘тармазіць калком хвост плыта’ (гл.), аднак з больш дакладнай перадачай семантыкі польск. *palować* ‘забяспечваць калкамі; падвязваць (расліны)’. Гл. яшчэ *пáля*.

**Пры́паль** ‘прыпаленае, падпаленае месца; рэч з прыпаленага матэрыялу’ (Нас.). Аддзеяслоўны дэрыват ад *прыпаліць* < *паліць*.

**Прыпамінáць** ‘напамінаць’ (Яруш.), *прыпáмятаць* ‘прыпомніць’ (ТС), *прíпамíн* ‘успамін, згадка’, *прыпамíнка* ‘ўспамін, памятка’ (Бяльк.), *прыпáмятка* ‘знак на памяць’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Яруш.). Дэрываты ад *пáмятаць* (гл. *памяць*), *пóмніць*.

***Пры́панач,** *пры́понач* ‘на світанні або змярканні’ (Клім.). Да *пóнач*, *пóначы* (гл.).

**Пры́пáр₁**, *пры́пыр*, *прíпър*, *прíпыр* ‘душная гарачыня, спякота ў паветры ад сонца; напружаная летняя праца ў полі (у час касьбы, жніва)’ (ТСБМ, Нік. Очерки, Шн. 2, Ласт., Касп., Хрэст. дыял., Сл. ПЗБ; міёр., Жыв. НС; полац., ушац., беш., віц., гарад., леп., ЛА, 2; в.-дзв., рас., полац., беш., барыс., акц., ЛА, 3), *збіць пры́пар* ‘парабіць амаль усю работу’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *прыпáрка* ‘гарачае вільготнае надвор’е’ (Раст.), *прíпáр* ‘тс’ (Бяльк.), вытворныя *прыпáрніца*, *пры́парніца*, *прíпырніца*, *пры́парка* ‘пара збору ўраджаю; самы спякотны час летняй працы, калі больш за ўсё парыць’ (Нік. Очерки, Касп.; брасл., красл., Сл. ПЗБ; полац.,

сен., ЛА, 3), *прыпарнік, прыпарніца* 'той (тая), хто нанімаецца на працу на час напружанай летняй працы ў полі' (Нік. Очерки). Параўн. рус дыял. *припáр, припáрина, припáрка* 'гарачае надвор'е пасля дажджу; прыпарка'. Дэрываты ад *прыпáрыць* < *пáрыць* (гл.).

**Прыпáр₂** 'папар' (Ян.) Параўн. рус. арханг. *пропáрить* 'пакінуць пад папар (пра зямлю)'. Гл. *папáр.*

**Пры́парамак**, *пры́паромок, прíпорóмок* 'прыстань, прычал для парома; паром, зроблены, як лодка' (Ласт.; карэліц., петрык., З нар. сл.; Маслен., ТС). Рус. *припарóмок* 'невялікі паром на дзвюх лодках'; 'прыстань для парома'. Конфікснае *пры-* + *-ак* утварэнне ад *паром* (гл.).

**Прыпáс** 'тое, што прыпасена; прыпасы; сродак самаабароны (зброя і пад.)' (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., ТС), мн. л. *прыпáсы* 'запасы' (вільн., Сл. ПЗБ). Рус. *прúпáс, припáсы* 'запас; прыпасы', дыял. 'маёмасць, каштоўнасць'. Дэрыват з нулявым суфіксам ад *прыпасáць,* гл. *запáс.*

**Прыпáсак** 'падпасак' (брасл., Сл. ПЗБ), *прыпáсач, прыпáсыч* 'тс' (ТС, Сл. Брэс., ЛА, 1). Рус. пск., цвяр. *припáсок* 'тс', укр. *припасáти* 'пасвіць'. Дэрыват з суфіксам *-ак* ад **прыпасáць* або ад *падпáсак* з заменай прыстаўкі *под-* на *пры-*.

**Прыпасáцца** 'прызвычаіцца' (брасл., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, да *пасавáць* (гл.).

**Прыпасáць** 'падперазаць; завязаць (фартух)' (Сл. ПЗБ; іўеў., ЛА, 4). Да *пас* (гл.).

**Пры́пахань** 'здабытак' (ТС). Да *пахáць* 'разводзіць, атрымліваць' (ТС). Сюды ж, безумоўна, ст.-бел. (зямля) *на пры́паш* 'зямля, якую можна дадаць да раллі, што ўжо апрацоўваецца' (Даўгяла, Наш край, 1927, 1, 26). Рус. дыял. *припáх, прúпашь, припáшек* 'дадатковы (да надзелу) участак зямлі; прыараны да поля ўчастак цаліны'. Дэрываты ад **прыпахаць* 'прыараць' < *пахаць* (гл.) з рознымі суфіксамі: *-ань* (гл. аб гэтым суф. Карскі 2—3, 27), *-ь* (*прыпаш*).

**Пры́пéк**, *прíпік, пры́пяк, пры́пык* 'месца, пляцоўка перад чалеснікамі печы'; 'выступ печы або дашчаны насціл каля печы, на якім можна сядзець або ставіць што-небудзь; прымурак' (ТСБМ, Касп., Яруш., Бяльк., Дразд., Нік. Очерки, Сл. ПЗБ, ТС, ПСл, Шушк.). Рус. смал. *прúпек* 'лава каля печы; прыпек', укр.

*припек* 'прыпек; ляжанка'. Слова ўзнікла ў выніку зваротнай дэрывацыі ад *пры́печ*, *прыпе́чак* з узнаўленнем этымалагічнага зычнага *-к-*, магчыма, не без ўплыву слова *прыпёк₂* (гл.).

**Пры́пень** 'гульня з манетамі, якімі б'юць аб сцяну' (Ваўр.). Ад *прыпя́ць* 'дацягнуцца пядзяй да чужой манеты', гл. *пяць, пну*.

**Прыпе́таваць** 'біць, калаціць да смерці' (Нас.), *пры́петка* 'заклёпка' (Ласт.) Гл. *пе́таваць*.

**Прыпе́ўка** 'частушка' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Сцяшк. МГ.; швянч., Сл. ПЗБ, ТС), *пры́пывка* 'тс' (драг., Сл. ПЗБ), *прыпява́йка* 'тс' (Ян.), мн. л. *пры́пеўні* 'прыпевы' (Пал., Растарг.); сюды ж перан. мн. л. *прыпе́ўкі* 'разнастайныя клопаты, выдаткі і іншыя дробязі' (Нас.), якое разам са смал. *припе́вок* 'дадатковыя клопаты, выдаткі, работа' ўтварае выразна акрэсленую ізаглосу. Рус. *припе́вка, припе́вок* 'прыпеў, прыпеўка', польск. *przypiewek* 'тс', серб.-харв. *при̏пе̑вка* 'прыпеўка'. Ад **прыпяваць*, параўн. *жыць прыпяваючы* 'добра жыць, не мець праблем'. Да *пець* (гл.).

**Пры́печ₁**, *пр́іпечь, пры́печак, пры́пэчэк, пры́пэчка, прэ́пічок, пр́іпачак, пры́печча, пры́пяшнік* 'прыпек', 'выемка для вуголля, попелу ў печы' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., Янк. 1, Янк. 2, Ян., Стан., Растарг., Шат., ЛА, 4). Рус. *при́печь, припе́чек, припе́чье* ў аналагічных значэннях, укр. *припі́чок* 'прыпек; ляжанка на печы', польск. *przypiecek* 'ляжанка на печы'. Прэфіксальная (*пры́печ*) і конфіксныя (*пры́печак* і пад.) дэрываты ад *печ* (гл.).

**Пры́печ₂** 'пясчаныя берагі; пляж' (Жучк., Стан.), 'пясчаны спадзісты бераг', 'пясчаны нанос каля берага ракі' (Яшк.); відаць, сюды ж *прыпі́чак* 'тоня (участак вадаёма)' (віл., Сл. ПЗБ), *пры́печок* 'абрыў' (ТС), 'выступ (не абавязкова каля печы)' (Ян.). Рус. пск. *при́печь* 'пясчаны бераг ракі (без расліннасці)', 'пясчаны нанос', волжск. 'уступ, прыпечак на дне ракі ўздоўж берага'. Этымалагічна тое ж, што і *прыпеч₁*, першапачаткова 'абрыў, спадзісты бераг у выглядзе прыпечка'. Інакш Куркіна (Этимология—1985, 15), якая лічыць, што ў падобных утварэннях, параўн. яшчэ рус. *опе́чь* 'пясчаная мель у рацэ', *опе́чек* 'вал пяску, каменняў, намыты вадой', захоўваецца першапачатковае

значэнне **pektь* ‘скала, камень’ (гл. *печ*, *пячына*), бо прымітыўная печ мела форму ачага, складзенага з каменняў.

**Прыпё́к**$_1$ ‘прыбаўка вагі хлеба пасля выпечкі ў параўнанні з вагой затрачанай на яго мукі’ (ТСБМ, Стан.). Рус. *припёк* ‘тс’. Нулявы дэрыват ад дзеяслова *прыпякаць* < *пячы* (гл.), дзе *пры-* мае значэнне прыбаўлення, параўн. з адваротным значэннем рус. *припека́ть* ‘патраціць усю муку на выпечку’, гл. Чарныш, Слов. лексика, 49.

**Прыпё́к**$_2$ ‘моцная спёка, гарачыня ад сонца’ (ТСБМ). Рус. *припёк* ‘тс’, польск. *przypiek*, серб.-харв. *при̏пека* ‘тс’, балг. *при́пек* ‘месца, дзе моцна пячэ сонца’, макед. *припек* ‘тс’, *припека* ‘сонцапёк, гарачыня’. Гл. папярэдняе слова.

**Прыпё́ка** ‘рэдкі тварог са смятанай’; ‘тоўчаная бульба са смятанай, з маслам, з салам, з яйкамі’; ‘чыстая смятана’; ‘тоўчаны мак, каноплі, намазаныя тонкім слоем на сачэнь’ (Нік. Очерки), таксама *прыпека́нікі* ‘дранікі’ (шуміл., Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *припёк*, *припёка* ‘праснак, дранік, булачка, якую выпякаюць на велікодным тыдні’; ‘дробныя ячныя крупы ці мак, яйкі, якімі пасыпаюць печыва, аладкі, блінцы’. Нулявы дэрыват ад дзеяслова *прыпякаць* (гл. *пячы*) з тэматычным *-а-*. Паводле Чарныш (Слов. лексика, 88), арэальнае руска-беларускае ўтварэнне для абазначэння розных начынак, пасыпак і г. д.

**Прыпё́лак** ‘прыпечак’ (пух., Жд. 2). Няясна. Магчыма, вынік кантамінацыі *прыпе́чак* і *пяко́лак* (гл.) (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.).

**Прыпіва́ць** ‘перад тым, як выпіць чарку, жадаць здароўя суседу, які будзе піць наступным’ (астрав., Сл. ПЗБ). Укр. *припива́ти* ‘пры частаванні чаркай крыху адпіваць з яе’, польск. *przypijać* ‘чокацца з кім-небудзь’, чэш. *připitek* ‘тост’. Незак. тр. да *прыпіць* < *піць* (гл.); магчыма, семантычнае запазычанне з польскай мовы.

**Прыпіна́ць**$_1$, незак. тр. да *прыпяць* ‘прыхіліць; прымацаваць; зачыніць’ (ТСБМ) < *пяць*, *пну* (гл.). Сюды ж *прыпіна́нне* ‘прывязванне’ (Байк. і Некр.), *прыпіна́цца* ‘прыціскацца’ (тамсама). Укр. *припи́ночка* ‘вяроўка, якой прывязваюць жывёлу на пашы’.

**Прыпіна́ць**$_2$ ‘настойваць узяцца за што-небудзь’; ‘папракаць, упікаць, рабіць вымовы’ (Нас., Байк. і Некр.; шальч., Сл.

ПЗБ), сюды ж назоўнікі *прыпіна́нне* 'выгаворванне, упіканне' (Нас., Байк. і Некр. ), *прыпі́нкі* 'папрокі' (Нас.). Рус. кур. *припина́ть* 'прыгнятаць, уціскаць', укр. *припина́тися* 'чапляцца з чым-небудзь да кагосьці'. Пераноснае значэнне дзеяслова *прыпінаць₁* (гл. папярэдняе слова); несумненна, паўплывала і семантыка дзеяслова *ў́пікаць* (гл.).

**Прыпі́нда́** 'фартух' (Нас., ТС), укр. *припинда́* 'фартух', 'хлеўчык, прыбудаваны да памяшкання'. Несумненна, да *прыпіна́ць₁* (гл.), фіналь надае слову іранічна-экспрэсіўнае адценне (гл. ЕСУМ, 4, 575).

**Прыпі́лішча** 'нагляд' (ваўк., Арх. Федар.). Да *пільна́ваць*, *пі́льны* (гл.).

**Прыпіля́ць**, *прыпілю́каць* 'частым падахвочваннем прымусіць прыняцца за справу' (Нас.). Параўн. рус. калуж. *припили́ть* 'моцна насварыцца на некага'. Польск. *przypilić* 'падахвоціць некага рабіць нешта', *przypilować* 'пастарацца, прыкласці старанне', што да ст.-польск. *pila* 'стараннасць, дбанне', чэш. *píle* 'тс', Банькоўскі (2, 579) звязвае з *piła* 'напільнік' і цяжкасцю апрацоўкі прылад з каменя, крэменя, рога. Да *прыпілі́ць*, *прыпілава́ць* у пераносным значэнні, гл. *пілава́ць* 'лаяць, данімаць', а таксама *пілявы, пілі́ць, пі́льны.*

**Прыпі́рак** 'прыстанак, прыстанішча' (Янк. 2). Суфіксальны дэрыват ад *прыпіра́ць* (гл. *пе́рці*).

**Прыпла́віць** 'прыгнаць па вадзе' (ТС). Рус. дыял. *припла́вить* 'тс', *при́плавь* 'нешта прыбітае да берага, выкінутае вадой', укр. *при́плав* 'прыстань', чэш. *připlaviti* 'прынесці плынню, хваляй; сплавіць па рацэ'. Да *плавіць₁*.

**Прыпла́нак** 'дадатак да прысядзібнага ўчастка, які размешчаны воддаль' (Ян.). Укр. *плано́к* 'участак зямлі ў шэсць дзесяцін'. Да *план* 'сядзіба, участак'. Параўн. рус. *планировать* 'межаваць зямлю па плану'.

**Прыпла́ч** 'галашэнне па нябожчыку' (віл., Жыв. сл.). Рус. *прыпла́чка* 'абрадавы вясельны плач'. Утварэнне ад **прыплакваць* < *плакаць* з суф. *-jь*; аб суфіксацыі гл. Карскі, 2—3, 23. Параўн. таксама рус. дыял. *припла́кивать* 'выконваць абрадавыя песні-галашэнні (на вяселлях, пахаваннях), галасіць', укр. *припла́кувати* 'плакаць над кім-, чым-небудзь, аплакваць', *припла́кування* 'плач, галашэнне'.

**Прыпло́д** ‘нованароджанае патомства (пераважна свойскіх жывёл або жывёл, якія маюць гаспадарчае значэнне); прырост у свойскіх жывёл’ (ТСБМ, ТС), ‘пазашлюбнае дзіця’ (Сл. ПЗБ), *на прыпло́дак* ‘на развод’ (Нар. Гом.). Рус. *припло́д* ‘нованароджанае патомства, прырост у свойскіх жывёл’, дыял. *припло́док* ‘дзіцяня жывёлы’, укр. *приплі́д, приплі́док* ‘прыплод’, польск. *przypłodek* ‘тс’. Вытворныя з нулявым суфіксам і суфіксам *-ак* ад **прыпладзіць* < *пладзіць* < *плод* (гл.).

**Прыплуга́ніцца** ‘прывалачыся’ (Жд.). Укр. *приплуга́нитися* ‘тс’. Да *плуг* (гл.), першапачаткова, відаць, ‘цягнуць плуг’.

**Прыплута́цца**, *прыплу́тацца* ‘прыблукацца; прыплесціся’ (Нас., Байк. і Некр.). Гл. *плута́ць*.

**Пры́плыў** ‘смецце, якое вада прыбівае да берага’ (чэрв., Нар. лекс.), *пры́плаўка*, *пры́плаўнік* ‘смецце, якое засталося на беразе пасля паводкі’ (ТС), *прі́пла́ўнік* ‘тое, што вада прыбівае да берагоў у час паводкі’ (жыт., Нар. словатв.), *пры́плаўнік* перан. ‘перасяленец’ (ТС). Да *прыплыва́ць*. Аналагічныя назоўнікі ёсць і ў іншых славянскіх мовах, параўн. рус. *приплы́в* ‘нешта прыбітае да берага, выкінутае вадой’, укр. *припли́в* ‘прыліў’.

**Пры́плюх**, *прыплю́х* ‘пакатая (пахілая) страха’ (Нар. сл.; лях., івац., ЛА, 4). Да *прыплю́снуць*, **прыплю́хнуць* (гл. *плю́снуць*).

**Прыплянта́цца** ‘прыстаць; прыблукаць’ (пух., Сл. ПЗБ). Гл. *плёнтацца* ‘блытацца, цягацца’.

**Прыпо́ведзь** ‘прымаўка’ (трак., Сл. ПЗБ). Прымаючы пад увагу націск, магчыма, з польск. *przypowiedź* ‘тс’; аднак параўн. чэш. *připověd’* ‘абяцанне’, серб.-харв. *при̏повед* ‘аповесць, аповед’, славен. *pripọ̑ved* ‘тс’, якія ўзыходзяць да **povědati* ‘расказаць’ (Сной$_2$, 578), што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **pripovědь*, **pripovědъ*. Гл. *ве́даць*.

**Прыпо́й** ‘ільдзіна, якая прыбілася да берага’ (навагр., Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *припо́й* ‘лядовы прыпай’, укр. *припа́й* ‘крыга, якая моцна прымерзла да берагоў’. Нулявы дэрыват ад *прыпаяць* < *паяць* (гл.) з чаргаваннем галосных у корані.

**Прыпо́л** ‘ніжні пярэдні край сукенкі, кашулі’ (ТСБМ, Мік., Мядзв., Шн. 2, Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бяльк., Растарг.; чэрв., Сл. ПЗБ; ТС), перан. ‘калені’ (віл., іўеў., чэрв., Сл. ПЗБ), *прыпо́лле* ‘прыпол’ (Гарэц., Байк. і Некр.; Мат. Гом.), *пры́пал* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), сюды ж лексемы, якія працягваюць адзначаную

семантыку: *прыпо́л*, *прыпо́лле* ‘аб’ём таго, што можна пакласці ў прыпол ці фартух’ (Нас.), ‘мера пры куплі-продажы’ (Інстр. 3). Рус. *при́по́л* ‘крысо адзення; падол’, ‘крысо адзення, падол, у які што-небудзь пакладзена’, *припо́л* ‘колькасць чаго-небудзь, якая змяшчаецца ў падоле’, укр. *припі́л* ‘полка ці крысо адзення, згорнутыя такім чынам, каб у іх можна было пакласці што-небудзь’, польск. *przypole* ‘фартух’. Ад *пры-* і *пала́*, гл. Першапачаткова *прыпо́л*, магчыма, абазначаў пярэдняе палотнішча спадніцы, калі яе рабілі з чатырох нашытых частак, накшталт *панёвы*; гл., напрыклад, Малчанава, Мат. культ., 140 і наст. Гэта была частка, якая знаходзілася *пры по́лах* і выкарыстоўвалася, калі ў яе трэба было пакласці што-небудзь; адсюль і пазнейшыя пераносныя значэнні.

**Прыпо́л$_2$** ‘частка сахі, перакладная паліца’ (Др.-Падб., Гарэц.), *прыпо́лак* ‘паліца ў сасе’ (Бяльк.; вільн., узд., Сл. ПЗБ), *пріпо́лок* ‘тс’ (петрык., ельск., Маш., Выг.). Рус. смал. *припо́лок* ‘невялікая паліца; палічка ў сасе для лепшага адвалу зямлі’. Утварэнне ад *паліца* (гл.) з адсячэннем суф. *-іца*.

**Прыпо́лак** ‘дошка гарбыль’ (Шат.).Укр. *припо́лок* ‘дошка-аснова каля печы, на якой ляжаць дошкі падлогі’. Параўн. *апо́лак*.

**Прыпо́н** ‘вяроўка, папруга для прывязвання жывёлы’ (ТСБМ, ТС), ‘канавязь’ (Байк. і Некр.), *прыпуо́н* ‘кол ці металічны стрыжань, да якога прывязваюць жывёлін’ (беласт., Сл. ПЗБ), *прыпо́н* ‘кароткі раменьчык на поясе, на якім вісіць нож’ (Маш.), ‘забарона’ (ТС), *прыпу́на* ‘мера стрымлівання’ (кам., Жыв. сл.). Рус. дыял. *припо́н* ‘торба з аўсом, якую надзяваюць на храпу каня’, укр. *припі́н, припо́на* ‘вяроўка, якой прывязваюць жывёлу на пашы’; ‘перашкода’, польск. *przypon* ‘павадок’, серб.-харв. *при́пон* ‘доўгая вяроўка, на якую навязваюць каня для пасьбы’, балг. *при́пун* ‘доўгая вяроўка для прывязвання снапоў або сена на возе; папруга для прывязвання жывёлы, якую падкоўваюць’. Прасл. **priponъ*, аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **pripęti* з чаргаваннем галосных (БЕР, 5, 731), гл. *прыпінаць*, да *пяць, пну*. Параўн. *запан* (гл.). Гл. таксама Мяркулава, Этимология—1963, 16.

**Прыпо́рацца** ‘справіцца, управіцца з гаспадаркай’ (Мат. Гом., Ян.), *прыпо́равацца* ‘тс’ (рэч., Нар. сл.). Рус. дан. *припо́раться* ‘прыбрацца’. Гл. *по́рацца*.

**Прыпо́рыска** (*прыпо́рыско*) ‘прыстанішча, прытулак’ (гродз., Жыв. сл.). З польск. *przyporzysko* ‘тс’, ад *przyprzeć, przypierać* ‘цесна прылягаць; прытуляцца’.

**Прыпра́віць** ‘пакласці прыправу; дадаць што-небудзь; прыладзіць, прымацаваць’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), ‘прыгатаваць’ (шальч., Сл. ПЗБ), *прыпра́ўка* ‘прыробка; прыладжванне, прымацоўванне’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), ст.-бел. *прыправити* ‘падрыхтаваць, зрабіць’. Рус. *приправля́ть, припра́вить* ‘дадаваць (у ежу)’; ‘выконваць разнастайныя работы па гаспадарцы’; ‘майстраваць, прыладжваць’, укр. *припра́вити* ‘прымацаваць, прыладзіць’; ‘прыправіць’, польск. *przyprawić* ‘прыладзіць, прымацаваць; прыправіць ежу’, чэш. *připraviti* ‘падрыхтаваць; уладкаваць’, славац. *pripravit’* ‘тс’, серб.-харв. *припра́вити,* славен. *pripraviti* ‘тс’, балг. *припра́вям* ‘дадаваць (у ежу)’. Прыставачны дэрыват ад **praviti*, гл. *пра́віць₁*, г. зн. ‘падрыхтоўваць як належыць’. Усходнеславянскія і польскія значэнні агульнаславянскага дзеяслова семантычна проціпастаўлены паўднёваславянскім і славацкаму.

**Прыпра́дак** ‘нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў’ (рас., Шатал.). Рус. наўг. *припря́дки* ‘месца злучэння парванай ніткі ў пражы, брак’. Да *прыпра́сці, прыпраду́* < *пра́сці* (гл.).

**Пры́прат** ‘спрат, схovань’ (навагр., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад **прыпратаць* < *пратаць* (гл.). Параўн. *спрат* (гл.).

**Прыпро́с** ‘запрашэнне’: *без прыпросу з’яжджаліся госці* (Стан.). Нулявы дэрыват ад *прыпрасі́ць* < *прасі́ць*.

***Прыпро́хуваць**, *прыпро́хуваты* ‘частаваць’ (драг., Клім.). Укр. *припро́хувати, припроха́ти* ‘ўпрошваць, упрасіць, угаварыць; частаваць, пачаставаць’. Гл. *праха́ць*.

**Прыпрэ́жка**, *пры́пражка* ‘далучэнне да раней запрэжаных жывёл’; від запрэжкі каня: збоку ад аглабель для дапамогі караннiку; прыпражны конь’ (Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., ТСБМ; віл., Сл. ПЗБ), *прыпрэ́жный* ‘прыпражны’ (Бяльк.). Да *прыпрагаць*, прэфіксальнага дзеяслова ад прасл. **pręgǫ, pręgti* (гл. *упрэ́гці*). Аналагічныя вытворныя і ў іншых славянскіх мовах, параўн. рус. дыял. *припря́жный* ‘прыпражны’, укр. *припря́жений* ‘тс.

**Прыпу́ннік** ‘прыбудова да пуні’ (Касп., Інстр. 2), Тв. скл. *припунькoм* ‘камора ў пуні’ (Анім. дад.). Рус. дыял. зах. *припу́н-*

*ник* ‘прыбудова да хаты, пуні для дроў, мякіны і да т. п.’. Конфікснае *пры-* + *-нік* утварэнне ад *пуня* (гл.) або ад прыметніка **прыпунны* з суфіксам *-ік*.

**Прыпуска́ч** ‘кіёк, адзін канец якога ўсаджаны ў дзірку навоя і не дае навою круціцца’ (в.-дзв., Шатал.), *прыпускнік* ‘доўгая палка, якой нацягваюць ніткі асновы’ (віл., Жд. 1), *прыпу́снік*, *пріпу́снік*, *прыпу́сьнік*, *прыпуска́льнік*, *прыпушча́льнік* ‘кій (клін), які ўтрымлівае кола (пярэдняга) задняга навоя’ (Нік. Очерки, Касп., Сл. ПЗБ; ушац., леп., чашн., гарад., ЛА, 4). Параўн. рус. наўг. *припуска́ть* ‘намотваць палатно на пярэдні вал (пры тканні)’, укр. *припуща́льник* ‘шасцярня ў коле пярэдняга навоя ў кроснах’. Вытворныя з рознымі суфіксамі ад *прыпуска́ць* < *пуска́ць*.

**Прыпу́тнік**, *трыпу́тнік* ‘падарожнік, Plantago major, Plantago lanceolata’ (Мядзв., Яруш.). Рус. *припу́тник*, укр. *при́путень* ‘тс’. Дэрыват ад прыметніка **прыпу́тны* ‘той, які расце пры дарозе’. Да *пуць* (гл.). Параўн. *трыпу́тнік* (гл.).

**Прыпу́чыць$_1$**, *прыпу́чваць* ‘рабіць застрэшак з пучкоў’ (ТС). Да *пук, пучо́к* (гл.).

**Прыпу́чыць$_2$** (*прыпу́чыты*) ‘прыбіць, утрамбаваць размашыстымі ўдарамі’ (драг., З нар. сл.). З *пры-пу́чыць*, дзе *пучыць* узыходзіць да *пу́каць(ца)* (гл.).

**Пры́пха** ‘папіхіч’ (ТС). З **pri-ръха*? Да *пхаць* (гл.).

**Прыпы́лены** ‘пакрыты тонкім слоем пылу’ (ТСБМ), перан. *прыпу́лены* ‘прыдуркаваты’ (ТС). Ад *прыпыліць* (*прыпуліць*) ‘прысыпаць, прыцерушыць’ (ТС). Да *пыл* (гл.). Апошняе значэнне адпавядае рус. разм. *припы́ленный* ‘тс’, якое кандэнсуе фразеалагізм *пыльным мешком по голове ударенный.*

**Прыпы́нак**, *прыпу́нок* ‘месца спынення транспарту’ (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., ТСБМ, ТС), *прыпы́н* ‘прыстанішча’ (Ласт.), *прыпу́н* ‘прытулак, прыстанішча’; ‘перапынак’ (ТС), *прыпы́ніска* ‘прыстанак’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Дэрываты з рознымі суфіксамі ад *прыпыніць* (гл.), параўн. укр. *припи́н, при́пинка* ‘перапынак, затрымка; прыпынак’.

**Прыпыні́ць**, *прыпуні́ць* ‘спыніць рух на некаторы час; перастаць рабіць што-небудзь’; ‘даць прыпынак, прытулак, схованку’ (ТСБМ, Яруш., ТС), *пріпыніті* ‘спыніць, абразуміць’ (Бес.). Прэфіксальны дзеяслоў з коранем *пін-* (гл. *пну*, *пяць*). Аб змяненні *і* > *ы* ў корані гл. *апыну́цца*.

9. Зак. 1697.

**Прыра́да** ‘прыбор; камплект, набор прадметаў; дапаможнае прыстасаванне, прылада’ (Нік. Очерки, Стан.). З польск. *przyrząd* ‘прыбор, прыстасаванне’, афармленага па тыпу *прыла́да* ‘тс’.

**Прырака́ць** ‘абяцаць; прадвяшчаць’ (Нас., Ласт.), *прырачо́ны* ‘абяцаны’ (Ласт.), *прірíка́ньня* ‘прадказванне’ (Бяльк.), ст.-бел. *приречи* ‘абяцаць, абнадзеіць, сказаць, памянуць’. Укр. *приріка́ти* ‘прадвяшчаць, абяцаць’. Хутчэй за ўсё, з польск. *przyrzekać* ‘абяцаць’, *przyrzeczony* ‘абяцаны’. Гл. *рэкнуць*.

**Прыра́мак** ‘каўнер’ (Юрч.), ‘пагон (наплечны знак адрознення)’, *прыра́мка* ‘наплечнае ўпрыгожванне ад каўнера да рукава’ (ашм., Стан.), *прыра́мкі* ‘кавалкі палатна, якія падшываюцца пад плечы ў сарочках’ (смарг., Шатал.), ‘палоскі, накладкі на плячах мужчынскай кашулі’ (Ян.), *прыра́мык* ‘істужка палатна, нашытая наперадзе у рубашцы, у якой праразаюцца петлі для зашпільвання’ (Бяльк.). Гл. *ра́ме*, *рамяно́* ‘плячо’.

**Прыра́нак** ‘накладка на прарэху ў штанах’ (навагр., Сцяшк.), *прыра́нкі* ‘кавалкі палатна, якія падшываюцца пад плечы ў сарочках’ (брагін., Шатал.). Відаць, да *прыра́мак* з субстытуцыяй *н* < *м* у выніку дээтымалагізацыі.

**Пры́раўкамі** ‘прыхваткамі’ (глыб., Сл. ПЗБ). Гл. *прырыі́ўкамі*.

**Прыро́бка** ‘тое, што прыроблена’ (Ласт., Байк. і Некр.), *пры́ро́бка, пры́роб, прыро́бок* ‘прыбудоўка да хаты або хлява’ (Шушк., ТС), *пры́робка* ‘ўзор на канцы ручніка’ (ТС), сюды ж з іншай семантыкай *прыро́бак* ‘дадатковы, пабочны заробак’ (ТСБМ). Ад *прырабіць (прыробіць)* ‘далучыць, дабудаваць’, а таксама ‘начараваць’ (ТС), гл. *рабіць*.

**Прыро́вак** ‘балоцісты бераг рова’ (паст., Сл. ПЗБ), *прыра́вак* ‘рукаў рова’ (Бяльк.). Конфіксны *пры-* + *-ак* дэрыват ад *роў* (гл.).

**Прыро́д** ‘патомства’ (ТС), сюды ж таксама *пріро́д* ‘ураджай, ураджайнасць’ (Юрч. СНС). Рус. пск. *приро́д* ‘род; патомства, дзеці, нашчадкі’, урал. *приро́д* ‘прыплод’, параўн. укр. *природи́ти* ‘ўрадзіць’, *приpíдок* ‘прыроджаная ўласцівасць’. Нулявы дэрыват ад **прырадзíць* < *радзíць* (гл.).

**Прыро́да** ‘рэальнасць, існасць, не створаная чалавекам’, ‘прыродныя асаблівасці’, ‘натура, характар’; ‘мясцовасць па-за горадам’, ‘паходжанне; спадчыннасць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Бяльк., ТС, Жд., Нар. лекс., Сл. ПЗБ), ‘род, кроўная радня’ (ТС),

зборн. *прыро́ддзе* ‘парода, род’ (Жыв. сл.). Укр. *приро́да*, рус. *приро́да*, польск. *przyroda*, в.-луж. *přiroda*, н.-луж. *pširoda*, чэш. *přiroda* (ужо ст.-чэш.), славац. *príroda*, серб.-харв. *при́рода*, славен. *priroda*, балг. *приро́да*, макед. *природа*. Аддзеяслоўны назоўнік ад *прырадзі́ць* < *радзі́ць* (гл.), параўн. *прыраджэ́нне* ‘ўласцівае ад нараджэння; натура’ (Нас.). Паводле Махэка$_2$ (494) першапачаткова тое, што ўрадзілася ў гэтым годзе, прырост збожжа, жывёлы (гл. *прыро́д*). Даволі позна фіксуецца ў славянскіх мовах: у чэшскай мове вядома з XIV ст. побач з *přirozenie* і *přirozenost* (гл. Андзел, Зб. Крапіве, 37); у польскай з XIX ст. у якасці замена *przyrodzenie* (Банькоўскі, 2, 948); у рускай мове слова ўпершыню адзначаецца ў 1704 г. Гэта дазваляе паставіць пытанне аб калькаванні лац. *nature* ‘прырода’ < лац. *nasci* (дзеепрым. *natus*) ‘нарадзіцца’, прынамсі, у першым значэнні, першапачаткова кніжнымі ўтварэннямі, параўн. ст.-бел. *прироженье*, пасля збліжанымі з народнымі тэрмінамі тыпу ст.-бел. *природокъ* ‘прыплод’ і назоўнікамі *ўро́да*, *врода* ‘ўрадлівасць’. Праславянскі характар слова дапушчальны (параўн. Сной$_2$, 578: *priroda* ‘ўсё, што нараджаецца, расце, множыцца’), аднак семантыка застаецца да канца нявысветленай (параўн. Німчук, Давньорус., 14).

**Прыродазна́ўства** ‘вывучэнне прыроды як прадмет заняткаў’ (ТСБМ, Байк. і Некр.). Кюнэ (Poln., 90) лічыць запазычаннем з польск. *przyrodoznawstwo* ‘тс’ у супрацьпастаўленні рус. *естествознание* ‘тс’.

**Прыро́дніца** ‘павітуха’ (Ян.). Ад *прыродная бабка,* г. зн. ‘жанчына, якая прымае роды або прысутнічае пры родах’ у выніку семантычнай кандэнсацыі.

**Прыро́дны** ‘мясцовы’ (Ян.). Да *прыро́д*, *прыро́да* (гл.), у значэнні ‘патомны’.

**Прыро́духа** ‘прыгожая жанчына’ (пін., Жыв. сл.). Да *род*, *прырадзі́ць*, гл. *радзі́ць*.

**Прыро́іць** ‘прыляцець’ (ТС). Да *ро́іць* ‘ляцець, валіць’ (гл.).

**Прыро́стак** ‘малады парастак расліны’ (ТСБМ), ‘тое, што прырошчана’ (Ласт.), *прыро́станы* ‘прырослы’ (ТС), сюды ж *прыро́сток* ‘прыток ракі, ручая’ (Клім.). Да *прырасці́*, гл. *расці́*; параўн. рус. дыял. *приро́сток* ‘цяля’, укр. *приро́сток* ‘прыплод’, славен. *prirástek* ‘прырост’, балг. *приpа́стък* ‘нешта прырослае,

адростак' і пад. Паводле БЕР (5, 731), агульнаславянскія аддзеяслоўныя ўтварэнні, спецыфічныя для асобных славянскіх моў.

**Прыро́чыць** 'прымеркаваць, аднесці (да часу)' (Ласт.), параўн. рус. *приуро́чить* 'прымеркаваць, аднесці (да часу)', 'арганізаваць што-небудзь з нагоды якойсьці знамянальнай падзеі, свята і пад.', укр. *приуро́чити* 'тс'. Тут, відаць, аўтарскі наватвор ад *рок* 'прызначаны тэрмін' (гл.), параўн. ст.-бел. *рокъ* 'пэўны тэрмін, час'.

**Пры́руб** 'прыбудова да хаты' (Мат. Маг.), *пры́рубкі* 'сцены паміж вокнамі' (рагач., Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *при́ру́б* 'прыбудова з бярвення, прырубленая да хаты, іншай пабудовы', *прирубка* 'тс', укр. *прирУб* 'прыбудова'. Вытворныя ад *прырубі́ць* < *рубі́ць* (гл.).

**Прыручы́ць** 'зрабіць ручным', 'даручыць' (люб., Сл. ПЗБ; Жд.), *прыручы́цца* 'прыстасавацца, навучыцца' (ТС). Ст.-бел. *прирука* 'даручэнне' (Гарб.). Рус. *приручи́ть* 'прыручыць', дыял. калуж., разан., смал. 'даручыць', укр. *приручи́ти* 'даручыць'. Да *рука* (гл.), г. зн. зрабіць так, каб нехта быў 'пры руцэ'. Параўн. *ручны, ручацца.*

**Прыры́ўкамі**, *прыръўкамі*, *прырыўкам*, *прірыўкым*, *прыръўкъм* 'прыхваткамі, час ад часу' (Жд.; гарад., Нар. лекс.; ЛА, 5; в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *п(е)рарыва́ць* (гл. *рваць*) з пераафармленнем згодна з дыялектнай фанетыкай.

**Прыс** 'шост для кіравання плытом, чаўном і пад. (доўгае вясло, багор, бусак)' (ТСБМ, Сцяшк., Мат. Гродз.; віл., пух., Сл. ПЗБ; Скарбы), *прыз* 'бусак' (Цых.), *прыс* 'вочап у студні з жураўлём' (навагр., ДАБМ). Запазычанне з жаргону польскіх плытагонаў, дзе *prysa* азначае 'шост'. Апошняе з ням. *Spriess* 'тс' (Брукнер, 440). Змяненне роду пад уплывам *шост.* Паводле Гутшміта (ZfSl, 19, 2, 268), з-за адрозненняў у родзе з польскім словам запазычана праз літ. *prýsas* 'тс' з усходнепрускага *prîse* 'доўгі шост' (Фрэнкель, 655).

**Пры́са**, *пры́за*, мн. л. *пры́сы*, *пры́зы*, *пры́скі* 'непакрытая шэрсцю частка пысы ў каровы, каня' (ТС; брэсц., малар., драг., пін., лельч., хойн., ЛА, 1), *пры́сы* 'вусы; вусы ў жывёл' (Клім., Сл. Брэс.). Кантамінацыя *пыса* і **прыск* < польск. *prysk* 'пыса ў каня'. Апошняе ад *pryskać* 'пырскаць' (Брукнер, 440). Прасл. **prys-* 'морда' (ЕСУМ, 5, 576) роднаснае літ. *prusnà* (звычайна

мн. л. *prùsnos*) ‘морда (каровы, каня, авечкі)’, лат. *prusnas* ‘губы, рот’, прус. Р. скл. адз. л. *prusnas* ‘твар’, звязанымі чаргаваннем з літ. *prausti* ‘мыць, умываць’ (Непакупны, Связи, 46—47).

**Прысабе́чыць** ‘набыць ва ўласнасць; прысвоіць, прыўлашчыць чужое’ (Нас., Ласт.; Сл. Брэс.). Ад *сабе́чыць* ‘набываць ва ўласнасць, прысвойваць’ (гл.).

**Прыса́да₁** ‘тронкі ў нажа, мяча і пад.; ложа ў стрэльбе; насадка (касы, сякеры і пад.)’ (Нас., Байк. і Некр., Яруш.), *прыса́дка* ‘насадка (касы, сякеры і пад.)’ (Байк. і Некр.), *пріса́да* ‘ложа стрэльбы’ (Бяльк.). Ад *прысадзі́ць* ‘асадзіць, уставіць’ да *садзі́ць* (гл.); параўн. у іншых славянскіх мовах з блізкімі значэннямі: рус. дыял. *приса́дка* ‘прымацоўванне, накладанне; асаджванне’, польск. *przysada* ‘аздоба’ і г. д.

**Прыса́да₂** ‘выгода, прыволле’ (ТС), ст.-бел. *присадъ* ‘сядзіба’, укр. *приса́да* ‘тс’. Відаць, семантычнае развіццё *прыса́да*, *прыса́ды* ‘дрэва ўздоўж дарогі, алея; насаджэнні’ (гл.), або ад *прысадзі́ць* ‘пасадзіць каля чаго- ці каго-небудзь’ (Нас.), параўн.: *его прысада хороша, удобства кругом* (ТС), што дае падставы вывесці першаснае значэнне ‘размяшчэнне, пасяленне’. Гл. *аса́да*.

**Прыса́дзісты** ‘невысокага росту, але шыракаплечы, моцнага складу; нізкі, але шырокі, тоўсты’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Стан.; астрав., Сл. ПЗБ; ТС), *прыся́дзісты*, *прыся́дзістый* ‘каржакаваты, каранасты’ (смарг., брасл., Сл. ПЗБ), *пріся́дзістый* ‘прыземісты, але шыракаплечы, моцны’ (Бяльк.). Укр. *приса́дистий* ‘тс’, рус. *приса́дистый* ‘тс’, польск. *przysadzisty* ‘нізкі і тоўсты’. Ад *прысадзі́ць* ‘пасадзіць бліжэй да каго- ці чаго-небудзь’, тут, відаць, ‘бліжэй да зямлі’ (гл.) з суф. *-істы*. Банькоўскі (2, 948) звязвае з *przysada* ‘дадатак’ і ‘адклады тлушчу на клубах’, што малаверагодна.

**Прысадзі́ць** ‘пасадзіць дадаткова да ўжо пасаджанага’; ‘зрабіць меншым па вышыні, ніжэйшым, мізарнейшым’; ‘прыладжваць’ (Нас., Байк. і Некр., ТСБМ), *прыса́джваць* ‘прыстаўляць’ (ТС). Да *садзі́ць* (гл.).

**Пры́садзь** ‘саджанец’ (Сл. Брэс.). Да *прысадзі́ць* (гл.).

**Прыса́днік** ‘кветнік каля хаты; агародчык; парк, сквер’ (ТСБМ, Гарэц.), ‘непладовыя дрэвы ў пладовым садзе’ (Др.-Падб.). З *прыса́ды* (гл.). Семантычна, безумоўна, паўплывала і *паліса́днік* (гл.).

**Прыса́ды**$_1$ мн. л. ‘дрэвы, пасаджаныя вакол, каля чаго-небудзь (дарогі, вуліцы, будынка і пад.)’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Касп., Бір. Дзярж., Прышч. дыс., Сл. ПЗБ; слуц., ЛА, 2), *прыса́дзі* ‘прысады’ (Сл. ПЗБ), *прыса́да* ‘шырокая дарога, абсаджаная дрэвамі; дрэвы, пасаджаныя ля (вакол) хаты, сядзібы, сада’ (Шат., Янк. 2, Стан., Сл. ПЗБ, ЛА, 2), *прыса́дак* ‘шырокая дарога, абсаджаная дрэвамі’ (акц., ЛА, 2), *прыса́дка* ‘дрэва ў прысадах, алеі’ (Стан.), ‘прысады; алея’ (Яруш.). Ст.-бел. *присад* ‘падсаджаная расліна’ (XVI ст.), якое Крапівін (Межрэсп. конф., 24) параўноўвае з серб. *при́сад* ‘атожылак, парастак’. Ад *прысадзі́ць* (гл.). Да семантыкі параўн. яшчэ *паліса́да* (гл. *паліса́д*).

**Прыса́ды**$_2$ ‘два дрэвы, якія растуць адно каля другога, з развілінамі (*ра́ламі* або *казламі́*), дзе будзе зроблены памост для вулляў-калод (*адзёр*)’ (Сержп. Борт.). Да *прысадзі́ць*, г. зн. дрэвы, на якія *прыса́джваецца* памост, або дрэвы, спецыяльна пасаджаныя блізка адно да аднаго для выкарыстання пры размяшчэнні борці.

**Пры́сак**$_1$ ‘гарачы, распалены попел з вугольчыкамі’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Пал., Касп., Шат., Бір. Дзярж., Сцяшк., Стан.; шальч., лях., ст.-дар., Сл. ПЗБ), *прыск* ‘тс’ (Гарэц.; маладз., Янк. 1), *пруск*, *прі́сок* ‘тс’ (Маш.), *пры́сок* ‘тс’ (Клім.; пін., Сл. ПЗБ; ТС), *прысак* ‘гарачы, распалены (на агні) пясок’ (Др.-Падб.), *пры́сак* ‘попел’: *сей жыта ў прысак, авёс у гразь, то будзеш князь* (Янк. БП), ‘прах, зямля’: *скорей мне прыском вочи засыплюць, покуль я гето забуду* (Нас.), *пры́сок* ‘месца на прыпечку, куды змятаецца жар’; ‘гарачы, распалены попел з вугольчыкамі’; ‘попел’; ‘прах, пыл’ (Ласт.), *пры́сык* ‘гарачы попел’; ‘перапалены пясок’ (Бяльк.), з іншым суфіксальным афармленнем *пры́сіць*, *пры́снік* ‘попел’, *пры́сець* ‘попел; пыл’, *пры́сінка* ‘пылінка’ (Ласт.), таксама ўсечанае *прыс* ‘прысак, гарачы попел’ (ТС, ПСл). Рус. смал., бранск. *при́сак, пры́сок* ‘гарачы попел’, бранск. *при́сык* ‘тс’, *прыск* ‘дробныя вугольчыкі, ад якіх яшчэ ідзе жар’; укр. *при́сок* ‘гарачы попел з агнём’, польск. *prysk* ‘гарачы попел; распалены на (сонцы) пясок’, палаб. *prüsťau* ‘попел, жар’. Нульсуфіксальны дэрыват ад **pryskati*, гл. *пры́скаць* (Брукнер, 440; Трубачоў, Этимология—1968, 62). У формах тыпу *пры́сак*, *пры́сок* і да т. п. устаўная галосная на месцы збегу зыч-

ных або ўплыў суфіксальных дэрыватаў на *-ак, -ок* і г. д. Паўночнаславянская семантычная інавацыя. Гл. яшчэ *прыск*.

**Пры́сак**$_2$ 'пясчаны ўзгорак' (бярэз., Сл. ПЗБ). Да папярэдняга. Семантычны пераход: '(распалены) пясок' → 'пясок' → 'пясчаны ўзгорак'.

**Прысаката́ць** 'прыбегчы' (пух., Жд. 1). Да гукапераймальнага *саката́ць* (гл.), параўн. *пасаката́ць* 'хутка паехаць' (Шат., Стан.).

**Прысандры́чыцца** 'прыстасавацца' (ТС); параўн. рус. пецярб. *присандри́чить* 'прыбіць, прымацаваць'. Экспрэсіўнае ўтварэнне, магчыма, звязанае з *кандры́чыцца* (гл. *кандрычка*).

**Прысафі́так** (*прысафі́ток*) 'падстрэшак' (пін., Нар. сл.). Параўн. польск. *sufit* 'столь', якое з італ. *soffito* 'гара; столь' (Брукнер, 525).

***Прысвары́піцца**, *прысвыри́пытысь* 'прыстаць, прывязацца, прычапіцца' (Клім.). З **прысвярэ́піцца* < *свярэ́па* (гл.).

***Прысве́тны**, *прысві́тный* 'вольны (пра час)' (кам., Жыв. НС). Няясна, магчыма, ад *прысвя́так*, *свя́та* (гл.).

**Прысво́іць** 'зрабіць сваёй уласнасцю што-небудзь чужое' (ТСБМ), *прысво́іцца* 'асвойтацца, прывыкнуць' (ТС), *прысво́йчыць* 'прыручыць; прысвоіць' (Шат.). Рус. *присво́ить* 'прысвоіць', укр. *присвоїти* 'прысвоіць; прыняць у сваю кампанію, у сваё кола, прызнаць за свайго', польск. *przyswoić* 'прысвоіць', чэш. *přisvojiti*, славац. *prisvojit'*. Гл. *асво́іць*, *свой*.

**Прысво́йтацца** 'асвойтацца, прывыкнуць' (ТС). Гл. *асво́йтвацца*.

**Прысвя́так** 'невялікае свята пэўнай вёскі ў гонар святога, у імя якога пабудавана царква'; 'перадсвяточны дзень' (ТСБМ, Касп., Шат., Стан.), *пры́святак*, *пры́светок*, *пры́с'еток*, *прэ́святок*, *пры́свято* 'невялікае рэлігійнае свята' (Нар. сл., Сл. ПЗБ), *прысвя́то* 'тс' (Скарбы). Укр. *при́святок* 'невялікае свята'. Прэфіксальна-суфіксальны дэрыват ад *свя́та* (гл.).

**Прысе́брыцца** 'прымазацца, прыстаць збоку да чаго-небудзь ці якой-небудзь справы і нешта атрымаць ад гэтага' (Нас., Янк. 3), *прысе́рбіцца* 'тс', *прысябры́цца* 'прысуседзіцца' (Байк. і Некр.), 'паддобрыцца' (Сл. Брэс.), *прысябрава́цца* 'падсесці' (шальч., Сл. ПЗБ). Рус. паўн.-зах. *присе́бриться, приси́бриться* 'далучыцца, прысуседзіцца'; укр. *присе́рбитися* 'прысуседзіцца,

прымазацца, прычапіцца’. Прэфіксальны зваротны дзеяслоў ад *сябар, сябра* (гл.).

**Прысе́дак** ‘застаронак для снапоў, мякіны’ (калінк., Нар. сл.). Няясна; магчыма, з **пры-асе́так*, гл. *асе́ць*, *прыасётак*.

**Прысе́й-бо́гу** ‘так, праўда’ (ТС), *пры́сей богу* ‘далібог’ (жыт., Жыв. сл.), *при́с’ашi Бо́гу* ‘тс’ (іван., Арк.). Укр. палес. *присейбо̂* ‘тс’, валын. *при́сель-бу, присі-бо́, при́сяй Бо́гу*, *прі́зь Бо́гу* ‘тс’. Алегравая форма словазлучэння *прысягаю Богу* (гл. Цыхун, Зб. памяці Талстога, 422), магчыма, *прысягнуўшы Богу*, параўн. чэш. *přisámbohu* ад *přisáhám Bohu* (Махэк$_2$, 535; Голуб—Копечны, 301; ЕСУМ, 4, 579).

**Прысе́к** ‘ніжняя частка калоднага вулея’ (ТС). Нулявы дэрыват ад *прысяка́ць*. Гл. *сячы́*.

**Прысе́лле** ‘паселішча’; ‘жыллё; прыстанішча’ (Байк. і Некр., Шат., Яруш.), ‘ваколіца’ (лаг., Жд. 2), *прысёлак*, *пры́сёлок*, *прысёла* ‘выселак, хутар’ (Клім., Жд. 2, ТС). Да *сяло́*, параўн. рус. *присе́лье, присело́, присёлок,* укр. *присі́лок, приси́лля* і пад.

**Прысе́нак** ‘першы пакой ад уваходу ў дом (atrium)’ (Карскі, Труды), *прысенак* ‘ганак; тамбур’ (Ласт.), толькі мн. л. *прысе́нкі* ‘крыты ганак’ (Нас.), *прысе́нцы*‘ганак’, *прысёнак*, мн. л. *прысе́нкі*, *прысе́нцы* ‘першыя, знешнія, уваходныя сенцы’ (Ласт.). Да *се́ні, се́нцы* (гл.), параўн. рус. дыял. *присе́нок* ‘прыбудаваныя да хаты сенцы або камора ў сенцах; прыбудова да хлява, пуні’, *присе́нки* ‘тс’, укр. *присі́нок, присі́нки, присі́ння* ‘прыбудова; ганак; ганак са стрэшкай на двух слупках’, польск. *przysionek* ‘прыхожая’.

**Прысе́сць**, *про́сясць, про́сяць*, *про́сізь* ‘палатно, натканае за адзін прыём; палатно, складзенае ў выглядзе гармоніка’ (віл., чэрв., пух., іўеў., шчуч., Сл. ПЗБ). Гл. *прасе́сць*.

**Прысіві́ць** ‘забяліць малаком’ (узд., Жд. 3; полац., Нар. лекс.). Да *сіві́ць, сівы́* (гл.).

**Пры́сік**, *прыск* ‘адзёр ці хвароба накшталт адру’ (барыс., Шн. 3). Вытворныя ад *пры́скаць* (гл.). Хвароба, магчыма, названая таму, што высыпка на целе падобна на чырвоныя пырскі. Але параўн. *прышч* (гл.), значэнне якога Мяркулава (Этимология—1970, 148 і наст., 204) рэканструюе як ‘расток; элемент сыпі’.

**Прысі́кацца** (*прысі́катысь*) ‘прыставаць, лезці ў бойку і пад.’ (Клім.). Укр. *присі́катися* ‘прычапіцца, прыдрацца, прыстаць’,

рус. дан., урал. *присика́ться, присúкаться* ‘прыдзірацца, чапляцца’. Няясна. Прымаючы пад увагу агалосоўку кораня ва ўкраінскім слове, параўн. укр. *присіка́ти* ‘прыпыняць’, з *прыcяка́ць* да *сячы́* (гл.). Распаўсюджаная ў славянскіх мовах семантычная мадэль ‘біць, рэзаць, драць, калоць’ — ‘прыдзірацца, быць сварлівым і да т. п.’, параўн. *прыдзірацца*, рус. *подкалывать* і інш.

**Прысíліць**$_1$ ‘прывязаць, зрабіўшы зашмаргу (па тыпу сіла́)’ (Мат. Гом.). Укр. *присúлити* ‘прывязаць’. Да *сіло́* (гл.).

**Прысíліць**$_2$ ‘прымусіць зрабіць што-небудзь’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб.), *прісíліць* ‘прымусіць’, *прісíл* ‘гвалт; насілле, прымус’, *прысіле́ньня* ‘прымус’ (Бяльк.). Рус. паўд.-зах. *присúлить* ‘прымусіць’, укр. *присúлувати,* славац. *prisilit’*, серб.-харв. *прѝсилити*, славен. *prisíliti.* Да *сіла*, *сіліцца* (гл.).

**Прыск** ‘іскра’, *приски, пырски* ‘пырскі’ (Яруш.), *пры́скі* ‘пырскі; кроплі вады, дажджу’; ‘іскры’ (Бяльк.). Нулявы дэрыват ад *пы́рскаць, пры́скаць*. Гл. яшчэ *пырскі, прысак.*

**Пры́скакам**, *пры́скыкам*, *пріскъкъм*, *пріскыкымі* ‘рабіць час ад часу, урыўкамі’ (Нас., Байк. і Некр., Юрч., Мат. Маг., Стан.; кругл., лёзн., горк., клім., ЛА, 5), *пры́скыкым* ‘паспешна, спяшаючыся; асобнымі хвілінамі’ (Бяльк.), *прыска́кам*, *прыско́кам*, *прыско́кым* ‘прыхваткамі, урыўкамі’ (міёр., брасл., ігн., паст., сен., талач., Сл. ПЗБ, Жыв. НС; ЛА, 5). Укр. *прúскаком* ‘урыўкамі, прыхваткамі’, рус. смал. *прúско́ком* ‘час ад часу, калі-нікалі’. Да *прыскакаць* < *скакаць*. Першапачаткова Тв. скл. ад *прыскок*. Параўн. *наскокам*.

**Прыска́кам** ‘падскокваючы’; перан. ‘ахвотна’ (даўг., Сл. ПЗБ). Гл. папярэдняе слова.

**Прыска́ліць** у выразе *прыска́ліць вочы (вока)* ‘прыжмурыцца’ (ТСБМ), *прыска́льваць* ‘прыжмурваць’ (ТС), *прыска́люватыся* ‘прыжмурвацца, нібы смеючыся ротам’ (драг., Нар. лекс.), *прыска́ляный* ‘прыжмураны’ (Клім.). Гл. *скаліць*.

**Прыскапа́цца** ‘прычапіцца; прывязацца’ (Пал., Растарг., Касп.), *прыскíпацца* ‘прычапіцца’ (нясвіж., Жд. 3). Рус. зах.-бранск. *прископа́ться* ‘тс’, укр. *прискіпа́тися* ‘тс’. Да *скапа́ць* ‘калоць’ (гл.), да семантыкі параўн. *прысíкацца* (гл.).

**Прыскаўрэць** ‘прысохнуць’ (Касп.). Гл. *скаўрэ́ць*.

**Пры́скаць** ‘пырскаць, паліваць’ (Байк. і Некр., Бяльк., Ян.), *пры́снуть* ‘пырснуць (аб дажджы)’ (Растарг.), *пры́скаўка* ‘пульверызатар’ (Гарэц., Др.-Падб.); ст.-бел. *прыснути* ‘захваляваща’, укр. *при́скати* ‘пырскаць’, рус. *пры́скать* ‘пырскаць; лопацца’, польск. *pryskać* ‘пырскаць; разлятацца з трэскам, лопацца’, в.-луж. *pryskać* ‘тс’, н.-луж. *pśyskaś* ‘ускокваць’, чэш. *prýskati* ‘пырскаць’, славац. *prýštiť* ‘біць струмянём’, серб.-харв. *пр̏скати* ‘пырскаць’, славен. *pŕskati* ‘пырскаць’, балг. *пръскам* ‘тс’, макед. *прска* ‘тс’. Прасл. **pyrskati, *pъrskati*. Бліжэйшыя адпаведнікі літ. *praũsti*, *prausìu* ‘ўмываць’, *prusnà* ‘пыса (у жывёліны)’, ст.-прус. В. скл. адз. л. *prusnan* ‘твар’, лат. *praũslât* ‘пырскаць’. Гл. Траўтман, 230; Фасмер 3, 391; Махэк$_2$, 489; Бязлай, 3, 129; БЕР, 5, 827; ЕСУМ, 4, 576. Да семантыкі дзеяслова гл. Мяркулава, Этимология—1970, 148 і наст.

**Прыскі́чыць** ‘прыціснуць, змусіць сілай’ (дзярж., Нар. сл.), ‘захацець чаго-небудзь’ (там жа). Відаць, з *прыспі́чыць* (гл.).

**Прыскле́пліванца** ‘прыставаць, чапляцца’ (Юрч.). Няясна; магчыма, корань той жа, што і ў *заскле́плены* ‘запячатаны (пра мёд)’ (гл.), польск. *zasklepić*, *zasklepiać* ‘залепліваць, запячатваць, склейваць’.

**Прыско́лак** ‘гнуткая палка’ (Сл. ПЗБ). Гл. *аско́лак*.

**Прыскры́нак** ‘скрыначка ў куфры на бакавой сценцы для захоўвання дробных рэчаў’; ‘бакавая скрынка ў стале’ (Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Растарг., Інстр. 1, ТСБМ, Жд., Сл. ПЗБ), *прыскры́нок*, *прыскры́нэк*, *прыскры́нёк*, *прыскры́ня*, *прыскрэ́нок* ‘баковачка ў куфры’ (ТС, Сл. Брэс.; драг., Жыв. НС), *пры́скранек* ‘тс’ (Ян.), *прыскры́нек* ‘невялічкі засек у куфры’ (Янк. 2), *прыскры́нык* ‘скрыначка ў сярэдзіне сундука для дробных рэчаў’ (Бяльк.), *прыскры́нак* ‘адгародка ў скрыні, куды складваюць мяхі’ (Жд.). Прэфіксальна-суфіксальны дэрыват ад *скры́ня* (гл.), параўн. рус. *прискри́нок*, укр. *прискри́нок* ‘тс’. Гл. таксама Запрудскі, дыс., 143.

**Прыску́ра** ‘просвіра’ (Мат. Гом.), Р. скл. мн. л. *прыскуров* ‘тс’ (Нік. Очерки.). Гл. *праскура*.

**Прысле́дзіць** ‘прасачыць’ (віл., Сл. ПЗБ). Укр. *прислідúти* ‘высачыць’. Гл. *след*.

**Прысло́н**, *прысло́нь*, *пры́слань*, *прысло́нік*, *прысло́ны* ‘месца, якое добра асвятляецца сонцам’; ‘схіл гары, звернуты да сонца;

сонечны бок' (полац., Нар. лекс.; в.-дзв., даўг., брасл., маст., Сл. ПЗБ), *прыслóньне* 'чырвоны слуп над сонцам на захадзе' (кобр., Нар. лекс.), *прыи́сонне* 'круг вакол сонца' (Клім.). Спалучэнні прыназоўніка *пры* (гл.) і назоўніка **слонь*, **сонь*, што перадаюць старую форму прасл. **sъlnь* 'сонца', якая была заменена ў славянскіх мовах вытворным з памяншальным суфіксам **sъlnьce* — літаральна 'сонейка'. Параўн. форму з поўнагалоссем рус. *пóсолонь* 'па сонцу', гл. Фасмер, 3, 340.

**Прыслóўе** 'прыгаворка, хадавы выраз, прымаўка' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Касп., ТСБМ), *прыслóвіца*, *прыслóўка* 'тс' (ТС), *пры́слаўе* 'прымаўка' (Яруш.), *прыслóве*, *прыслóвя*, *прыслóвіца* 'прымаўка' (ваўк., воран., Сл. ПЗБ), сюды ж і *прыслóўе* 'нязменная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, стану і якасці' (Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., ТСБМ). Рус. дыял. *прислóвка, прислóвье* 'прыгаворка, прымаўка', укр. *прислів'я, прислівник* 'прыказка, прымаўка', *прислівник* 'прыслоўе — нязменная часціна мовы', польск. *przysłowie* 'выслоўе', *przysłówek* 'adverbium', в.-луж. *přisłowo* 'прымаўка', н.-луж. *pśisłowo* 'тс', чэш. *přísloví* 'выслоўе', *příslovce* 'adverbium', славац. *príslovie* 'выслоўе', славен. *prislòv* 'прыслоўе'. Дэрываты ад *слова* (гл.), відаць, кандэнсацыя выразу *пры слове*, якая была аформлена рознымі суфіксамі. Як граматычны тэрмін, калька з заходнеславянскіх моў, у якіх ён у сваю чаргу калькуе лац. *adverbium* (*ad-* — пры, *verbum* — дзеяслоў, слова) (гл. Голуб—Ліер, 402; Сной$_2$, 579; Банькоўскі, 2; Шустар-Шэўц, 2, 1179; ЕСУМ, 4, 577).

**Прыслу́га** 'паслуга' (Нас.), таксама *прыслугáч* 'той, хто прыслужваецца перад кім-небудзь' (ТСБМ), *прыслугáцель* 'тс' (ТС). Гл. *слуга*, *служачы*. Параўн. яшчэ польск. *przysługa* 'паслуга', адкуль, відаць, улічваючы рэдкасць ужывання, гэтае значэнне ў беларускай мове.

**Прыслю́знуць** 'аслізнуць' (шальч., Сл. ПЗБ). Да *слюз* (гл.).

**Прысляпíць** (*прысьляпíць*) 'прываражыць, прычараваць' (пух., З нар. сл.), *прысляпíцца* 'прыстаць, прычапіцца' (Жд., Мат. Гом.; люб., Жыв. НС). Да *ляпіцца*, *ліпнуць* (гл.) пад уплывам фразеалагізма *сляпіцаю лезці* (у вочы) 'нахабна, назойліва лезці'.

**Пры́смак** 'дадатковы, пабочны смак, які прымешваецца да смаку чаго-небудзь' (Растарг., ТСБМ), *прысмáк* 'тс' (Байк.

і Некр.), ‘добры, прыемны смак’ (Нас.), таксама *прысмáка*, *прысмáкі* ‘ласункі, салодкае; смачныя, асабліва прыгатаваныя стравы’; ‘прыправа’ (ТСБМ, Нас., Мядзв., Нік. Очерки, Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Растарг., Бяльк., Нар. сл., Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж *прысмáчыті* ‘заправіць’ (З нар. сл.). Рус. *прúсмáк* ‘прыемны смак; прыправа; ласунак’, укр. *присмáка* ‘прыправа; ласунак’. З польск. *przysmak* ‘прыправа, ласунак’ (Фасмер, 3, 366). Параўн. *смак*.

**Прысмáлак** ‘зямля, якую відаць з-пад снегу на зімовай дарозе’ (Шат.). Да наступнага слова (гл.).

**Прысмалíць** ‘злёгку падпаліць, прыпаліць; прыкурыць (ТСБМ), ‘хутка прыбегчы, прыехаць’ (Бяльк.), сюды ж экспр. *прысмалíцца* ‘захацецца, зажадацца’: *от усім прысмалілася вады* (Ян.). Да *смала*, *смаліць* (гл.).

**Прысмéркці** ‘змяркацца’ (Нас.), *пры́смерак* ‘змярканне’ (Жд. 3), *пры́смеркам* ‘у час змяркання’ (Нас). Укр. *прúсмерк* ‘прыцемак’, *прúсмерком* ‘прыцемкам’. Гл. *змяркáцца, змрок*.

**Прысміхаставáць** (*прысьміхаствувáць*) ‘кпіць’, *прысьміхаўствó* ‘кпіны, высмейванне’ (Бяльк.). Рус. смал. *просмехавствó, просмехáтельство* ‘кпіны, высмейванне’, укр. *присміхуватися* ‘пасмейвацца час ад часу’. Ад **прасмяхаства* < **прасмяхаць,* параўн. рус. дыял. *просмехать* ‘высмейваць, кпіць’. Гл. *смех*.

**Прысмýтак** ‘засмучэнне, маркота; жаль’ (Нас., Байк. і Некр.). Прэфіксальны дэрыват ад *смутак* (гл.).

**Прысмыкнýць** ‘прыпрасці’, *прысмы́чка*, *прысмыкáчка* ‘нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў’ (карэліц., Шатал.). Гл. *смыкаць*.

**Прыснасцíць** (*прíснасьцíць*) ‘прыладзіць’ (Бяльк.), *прыснасцíцца* ‘прыладзіцца, прымасціцца’ (жлоб., Нар. словатв.). Да *снасць* (гл.).

**Прысóс** ‘дзеянне паводле значэння дзеясловаў *прыссáць* і *прыссáцца*’, ‘прыстасаванне, пры дапамозе якога можна што-небудзь прыссаць, прысмактаць’ (ТСБМ), ‘нізкае, вільготнае месца з глейкаватай глебай’, *прысóсьлівый* ‘нізкі, вільготны і глеісты (пра глебу)’ (Бяльк.). Да *ссаць* (гл.).

***Прысóшак** (*прысóшок*) ‘сошка ў будане’ (ТС), сюды ж *прісíх* ‘рыбалоўнае прыстасаванне — двурогія драўляныя вілы, да якіх прымацоўваецца падхватнік, або невялікія перасоўныя звычай-

ныя пасткі ў выглядзе падхватніка' (Крыв.). Параўн. рус. урал. *прйсо́шек* 'падстаўка пад стрэльбу пры стральбе', *присо́шка* 'падпорка, стойка', укр. *присі́шок* 'слупок з развілінай на канцы, у якую кладзецца гарызантальнае бервяно (падчас пабудовы хлява, пуні)'. Конфікснае ўтварэнне (*пры-* + *-ак*) ад *со́шка* (гл.) з усячэннем у апошняга слова суфікса *-к-*.

**Прыспалі́ты** (*прыспалі́тый*) 'скупы' (Бяльк.). Відаць, з *працалі́ты* 'хітры' (мсцісл., Падлужны, вусн. паведамл.), што ад ст.-бел. *посполитый* (гл. *паспалі́ты*) з польск. *pospolity* 'звычайны' з заменай прыстаўкі, аднак змену ў семантыцы цяжка вытлумачыць. Далей гл. *паспо́л*.

**Прыспаро́міць** 'прызапасіць, назапасіць; рабіць загатоўкі, запасы да пары, да часу' (Нас., Ласт.). Гл. *спаро́міць*.

**Прыспасо́біць** 'працаю нарыхтоўваць запас'; перан. 'зрабіць каму-небудзь што-небудзь дрэннае' (Нас.), 'набыць; прыдбаць, прыстарацца' (Бяльк.). Параўн. укр. *приспособи́тися* 'зрабіцца дагодлівым', рус. *приспосо́бить* 'прыстасаваць, зрабіць прыдатным для чаго-небудзь', польск. *przysposobić*, чэш. *přizpůsobiti*, славац. *prisposobit'* 'прыстасаваць, зрабіць прыдатным да чаго-небудзь'. Гл. *спасо́біць*. Гл. таксама Яшкін, Бел.-пол. ізал., 156.

**Прыспе́ць** 'наступіць, надысці, настаць, (пра час, справу, патрэбу); абавязкова спатрэбіцца, вельмі захацецца'; 'прыйсці, з'явіцца ў патрэбны момант, паспець, не спазніцца'; 'застаць, заспець' (ТСБМ, Гарэц.; астрав., Сл. ПЗБ; ТС), 'паспець, не спазніцца' (Др.-Падб.), 'паспець (напр., пра яблыкі)' (гродз., Сл. ПЗБ), *прісьпе́ць* 'паспець, не спазніцца' (Бяльк.). Рус. *приспе́ть* 'паспець, надысці, настаць; пасадзейнічаць', дыял. 'паспець, рабіцца гатовым; высяпваць', укр. *приспі́ти* 'паспець; выспець'; чэш. *přispěti*, славац. *prispiet'* 'дапамагчы, пасадзейнічаць', серб.-харв. *прѝспети* 'паспець, не спазніцца; паспець, зрабіцца гатовым', славен. *prispéti* 'паспець, не спазніцца; дапамагчы, зрабіць уклад'. Да *спе́ць* (гл.).

**Прыспі́чыць** 'абавязкова спатрэбіцца; вельмі захацецца' (ТСБМ; мядз., Сл. ПЗБ), 'прыспешыць, давесці да мяжы' (Др.-Падб.). Рус. *приспи́чить* 'абавязкова спатрэбіцца, вельмі захацецца', укр. *приспі́чити* 'тс'. Паводле Праабражэнскага (2, 126), ад *спица*, **спичить* 'калоць'. Гл. яшчэ Фасмер 3, 366; ЕСУМ, 4, 577 (украінскае слова лічыцца запазычаннем з рускай). Гл. *спі́ца*.

**Прыспо́рыць** ‘прымножыць, павялічыць, стаць больш’, ‘зрабіць спорным, спарнейшым; паскорыць’ (ТСБМ, Ласт., ТС), *прыспор* ‘тое, што назапашана’; ‘прырост’; ‘працэнт’ (Ласт.), *прыспара́ць* ‘падаспець у адзін час’ (навагр., Сл. ПЗБ). Рус. смал. *приспо́рить* ‘дастаць, здабыць’, укр. *приспори́ти* ‘прымножыць’, польск. *przysporzyć* ‘тс’. Да *спор* (гл.).

**Прыстава́ка** ‘той, хто хутка стамляецца’; ‘надакучлівы чалавек’ (Янк. 3). Да *прыста́ць, прыстава́ць* ‘стаміцца, змагчыся; прычапіцца да каго-небудзь’ < *стаць*. Аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 25.

**Прыставе́нь** ‘прымак’ (Інстр. 2; гарад., Нар. лекс.), *пры́стаўня* ‘тс’ (Касп.). Да *прыста́ць* ‘далучыцца, прыжыцца’ (гл.). Аб суфіксах *-ень, -ня* гл. Вярхоў, Аб нек. асабл., 33 і наст.; Сцяцко, Афікс. наз., 38, 58.

**Прыста́віцца** ‘паказацца, з’явіцца’ (рагач., Нар. Гом.). Да *ставіць (ца)* (гл.).

**Прыста́вы** толькі мн. ‘вароты’ (лаг., Жд. 3). Дэрыват ад *прыста́віць* < *ставіць*.

**Прыстака́ніцца** ‘прыжыцца; прывыкнуць, прызвычаіцца’; ‘прыладзіцца’; ‘далучыцца, прысуседзіцца’ (рагач., Мат. Гом.; в.-дзв., шуміл., круп., Сл. ПЗБ). Да *стакана́, стака́ніцца* (гл.) з пашырэннем семантыкі пад уплывам рус. *стака́н* (гарэлкі).

**Прыста́кі** ‘прымы’ (ветк., Мат. Гом.). Да *прыста́ць* < *стаць* (гл.), хаця заканчэнне слова няяснае. Гл. наступнае слова.

**Прыстакну́ць** ‘прыпыніцца на хвілінку’ (Яруш.). Дэрыват ад **прыста́ка* (параўн. папярэдняе слова), якое ад *прыста́ць* з суф. *-ака*.

**Прыста́нак**, *прыста́нішча, прыста́нне* ‘месца, дзе можна прыстаць, прытуліцца; часовае жыллё’ (парыц., Некр.; Бяльк., ТСБМ), *прыста́нак* ‘чыгуначны прыпынак’ (Жд. 2), *прыста́н* ‘прыпынак, прытулак’ (Бяльк.), *прыстані́вка* ‘пабудова са сцэнамі для гаспадарчых прылад’ (жыт., ДАБМ). Дэрываты ад асновы цяп. часу дзеясловаў *прыста́ць* і *прыста́ну* (гл. *стаць*). Шматлікія вытворныя і ў іншых славянскіх мовах, параўн. рус. *приста́нище* ‘прыстанак, прытулак’, харв. *prìstan, prìstanište* ‘прыстань, порт’, славен. *pristȃn, pristanišče* ‘прыстань, порт’, балг. *при́стан* ‘прыстань, прытулак’, *пристанище* ‘порт’, ст.-слав. **пристаништь** ‘прытулак’. Найбольш дакладная паралель у польск.

*przystanek* ‘прыпынак’. Варбат (Слав. языкозн., IX, 70) мяркуе пра магчымае прасл. **pristanъ/ь*. Гл. таксама Сной$_2$, 579.

**Пры́стані**, *пры́станкі*, *пры́стань* ‘прыняцце зяця ў дом цесця’ (Нас.); параўн. рус. смал. *при́станки: идить в при́станки* ‘жаніцца і заставацца жыць у доме жонкі’, *при́стань* ‘зяць, прыняты ў сям’ю жонкі, які жыве ў доме цесця’, зах.-бранск. *жить в при́стани* ‘жыць у доме жонкі’, укр. *при́стани* ‘далучэнне да кампаніі’, *пристáя* ‘ўступленне ў шлюб у якасці прымака’. Да *прыстáць* < *стаць* (гл.).

**Прыстáнне** (*прыстáньня*) ‘далучэнне’ (Бяльк.). Укр. *при́стани* ‘далучэнне да кампаніі’. Гл. папярэдняе слова.

**Пры́стань** ‘гавань, порт’ (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Растарг., Мат. Гом.; пух., Сл. ПЗБ), ‘прыстанішча, прыстанак’ (Нас.; ігн., Сл. ПЗБ; ТС), ‘прымацтва’ (Растарг.), ‘месца, дзе вяжуць плыты’ (Мат. Гом.), ‘месца на беразе вадаёма, дзе мыюць бялізну’ (Сл. ПЗБ). Да *прыстáць, прыстáну* < *стаць* (гл.). Рус. *при́стань* ‘прыстань’, дыял. ‘кладка на рацэ, возеры для паласкання бялізны’, укр. *при́стани* ‘прыстанак’, польск. *przystań* ‘прыстань’. Варбат (Слав. языкозн., IX, 70) прапануе рэканструкцыю прасл. **pristanъ/ь// *perstanъ/ь*.

**Пры́старанак**, *прыстарóнак*, *прысторóнок* ‘застаронак; месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа’ (ТСБМ; в.-дзв., Шатал.; лях., ганц., карэліц., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.; лях., клец., ЛА, 2), *пры́старанак*, *прыстарóнак*, *прысторóнок*, *прыстурóнок* ‘драўляная загародка, якая аддзяляе бок гумна, дзе кладуць збожжа, ад тока’ (слонім., Арх. Бяльк.; Нар. сл.), ‘сценка ў два-тры бервяны, якая разгароджвае гумно’ (баран., ваўк., пруж., Сл. ПЗБ), *прысторэ́нак* ‘пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад’ (ДАБМ), серб.-харв. *прѝстанак* ‘скат; месца ў старане’. Да *старанá* (гл.); кандэнсацыя выразу *пры старане*, аформленае суфіксам *-ак*.

***Прыстаранíць**, *прысторонíць* ‘прыбраць’ (ТС). Да *старанá* (гл.).

**Прыстаранíцца** ‘знайсці прытулак’ (лях., Сл. ПЗБ). Да *старанá* (гл.).

**Прыстарáцца** ‘раздабыць, прыгатаваць што-небудзь звычайна з цяжкасцямі, намаганнямі’ (Бяльк., ТСБМ), экспр. ‘нарадзіць дзіця’ (віл., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *пристарáться*, смал.

‘пастарацца дастаць што-небудзь, паклапаціцца пра што-небудзь’; ‘прыкласці намаганні, папрацаваць’. Прэфіксальны дэрыват ад *стара́цца* (гл.).

***Пры́старч**, *пры́сторч* ‘абламаны пень’ (Клім.), *при́сторч* ‘бадылле’ (зах.-палес., Бел.-укр. ізал.). Гл. *старч*, *сторч*.

**Прыстарэ́кацць** ‘марудзіць з работаю за размоваю’ (Бяльк.), *прыстарэ́ка* ‘жарт’ (Касп.). Гл. *прастарэ́ка*.

**Прыстасава́ць** ‘зрабіць прыгодным, прымасціць, прыладзіць, прымеркаваць’ (ТСБМ), *пристасова́ты* ‘тс’ (кам., Жыв. НС). З польск. *przystosować* (*się*) ‘прыспасобіць, прымяніць’. Гл. яшчэ *стасу́нкі*.

**Прыста́ўка$_1$** ‘частка слова, якая стаіць перад коранем, прэфікс’; ‘тое, што прыстаўляецца, прырабляецца дадаткова да чаго-небудзь’ (Байк. і Некр., ТСБМ), ‘прыбудова’ (Мат. Гом.), *пры́стаўка* ‘ганак’ (Пятк.), *пры́стаўка* ‘дадатак пакупніку’, *пры́ставок* ‘дадатак (напр., ганчарны выраб у дадатак да пасудзіны, якая пры продажы, фактычна абмене, выконвала ролю збожжавай меры)’ (ТС). Рус. *при́ста́вка* ‘прэфікс’, дыял. ‘лапата, граблі і пад., прасунутыя праз жалезнае кальцо варот замест замка’, ‘верхняя частка (да пояса) жаночай сукенкі, кашулі, пашытая з больш тонкай тканіны’ і пад., укр. *приста́вка* ‘дадатковае прыстасаванне; прэфікс’. Дэрыват з суфіксам *-к-* ад *прыста́віць*, гл. *ставіць*.

**Прыста́ўка$_2$** ‘надакучлівы чалавек’ (Ян.), *пры́стаўка* ‘хвост, неадступны спадарожнік’ (ТС). Да *прыстава́ць*, гл. *прыставака*.

**Прыстаўля́цца** ‘прыкідвацца, строіць з сябе п’янага’ (Ян.). Укр. дыял. *приставля́тися* ‘прыкідвацца кім-небудзь, выдаваць сябе за каго-небудзь’. Параўн. *выстаўля́цца* ‘тс’, што да *ста́віць*, *ста́віцца* (гл.).

**Приста́ць** сярод іншых значэнняў ‘спыніцца, падыйсці’ (ТСБМ), ‘прывязацца, прычапіцца’ (ТСБМ, Гарэц., Касп.), ‘далучыцца, прымкнуць’ (ТСБМ, Стан.), ‘стаміцца’ (Шат., Касп., Стан.), *прыста́ты* ‘пайсці ў прымы’ (палес., Бел.-укр. ізал.), параўн. у розных значэннях укр. *пристати*, рус. *приста́ть*, польск. *przystać*, чэш. *přistáti*, славац. *pristát’*, серб.-харв. *prìstati*, славен. *pristáti*, балг. *приста́на*. Прасл. **pristati*, ад *pri-* (гл. *пры-*) і **stati* (гл. *стаць*). Гл. яшчэ Дораўскіх, Этимология—1963, 34.

**Прыстóіць**, *прыстóйваць* 'ідучы, спыніцца, стаць на кароткі час' (Гарэц., Бяльк., Жд.; чавус., Нар. сл.; ТСБМ), *прыстáіваць* 'спыняцца на кароткі час'; 'стаяць над тымі, хто працуе'; 'настойваць' (Нас., Юрч.), *прыстóяць* 'прыпыніцца, пастаяць кароткі час' (ТС), *прыстояць* 'затрымацца на хаду, прыпыніцца, пачакаць' (Растарг.), ст.-бел. *пристояти* 'быць разам': *с молодци моими пристои* (Альтбаўэр). Рус. смал. *пристоя́ть* 'спыніцца, зрабіць перадышку падчас хады', укр. *пристóяти* 'пастаяць, чакаючы'. Да *стая́ць* (гл.).

**Прыстóйкі** 'смятанка, вяршкі' (Касп.). Дэрыват з суфіксам *-к-* ад папярэдняга дзеяслова, параўн. *пастая́лачка* (гл.).

**Прыстóйны** 'які адпавядае прынятым правілам прыстойнасці'; 'добра выхаваны; сумленны, не здольны на дрэнныя ўчынкі'; 'дастаткова добры, нядрэнны'; 'такі, якім належыць быць; дастатковы па велічыні, памерах' (Ласт., ТСБМ; смарг., в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'прыгожы' (Інстр. 3; ігн., Сл. ПЗБ), 'добры; няпрагны' (Ян.). Укр. *пристóйний* 'прыстойны; прыгожы', рус. калуж. *пристóйный* 'прыстойны; прыгожы, сімпатычны', польск. *przystojny* 'прыгожы; цікавы', старое 'прыстойны', чэш. *přistojny* 'прыстойны', славен. *pristójen* 'прыстойны; кампетэнтны', харв. *prìstojan* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 366), з **pristojьnъ* ад **pri-* і **stojati* (гл. *стая́ць*), параўн. ст.-бел. *пристояти* 'падыходзіць, належаць' (Ст.-бел. лексікон). Паводле Сноя$_2$ (580), першапачаткова азначала 'адпаведны, стаячы нароўні'. Бабік (Зб. памяці Слаўскага, 60) для прасл. **pristojati* (параўн. серб.-харв. *при́стоjати*, харв. чак. *prīstȍjat* і пад.) выводзіць значэнне 'пагаджацца; быць адпаведным'.

**Прыстóл** 'прастол' (гарад., Сл. ПЗБ), 'сельскае свята ў гонар святога, імем якога названа царква' (Мат. Гом.). Гл. *прастóл, прастóльны*.

**Прыстóлак** 'скрыня ў стале, шуфляда' (ТС; ашм., Стан.), 'лаўка пры стале, зэдлік' (Бяльк.), *прыстóлік, прыстíлок, прыстóльнік, прыстэ́льнік* 'шуфляда ў стале' (Нар. лекс., Шатал., Сл. Брэс., Жыв. НС), *прысту́лок* 'шуфляда (у стале, шафе і інш.)' (стол., Нар. лекс.). Утворана прэфіксальна-суфіксальным спосабам ад *стол* (гл.).

**Прыстóнь** 'прывязь': *стаяць коні на прыстóні, не п'юць, не едяць, усе весела гледяць* (загадка). (Ян.). З *прыстань* (гл.) з гіперыстычнай зменай *а* > *о*.

**Прысто́чыць** ‘надысці’: *жніво прысточыло, і сено не кончылі* (ганц., Сл. ПЗБ). Гл. *стача́ць*.

**Прысто́я** ‘моцна засмоленая хвоя’ (ТС), *прысто́і* ‘парасткі ад пня’ (Гарэц.). Нулявыя дэрываты (у першым выпадку з тэматычным *-а*) ад *прыстоіць* (гл.), літаральна ‘хвоя, якая прыстае да рук’.

**Прыстра́ць** ‘прысохнуць, прыстаць; прыстаць, прычапіцца’ (Юрч.), параўн. рус. дыял. *пристре́ть* ‘прыстаць, перадацца каму-небудзь (пра хваробу)’, укр. *пристріти* ‘сурочыць’. Гл. *прыстрэ́ч*, на семантыку магло паўплываць зближэнне з *прыста́ць* (гл.).

**Прыстра́шка** ‘пострах’ (Нас.). Утворана ад дзеясл. **прыстрашыць* < *страшыць* з суфіксам *-к-*. Параўн. рус. дыял. *пристра́шка*, укр. *при́страшка* ‘тс’.

**Прыстро́іць**, *прыстро́іцца* ‘апрануцца па-святочнаму, прыбрацца’ (ТСБМ). З польск. *przystrojić się* ‘тс’. Гл. таксама *стро́йны, строй*.

**Прыстро́й** ‘драбіны (лесвіца)’ (жыт., Мат. Гом.). Рус. дыял. *при́стро́й* ‘прыбудова да будынка’. Нулявы дэрыват ад *прыстро́іць* < *стро́іць* (гл.).

**Прыстро́міцца** ‘прыладзіцца, уладкавацца, прыстасавацца’, *прыстро́млены* ‘прыладжаны да чаго-небудзь’ (Мат. Гом.), *прыстро́м* ‘прымак’ (Мат. Маг.). Укр. *пристроми́ти* ‘прыкалоць, прабіўшы чым-небудзь вострым (калом, дзідай і пад.)’. Да *стром, стро́мкі, стрэ́мка* (гл.). Беларускія словы маюць пераважна пераноснае значэнне ў параўнанні з украінскім.

**Прыстрыгава́ць** ‘прыфастрыгаваць’ (Нас., Байк. і Некр., Жд., Мат. Гом.), *прыстрыґава́ць* ‘тс’ (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *przyfastrzygować* ‘тс’, гл. *фастрыгаваць*.

**Прыстры́каць** ‘прастрачыць’ (ТС). Гл. *пстры́кнуць*.

**Прыстрэ́к**$_1$, мн. л. *прыстрэ́кі* ‘срокі; хвароба з срокаў’ (Сержп. Грам., Янк. 2, Мат. Гом., ТС, ПСл; петрык., рэч., брагін., ЛА, 3), *прыстрэ́к* ‘запаленне век’ (Тураўшч.), *прыстрэ́т* ‘хвароба з срокаў’ (ТС), ‘спалох’ (Мат. Гом.), *прыстры́т* ‘срокі’ (калінк., Сл. ПЗБ), *прыстрэ́шны* ‘які здарыўся ад сроку’ (Нар. Гом.). Параўн. укр. *пристріт* ‘хвароба як вынік срокаў, нядобрай сустрэчы’, *пристріти* ‘сурочыць’, рус. дыял. *пристре́т* ‘дрэннае, нядобрае вока; срокі’, *пристре́ть* ‘прыстаць, пера-

дацца каму-небудзь (пра хваробу)’. Да *стрэць, сустрэча* (гл.) і да т. п. Семантыка добра бачная з тлумачэння ўкраінскага слова: сурокі як вынік нядобрай сустрэчы. Бел. формы з *-т-* на канцы ўтвораны як нулявы дэрыват ад **прыстрэціць*, а варыянты з канцавым *-к* з’явіліся пад уплывам дзеяслова *сустракаць* або з *прыстрэчыць* з узнаўленнем этымалагічнага *-к-*. Пра т. зв. стрэчныя хваробы (“встречные болезни”) гл. Мяркулава, SlW, 135 (параўн. ст.-рус. *ни в стречю ни в полазъ ни в чехъ веровать то поганьское е дело*). Гл. таксама ЕСУМ, 4, 578.

**Прыстрэ́к₂**, *прыстрэ́чнік* ‘расліна марэна’ (ТС). Да папярэдняга слова. Утварэнне па шырока вядомай мадэлі ‘хвароба’ — ‘расліна, якая ўжываецца супраць хваробы’, параўн. *уро́чнік* ‘расліна Carlina vulgaris L.’ (ад сурокаў).

**Прыстрэ́нчыць** ‘прыстроіць да месца’ (Нас.). Да *стрэ́нчыць* (гл.).

**Прыстрэ́чны** ‘грамнічны’, *прыстрэ́чные свечкі* ‘свечкі, пасвячоныя на грамніцы’ (ТС). Відаць, да *прыстрэ́к* (гл.), таму што гэтыя свечы ўжываліся супраць сурокаў, або да *Стрэчанне* ‘грамніцы’ (Гарэц.), г. зн. ‘пасвячоныя на Стрэчанне’.

**Прыстрэ́шак**, *прыстрэ́шша* ‘край даху, які навісае над чым-небудзь; падстрэшак’ (нараўл., ашм., іўеў., пух., ЛА, 4), ‘часткі ганка’ (Інстр. 1). Да *стрэшка, страха* (гл.), параўн. дакладныя фармальныя адпаведнікі ў серб.-харв. *прѝстрешак* і славен. *pristréšek* ‘навес; порцік, галерэя’.

**Пры́ступ₁** ‘доступ (да чаго-небудзь)’ (Яруш., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб.), ‘атака, штурм’ (ТСБМ), ‘запал, заўзятасць’ (Сл. ПЗБ), ‘магчымасць набліжэння да каго-небудзь, звычайна з адмаўленнем’ (ашм., Стан.), *ані прыступу* ‘немагчыма падысці, звярнуцца да каго-небудзь’ (ТСБМ). Нулявы дэрыват ад *прыступіць* (гл.). Аналагічна ў іншых славянскіх мовах: рус. *при́ступ*, укр. *при́ступ,* чэш. *přístup* і г. д.

**Пры́ступ₂** ‘момант абвастрэння, узмацнення хваробы, хваравітай з’явы; рэзкае, вострае праяўленне душэўнага стану, пачуцця’ (ТСБМ; віл., Сл. ПЗБ). Этымалагічна тое ж, што і папярэдняе. Але спецыялізацыя значэння ‘прыступ хваробы’ адбылася ў рус., укр. *при́ступ* і польск. *przystęp* ‘прыступ гневу, ярасці і да т. п.’.

**Прысту́па** ‘муж, які пасяліўся пасля жаніцьбы ў доме сваёй жонкі; прымак’ (Інстр. 2; Клім.), *прі́ступнік* ‘тс’ (брэсц., кобр.,

Шн. 3), *прыстýпы* 'прымы' (кам., Жыв. НС). Нулявы дэрыват ад *прыступіць* з тэматычным *-а*. Параўн. славац. *prístupnik* 'прымак'.

**Прыступіць₁**. Гл. *ступіць*.

**Прыступіць₂** 'уступіць' (ганц., Сл. ПЗБ). Да папярэдняга слова.

**Пры́стýпка** 'падножка, ступенька, па якіх падымаюцца ўверх або спускаюцца ўніз' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Касп., ЛА, 4, Бяльк.), *пры́стýпкі*, *прíстýпкі*, *прустýпкі* 'ганак; ступенькі перад парогам' (Шушк., Сл. ПЗБ, ЛА, 4). Рус. дыял. *пристýпка* 'падстаўка, падножка, каб узлезці на печ', 'лесвічка'; 'ганак'; укр. *пристýпки* 'прыступкі лесвіцы, ганка'. Утварэнне з суф. *-к-* ад *прыступіць*.

**Прыстýпна** 'добра, зручна, ёмка' (Жд. 1). Да *прыступіць* (гл.).

**Прысты́ркнуць** 'прымацаваць' (Ян.). Гл. *тóркаць, ты́ркаць*.

**Прысукáцца** 'прымацавацца, далучыцца шляхам сукання' (Нас., ТСБМ), 'размясціцца вельмі блізка; прывязацца, прычапіцца, прыдрацца' (Нас., Жд., ТСБМ; пух., Сл. ПЗБ; ТС), *прысучы́цца* 'прывязацца' (Ласт.), *прысýчыцца* 'тс' (ТС), *прысучы́цца* 'пасватацца' (брасл., Сл. ПЗБ). Гл. *сукаць*.

**Прысукравáцца** 'прыладзіцца, прысуседзіцца (да каго-небудзь, чаго-небудзь дзеля сваёй выгады, карысці), паддобрыцца' (Янк. 1, Мат. Гом.). Утворана па аналогіі з *прысукáцца* (гл.) ад *сýкрыцца* 'завівацца', гл. *сукры*, *сукрутка*.

**Прысýтнічаць** 'быць, знаходзіцца ў пэўны час; мецца, быць у наяўнасці' (ТСБМ), *прысýтнасць* 'знаходжанне, наяўнасць' (там жа), укр. *присýтність* 'прысутнасць'. Паводле Васілеўскага (Аб нек. асабл., 48—51) калька 20-х гадоў XX ст. з рус. *присýтствовать* 'знаходзіцца, быць у наяўнасці', дзе суфікс *-ствова-* (з ц.-слав.) быў заменены прадуктыўным суфіксам *-ніча-* (< *-нік*), што ўтварае дзеясловы ад назоўнікаў дзеючай асобы. Параўн. *сýтнасць* (гл.).

**Прысýха₁** 'каханая, любая' (ТСБМ), 'прыгажуня, чараўніца' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *присóхнути* 'адчуўшы сімпатыю, прыхільнасць да некага, надта пакахаць яго', рус. дыял. *присýха* 'каханы чалавек; прыгажуня', 'чараўніца'. Гл. наступнае слова.

**Прысýха₂** 'злая (міфічная) істота'; 'звышнатуральная сіла' (Інстр. 2, Мат. Гом.). Утворана ад *прысушыць* 'прыманіць варажбой, прымусіць каго-небудзь сохнуць ад кахання' (ТСБМ,

Сл. Брэс., Мат. Гом.), гл. *сушыць*. Параўн. рус. дыял. *прису́ха* ‘прыварожванне, чараўніцтва; вядзьмарства’; укр. *прису́шений* ‘прычараваны’.

**Прысу́шак₁**, *прысуошок* ‘акрайчык, першы кавалак хлеба, адрэзаны ад новага бохана’ (беласт., Ніва, 1979, 5 жн.). Магчыма, звязана з магічным уздзеяннем (гл. папярэдняе слова): *Мы, бывало, за прысуошкі то аж б'емся* (тамсама). Гл таксама *асу́шак*.

**Прысу́шак₂**, *прысу́шкі* ‘сошкі (апоры) на бэльках’ (брагін., ЛА, 4). Гл. *прысо́шак, со́шка*.

**Прысу́шны** ‘засушлівы’ (ТС). Да *сухі́, сушы́ць* (гл.).

**Прысце́н** ‘частка (палавіна) пуні’ (Гарэц., Байк. і Некр.), ‘дабудоўка; прыбудоўка да сцяны будынка’ (Др.-Падб.), *прісьце́н* ‘частка пуні’ (Бяльк.), *прысце́нак* ‘бакавая прыбудоўка’ (ТСБМ, Шат.), ‘прыбудова са сценамі для гаспадарчых прылад’ (стол., ДАБМ), *прысце́нок* ‘прыбудоўка для свойскай птушкі’ (Шушк.), *прысты́нок* ‘прыбудова’ (кам., Жыв. НС). Рус. дыял. *присте́н* ‘месца каля сцяны або плота, тыну, штыкетніку’; ‘прыбудова да хаты; частка пабудовы, будынка’, *присте́нок* ‘тс’, укр. *при́сті-нок* ‘невысокая сценка, якая адгароджвае частку памяшкання, і частка памяшкання, адгароджаная такой сценкай’, польск. *przyścianek* ‘ганак; прыбудова’, чэш. *přístěnek* ‘месца каля сцяны’, ‘прыбудова’, славац. *prístenok* ‘крыты калідор да ўваходу ў дом’. Першапачатковая форма, зыходзячы са спосабаў словаўтварэння, — *прысце́нак*, што ўтворана прэфіксальна-суфіксальным спосабам ад *сцяна*; слова *прысцен* з'явілася ў выніку ўсячэння суф. *-ак*. Параўн. *трысце́н*.

**Пры́сцень** ‘рамка, прымацаваная да сцяны для снавання кроснаў’ (Мат. Гом.). Рус. смал. *присте́нь* ‘мера даўжыні саматканага палатна’. Конфікснае ўтварэнне (*пры-* + *-ь*) ад *сцяна* (гл.).

**Прысцё́л** ‘камель, гузыр’: *у прысцёл* ‘каласамі на гузыры (укладка снапоў ячменю, проса на полі для высушвання)’ (ТС). Бязафіксны дэрыват ад **прысла́ць* (гл. *слаць*): ‘тое, чым сцелюць’ — ‘камель, гузыр (снапа)’.

**Прысціба́й** ‘прыхвасцень’ (Бяльк.). Пранікненне з рускай тэрыторыі, параўн. рус. кур. *пристеба́й* ‘тс’; семантыка яшчэ выводзіцца са значэння дзеяслова *пристебаться*, які, паміж іншым, азначае ‘прычапіцца, прывязацца’. Бел. *прысцёбваць*

‘сцёбаць, хвастаць злёгку час ад часу’ такой семантыкі не мае. Зрэшты, магчыма, утворана ад іншага значэння гэтага дзеяслова — ‘часта выпіваць’ (Нас.), відаць, за чужы кошт. Далей гл. *сцябáць*.

**Прысцíбісты** экспр. ‘лянівы’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Укр. *пристíбний* ‘які прышпільваецца да нечага’, *пристібáти* ‘далучаць да чагосьці, звязваць’ (пераважна з негатыўным адценнем). Да *прысцёбваць* < *сцябáць* (гл.).

**Прысцігáць**, *прысцíгнуць* ‘знаходзіць; адшукваць’; ‘сачыць за кім-небудзь’; ‘даходзіць’; ‘раптоўна апанаваць; спасцігнуць’ (Нас., ТСБМ), ‘захапіць, паставіць у безвыходнае становішча’ (ТС), *прысцігнýць* ‘дагнаць; схапіць’ (Нас.), ‘прыбыць’ (арш., Шн. 2), ст.-бел. *пристигнути* ‘прыбыць’: *а каженики царевы пристигли* (Альтбаўэр). Гл. *спасцігáць, сцігаць*; на фоне адносна слаба засведчаных у беларускай мове вытворных ад прасл. **stig*- звяртае ўвагу беларуска-паўднёваславянская паралель *прысцíгнуць* — балг. *пристúгна* ‘прыйсці, прыбыць’, макед. *пристигне* ‘прыехаць, прыбыць’.

**Прысцíль** ‘від пасеву’ (Нар. Гом.). Ад *прысцілáць* < *слаць* (гл.). Параўн. *прысцёл*.

**Прысцірáдла** ‘прасціна’ (Мік., Нік. Очерки). Гл. *прасцірáдла*.

**Прысць** (*прíсть*) ‘глыбокая, выкапаная ўручную пратока праз балоты і сенажаці, якая злучае рэкі або азёры’ (пін., Нар. лекс.), *prist’* ‘дарожка, прабітая чоўнамі праз зарослыя раслліннасцю пратокі Прыпяці’ (зах.-палес., Асоўскі, Stud. Slawist., 106). Гл. *просць*.

**Прыстóн** (*прыстю́н*), мн. л. *прыстóны* ‘капсуль’ (Сіг.). З *пістóн* (гл.).

**Прысцяжка** ‘ворчык, прыпрэжка’ (Нас.; міёр., Жыв. НС), *прысцяжня́к* ‘прыпрэжаны конь’ (Мат. Гом.), *прíсьцяжнэ́й* ‘прыпрэжаны ( пра каня)’ (Мат. Маг.). Арэал слова, пагранічны з рускай і ўкраінскай тэрыторыяй, сведчыць пра пранікненне з рус. *пристя́жка* ці ўкр. *пристя́жка* ‘прыпрэжка’, якія ад *пристегнуть* (гл. Фасмер 3, 366).

**Прысы́паць** ‘насыпаць дадаткова; засыпаць’, ‘пачаць мацней ісці, сыпаць’ (ТСБМ), ‘прынесці’ (віл., Жд. 1). Да *сы́паць* (гл.). Адносна семантыкі параўн. рус. дыял. *присы́пать* ‘прымчацца’, *присыпáться* ‘з’явіцца ў мностве’.

**Прысы́пка** 'мякіна, якую дабаўлялі ў хлеб' (ваўк., Сл. ПЗБ). Таксама, як і літ. *прысы́пка* 'рэчыва, парашок, якім прысыпаюць што-небудзь', ад *прысыпа́ць* з суф. *-к-*. Гл. *сы́паць*.

**Прысы́пшчык** 'чалавек, што няпрошаным умешваецца ў размову, справу' (Бяльк.). Да *прысы́паць* (гл.). Параўн. рус. дыял. *присы́пщик* 'той, хто прыняты ў чыю-небудзь сям'ю, прыбіўся да чужога двара; спекулянт, ірвач', *присыпа́ться* 'ўмешвацца ў чужую справу, размову'. Слова, з улікам семантыкі паралелей, можна лічыць пранікненнем з рускай, але не выключана і сумеснае арэальнае ўтварэнне.

**Прысы́рыць** 'даручыць; прымусіць; адчувальна ўздзейнічаць'; 'прыручыць'; 'пакінуць', *прысырэ́ць* 'надакучыць' (Мат. Гом., ТС; жыт., Жыв. НС; мазыр., ГЧ). Няясна; відаць, корань той жа, што і ў *осы́рыць* 'пакінуць' (ТС), якое Супрун выводзіць са ст.-рус. *сиры*и 'сіроцкі, асірацелы', гл. *асірацець*, хаця семантыка разглядаемага слова не зусім ясная.

**Пры́сьма** 'ўмольна, з упрошваннем' (Клім.). Гл. *про́сьма*.

**Прыся́га** 'афіцыйнае ўрачыстае абяцанне захаваць вернасць, выканаць абавязкі; словы такога абяцання' (ТСБМ, Нас., Ласт., Сл. ПЗБ), *пріся́га* 'тс' (Бяльк.), *прысяга́ць*, *прысега́ць*, *прысягну́ць*, *прысягну́цца* 'даць прысягу; паклясціся' (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), *прісягну́ць* 'тс' (Бяльк.), *прысяга́ць* 'абяцаць' (Ян.), *прысягацца* 'бажыцца' (Ласт.), *прыся́жны* 'які прыняў прысягу, прысягнуў каму-небудзь'; 'пастаянны, заўсёдны' (Ласт., ТСБМ, Бяльк.), *прыся́глы* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *присяга*: *про слово присяги божеи* (Альтбаўэр). Укр. *при́сяга* 'клятва, прысяга', *присяга́ти(ся)*, рус. *прися́га* дыял. 'бажба'; *присягать*, польск. *przysięga*, *przysiegać*, в.-луж. *přisaha*, *přisahać*, н.-луж. *pśysega, pśysegaś*, чэш. *přísaha*, *přísahati*, славац. *prísaha, prísahat'*, серб.-харв. *при̏сега, присе́ħи се* 'даваць клятву, прысягнуць', славен. *prisȇga* 'прысяга', *priségati* 'прысягаць', ц.-слав. **присѧга, присѧшти** 'тс'. Параўн. рус.-ц.-слав. **досѧшти, досѧчи** 'дакрануцца'. Прасл. **prisęga* — аддзеяслоўны дэрыват з нулявым афіксам і тэматычным *-a* ад **prisęgti* < прасл. **sęgti, *sęgati* 'дакранацца' (гл. Фасмер, 3, 367): у час прысягі чалавек дакранаўся да нейкага прадмета, якім ён кляўся, напрыклад, да зямлі, крыжа, мяча (гл. Махэк$_2$, 535; Банькоўскі, 2, 948); першаснае значэнне 'выцягнуўшы руку, дакрануцца' (Бязлай, 3, 122; Сной$_2$,

578), гл. *сяга́ць*. *Прыся́глы* з польск. *przysięgły* ‘прысяжны’. Паводле Кохмана і Шнігера (ZNGd, 12, 95—104), *присяга, присягати* замянілі *крестное цѣлование, цѣловати крестъ* у старабеларускай пад польскім уплывам, што з улікам шырокай вядомасці названых слоў цяжка давесці.

**Прыт** ‘спрыт; жвавасць, рухавасць’ (Бяльк.). Рус. *прыть* ‘хуткасць; жвавасць’. Гл. *пры́ткі, прыць*.

**Прытаба́к** ‘капшук’; ‘партсігар’ (Мат. Гом.; Сл. Брэс.), *прытаба́шніца*, *прытаба́шныца* ‘скрынка, каробачка з бяросты для нюхальнага тытуню’, *прытаба́чныця* ‘партсігар’ (брэсц., З нар. сл., Сл. Брэс.). З *пры* і *табак*, магчыма, па ўзору *партсігар*.

**Прытаве́с** ‘вяроўка або жэрдка, прызначаная для развешвання бялізны’ (Бяльк.). Гл. *пратаве́ся*.

**Прытага́ніць** ‘прынесці, прыцягнуць’ (карм., Мат. Гом.). Рус. смал. *притага́нить* ‘прывезці ўпотайкі’. Параўн. укр. *прита́ганка* ‘вяроўка, якой прывязваецца да берага вялікі човен’; апошняе выводзіцца з *притаманити* ‘скіраваць човен да берага’ (ЕСУМ, 4, 579), што непераканаўча ў семантычных адносінах. Да *тага́ніць* ‘цягнуць’ (гл.).

**Прытаго́сіць** ‘прынесці, прыцягнуць’ (Бяльк.). Няясна.

**Прыта́кваць** ‘падтакваць’ (ТСБМ). Укр. *прита́кувати* ‘тс’, рус. дыял. *прита́кивать* ‘падтрымліваць чые-небудзь учынкі, дзеянні; раіць, угаворваць’, польск. *przytakiwać* ‘падтакваць’, чэш. *přitakat* ‘тс’. Да *так* (гл.).

***Прыталава́ты**, *прытолова́тый* ‘пахілы (пра страху)’ (лун., Шатал.). Да *талава́ць* ‘утрамбоўваць, вытоптваць, утоптваць’ (гл.); у гэтым выпадку, відаць, ‘прыціснутая, прыплюснутая (страха)’.

**Прытала́ніць** ‘пашчасціць; пашанцаваць’ (Нас., Байк. і Некр.). Да *тала́ніць, патала́ніць* (гл.).

**Прыталаска́ць** ‘цягаць за валасы’ (Нас.). Да *таласка́ць* (гл.).

**Прыталачы́ць** ‘прыбіць штуршкамі’ (Нас.). Да *талачы́ць* (гл.).

**Пры́талка**$_1$ ‘перакладзіна паміж вушакамі над дзвярамі’ (Нас., Мат. Гродз.), ‘бакавы стаяк асады ў вокнах, дзвярах’ (Бя́льк.), *пры́талака* ‘перакладзіна паміж вушакамі над дзвярамі’ (Сцяшк., Інстр. 1, Ян.). З рус. *при́толка* ‘драўляная аправа праёма ў сцяне для дзвярэй, вокнаў; дзвярныя вушакі або акон-

ная шуфляда'; 'слуп у сярэдзіне хаты для падтрымання перагародкі', 'паша, выган'. Звязана з *паталок* (гл.) (Фасмер, 3, 367; Праабражэнскі, 2, 127).

**Прытама́нныя** (*прытама́нные*) 'радня' (ТС). Укр. *притама́нний* 'сапраўдны, уласны; родны', рус. *притама́нный*, *притома́нный* 'выразны, дакладны', дыял. таксама 'сапраўдны; тутэйшы, карэнны'. Слова ўзыходзіць да тур. *tamam* 'поўнасцю, цалкам, правільна, дакладна'; гл. Корш, AfslPh, 9, 672; Фасмер, 3, 367. У беларускай мове можа быць з украінскай, улічваючы арэал распаўсюджання (гл. ЕСУМ, 4, 580).

**Прытано́жыць** 'змарыць, стаміць; надакучыць, абрыдзець' (Ян.). Няясна. Магчыма, кантамінацыя *прытаміць* і *абязно́жыць* < *нага́*.

**Прытараба́ніць** 'прывалачы, прывезці, даставіць (што-небудзь вялікае, цяжкае)' (ТСБМ, Сцяшк.), 'прымчацца, хутка прыехаць' (Мат. Гом.). Укр. *притараба́нити* 'прывалачы, прыцягнуць', *притараба́нитися* 'прыцягнуцца, прывалачыся', рус. дыял. *притараба́нить* 'прывезці, прынесці што-небудзь цяжкае'. Да *тараба́ніць* (гл.).

**Прытара́ніць** 'прынесці, прыцягнуць' (рагач., Мат. Гом.). Рус. *притара́нить* 'прынесці, прыцягнуць што-небудзь цяжкае'. Да *тара́ніць* (гл.).

**Прытара́чыць** Гл. *прытаро́чыць*.

**Пры́таркі** 'металічныя стрыжні, якія злучаюць у сасе "лемяшніцу" з ручкамі' (лудз., Сл. ПЗБ), сюды ж, відаць, і мн. л. *пры́торчы* 'пер'е, якое адрастае ў птушак пасля ліںькі' (лун., Шатал.). Рус. пск. *при́торка* 'доўгая жэрдка; кол, палка (для падпоркі, падтрымання чаго-небудзь)', пск., тамб. *при́торцы* 'калы для ўстаноўкі рыбалоўных снасцей конусападобнай формы ў выглядзе сетак, нацягнутых на абручы'. Да *то́ркаць, тырчэ́ць* (гл.)

**Прытарнава́ць** 'прыгнаць да берага (пра плыт)'; 'дастасаваць, дапасаваць' (Др.-Падб.; лід., Сл. ПЗБ), *прытарнава́цца* 'прыпыніцца, прыстаць' (ТСБМ), 'прыстаць да берага' (лід., Сл. ПЗБ), перан. *прытарнава́цца* 'прыстасавацца' (Гарэц.; валож., Стан.). Да *тарнава́ць*, *тарнава́цца* (гл.).

**Пры́тарны** 'непрыемны ад празмернай канцэнтрацыі якіх-небудзь якасцей (пра смак, пах і пад.)'; 'празмерна, ненатуральна саладжавы' (ТСБМ). Улічваючы ўжыванне толькі ў літаратуры, — з рус. *при́торный* 'тс'.

**Прытаро́мны** (*прыторо́мный*), *прыторо́нный* 'стромкі, круты (бераг)' (лун., Шатал.; ЛА, 2), сюды ж перан. *прытаро́мны* 'страшны, жудасны', *прытаро́мна*, *прыстаро́мно* 'жудасна, жахліва, страшна' (Скарбы). Няясна. Магчыма, з **прытаропны*, параўн. *таро́пно* 'страшна' (Скарбы), гл.; параўн. рус. *о́тороnь* 'жах'. Магчыма, адпавядае стараж.-рус. *притранъ* 'страшны, жахлівы' (адносна апошняга гл. ESJSt, 12, 719: *pritranьnъ*), што звязваецца з *церці* (гл.). Гл. таксама Даніловіч, Бел. дыял. фраз., 200—201.

**Прытаро́пны** 'брыдкі' (гродз., Жыв. НС). Іншае значэнне 'страшны' Даніловіч (Бел. дыял. фраз., 200—201) выводзіць з *таро́пна* 'страшна' (гл.). Параўн. папярэдняе слова.

**Прытаро́чыць**, *прыторо́чыць* 'прывязаць тарокамі да сядла; прымацаваць' (ТСБМ, ТС); *прытара́чыць* 'даставіць, прыцягнуць' (ГЧ), *прыторо́нчыты* 'тс' (Клім.). Да *тарокі* (гл.). Параўн. рус. літар. *прито́рочить* 'тс', дыял. *приторо́кать* 'прывязаць (тарокай — рэменем)', укр. *приторочи́ти* 'прывязаць рамянямі (тарокамі) да сядла' і г. д.

**Пры́таска** 'церассядзёлак' (астрав., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, звязана з *прыто́сак* 'канец атосы ў выглядзе кальца' (з **пры-атосак*). Параўн. *прыато́снік*.

***Пры́таўка**, *пры́тоўка* 'халоднае памяшканне' (ТС). Няясна.

**Прытаўчы́**, *прытувчэ́* 'збіць, пабіць; дабіць'; 'растоўкваць'; 'прыправіць затаўкай' (ТСБМ, Нас., Шат.; шчуч., свісл., Сл. ПЗБ; ТС; лід., ЛА, 4), *пріто́ўкнуты*, *прытоўкты́* 'заправіць страву растоўчаным здорам' (драг., Вешт.), *прытоўкці́* 'прыправіць' (ТС). Прэфіксальны дзеяслоў ад *таўчы* (гл.). Параўн. рус. *притоло́чь*, укр. *притовкти́*. У спецыялізаваным значэнні 'заправіць ежу (растоўчаным здорам)' мае дакладныя адпаведнікі ў бранск. *притолкну́ть* 'тс', *при́толочка*, *при́толка* 'запраўка (звычайна растоўчаны здор) для супу, вадкай стравы'. Гл. яшчэ *за́таўка*.

**Прыта́ча** 'выгадная і зручная мясціна': *у такой харошай прыта́чы хата*; *прыта́чнэ место* 'тс' (саліг., Нар. словатв.). Параўн. рус. дыял. *прито́чный: прито́чное место* 'бойкае, люднае месца'. Гл. наступнае слова.

**Пры́тачак** 'выселак' (пух., Сл. ПЗБ), *прыто́чка* 'дадатак' (Байк. і Некр.). Ад *прытача́ць* 'надтачыць; дадаць частку, кава-

лак, каб павялічыць што-небудзь' < *тачыць* (гл.). Адносна семантыкі параўн. яшчэ і ўкр. *приточи́ти* 'далучыць, дадаць'.

**Пры́тачкам**, *пры́тачкамі*, *пры́тычкамі*, *пры́тъчъкъмі* 'прыхваткамі; не часта, час ад часу' (докш., Янк. Мат.; віл., Жд. 1; бялын., Нар. сл.; віл., лях., Сл. ПЗБ; ЛА, 5). Першапачаткова Тв. скл. ад *пры́тачак* (гл.) у значэнні 'тое, што дадаецца', аднак, больш верагодна — фанетычны варыянт *пры́тычкам* (гл.).

**Прытвара́цца**, *прытварь́іцца* 'прыкінуцца' (ТСБМ), *прітвыря́цца* 'прыкідвацца' (Бяльк.); параўн. укр. *притвори́тися*, рус. *притворя́ться,* славац. *pritvorit' sa*, серб.-харв. *при̏творица* 'прытворшчык(ца), крывадушнік(ца)'. Да *твар*, *твары́ць* (гл.). Першаснае значэнне 'стаць падобным да некага, зрабіцца кім-небудзь' (параўн. Махэк$_2$, 662).

**Прытво́р**$_1$, *прытвуо́рок* 'пярэдняя частка царквы непасрэдна за паперцю' (ТСБМ; гарад., беласт., Сл. ПЗБ), 'сенцы, ганак' (малар., пін., Нар. сл.), 'шула, да якога прычыняюцца вароты' (ТС), ст.-бел. *притворъ* 'пярэдняя частка царквы, бабінец'. Укр. *притво́р* 'прытвор у царкве'; 'пярэдняя частка памяшкання', 'вокны, дзверы', рус. *притво́р* 'заходняя паперць царквы, дзе кормяць жабракоў', дыял. 'прастора паміж адчыненымі дзвярамі і вушаком', 'аканіца', 'ніжняя частка дзвярных вушакоў; парог'; ст.-рус. *притворъ* 'порцік, каланада', польск. *przytwor*, н.-луж. *pśitwaŕ*, славац. *pitwor* (з **pritvor* — Махэк$_2$, 662), балг. *при́твор*, серб.-харв. *при́твор* 'невялікая загарадка для авечак', ст.-слав. **притворъ** 'аркада'. Праслав. **pritvorъ*, першапачаткова 'прыбудова'. Ад **pritvoriti*, якое да прасл. **tvoriti*, у ліку першасных значэнняў якога было 'будаваць', гл. Фасмер, 3, 367; Скок, 3, 627; БЕР, 5, 736; ЕСУМ, 4; 580 (адрознівае аманімічныя 'частка царквы' і 'дзверы, вокны'). Гл. таксама ESJSt, 12, 719.

**Прытво́р**$_2$ 'прыманка для пчол у пустым вуллі' (ТС). Да *тварыць* 'пырскаць, крапіць вулей' (гл.).

**Пры́ткі**$_1$ 'хуткі, скоры, імклівы; вёрткі, спрытны' (ТСБМ, Нас., Ласт., Жд., ТС, Бяльк.); 'хуткі, жвавы, шпаркі, гарачы, азартны' (Шпіл., Яруш.), 'упарты, свавольны' (Ласт.), *prýtki* 'жорсткі ў абыходжанні' (Яруш.), 'упарты, свавольны' (Ласт.), *prýtki* 'жорсткі ў абыходжанні' (беласт., Бел.-польск. ізал.). Сюды ж вытворнае *прытка* 'хутка' (Сцяшк. Сл., Растарг.). Укр. дыял. *притки́й* 'хуткі, спрытны', рус. *пры́ткий* 'скоры, хуткі, вёрткі'.

Прасл. **prytъkъ(jь)* паходзіць ад **prytjati* (варыянты **prъtiti*, **prъtěti*, **prъtnǫti*), прадстаўленага ў ст.-польск. *pryciać, pruciać* ‘бегаць, рыскаць, вышукваць, корпацца’, *prytnąć* ‘ускочыць’ (Варбат, Этимология—1971, 10), роднаснага літ. *spráusti* ‘ўціскваць’, *sprũsti* ‘вырывацца, выслізгвацца’, лат. *sprautiês* ‘падымацца, прарастаць (пра бульбу)’, с.-в.-ням. *spriessen* ‘пускаць парасткі’, ст.-англ. *spréwlian* ‘кідацца; корпацца’, англ. *sprawl* ‘расцягнуць’ (Фасмер, 3, 391—392); да гэтай жа асновы Махэк₂ (487) узводзіць і чэш. дыял. *prtit* ‘прарастаць, даваць усходы’, серб.-харв. *pȑtit* ‘вырастаць з зямлі’, што пацвярджаецца семантыкай польск. *pęd* ‘імкненне’ і ‘парастак’, рус. *побе́г* ‘уцёкі’ і ‘парастак’ (спецыяльна гл. Варбат, Слав. языкозн., XII, 119—121: значэнне ‘хуткі’ ўзнікае ў гісторыі асобных славянскіх моў). Сюды ж рус. дыял. *вы́прыть* ‘выпіць адным махам, адразу’ (<**pry-ti*, гл. Куркіна, ОЛА, Исследов., 1994—1996, 204). БЕР (5, 738) далучае сюды і балг. *при́ткам* ‘кідацца; піхаць, адпіхваць’, *при́тнем* ‘адпіхнуць’, для якіх узнаўляецца праформа **pryti*, паводле Геаргіева (Въпроси, 22), з зыходнай асновай **prypt-*, гл. *при́пкам, при́пна* ‘кідацца, бегчы’; апошнія (згодна з БЕР, 5, 727) выводзяцца з **pripęti* (гл. *пяць*, *пну*). Гл. *прыт*, *прыць* і наступнае слова, а таксама Этимология—1968, 92; БЕР, 5, 737 (*притек*); ESJSt, 12, 720.

**Пры́ткі₂** ‘стромкі’: *прыткі бераг ракі* (Ласт., пад *крутой*). Параўн. каш. *přitki* ‘круты, стромкі’. Паводле Папоўскай—Таборскай (SEK, 4, 131), апошняе ўтворана пры дапамозе суфікса *-kъ(-ъkъ-jь)* ад архаічнага славін. *přiti* ‘тс’, для якога Хінцэ (Z hist., 195—198) рэканструюе прасл. дыял. **pri-i-tъ* ‘стромкі’ (< **pri-i-ti*, гл. *прыйсці*), параўн. семантычна і марфалагічна аналагічнае лац. *sub-i-tus* ‘круты, стромкі’. Борысь (SFPS, 30, 9—11) выводзіць названую форму з прасл. **prytъ* < і.-е. **pru-to-*, архаічны прыметнік з суфіксам *-*to*- ад і.-е. **preu-* ‘скакаць’, літаральна ‘які скача, падскоквае’, што аб’ядноўвае значэнні ‘хуткі, жвавы’ і ‘стромкі, круты’ і параўноўваецца з беларускім *пры́тны* ‘стромкі, круты’ і ‘хуткі, рухлівы’ (гл.), параўн. таксама SEK, 4, 130.

**Пры́тны** ‘круты, стромкі, адхоністы’ (Варл., Сцяшк., Ласт., Мат. Гом.), ‘хуткі, праворны’ (Нас., Бяльк.), ‘упарты, непаслушны’ (Ласт.), сюды ж *пры́тна* ‘хутка, жвава’ (Нас.), ‘моцна, шчыльна; тэрмінова; старанна, уседліва; вельмі неабходна’ (Нас., Юрч., Сцяшк., Жд. 3, ЛА, 5), *прытно́м* ‘непасрэдна, адзін за адным, запар’ (ТСБМ, Касп., Стан.; беласт., Бел.-польск. ізал.), ‘вельмі

часта' (Янк. 1; ст.-дар., Жыв. НС), *пры́тня* 'строма, круча', *пры́цінь, пры́ціня* 'тс': *у сам пры́цінь сонца* (пра сонца ў зеніце) (Ласт.), *прыці́н* 'зеніт' (Стан.). Відаць, утварэнне з *-n-* суфіксацыяй: **prytъnъ(jь)* або **pritьnъ(jь),* што да **prъtiti*, гл. *пры́ткі, пры́тыць*. Магчымы ўплыў іншых асноў, параўн. рус. дыял. *при́ттмом* 'раптоўна, хутка', якое Люканен (Восточнослав., I, 119) узводзіць да прасл. **pritь-mo* ад **pri-tęti* ( < **tęti* 'рэзаць', гл. *цяць*).

**Прыто́лічны** (*прыто́лычны*) 'суседні' (Булг.). Няясна.

**Прыто́мны** 'які знаходзіцца ў прытомнасці, пры памяці' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп.), 'які прысутнічаў пры пэўнай падзеі; сведка' (Нас., Ласт., Яруш., Касп.), 'які мае прыстанішча, прытулак; які супакоіўся на месцы' (Нік. Очерки), ст.-бел. *притомный* 'свядомы, прысутны' (Ст.-бел. лексікон); *притомные часы* 'ў тыя часы' (там жа). Укр. *прито́мний* 'свядомы, прысутны', польск. *przytomny* 'тс', чэш. *přítomný* 'прысутны', славац. *prítomný* 'прысутны, наяўны', в.-луж. *přitomny*, н.-луж. *pśitomny* 'тс'. Слова ўтворана на базе словазлучэння *пры том* 'той, які быў пры тым, сведка' (Брукнер, 682; Махэк$_2$, 495; ЕСУМ, 4, 581). Ва ўсходнеславянскіх мовах — праз польскую з чэшскай (Банькоўскі, 2, 953), параўн., аднак, *пато́мны* (гл.).

**Прыто́н** 'месца, дом, дзе збіраюцца злачынныя, амаральныя, антыграмадзянскія элементы' (ТСБМ), 'прытулак, свой кут' (узд., Жд. 1). Укр., рус. *прито́н* 'месца, дом, дзе збіраюцца злачынныя, амаральныя, антыграмадзянскія элементы', укр. *прити́н* 'сховішча, прыстанішча'. Паводле Фасмера (3, 367), рускае слова разам з *тоня, затон* (гл.) ад *топить* з першапачатковым значэннем 'гавань, прыстань'. Не выключана запазычанне з рускай мовы, параўн. народнае *прыці́н* 'прытулак, сховішча' (гл.).

**Прыто́хнуць**, *прыто́хнуцца* 'атрымаць тухлы, затхлы пах' (Нас.), *прыто́хлы* 'які сапсаваўся ад цяжкага паветра, затхлы' (Нас., Байк. і Некр.). Відаць, да незафіксаванага **то́хнуць*.

**Прытрапячы́ць** 'узбіць (падушку)' (ваўк., Сл. ПЗБ). Да *трапа́ць* (гл.).

**Прытро́нціць** 'прыгразіць' (воран., Сл. ПЗБ). Відаць, мясцовае ўтварэнне на базе польск. *trącić* 'штурхаць, піхаць'.

**Прыту́га$_1$** 'жэрдка, лата (у саламянай страсе)' (чач., Мат. Гом.). Рус. дыял. *приту́га* 'жэрдка, дубец, вяроўка, якімі прыціскаюць, змацоўваюць салому, чарот на страсе', укр. *приту́жина* 'тс'. Да *тугі* (гл.).

**Прытýга₂** ‘смутак, жаль, маркота; змярцвенне’; ‘цяжкае становішча; нястача; бяда’ (Нас., Шн., Песні, Кос., Гарэц., Др.-Падб., Касп., Бяльк.; карм., Мат. Гом.; Ян.; калінк., Сл. ПЗБ), *прітýга* ‘туга; нудны настрой’ (Бяльк.), *прытýжэны* ‘тужлівы’ (ТС). Параўн. укр. *притýга* ‘гора, бяда; смутак, туга’, серб.-харв. *при̏туга* ‘бяда, няшчасце’, ст.-слав. **притѫжати** ‘засмучаць, маркоціцца, трывожыцца’. Прасл. **pritǫga* ‘гора, бяда’ (ЕСУМ, 4, 581). Да *тугá*, *тужы́ць* (гл.).

***Прытýжна**, *прытýжно* ‘пільна, старанна, шчыра, уважліва’ (лельч., Нар. лекс.; ТС), *прытýжны* ‘заўзяты’ (ТС); сюды ж, відаць, *прытýжны* ‘моцны (мароз)’ (стол., ЛА, 2). Відаць, вытворнае ад *прытужаць* ‘ціснуць, гнясці’ (Ласт.), гл. наступнае слова.

**Прытýжнік**, *прітýжнік*, *прытужáльнік*, *прітужáльнік* ‘кій, які ўтрымлівае кола задняга навоя’ (Інстр. 2; жлоб., Мат. Гом.; ЛА, 4). Дэрыват ад *прытужны* < *прытужыць* < *тужыць* (гл. *тугі, цягнýць*).

**Прытýкаць** ‘аглушаць заўсёднай лаянкай; прымушаць лаянкай да працы’ (Нас.), ‘прымусіць (настойлівымі патрабаваннямі)’ (Мат. Маг., Юрч. СНС), *прытукáць*, *прытухáць* ‘абгаворваць’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Рус. смал. *притýкивать* ‘лаяць каго-небудзь, прымушаючы працаваць’. Да *тýкаць* (гл.).

**Прытýла** ‘прымак (звычайна ў пажылым узросце і пры адсутнасці законнага шлюбу)’ (Клім.), ‘прымак’ (Ян., Мат. Гом.), *прытýль, прытýліч* ‘тс’ (Жыв. НС). Дэрываты з розным суфіксальным афармленнем ад *прытуліць* < *туліць* (гл.).

**Прытýлак** ‘месца, дзе можна схавацца, адпачыць, прабыць патрэбны час’, ‘дабрачынная ўстанова для сірот, беспрытульных дзяцей і інш.’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Бяльк., Варл., Сл. ПЗБ), *прытýл* ‘прыстанішча’ (ТСБМ, Ласт., Касп.), ‘схованшча, прытон’ (Нас.), *прытýла* ‘прыстанішча’, *прытýлішча* ‘тс’ (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Бяльк., Ян.), *прытýлле* ‘тс’ (Касп.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне, параўн. *прытуліцца* ‘шчыльна прыхінуцца; знайсці прыпынак для жыцця’ (Варл.), ‘адчуць ласку, спагаду, спачуванне’ (светлаг., SOr, 39, 356), *прытуліць* ‘паставіць адзін прадмет упрытык да другога’ (там жа). Гл. *туліць*. Аналагічныя ўтварэнні і ў іншых славянскіх мовах, параўн. рус. дыял. *притýл, притýла, притýлище, притýлье* ‘прыстанак, пры-

тулак', укр. *притýл*, *притýлок*, польск. *przytul*, *przytulisko*, *przytułek* 'тс' і да т. п.

**Прытýліца** 'жаўтазель фарбавальны, Genista tinctoria L.' (Ласт., Кіс.). Магчыма, адаптаванае польск. *przytulia* 'павіліца, Galium aparine', якое ад *przytulić się* па ўласцівасці расліны прыхіляцца, чапляцца, прытуляцца да чаго-небудзь (Махэк, Jména, 219). На жаўтазель назва была перанесена з-за той жа ўласцівасці.

**Прытуманéт** 'кашалёк' (Сл. Брэс.). З *партаманéт*, *партманéт* 'невялікі кашалёк для грошай' (гл.).

**Пры́тхі**, *прóтхі* 'палонкі на возеры, якія прарубаюць для таго, каб рыба не задохлася' (слаўг., З жыцця). Аддзеясловны назоўнік ад *прытхнýцца* 'псавацца ад спёртага паветра', гл. *тхнуць*.

**Пры́тхлы** 'затхлы; гнілы, цвілы' (Нас., Байк. і Некр., Растарг., ТС), 'прытухлы', *пры́тхліна* 'дрэнны, гнілы пах' (Нас.), *прытыхля*, *пры́тхля*, *пры́тха* 'цвіль, пах прэлага, затхласць', *прі́тхлысьць* 'прытухласць' (Яруш., Бяльк., ТС). Да *тхнуць* (гл.).

**Пры́тча** кніжн. 'іншасказальнае апавяданне з павучальным вывадам' (ТСБМ), *пры́тча*, *пры́чта*, *пры́шта* 'байка, апавяданне, быль', 'непрыемны, нечаканы выпадак; непрыемны збег абставін' (Нас., Касп., ТС), *prýčča* 'хвароба, немач' (Варл.), *пры́ччa*, *пры́ча* 'тс' (віл., смарг., Сл. ПЗБ), *пры́чча* 'нечаканая хвароба; бяда' (Бяльк.), *пры́чта* 'прытча, дзіва' (Ян.), *пры́тча* 'штукі; свавольства' (Нас.), *мéрыць пры́чча* 'лячыць хваробу (забабонамі)' (віл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *притча* 'апавяданне' (Альтбаўэр). Укр. *пры́чта, при́тча* 'гісторыя, здарэнне, выпадак', рус. *при́тча* 'прытча', дыял. 'няшчасце, бяда, напасць'; 'раптоўная хвароба, выкліканая чарамі, сурокамі', *при́тчия* 'казка, байка, прытча', ст.-рус. *притъча* 'няшчасны выпадак' (XIII ст.), ст.-польск. *przytcza* 'выпадак, здарэнне', серб.-харв. *пра̑ча* 'апавяданне, прыказка', славен. *príča* 'момант, цяперашні час', 'сведчанне, сведка', 'прытча, казка, прыказка', балг. *при́тча* 'прытча'. Прасл. **pritъča* 'выпадак' ад **pritъknǫti* 'прыткнуць' (Міклашыч, 368; Праабражэнскі, 2, 127; Брукнер, 445; Фасмер, 3, 368; БЕР, 5, 740; Банькоўскі, 2, 953; ЕСУМ, 4, 581—582; ESJSt, 12, 719). Да *ткнуць, тыкаць* (гл.).

**Прыты́к** 'месца сточвання ніткі ў працэсе прадзення' (талач., Шатал.). Да *прытыкáць* < *тыкаць* (гл.).

**Прыты́ка₁** 'выструганая жэрдка, якая ўтыкаецца ў дно вадаёма для замацавання на ёй сеткі, нерата і пад., прывязвання лодкі' (ТСБМ, Касп., Янк. 1; полац., З нар. сл.; ПСл), 'калок, якім прытыкаюць пласты сена ў капе або ў стозе, каб не зрывала ветрам' (ТС), 'тонкі шост пры падхватніку' (Янк. 1), *прыты́чка* 'калок' (Байк. і Некр.). Да *тыкаць* (гл.).

**Прыты́ка₂**, *прыты́чка*, мн. л. *прыты́кі, прыты́чкі* 'дакор; папрокі, упікі' (Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Яруш., Касп.), *ба́ба-прыты́ка* 'пра мужчыну, які ўмешваецца ў чужыя справы і размовы' (Растарг.). Да *прытыка́ць₂* (гл.), аддзеяслоўны назоўнік з *-а* асновай. Меркаванні пра калькаванне літ. *prie͂kaištas* 'дакор, папрок' пры літ. *káišioti, kìšti* 'тыкаць' (Чэкман, Baltistica, 8, 2, 152—153) не пераконваюць.

***Прыты́ка₃** '?': "*Нанімала чачотачка скочну музыку, // Нанімала невялічка капэлю ўсю: // Верабейка — на скрыпіцы, // Салавейка — на прытыцы*" (ашм., Ант.). Значэнне невядомае, але не выключана, што гэта *прытыка₁* (гл.). У такім выпадку да *тыкаць*.

**Прытыка́ць₁** 'ткаць шчыльна, каб атрымоўвалася палатно, а не радно' (Федар.). Да *тыкаць, ткаць* (гл.).

**Прытыка́ць₂** 'папракаць' (Нас., Байк. і Некр.), 'умешваць, далучаць' (Шат.). Укр. *притика́ти* 'ўмешваць, рабіць некага прычынным да пэўнай справы', *приткну́ти* 'злавіць на слове', *прити́ки дава́ти* 'закранаць; чапляцца', рус. *притыка́ться* 'лезці ў чужыя справы; чапляцца да некага, дамагацца нечай прыхільнасці, любасці'. Гл. *ты́каць*, параўн. *тыкаць нос* 'лезці не ў свае справы'.

**Пры́тылкі**, *прі́тылкі* 'вушакі' (арш., чавус., чэрык., краснап., ЛА, 4), *пры́тылка* 'прылавак' (Ласт.). Гл. *пры́талка*.

**Прыты́м** — злучнік далучальны (звычайна ў спалучэнні са злучнікамі *і, ды, а*) 'да таго ж, акрамя таго' (ТСБМ). Ад *пры-* і *тым-*, Тв. скл. займенніка *той*. Параўн. рус. *прито́м* 'тс', укр. *примі́м* 'прытым'.

**Прыты́рак** 'дурань', *прыты́раны* 'дурнаваты' (шчуч., З нар. сл.; жлоб., Жыв. сл.; бых., Жыв. НС). Утворана ад **прытырыць* з суф. *-ак*; параўн. *пратырыць*. Параўн. укр. *прити́ритися* 'недарэчна або не ў час прыйсці, прыехаць', славен. *pritirati* 'прыгнаць' і пад. (< **tirati* 'церці').

**Пры́тыць** (*пры́тыты*) 'несці цяжкае, валачыць' (Клім.). Параўноўваюць з серб.-харв. *пр̏тити* 'накладваць, узвальваць на спіну', *у̀прити* 'ўзваліць цяжар на спіну' (Талстой, Лексика Пол., 17). Запрудскі (дыс., 27) адносіць сюды ж *запры́ць* 'ту́га завязаць пры дапамозе закруткі' (ваўк., Сл. ПЗБ) і *пры́тны* 'круты' (гл.) (навагр., Сцяшк.), выводзячы зыходную семантыку 'круціць'. У такім выпадку з'яўляецца працягам прасл. **prъtiti*, прадстаўленага ў *пры́ткі* 'хуткі, вёрткі' (гл.); да семантыкі параўн. *кру́чаны* 'непаседлівы'.

**Пры́тычкам** 'вельмі рана, да ўсходу сонца' (чэрв., Жд. 3); зыходзячы з ілюстрацыі: *я ўнучцы і гавару, каб ўстала ды пры́тычкам і папалола, пакуль сонца не ўзышло*, значэнне вызначана недакладна; правільна, відаць, 'хутка, за кароткі час; адным намаганнем', параўн. *прытычкамі* 'ўрыўкамі' (Шат.). Першапачаткова Тв. скл. назоўніка *пры́тычкі*, які да *прытыка́цца* < *тыкаць*.

**Прыты́чына** 'збег непрыемных, нечаканых абставін'; 'дамаганне, прэтэнзія' (Нас.). Укр. *прити́чина* 'перашкода, затрымка'; 'здарэнне, прыгода'; 'прычына', рус. яраслаў. *притычи́на* 'прычына; віна'. Ад *прытыка́цца* 'сутыкацца'. Да *тыкаць* (гл.). Параўн. *пры́тча* (гл.), рус. *при́тка* 'нечаканае здарэнне, прыгода'.

**Пры́ўза**, *пры́вза*, *пры́зва*, *пры́взы*, *прэ́взэ* 'палкі, якімі ўзмацняецца стог' (Выг.), сюды ж *прі́ўзу́к*, *прузу́к* 'раменьчыкі, якімі звязваюцца часткі цэпа' (Выг.); *пры́зва* 'пара маладых бяроз, звязаных верхавінамі, якія кладуцца на верх стога' (Сіг.) з метатэзай элементаў кораня. Параўн. рус. дыял. *при́уза*, *при́уз, при́вза* 'цэп'; 'раменьчык, які змацоўвае біч і дзяржанне цэпа'; 'вяроўка, завязка', таксама *привýз, при́вуза* 'тс', ст.-рус. *привяза* 'тс', славац. *privez, priveza* 'тс', серб.-харв. *при̏веза, при̏везак* 'тс', балг. *при́вез* 'тс'. Прасл. **privęzъ, *privęza*, вытворнае ад **privęzati* (Фасмер, 3, 368; БЕР, 5, 700). Гл. *пры́вязь, прузак*.

**Прыўкра́сны** 'прыгожы' (Караткевіч), *прывукра́сны* 'тс' (рагач., Мат. Гом.). Рус. смал. *привукра́сить* 'упрыгожыць', пск. *преукрасе́я* 'прыгажуня'. Лічыцца вытворным ад дзеяслова, запазычанага з рус. *приукра́сить* 'упрыгожыць' (Пацюпа, Гармонія, 25). Інакш Карскі (2—3, 51), які ў адносінах да дыял. *прыўкрасны* (*привкрасный*) (себеж., Мат.) дапускае трансфармацыю ст.-бел. *пре-* ў *при-* (гл. *пры-*) па фанетычных прычынах ці па аналогіі, параўн. ст.-слав. **прѣоукрасити** 'ўпрыгожыць' пры

**оукраситн: оукрасивъ сѧ** ‘ўпрыгожыўся’, гл. таксама *ўкрасіў*: *хлапец няўвошта ўкрасіў* (“Энеіда навыварат”). Магчыма, таксама кантамінацыя *прыго́жы* і **ўкрасны* (дзеепрыметнік ад *украсіць*, гл.), падрабязна гл. Цыхун, Супр. чыт., III, 130—131.

**Прыўлашча́ць**, *прыўла́шчыць*, *прыўла́шчваць* ‘прысвойваць’ (Нас., Байк. і Некр., Бяльк.). Працягвае ст.-бел. *привлащати*, *прывлащати* ‘тс’, якое са ст.-польск. *przywłaszczać*, *przywłaszczyć* ‘тс’, апошняе лічыцца калькай са ст.-чэш. *přivlastniti* (Булыка, Лекс. запазыч., 197; SFPS, 13, 24; інакш Банькоўскі, 2, 954). Іншыя ўсходнеславянскія формы таксама з польскай, параўн. рус. *привласти́ть* ‘завалодаць, прысвоіць’, укр. *привлаща́ти, привласти́ти* ‘прысвойваць, прысвоіць’.

**Прыўле́сны** ‘ласкавы (пра дзіця)’ (добр., ЛА, 3). З рус. *преле́стный*, параўн. *прыўкра́сны* (гл.).

**Пры́ха**, мн. л. *пры́хы* ‘губа ў каня, каровы’ (баран., лях., пін., Сл. ПЗБ), ‘храпа ў каня’ (пін., Шатал.; Сл. Брэс.), ‘пыса; непакрытая шэрсцю частка пысы ў каровы, каня’ (Нар. сл., Сл. Брэс.; ЛА, 1), *пры́шка* ‘мордачка’ (Сіг.). Да *прыса* (гл.).

**Пры́хадзень** ‘прышэлец, прыблуда’ (ТСБМ, Янк. 3, Нар. Гом.; ашм., Стан.), *прыхо́дзень* ‘які прыйшоў з другога месца, прышлы’ (Ласт.), сюды ж *прыхажа́кі* ‘прышлыя людзі’, *прыхо́джы, прыхо́жы, прыхаджа́лы* ‘прышлы, нетутэйшы’, маст. *прыхо́джы* перан. ‘запазычаны’ (паст., віл., трак., смарг., навагр., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *приходень* ‘прышлая асоба; чужаземец’, якое, паводле Жураўскага (SOr, 10, 40), запазычана з польск. *przychodzień* ‘тс’, што, на думку Вярхова (Аб нек. асабл., 34, 37), неабавязкова ў сувязі з прадуктыўнасцю словаўтваральнага тыпу. Ад *прыходзіць* (гл. *хадзіць*) з розным суфіксальным афармленнем.

**Пры́хамаць** ‘капрыз, недарэчнае, надуманае жаданне’ (ТСБМ), ‘забабонны сродак; забабоны’; ‘чароўныя веды’ (Нас., Гарэц.), ‘забабоны, лячэнне нагаворамі’ (Бяльк.), *при́хамить* ‘сімвалічны знак, абрад, які мае агульныя рысы з чарадзействам і незразумелы для пабочнага гледача’ (Мядзв.), *прихамети* ‘забабоны’ (Кос.), *прыхаме́ты* ‘тс’, *прыхаме́та* ‘прыкмета’ (Бяльк.), *прыхамати* ‘байкі, забабоны’ (Растарг.), *пры́хаматлівы* ‘прымхлівы, які верыць забабонам’, *пры́хаматны* ‘знамянальны па якіх-небудзь забабонных прыкметах’ (Нас.), *прыхаме́тнік* ‘вядзьмак’ (Бяльк.). Рус. смал., бранск. *при́хомоть* ‘забабонная прык-

мета, забабоны, павер'е', бранск. *при́хомати, при́хомять*, смал. *прихоме́ты, прихомётка* 'тс', *прихоме́тник* 'вядзьмак', *прихоме́тница* 'вядзьмарка'. Цёмнае слова. Можна выказаць толькі некалькі меркаванняў. *Пры-*, відавочна, прыстаўка, параўн. яшчэ *пры́шамець* 'незвычайная з'ява' (Варл.), што дазваляе выдзеліць экспрэсіўны элемент *-ха-*, які чаргуецца з *-ша-* (параўн. Махэк$_2$, 203: пад *chomrstati*). Няяснай застаецца фіналь слова (ад **męti*?). Не выключана, што разглядаемае слова — гэта вытворнае ад *пры́мха* (гл.) з суф. *-от* і *-ь* (гл. аб суфіксацыі Карскі, 2—3, 30—31): **прымх-оть* і з наступнай метатэзай і *о* ўстаўным —**прыхомоть* > *прыхамаць*. Але гэта няпэўна.

**Пры́хапкам**, *пры́хапком, пры́хопком, пры́хапкамі, пры́хапкамы, прі́хапкамі, прыхо́пкамі* 'рабіць што-небудзь ў вольную часіну, урыўкамі, прыхваткамі' (бых., Янк. 3; Мат. Гом.; ашм., Стан.; Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 5), укр. *при́хапком, при́хапцем, при́хапці* 'ўрыўкамі'; 'спехам', Тв. скл. назоўніка **прыхапак* < *прыхапіць* < *хапіць* (гл.).

**Прыха́пчлівы** (*прыха́пчлывый*) 'зладзеяваты' (Сіг.). Да *прыхапіць* < *хапіць, ха́паць* (гл.).

**Прыхарашы́ць** 'зрабіць больш прыгожым, надаць прыгажэйшы выгляд', *прыхарашы́цца* 'апрануцца прыгожа, хораша, лепш, чым раней, чым звычайна'; 'надаць сабе больш прыгожы выгляд' (ТСБМ, Шпіл.), *прихараше́нне* 'ўбор, убранне, упрыгожванне' (Шпіл.), *прыхаро́шаны* 'прыбраны' (узд., Жд. 3). Да *харошы, харашэць* (гл.).

**Прыхату́ліць** 'прыхаваць' (пух., Жд. 1), сюды ж, відаць, *прыхату́рыць* 'прыхаваць' (Ласт.). Да *хатуль* (гл.).

**Прыхаху́ліцца** 'хутка і з большага прывесці сябе ў парадак' (Янк. 3), *прыхухо́ліцца* 'прыхарашыцца, прыбрацца, прыадзецца' (Нар. Гом.). Рус. смал. *прихаху́литься* 'прыадзецца неакуратна, абы-як, спехам', укр. *прихаху́литися* 'прыадзецца, прыбрацца', *прихаху́лити* 'прыбраць, прыадзець, выстраіць'; 'прыбраць, упрыгожыць, навесці парадак, чысціню'. Таксама як ў рус. *нохо́ниться* 'прыбірацца', *хохо́нить* 'прыбіраць', *хохо́ня* 'франт', для якіх Фасмер (4, 272) дапускае гукапераймальнае паходжанне. Прыставачнае ўтварэнне, у аснове якога рэдуплікацыя выклічніка *ха* (гл.). Сюды ж, відаць, з далейшым развіццём семантыкі *прыхаху́ліць* 'забіць' (пух., Сл. ПЗБ).

**Пры́хаць** (*прыхаты*) ‘фыркаць, чмыхаць’; ‘чхаць, пырскаць’; ‘выказваць незадаволенасць’ (Клім., ТС), *прыхнуць* ‘дзьмухнуць’ (ТС), драг. *прэ́хатэ* ‘тс’ (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Укр. *при́хати, пи́рхати* ‘пырхаць; кашляць’. З *пы́рхаць* (гл.) у выніку метатэзы *ы* і *р*.

**Пры́хваткам**, *прыхваткамі* ‘ў перапынках паміж іншымі справамі і заняткамі; нерэгулярна, урыўкамі’ (ТСБМ, Янк. 1, Клім., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс., ЛА, 5), *прыхваткай*, *прыхваткаю*, *пріхваткі* ‘тс’ (Янк. 1, Скарбы; карэліц., ушац., полац., ЛА, 5), *прыхватам*, *пріхватым* ‘тс’ (гарад., іўеў., ЛА, 5), *прыхвытым* ‘у момант, адразу; адным махам’ (Бяльк.). Да *прыхваціць* < *хваціць, хватаць* (гл.).

**Прыхво́стацца** экспр. ‘суцішыцца, суняцца’ (ТС). Гл. *хваста́ць*.

**Прыхі́б** ‘бяда’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Гл. *хіба*. Адносна значэння параўн. ст.-польск. (да XVI ст.) *chyba* ‘недахоп; памылка’ (Брукнер, 188), а таксама чэш. *chyba* ‘тс’.

**Прыхі́лак** ‘прыстанішча, прытулак’ (Нас.), таксама *прыхілле*, *прыхілішча* ‘прытулак, прыстанне’ (Нас.; кобр., Рам.; Кос.), *прыхілле* ‘франтон’ (жабін., ДАБМ). Суфіксальныя дэрываты ад *прыхіліць* < *хіліць* (гл.).

**Прыхі́льны** ‘схільны да чаго-небудзь; добразычлівы; спагадлівы’ (Байк. і Некр., Ласт., ТСБМ; астрав., Сл. ПЗБ), ‘той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі’ (воран., ЛА, 3). Укр. *прихи́льний* ‘тс’. З польск. *przychylny* ‘тс’, або самастойнае утварэнне ад *прыхіліць* < *хіліць* (гл.).

**Прыхі́міцца** ‘далучыцца’ (ТС). З **прыхініцца*. Гл. *хінуць*.

**Прыхі́н** ‘прытулак’ (Гарэц.). Да *прыхіну́ць* < *хінуць* (гл.).

**Прыхі́сціць** ‘захінуць, засланіць’ (ТС). Сюды ж аддзеяслоўныя назоўнікі: *прыхісць* ‘прытулак; месца, дзе можна прыхінуць галаву’ (Шат.), *прыхісце* ‘часовы будан’; ‘паветка’ (стол., Нар. сл.). Да *хіста́ць* (гл.). Параўн. укр. *захист* ‘абарона’.

**Прыхліпа́ць** ‘прыліпаць’ (Нас.). Няясна. Магчыма, кантамінацыя *прыліпаць* і *хліпаць* (гл.).

**Прыхлу́дзіць** (*прыхлу́дыты*) ‘ашаламіць, збянтэжыць; прыстукнуць’ (Клім.). Да *хлуд* (гл.).

**Прыхлу́п** ‘суцэльнае бервяно, якое кладзецца над вокнамі, дзвярамі’ (калінк., ЛА, 4), *прыхлап*, *прыхлуп* ‘пакатасць’ (калінк.,

Сл. ПЗБ), сюды ж варыянты: *пры́хлюп*, *пры́хлюн* ‘пакатая страха’; ‘пакаты схіл (страхі, верха ў стозе)’ (ТС; маст., ганц., ЛА, 4), *прыхлю́пісты* ‘пакаты’ (ТС), *прыхлю́пая*, *прыхлу́пістая*, *прыхлу́піста* (страха) ‘пакатая страха’ (лун., калінк., ельск., кір., люб., ЛА, 4). Сюды ж таксама *прыхлу́пкаваты* ‘прысадзісты’ (Мат. Гом.), *прыклю́п* ‘паветка са сценамі для дроў, мякіны’ (лун., Нар. сл.). Да гукапераймальнага (імітатыўнага) *-хлуп-* (*-хлюп-*), *-хлоп-*, параўн. палес. *пріхлопні* ‘пакаты’ (Бел.-укр. ізал.). Гл. *ахлуп*.

**Прыхо́д** ‘парафія; ніжэйшая царкоўная арганізацыя ў хрысціянскай царкве; мясцовасць, дзе жывуць члены гэтай арганізацыі’ (ТСБМ, Др.-Падб., Бяльк., Мат. Гом.; лях., Сл. ПЗБ), ‘збор людзей на рэлігійнае свята’ (ПСл), *пріхо́джынік* ‘прыхаджанін, парафіянін’ (Бяльк.). Рус. *прихо́д* ‘царкоўны прыход’, укр. *прихо́д* ‘парафія’. Аддзеяслоўны назоўнік з нулявой суфіксацыяй ад *прыходзіць* < *хадзіць* (гл.). Як мяркуе Фасмер (3, 368), першаснае значэнне — ‘сход для выбараў старасты’. Паводле ЕСУМ (4, 582), запазычана з рускай мовы, што нельга выключыць і для беларускага слова.

**Прыці́н₁** ‘схові́шча; прыстанішча; прытулак’ (Нас., Стан.), ‘прытон’ (Гарэц.). Укр. дыял. *прити́н* ‘прыстанак, прытулак’, рус. дыял. *прити́н, при́тюн* ‘месца, дзе што-небудзь знаходзіцца, адбываецца’; ‘месца для вартавога; вартаўнічы пост’; ‘месца, дзе любяць збірацца’; *прити́нное (притю́нное) место* ‘месца, дзе ахвотна збіраюцца, прыемнае месца’. Паводле Варбат (Морфонология, 80), прасл. **pritinъ* ад **tęti* (гл. *прыціна́ць, цяць*).

**Прыці́н₂** ‘папрок’ (Касп.), *прыці́нкі* ‘рэзкія папрокі, шпількі’ (Нас.). Да *прыціна́ць* (гл.); параўн. рус. смал. *при́цинки* ‘папрокі, прыдзіркі’, укр. *притя́ти сло́во* ‘рэзка адказаць’, *притя́ти язи́к(а)* ‘прымусіць каго-небудзь менш гаварыць’.

**Прыціна́ць** ‘спыняць’, ‘перасякаць (дарогу)’ (Нас.), ‘прыпыняць’ (Байк. і Некр.), ‘цiснуць (аб цеснай вопратцы, абутку)’ (Нас.), *прыця́ць* ‘заціснуць, прыціснуць; затаіць, захаваць’, ‘рабіць рэзкія папрокі, дакаранні’ (Нас.). Сюды ж *прыціна́цца* ‘знаходзіць прыстанішча, прытулак’; ‘абапірацца; прысесці для адпачынку’ (Гарэц.), рус. смал. *притина́ться* ‘жыць у нечым доме, выпадкова прыбіўшыся’. Да *цяць* (гл.); разнастайнасць значэнняў пры першапачатковым ‘абразаць, падразаць’ тлумачыцца далейшым развіццём семантыкі ў бок ‘абмежаваць (у руху)’, ‘асадзіць’,

‘сціснуць’ і пад.; параўн. Гарачава, ОЛА, Исследов., 1994—1996, 210—216; ЕСУМ, 4, 584.

**Прыцíністы**, *прыцíмісты*, *прыцíместы* ‘круты, абрывісты, стромкі (бераг)’ (саліг., Нар. словатв.; саліг., капыл., ЛА, 2). Да *прыцінáць* (гл.).

**Прыцíнка** ‘адпачынак’; ‘апірышча’; ‘прадмет (рэч), які дае адпачынак і апірышча’ (Гарэц.). Да *прыцінáць* (гл.).

**Прыцінь**$_1$, *прыціня* ‘быстрыня (у рацэ)’ (Ласт.). Да *прыць, прыткі* (гл.).

**Пры́цінь**$_2$ ‘зеніт’: *у сам прыцінь сонца* (Ласт.). Відаць, як і *пры́цін* ‘кульмінацыя’ (Ласт.), да *прыцінáць* (гл.), параўн. рус. *притúн* ‘мяжа руху, пункт стаяння’.

**Прыцíрка** ‘зацірка’ (краснап., ЛА, 4), ‘прыбаўка ў страву мукі’ (Нас.), *пры́терка* ‘прыправа, затаўка’, *прытéрть* ‘прыправіць, заправіць (страву)’ (Растарг.). Ад *прыцірáць* ‘пераціраць пальцамі’; гл. *цéрці*.

**Прыціскáць** ‘мыць бялізну’ (круп., Жд. 1). Да *цíснуць* (гл.).

**Прыцóпаць** экспр. ‘прыйсці’ (ТС). Параўн. рус. урал. *прицóпаться* ‘прычапіцца, прывязацца’; ‘падысці, далучыцца’; ‘накінуцца на ежу’. Прэфіксальны дзеяслоў гукапераймальнага характару (гл. *цóпаць, цоп*).

**Прыцыбýліць** экспр. ‘выцяць’ (Ян.). Да *цыбýля* (гл.); іранічнае ўтварэнне, параўн. укр. *прицибýлиться* ‘ўладкавацца, размясціцца, знайсці прытулак’.

**Прыцы́ганы** ‘зმораны’ (чэрв., Жд. 3). Прэфіксальнае ўтварэнне ад *цы́гаць* ‘бегаць, цягацца’ (гл.).

**Прыцыгáр** ‘партсігар’ (Мат. Гом.). Пераробка слова *партсігар* (гл.) шляхам збліжэння да *цыгáра*, *цыгáрка* (гл.).

**Прыць** ‘імклівасць, шпаркасць’ (Нас., Ласт.); ‘крутасць, стромкасць, круча’ (Ласт.), *прыт* ‘жвавасць, рухлівасць’ (Бяльк.), рус. *прыть* ‘тс’. Прасл. **prytь*, бяссуфікснае вытворнае ад **prъtiti, *pryt(j)ati* ‘рухацца, корпацца, узнімацца’ (Варбат, Этимология—1971, 10; яе ж, Слав. языкозн., XII, 119), прадстаўленага ў беларускай мове, відаць, толькі палес. *пры́тыты* (гл. *пры́тыць*). Праблематычным з’яўляецца далучэнне сюды *спрíт* ‘спрыт, жвавасць’ (Бяльк.), а таксама рэканструкцыя ў якасці зыходнай для рус. *прыть* і бел. *прыць* формы **sprytь*, крыніцай якой лічыцца гоц. **sprūti* < *sprauto* ‘хутка’, параўн.

ст.-англ. *sprūtan* 'даваць парасткі, развівацца' (Мартынаў, Лекс. Палесся, 16—17); сумненні на гэты конт у Смулковай (Бел.-польск. ізал., 118—120). Аб серб.-харв. *pȑtiti* гл. Глухак, 507. Гл. таксама *пры́тны, пры́ткі*.

**Пры́цьма**, *пры́цьмо́м*, *пры́цьмем* 'аніяк, зусім' (ТС), *прытьмо́м* 'поўнасцю, абсалютна' (Клім.); параўн. укр. *при́тьма*, *притьмо́м, притьмо́* 'як мага хутчэй, неадкладна'; 'надта, моцна, настойліва'; 'зусім, цалкам, поўнасцю, абсалютна, якраз, абавязкова, сапраўды'; 'канчаткова; напэўна, беспамылкова', рус. дыял. *при́тмом* 'раптоўна, неадкладна, немінуча'. Усходнеславянскія арэальныя ўтварэнні на базе **pritęti* (гл. *прыцяць, цяць*), для якіх рэканструюецца праформа **pritьn-mo* (Карскі 2—3, 67; Люканен, Восточнослав. и общ. яз., 119). Формы, што ўзыходзяць да Тв. скл., узніклі на аснове ўспрымання *прыцьма* як назоўніка або па аналогіі з іншымі прыслоўямі тыпу *пры́цемкам*, параўн. *пры́цем* 'змярканне' (Нас.), *пры́тьмом* 'вечарам, на змярканні' (Сл. Брэс.). Не выключаны ўплыў аналагічных формаў прыслоўяў ад *прыць, прытны* (гл.), параўн. *прытно́м* 'вельмі часта; усутыч' (Стан.), *прытнём* 'хутка' (З жыцця).

**Прыцю́жыць** перан. 'абмежаваць у чым-небудзь': *німа ніякай прокідзі — вот прыцюжыла* (паст., Сл. ПЗБ). Рус. смал. *притю́жить* 'пакараць, утаймаваць, уціхамірыць'. Няясна. Магчыма, да *цю-га́!* (гл.), вокліч, якім наганяюць воўка пры паляванні.

**Прыцю́паць** 'прыйсці павольна, па-старыкоўску' (Янк. 2), *прыцю́пацца*, *пріцю́пацца*, *пріцёпацца* 'змарыцца ходзячы, здарожыцца' (Нас.; мсцісл., З нар. сл.), *прыті́па́тысь* экспр. 'прыйсці' (кам., Жыв. НС). Гл. *цю́паць*.

**Прыцю́хацца** 'стаміцца ад беганіны' (Нас.), *прыцю́хкацца*, *пріцю́хацца*, *пріцёхацца* 'стаміцца ў выніку аднастайных рухаў, хады', 'прывалачыся' (узд., Жд. 3; мсцісл., З нар. сл.). Да *цю́хаць* (гл.).

**Прыцю́цькацца** 'прытуліцца, прылашчыцца' (полац., Нар. лекс.). Рус. варонеж. *притютю́каться* 'прытуліцца; сцішыцца, супакоіцца'. Гукаперайманне; у аснове дзеяслоў, што ўзыходзіць да выклічніка *цю-цю* (падзыўныя словы для сабакі), або назоўнік *цю́цька* (гл.).

***Прыцю́цькаваты**, *прыцю́цьковаты* 'прыдуркаваты' (ТС). Параўн. укр. *прицу́цуватий* 'дурнаваты', што выводзіцца з вы-

клічніка *цу-цу́* для выражэння здзіўлення, расчаравання (ЕСУМ, 4, 583); гл. аналагічны беларускі выклічнік *цю-цю́*.

**Прыця́гавіч**, *прыця́гвіца* 'тоўстая вяроўка для ўціскання снапоў, сена на возе' (смарг., Шатал.; Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *прыця́гаваць*, *прыця́гваць* (гл. *цягаць*) з суф. *-іч*, *-іца*. Аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 44—45. Параўн. рус. *притя́говальник* 'тс', *притя́гуш* 'вяроўка, якой звязваецца, увязваецца нешта', балг. *притяга́лка* 'рубель, уціскаючы сена пры дапамозе вяроўкі' і пад.

**Прыця́жыч** 'прыстасаванне для датыкання красён' (ТС). Да *прыцягну́ць* < *цягнуць* (гл.). Аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 45.

**Прыця́кнуць** (*прытя́кнуты*) 'крыху падсохнуць' (Клім.). Няясна. Магчыма, звязана з *цячы́* (гл.), параўн. *це́кці* 'цячы' (ТС), з падаўжэннем галоснага ў корані пад націскам. Інакш і непераканаўча ЕСУМ, 4, 582 (вынік трансфармацыі *протря́хнути* 'падсохнуць').

**Прыця́міць** 'уважліва паглядваць, прымячаць'; 'прыпамінаць, прыгадваць'(Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб.), *прыця́мляць, прыця́мліваць* 'прымячаць' (Нік. Очерки), *прыця́мны* 'прыметны'; 'памятны' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), *прыця́мна* 'прыметна'; 'помніцца, уяўляецца ў думках', *прыця́м* 'заметка, прыкмета' (Нас., Байк. і Некр.), *пры́цям* 'тс' (Байк. і Некр.), *прыцямка* 'заметка' (Яруш.). Да *цям*, *ця́міць* (гл.).

**Прыця́пнуць** 'прышыць наспех, спехам' (Нас.). Гл. *ця́паць*.

**Прыцяцё́хацца** (*прыцяцё́хыцца*) 'стаміцца' (Бяльк.). Ідаць, да гукаперараймальнага (імітатыўнага) *цяцёх-цяцёх* (гл.), што перадае ўражанне замаруджанага руху.

**Прыцяцю́рыцца** экспр. 'натапырыцца'; 'памерці' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *цяцу́рыцца* 'надымацца, тапырыцца' (Ласт.), гл.

**Прычабе́ніцца** (*прычэбе́ніцца*) 'прычапіцца, прыстаць' (ТС). Фармальна каранёвая частка суадносіцца з *чэ́бень* 'каркас галаўнога ўбору', вытворнага ад *чэ́біць* 'сціскаць' (ТС). Сумнеўная сувязь з рус. арханг. *чабанить*, *чебанить* 'прыставаць да берага', алан. 'хутка рухацца, бегчы', якія Трубачоў у Фасмера (4, 308) параўноўвае з рус. *таба́нить* (гл. *табаніць*).

***Прычабуры́цца**, *прычобуры́цца* 'прысесці, прыхінуцца' (ТС). Няясна. Хутчэй за ўсё, гукаперараймальнае, параўн. выкліч-

нік *чэбра́к* 'хоп, цоп' (ТС), дзеяслоў *чабура́кнуць* 'паваліць' (ТС), гл.

**Прычаі́цца** (*прычаі́тісе*) 'прытаіцца' (беласт., Сл. ПЗБ). З улікам адзінкавасці фіксацыі — з польск. *przyczaić się* 'тс' (Банькоўскі, 1, 213). Апошняе да прасл. **čajiti sę*, суадноснага з **čajati*; параўн. рус. *чаять* 'спадзявацца' (Фасмер, 4, 320; ЭССЯ 4, 10—11).

**Прыча́л** 'частка прыстані, дзе прыстаюць судны'; 'вяроўка або канат, якімі прывязваюць судны' (ТСБМ, ТС). З рус. *прича́л* 'тс'.

**Прычалаве́чыцца** 'прывесці сябе ў парадак: прыбрацца, умыцца, прычасацца' (чэрв., Жыв. сл.). Да *чалавек* (гл.). Параўн. у адносінах семантыкі *вы́людзець* (гл.).

**Прычапу́рыцца**, *прычапуры́цца*, *прычыпуры́цца*, *прычапурэ́тыся* 'адзецца па-святочнаму, убрацца, прыбрацца' (Растарг.; в.-дзв., Шатал.; Жд., Мат. Гом., Мат. Маг.). Гл. *чапурыцца*.

**Прыча́р** 'чараўнік двухлісты, Platanthera bifolia (L.) L.C. Rich' (Інстр. 2; віц., ганц., Кіс.), *прыча́рнік* 'тс' (Ласт.), *прыча́р* 'зелле (магічнае); расліна, выкарыстанне якой, па колішніх уяўленнях, здольна прычараваць каханага' (Арх. ГУ, Мат. Гом.). Да *прычараваць* < *чараваць*. Матывы намінацыі ў наменклатурнай назве *чараўнік двухлісты* (гл.).

**Прычаса́ць** экспр. 'прыйсці' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *часаць* (гл.) у значэнні 'хутка ісці'. Параўн. рус. дыял. *причеса́ть* 'прыйсці, з'явіцца; прымчацца'.

**Прыча́сце**, *прыча́сць* 'абрад прычашчэння; віно з кавалачкамі просвіры, якое ўжываецца для прычашчэння' (ТСБМ, Мік., Нас., Ласт., Др.-Падб.), параўн. таксама *ў прыча́стку* 'ўпрыкуску' (ТС), ст.-бел. *причастие*, *причастье* (XVI ст.), рус. *прича́стие*, укр. *прича́стя*, балг. *причастие*, серб.-харв. *при̏чест* 'прычасце', макед. *причест*, ст.-слав. **причастиѥ**. Паводле Крукоўскага (Уплыў, 74), з рус. *причастие*, аднак можа быць працягам ў старабеларускай мове царкоўнаславянскага слова, дзе, на думку аўтараў БЕР (5, 744), з'яўляецца аддзеяслоўным дэрыватам ад *причастити*, якое калькуе с.-грэч. κοινῶνω = лац. *communicare* 'аб'ядноўваць'. Гл. таксама ЕСУМ, 4, 583 (украінскае слова лічыцца непасрэдным запазычаннем са стараславянскай).

**Прыча́хнуць** 'падсохнуць' (ПСл). Гл. *чахнуць*.

**Прычва́ра** м. і ж. р. ‘хто прытвараецца, прыкідваецца’; ‘выдумшчык, жартаўнік’ (даўг., Сл. ПЗБ; ТС), ‘прытворшчыца, дзівакаватая жанчына’ (Сіг.), ‘пачвара, нячысцік’ (Нар. сл.). Нулявы дэрыват ад *прычварацца* (гл.), або ўтворана шляхам замяшчальнай прэфіксацыі з *пачва́ра* (гл.).

**Прычвара́цца** ‘прыдурвацца; прытварацца’ (брасл., даўг., Сл. ПЗБ), *прычвора́ць* ‘выдумляць, вычвараць’ (ТС), сюды ж *прычва́рыць* ‘цкаваць жывёлу сабакам’ (Шат.). Прыставачны дзеяслоў да *чвэ́рыць* (гл.). Параўн. яшчэ *пачва́ра*, *вычвара́ць* (гл.).

**Прычма́рыць** ‘залішне падсмажыць’ (Шат.). Да *чмарыць* (гл.).

**Прычму́ра** ‘жартаўнік’, *прычмуро́ны* ‘жартаўлівы’ (ушац., міёр., ЛА, 3). Да *чмур*, *чмурыць* (гл.).

**Прычо́лак**$_1$ ‘скат чатырохскатнай страхі над папярочнай сцяной’ (ТСБМ, Сцяшк.), *прычо́лок*, *прі́чо́лок*, *прычо́лкі* ‘сярэдні скат трохскатнай страхі, звычайна з задняга боку будынка’, ‘страха над тарцовай сцяной будынка’ (ельск., Шушк.; ТС), *прычі́лок*, *прычо́лак*, *прычо́лкі* ‘франтон’ (іван., нараўл., гродз., ДАБМ, 778), *прычо́лак* ‘закот (з саломы, дошак, шыферу)’ (Ян.), ‘франтонная частка страхі’, ‘ніжняя частка франтона’ (карэліц., Сл. ПЗБ; Жыв. сл.), ‘частка страхі, якая звісае над сцяной; напуск, стрэшка (з саломы)’ (Мат. Гом., ЛА, 4), *прычо́лак* ‘вільчык’ (лід., барыс., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.), *прычі́лок* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Рус. *приче́лок*, дыял. паўдн. ‘франтон; выступ франтона’; ‘скат страхі, даху’; ‘тарцовы бок сцірты’; укр. *причі́лок* ‘бакавая сцяна хаты; бок страхі, франтон’; ‘бакавая сценка куфра’, польск. *przyczółek* ‘франтон’, славен. *pričélek* ‘гладкая паверхня каменя на сячэнні’. Прэфіксальна-суфіксальны дэрыват ад *чало́* (гл.). Параўн. Банькоўскі, 2, 931.

**Прычо́лак**$_2$ ‘выступ каля коміна печы’ (Сцяшк.). Далейшае развіццё семантыкі ў *прычо́лок* ‘прыбудова, прысценак, трысцень’ (ТС). Рус. дыял. *приче́лок* ‘выступ каля коміна печы’; ‘палічка пры ўваходзе ў камору са спускам у склеп, якая знаходзіцца каля печы’ і г. д., укр. *причі́лок* ‘край, канец чаго-небудзь’. Этымалагічна тое ж, што і *прычолак*$_1$ (гл.).

**Прычт** ‘духавенства якой-небудзь царквы; клір’ (ТСБМ), ст.-бел. *причтъ*, *причьтъ*, *причетъ*, рус. *причт*, *причет*, *причёт*,

укр. *причет*. З царк.-слав. *причтъ*, *причьтъ*, *причетъ*, дзе аддзеяслоўны назоўнік ад *причисти* 'прылічыць, уключыць'. Бліжэй да зыходнай формы ст.-бел. *причтати* 'прылічыць, спалучыць' (Ст.-бел. лексікон).

**Прычува́цца** 'здавацца, падавацца (па гуку)' (ТС), 'чуцца' (Нас.). Да *чуваць, чуць* (гл.).

**Прычуджа́цца** 'здавацца, паказвацца' (ТС). Рус. паўн. *причу́диться* 'з'явіцца, здацца, паказацца', *причу́дие* 'прывід', укр. *причу́да* 'вобраз у чалавечым уяўленні; прывід'. Да *чуд*, *чуды*, *чудэсіць* (гл.). Рускія словы, паводле Фасмера (4, 369), не звязаны з *причу́да* 'выдумка, капрыз'.

**Прычу́йванне** 'здольнасць добра чуць звера' (Інстр. 2, Мат. Гом.). Рус. паўд. *причува́ть, причу́ять* 'адчуваць, успрымаць нюхам (пра сабаку)'. Да *чуяць* (гл.).

**Прычха́ць** 'ледзь прыйсці' (Ян.). Гл. *чхаць*, параўн. *ачу́хацца* (гл.).

**Прычы́гацца** (*прічы́гыцца*) 'вельмі стаміцца (пра непрывучанага да працы)' (мсцісл., З нар. сл.). Да *цы́гаць* 'цягацца, бадзяцца' (гл.) з вядомай варыянтнасцю (*ц/ч*) пачатку кораня ў гэтай катэгорыі экспрэсіўных слоў. У семантычных адносінах параўн. рус. дыял. *уходи́ться* 'стаміцца'.

**Прычыдво́ры** 'жарты' (узд., Жд. 3). Нейкая кантамінацыя; магчыма, *прычында́лы* і *выдвара́цца* (гл.).

**Прычы́на** 'з'ява, акалічнасць, якая абумоўлівае другую з'яву; віна'; 'падстава, зачэпка' (ТСБМ, Нас., Ласт., Ян.; ашм., Стан.; Сл. ПЗБ, ТС), *прічы́на* 'тс' (Бяльк.), *прычы́нка* 'зачэпка' (Янк. 3), з далейшым семантычным развіццём — 'выпадак, нагода' (Дзмітр., Нас., Нар. Гом.), 'напасць' (швянч., смарг., мядз., Сл. ПЗБ), 'няшчасце, бяда', 'пажаданне нядобрага' (Ян.), 'падучая хвароба' (Нас.). Асобна трэба вылучыць таксама яшчэ больш далёкія ў семантычных адносінах *прычы́на* 'варажба аб замужжы' (Маш.), 'бяседа' (ТС). Укр. *причи́на* 'падстава', 'бяда; хвароба, выкліканая чараўніцтвам', 'віна', рус. *причи́на* 'прычына', дыял. 'дзіўны выпадак; непрыемнасць, напасць, няшчасце', 'сурокі; хвароба, гарачка; падучая', польск. *przyczyna* 'прычына', чэш. *příčina* 'падстава, нагода', славац. *príčina*, в.-луж. *přičina*, н.-луж. *pśicyna*, серб.-харв. *причѝна*, балг. *причи́на*, макед. *причина* 'тс'. Аддзеяслоўны назоўнік ад **pričiniti* < **činiti*

(гл. *прычыніць, чыніць)* (Бернекер, 1, 156; Брукнер, 82; Фасмер, 3, 369). Паводле Банькоўскага (2, 932), на з'яўленне значэння 'з'ява, акалічнасць, якія служаць падставай для чаго-небудзь', паўплывалі пераклады лац. *causa* і ням. *Ursache* 'прычына'. Для ўсходнеславянскіх моў дапускаецца калькаванне з польскай або чэшскай (ЕСУМ, 4, 583).

**Прычы́нак**, *прычы́нка* 'дошчачка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вулеі' (лях., слонім., Сл. ПЗБ). Суфіксальны дэрыват ад *прычыніць₂* (гл.).

**Прычында́лы**, *прычанда́лэ*, *прычында́лле* 'жартаўлівая (іншы раз зневажальная) назва розных прылад, рэчаў аднаго якога-небудзь прызначэння' (ТСБМ, Янк. 1; мсцісл., З нар. сл.; ТС; драг., Нар. лекс.), 'начынне, прылады' (Янк. 3), *прычында́льля*, *прыцанда́лле* 'ўсякія дробныя рэчы ў гаспадарцы; прылады, начынне' (Бяльк., Мат. Маг.), *прычында́лле* 'інструменты' (Мат. Гом.), *прычында́лы* перан. 'фокусы' (Сл. Брэс.), *прычы́нды* экспр. 'дурыкі' (ТС). Укр. *причанда́ли, причанда́л* 'прылады, начынне, рэчы', рус. *причанда́лы, причenда́лы* 'прадметы; дэталі прылад працы, розныя прылады, інструменты', 'непатрэбныя рэчы, барахло'. Да *прычына* (гл.) з устаўным *-д-* (Трубачоў у Фасмера, 3, 369).

**Прычыніць₁** 'паслужыць прычынай чаго-небудзь; выклікаць непрыемныя наступствы' (ТСБМ), 'зрабіць': *мне дабра не прычыніла і тая Антоля* (пух., Сл. ПЗБ), *прычыня́цца* 'выбіраць пэўныя ўмовы, абставіны' (ТС). Да *чын, чыніць* (гл.).

**Прычыніць₂** 'зачыніць, звычайна няпоўнасцю або няшчыльна' (ТСБМ, Ласт., Янк. 1, Ян.), *прічыні́ць* 'тс' (Бяльк.), а таксама *прычыні́ць* 'прыадчыніць' (ТС); сюды ж са спецыфічным абмежаваннем семантыкі *прычыны́ты* 'завязаць (фартух)' (кобр., ЛА, 4). Беларуска-ўкраінскі семантычны рэгіяналізм (Лучыц-Федарэц, Бел.-укр. ізал., 41; Непакупны, Связи, 86). Далей гл. *чын, чыніць*.

**Прычы́нца** 'віноўнік' (Нас.). З польск. *przyczyńca* 'тс', якое да *przyzynić* 'прычыніць'.

**Прычы́рквацца** 'дакранацца' (Ян.). Гл. *чы́ркаць*.

**Прычыта́ць**, *прычы́тваць* 'плакаць (па нябожчыку), прыгаворваючы словы жальбы' (Нас., ТСБМ, ДАБМ), *прычы́тываць* 'галасіць' (рэч., Мат. Гом.). Укр. *причита́ти, причи́тувати* 'тс', рус. *причита́ть* 'тс'. Да *чытаць* (гл.). Усходнеславянская се-

мантычная інавацыя. Паводле ЕСУМ (4, 584), украінскае слова запазычана з рускай (царкоўнаславянскай).

**Прычэ́лле₁** ‘прыпынак, прытулак’, ‘нязначная прычына, повад’ (Юрч. Сін.), ‘прылік’: *ён так работая — абы для прычэ́лля* (Мат. Гом.). Гл. наступнае слова; магчыма, перанос значэння ‘ўзор’ — ‘прылік’. Няясна.

**Прычэ́лле₂** ‘вышыўка, узор’ (Мат. Гом.). Рус. дыял. *приче́лье* ‘налобная частка жаночага галаўнога ўбору, вышытая бісерам, гарусам, шоўкам’, ‘аздабленне на пярэдняй частцы жаночага галаўнога ўбору’, *приче́лок* ‘тс’, укр. *причі́льник* ‘налобная частка галаўнога ўбору замужняй жанчыны’. Да *чало́* (гл.).

**Прычэ́пка** ‘што-небудзь прычэпленае — прывешанае, прымацаванае’; ‘зачэпка, прычына’; ‘несправядлівы дакор, дробязная, неістотная заўвага; прыдзірка’ (Нас., Др.-Падб., ТСБМ), *пры́чапка* ‘прычэпка’ (Байк. і Некр.), ‘тое, што прычэплена’ (Ласт.), *прычо́пка* ‘прычэпка, прыдзірка’ (Сцяшк.), *прычуо́пка* ‘падстава для сваркі’, *прычэ́пны* ‘назойлівы’ (Сл. ПЗБ). Сюды ж *прычэ́пніца* ‘чужынка’ (ТС), *прычэ́пны* ‘сваяцкі’ (ТС). Дэрываты ад *прычапіць*, гл. *чапля́ць*.

**Прышаво́ры** ‘забабоны’; ‘зачараваныя рэчы’, *прышаво́рыха* ‘асоба, здатная на забабоны’ (пух., Жыв. сл.). Рус. наўг. *прышевы́ривать* ‘прышэптваць’, валаг., урал. *пришеве́ртывать* ‘прышэптваць, гаварыць неразборліва’. З *пры-ша-воры*, дзе *ша-* — экспрэсіўная прыстаўка. Несумненна, роднаснае *каве́рня* ‘аб чым-небудзь неразумным’, *каве́рыць* ‘перакручваць словы’ (гл.), якія Лабко (там жа) узводзіць да кораня *-вер-* са значэннем ‘плесці’ і параўноўвае з *вярэня* ‘плеценая торбачка’, рус. *шеверенька* ‘кашолка’. Семантычны пераход ‘плесці’ → ‘гаварыць абы-што, што-небудзь незразумелае, пляткарыць’ шырока вядомы, параўн. *вярзці*, *плёткі* (гл.), рус. *сплетни* і г. д. З другога боку, вядома, што значэнне ‘варажыць’ часта ўзнікае на базе значэння ‘невыразна гаварыць, мармытаць’, параўн. *забабоны*, *шапта́ць* ‘загаворваць’. Магчыма, да гэтай групы адносяцца яшчэ і рус. *шаверь* ‘дробязь, дрэнь’, *шаверень* ‘тс’; інакш аб апошніх словах Фасмер, 4, 393. Параўн., аднак, *прыша́віцца* ‘здацца, прывярзціся’ (Ласт.), што, хутчэй за ўсё, ад *ша́ваць* ‘варушыцца’ (гл.), або да *шаў* (*шав*) (выклічнік, што перадае гаворку шапялявага) (Нас.) з экспрэсіўным нарашчэннем *-ор-*, параўн. *шапо́ртацца* ‘варушыцца’, выклічнік *шапо́р-шапо́р* ‘тс’ (Нас.), гл.

**Прышаламíць** экспр. 'пакараць' (лях., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *пришоломúти* 'ашаламіць'. Гл. *ашаламіць*, *шóлам* з развіццём семантыкі 'аглушыць, адурыць' → 'пакараць'.

**Прышалóпкаваты** 'дурнаваты' (хойн., Мат. Гом.), укр. *пришелéпкуватий, пришолóпкуватий, пришелéпуватий, пришолóпуватий* 'дурнаваты'. Да *шалóпаць* (гл.).

**Пры́шамець** (*pryšamić*) 'нядобрая прыкмета (?)': *heta pryšamić niejkaja, kali kury stali jesci na hradach cybulu* (Варл.). Звязана з *пры́хамаць* (гл.). Вытворнае ад *шамятáць* 'шастаць, шамаць' (гл.), *шэ́мет* 'шум, шоргат', параўн. балг. *шéмет* 'замарока'. Да фанетыкі параўн. славац. *chomrat'/šomrat'* 'бурчаць', што сведчыць аб іх пеяратыўным характары (Махэк$_2$, 611).

**Прышастáць** (*прышастаты*) '?': *Да пускай нас до танчику // Ныженьки проламаты, // Суконьки прышастаты* (Доўн.-Зап., Пін.) Прэфіксальны дэрыват ад *шастаць* (гл.).

**Прышаты́рыць** 'прыбраць', *прышаты́рыцца* 'прыбрацца' (віл., Сл. ПЗБ). Няясна, гл. *шаты́рыцца*. Магчыма, да *шатáць* (гл.) з экспрэсіўным нарашчэннем *-ыр-*.

**Прышáхаць** (*прышáхыць*) 'прыйсці; прыкрочыць' (Бяльк.). Відаць, утварэнне гукапераймальнага характару, параўн. выклічнік *шах-мах* (гл.) — пра хуткі рух, дзеянне.

**Пры́шва$_1$** 'драўляны вал у ткацкім станку, на які навіваюць ніткі асновы або вытканае палатно' (Касп.; Інстр. 2), 'пярэдні навой' (рас., Шатал.), 'папярочная перакладзіна ў кроснах' (лудз., Сл. ПЗБ), 'частка кроснаў' (Дабрав., Кросны), *пры́шва* 'сувой' (Мат. Гом.). Рус. *прúшва* 'пярэдні вал у ткацкім станку для ўмацавання нітак асновы і намотвання вытканага палатна', 'абрэзак палатна, да якога прымацоўваюцца ніткі асновы'. Як сведчыць апошняе, *пры́шва* ад *прышы́ць*, тут у значэнні 'далучыць, прымацаваць'. Гл. *прышы́цца*.

**Пры́шва$_2$**, мн. л. *пры́швы*, *пры́шву* 'пярэдняя частка ботаў, якая пакрывае пальцы і пярэднюю частку ступні; галоўкі' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Мат. Гом., ТС; ашм., Стан.), *прышы́ва* 'тс' (Мат. Гом.), *пры́швы* 'новыя перады, галоўкі, прышытыя да старых халяў' (Растарг., Інстр. 1), сюды ж з падобнай матывацыяй 'частка, прышытая да асноўнай' — *пры́шва* 'частка (рыбалоўнай) сеткі; крыло ў жаку' (петрык., нараўл., З нар. сл.; Маш.). Рус. *прúшвы* 'новыя галоўкі, прышытыя да старых халяў;

боты з новымі галоўкамі, прышвамі’, дыял. ‘сеткавае палатно, дадаткова прышытае да крылаў невада’, укр. *пришви* ‘галоўкі ў ботах’, *пришивка, пришовка* ‘кожны з кавалкаў сеткі, з якіх яна пасшываная’, польск. *przyszwa* ‘саюзка’. Гл. *прышва*$_1$, а таксама Банькоўскі, 2, 952.

**Пры́шва**$_3$, *пры́швы, прі́шва, прі́швы* ‘паплёт (у страсе паверх саломы)’; ‘жэрдка ў паплёце’ (Касп., Бяльк.; паст., Сл. ПЗБ; ТС; полац., слаўг., чэрык., ЛА, 4), *пры́швіна* ‘паплеціна, прывязка’ (ТС), *прышы́ўка* ‘жэрдка, мацаванне крокваў’ (Мат. Гом.), *прышыва́лка* ‘жэрдка ў паплёце’ (паст., глыб., Сл. ПЗБ), *прышыва́лка, прышыва́лкі* ‘паплёт (у страсе паверх саломы)’ (паст., шарк., глыб., ЛА, 4). Рус. смал. *пришва* ‘жэрдка, каб прыціснуць салому на возе’. Да *прышыва́ць* ‘прымацоўваць, прывязваць’, гл. *прышы́цца*.

***Прышкару́пнуць**, *прышкору́пнуць* ‘прысохнуць’ (ТС). Да *шкарупа* (гл.).

***Прышклюдава́ць**, *прышклюдова́ць* ‘абчасаць склюдам’ (ПСл). Да *склюд* (гл.).

**Пры́шласьць** ‘будучыня’ (Ласт.), *пры́шласць* (Арсеннева). Укр. *пришлість* ‘тс’. З польск. *przyszłość* ‘тс’ (Кюнэ, Poln., 89). Апошняе ад *przyszły* ‘такі, які прыйдзе, будзе’ (гл. *прышлы*). Паводле Банькоўскага (2, 952), у польскай мове слова распаўсюдзілася ў XVIII ст. як пераклад франц. *l'avenir* ‘будучыня’, параўн. лац. *venire* ‘прыходзіць’.

**Пры́шлей** ‘хутчэй; лепш; прыдатней; больш дарэчы, прыстойна’ (Нас.; Касп., Бяльк.), *пры́шлі* ‘лепш, зручней’ (Юрч. Фраз., 1). Рус. смал. *пришло* ‘прыстойна, як след; да твару’, *пришлее, пришлей* ‘лепш, прыдатней’. Вышэйшая ступень ад *пры́шлы* (гл.). Семантычна можна параўнаць з *падыхо́дзіць, падыхо́дзячы, больш падыхо́дзячы*.

**Прышло́мацъ** (*прышло́матэ*) экспр. ‘ледзь дайсці’ (драг., Нар. лекс.). Гл. *шлёмаць, шлэ́мацъ*.

**Прышло́піць** ‘прыхлопнуць’ (ТС). Да *шла́пацъ, шло́пацъ* (гл.).

**Пры́шлы** ‘які прыйшоў адкуль-небудзь, нетутэйшы, чужы’; ‘які прыйдзе, наступіць; будучы’ (Ласт., Байк. і Некр., Шат., ТСБМ; арш., шчуч., маст., зэльв., слонім., глус., добр., ЛА, 3), ‘які прыйшоў, надышоў (аб часе)’ (Мал.), ст.-бел. *пришлый* ‘будучы’. Рус. *пришлый* ‘нетутэйшы, чужы’, смал. ‘наступны’, укр. *пришлий* ‘будучы’. Першапачаткова дзеепрыметнік на *-л-* ад

дзеяслова *прыйсці*. Другое значэнне, магчыма, з польск. *przyszły* 'тс', параўн., аднак, ст.-бел. *пришлое* 'будучае' (1562 г.), якое Карскі (2—3, 42) разглядае як звыклы дзеепрыметнік прошлага часу. Гл. *пры́шласць*.

**Прышману́ць**, *прышаману́ць*, *прышману́цца* 'захацецца' (ТС). Гл. *шмана́ць*.

**Прышпіндэ́рыць** 'прышыць' (нясвіж., Жд. 1). Хутчэй за ўсё з рус. *пришпандо́рить* 'моцна прырабіць, прымацаваць; моцна і акуратна прышыць', якое да *шпа́ндыр* 'шавецкае прыстасаванне' (гл.).

**Прышпо́тырыць** 'прыляпаць, даць (напр., штраф)' (Бяльк.). З *прыштро́піць* < *штроп* 'штраф' (гл.).

**Пры́шта** 'байка, показка' (ТС). Гл. *пры́чта*.

**Прышто́піць** 'прыфастрыгаваць' (талач., Шатал.). Укр. *приштапува́ти* 'тс', рус. дыял. *пришто́пать* 'прышыць'. Да *штапаваць* (гл.) 'абкідваць', магчыма, пад уплывам рус. *што́пать* 'цыраваць'.

**Прыштрэ́пацць** 'прыгатаваць (сняданне)' (узд., Жд. 2). Няясна. Магчыма, з рус. *стря́пать* 'гатаваць ежу'.

**Прышу́ліцца** 'прыхіліцца' (Сцяшк.). Укр. *прищу́литися* 'прытаіцца; прыхіліцца, прыціснуцца'. Да *шула* (гл.).

**Прышч$_1$** 'гнайнічок на скуры' (ТСБМ, Шпіл., Бес., Ласт., Сл. ПЗБ, ТС), *пры́шча*, *пры́шчва́*, *прышча́й*, *прышча́йка*, *прышчэ́йка* (Жыв. сл., Сл. ПЗБ), *пры́шча́ўка*, *пры́шчолка* 'прышчык' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, ЛА, 3), *пры́шчынка* 'балячка' (чэрв., Нар. лекс.), *прэ́шч* 'прышч' (астрав., Сл. ПЗБ). Укр. *прищ* 'тс', рус. *прыщ*, ст.-рус. *прыщь*, ц.-слав. **прыщь** 'тс', польск. *pryszcz* 'пухір', в.-луж. *pryskel* 'мазоль, набой', н.-луж. *pšuskel* 'тс', чэш. *pryskýř* 'пухір', славац. *prýšt'* 'высыпка', серб.-харв. *пр̑ишт* 'нарыў, скула', славен. *príšč* 'пухір', балг. *прищ* 'пухір', *приш* 'прышч', макед. *пришт* 'прышч, скула'. Вытворнае ад **pryskati* (гл. *пры́скаць*) < **prysk-jь* > **pryščь* (больш падрабязна гл. Мяркулава, Этимология—1970, 148 і наст.). Гл. таксама Праабражэнскі, 2, 140; Фасмер, 3, 392; Брукнер, 440; Шустар-Шэўц, 2, 1164; Банькоўскі, 2, 807; БЕР, 5, 525, 746; ЕСУМ, 4, 585. Непераканаўча ад **pluskati* выводзіць Махэк$_2$ (489).

**Прышч$_2$** 'прыцярушанае мукой прэснае цеста, якое запякаецца ў прыску' (тураў., Малч.). Укр. *прищ* 'гатунак пячэння'.

Этымалагічна тое ж, што і *прышч₁*, ад *прыск*, *прысак, прышчыць* (гл.). Паводле ЕСУМ (4, 585), украінскае слова запазычана з польск. *pryszcz* ‘печыва з грэцкай мукі, якое гарачым мачаюць у растопленым масле’, што ад *pryszczeć* ‘трашчаць, сычэць (на агні)’, што не выключае народнаэтымалагічнае асэнсаванне.

**Прышчапе́рыцца** ‘зачапіцца’ (Скарбы). Гл. *ашчапе́рыцца.*

**Прышчапі́ць₁** ‘перасадзіць частку жывой расліны (вочка, чаранок) на тканку другой’ (ТСБМ, Нас., Шпіл., Мат. Гом., ЛА, 1), ‘увесці ў арганізм вакцыну’ (ТСБМ), *прышчэ́піць*, *прышчэ́плі-ваць* ‘прышчапіць; прышчэпліваць воспу’ (калінк., чэрв., Сл. ПЗБ; ТС). Гл. *шчапі́ць*, *шчапля́ць*. У другім значэнні калька рус. *привива́ть* ‘уводзіць вакцыну’.

**Прышчапі́ць₂** ‘зачыніць на зашчапку; зашчапіць’; ‘прычапіць пры дапамозе прышчэпкі, зашчапкі’ (ТСБМ, ТС). Да *шчапі́ць*, *шчапля́ць* ‘злучаць, звязваць’.

**Прышчапі́ць₃** ‘прыбраць, прывесці ў парадак’ (Мат. Гом.). Гл. папярэдняе слова.

**Прышча́ўляны** (*прошча́вляный*) ‘пракіслы, з кіславатым прысмакам’ (пін., Нар. лекс.). Гл. *прашча́ўляны, ашчавець₂, шчавы.*

**Прышчаўнік**, *прышчатнік*, *прышчынец* ‘казялец пякучы, Ranunculus flammula L.’ (Кіс.). Да *прышч* (гл.). Укр. *прищине́ць, прищи́рник* ‘казялец’, рус. дыял. *прыще́не́ц* ‘расліна казялец’, чэш. *pryskyřník*, польск. *pryskirnik* (з чэш. — Махэк, Jména, 49), *pryszczenica*, *pryszczniec* (з укр.?), славац. *pľuskiernik* ‘тс’ (< *pľuskier* ‘прышч, пухір’). Назва дадзена паводле ўласцівасці расліны, пры дотыку да якой узнікаюць пухіры на скуры. Гл. аб гэтым Махэк₂, 489; Банькоўскі, 2, 807; ЕСУМ, 4, 585.

**Прышчу́нуць** ‘даць прачуханца’ (Шат.). Гл. *шчуня́ць*, *ушчу́ніць.*

**Прышчу́ра** ‘падслепаваты чалавек’ (Бяльк.). З рус. *прищу́ра* ‘пра чалавека, які мае звычку жмурыць вочы’ < *прищу́риться* ‘прыжмурыцца’, параўн. *прыска́льваць* ‘прыжмурваць’ (ТС) пры *скаліць зубы* ‘смяяцца’ (там жа), што, магчыма, сведчыць пра сувязь з *шчэ́рыць* (гл.), якую адмаўляе Фасмер (4, 511).

**Прышчы́рыць** ‘пастарацца’ (Нас.). Да *шчы́ры* (гл.).

**Прышчы́так** (*прышчы́ток*, *прышчі́ток*) ‘франтон’ (бяроз., ДАБМ), ‘частка страхі пры франтоне’ (мазыр., Шушк.; кобр., Нар. лекс.). Конфіксны (*пры-* + *-ак*) дэрыват ад *шчыт* ‘франтон’ (гл.).

**Прышчы́ца** 'яшчур' (нараўл., Сл. ПЗБ). Ад *прышч*, таму што пры хваробе на слізістай абалонцы і на скуры з'яўляюцца язвачкі. Параўн. позняе польск. *pryszczycz* 'тс', першапачаткова пра экзему ў людзей (Банькоўскі, 2, 807).

**Пры́шчыць**₁ 'сушыць; пячы, грэць на гарачым; пражыць, смажыць; скварыць', *пры́шчаны* 'высушаны' (стаўб., З нар. сл.; навагр., Жыв. сл.; карэліц., зэльв., бярэз., лід., Сл. ПЗБ), *пры́шчыцца* 'пячыся, грэцца на вельмі гарачым; пражыцца' (стаўб., З нар. сл.; ТСБМ), 'пакрывацца пупырышкамі (пра аладкі)' (ст.-дар., Жыв. НС), *пры́шчыцца* 'пачынаць кіпець' (Варл.). Укр. *при́щити* 'пячы'. Гл. *пры́сак*, *прыск*, *пры́скаць*. Дзеяслоў утвораны ад асновы цяп. часу дзеяслова **pryskati*. Беларуска-ўкраінская семантычная ізаглоса.

**Пры́шчыць**₂ 'шчымець, свярбець, часацца; пячы (пры адчуванні запаленчага працэсу на скуры)' (Сцяшк., Скарбы), *прышчэ́ць* 'пячы, балець' (маст., Сл. ПЗБ), *пры́шчыцца* 'пакрывацца прышчамі' (ТС). Да *прышч* (гл.).

**Прышчэ́ліцца** 'прыглядвацца, прыжмурыўшы вочы' (Нас.: "как бы сквозь щель смотреть"). Гл. *шчэ́ліць*.

**Прышчэ́п**, *прышчэ́па*, *прышчэ́пка* 'расліна, якой перасаджаны орган іншай расліны; прышчэпленая расліна' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Варл.), *прышчэ́пак*, *прышчэ́па* 'чаранок, які прышчапляецца да расліны' (Нік. Очерки; Гарэц., ТСБМ), *прышчэ́пка* 'дзеянне паводле дзеяслова *прышчапі́ць*₂; прышчэпачны прэпарат'. Рус. *при́щеп*, *прище́па*, укр. *прище́па* 'тс'. Аддзеяслоўныя дэрываты ад *прышчапі́ць*.

**Прышчэ́ць** 'моцна ірдзець' (Шат.). Гл. *пры́шчыць*, *пры́сак*.

**Прышы́бці** 'забіць' (узд., Жд. 2), *прышы́бнуць* перан. 'прыгнясці' (паст., Сл. ПЗБ), *прышыбну́ць* 'ашукаць, абмануць' (Бяльк.), *прышыба́ць* 'хутка дабірацца' (Мат. Гом.). Гл. *шыбаць*, *шыбава́ць*.

**Прышыкава́ць** 'падрыхтаваць' (Мат. Гом.; іўеў., Сл. ПЗБ), *прышыхова́ты* 'тс' (драг., Сл. ПЗБ), *прышыкава́ны* 'падрыхтаваны, згатаваны' (Мат. Гом.), *прышыхо́ўваць* 'рыхтаваць' (ТС). Гл. *шыкаваць*, *шыхава́ць*.

**Прышы́цца** 'прыладзіцца' (ТС). Да *шы́цца*, *шыць* (гл.); параўн. укр. *пришú́тися* 'прышыцца, прымацавацца', рус. маск. *приши́ться* 'далучыцца да некага з карыслівай мэтай, прымазацца'.

**Прышэ́лец** ‘прышлы, чужы, нетутэйшы чалавек’ (ТСБМ), *прышле́ц* ‘тс’ (Нас., Др.-Падб.). Укр. *прише́лець, пришле́ць* ‘тс’, рус. *прише́лец, пришлец* ‘тс’. Першае ўтворана ад асновы прошл. часу (*прышо́ў*) з суф. *-елец* (аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 49), другое ад *пры́шлы* (гл.) з суф. *-ец*.

**Прышэ́сце**₁ ‘прыход, з’яўленне’ (ТСБМ), *прышэ́сця, прычэ́сція, прышэ́ствія* ‘здарэнне’ (іўеў., в.-дзв., паст., Сл. ПЗБ). Запазычанне са ст.-слав., ц.-слав. **пришьствиѥ**, рус. *пришествие* ‘тс’. Гл. яшчэ *шэ́сце*.

**Прышэ́ўнік** ‘пінжак з даматканага сукна’ (паст., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. дыял. *при́шевни* ‘надточка, надстаўка ў адзенні’. Да *прышыва́ць*; гл. *шыць*.

**Прыюці́ць** ‘даць прытулак’, *прыючы́цца* ‘знайсці прытулак’ (лід., Сл. ПЗБ). Сюды ж аддзеясловўны назоўнік *прыю́т* ‘дзяржаўны дом для дзяцей-сірот і састарэлых’ (Янк. 1), ‘дзіцячы дом’ (Ян.), ‘у дарэвалюцыйнай Расіі дабрачынная ўстанова для выхавання беспрытульных дзяцей’ (пруж., Сл. ПЗБ), *прыю́тны* ‘ветлівы’ (Ян.), *прыю́тный, прыю́тлывый* ‘той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі’ (бяроз., ЛА, 3), *прыю́тый* ‘мілы, прыгожы, прытульны’ (Бяльк.). Назоўнік *прыют* і дзеяслоў *прыюціць,* несумненна, запазычаны з рус. *приют* ‘прытулак’, *приюти́ть* ‘даць прытулак’ (параўн. ЕСУМ, 4, 586). Што да прыметнікаў, то яны могуць узыходзіць непасрэдна да **jutiti sę* ‘змяшчацца ў невялікай прасторы’, г. зн. ‘быць блізкім адзін да аднаго’, што, паводле Трубачова, можа ўзыходзіць да і.-е. **ieu̯-t-*, параўн. ст.-інд. *yūti-* ‘змяшэнне, сумесь’ (ЭССЯ, 8, 199).

**Пры́язнь** ‘сяброўства; сяброўская прыхільнасць’ (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб., Янк. БП), ст.-бел. *приязнь* ‘тс’ (Альтбаўэр); сюды ж *пры́язнасць* ‘уласціваць прыязнага; сяброўскія, добразычлівыя адносіны’ (ТСБМ), *пры́язны* ‘прасякнуты сяброўскімі адносінамі, дружалюбнасцю, даверам; добразычлівы, спагадлівы; які выказвае дружалюбнасць, добразычлівасць, прыязнасць’ (ТСБМ; бабр., маг., Шн. 2; Гарэц., Ласт., Байк. і Некр.), *пры́язніцца* ‘моцна сябраваць’ (Нас.), *пры́язлівасць* ‘сяброўская прыхільнасць’, *пры́язлівы* ‘які выказвае прыязнасць’, *пры́язліва* ‘па-сяброўску’ (Нас.), ‘прыязна, прыхільна’ (Бяльк.). Рус., укр. *при́язнь* ‘тс’, польск. *przyjaźń* ‘сяброўства’,

н.-луж. *pśijaźń* ‘ласкавасць, міласць’, в.-луж. *přijazny* ‘міласцівы, добразычлівы’, чэш. *přízeň* ‘добразычлівасць; роднасць’, славац. *priazeň* ‘прыязнасць, добразычлівасць’, славен. *prijázen* ‘мілы, ветлівы’. Прасл. **prijaznь* ‘добразычлівасць, ветлівасць’, **prijaznъ* ‘добразычлівы, ветлівы’, утвораны ад **prijati* (гл. *прыяць*) з суф. *-znь* (гл. Слаўскі, SP, 1, 119); гл. яшчэ Фасмер, 3, 369; Махэк$_2$, 495; Голуб—Копечны, 302; Брукнер, 445; Банькоўскі, 2, 935; Сной$_2$, 575). *Прыязнасць* і *прыязлівы* ў беларускай могуць быць запазычаннямі з польск. *przyjazność* і *przyjazliwy*; паводле Булахава (Развіццё, 12), апошняе слова — калька з рускай, што цяжка давесці.

**Прыя́ліцца** ‘чапляцца, прыдзірацца’ (Нас.). Гл. *яліцца*.

**Прыя́тны**, *прыя́тный* ‘прыемны’; ‘той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі; кампанейскі’ (віл., Сл. ПЗБ; міёр., добр., ЛА, 3), *прыя́тліву* ‘прыязны’ (ТС). З рус. *прия́тный* ‘тс’, якое з ц.-слав. **приꙗтьнъ** ‘прыемны’, што ад **prijęti* (гл. *прыня́ць*, *няць*), параўн. ст.-бел. *приятый* ‘варты прыняцця’, *прияти* ‘ўзяць, набыць, прыняць’ (Ст.-бел. лексікон).

**Прыя́цель,** *прыяцель* ‘блізка знаёмы чалавек, з якім устанавіліся добрыя, прыязныя адносіны’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк.; ваўк., ганц., Сл. ПЗБ; ТС, ЛА, 3), *прыя́цяль*, *прые́цель*, *прыя́ціл* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 3), *прыя́цельства* ‘таварыскія адносіны; сяброўства’ (Нас., Ласт., ТСБМ), ст.-бел. *приятель*, *приатель*, *приетель* ‘тс’ (Сл. Скарыны). Укр. *при́ятель*, рус. *прия́тель*, польск. *przyjaciel*, в.-луж. *přećel*, н.-луж. *pśijaśel*, чэш. *přítel*, славац. *priateľ*, серб.-харв. *пр̏јатељ*, славен. *prijȃtelj*, балг. *прия́тел* ‘прыяцель’, макед. *пријател* ‘тс’. Прасл. **prijatelь* ‘прыяцель, добразычлівец, сваяк, родны’, дэрыват ад **prijati* (гл. *прыяць*) з суфіксам nomina agentis *-tel’ь* (Слаўскі, SP, 1, 52; Махэк$_2$, 494). Праславянскае слова роднаснае ст.-в.-ням. *fruidil*, с.-в.-ням. *vriedel* ‘любімы; жаніх, муж’, ням. *Freund* ‘прыяцель’, ст.-ісл. *friill* ‘каханы, палюбоўнік’. Гл. Траўтман, 231; Брукнер, 445; БЕР, 5, 749; Фасмер, 3, 369; Бязлай, 3, 121; Сной$_2$, 575; Банькоўскі, 2, 935; ЕСУМ, 4, 586 (*прияти*). Параўн. *прэ́цель* (гл.).

**Прыя́ць** ‘спрыяць’ (ТСБМ, Мік., Нас., Бяльк., Мат. Гом., Ян., Мат. Маг.; паст., рагач., Сл. ПЗБ; ТС, ГЧ), ‘гадзі́ць’ (люб., Нар. словатв.), *прыя́ці*, *прыя́ты* ‘спрыяць; жадаць дабра, прыхільна ставіцца’ (Клім., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), *прыя́тэ* ‘жадаць дабра, добра адносіцца да каго-небудзь’ (Сіг.); сюды ж вытвор-

ныя: *прыя́т* 'прыемнасць' (Некр.), *прыя́нне* 'добразычлівасць, спагадлівасць' (Нас., Яруш., Яўс.). Укр. старое *прия́ти* 'тс', рус. *прия́ть* 'адносіцца прыхільна', ц.-слав. **прыꙗти**, польск. *(s)przyjać*, в.-луж. *přeć, přać*, н.-луж. *pśaś* 'спрыяць, жадаць', чэш. *přáti, příti* 'быць схільным, жадаць', славац. *priat'* 'спрыяць', серб.-харв. *при̏јати* 'дасягаць поспеху, удавацца', славен. *príjati* 'быць схільным', балг. *прия́я* 'рабіць дабро, ставіцца прыхільна'. Прасл. **prijati*. Роднасныя ст.-інд. *priyas* 'дарагі, дастойны', авест. *frya* 'дарагі, каханы', *frīnāti* 'цаніць, любіць', гоц. *frijôn* 'любіць', ням. *freien* 'сватаць', лат. *periêks* 'радасць' і інш. Гл. Траўтман, 231; Фасмер, 3, 369—370; Брукнер, 445; Голуб—Копечны, 299; Махэк$_2$, 490; БЕР, 5, 749; Сной$_2$, 575; ЕСУМ, 4, 586.

**Прэ́гці**, *прэ́гціса* 'вельмі хацець' (ТС), *прэ́гчыся* 'моцна, прагна імкнуцца, дамагацца чаго-небудзь', 'прыкладаць непамерныя намаганні для дасягнення мэты; высільвацца' (ТСБМ, Сцяшк.), *са скуры прэ́гчыся* 'старацца як моц-сілы' (Янк. БФ). Гл. *пра́гнуць*.

**Прэ́гчы** 'смажыць, пячы, прыпякаць' (ТСБМ, Мік.; талач., Шатал.; ст.-дар., Сл. ПЗБ; бялын., бых., слаўг., ЛА, 4), *прэ́хчы, пре́хчы* 'тс' (талач., бярэз., бялын., Сл. ПЗБ; ЛА, 4), *прэ́гчы,* 'смажыць сала' (Мат. Гродз.), *прэ́гці* 'пражыць; пячы сала', 'смажыць' (Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *прэгиь* 'тс' (Ян.), *прэжч, прэч* 'прэгчы, пячы, смажыць' (Пал., Бяльк.), *прэ́жыць, спрэ́жыць* 'прэгчы (гарох)' (чаш., чэрв., ЛА, 4); укр. *прягти́,* рус. *пря́гчи*. Да *пра́жыць* (гл.). Пераход *а* > э пад націскам у выніку "аднаўлення" неарганічнага галоснага, параўн. *штаны́ — штэ́нікі* і пад. (гл. Карскі, 1, 104—111).

**Прэд** (*прэт*) 'перад' (астрав., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *предъ,* побач з *передъ, передо* 'тс' (Альтбаўэр). З польск. *przed* 'тс'.

***Прэ́дак**, *прэ́док, прэ́дко* 'продак, пачынальнік роду' (ТС), *прэ́дкі* 'продкі' (Ян.), 'продкі, бацькі, дзяды і прадзеды' (Бяльк.), *прэ́ткі* 'продкі' (чэрв., Сл. ПЗБ). Рус. *пре́док, пре́дки* 'тс', укр. *пре́док* 'продак'. Запазычанне з ц.-слав., звязанае з **прѣд-** (Цыхун, Зб. памяці Талстога, 419), гл. *перад*, а таксама Фасмер, 3, 357. Параўн. *про́дак* (гл.).

**Прэ́дзяды** (*прэ́дыды*) 'прадзеды' (Сіг.). З польск., ст.-польск. *przedziad* 'прадзед', якое Банькоўскі (2, 828) інтэрпрэтуе як *prze(d)dziad* 'тс', параўн. *przeddziad* (XV—XVI стст.).

**Прэ́дні** ‘ранейшы; былы’, ‘які будзе наперадзе, у будучым’, ‘вельмі добры, выдатны’ (Нас.). З польск. *przedni* ‘пярэдні; вельмі добры, выдатны’.

**Прэж** ‘спачатку’ (Нас.). Укр. *преж* ‘раней, перад’, рус. дыял. *преж* ‘раней, калісь’. Не зусім ясна. Відаць, кантамінаваная форма *перад* (гл.) і ц.-слав. **прѣжде** (вышэйшая ступень ад **прѣдъ** ‘раней’, параўн. стараж.-рус. *предняя слава* (Слова аб палку Ігаравым), ‘былая слава’ (Грыгаран, Этнолингвистика текста, 2, 61).

**Прэ́жыць,** *прэжць* ‘пражыць, смажыць’ (Мат. Гом.), *прэжчь* ‘тс’ (Нас.), *прэ́жаны* ‘пражаны’ (Байк. і Некр.), *прэ́жанка* ‘пражаная бульба’ (Ян.). Гл. *пра́жыць, прэ́гчы.*

**Прэз** ‘праз’ (Нас., Бес., Доўн.-Зап., Чародейство), параўн. і ст.-бел. *пресъ* ‘каля, праз, паўз, міма’ (Ст.-бел. лексікон). Улічваючы лінгвагеаграфію слова, — з польск. *przez* ‘тс’.

**Прэзентава́ць** ‘паднесці (падносіць) у якасці падарунка; падараваць’ (ТСБМ), *прызынтыва́ць* ‘падманваць ілжывымі абяцанкамі’ (Бяльк.). Відаць, з рус. *презентова́ть* ‘тс’. Параўн. *празантаваць* (гл.).

**Прэй** ‘пырнік’ (слонім., Сл. ПЗБ). Няясна. Параўн. рус. *пыре́й*, укр. *пире́й*, *пирі́й* ‘тс’, адсюль, магчыма, *прэй* з рэдукцыяй першага галоснага, хутчэй за ўсё, *у* < *ы* пасля губных, параўн. усх.-палес. *пул* ‘пыл’, *пурі́на* ‘сцябло пырніку’ і пад.

**Прэ́йда** ‘прайдзісвет’ (Ян.). Ад *про́йда* (гл.) з экспрэсіўным “аднаўленнем” неарганічнага э пад націскам.

**Прэ́йсце** ‘пераход, праход’ (Нас., Байк. і Некр.). З польск. *przejście* ‘тс’.

**Прэк**, *прэ́ка, прэ́чка* ‘спрэчка, пярэчанне’ (Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк.), *прэ́кам* ‘насуперак’ (Нас., Гарэц., Яруш.). З польск. *przeko* ‘супраць’, *przeczka* ‘спрэчка’. Гл. *перак.*

**Прэ́каль** ‘паркаль’, *прэкалёвый* ‘зроблены з паркалю, паркалёвы’ (Бяльк.). Да *парка́ль* (гл.); відаць, з пераасэнсаваннем пачатку зыходнай формы *пэ́ркаль* (< польск. *perkal*) як прыстаўкі *прэ-* (атаясамленай з польск. *prze-*).

**Прэ́кста** ‘перахрышчаны з яўрэяў’ (Нас.). Дэрыват ад *ксціць* (гл.) з узнаўленнем этымалагічнага зычнага ў корані. Калька польск. *przechrzta* ‘тс’.

**Прэ́лесць** ‘цуд’ (шчуч., Сл. ПЗБ), *прэ́люс* ‘тс’ (драг., там жа). З рус. *пре́лесть* ‘тс’, што з царкоўнаславянскай (Бернекер, 1, 755; Фасмер, 3, 358). Непасрэдна з царкоўнаславянскай паходзіць

ст.-бел. *прелестный* ‘ілжывы, няшчыры’: *пророчество кривое и прелестное* (Альтбаўэр).

**Пpэ́лят** ‘жоўтая канюшына’ (Сл. рэг. лекс.). Адаптаваны паланізм; з польск. дыял. *przelot* ‘расліна пералёт’.

**Прэм** ‘сапраўды’ (Мат. Гом.). З *прам(о)* (гл. *прамы*) ‘сапраўды, на самой справе’; параўн. рус. *прям* ‘тс’; э ў корані ў выніку нерэгулярных фанетычных змяненняў.

**Пpэ́міна** ‘частка ракі, якая зімой не замярзае’ (віл., ЛА, 2). Гл. *праміна*, *прамы́*. Пераход *а* > э пад націскам, параўн. *барса́ць*: *бэ́рсаць*.

**Пpэ́ндаваць** ‘паважаць, шанаваць’ (брагін., З нар. сл.; Ян.). Укр. житом. *прэ́ндовать* ‘прызнаваць’. Гл. *апрандава́ць* (з цяжка вытлумачальным пераносам націску).

**Прэндзіць** ‘паважаць’ (брагін., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.; міёр., З нар. сл.). Гл. папярэдняе слова.

**Пpэ́нзлі** ‘брыжыкі’ (Жд.). З польск. *frędzle* ‘махры’; гл. *фрэ́нзлі*.

**Прэнт** ‘металічны прут; арматурнае жалеза’ (ТСБМ, Янк. 1, Бір. Дзярж., Жд., Сл. ПЗБ), *прэнт* ‘качарга’ (Сіг.), ‘шворан’ (Мат. Гом.), ‘жалезны шпень, які падтрымлівае каптур над камінкам’ (івац., Нар. сл.), ‘драўляная частка плуга’ (Выг.), ‘мера паверхні (зямлі)’ (Бес.). З польск. *pręt* ‘прут’. Гл. таксама *прут*, якое, відаць, паўплывала на развіццё семантыкі запазычанага *прэнт*.

**Пpэ́нткі**, *прэ́ндкі*, *прэ́нкі* ‘хуткі, жвавы, рухавы’ (Сл. ПЗБ, Скарбы, ЛА, 3), сюды ж *прэ́нтка*, *прэ́ндка*, *прэ́нтко*, *прэ́нка*, *прэ́нко*, *прэ́нько* ‘хутка (ісці, ехаць)’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 2), *прендко* ‘тс’ (навагр., Шн. 2). З польск. *prędki*, *prędko* ‘тс’. Параўн. *пру́дкі*, *пру́ткі*.

**Пpэ́паліс** (*прэ́політ*) ‘прыступ’ (ігн., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *príepuolis* ‘тс’.

**Пpэ́рах** ‘прарэх’ (Мат. Гом.), *прэ́рых* ‘тс’ (Мат. Маг.). Гл. *прарэ́х*. Аб пераходзе *а* > э гл. *прэ́міна*.

**Пpэ́рва** ‘перапынак’, ‘перашкода’ (Нас., Байк. і Некр., Яруш.), *прэ́рва*, *прэ́рвяны* ‘дождж з перапынкамі’ (шчуч., ЛА, 2), *прэ́рва* ‘прамежак паміж дамамі ў вёсцы’, ‘прастора паміж дзвюма вёскамі’ (бераст., ЛА, 5). З польск. *przerwa* ‘перапынак’. Параўн. *про́рва* (гл.).

**Прэс** ‘прас’ (лельч., ЛА, 3). З *прас* (гл.), замена *а* > э пад націскам, відаць, мае гіперычны характар.

**Прэ́сленка**, *прэ́слёнка*, *прэслён* 'каменьчык з дзірачкай з глі-ністага сланца (выкарыстоўваўся як лекавы сродак, талісман або прадмет для чаравання)' (ТС). Рус. паўн. *пре́слень* 'металічнае колца, глінянае або выразанае з чарапка, якое надзяецца на верацяно для ўзмацнення яго вярчэння', польск. *pręślin*, *prześlik*, в.-луж. *přasleń*, чэш. *přeslen*, славац. *prasleň*, дыял. *praslík*, *pracel'*, *prašel*, *praclík*, серб.-харв. *pršljen*, славен. *preslen*, балг. *пре́шлен* 'тс'. Прасл. **pręslenъ* (гл. *праслён*), дэрыват ад **pręd)slo*, г. зн. 'кружок вакол верацяна (для прадзення)'. Гл. Машынскі, Kultura, 1, 306; Трубачоў, Ремесл. терм., 94—95; Махэк$_2$, 491; БЕР, 5, 687—688. Параўн. таксама археалагічныя тэрміны *пра́сліца*, *пра́селка*, *пра́сельца* (гл.).

**Прэ́снак** 'праснак' (Бяльк.), *прэ́снік* 'тс' (Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС), *прэ́сніца* 'боршч (прэсны)' (Мат. Гом.). З *апрэснік*, *опріснок* (гл.), параўн. ст.-слав. **опрѣснъкъ** 'прэсны хлеб', са стратай пачатковага *а-* (< *о*), або з *праснак*, дзе *а* > *э* пры пераносе націску.

**Прэ́сны$_1$** 'які прыгатаваны без дастатковай колькасці солі або цукру, кіслаты, прыпраў; які не мае пэўнага смаку'; 'прыгатаваны без закваскі, не квашаны' (ТСБМ, Ласт.), 'някіслы', *пре́сный* 'тс' (гродз., воран., ганц., рагач., рас., Сл. ПЗБ; ТС), 'свежы (пра малако)' (КЭС; воран., гродз., Сл. ПЗБ), *прэ́сна* 'агульная назва прэснай стравы' (гродз., Сл. ПЗБ); укр. *прі́сний*, рус. *пре́сный* 'прэсны, някіслы, прыгатаваны без закваскі, няквашаны', польск. *przasny* 'няквашаны, свежы', чэш. *přesný* 'дакладны', дыял. 'няквашаны (хлеб)', славац. *presný* 'тс', серб.-харв. *пре́сан* 'незаквашаны; сыры (аб мясе)', славен. *présen* 'свежы; няквашаны', балг. *пре́сен* 'тс', макед. *пресен* 'свежы; сыры (пра мяса і пад.)'. Прасл. **prěsnъ* з **prěsknъ*, якое роднаснае літ. *prė̃skas* 'свежы; няквашаны (пра хлеб, малако, капусту)'; гл. Траўтман, 231; Атрэмбскі, LP, 1, 140. Параўнанне са ст.-в.-ням. *frisc* 'свежы' Фасмер (3, 360) лічыць сумнеўным з-за гукавай неадпаведнасці. Гл. таксама Фрэнкель, 652. Вештарт (Лекс. Палесся, 116) мяркуе, што ў адносінах да хлеба гэта — семантычная інавацыя, паколькі такое значэнне магло з'явіцца толькі пасля таго, як стаў вядомы квашаны хлеб, для дыферэнцыяцыі гэтых відаў хлеба.

**Прэ́сны$_2$** 'сыры'; 'незамёрзлы' (ТС, ПСл). Параўн. укр. жытом. *прэ́сна земля́* 'зямля, якая не замёрзла (пад снегам)', *прэ́сна зіма́* 'зіма, калі снег выпадае на зямлю, якая яшчэ не замёрзла'

(Лексика Пол.). Этымалагічна тое ж, што і папярэдняе слова (гл.), першапачаткова, відаць, пра зямлю свежа раскарчаваную (гл. Банькоўскі, 2, 809) або распрацаваную, параўн. балг. *пре́снище* ‘від глебы’ (БЕР, 5, 668).

**Прэ́сны₃** ‘нядрэнны, добры, няшкодны’: *прэ́сная баба* (Мілкоўскі, Наша Слова, 2000, 1 сак.). Да *прэ́сны₁*; відаць, у супастаўленні з *салёны* (гл.) пра чалавека з рэзкім характарам. Інакш Гаўлава (Зб. памяці Слаўскага, 122), якая, лічачы што “няквашаны хлеб быў цвёрды”, дапускае развіццё ‘цвёрды’ > ‘злосны, жорсткі’.

**Прэ́хаць** (*прэ́хатэ*) ‘часта кашляць сухім кашлем’ (драг., Нар. лекс.). Укр. *при́хати*, *пи́рхати* ‘кашляць’. Відаць, да *пе́рхаць* ‘тс’ з метатэзай.

**Прэ́ці** ‘процi, супроць’ (Бяльк.). Кантамінаваная форма польск. *przeciw* ‘тс’ і *про́ці* (гл.).

**Прэ́ціль** (*précil*) ‘прыяцель, сябра’, *précilka* ‘сяброўка, кунпанка’ (Варл.). Фанетычна адаптаванае *пры́яцель* (гл.), *пры́яцелька* ‘сяброўка’. Аднак звяртае на сябе ўвагу фармальнае супадзенне з в.-луж. *přećel* ‘сябра, зычлівец, апякун’, *přećelka* ‘сяброўка, апякунка’ (тлумачыцца зыходным *přeć* ‘прыяць’, гл. Шустар-Шэўц, 2, 1170), харв. дыял. *pretelj* ‘сябар, прыяцель’ (< *prětelʼь*, Фурлан у Бязлая, 3, 121), для апошняга зыходнай формай магло быць прасл. **prějati* ‘быць зычлівым, любіць’, форма ж *prijatelj* узнікла на базе ітэратыва **prijati* (Фурлан, там жа), гл. *прыя́ць*. У такім выпадку *précilicca* ‘хацець быць блізкім, прыхільным’ (Варл.) з’яўляецца захаванай формай да прасл. **prěja-*.

**Прэць** ‘гнісці, псавацца ад сырасці і цеплыні’; ‘пацець, пакрывацца потам’, ‘гатавацца’ (Ласт., Байк. і Некр., ТСБМ; брасл., шальч., даўг., гродз., астрав., Сл. ПЗБ; ТС), ‘адмакаць’ (мядз., Сл. ПЗБ). Рус. *пре́ть* ‘пацець, прэць’, укр. *пріти* ‘тлець, гніць, пацець, прэць’, польск. *przeć* ‘пацець, буцьвець, прэць’, н.-луж. *prěś* ‘засыхаць, вянуць’, параўн. таксама серб. **прети* ‘псавацца пад уплывам вільгаці і цеплыні’, рэканструяванае на падставе дзеепрыметнікаў *испрѐл* ‘засушаны, завялы (пра садавіну, гародніну)’, *пре̏лав* ‘падгарэлы’ (Огледна св., 65). Прасл. **prěti*, звязанае з **para*, гл. *пар* (Фасмер, 3, 362; Шустар-Шэўц, 2, 1156; ЕСУМ, 4, 588; Бязлай, 3, 25). Роднасныя грэч. πρήθω, πίμπρημι ‘палю, спальваю’. Персан (875; гл. Коген, Запіскі, 9, 84—85), Брукнер (442), Банькоўскі (2, 825) не аддзяляюць ад **perti* (гл. *пе́рці*

‘пхаць, папіхаць, моцна націскаць’), разглядаючы **pьrěti* ‘прэць’ як інхаатыўны дзеяслоў ад яго.

**Прэч** ‘далоў’ (Нас., Мік., Бяльк., ТСБМ; паст., стаўб., Сл. ПЗБ), ‘усюды; спрэс’: *на полі прэч повно осёту* (беласт., Сл. ПЗБ). Адносна позняе запазычанне з польск. *precz* ‘прэч, далоў’, пра паходжанне якога гл. Банькоўскі, 2, 770.

**Прэ́чыць** ‘пярэчыць, не згаджацца’ (Нас.), *прэ́чка* ‘пярэчанне, спрэчка’; ‘сварка’ (Нас.; Бяльк.). Паланізм, параўн. *przeczyc*, *przeczka* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 63).

**Прэ́шлы**, *прэ́йшлы* ‘былы, ранейшы; мінулы’ (Нас.; шчуч., З нар. сл.). З польск. *przeszły* ‘тс’.

**Прэ́шчы** ‘прыгаршчы’ (шчуч., лід., Сл. ПЗБ). Сцягнутая форма ад *пры́гаршчы* (гл.).

**Псава́ць** ‘рабіць непрыгодным, непрыдатным; глуміць’, *псава́ць кроў* ‘злаваць, раздражняць’ (ТСБМ, Мал., Нік. Очерки, Бес., Булг., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Касп., Шат., Сл. ПЗБ), *псова́ць*, *псува́ць* ‘псаваць’ (Мядзв., Нас., Байк. і Некр., Бяльк., ТС), *псуць* ‘псаваць’ (Нас., ТСБМ). Укр. *псува́ти* ‘тс’, рус. дыял. *псова́ть, псувать, псить* ‘тс’, польск. *psować* (XVI—XVII стст.), *psuć* ‘тс’, ст.-чэш. *psouti* ‘лаяць, сварыцца’, славен. *psováti* ‘тс’, серб.-харв. *псо̀вати* ‘тс’, балг. *псу́вам* ‘гаварыць непрыстойныя і крыўдныя словы’, макед. *пцуе* ‘лаяць, ганьбіць, сварыцца’. Прасл. **pьsovati*, адназоўнікавае ўтварэнне ад **pьsъ* (гл. *пёс*), параўн. БЕР, 5, 842. Аднак праславянскасць сумнеўная, звычайна разглядаюцца як самастойна ўзнікшыя словы ў асобных славянскіх мовах па тыпалагічнай мадэлі ‘сабака’ → ‘лаяць, абражаць; глуміць, псаваць’, параўн. літ. *šunióti* ‘лаяць, абражаць’ ад *šũo* ‘сабака’, ням. *hunzen* ‘ганьбіць, параўноўваючы з сабакам; глуміць, псаваць’ пры *Hund* ‘сабака’ (Сной$_2$, 591; ЕСУМ, 4, 359, 623). Банькоўскі (2, 958) *псаваць*, укр. *псувати* і славац. дыял. *psut’* выводзіць з польскай мовы, што можна прыняць, відаць, толькі для значэння ‘глуміць, псаваць’. Гл. таксама Запрудскі, дыс., 82.

**Пса́йка** (psai̯ka) ‘страказа’, *бча́йка* ‘тс’. Дзендзялеўскі (Зб. Нахцігалу, 102) выводзіць з **pьs-aj-ьk-a*, спасылаючыся на іншыя назвы насякомых з коранем **pьs-* (гл. *пёс*): укр. *песюха, песяча муха, песя муха* ‘Hippobosca equina L.’, славац. *psota, psotka* ‘невялікі вячэрні ці начны матылёк’. Няпэўна, параўн. *пчайка* (гл.). Магчыма, памылкова прачытанае *pšai̯ka (пшайка).*

**Псе-псе-псе**, *псе́йко-псе́йко* ‘падзыўныя словы для каровы’ (Янк. 2; ст.-дар., Жыв. НС), ласк. *псе́йка* ‘кароўка’ (парыц., Некр.; Янк. 2; петрык., Жыв. сл.), *псё-псё* ‘падзыўныя словы для каня’ (Нас.), *псёйка, псе-псе!* ‘падзыўныя словы для каровы’ (парыц., Некр.; ганц., ДАБМ; ТС), *псе́йкаць* ‘падзываць карову’ (Янк. 2), сюды ж *псюх-псюх-псюх* ‘падзыўныя словы для кароў’ (паст., ДАБМ). Гукапераймальныя словы няяснага паходжання. Звяртае на сябе ўвагу падабенства да “яцвяжскага” *pesi* ‘быдла’, якое Зінкявічус (Балто-слав. этнояз. отнош., 20) параўноўвае з літ. *pẽkus*, ст.-прус. *pecku* ‘жывёла’ ст.-інд. *páśu* і пад.

**Псець** ‘старэць (аб сабаку, а пагардліва і аб чалавеку)’ (Нас., Шат.). Паланізм. Параўн. польск. *psieć* ‘рабіцца штораз горшым, як сабака’, ад *pies* (Банькоўскі, 2, 957), гл. *сапсе́ць*.

**Псёлька**, *псёлечка* ‘ласкавы зварот да каня’ (Нас.), *псёлька* ‘маленькае жарабя’ (Шат.), *псёль-псёль!* ‘падзыўныя для жарабяці’ (Шат.). Рус. смал. *псёлька* ласк. ‘падзыўное слова для каня’, *псёля* ‘тс’, *псель, псёль* ‘падзыўныя словы для коней’. Гл. *псе-псе-псе*.

**Псі** ‘сабачы’ (Байк. і Некр.). З польск. *psi* ‘тс’.

**Псік** ‘выгук, якім адганяюць ката’ (ТСБМ, Мік., Мядзв., Нас., Янк. 1; в.-дзв., карэліц., Шатал.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *псікаць, псікнуць* ‘сказаць, крыкнуць *псік*’ (Нас., ТСБМ). Гл. *апсік*.

**Псікус** ‘стары сабака’, ‘вымова’ (Нас.). З польск. *psikus* < *psi kus* ‘свавольства’.

**Псіна** ‘пра сабаку, звычайна вялікага; пра пах сабакі, яго поўсці’; ‘пра чалавека, які выклікае агіду, абурэнне’ (ТСБМ, Нас., Растарг.), ‘сабачае мяса’ (Нас., Растарг.), *псіны* ‘сабачы’ (Нас., Бяльк.). Параўн. укр. *пси́на* ‘сабака’, рус. *пси́на* ‘тс’, польск. *psina* ‘тс’, славен. *psína* ‘сабачына’, дыял. ‘злосць, здрада’: *psina ti gleda iz oči*. Вытворныя ад **pьsъ* ‘сабака’, параўн. Бязлай, Etyma, 160.

**Псініць** ‘намакаць да гніення, набываючы сіні колер’ (ТСБМ, Нас.). Ад *псіна, псіны*, гл. папярэдняе слова. Сувязь з *сіні* другасная.

**Псінь** ‘гніль, гнілізна’ (Нас.), ‘непрыемны (сабачы) пах’ (Нас., Нар. лекс., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад *псіна* або *псіны* (гл.).

**Псіўлю́й** ‘купкоўка зборная, Dactylis glomerata L.’ (гродз., маг., Кіс.). Рус. *пе́сья трава́* ‘тс’. Пачатак слова, магчыма, да польск. *psiwy* ‘сабачы’, *psi* ‘тс’, якія, паводле Банькоўскага (2, 957), ужываюцца ў назвах “дрэнных” раслін.

**Псіх** ‘псіхічна неўраўнаважаны чалавек; псіхічна хворы’ (ТСБМ; клім., ветк., добр., ЛА, 3). Укр. *псих* ‘псіхічна неўранаважаны чалавек’, рус. *псих* ‘псіхічна неўраўнаважаны чалавек; псіхічна хворы’. Апошняе лічыцца крыніцай запазычання. Паводле Шанскага і Бабровай (260), слова з’явілася ў XX ст. у выніку скарачэння назоўніка *психопа́т* ‘псіхічна хворы; які церпіць ад псіхічнага захворвання’. Гл. таксама ЕСУМ, 4, 622.

**Псі́ца** ж. р. ‘сабака’ (Кос., Растарг.), *псу́йка* ‘падла, псіна’ (ТС), *псі́ца*, *псо́ўка* ‘пра старую жанчыну’ (Нас.), а таксама *лисица-псица* (мін., Карскі, 1, 305). Параўн. укр. *псі́ця*, рус. дыял. *псе́ца* ‘сучка’, славен. *psica* ‘тс’. Дэрываты з розным суфіксальным афармленнем ад *пёс* (гл.).

**Псот** ‘асот’ (драг., ЛА, 1). Калі гэта не графічная памылка, то, хутчэй за ўсё, іранічная кантамінацыя *асот* і *псота*, *псоціць*.

**Псо́та** ‘шкода; свавольства’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр.), ‘шкода’ (Сіг.), ‘пястун; наравісты, пераборлівы’ (Клім.), ст.-бел. *псота* ‘выхадка, свавольства’. Укр. *псо́та* ‘бядота, бяда, галеча, нястача’; ‘дрэннае надвор’е’, ‘лаянка’. З польск. *psota*, *psocić* ад *pies*, першапачаткова ‘гайняваць; аддавацца распусце’ (Банькоўскі, 2, 957).

**Пстрака́ты** ‘пакрыты плямамі’ (Інстр. 2), ‘стракаты, пярэсты’ (парыц., Некр.). З польск. *pstrokaty* ‘тс’; паводле Банькоўскага (2, 958), кантамінацыя *pstry* ‘шматколерны’ і *strokaty* ‘пярэсты’. Гл. *страка́ты*.

**Пстра́нга** ‘страказа’ (ашм., Сл. ПЗБ). Няясна, звяртае на сябе ўвагу адпаведнасць *пстр-*, *страк-* (гл. папярэдняе слова), што перадае стракатасць або пырханне (гл. *пстры́каць* і *стры́каць*), фіналь нагадвае наступнае слова.

**Пстронг**, ж. р. *пстро́нга* ‘ручаёвая фарэль, Salmo trutta morpha fario (L.)’ (Інстр. 2, Жук., Жд.). З польск. *pstrąg*, *pstrąga* ‘тс’ < *pstry* ‘стракаты’; параўн. Брукнер, 445; Банькоўскі, 2, 958. Гл. таксама *стро́нга* ‘тс’.

**Пстрык,** ужываецца гукапераймальна для абазначэння рэзкага кароткага гуку (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), ‘шчаўчок па носе або па вуху’, ‘папрок’ (Нас.), *пстры́каць*, *пстры́кнуць* ‘даваць пстрычку (пстрычкі)’; ‘шчоўкаць, ляскаць (пальцамі)’, ‘хутка і лёгка рухацца, пырхаць’, ‘раптоўна ўспыхваць, пыхкаць, сыпаць іскрамі (пра агонь)’ (ТСБМ, Нас., ТС), ‘скакаць’ (астрав.,

Сл. ПЗБ), *пстрыкнуць* 'рэзка штурхнуць нагой'; 'ускочыць'; 'сфатаграфаваць' (Жд. 2, 3). Гукаперайманне, параўн. аналагічнае польск. *pstryk* 'пстрык', *pstrykać* 'шчоўкаць', 'фатаграфаваць'. Польскі дзеяслоў фіксуецца з 1776 г., утвораны ад *prztyk, prztykać* (Банькоўскі, 2, 959).

**Пстрыкаўка** 'бальзамін звычайны, Impatiens B. noli tangere L.' (Байк. і Некр., Кіс.). Да *пстры́каць*, *пстрык* (гл.), таму што плод-каробачка пры дотыку трэскаецца і з сілай выкідае насенне; гл. БелСЭ, 2, 115. Параўн. яшчэ іншыя назвы гэтай расліны: *астрык*, *прыгаўка*, рус. *недотрога*.

**Пстрыкт** 'пстрык!' (шальч., Сл. ПЗБ). Кантамінацыя *пстрык* і літ. *strykt* 'тс'.

**Пстрыку́н**, *пстрыку́ха* 'пра легкадумнага маладога чалавека', 'пра чалавека, які злуецца, фыркае, выказвае сваю незадаволенасць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Шат., Байк. і Некр., ТС; капыл., кам., Жыв. сл.; гродз., Жыв. НС). Дэрываты ад *пстры́каць* з агентыўнымі суфіксамі *-ун*, *-уха*.

**Пстры́чка**, *пстрычо́к* 'рэзкі адрывісты ўдар пры разгібанні ўказальнага або сярэдняга пальца, сагнутага вялікім пальцам'; 'пра малую, несур'ёзную, нявытрыманую, запальчывую, нервовую жанчыну ці дзяўчыну' (ТСБМ, Шат., ТС, Сл. ПЗБ, Байк. і Некр., Жыв. сл.), 'шпілька' (Байк. і Некр.). З польск. *pstryczek*, *pstryczka* 'пстрычка', якія ад *pstrykać* (гл. *пстрык*).

**Пстры́ца₁** 'адзін з прыёмаў кідання сцізорыка пры дзіцячай гульні ў ножык, трымаючы яго пальцамі за канец вастрыя' (гродз., Нар. словатв.). Да *пстры́каць, пстрык* (гл.).

**Пстры́ца₂** 'кола з паглыбленнем для шнура' (гарад., Сл. ПЗБ). З польск. *tryca* 'паглыбленне ў бэльцы для шнура' < ням. *Fritze* 'пад'ёмны дыск' (Дарашэўскі, 7, 135).

**Пстры́шка** 'страказа' (валож., Жд. 1). Відаць, з *пстры́чка* (гл.), параўн. іншую народную назву страказы — *стрэлка* (гл.).

**Псуць** 'псаваць' (Нас., ТСБМ), *псу́та* 'псаванне' (Шпіл.). Гл. *псава́ць*, *псо́та*.

**Псыча́ць** (*псыча́ті*) 'шыпець (напрыклад, пра сырыя дровы ў печы)' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *psyczeć* 'тс', зближанага з *сычэ́ць*, *сыча́ць* (гл.).

**Псюк** 'стары; лядашчы чалавек'; 'стары грыб' (Нас.). Вытворнае ад *псець* (гл.); першапачаткова, відаць, 'непрыгодны; ні да чаго не варты', параўн. чэш. *psák* 'неядомы грыб'.

**Псю́рыць** ‘гнаць’, *прыпсю́рыць* ‘прыгнаць’ (дзярж., Нар. сл.). Утварэнне на базе **псюр* < польск. *psiurz* ‘псяр’.

**Псялы́га**, лаянк. *псялы́тка* ‘сабачая костка’ (Байк. і Некр.). Складанае слова ад *пся-* і *лыга* (гл.) па аналогіі з *псяюха* (гл.). Паводле Энгелькінг (Klątwa, 114), падобныя ўтварэнні (параўн. польск. *psiakrew*) выступаюць як эўфемізмы кляцьбы; аднак нельга выключыць і мажлівасць пераасэнсавання аргатычнага *псалы́га* ‘рыба’, што ўзыходзіць да новагрэч. ψάρι ‘тс’ (параўн. Бандалетаў, Бел.-укр. ізал., 100). Збліжэнне з *лы́тка* (гл.) другаснае.

**Псяр** ‘наглядчык за паляўнічымі сабакамі; сабакар’ (ТСБМ), *пся́рнік* ‘тс’ (Нас., Байк. і Некр.). З польск. *psiarz* ‘тс’, параўн. рус. *псарь* ‘тс’.

**Пся́рка** ‘амарант, Amaranthus caudatus L.’ (Інстр. 2, Кіс.). Да *пёс*. Ад гэтай асновы ўтвараюцца назвы непрыдатных да чалавека, пустазеллевых або атрутных раслін. Параўн. рус. *псúнка* ‘паслён, Solanum nigrum L.’, польск. *psinka* ‘тс’, укр. *пся́рка* ‘малачай, Euphorbia’ і г. д. Спалучэнне *-ся-* паказвае на магчымасць запазычання з польскай, але дакладная крыніца невядомая.

**Пся́рня** ‘асобнае памяшканне для сабак’; ‘сабакі, мноства сабак’ (Нас., Байк. і Некр.; мсцісл., З нар. сл.; ТСБМ, ТС). З польск. *psiarnia* ‘тс’.

**Псяю́ха** ‘пра таго, хто выклікае агіду, нянавісць (лаянка)’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., ТСБМ), ‘сабачая кроў’ (Нік. Очерки, Доўн.-Зап., 2). З польск. *psiajucha* < *psia jucha* ‘сабачая кроў’ (эўфемізм кляцьбы, параўн. *псялыга*, гл.).

**Пта́сі** ‘птушыны’ (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *ptasi* ‘тс’, нерэгулярнай формы ад *ptak* ‘птушка’ замест *ptaszy*, параўн. разм. *grosik* ‘грошык’ ад *grosz*.

**Пта́ства**, *пта́ство* ‘птушкі’, ‘свойскія птушкі’ (ТСБМ, Нас., Нік. Очерки, Байк. і Некр., Шат., Інстр. 2; люб., Жыв. сл.; дзятл., лід., шчуч., Сл. ПЗБ; ТС, Сл. Брэс., ГЧ). З польск. *ptastwo*, *ptactwo* ‘тс’, якія з'яўляюцца рэгулярнымі дэрыватамі ад *ptak* ‘птушка’. Параўн. Брукнер (446) і наступнае слова.

**Птах** ‘птушка (звычайна вялікая)’, ‘птушка-самец’, ‘птушкі; агульная назва дзікіх птушак’ (ТСБМ, Мік., Булг., Нас., Ласт., Байк. і Некр.; драг., З нар. сл.; стол., Нар. лекс.; Ян.; бяроз., ЛА, 1), *пташ* ‘тс’ (Нас.), таксама *пта́ха* ‘птушка; вялікая птушка’,

'птушкі; агульная назва дзікіх птушак' (ТСБМ, Нас., Янк. 3, Мат. Гом.; маст., жабін., ЛА, 1), *пта́шка* 'птушка' (Мат. Гом., ТС), 'дробная птушка; агульная назва дзікіх птушак' (ТСБМ, ЛА, 1), *пташ'ё* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ), *пта́шы* 'птушыны' (Нас.). Ст.-бел. *птахъ* (1580, Карскі, 2—3, 36). Укр. *птах*, *пта́ха*, *пта́шка* 'птушка', рус. дыял. *птах, пта́ха (птя́ха)*, *пта́ша* 'тс'. Вытворныя ад прасл. **pъta* (гл. *птушка*) з рознымі агентыўна-пеяратыўнымі суфіксамі. Булыка (Запазыч., 270) ст.-бел. *птахъ* 'птушка' лічыць запазычаннем з польск. *ptach* 'тс', але шырокі дыяпазон вытворных з такімі суфіксамі ва ўсходнеславянскіх мовах паказвае, што *птах* магло ўтварыцца і на ўласнай глебе. Німчук (Давньорус., 171) сцвярджае, што памяншальна-ласкальныя формы тыпу стараж.-рус. *пътахъ, пътаха* маюць яшчэ праславянскае паходжанне.

**Пта́шачка** (*пта́шэчка*) 'фігурка ў вільчыку франтона саламянай страхі' (ТС). Да папярэдняга слова; па аналогіі з птушкамі, якія сядзяць на страсе; параўн. рус. *конёк* 'тс'.

**Пта́шыць** 'карпатліва збіраць, назапашваць' (тураў., Выг.). Дэрыват ад *птах* (гл.). Параўн. рус. *пта́шить*, але з супрацьлеглым значэннем 'пырхаць; весці легкадумнае жыццё'.

**Птрусь**, *птусь* 'водгук, які выкарыстоўваюць пры выгане кароў' (Мік., Нас.), *птрусь-птрусь* 'падзыўныя словы для каровы' (Нас.). Укр. *птруту!* 'вокліч на ягнят у гуцульскіх пастухоў', рус. цвяр. *птрусь* 'падзыўное слова для цялят', з перастаноўкай гукаў *тпрусень* 'тс'. Словы ўтвораны на аснове анаматапеічнай дэрывацыі. Магчыма, звязаны з "дзіцячымі" словамі *птру́ці, птру́цінкі, тру́цькі* 'гуляць' ці *птру* 'вокліч пры спыненні каня' (Нас.), што з'яўляюцца т. зв. першаснымі інтэр'екцыямі. Параўн. ЕСУМ, 4, 624.

**Птушане́ц** 'ластавень лекавы, Antitoxicum officinale Pobed.' (Байк. і Некр., Кіс.), *пташане́ц* 'тс' (маг., Кіс.). Укр. *пташине́ць* 'сырадэля, Ornithopus L.'. Дэрыват ад *птушы́ны, пташы́ны* < *птуі́шка, пта́шка* з суф. *-ец*. Семантычная матывацыя, відаць, тлумачыцца падабенствам кветак ці лістоў да частак цела (хвастага апярэння) птушкі, параўн. *ластаве́нь* (гл.). Параўн. ЕСУМ, 4, 624.

**Птуша́тнік** 'ястраб'; 'хлапец, што разбурае птушыныя гнёзды' (Нас.). Рус. смал. *птуша́тник* 'драпежная птушка, якая па-

люе на іншых птушак, з'ядае птушыныя яйкі'; 'аматар птушак і птушыных яек'. Да *пту́шка* (гл.). Матывы намінацыі відавочныя з дэфініцыі значэння, параўн. укр. *пташача́р* 'коршак, Accipiter nisus L.'.

**Птуша́чы**, *птушы́ны* ў выразе *птуша́чая (птушы́ная) даро́га* 'Млечны Шлях' (Сержп. Грам., Байк. і Некр., Некр.). Да *пту́шка*; адносна семантыкі параўн. *гусі́на доро́га* 'тс': *гэто тые дорогі, шчо птаство ў поўрэй леціць* (ТС).

**Пту́шка** (ТСБМ, Мядзв., Нас., Гарэц., Касп., Шат., Раст., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), 'хатняя птушка' (Сл. ПЗБ), *птух, пту́ха* 'птушка; агульная назва дзікіх птушак' (Байк. і Некр., Мат. Гом.; пруж., драг., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *пту́шша* 'птушкі' (Байк. і Некр.), *пту́шшо* 'тс' (Бяльк.). Рус. паўдн., зах. *пту́шка, птю́шка* 'птушка, птушачка, пташка', *птух, пту́ха, птю́ха* 'тс'. Прасл. дыял. (усх.-слав.) **pъt-ихъ* паралельнае да **pъt-akъ*, дыял. (пераважна зах.-слав.) **pъtъ-ахъ*, гл. *птах*, *пта́шка*, што выводзяцца з прасл. **pъta*, прадстаўленага таксама з іншай суфіксацыяй ва ўкр. *пти́ця*, рус. *пти́ца*, славен. *ptíca, ptȉč*, серб.-харв. *пти̏ца*, балг. *пти́ца*, макед. *птица*, ст.-слав. **пътица**, **птица**. Усё гэта дэмінутыўныя ўтварэнні ад **pъta* з праславянскай антрапаморфнай семантыкай 'птушкі' — 'дзеткі' (Трубачоў, Этногенез$_2$, 194). Роднасныя лат. *putns* 'птушка', літ. *putýtis* 'пташка', *pùte*, *pučiùte* 'курыца', лац. *putus* 'дзіця', *putillus* 'тс', *putila* 'птушанё', літ. *paũtas* 'яйка', лат. *pàuts*, ст.-прус. *pawtte* 'тс'. Гл. Бернекер, JF, 9, 362; Траўтман, 233; Мюленбах—Эндзелін, 3, 344; Фасмер, 3, 398; Махэк$_2$, 496; БЕР, 5, 842—844; Шустар-Шэўц, 2, 1186; Бязлай, 3, 133; Сной$_2$, 591; ЕСУМ, 4, 624; Банькоўскі, 2, 960.

**Пту́шма** прысл. 'чарадой' (Нас.). Дэрыват ад *пту́шка* (гл.) з замяшчэннем суфікса назоўніка пры дапамозе суфікса прыслоўя *-ма*; гл. аб словаўтварэнні Карскі, 2—3, 67.

**Птэле́я** 'вязавік, Ptelea L.' (Кіс.). Тэрміналагічнае ўтварэнне на базе лацінізаванага тэрміна, параўн. лац. *Pteleum* 'горад у Фесаліі'.

**Пубздьі́р** 'недаростак' (слонім., Жыв. НС). Ад *пуп* з азванчэннем зычнага перад экспрэсіўным суфіксальным комплексам *-здыр*, параўн. *бабзды́р* (ад *баба*), адносна паходжання суфікса гл. *пуздыр*.

**Пу́бліка** ‘супольнасць людзей, сабраных у пэўным месцы’ (ТСБМ), ст.-бел. *публика* ‘публічнасць’ (1687). Запазычана праз польск. *publika* ‘вялікі з’езд, публічны сход; грамадскасць’, першапачаткова ‘агульны або дзяржаўны інтарэс’ (XVI—XVII стст.), што ўзыходзіць да лац. *(res)publica,* літаральна ‘агульная справа’, гл. *рэспубліка* (ад лац. *pūblicus* ‘народны, дзяржаўны, грамадскі’, скарочаны варыянт ад незафіксаванага **populicus* < *populus* ‘тлум, люд, народ’, гл. Банькоўскі, 2, 961, даслоўным перакладам якога было *рэч паспалітая*, адсюль *паспо́льства* ‘грамадскасць, грамадства’. Розныя дэрываты, большасць з якіх запазычана з польскай і рускай моў, а таксама непасрэдна з лацінскай мовы (параўн. яшчэ ст.-бел. *публикация*, *публикова̀ти*, *публичный*, Булыка, лекс. запазыч., 33), распаўсюдзіліся пад уплывам франц. *publik, publique* (з XIII ст.) ‘яўны, адкрыты, даступны ўсім’.

**Пува́к** ‘павук’ (латг., Сл. ПЗБ). Дэфармаванае *павук* (гл.), магчыма, пад уплывам лат. *puve* ‘гніль’.

**Пуг** ‘ляк, перапуд, спалох’ (маг., гом., ЛА): *з того пугу лежала тры тыжні* (лельч., ПСл). Рэдкі варыянт больш пашыранага назоўніка *пуд* ‘тс’ (гл.), што паходзіць ад *пу́дзіць* ‘палохаць’, з якога ў сваю чаргу выводзяць шматкратнае *пужа́ць/ пуга́ць*, аднакратнае *пугну́ць* (гл.), параўн. рус. *испу́г* ‘перапалох’, *перепу́г* ‘тс’, дзе варыянт з *г* лічыцца “крывіцкай” інавацыяй на месцы стандартнага *dj* > *ж*, гл. Новое в рус. этим., 180.

**Пу́га₁** ‘прылада да паганяння, пужка’ (Нас., Шат., Шпіл., Мал., Бяльк., Сцяшк. Сл., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Гом., Яруш., Гарэц., ТСБМ), *púha* ‘тс’ (Тарн., Маш.), укр. *пу́га* ‘тс’, ст.-польск. *pąga, pęga* ‘раменны біч’ (з XV ст.); Шымкевіч спасылаецца на “валашска-малдаўскае *пȣ́гъ*” ‘пужка’ (Шымк. Собр., 167). Звычайна звязваюць з *пуга́ць* < *пужа́ць* ‘палохаць’, так ужо Чачот (“*púha*: bicz włościański i długi pastuszy. Musi pochodzić od *pużać,* straszyć”, Чач.) і Насовіч, што сустракае пярэчанне, паколькі названы дзеяслоў вядомы пераважна на рускай тэрыторыі, дзе назоўнік малаўжывальны (Праабражэнскі, 2, 148); аднак больш верагодная сувязь з гукапераймальным *пуг(у),* параўн.: *шугу-пугу кымару* (веліжск., Шлюб.), *пу́гаць* ‘сёрбаць, есці з прысвістам’, што перадае гукавы вобраз сцябання пугай, гл. у Праабражэнскага, 2, 148: “пуга — орудіе, которымъ щелкаютъ, хлопаютъ”, параўн. таксама *сцяба́ць* ‘біць, лупцаваць’ і ‘прагна

13. Зак. 1697.

есці, хлябтаць'. Менш верагодна з *пýга* 'невялікі круглы прадмет, гузік, шарык', паколькі такія прадметы прымацоўвалі на канцы (або завязвалі вузел у пугі), параўн. польск. *pęga* 'kulka ołowiana na rzemieniu do biczowania', *pąga* 'coś kulistego' (Баньковскі, 2, 537). Страхаў (Балто-слав. этнояз. отнош., 45) следам за Талстым звязвае *пýга* 'біч' і праслав. **pǫga* 'вясёлка', рэканструяванае на падставе польск. сілез. *puhga*, славен. *póga* і сербхарв. кайк. *puga* 'тс', і прыводзіць літоўскія паралелі для назваў вясёлкі: *diẽvo rykštė* 'божы дубец', *orãrykštė, dangaus rýkšte* 'нябесны дубец'. Сюды ж, відаць, *пýга* 'сцябло без лісцяў' (Ян.), 'адростак агурка, гарбуза' (Мат. Гом.), параўн. рус. *плéти* 'сцяблiны некаторых раслін', *пýгавыця* 'вяроўка' (Бес.). Гл. таксама *пýга₂*.

**Пýга₂** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, камент., 809), 'журавель у калодзежы': *стаіт стовп, а на ставпу пуга лежыт, а до пугы прывязан ключ* (бяроз., Шатал.). Хутчэй за ўсё, да *пуга₁* з-за знешняга падабенства, параўн. рус. *хлыст* 'тонкая жэрдка, шост' і 'пуга, бізун'; менш верагодна да *пýга* 'круглы прадмет, патаўшчэнне' для абазначэння груза на канцы жураўля, гл. *пуга₃*.

**Пýга₃** 'божая кароўка' (брэсц., Цыхун, вусн. паведамл.), сюды ж, магчыма, экспр. *пýга* 'той, хто непакоіць, перашкаджае (аб дзецях, малых свойскіх жывёлах)': *чого гэта пуга малая мышае?* (драг., Сл. Брэс., З нар. сл.). Узыходзіць да прасл. **pǫgy* 'невялікі круглы прадмет, шарык, гузік, патаўшчэнне, вузел', да семантыкі параўн. *вузёл* (пра малога хлопчыка) (гл.), балг. *възил* 'вузел'; жарт. 'малы чалавечак' і пад. Звычайна параўноўваюць з лат. *puõga, puogs* 'гузік', ст.-інд. *puñjas* 'камяк, маса' (Фасмер, 3, 400).

**Пýга₄** 'жанчына, якая любіць хадзіць па сяле' (кобр., ЛА, 3). Няясна, магчыма, да наступнага слова.

**Пýга₅** 'маланка, разрад': *у буру вялікая пýга была на небе* (брагін., Мат. Гом.). Геаграфічна блізкае бранск. *пýга* 'мяцеліца' (гл. Bałto-słow. zw. jęz., 29) дазваляе звязаць названае слова з лат. *pũga* 'парыў ветру, віхор', літ. *pugà* 'мяцеліца, буран' і асабліва з выразам *versti pugàs* 'утвараць шум, мітусіцца', іншыя паралелі: ст.-ісл. *fok* 'мяцеліца, завея' ад *fjúka* 'гнаць, мясці', с.-в.-ням. *vochen* 'дуць' (Фасмер, 3, 399); пры гэтым нельга выключыць зрокавую і гукавую асацыятыўную сувязь з *пýга₁* (гл.).

Паводле Страхава (Балто-слав. этнояз. отнош., 45), *пýга* ‘біч’ — атрыбут славянскага “громовержца” Іллі ў беларускіх і ўкраінскіх калядках: *Дзе пугаю махне — там жыта расце.*

**Пýгавіца** ‘гузік’ (Бяльк.). Магчыма, захаваны на ўсходзе Беларусі архаізм, што ўзыходзіць да прасл. **pǫgy* ‘круглы прадмет, гузік’, параўн. укр. *пýговиця*, рус. *пýговица*, польск. *pągwica* ‘круглы гузік (срэбны, касцяны ці са скуры); пампон; адростак на шыі казы; гузак’, што звязваюць з лат. *pùõga, puogs* ‘гузік’ (на думку некаторых, запазычаным са ст.-рус. *пугы, пугъвь* — гл. Каруліс, 2, 73), ст.-інд. *puñjas* ‘камяк, маса, кучка’ і інш. (Фасмер, 3, 400). Мяркуюць, што прыметнік **pǫgъ* ‘круглы’ захаваўся ва ўкр. *пýголовок* ‘апалонік’ (ад **пуго-головий*, літаральна ‘круглагаловы’, гл. ЕСУМ, 4, 626; Банькоўскі, 2, 521). Параўн. *пуга*$_3$ (гл.).

**Пýгала** ‘пудзіла’: *адзеўса, як пýгало* (гродз., Цыхун, вусн. паведамл.); *пугáла* ‘тс’ (Др.-Падб.). Калі гэта не позняе запазычанне (у часы бежанства) з рус. *пýгало* (ад *пугáть* ‘палохаць’), то магчыма сувязь з дзеясловам тыпу ўкр. дыял. *опýгатися* ‘цёпла апрануцца, шмат надзець на сябе’, значэнне якога Пятлёва (Этимология—1985, 18) тлумачыць як ‘апрануць на сябе столькі, што стаць падобным на шар, камяк’, і гэта дазваляе выводзіць дзеяслоў ад назоўніка *пýга* з абагульненым значэннем ‘патаўшчэнне, пукатасць’, суадносным з лат. *pàuga* ‘падушка, мяккая падкладка хамута’, *paugas* ‘хамут’, ст.-інд. *pūgas* ‘куча, мноства, тлум’ і пад. (Фасмер, 3, 399). Параўн. *пугі* (гл.), *пужала.*

**Пýгальна** (*púhalno*) ‘ручка біча, пугі’ (Тарн.). Ад *пуга*$_1$ па тыпу *касíльна* ‘дзяржанне касы’, *пужáльна* ‘пугаўё’, магчыма, пад уплывам вядомай на Палессі “дэпалаталізацыі” *ж: угэ́* < *ужэ́, няўгó* < *няўжó* і пад.

**Пугаля́нка** ‘страва, прыгатаваная з аўсянай мукі на кіслай рошчыне’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Відаць, ад *пýгаць* ‘сёрбаць’ (гл.), варыянт *пóгаць* ‘тс’ (ашм., Стан.), ці іранічнае ўтварэнне ад *пагуля́нка* (ад *гуля́ць*) з фанетычнай зменай *па-* > *пу-*.

**Пугáр** ‘чарка, келішак’ (Шн. 2), *пугáрчык* ‘тс’ (Шн. 3, Цых.), ст.-бел. *пугаръ* (1635), ст.-укр. *погаръ* (XVI ст.), на думку Булыкі (Лекс. запазыч., 101), пераняты са старапольскай, аднак не выключаны і іншыя шляхі запазычання, параўн. славац., венг. *pohár* ‘келіх, чаша’ і сцвярджэнне Банькоўскага, што ў польскай мове

“to regionalne lwowskie słowo rozpowszechnili poeci romantyczni” (Банькоўскі, 2, 963). Разам са славен. *péhar* ‘кубак’, серб.-харв. *пѐха̑р*, *bèhâr*, рум. *păhar* лічыцца “балканскім словам нямецкага паходжання”: ст.-в.-ням. **pehhāri/ bëhhāri* < с.-лац. *biccarium* (апошняе засведчана ў глосах і мае няясную матывацыю, гл. Скок, 1, 133).

**Пу́гі** ‘пра рукі з набухлымі венамі’ (пруж., ЛА, 3), ‘расшырэнне вен’ (навагр., Жыв. сл.). Магчыма, да *пу́гі* ‘сцябліны без лісцяў’, гл. *пуга$_1$*; паводле знешняга падабенства Пятлёва (Этимология—1985, 17) зближае з рус. *пу́га* ‘пуха́ ў яйцы’, ‘падушка, на якой плятуць карункі’, укр. *опу́гатися* ‘цёпла адзецца, апрануць на сябе шмат’, на базе агульнага значэння ‘выпукласць, патаўшчэнне’, што пры ўліку польск. *pęga* ‘лытка’, старое *pąga* ‘тс’ здаецца цалкам верагодным. Аднак таксама польск. *pęgi* ‘сляды на скуры ад удараў бізуном’ (фіксуецца з 1455 г.), якое Банькоўскі (2, 537) выводзіць з *pęgi* ‘прылада для бічавання са шматлікімі шарыкамі на раменьчыках’, дае перавагу першай версіі.

**Пугаўё** ‘дзяржанне пугі’ (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк.; в.-дзв., ашм., паст., Сл. ПЗБ; Бяльк., Яруш., Гарэц.), *пугаўé* ‘тс’ (Янк. 1), *пуго́ўе* ‘тс’ (ТС), *пу́гаўе* ‘тс’ (Гарэц.), *пу́гайло* ‘тс’ (саліг., Нар. сл.), *пуго́ўнік* ‘тс’ (ПСл). Вытворнае ад *пуга$_1$* (гл.) па ўзору *касаўё* ‘кассё’ і пад.

**Пу́гаўка$_1$** ‘гузік’ (чач., лоеў., ветк., Мат. Гом.; Мат. Маг.), рус. *пу́говка* ‘тс’. Арэальнае інавацыйнае ўтварэнне ад **pągy, pogъvъ,* цэнтр якога знаходзіўся на рускай моўнай тэрыторыі.

**Пу́гаўка$_2$** (*пу́говка*) ‘п’яўка’: *напився якъ пуговка* (Нас.), *пу́гаўка* ‘балотная п’яўка’ (дзісн., Крывіч, 1924, 2, 108). Утворана ад *пу́гаць* ‘прагна піць’ (гл.), так яшчэ ў Насовіча.

**Пу́гаць** ‘прагна піць, хлябтаць’ (Нас., Варл.), ‘многа і часта піць’ (кір., Нар. сл.; бых., Жыв. НС; стаўб., З нар. сл.), ‘многа піць, піць вялікімі глыткамі’ (Жд. 2; дзярж., Нар. сл.; Сцяшк. Сл.), ‘многа піць вады або есці вадкай стравы’ (карэл., Нар. сл., Сцяшк.), ‘прагна есці, сёрбаць’ (Скарбы, мядз., Нар. словатв.; жлоб., Жыв. сл.), ‘жэрці’ (полац., Янк. 2), ‘разліваць’: *не пу́гай, напу́гаў, што стол не ўспяваю выціраць* (гродз., Цыхун, вусн. паведамл.). Дзеяслоў гукапераймальнага паходжання, у аснове — выклічнік *пу!* (*пуг!*), што імітуе ўцягванне вадкасці ротам,

параўн. *пу́па* ‘вада’ (у размове з дзецьмі), славен. *pupati* ‘піць’ (у дзіцячай мове), у аснове якога гукаперайманне *pup* (Сной, 515), або *пу́льгаты* ‘сёрбаць; разліваць’ (драг., Сл. Брэс.) (гл.), у аснове гукаперайманне *пуль(г)!*

**Пуга́ч₁** ‘птушка Strix bubo’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сержп., ТС), ‘птушка Bubo bubo’ (Харэўскі, Звяры-суайчыньнікі, Мн., 2000, 65), ‘начная сава’ (Цых.), ‘птушка сыч’ (Дразд.), ‘птушка бугай’ (ТС), укр. *пу́гач* ‘птушка Strix bubo’, рус. *пуга́ч* ‘тс’, польск. *puchacz* ‘птушка Bubo’. Утворана на базе гукапераймання: дзеяслоў *пу́гаць* (*пуга́ч пу́гае*, Сержп. Грам., 63), укр. *пугу́кати* перадае дзеянне паводле выгуку *пугу!* (Смаль-Стоцкі, Приміт., 165), характэрнага для названых птушак, параўн. таксама: “Крик филина — это слышимое на далеком расстоянии *buhu*, а его немецкое название — *Uhu, Huhu, Puhu*” (Птицы, 1, 101). Параўн. ЕСУМ, 4, 626.

**Пуга́ч₂** ‘пісталет-цацка’, ‘той, хто палохае’ (Бяльк.). Запазычанне з рус. *пуга́ч* ‘пісталет-цацка’ (ад *пуга́ть* ‘палохаць’) ці мясцовае ўтварэнне на базе дзеяслова *пугаць*, гл. *пугнуць*.

**Пугну́ць** ‘спалохаць, адагнаць; прадаць без патрэбы, змарнатравіць, збыць’ (Юрч. Сін.). Відаць, ад першапачатковага незафіксаванага дзеяслова **пудну́ць*, формы аднакратнага дзеяння ад *пу́дзіць* (гл.), сярод значэнняў якога значэнне ‘гнаць’ з’яўляецца зыходным і можа патлумачыць другасныя значэнні, параўн. разм. *загна́ць* ‘хутка прадаць, спіхнуць’; фанетычнае пераўтварэнне **pǫdnǫti* > **pǫgnǫti* ў далейшым паслужыла базай для ўтварэння рус. *пуга́ть* ‘палохаць’ (Сабалеўскі, РФВ, 62, 234) і “інтэнсіва” *пугану́ць* ‘настрашыць, пагнаць’ (Растарг.).

**Пугра́к** ‘пагорак’ (беш., ЛА, 1), *пуграчы́на* ‘ўзгорачак’ (міёр., Нар. словатв.). Відаць, кантамінацыя *бугó*р і *пагóрак*, параўн. *гура́к* ‘кучавое воблака’ (Мат. Гом.); або, што больш верагодна, вынік фанетычных змен, характэрных для паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы, у слове *пагóрак* (ці *пагу́рак*, гл.): чаргаванні *ы/ у* ў першым складзе пасля губнога зычнага, перанос націску і сінкопа, параўн. Фанетыка бел. мовы, 159. Іншы варыянт змен у *пугірак* (полац., Нар. лекс.).

**Пугу́тацъ** ‘буркаваць (пра галубоў): *голуб пугу́ча* (калінк., Мат. Гом.). Гукапераймальнае (у аснове “імітатыў” *пугу́,* гл. Смаль-Стоцкі, Приміт., 165).

**Пуд₁** ‘мера вагі (16 кг)’, (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Варл., Бяльк., Мат. Гом.), ст.-бел. *пудъ* ‘адна з асноўных адзінак меры і вагі ў ВКЛ, звычайна мёду, воску, радзей інш. (ад 15 да 18,7 кг)’ (Ст.-бел. лексікон), у дамове смаленскага князя з Рыгай 1229 г. слова мела агульнае значэнне ‘вага’, ‘вагавы эталон’ (Скурат, Меры, 113), пра што сведчыць прыметнік *пудъный*: *А соль весите пудънымъ ременемъ по старому закону* (дамова Полацка з Рыгай 1405 г.); сюды ж вытворнае *пудовня* ‘адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў, роўная пуду’ (Нас. гіст.), ‘мерка, у якую змяшчаўся пуд пэўнага рэчыва’, адзначанае і ў сучасных народных гаворках: *пудо́ўня* ‘пуд’ (Ян.), а таксама *пудо́вік, пудаві́к* ‘тс’ (Мат. Гом.), *пу́дзіць* ‘купляць пудамі што-небудзь; купляць на вагу’ (Нас.); укр. *пуд*, рус. *пуд*. Запазычана са ст.-нардыйск. *pund* ‘фунт’, параўн. ст.-ісл. *pund* ‘тс’, продкамі ўсходніх славян у праформе **pǫd-* > *пудъ* (Векслер, Hist., 104). Крыніцай агульнагерманскага слова з’яўляецца аблатыўная форма лац. *pondo*, выдзеленая са спалучэння *libra pondo* ‘вагой у адну лібру’, якая ўжывалася як нескланяемы назоўнік у якасці сіноніма да *libra*. У адпаведнасці з рэгулярнымі фанетычнымі зменамі зыходнае слова было перааформлена ў ст.-в.-ням. *pfunt*, якое з XIV ст. у форме *фунт* (гл.) замацавалася ў славянскіх мовах.

**Пуд₂** ‘страх, сполах, ляк’ (ТСБМ; Гарэц.; Шат., брасл., віл., ст.-дар., круп., Сл. ПЗБ; Бяльк.; петрык., светлаг., калінк., Мат. Гом.; ТС, Маш., Шн. 2; капыл., Жыв. сл.; докш., Янк. Мат.), ‘сполах жывёл’ (Варл.), укр. *пуд* ‘страх’, польск. *pęd* ‘рух, імкненне’ > бел. *пэнд* (гл.), чэш. *pud* ‘інстынкт’. Самастойныя ўтварэнні ў кожнай са славянскіх моў ад прасл. **pǫditi* ‘гнаць, прыспяшаць’, ці, паводле Когена (Запіскі, 2, 239), ‘піхаць, цясніць’, гл. *пудзіць*.

**Пу́дала** ‘пудзіла’ (лях., Янк. Мат.; Жд. 2; ветк., Мат. Гом.), *пу́дало* (карэліц., Нар. лекс.), *пу́дайло* ‘тс’ (петрык., Цыхун, вусн. паведамл.). Укр. *опу́дало, о́пуд* ‘тс’, утвораныя ад *опу́дитися* ‘спалохацца’, сведчаць пра магчымы шлях утварэння названых беларускіх слоў, параўн. *апу́дзіла* (гл.), з адпадзеннем прыстаўнога *а-*. Аднак семантыка лельч. *апу́дала* ‘чалавек неахайнага выгляду, сонны, непаваротлівы’ (Куч.), а таксама драг. *опу́дына* ‘шырокае не па памеры адзенне’ (Клім.) і асабліва тураў. *опу́дало* (пра адзенне): *наклаў на себе этэ опудало, шо страх!* пры *опу-*

*гацца* ‘спужацца’: *я ўжэ опугаласа, як та кура* і *напу́гацца* ‘празмерна надзець на сябе, начапляць лішняга; надзьмуцца, натапырыцца; абкружыцца імглістым кругам (пра месяц)’ (гл.) сведчаць пра магчымую кантамінацыю формаў з *пуд-* і *пуг-*.

**Пудаўня́** ‘вялікае халоднае памяшканне’ (Сцяшк. Сл.). Відаць, ад *пудаўня́* ‘мерка, у якую змяшчаецца пуд сыпкіх рэчываў’, гл. *пуд₁*, з абагульненнем, выкліканым суфіксацыяй ‘ёмістасць’ — ‘памяшканне’, параўн. *вагаўня* ‘памяшканне для ўзважвання’ і пад., магчыма, пад уплывам *ваўкаўня́* (гл.) на базе фразеалагізма *хоць ваўкоў ганяй* (пра вельмі халоднае памяшканне).

**Пу́дзік** ‘верабей’: *пудзік прыляцеў, на галінку сеў* (іўеў., Сл. рэг. лекс.). Адна з апісальных назваў вераб’я, відаць, ад *пу́дкі* ‘палахлівы’, *пу́дзіць* ‘палохаць’ (гл.), да словаўтварэння параўн. *канапля́нік*, *прася́нік* і пад. (Жыв. св., 40—41).

**Пу́дзіла** (ТСБМ; Шат.; віл., асіп., ганц., паст., Сл. ПЗБ; Бяльк.), ‘страшыдла пужаць курэй’ (Варл.), *пу́дзвіло, пу́дзіло* ‘пудзіла; неахайнік’ (ТС). Ад *пу́дзіць* ‘пужаць, адганяць’ (гл.).

**Пу́дзіць** ‘палохаць, спуджваць, прымушаць бегчы’ (Нас.), ‘страшыць, палохаць’ (Гарэц., Яруш., Шпіл., Шат., Янк. 2, ТСБМ), *pudzić* ‘страшыць жывёлу’ (Варл.), *пу́диты* ‘гнаць, разганяць, распуджваць; рэзаць (размашыста)’ (Клім.), *пу́дзіцца* ‘палохацца, імчацца ад перапалоху’ (Нас.), *пу́дзіцца* ‘палохацца, баяцца (пераважна пра жывёлу)’ (Гарэц., Яруш., Мал., ТС); укр. *пу́дити* ‘гнаць’, рус. *пу́дить* ‘палохаць, гнаць’, польск. *pędzić* ‘гнаць’, чэш. *puditi* ‘пабуджаць, падбухторваць’, славац. *pudit’* ‘гнаць’, славен. *poditi*, серб.-харв. *púditi*, балг. *пъ́дя*, макед. *пади*, ст.-слав. **пѫдити** ‘тс’. Прасл. **pǫditi* параўноўваюць з грэч. σπεύδω ‘спяшацца, старацца; падганяць, прыспешваць’, літ. *spáusti, spáudýti* ‘цясніць, гнясці’, *spándyti* ‘нацягваць’ і інш. Коген (Запіскі, 2, 239), следам за Петарсанам (Vergl., 32), узводзіць названыя формы да і.-е. **(s)peud-* (з “*s* mobile”), пры гэтым бел. *пудзіць*, укр. *пудити* і пад. адлюстроўваюць, паводле яго, ніжэйшую ступень кораня **speud-*, менавіта, **(s)pud-* з інфіксам *-n-,* што дазваляе вытлумачыць фанетычную неадпаведнасць некаторых формаў (насавы галосны ў польскай і славенскай пры чакаемым *u*), якую Махэк₂ (467) звязвае з экспрэсіўным узмацненнем. Далейшая сувязь з *пяць, пну* (гл.), *пу́та* і інш. (параўн. Скок, 3, 68; Сной, 459) здаецца праблематычнай перш за ўсё з семантычнага боку, аднак

фармальна мажлівай пры ўзвядзенні да і.-е. **(s)pen-d* < **(s)pen-* ‘цягнуць, расцягваць’ (Глухак, 511). Яшчэ менш пэўная сувязь з *пя́дзя* (гл.) пры ўзвядзенні да і.-е. **pondh-/ *pendh-*, параўн. лац. *pendēre* ‘вісець’ (Банькоўскі, 2, 537 і інш.). Гл. таксама Фасмер, 3, 402; ЕСУМ, 4, 627.

**Пу́дкі** ‘пужлівы, палахлівы’ (ТСБМ, барыс., ст.-дар., Сл. ПЗБ; ТС, ПСл), *пудлі́вы* ‘тс’ (Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Да *пудзіць*, *пуд*$_2$ (гл.).

**Пу́дла** разм. ‘промах у стральбе, няўдалы стрэл’ (ТСБМ), *пу́дло* ‘промах; недакладны стрэл, які толькі спалохаў птушак ці звера’ (Нас.); сюды ж *пудлава́ць* ‘рабіць недакладныя стрэлы’ (ТСБМ), *спудлава́ць* ‘зрабіць промах’ (Воўк-Лев., Татарк., 172), ‘зрабіць не так, як трэба’ (Цых.); *даць пу́дла* ‘не пацэліць; памыліцца, схібіць’ (Сержп., Янк. БП), ‘моцна пабіць’ (Ян., Бяльк., Воўк-Лев., Татарк., 172: “выраз ужываецца, калі кажуць пра жывёлу, напр., пра сабак”). З ням. *Pudel* ‘памылка’, *pudeln* ‘памыляцца’ праз польск. *pudło* ‘недакладны стрэл альбо кідок у гульні (у кароглі)’, параўн. Банькоўскі, 2, 964. Значэнне ‘моцна пабіць’, магчыма, пад уплывам *пу́дзіць* (так ужо ў Насовіча адносна *пу́дло*: “от *пу́дзиць* — пугать”).

**Пу́дліца** мед. ‘крапіўніца’: *пудліца нашлася, усе рукі высыпіць, сільна чэшыцца* (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, табуізаваная назва.

**Пудо́ўка** ‘футболка (адзенне)’ (светлаг., Мат. Гом.). З *футбо́лка* ‘тс’, параўн. *пудбо́лка* ‘тс’ (бяроз., Сл. Брэс.) з заменай *ф* на *п* і спрашчэннем спалучэння *дб* > *д*.

**Пу́дра**$_1$ (ТСБМ). Паводле Махэка (497), “еўрапейскае слова”, параўн. укр., рус. *пу́дра*, польск. *puder*, ням. *Puder* і г. д.; на Беларусь трапіла, хутчэй за ўсё, праз рускую мову з франц. *poudre* ‘парашок, пудра’, што з лац. *pulvis* ‘парашок’ (Р. скл. *pulveris*).

**Пу́дра**$_2$ ‘вятроўнік вязалісты (ці лабазнік вязалісты)’ (ТС), ‘вазон (кветка)’: *пу́дры такія высокія, цвітуць такім розавым, белым цветам* (хойн., Мат. Гом.), *пу́драчкі* ‘каляровыя рамонкі’ (уздз., Жд. 3). Відаць, да *пудра*$_1$ з-за каляровага ці белага пылку, што пакрывае кветкі.

**Пу́дра**$_3$ ‘строгая вымова’, *пудро́вка* ‘моцная прачуханка, чос’, *пудрова́ць* ‘моцна лаяць, рабіць вымову’, *пудрова́ць голову* ‘рабіць строгія вымовы і нават цягаць за валасы’ (Нас.). Сюды ж,

відаць, *пудрыцца* ‘ўзбіцца (пра падушку)’: *падушка пудрыцца* (віл., Сл. ПЗБ), што звязваюць з лат. *pudra, pudrs* ‘куча, купа’, літ. *pudénti* ‘тузаць, скубаць, рабіць пухкім’ (LKK 16, 143).

**Пу́дынг** ‘запяканка з тварагу, мукі і інш.’ (ТСБМ). Запазычана праз рус. *пу́динг* з англ. *pudding* (або ням. *Pudding*, фіксуецца з 1700 г.), што, у сваю чаргу, з франц. *boudin* ‘крывянка’ ( > польск. *bydyń* ‘малочны кісель’), у аснове якога лац. *botulus* ‘каўбаса; вантробы’ (Фасмер, 3, 401; Васэрцыэр, 180; Сной, 513).

**Пудэ́лак** ‘карабок’ (Яруш.; Сл. ПЗБ), ‘скрыначка’ (Сцяшк.), ‘пенал’ (Жд. 2), *пудэ́лко* ‘невялікая папяровая, драўляная або металічная каробачка’ (Скарбы), *пудэ́лачко* ‘драўляная каробачка’ (Сцяшк. Сл.), *пудэ́лочко бляша́ное* ‘вядро з бляхі’ (В. В.), *пудэ́лочок* ‘карабок; шкляная баначка’ (Сл. Брэс.), ст.-бел. *пу́дло* ‘каробка, футляр’ (< польск., Булыка, лекс. запазыч., 102), укр. *пу́дло, пуделок, пуделко* ‘тс’. З польск. *pudło* ‘від ёмістасці’(1416), паводле Банькоўскага (2, 963), “выключна польскае слова” няяснага паходжання; Махэк$_2$ (497) выводзіць чэш. дыял. *pudlo* ‘мера збожжа, каробка’ з н.-ням. *pudel* (нова-в.-ням. *Paudel*) ‘каробка’.

**Пу́дэль** ‘баязлівец, сарамлівец’ (ТС). Утворана ад *пуд* ‘страх; палоханне’, *пу́дзіць* ‘палохаць, страшыць’ (гл.); праблематычна зблıжэнне з *пу́дзель* ‘парода сабак з доўгай шэрсцю’, што праз рус. *пу́дель* з ням. *Pudel*, *Pudelhund*, літаральна ‘сабака, які любіць пляскацца ў вадзе’, ад англ. *puddle* ‘лужа, балота’ (Фасмер, 3, 401), у народнай мове невядомае, звычайна *кундаль* (гл.).

**Пужа́к** ‘марынарка, пінжак’, *паржа́к* ‘тс’ (ветк., хойн., нараўл., Мат. Гом.). З рус. *пиджа́к* < англ. *pea-jacket*, гл. *жакет* (Фасмер, 3, 259) з характэрным для палескіх гаворак спрашчэннем спалучэння *дж* > *ж* і, магчыма, іранічным збліжэннем з *пужа́ць* ‘палохаць’ ці дэфармацыяй у выніку дээтымалагізацыі.

**Пужа́ка** ‘здань, прывід’ (ТС), *пужа́йка* ‘вобарацень’: *вуйдзе певень, а зайдзе пень* (мазыр., Цыхун, вусн. паведамл.), *пу́жално* ‘здань’ (ТС), *пу́жалка* ‘пудзіла; здань прывід; застрашванне дзяцей’ (ТС). Ад *пужа́ць* ‘палохаць’.

**Пу́жала** ‘пудзіла’ (ТСБМ, Касп.), *пужа́ла* ‘тс’ (Нас., Гарэц., Бяльк.; полац., Янк. 2), *пужа́дла, пужа́йла* (паст., брасл., Сл. ПЗБ; Жд. 2), *пужа́йло* ‘пудзіла; нелюдзімы чалавек’ (ТС; нараўл., добр., Мат. Гом.). Утворана ад *пужа́ць* (гл.), параўн.: *здзелав с онучки пужайло и ходзя кругом, пужая верабъёв* (Рам. 3).

14. Зак. 1697.

**Пужáльна** ‘пугаўё’ (ТСБМ), *пужалнó* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *пужайнó* ‘тс’ (Жд. 2), *пужáлно, пужáльно* ‘тс’ (Шатал.; люб., Нар. словатв.), *пýжално* ‘тс’ (ТС, Клім.; пін., Нар. лекс.; ганц., Сл. ПЗБ), *pužałna* ‘тс’ (Тарн.), *пужáльне* ‘тс’ (Чэрн.), *пужáльнё* ‘тс’ (лях. Сл. ПЗБ), *пужáльня* ‘тс’ (маст., шчуч., ваўк., Сл. ПЗБ), *пужалéно* ‘тс’ (карэл., Нар. лекс.), *пужáліна* ‘тс’ (Сцяшк.), параўн. ст.-бел. *пужилно* ‘дзяржанне біча, які ў зах.-рус. і бел. мовах называецца пугаю’ (Гарб.), суадноснае з *пужыльнó* ‘тс’ (ашм., Стан.), укр. *пýжáлно* ‘тс’. Ад *пýга* (гл.), зближанае з *пужáць* ‘страшыць, палохаць’.

**Пужáць** ‘палохаць, страшыць’ (ТСБМ; Нас.; Шат.; Сержп.; ТС; швянч., Сл. ПЗБ), *пужáцца* ‘палохацца, лякацца, жахацца’ (Гарэц.; Шымк. Собр., Растарг.; швянч., Сл. ПЗБ), рус. *пужáть* ‘палохаць’. Ітэратыў ад *пýдзіць* ‘палохаць, гнаць’, першапачаткова, магчыма, **пуджаць*, параўн. *радзíць — раджáць, хадзíць —* дыял. *ха(д)жáць* ‘даглядаць пчол’ і пад.; параўн. таксама польск. дыял. *pędzać* ‘гнаць; паганяць’ ад *pędzić* ‘прымушаць бегчы’.

**Пýжліс** ‘рыхлы качан капусты’; перан. ‘ганарлівец’ (воран., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене і інш. (LKK, 16, 187), з літ. *pūžlỹs* ‘малога росту, таўсцяк, хілае дзіця’, параўн. прыметнік літ. дыял. *pùžas* ‘круглы; пукаты; малы, але тоўсты’.

**Пужлóк** ‘нешта натапыранае, узбітае’: *һалава не бярэцца — пужлок капуста* (воран., LKK, 16, 187). Да папярэдняга слова, гібрыднае ўтварэнне ад літ. *pūžl-ỹs* і беларускага суфікса *-ок* (Грынавяцкене і інш., там жа).

**Пужóк** ‘схованка для рыбы ў карме лодкі’ (ТС). Няясна, магчыма, да *пыж* (з мясцовым чаргаваннем *ы > у*) ‘патаўшчэнне; затычка’, што, на думку Фасмера (3, 417), звязана з *пýга* ‘тупы канец яйка’ і роднаснае лат. *pugulis* ‘уздутае ўзвышэнне’, *pàuga* ‘падушка’, грэч. *πυγη* ‘зад’; параўн., аднак, рус. *пыж* ‘нос судна’, што паходзіць з комі, удм. *pìž* ‘лодка’ (там жа), відаць, выпадковае супадзенне.

**Пужы́нá** ‘пустое зерне (проса, канопляў)’: *вуп’юць вороб’е ўсе на свеці, одна пужы́на остаецца* (ТС), *пужíна* ‘пустое, змытае насенне проса’ (лельч., Нар. лекс.), укр. *пужинá* ‘пустое, лёгкаважкае зерне; недаспелае зерне канопляў’, рус. дыял. *пужи́на* ‘адсталыя ў росце каноплі’, славен. *pužína* ‘лупіна вакол зярнят у яблыках і грушах’. Праслав. **pužina* з першасным зна-

чэннем ‘адыходы, шалупіны’, паралельнае да **тękупа* ‘вотрубы’ (гл. *мякіна*), семантыку тлумачыць укр. *пýжитися* ‘шчацініцца’. Славенскае слова, а таксама *púžiti* ‘ачышчаць ад зярнят костачкавыя плады’ Бязлай (3, 140) параўноўвае з літ. *paugžlys, pūgžlys* ‘апалонік’, *pùžas* ‘чараваты’, *pùžti* ‘аслабець’ і ўзводзіць да і.-е. **peu-, *pou-, *pū-,* прадстаўленага ў *puzȇr* (гл. *пузыр*), *púzrovina* ‘дрэннае мяса’ і пад.; яшчэ раней (Etyma, 163) ён узводзіў названыя словы да **pou-g-*. Сюды ж, магчыма, і чэш. *paružiti* ‘зарастаць, засмечвацца’, якое Махэк$_2$ (434) узводзіць да праслав. **pa-pъlgъ > paruh*, параўноўваючы з ляш. *papluch* ‘пустазелле’; гл. таксама Варбат, ОЛА, Исследов., 1982, 281.

**Пужэйлó** ‘пуга (яе раменная ці вяроўчатая частка)’ (ТС). Ад *пýга* (гл.), суфіксальна “супрацьпастаўленае” *пýжално* ‘пугаўё’.

**Пýза** ‘жывот, трыбух; чэрава’ (рас., чэрв., кір., ЛА; Шат.; ашм., Стан.; Шымк. Собр.), *púza* ‘тоўсты жывот’ (Варл.), *пýзо* ‘тс’ (ТС), *пýза* ‘жывот; губа, нарост; закругленне ляза на сякеры’ (добр., Мат. Гом.), сюды ж *пузéнь* ‘вялікі жывот’ (Ян.), *пузинё, пузиня́* ‘таўсцячок; птушаня, якое толькі што вылупілася’ (Нас.), *пузáтый* ‘які мае вялікі жывот’ (Нас.), *пузáтая* ‘цяжарная’ (Нас.; Жд. 1; Шымк. Собр., Мат. Гом.), *пузáты* ‘з тоўстым жыватом’ (Шат. ТС), *пузáч* ‘брухаты чалавек’ (Нас., Мат. Маг., Янк. 1, Мат. Гом., ТС), *пузéй* ‘тс’ (ТС, бяроз., Шатал.), *пузáцець* ‘станавіцца чараватым’ (Нас., Шат.), укр., рус. *пýзо* ‘жывот, чэрава’, польск. дыял. *puzo* (з усх.-слав.). Параўноўваюць з літ. *pùžas* ‘круглы, пукаты; малы, але тоўсты’, таксама ‘ёрш’ і ‘вялікі чалавек з тоўстым чэравам’ (Буга, РФВ, 67, 243), ням. *Bauch* ‘чэрава’ (Махэк, Recherches, 15) ці рус. *пýчить* (Шанскі—Баброва, 261). Несумненная сувязь з *пуздрó, пузы́р* (гл.), так Фасмер, 3, 403; Бязлай, 3, 140 і інш. Да семантыкі параўн. Абаеў (Этимология—1984, 18), які дапускае “ідэафанічную” сугучнасць з асец. *a-buz-yn* ‘уздувацца’.

**Пузгáн** ‘пузацік’: *чародка малых суседскіх пузганоў* (глыб., Полымя, 1998, 12, 108), *пузáн, пузгáн* ‘чалавек з вялікім жыватом’ (бяроз., шуміл., паст., Сл. ПЗБ). Да *пýза* (гл.); форма *пузáн* узмоцнена экспрэсіўным суфіксам *-ган* (параўн. *аўчуган, зладзюган* і пад.). Саўка (Запісы, 23, 56) бачыць у *пуцгáн* ‘пузаты’ (Стома-Сініца) першаснае *пузан* з устаўным *г*, характэрным для ўсходнебалтыйскага арэала, паралельнае да *лазіць — ладзган* ‘пра малое, якое лазіць куды не трэба’ (гл.).

**Пуза́тка** ‘брыца’ (дзісн., Жыв. сл.). Ад *пуза́ты* ‘чараваты, пукаты’ з-за знешняга выгляду зерня гэтага віду проса, параўн. у народнай песні: *А запражыце авечку пузатку/А завязіце бабульку ды ў хатку* (ушац., Полымя, 2000, 12, 142).

**Пуздро́** (*пуздрё*) ‘мачавая машонка ў коней’ (Нас.), мн. л. *пу́здра* ‘пазушныя поласці’ (ТС), *пуздра́* ‘ноздра, храпа’: *конь пу́здры раздуў*, ‘тоўсты чалавек’ (Бяльк.), ст.-бел. *пуздро* ‘скрынка’ (< польск. *puzdro*, Булыка, Лекс. запазыч., 104), укр. *пуздро́* ‘мачавы пухір; машонка ў жывёл; ёмістасць для захавання прыпасаў’, *пу́здря* ‘прышч, пухір’, рус. *пу́здро́* ‘частка жывата ў жывёлы ніжэй пупа’, *пу́здря* ‘чараваты чалавек’, польск. *puzdro* ‘машонка ў жывёл’; перан. ‘дарожны футарал для захоўвання бутэлек’, славац. *puzdro* ‘футарал’, чэш. *pouzdro* ‘тс’, славен. *púzrovina* ‘дрэннае, жылістае мяса’, харв. *puždra* ‘penis у жывёл; жылістае мяса’, *puzdro* ‘частка сарочкі, якая ў малых дзяцей вылазіць праз прарэху штаноў’, серб. *пу̏здра* ‘цяціва’; ‘penis у жывёл’, балг. *пу́здра* ‘дрэннае поснае мяса, у асноўным з жывата’, макед. *пуздра* ‘жылістае мяса’. Праслав. **puzdro* ‘машонка; похва’, варыянт **puzъro* (Міклашыч, 268) звязваюць з *пу́за, пузы́р* (гл.), *-d-* разглядаецца як устаўное, параўн. *пузды́р* (< *пузыр*) (гл.), так Брукнер, 449; Праабражэнскі, 1, 151; апошні звяртае ўвагу на паралель у *но́здра*, параўн. літ. *nasraĩ/nastraĩ* ‘морда, ноздры’, што адлюстроўвае першасную матывацыю ‘наздраватасць, рыхласць’, ‘уздутасць’; фармальная сувязь з літ. *paũtas* ‘яйка’ і інш. ненадзейная (Фасмер, 3, 403). У святле ўсяго сказанага і па лінгвагеаграфічных прычынах малаверагодна аднясенне *пу́здра, пуздря́* ‘таўсцяк, таўстуха’ (Юрч.) да балтызмаў, параўн. літ. *púzra* ‘маленькі, пузаты чалавек, хлопчык; санлівец’, *pūzdrà* ‘хто надуўся’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 126), якія, відаць, запазычаны са славянскіх моў. Праабражэнскі (2, 151), Махэк$_2$ (476) для чэш. *pouzdro*, славац., польск. *puzdro* ‘футарал’ бачаць крыніцу ў гоц. *fōdr* ‘тс’, ст.-в.-ням. *fōtar, fuotar* ‘падкладка, чахол, похва’ (сюды ж, відаць, і ст.-бел. *пуздро* ‘скрынка’, а таксама ст.-укр. *пуздро,* гл. ЕСУМ, 4, 628); гл. таксама Бязлай, 3, 140, насуперак Банькоўскі, 2, 968.

**Пу́здрыкі** ‘аладкі, спечаныя з толькі што замешанага хлебнага цеста’ (Скарбы). Відаць, да *пузды́р* ‘пухір’, параўн.: *напячэ тых пуздрыкаў, яны такія наздраватыя* (там жа); параўн., ад-

нак, рус. *пуздыря́ть* 'есці з прагнасцю', якое Тапароў (Балтийские яз., 45) лічыць літуанізмам — літ. *pū̃zras, pū̃zdras* 'спарахнелае дрэва'. Гл. папярэдняе слова.

**Пузды́р** 'вадзяны пухір на скуры' (Цых.), *пузды́рь* 'пузач, тоўсты чалавек' (Бяльк.). Гл. *пузы́р*, устаўное *д*, магчыма, у выніку збліжэння з *пу́здра* (гл.), параўн. *пуздэ́рак* 'малы, але пузаты чалавек' (брэсц., Нар. лекс.) і *пуздёрик* 'бутэлечка' (Раст.), *пуздэ́рак* 'схованка для віна' (Шпіл.), або па фанетычных прычынах, як у *зайздрасць* (гл.); параўн. таксама літ. *pū̃zras/pū̃zdras* 'гнілушка, спарахнелы кавалак дрэва'. Сюды ж і *пу́здра, пуздря́* 'таўстун, таўстуха' (Юрч.), якія Лаўчутэ (Балтизмы, 126) выводзіць з літ. *pùzra* 'маленькі, пузаты чалавек, хлопчык; санлівец', *pūzdrà* 'хто надуўся', адносіны якіх да славянскіх слоў застаюцца няяснымі; паводле Банькоўскага (2, 968), магчыма, запазычанні, параўн. укр. *пузди́р* 'вясковы хлопец', паводле Горбача (Арго, 20) ад *пуздро* (гл.). Сумнеўным здаецца і аднясенне да названых балтызмаў экспрэсіўнага рус. маск. *пуздыря́ть* 'прагна і хутка есці' (Тапароў, Балтийские яз., 45), хутчэй за ўсё 'есці, пускаючы пузыры', параўн. рус. *пузы́рить* 'шмат піць' (ад *пузырь*, гл. Фасмер, 3, 403).

**Пу́зе** 'апоўзіны': *насячы пу́зя* (пін., Лецка, вусн. паведамл.). Відаць, трансфармаванае ў мове перасяленцаў з Навагрудчыны (з 1888 г.) палес. *па́ўзе* 'тс' (гл. *апоўзіна*), магчыма, у выніку характэрнага для часткі навагрудскіх гаворак чаргавання *оў* > *у* (*вук* 'воўк', *пу́ны* 'поўны' і пад.).

**Пу́зін** 'зарасць арэшніку' (дзятл., З нар. сл.). Няясна; параўн. укр. *пу́зина*, якое ЕСУМ (4, 628) адсылае да *пі́взен* 'жардзіна, што прыціскае салому на даху або ў стозе' (< прасл. **po(v)ǫzьnъ*, гл. *вязаць*, *вуза*). Магчыма, да *апо́ўзіна* 'прыстасаванне з галін або жэрдак для ўтрымання сена на стозе' (гл.), параўн. *пу́зе* 'тс' з семантычным пераносам 'звязаныя з аднаго канца дрэўцы' > 'куст ляшчыны'. Фармальна блізкае *пу́зіны* 'паплёт у страсе паверх саломы' (ЛА, 4).

**Пу́зца** 'лытка' (круп., Сл. ПЗБ), мн. л. *пу́зцы* (круп., Нар. сл.), *пу́зачка, пу́зічка* 'тс' (в.-дзв., полац., ЛА, 3; Сл. ПЗБ), *пу́зачка* 'кончык пальца' (в.-дзв., Шатал.). Ад *пу́за*, параўн. *пузува́ты* 'выпуклы' (міёр., Жыв. НС), параўн. рус. *икра́* 'лытка', балг. *пра́се́, прасе́ц* 'тс' і іншыя вобразныя назвы часткі цела.

**Пузы́р₁** ‘пухір’ (ТСБМ; Сл. ПЗБ; ТС; міёр., З нар. сл.;), ‘пухір у рыбы’ (ЛА, 1), ‘пухір у свінні’ (Маш.), ‘вадыр, пухір на скуры’ (ЛА, 3), ‘бурбалка’ (маг., гом., ЛА, 2; Сл. ПЗБ) ‘паветраны шар’ (Сл. рэг. лекс.), ‘асінае гняздо’ (Сл. ПЗБ) ‘пасудзіна для газы ў лямпе’ (Сіг., Шат.), *пузы́рь* ‘тс’ (Бяльк., Растарг.), ‘чэрава, пуза’ (Нас.), *пузы́р* ‘тоўсты хлопчык’ (міёр., З нар. сл.), *пузыро́к* ‘агурочак’ (Мат. Гом.), ‘шкло ў лямпе’ (Мат. Маг.; Бяльк.), ‘ніжняя шырокая частка збанка’ (бяроз., Шатал.), укр. *пузи́р* ‘пухір’, рус. *пузы́рь* ‘тс’. Паводле Бузука (Асн. пыт., 49), *пузы́р* < **пусы́рь* (< і.-е. *peus-*) у выніку дыстантнай асіміляцыі (“глухое *с* пад уплывам наступнага *р* перайшло ў звонкае *з*”), або дысіміляцыя з пачатковым *п*, параўн. літ. *pùsti* ‘дуць’, *pùsti* ‘надувацца’; іншыя версіі (гл. Фасмер, 3, 403, з літ-рай) — ад *пуза* (так яшчэ Міклашыч, Праабражэнскі) або ад *пухі́р* (Патабня). Адносна апошняга (гл.) Бузук (Асн. пыт., 49) мяркуе пра паралелізм *с/х* яшчэ ў праславянскай мове. В.-луж. *puzor* ‘бурбалка на вадзе’ дазваляе рэканструкцыю прасл. **puzyrь* (Шустар-Шэўц, 2, 1196; ЕСУМ, 4, 628).

**Пузы́р₂** ‘воблака; хмара’ (бялын., ЛА, 2, Нар. сл.; Жд. 2), *пузыро́к* ‘невялікая хмарка, з якой ідзе дождж’ (круп., бялын., ЛА, 2) ‘белая кучавая або дажджавая хмара’ (бялын., Нар. сл.), ‘похмарак, хмарка’ (карм., Мат. Гом.). Відаць, да *пузыр₁* (гл.) у выніку вобразнага пераносу, параўн. іншыя назвы: *бу́лава* (*небо ў бу́лавах*; ці няма тут сувязі з балг. *бу́ло* ‘вэлюм’: *небето се забулва* ‘неба зацягваецца хмарамі’?), *бугры́, бугракі́* і пад. (ЛА, 2).

**Пузы́р₃** ‘ногаць, пазногаць’ (Сцяшк. Сл.). З *пазу́р* (гл.) з частковай метатэзай, параўн. *пувак* ‘павук’.

**Пузы́рнік** ‘расліна мыльнік, Saponaria officinalis L.’ (віл., Кіс.); параўн. укр. *пузи́рник* ‘расліна Colutea arbonencens L.’, рус. *пузы́рник* ‘пухірнік, расліна Cucubalus L.’. Да *пузыр₁*, назва ўзнікла ад пеністых пухіроў, што ўзнікаюць пры расціранні расліны ў вадзе. Па знешняму выгляду (наяўнасць уздуццяў — пухіроў) тлумачаць украінскія і рускія назвы раслін, параўн. ЕСУМ, 4, 628.

**Пузы́рыцца** (*пузы́рицьца*) ‘наядацца, напівацца; закіпаць, падымацца пухірамі; выстаўляць пуза ад гонару’ (Нас.), рус. *пузы́риться* ‘тс’, укр. *пузи́ритися* ‘ўздымацца пухірамі; дуцца’, сюды ж *пузыры́ха* ‘тоўстая, сварлівая кабета’ (барыс., Цыхун, вусн. паведамл.). Ад *пузыр₁* (гл.).

**Пýйка** неадабр. ‘пра малога непаслухмянага хлопца’, ‘недаразвіты хлопец, дурань’ (брасл., міёр., Праблемы філал., 92). Непакупны (там жа) выводзіць з лат. *pùika* ‘хлопчык’; гл. таксама Непакупны, Мовознавство, 1969, 3, 24; Лаўчутэ, Балтизмы, 71, дзе звяртаецца ўвага на запазычанне латышскага слова з эст. *poeg* (Фрэнкель, 661). Здзіўляе фармальнае і семантычнае падабенства да балг. *пýйка* ‘індычка’ і ‘дурны чалавек’, ‘зварот да прыяцеля’, серб.-харв. *пȕјка* ‘тс’, апошнія выводзяцца з рум. *puiu* (< лац. *pullus* ‘маладзён’, мяркуемая праформа **pullius*), гл. БЕР, 5, 846.

**Пук**$_1$ ‘выклічнік, што перадае стук, стрэл, лопанне ці гук падзення’ (“падение чего, особенно круглого”, Нас.; мсцісл., Нар. лекс.; Сержп.; Нік. Очерки; ЭШ), ‘бух, бульк’: *бобéр пук у вóду* (ПСл), укр. *пук, пýку*, рус. *пук* (пераважна смаленскае), польск. *puk, pęk*, чэш., славац. *puk*, в.-луж., н.-луж. *puk*, славен. *pok*, серб.-харв. *пук*, балг., макед. *пук*. Старое гукаперайманне, параўн. Смаль-Стоцкі, Приміт. 170 (варыянты *pukъ! puku!*), роднаснае ням. *pochen* ‘стукаць’ (Махэк$_2$, 406). Гл. *пукаць$_1$*.

**Пук**$_2$ ‘выпукласць, пукатасць’: *у пуку клепка выгінаецца* (ТС), ‘самая высокая, аддаленая частка, кропка чаго-небудзь’: *пук неба* (Нар. Гом.), ‘самая сярэдзіна’: *puk zimy* (Варл.), ‘выгіб пілы’ (ПСл), *пук*, мн. л. *пукé* ‘выступы на падэшве нагі каля пальцаў’ (Сцяшк.), *пукá* ‘выпукласць ступні каля вялікага пальца’ (Дразд.); параўн. укр. дыял. *пýка* ‘ўнутраны бок канца пальца’, рус. дыял. *пук* ‘выпуклая сярэдняя частка бочкі’, *пукú* ‘найбольш шырокія месцы ў ступні’. Утворана на базе прасл. **ǫ̨kъ* ‘нешта раздутае, тоўстае, выпіраючае’, звязана з *пýчыць* ‘выступаць, выстаўляць, выпіраць’ (гл.).

**Пук**$_3$ ‘кветканоснае сцябло, стрэлка (цыбулі, шчаўя і інш. раслін)’ (пераважна паўн.-усх., ЛА, 2; Яўс., Варл., Сл. ПЗБ, Шатал., Янк. Мат., карэл., Жыв. сл.; Жд. 2). *пýчча* ‘тс’ (ЛА, 2; Ян.; Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), ‘маладыя парасткі’ (брагін., Шатал.), ‘аер’ (б.-каш., Мат. Гом.), *пукí* ‘адросткі пер’яў пасля лінькі’ (брасл., Нар. словатв.; паст., ЛА, 1), сюды ж *пучы́цца* ‘расці ў стрэлкі (аб цыбулі)’ (Яўс.), фраз. *пайсці ў пук* (*пукі, пучча*) ‘ператварыцца ў пустацвет (пра расліны); іран. ‘застацца ў дзеўках, не выйсці замуж’ (Сл. ПЗБ, Растарг.), *пукавáтая* ‘якая пайшла ў пукі (пра моркву)’ (Жд. 1); рус. *пукú* ‘шчаўе ў час цвіцення’, польск. *pąk* ‘завязь кветкі’, чэш., славац. *puk* ‘тс’. Прасл. **pǫkъ* ‘нешта разду-

тае, тоўстае' звязваюць з *пýкаць* 'лопацца, раскрывацца' гукапераймальнага паходжання, роднасным ням. *pochen* 'тс', гл. Шустар-Шэўц, 2, 1189; Махэк$_2$, 406; параўн. Фасмер 3, 403; Чарных, 2, 82; ЕСУМ, 4, 629.

**Пук$_4$** 'звязка; сноп; скрутак; ахапак' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., ЛА, 4; Варл., ТС, Ян., Яўс., Раст., Шат., Сл. ПЗБ, ПСл) 'галінкі, пасечаныя і звязаныя ў куль для паліва' (Сцяц.), *пучóк* 'ахапак звязаных дроў' (стол., Сл. Брэс.), 'збітыя жэрдкі для прыціскання стога' (мазыр., Шатал.); укр. *пук* 'звязка', рус. *пук* 'звязка; паплавок з пучка травы; мяч з шэрсці, апука', польск. *pęk* 'гронка, звязка'. Утворана на базе праслав. **ǫkъ* 'нешта раздутае, тоўстае' як вынік злучэння ў адно некалькіх аднародных прадметаў. Гл. папярэдняе слова.

**Пук$_5$** 'расліна дзягіль, Archangelica officinalis Hoffm.' (Кіс.), укр. *пук* 'расліна гірча, Selinum carvifolia L.', а таксама 'баршчэўнік, Heracleum sibiricum L.'. Хутчэй за ўсё, ад *пук$_3$* 'стрэлка, кветаноснае сцябло', параўн. рус. дыял. *пукú* 'шчаўе ў час квецені'. Гл. таксама ЕСУМ, 4, 629.

***Пýкавадзь**, *пýководзь* 'разуха-асака' (ТС). Першапачаткова, відаць, **пýковаць*, вытворнае ад *пуковаты* 'з вялікай колькасцю *пукóў*' (гл. *пук$_3$*) з азванчэннем канцавога зычнага (пад уплывам *вада, вадзяны*?).

**Пýкала** 'пухір у рыбы' (ЛА, 1). Ад гукапераймальнага *пук!* (гл. *пук$_1$*) ці дзеяслова *пýкаць* 'лопаць, разрывацца з трэскам', гл. *пукаць$_1$*.

**Пýканка** 'груша, яблык, які сам зваліўся з дрэва, паданка' (Янк. 2; ветк., Мат. Гом.; Растарг.). Ад *пýкаць* 'падаць', параўн. у Насовіча: "падать, издавая звук".

**Пýкас** 'рыба альхоўка, Rhodeus sericeus amarus' (Жук., Рыбы, 300), укр., рус. паўд. *пукáс* 'тс', польск. *pukas* 'тс', памянш. укр. *пукáсик*, рус. *пугáсик*. Паводле Герда (Лекс. балтызмы, 11), запазычанне з балтыйскіх моў, гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 20; у якасці крыніцы падаецца літ. *pūkis, pūkỹs* 'ёрш'. Сюды ж адносяць (відаць, беспадстаўна) і каш. *pykon* 'вугар', што магло б сведчыць пра крыніцу ў нейкай заходнебалтыйскай мове (Лаўчутэ, там жа), адкуль слова трапіла і ў прускі дыялект нямецкай мовы — *Pukis* 'ёрш' (Клячкоўскі, RS, 5, 218). Аднак даволі шырокі арэал распаўсюджання назвы і аднясенне яе да розных відаў рыб пры-

мушае сумнявацца ў балтыйскім паходжанні ўсіх пералічаных форм, частку якіх можна звязаць з гукапераймальным *пýкаць* ‘глытаць паветра з паверхні вады’ або з *пукáты* ‘тоўсты, надуты’, параўн. укр. *пукáта жáба*, да суфіксацыі параўн. польск. *grubas* ‘тоўсты чалавек’. Каламіец (Рыбы, 38; гл. таксама ЕСУМ, 4, 629) тлумачыць паходжанне назвы ад *пýкати* ‘трэскацца’, бо такім шляхам выціскаюцца ўнутранасці ў рыбы.

**Пукáты**, *пукавáты* ‘з выступаючымі бакамі’ (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ, Жд. 2, ТС, Варл.: “reč, što pasiarod taušciejšaja, jak uhare j nadole”), ‘пузаты’ (Сл. ПЗБ), *пуковáты, пукнáты* ‘выпуклы’ (ТС), *пуковáсты* ‘тс’ (ПСл), параўн. укр. *пукáтий* ‘выпуклы, раздуты, тоўсты’, рус. *пукáтый* ‘круглы, выпуклы, выгнуты’, польск. *pękaty* ‘выпуклы’, ст.-польск. *pękata* ‘цяжарная’. Усё да *пук* ‘выпукласць, выступаючая сярэдняя частка прадмета’ (гл. *пук₂*).

**Пýкацца** ‘лямантаваць, моцна крычаць’: *пукаяцца там, аж с шкуры вылазіць* (Шат.), ‘паміраць (ад болю, ад прагнасці, ад смеху і пад.)’: *у раскошы дзеўка аж пукаетца — хочэ замуж* (Сержп.). Магчыма, у выніку эліпсіса, параўн.: (крычыць, смяецца і г. д.) *аж на ём шкура пукаецца* (Сержп.), што зводзіцца да *пýкацца* ‘лопацца’, гл. *пукаць₁*. Аднак чэш. *pykat* ‘цярпець’, ст.-чэш. ‘аплакваць, шкадаваць каго-небудзь, галасіць’, серб.-харв. *pȉčiti* ‘крычаць, плакаць’, якія Гаўлава (Acta Univ. Olomouc., Misc. Ling., 1971, 71—72) лічыць роднаснымі лат. *pukātiēs* ‘наракаць, прычытаць’, а таксама ‘стукаць, біць’ і літ. *pukuoti* ‘біць’, сведчаць, магчыма, пра старажытны характар семантычнага пераходу ‘біць, лопаць’ — ‘лямантаваць’ — ‘паміраць’, гл. таксама Кралікава, Česka slavistika, 1998, 50.

**Пýкаць₁** ‘стукаць, страляць, лопаць, падаць з глухім гукам’ (Нас., лельч., Нар. лекс.; Мат. Маг.; Сл. ПЗБ), *пýкацца* ‘лопацца; падаць’ (ТСБМ, Яруш., Гарэц., Нас., ТС, паст., вільн., лаг., Сл. ПЗБ; Шат.), сюды ж *пýкаўка* іран. ‘пра лёгкую зброю’ (ТСБМ); укр. *пýкати* ‘стукаць, лопаць’, рус. *пýкать* ‘стукаць, страляць, лопаць, пухкаць’, польск. *pukać* ‘стукаць, страляць’, чэш. *pukati* ‘лопаць, пухкаць’, славац. *pukat* ‘тс’, в.-луж. *pukać,* н.-луж. *pukaś* ‘тс’, славен. *pókati* ‘лопаць’, *púkati* ‘пухкаць, псаваць паветра’, серб.-харв. *pući* (*puknuti*); *pucati* ‘лопаць; страляць’, балг. *пýкам* ‘тс’, макед. *пука* ‘тс’. Прасл. **pukati* ‘выдаваць глухі гук’; назалізаваны варыянт **pǫkati* ‘лопаць, лопацца’, магчыма, у выніку

другаснага зближэння на базе "вобразнай" семантыкі. Этымалогію гукапераймальнага бел. *пу́каць, пу́кнуць* 'выдаваць глухі трэск падобна да гуку *пу́*', афармленага тыповым для гукаперайманняў фармантам *-к-*, прапанаваў яшчэ Шымкевіч (2, 32), тое ж у Насовіча: *въ кишкахъ пу́каець* (Нас.), параўн. в.-луж. *wutroba pukoce* 'тс'. Узводзяць да і.-е. кораня **peu̯-*: **pou̯-*: *pū̆-,* які, пашыраны фармантам *-s-*, прадстаўлены і ў *пухнуць*, гл. Фасмер, 3, 403; Шустар-Шэўц, 2, 1189; Чарных, 2, 82; ЕСУМ, 4, 630. Параўн. *пухкаць, по́каць* (гл.).

**Пу́каць₂** 'абіваць збожжавыя; каласаваць ячмень' (віц., ЛА, 2; шуміл., Сл. ПЗБ; Бяльк.). Верагодна, да *пу́каць* 'біць, стукаць' пад уплывам літ. *pūkúoti* 'біць, малаціць', аднак геаграфія слова, параўн. рус. *пу́кать* 'тс', а таксама 'абіваць галоўкі ільну', 'выбіваць бялізну прачом' (калуж., цвяр., пск., смал.) і 'малаціць гарох, сачавіцу' (паўд., Даль), дае падставы бачыць тут супольную арэальную семантычную інавацыю 'біць' — 'малаціць'.

**Пу́каць₃** 'іграць на скрыпцы, пальцамі перабіраючы струны' (Ян.). Відаць, да *пу́каць₁* 'стукаць, выдаваць адрывістыя, рэзкія гукі' (гл.).

**Пу́кер** 'мазоль' (пін., Шатал.), *пуке́р* 'пухір' (пін., Нар. лекс.), *пукі́р* 'тс': *пукір выскочыв* (стол., Сл. Брэс.). Да *пук* 'выпукласць, выступаючая частка'; аднак падабенства семантыкі да *пухір* (гл.) прымушае звязаць з *пу́хнуць* з заменай *х* на *к* (балтыйскі ўплыў?).

**Пу́кля** 'кутас, пампон' (ТС; Шымк. Собр.), 'самаробны драўляны гузік' (шуміл., Сл. ПЗБ), мн. л. *пу́клі* 'адходы пры прадзенні воўны' (рас., Шатал.), ст.-бел. *пукли* 'металічныя бляшкі на абкладах царкоўных кніг, буклі' (Ст.-бел. лексікон; Гарб.). Згодна з Булыкам (Лекс. запазыч., 107), апошняе запазычана з польск. *pukiel* 'від закругленага выпуклага або пярсцёнкападобнага металічнага ўпрыгожання', што ў сваю чаргу запазычана з ням. *puckel, buckel* 'горб, выступ', франц. *boucle* < лац. *buccula,* памянш. ад *bucca* 'шчака, скула' (Банькоўскі, 2, 964, Сной, 514). Шустар-Шэўц (2, 1190) дапускае пасрэдніцтва ст.-чэш. *pukla* 'тс' для н.-луж. *pukly* і польскага слова. Семантыка 'завіток, касмык' і пад. грунтуецца на пазнейшым значэнні франц. *boucle* 'локан'.

**Пукна́ты** 'пукаты, пухнаты, тоўсты' (пін., Жыв. сл.), 'выпуклы' (ТС), *пукна́тый* 'тс' (Клім.). Відаць, да *пукаты* 'тс' (гл.),

параўн. укр. валын. *пукня́стий* ‘тс’; магчыма, зблiжанае да *пухнаты* (гл.) < *пу́хнуць* (мена *к/х*?). Гл. наступнае слова.

**Пу́кнуць** ‘стукнуць, ударыць, трэснуць, лопнуць; павялiчыцца, выцягнуцца, раздацца’ (Клiм.). Суадносiцца часткай значэнняў з *пу́каць* ‘стукаць, лопаць’ (гл. *пукаць*$_1$, *пук*$_1$), iншыя ж значэннi — з *пу́кацца* ‘лопацца’ (гл.), што мае паралелi ў балг. груб. *пу́кна* ‘памерцi’: *да пукнеш!* ‘каб ты здох! (=выцягнуўся, лопнуў)’ i, магчыма, у iдыёме *зо́ра пу́кна* ‘свiтае’, серб.-харв. *zȍra pȕca* ‘тс’, што мае семантычныя паралелi ў iншых балканскiх мовах (Васiлеў, ZfBalk, 1981, 17 (1), 950). Гл. таксама Банькоўскi, 2, 965.

**Пуко́вы** ‘цёмна-чырвоны’ (Растарг.), параўн. запiс з той жа тэрыторыi — *пуко́вый* ‘сiнi’: *саян на ей был пуко́вый*. Няясна, магчыма, ад *кубо́вы* ‘сiнi’ з метатэзай, параўн. рус. дыял. *пуко́н* ‘купон’, i аглушэннем звонкага зычнага.

**Пуко́ўка** ‘рагоз’ (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *пухоўка* ‘рагоз’; замена *х* на *к*, вiдаць, пад балтыйскiм уплывам; аднак не выключана i паходжанне ад *пук* ‘кветканоснае сцябло, стаўбур’ (гл.).

**Пу́кта** ‘буркун, заўсёды незадаволены чалавек’ (Яўс.; мiёр., З нар. сл.), *пукту́н, пу́ктала* ‘тс’ (мiёр., З нар. сл.), сюды ж *пуктанíна* ‘бурчанне, мармытанне са злосцю; невыразны адказ’ (мiёр., Нар. словатв.). Утворана ад *пуцэ́ць, пукта́ць* ‘бурчаць’, гл. *пукчэць*.

**Пукчэ́ць** ‘утвараць пуканне ад бражэння; гаварыць невыразна, пра сябе’ (Нас.) ‘брадзiць; бурчаць’ (в.-дзв., паст., трок., рас., Сл. ПЗБ), ‘незадаволена бурчаць’ (полац., Нар. лекс.; Яўс.), сюды ж *пукча́ць* ‘дэманструючы незадавальненне, гаварыць сабе пад нос; бурчаць (у жываце)’ (Нас., Сл. ПЗБ), *пукцэ́ць* (пукцѣць) ‘незадаволена гаварыць сам з сабою’ (Шымк. Собр.), *пукта́ць* ‘брадзiць; бурчаць’ (Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), з лiт. *pukšéti* ‘стагнаць, бурчаць’ або *pukščióti* ‘тс’, гукапераймальнага паходжання (гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 126); словы з *-т-* (*-ц-*), магчыма, утвораны на славянскай глебе як iнтэнсiвы да *пу́каць* (ад гукапераймальнага *пу(к)!*), параўн. укр. *пу́кти* ‘лопнуць’, рус. пск., наўг. *пукта́ць* ‘гаварыць невыразна, мармытаць’, *пукто́сiць* ‘нашэптваць, нагаворваць, калдаваць’ i паралельныя *пухте́ть* ‘бурчаць, пучыць (у жываце)’, *пы́хать/пыхте́ть* ‘цяжка дыхаць’.

**Пукш** ‘выклічнік, што перадае гук, калі нешта раптоўна ламаецца, рвецца, б’ецца’ (полац., Нар. лекс.). Запазычана з гукапераймальнага літ. *pùkš!,* параўн. папярэдняе слова; паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 126), пра гэта сведчыць характэрнае для літоўскіх выклічнікаў спалучэнне *-kš(t)-*.

**Пула́нка** ‘мышалоўка, пастка’ (Сл. Брэс.). Калі гэта не сапсаванае пры перадрукоўцы *пула́пка* < польск. *pułapka* ‘тс’ (ад *łapać* ‘лавіць’ гл. Банькоўскі, 2, 965), то, магчыма, утворана ад літ. *pùlti* ‘падаць’, што адлюстроўвае канструкцыю прылады з падаючай часткай.

**Пулга́к** ‘від мушкета’, ст.-бел. *пулгакъ*, *полгакъ* (XVI ст.). Запазычана з польск. *pułhak* (*półhak*) ‘тс’, што з’яўлялася паўкалькай з ням. *Halbhaken*, дзе першая частка была перакладзена з польск. *pół-* ‘паў-’, а другая адпавядала ням. *Hacken* ‘від зброі’ (ст.-бел. *гак*), гл. Патры-Тамушанскі, JBS, XV—XVI, 4 (3—4), 120; Булыка, Лекс. запазыч., 70; Басай — Сяткоўскі, SFPS, 13, 36. Паводле Банькоўскага (2, 753), польск. *pół-* было рэгулярнай заменай лац. *sēmi-*, франц. *demi-*, ням. *halb-*. Махэк$_2$ (464) звязвае з *hak* ‘крук’ (гл. *гак*), бо зброя “hákem připínala se na lože neb kozlík” (“крукам прымацоўвалася да ложа ці козлаў”).

***Пу́ліць**, *пу́лыты* ‘тужыцца’ (палес., Бел.-укр. ізал.), *пу́лытысь* ‘напружвацца з усіх сіл’ (драг., З нар. сл.), *пу́лятысь* ‘тс’ (кобр., Сіг.). Клімчук (Бел.-укр. ізал.) параўноўваў з укр. закарп. *упу́лити* (*очи*) ‘уставіцца’; Супрун (Веснік БДУ, 1974, 2, 20—25) уключае палескае слова ў гняздо **pul-/ *bul-* разам з балг. *пу́ля* ‘выпучваць (вочы)’, макед. *пули* ‘ўгледзецца, уставіцца’, чэш. *vypouliti oči* ‘тс’, серб.-харв. дыял. *испу́љити* ‘высунуць’ і пад.; акрамя дыял. рус. *пу́литься* ‘глядзець упарта’ Чумакова (Этимология—1984, 222) дадае сюды разан. *упу́литься* ‘глядзець у адну кропку’, *пу́литься* ‘сіліцца, тужыцца’, *поднапу́литься* ‘прывесці сябе ў стан напружання ўсіх фізічных сіл’; больш сумнеўным з-за семантычных цяжкасцей уяўляецца ўключэнне сюды рус. *пуля́ть, пульну́ть* ‘кінуць, стрэльнуць’, в.-луж., н.-луж. *pulać* ‘піхаць’, славен. *púliti* ‘шчыпаць, біць’ і інш., гл. *пуляць*. Прасл. дыял. (?) **puliti* ‘высільвацца, напружвацца, выпучваць (вочы)’, далейшыя сувязі якога няясныя (Шустар-Шэўц, 2, 1190); параўнанне з літ. *púlti* ‘падаць’ (Трубачоў, Серболуж. сб., 169), англ.-сакс. *pullian* ‘цягнуць’ (Мацэнаўэр, 284) ненадзейныя, параўн. Бязлай, 3, 135;

Сной, 514; Скок, 3, 73; гл. таксама Трубачоў, Зб. памяці Талстога, 1, 308: ідэнтыфікуе словы са значэннем ‘выпучваць, напружвацца’ і ‘шчыпаць, піхаць’, якія, спасылаючыся на Талстога (Избр. тр., 1, 254), узводзіць да экспрэсіўнай пары прасл. **puliti/ *buliti*. Гл. таксама ЕСУМ, 4, 630.

**Пулк** ‘стая’ (ЛА, 2), семантычна і тэрытарыяльна сюды ж *пулкава́цца* ‘збірацца вакол пчалінай маткі’: *пулкуюцца пшчолы ўраі* (шальч., Сл. ПЗБ). Апошняе, паводле Грынавяцкене (там жа), з літ. *pulkúoti* ‘тс’; усе да літ. *púlkas* ‘мноства, тлум, стая’, хутчэй за ўсё запазычанага з польск. *pułk*, што ўзыходзіць да прасл. **рълkъ* ‘народ’ (гл. *полк*); у аснове значэнне ‘збірацца, тоўпіцца, кучкавацца’, параўн. рус. дыял. *полка́ть* ‘хадзіць без справы, швэндацца, піхацца’, якое Варбат (Этимология—1983, 33—36) узводзіць да **pъlkati, *plъkati*, вытворнага ад **polti* ‘хістаць, боўтаць, махаць’. Першаснае значэнне захавалася ў паўднёвых славян, параўн. серб.-харв. *pûk* ‘народ’: *puk je dobar dok ćúti i sluša svoje gospodare* (Rečnik Bačkih Bunjevaca. Novi Sad, Subotica, 1990, 293). Гл. Брукнер, 448; Банькоўскі, 2, 965.

**Пуло́вер** ‘світэр’ (ТСБМ). Запазычана з англ. *pullover* (са спалучэння *pull over* ‘адзець праз галаву’, даслоўнае ‘нацягнуць праз’) праз рус. *пуло́вер* ‘тс’; для народнага *полуве́р* (*палуве́р*) мяркуецца ўплыў *полу-* ‘поў-, напоў-’, гл. Варбат, ИАН ОЛЯ, 1995, 4, 61.

**Пуло́нь** ‘непакрытая лесам прастора (на сухім месцы)’ (малар., Сіг.). Фанетычны варыянт зафіксаванага на Палессі *поло́нь, поло́ня* (гл. *палоня*), што працягваюць польск. *płonia* ‘лужок у лесе’, н.-луж. *płoń* ‘гала, раўніна’, укр. *поло́нь, полони́на* ‘адкрытая прастора, альпійскі луг’ і пад., адносна іх гл. Банькоўскі 2, 626; Ніканчук, Этимология—1984, 168; ЕСУМ, 4, 486 (да *по́ле*, гл.).

**Пуль-пуль-пуль** ‘падзыўныя словы для курэй, куранят’ (Сл. ПЗБ; мсцісл., З нар. сл.; Янк. 2, ТС), сюды ж памянш.-ласк. *пу́лькі-пу́лькі, пу́лічкі-пу́лічкі, пу́ліныкі-пу́ліныкі*, рус. *пуль-пуль-пуль* ‘тс’, укр. *пуль-пуль-пуль* ‘падзыўныя словы для куранят, гусянят, індыкоў’. Паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 170), утварана ад слова дзіцячай мовы, параўн. укр. *пу́ля* ‘качка’, *пу́ле* ‘гусяня’, якія маюць паралелі на Балканах, параўн. Кабылянскі, Мовознавство, 1981, 6, 41—52; бел. *пуляня́* ‘кураня’ (гл.). Параўн. *пыль-пыль-пыль* ‘тс’, *апу́ль* ‘адгоннае слова для птушак’ (адносна апошняга гл. Супрун, Stud. Ros. Posn., 1979, 10, 207—209).

**Пу́львар** ‘пушок для здабывання агню крэсівам, наскубаны з вопраткі’ (навагр., Жыв. сл.), *púlwer* ‘гаручы матэрыял для крэсіва, які вырабляецца з губы, што расце на бярозе (альбо з паленага палатна, якое ўжываецца замест губы — на Мазоўшы)’ (Тарн.). З ням. *Pulver*, што ўзыходзіць да лац. *pulvus* (Р. скл. *pulveris*) ‘пыл, прах’, верагодней за ўсё праз польскую мову, гл. Глінка, Бел.-польск. ізал., 29.

**Пульвына́** ‘мясцовасць на ўсход ад Камянца і Брэста ў бок Пінска, дзе мала лесу і балот, многа палёў’ (кам., ЖНС). З фанетычна зменены **полевина́* ад *поле* (гл.), параўн. назву людзей з гэтых мясцовасцей — *полюхи́* ‘палевікі’ (Клімчук, там жа). Аднак польск. *pólwy* (*pulwy*) ‘затопленыя нізіны’, гідронім *Пульва* (назва рэчкі, што ўпадае ў Буг), нямецкія (з Прусіі) і балтыйскія паралелі дазваляюць бачыць тут заходнебалтыйскі ўплыў, параўн. Непакупны (Связи, 142—144): суадносіць з прус. *Palwe* ‘пустка, зарослая нізкарослым хмызняком’, збліжэнне з *поле* лічыць другасным. Лаўчутэ (Балтизмы, 126) звязвае з літ. *palves* ‘марошка; ягада, якая расце ў забалочаных мясцінах’, *palios* ‘вялікія балоты’, лат. *paļi* ‘забалочаны бераг возера’, што малаверагодна. Бяднарчук (ABSl, 9, 51) адносіць балтыйскія формы да уграфінізмаў, параўн. карэл. *palvi* ‘населеная мясцовасць’, эст. *palu* ‘паляна, лес на пясчанай глебе; зарослая кустамі раўніна’.

**Пульвэ́рак** ‘безрукаўка’ (астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *pułowerek*, памянш. ад *pułower* (гл. *пуловер*), гл. Банькоўскі, 2, 965.

**Пульга́** ‘мяцеліца, завіруха’ (лід., Сцяшк. Сл.; Бяльк.; усх.-маг., ЛА, 2), *пу́льга́* ‘пурга, завіруха’ (Юрч.), рус. *пульга́* ‘тс’. Няясна, магчыма, самастойнае ўтварэнне ад дзеяслова тыпу *пульга́ць* ‘кідаць’ пад уплывам рус. *пурга́*. Гл. *пурга́* і наст. слова. Астроўскі (Studia Etym. Brun. 2, 157) бачыць тут ратацызм (замену плаўных *р* < *л*) тыпу *паралю́ш/ паляру́ш, тале́рка/ тарэ́лка* і пад.

***Пу́льгаць**, *пу́льгаты* ‘разліваць, распырскваць; хлябтаць, сёрбаць’ (драг., Сл. Брэс., Клім.). Гукапераймальнае, “звонкі” варыянт ад *пу́лькаць* ‘тс’.

**Пульга́ць** ‘кідаць’ (лаг., Жд. 3). Відаць, экспрэсіўны варыянт да *пуля́ць* ‘кідаць, страляць’ (гл.), параўн. *шві́рга́ць* ‘кідаць’ і рус. *швырять* ‘тс’.

**Пу́льжына** (*púlżyno*) ‘лапатка для ачысткі плуга’ (Тарн.). Няясна; відаць, да *плуг* з перастаноўкай і суфіксам *-ын-*.

**Пу́лька** 'партыя гульні ў карты' (ТСБМ). Запазычана з рус. *пу́лька* 'тс', што з франц. *poule* 'агульная сума ставак, складаючых банк у азартнай гульні', параўн. польск. *pula* 'тс'; першапачаткова франц. *poule* 'курыца', дакладней 'курыца на яйках', дзе кожнае яйка атаясамліваецца са стаўкай; параўн. Фасмер, 3, 405; Банькоўскі 2, 965.

**Пу́лькаць** 'хлябтаць; есці рэдкую справу, пускаючы пузыры' (гродз., Цых.). Гукапераймальнае.

**Пу́лькнуць** экспр. 'узлавацца' (шчуч., Сл. ПЗБ). Няясна, магчыма, да *пу́лькаць* 'есці, пускаючы пузыры' (гл.), параўн. *пузыры́ха* 'тоўстая, сварлівая кабета' і *пузыры́цца* 'закіпаць, падымацца пузырамі' (гл.).

**Пульну́ць** 'кінуць, шпурнуць, шпурлянуць' (ТСБМ; Сцяц.; Жд. 2; віл., Сл. ПЗБ), *пульну́ты* экспр. 'кінуць' (камян., Жыв. НС). Гл. *пуляць*.

**Пульс** (ТСБМ), ст.-бел. *пулсъ*, *пулсо*, *фулсо* 'пульс, сэрцабіццё'. Запазычана з польск. *puls*, што паходзіць з с.-лац. *pulsus* ад *pellere* 'стукнуць, піхнуць' (Булыка, Лекс. запазыч., 129; Фасмер, 3, 405), старабеларускія *фоулъсо*, *хоулсо* разглядаюцца як вынік памылковай рэканструкцыі грэцызаванай формы слова.

**Пульсэ́тка** 'цёплы рукаўчык, манжэта, нацэўнік, напульснік' (ТСБМ; Сл. рэг. лекс.; ашм., Стан.), 'своеасаблівы ўзор вязання, якое моцна расцягваецца; гэтым узорам пачынаюць вязаць шкарпэткі, рукавіцы' (маладз., Янк. Мат.; Жд. 1), *pulzétki* 'трыкатажны выраб з цёплых нітак, што надзяваюць на цэўкі рук' (Варл.). Запазычана з польск. *pulsetka* 'тс', ад *puls* 'пульс; цэўка рукі, дзе адчуваецца пульс'.

**Пульсава́ць** 'абіваць збожжавыя' (гродз., Сл. ПЗБ). Крыніцай запазычання лічыцца літ. *paisýti* 'тс' (там жа), гл. *пойсаваць*.

**Пульсно́** 'плюсна': *пульсно баліць* (паст., Сл. ПЗБ). Утворана метатэзай з дыял. *плюсно́*, гл. *плюсна*.

**Пульт** (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову з ням. *Pult* 'падстаўка пад кнігу або ноты; бюро', што з лац. *pulpitum* 'падстаўка; кафедра', параўн. польск. *pulpit* 'у касцёле падстаўка пад імшал', паходжанне якога застаецца нявысветленым (Сной, 514).

**Пу́льхлы** 'мяккі, пушысты' (Нас., Бяльк.), часцей *пу́льхны* 'пухкі, рыхлы' (ТСБМ, Гарэц., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *pulchny* 'тс' < *puchlny*, першапачаткова пра хлеб, цеста ад *puchły* 'пышны, надуты' (Банькоўскі, 2, 963, 965), гл. *пухнуць*.

**Пулю́к** ‘птушачка’ (вілен., ABSl, 22, 127). Грынавяцкене (там жа) лічыць запазычаннем з літ. *puliùkas* ‘тс’, перш за ўсё паводле словаўтваральнага крытэрыя, параўн. *цялюк* ‘цяля’ і пад., параўн. таксама *пуляня́* ‘тс’ (гл.), укр. *пуля́к* ‘індык’.

**Пу́ля** ‘куля’ (віл., Сл. ПЗБ). Запазычана з рус. *пу́ля* ‘тс’, што, хутчэй за ўсё, з польск. *kula* (праз ст.-бел. *куля*?) ‘шар’, гл. Фасмер, 3, 405; Золтан, Stud. Russica, 2, 20—30.

**Пуляня́** ‘кураня’ (ТС), *пуленя́* ‘тс’ (Мат. Гом.), *пулянё, пулянёнак* ‘тс’ (ТС), *пуляня́тка* ‘тс’ (Янк. 2) сюды ж *пуляня́тніца* ‘квактуха’ (лоеў., Мат. Гом.). Утворана на базе слоў дзіцячай мовы, параўн. рус. *пу́ля* ‘кураня’, укр. *пу́ля* ‘качка’, *пу́ле* ‘гусяня’, балг. *пу́лка* ‘маладая курыца, якая яшчэ не зносіць яйкі’, серб.-харв. *пуљка* ‘тс’, грэч. *πουλι* ‘птушка’, франц. *poule* ‘курыца’ і пад., зыходная аснова якіх застаецца няяснай. Паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 117), ад першаснай інтэр’екцыі *пуль!* Гл. *пуль-пуль-пуль*.

**Пуля́ты** ‘зіркаты’: *пуляты маліц* (ушац., докш., барыс., ЛА, 3), ‘з вялікімі вытарашчанымі вачыма’ (докш., Янк. Мат.; Варл.), ‘вірлавокі’ (докш., барыс., Сл. ПЗБ), *пулька́ты* ‘тс’ (барыс., ЛА, 3), параўн. у Барадуліна: *пуляты кілім*, г. зн. ‘яркі, выразны, які кідаецца ў вочы’. Ад *пу́ліць* ‘тужыцца’, *пуля́цца* ‘напружвацца з усіх сіл’ (гл.), у тым ліку ‘з напругай углядацца’.

***Пу́ляцца**, *пу́лятысь* ‘напружвацца з усіх сіл’ (кобр., Сіг.; Нар. лекс.). Шматкратны дзеяслоў ад *пу́ліць* (*пу́лыты*) ‘тужыцца’ (гл.).

**Пуля́ць₁** ‘шпурляць, кідаць, страляць’ (ТСБМ; карэл.; Жыв. НС; Сцяц.), *пуля́цца* ‘тс’ (Касп.), рус. *пуля́ть* ‘кідаць; сварыцца’, *пуля́ться* ‘тс’. Няясна, магчыма, да *пу́ля* ‘куля’, параўн. Фасмер, 3, 405; аднак гл. Шустар-Шэўц, 2, 1190, які ўслед за Супруном (адносна рус. *пульну́ть* ‘кінуць’ гл. Веснік БДУ, 1974, 2, 20—25) уключае названыя словы разам з в.-луж., н.-луж. *pulać* ‘праганяць, адпіхваць’, польск. *pulać* ‘цяжка несці’, славен. *púliti* ‘шчыпаць; біць’ і пад. у агульнае гняздо слоў, што ўзыходзяць да прасл. **puliti*, у аснове якога і.-е. *pou-* ‘выстаўляцца, выпучвацца’; гл. таксама Сной, 514, які збліжае славен. *puliti* з літ. *piáuti* ‘рэзаць, жаць, калоць’, лац. *pavīre* ‘таўчы, таптаць’ і інш., што ўзыходзяць да і.-е. *peu̯-* ‘таўчы’. Параўн. *пуліць* (гл.).

**Пуля́ць₂** аргат. ‘купляць’ (Рам.). Узводзяць да грэч. *πουλω* ‘прадаваць’ (гл. Лукашанец, Сацыялекты, 73), параўн. польск. ар-

гат. *pulać* 'тс'. Змена семантыкі пад уплывам прыстаўкі *пра-(про-)*, параўн. укр. *пропу́льовати=про-давати* (Горбач, Арго, 27).

**Пума́к** 'намоклае бервяно ў рэчцы; бервяно, якім прыціскалі намочаны лён, каб не ўсплываў' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Ад *пама́к* 'тс', што да *мокнуць*, *мачыць*; да фанетыкі параўн. дыял. *пумідо́р* і пад.

**Пу́мза** 'невялікая рыбка, якая вясной заходзіць на балота, а калі яно высыхае, то здыхае': *пумза кароценькая і пузаценькая* (астрав., Мятліцкая, вусн. паведамл.). Няясна, відаць, ад гукапераймання *пум!,* што перадае раптоўнае лопанне, літ. *pùmt!* 'тс'; да словаўтварэння параўн. *рэ́ўза* (ад *раўці́*). Параўн. таксама літ. *pum̃ti, pam̃ti* 'надувацца, набухаць', якія, улічваючы геаграфію, маглі б ляжаць у аснове назвы.

**Пу́мні** 'месца, дзе пальцы сутыкаюцца з пясцю, калі рука сціскаецца ў кулак' (пін., Сл. Брэс.). Магчыма, утворана ад *мяць*, *мну* (**по-мні/ *па-мні*?).

**Пу́мпара** экспр. 'буркун', *пу́мпарыць* 'бурчаць' (паст., Сл. ПЗБ). Грынавяцкене (там жа) выводзіць з літ. *pampãrius* 'бурклівы', хутчэй за ўсё, гукапераймальнага паходжання.

**Пумпару́шка-рабу́шка** 'божая кароўка' (З жыцця), *пумпару́шка-рыбу́шка* 'тс' (воран., ЛА, 1), параўн. *мура́шка-пумпа́шка* 'тс' (там жа), *про́шка-рябо́шка* 'тс' (віц., ЛА, 1). Спалучэнне рыфмаваных слоў, нярэдкае для назваў божай кароўкі, параўн. *пе́трык-ве́дрык, пе́тарка-фе́дарка* і пад.; адна з частак, несумненна, ад *рабы* 'стракаты, плямісты'; другая ўзыходзіць да асновы *пумп-*, прысутнай у назвах невялікіх круглых прадметаў і істот, паралельнай да *пуп-* з экспрэсіўнай назалізацыяй, параўн., напрыклад, *пу́пел* 'карапуз' (гл.) і балг. *пу́мпал* 'тоўстая кароткая калодачка' (лічыцца гукапераймальным, гл. БЕР, 5, 852; хутчэй "формавыяўляльным"). Аднак геаграфія назваў з назалізацыяй схіляе бачыць у аснове літ. *pum̃pas* 'маленькі гуз', *pamparùtė* 'кругленькі, пузаты', *pum̃puras* 'пупышка' (параўн. Астрэйка, БЛ, 46, 59), што не выключае і іншых версій: параўн., напрыклад, в.-луж. *pumpač* 'тоўсты жывот', *pumpak* 'пукаты гаршчок', 'тлусты жывот', *pumpaty* 'пузаты, тоўсты, разбухшы', што, паводле Шустар-Шэўца (2, 1190), выводзяцца з гукавыяўляльнага ("Lautgebärde") комплекса *pumр-*, паралельнага да в.-луж. *pup* 'пуп, выпукласць, гуз'; гэта сведчыць пра міжмоўны паралелізм у раз-

віцці некаторых “формавыяўляльных” асноў, падобна да гукаперараймальных слоў, параўн. *пу́мпара* ‘буркун’ (гл.). Неналізаваны варыянт укр. *папару́шка, папару́за* ‘божая кароўка’ Тапароў (Мифы, 1, 181—182) звязвае з балг. *пеперу́да* ‘персанаж з балканскага абраду выклікання дажджу’.

**Пумпа́шачка** ‘пузанчык, пышка’: *мура́шачка пумпа́шачка* (воран., LKK 16, 187). Грынавяцкене і інш. (там жа) параўноўваюць з літ. *pamparùtė* ‘кругленькі, маленькі і пузаты (пра чалавека або прадмет)’, *pamputỹs* ‘прышч; пончык’, *pámpa, pámpė* ‘пухліна, нарост’, *pam̃pti* ‘набухаць, разбухаць’, пры гэтым літаратурнаму *-am-*, на іх думку, павінна адпавядаць дыял. *-um-*. Аднак не выключаецца сувязь і з *пампу́ха, пампу́шка* ‘булачка’, якія Фасмер (3, 194) лічыць запазычаннямі з нямецкай (адносна магчымай нямецкай крыніцы “гукавыяўляльнага” комплекса *pump-* гл. Шустар-Шэўц, 2, 1191); Лаўчутэ (Балтизмы, 147) лічыць балтыйскае паходжанне слова недастаткова аргументаваным. Сюды ж *мура́шка-пумпа́шка* ‘божая кароўка’ (воран., ЛА, 1).

**Пумперлік** ‘мамотка’ (Шымк. Собр.). Няясна. Магчыма, з ням. *Pumpernickel* ‘пернік; таўстушка’, менш верагодна — ідэнтычнае з укр. *пімперля́* ‘недаростак, малалетка’, запазычанага з заходнеславянскіх моў, параўн. польск. *pimperlaj* ‘карлік, карапуз, малеча’, чэш. *pimprle* ‘лялька, марыянетка’, славац. *pimprlik* ‘тс’, што з ням. *Pimpler* ‘песта’, *pimpelig, pimperlich* ‘распешчаны’ (ЕСУМ, 4, 406).

**Пумпу́ль** ‘камячок засохлага гною на поўсці жывёліны’ (ігн., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), ад літ. *pum̃pas* ‘маленькі гуз’. Параўн. таксама паралельныя ўтварэнні: польск. *pąpyl, pępel* ‘пухір на скуры’ (паводле Банькоўскага, 2, 521, 539, ад **pǫpъ*, гл. *пуп*), балг. *пу́мпал* ‘кароценькая тоўстая калодачка; карапуз’ (паводле БЕР, 5, 852 — гукаперараймальнае), в.-луж. *pumpl* ‘жывот’ (у дзіцячай мове), славац. *pumpel, pumplik* ‘дзіця з вялікім жыватом’ (гукаперараймальныя, гл. Шустар-Шэўц, 2, 1191), дзе выступае “гукавыяўляльны” комплекс *pump-/pup-*. Параўн. *пупел* (гл.).

**Пумпу́ра** ‘паўпрыца (дэталь у жорнах)’ (воран., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), з літ. *pumpùrė* ‘тс’, хутчэй за ўсё гукаперараймальнага паходжання, параўн. таксама ням. *pumpern*

‘стукаць, грукатаць’, што, магчыма, было асновай для назвы тэхнічнай дэталі паводле характэрнай (“шумавой”) прыметы.

**Пумпуры́на** ‘лотаць, Caltha palustris L.’ (астрав., ЛА, 1), *пумпу́рына* ‘тс’ (брасл., даўг., астрав., Сл. ПЗБ); вядомая таксама ў т. зв. пальшчызне крэсовай: *pumpuryna/rempuryna* (Грэк-Пабісова, Марынякова, Współcz., 114, 129). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ), з літ. *pumpurýnas* ‘лотаць’.

**Пумпы́ська** фалькл. ‘цыцка’, эўфем. ‘палавы орган’: *вазьму я быську, ды за пумпыську: а дай, быську, малака!* (ушац., Полымя, 2000, 11, 140), рус. смал. *пупы́ська* ‘тс’. Утварэнне з экспрэсіўнай асновай *пумп-*, суадноснай з *пуп-*, для называння круглых кароткіх прадметаў, параўн. *пупы́шка* ‘мякіш, кончык пальца’ (гл. *пупышы*).

**Пу́начка** ‘від птушкі’ (ТСБМ), укр. *пу́ночка* ‘сасноўка’. Запазычана з рус. *пу́нка, пу́ночка* ‘птушка Plectrophanes nivalis’, паходзіць з карэл. *рuпańе* ‘тс’ (Фасмер, 3, 406; Птицы, 1, 50).

**Пунда́к** ‘прач, пранік’ (дзевянішск., ABSl, 22, 126). Паводле Грынавяцкене (там жа), з літ. *pundõkas* ‘тс’.

**Пундач** ‘рыба Cottus gobio Linné’ (басейн Нёмана; Жук., 397; Жукаў, 156); сюды ж *пу́нда* ‘невялікая тоўстая рыбка’ (шальч., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), з літ. *puñdzis* ‘джгір’, у аснове значэнне ‘тоўсты, пузаты’, параўн. літ. дыял. *pundzylà* ‘таўстун, пузан’.

**Пу́ндзель** ‘звязка льну’ (ТС), *пу́ндэль* ‘тс’ (ТС), *пундэ́ль* ‘старая мера ільну, роўная 12 кг (30 фунтам)’ (ашм., Сл. ПЗБ), *пундэ́лік, пундэ́ляк* ‘тс’ (шальч., уздз., глыб., Сл. ПЗБ), *пундэ́лік, бунтэ́ляк, бунтэ́лік* ‘звязка лёну з закручанымі пасля часання канцамі’ (мін.-маладз., Шчарб.), ст.-бел. *пундель* ‘мера вагі (каля 25 фунтаў)’. Лічыцца, што слова запазычана з літ. *pundẽlis* ‘старая мера ільну’ (Скурат, Меры, 115; Булыка, Лекс. запазыч., 156), што ў сваю чаргу магло быць запазычана з ням. дыял. *pundel* ‘тс’ (Сл. ПЗБ); у апошнім выпадку, а таксама па лінгвагеаграфічных прычынах літоўскае пасрэдніцтва не з’яўляецца абавязковым, параўн. суч. літ. *pùndas* ‘звязка, скрутак, клунак, цюк, пук’. На некаторыя формы паўплывала запазычанне *бунт* ‘звязка, пук’ (гл.). Гл. таксама *пунтэ́ль* ‘звязка счэсанага і сплеценага льну’.

**Пу́нка** ‘пятка яйца’ (воран., ЛА, 1), ‘тупы канец яйца’ (Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), запазычана з літ. *pūnė̃* ‘тс’.

**Пункт** ‘кропка’ (ТСБМ, Гарэц.), ‘страфа, куплет песні’ (валож., Жыв. сл.) ‘частка ў музычным творы, калена’ (ПСл), ст.-бел. *пунктъ* ‘кропка’. Запазычана праз польск. *punkt* (з 1566, гл. Банькоўскі, 2, 965) з ням. *punkt* < лац. *pūnctus* ‘укол’ ад *pungere* ‘калоць’; значэнне ‘частка’ развілося на падставе нумарацыі асобных строфаў, куплетаў і г. д. лічбай з кропкай.

**Пу́нктамі** ‘перыядычна, час ад часу’ (віл., Нар. словатв.). Гл. *пунтамі*.

**Пунктóвік** ‘маларослы чалавек’ (навагр., Сл. рэг. лекс.). Відаць, іранічна да *пункт* ‘кропка’ (= ‘нешта малое, малазаўважальнае’).

**Пункці́р** ‘перарывістая прамая лінія’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *пункти́р* ‘тс’, што з ням. *punktieren* < лац. *punctāre* ‘пракалоць, накалоць’ (вытворнае ад лац. *punctum* ‘укол’), гл. *пункт*.

**Пунпуці́** ‘сукараткі’: *спрала ў пунпуці́* (глыб., Сл. ПЗБ), *пунпуці́, пу́нпачкі* ‘адходы пры прадзенні кудзелі’ (рас., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Грынавяцкене (там жа) параўноўвае з літ. *pamputỹs* ‘вузел’.

**Пунсóвы** ‘ярка-чырвоны’ (ТСБМ), рус. *пунцóвый* ‘тс’. Праз польск. *ponsowy, pąsowy* ‘тс’ ад франц. *ponceau* ‘палявы мак, колер яго кветак’, ст.-франц. *poncel* ‘тс’ (няяснага паходжання, магчыма, ад *ponceau, poncel* ‘масток’, гл. Банькоўскі, 2, 521).

**Пунт** ‘пункт’ (Ян.), ‘куплет (песні, верша)’ (Сл. рэг. лекс.), ‘медпункт’ (нараўл., Мат. Гом.). Адаптаванае *пункт* (гл.).

**Пу́нтамі** ‘часам, перыядамі’: *пунтамі прыстае хвароба* (Цых.), ‘час ад часу, прыступамі’ (іўеў., Сл. ПЗБ) ‘з перапынкамі’ (валож., ЛА, 2; Сцяц., Жд. 3), параўн. літ. *pùnktais* ‘тс’. Да *пунт* (гл.).

**Пунтóвы** ‘акуратны, пунктуальны’ (Цых.), ‘прынцыповы, упарты’ (Адамчык, ЛіМ, 1970, 11 снеж.), сюды ж *пунтóвік* ‘дурнаваты чалавек’ (шчуч., З нар. сл.). Да *пунт, пункт* (гл.), параўн. польск. *punkt* ‘дакладна, пунктуальна’, што з ням. *Punkt* (у адносінні да часу, першапачаткова *punkt w punkt*, гл. Банькоўскі, 2, 965); значэнне ‘ўпарты’ адлюстроўвае далейшае развіццё значэння ‘павышаная пунктуальнасць’, што можа трактавацца і як ‘дурасць’. Відаць, незалежна развілося значэнне ‘ўпартасць, супраціў’ у славен. *punt*, якое Сной (515) выводзіць з с.-в.-ням. *punt/bunt*, ням. *Bund* ‘звязка; суполка’, пазней ‘змова, бунт’, гл. *бунт*, параўн. таксама Бязлай, 3, 137.

**Пунтэ́ль**, памянш. *пунтэ́лік* 'звязка счэсанага і сплеценага льну' (віл., Шатал.), ст.-бел. *пунталъ* 'звязка'. Запазычана з ням. бавар. *punkl* 'звязка, вузел', ням. *Bündel* 'тс', што ўзыходзіць да *Bund* 'сувязь' (< ням. *binden* 'вязаць'). Гл. *пу́ндзель*.

**Пунцы́р** 'пузыр, пухір' (Бяльк.), рус. смал. *пунцы́рь* 'тс'. Няясна, магчыма, у выніку кантамінацыі *пузыр* 'пухір' і *пунцовы* 'ярка-чырвоны', гл. *пунсовы*.

**Пу́нця** 'бесхарактарны, заняпалы чалавек' (Цых.). Няясна, параўн., аднак, фармальна і семантычна блізкія балг. *пу́нчо* 'ненармальны, дурны чалавек' (няяснага паходжання, гл. БЕР, 5, 854), в.-луж. *punca, puca*, н.-луж. *punca* 'weibliche Scham' (з ням. *Bunze, puncen* 'тс', гл. Шустар-Шэўц, 2, 1186), славен. *pûnca* 'лялька, дзяўчына, каханка' (з італ. *pulcella* 'дзяўчына, дзеўка' < лац. *pullus* 'юнак', гл. Бязлай, 3, 136) і пад., у аснове якіх, магчыма, экспрэсіўныя словы дзіцячай мовы, параўн. рус. дыял. *пу́ня* 'плаксівы чалавек, недарэка; ахламон'.

**Пунш** (ТСБМ). Запазычана з рус. *пунш* 'від пітва', што праз пасрэдніцтва ням. *Punsch* з англ. *punch*, утворанага ад хіндзі *pānč* 'пяць', што адлюстроўвае пяць складнікаў кактэйлю (арака, цукар, сок лімона, прыправы і вада), гл. Фасмер, 3, 407. Хіндзі *pānč* < ст.-інд. *páñca* 'пяць', роднаснае прасл. **pętь*, гл. *пяць*.

**Пу́ня** 'хлеў; памяшканне для сена, снапоў, мякіны і пад.' (Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ), 'гумно' (Варл.; маг., Янк. Мат.; Янк. 2; Яруш.), 'адрына' (Шат.; Мядзв.; Шпіл.; Гарэц.; Маш.; светлаг., добр., ветк., Мат. Гом.), 'хлеў' (карм., мазыр., ветк., чач., Мат. Гом.; Шымк. Собр.), 'маленькая хатка' (ТС), *пу́нька* 'хлеў, адрына' (Ян., Растарг.), ст.-бел. *пу́ня* 'стойла, адрына' (невядомае ў старажытнарускай мове, параўн. Марчанка, Межрэсп. конф., 19), рус. дыял. *пу́ня* 'гумно, адрына, хлеў'. Этымалогія беларускага слова яшчэ ў Шымкевіча (Собр., 167: "пуня, сарай для рогатого скота > сам[огитское] pune"); у якасці крыніцы запазычання прыводзяць літ. *pūnià, pūnė* 'хлеў, гумно, мякінніца' (Грынавяцкене, LKK, 16, 187), лат. *pūne* 'адрына', якія збліжаюць са ст.-інд. *punā́ti* 'правейвае', *pávatē* 'ачышчае', *pávanas* 'вецер', ст.-в.-ням. *fowen*, с.-в.-ням. *vœwen* 'прасейваць', гл. Карскі 1, 135; Праабражэнскі, 2, 153; Фасмер, 3, 407.

**Пуп₁** 'след ад пупавіны на целе' (ТСБМ, Варл., ТС), 'пупавіна' (Сл. ПЗБ, ТС, Шат.), 'страўнік у птушак' (ЛА, 1; Сл. ПЗБ),

‘ікра або малокі ў рыбы’ (віц., Нар. лекс.; бяроз., Жыв. НС; полац., З нар. сл.), сюды ж *пупóк* ‘тс’ (Янк. 2), *пускáти пýпа* ‘пускаць ікру, малокі, нераставаць’ (Крыв.), *пупарэ́зніца, пупарэ́зіца* ‘павітуха’ (Нас., Бяльк., Варл., Нік. Очерки), *пýпна бáба, пупы́ха, пупорéзна баба, пупорэ́зка* ‘тс’ (палес., Зб. памяці Талстога, 2, 103); укр. *пуп* ‘пуп’, *пупóк* ‘пуп, пупавіна; страўнік у птушак’, *пупéць* ‘тс’, рус. *пуп, пупóк* ‘тс’, польск. *pęp, pępek*, в.-луж., н.-луж. *pup, pupk*, чэш. *pupek*, славац. *pupok*, серб.-харв. *пŷп, пу̏пак*, балг. *път, пъпóк*, макед. *папок*, дыял. *пътр* (у розных значэннях). Прасл. **pǫpъ* ‘пупышка, прышч; пуп’, роднаснае літ. *pam̃ti* ‘разбухаць’, лат. *pàmpt* ‘набухаць, надувацца’, што разглядаецца як працяг і.-е. **pou-*, пашыранага элементам *-m-* (Фасмер, 3, 407; Шустар-Шэўц, 2, 1192; БЕР, 5, 854; Глухак, 512; Банькоўскі, 2, 538).

**Пуп₂** ‘прылада, пры дапамозе якой робяць ганчарную пасуду’ (Жд. 2). Да *пуп₁* (з-за знешняга падабенства).

**Пуп₃** ‘ручка касы’ (ДАБМ, камент., 831). Гл. *пупок* ‘тс’.

**Пýпа** ‘вада’ (у размове з дзецьмі) (ТС). Адносіцца да т. зв. імітатыўных слоў, пра што сведчыць славен. *púpati* ‘піць’, паводле Сноя (515), “дзіцячая рэдуплікацыя”, пры якой вусны складваюцца так, як быццам бы рыхтуюцца нешта выпіць.

**Пýпалка** ‘маленькі агурок, ад якога адпала кветка’ (Ян.). Да *пýпел* (гл.); чэш. *pupalka* ‘асліннік, Oenothera biennis’, харв. *pupaljka* ‘тс’, балг. *пýпалка* ‘тс’ даюць падставы для рэканструкцыі прасл. **pǫpъlka*, вытворнага ад **pǫpъ* (БЕР, 5, 855; Махэк₂, 500), параўн. *пупóк* ‘маленькі агурок’, рус. *опýпышек* ‘агурочная завязь’, балг. *пупавéем* ‘астаюся малы, не расту’, серб.-харв. *pȕpoljak* ‘пупышка на сцябліне, з якой мае развіцца кветка, адростак’.

**Пýпаўка** ‘расліна Anthemis tintoria L.’ (Кіс.), рус. *пупáвка* ‘тс’ (у тым ліку ‘дзьмухавец’), укр. *пупова* ‘расліна Taraxacum officinalis’, *пупавка* ‘рамонак і інш. расліны’, польск. *pępawa* ‘тс’, чэш. *pupava* ‘расліна Carlina acaulis’ (з XV ст.) і інш., славац. *púpava* ‘тс’, серб.-харв. *пупава* ‘від расліны’, балг. *пупавка* ‘расліна Anthemis і інш.’, славен. *pumpava, po(m)pava* ‘расліна Carlina acaulis’. Прасл. **pǫpava*, ад **pǫpъ* (гл. *пуп*), параўн. БЕР, 5, 855 (магчыма, русізм); Голуб — Копечны, 306; Бязлай, 3, 87 (слова з няяснай этымалогіяй); Махэк₂, 500 (зближае з грэч. ’απο-παποῦται ‘вытварае пух’). Згодна з ЕСУМ (4, 635), з-за выпуклай формы кветак, што нагадвае пуп.

**Пу́пач** 'грыб пеўнік стракаты' (ТС), сюды ж *пу́пачка* 'ўсялякае ўздуцце, бародаўка, пупышка' (Шат.). Да *пуп* (гл.), параўн. рус. дыял. *пу́пка* 'невялікі белы бугорчык, пупырышак на мухаморы', польск. *pępek* 'від грыба', балг. *пупа́вица* 'порхаўка, Lycoperdon bovista' і да т. п., усе з-за знешняга падабенства (пукатасць, лускаватая ці бугрыстая паверхня), параўн. БЕР, 5, 855; Махэк$_2$, 500.

**Пу́пел**, *пу́пёл* 'патаўшчэнне ніткі пры прадзенні, сукаратка' (талач., Шатал.; чэрв., Сл. ПЗБ), *пуплы́* 'адходы пры прадзенні' (круп., Нар. сл.; в.-дзв., Шатал.), *пу́пёл* 'галоўка, кветка (расліны)' (б.-каш., Мат. Гом.), 'ножка плада' (Варл.), 'маленькі агурок, у якога адпала кветка' (Жд. 2), *пу́пель* 'маленькі трактар', *пу́плы* 'малеча, дзецярня' (Касп.), сюды ж *пу́плік* 'нешта малое, падобнае да шарыка', перан. 'пра недарослую дробную бульбу' (Янк. 1), 'гузік у кажусе; пупок, выступ, пампон; раменьчык на накрыўцы, каб адчыняць яе' (ТС; палес., З нар. сл.; жытк., рагач., Мат. Гом.), 'пупышка; галоўка, кветка, бутон; завязь агуркоў' (хойн., карм., ветк., рагач., чач., Мат. Гом.), *пупёлачкі, пупёлашкі* 'маленькія, недаразвітыя плады, завязь' (дзісн., Шн. 3; Юрч. Фраз. 1), параўн. рус. смал. *пу́пел* 'чалавек невялікага росту; маленькі грыб', польск. *pępel, pąpel, pąpyl* 'пухір', балг. *пу́пял, пу́плек* 'дзікі мак', *пу́пляк* 'цурачка; малы чалавек', *пу́пля* 'малое пузатае дзіця', серб.-харв. дыял. *пупу̑љка, пупољак* 'выступ на прадметах; гузічак або раменьчык, за які трымаюцца', макед. *пупулец* 'пупышка, бутон'. Усё да прасл. **pǫpъ* (гл. *пуп*); магчыма рэканструкцыя прасл. **pǫpьl*, аднак, можна дапусціць самастойнае словаўтварэнне і семантычнае развіццё для розных славянскіх моў, што, насуперак Фасмеру, 408 (< літ. *pamplỹs* 'малаpослы, карапуз'), Лаўчутэ, Балтизмы, 56, 126 (< літ. *puplỹs* 'надуты, з вялікім жыватом', *pupùlis* 'маленькае дзіця', 'патоўшчанае месца ў нітцы пры прадзенні'), не дае падстаў гаварыць пра запазычанне. Пра жывыя словаўтваральныя працэсы сведчыць *пуп* або *пупёл* "дрэвападобныя пруточкі, якімі садавіна прымацавана да галінкі": dzieci abirali višni z pupami (Варл.), а таксама літ. *pùpos* 'боб', мн. л. *pupẽlės* 'фасоля', зафіксаваныя яшчэ ў "Пастыллі" Даўкшы.

**Пу́пе́ц** 'пуп у птушак; гузік; бутон; нарост; кутас' (ТС), *пупэ́ц* 'пуп у птушак, страўнік' (ЛА, 1), 'пупок' (бяроз., Шатал.),

укр. *пупе́ць* ‘пупок, пупавіна; страўнік у птушак’, ст.-польск. *pępiec* ‘пупок’ (XV ст., глоса да лац. *umbilicus*), што дае падставы для рэканструкцыі дыялектнага прасл. **pǫpьcъ* <**pǫpъ* (Банькоўскі, 2, 539).

**Пу́пінак** ‘малы круглы чалавечак’ (слонім., Нар. словатв.), *пупяно́к* ‘сасок грудзей’ (карэл., пін., Шатал.), *пу́пэнок* ‘бутон; страўнік у птушак’ (Сл. Брэс.); сюды ж укр. *пу́пінок* ‘бутон; маленькі агурок’, рус. *пупёночки* ‘саскі грудзей’, *пу́пень* ‘драўляная затычка ў лодцы’. Да *пуп* (гл.), параўн. паралельныя ўтварэнні балг. *пупу́няк* ‘вельмі малы чалавек; маленькае колца’ (БЕР, 5, 857, ад *пуп*), макед. *пупунок* ‘пупышка, бутон; каробачка (бавоўны і інш.)’.

**Пупі́ца** ‘прывязка, якою прымацоўваецца біч да цапільна’ (ДАБМ, камент., 829). Відаць, ад *ка́піца* ‘тс’ (гл.) пад уплывам *пуп* ‘пупавіна’ або *пупо́к* ‘ручка ў касе’.

**Пуплене́тка** ‘суконная хустка’ (Бяльк.). Няясна, магчыма, ад *ку́пленая* (хустка) ці хустка з *пупла́мі*, гл. *пупел* ‘пампон, фрэнзель’.

**Пу́пнік** ‘купена, Polygonatum officinalis All.’ (маг., Кіс.), рус. *пу́пник* ‘тс’; іншая назва *грыжнік* (там жа) сведчыць пра сувязь з *пуп* ‘жывот, хвароба жывата’, параўн. рус. *пупо́вник, пу́пная трава́* ‘лекавыя зёлкі’ (“пуповна трава нужна для брюха”, СРНГ), польск. *pępownik* (з 1472, пра розныя расліны, да *pęp*, гл. Банькоўскі, 2, 539).

**Пу́пніць** ‘марудзіць, корпацца’, *пу́пніцца* ‘тс’, *пу́пня, пу́пна* ‘маруда’, фраз. *пу́пня пу́пніць* ‘доўга рабіць нешта’ (ТС). Гл. *пыпніць*.

**Пупны́** ‘адросткі пер’яў’ (смарг., Сл. ПЗБ; глыб., ЛА, 1). У аснове слова **пупень*, параўн. рус. *пу́пень* ‘драўляная затычка ў лодцы’, паводле Фасмера (3, 408), ад *пуп*, відаць, пад уплывам *асны́, аксны́* ‘тс’ (гл.); збліжэнне з *пень* у *пянькі* ‘тс’. Гл. *пупінак*.

**Пупо́к₁** ‘пупок; страўнік у птушкі’ (ЛА, 1), польск. *pępek* ‘страўнік курыцы або гусі, ці наогул птушыны’. Памянш. ад *пуп* (**pǫpъkъ*), параўн. іншыя назвы птушынага страўніка: *пуп, пу́пэц, пупо́віна* (гл. Жыв. св., 127).

**Пупо́к₂** ‘маленькі агурок, ад якога адпала кветка’ (Жд. 2). Гл. *пупалка*.

**Пупо́к₃** ‘малако ў рыбы’ (Янк. 3), рус. пск. *пупо́к* ‘ікра, часам рыбныя малокі’. Да *пуп* (гл.), параўн. *пуп* ‘мяшочак з ікрой у рыбы’ (полац., Нар. словатв.), ‘малако ў самцоў рыбы’ (бяроз., Жыв. НС).

**Пупо́к₄** ‘ручка ў касе’ (мін., чэрв., в.-дзв., Шатал.; круп., Нар. сл.; дзярж., З нар. сл.; Жд. 3; Шат.; Бяльк.; карм., Мат. Гом.; Варл.), укр. *пупе́ць* ‘тс’, рус. бранск., смал. *пупо́к* ‘тс’. Ад *пуп* ‘выступ’ з актуалізацыяй значэння ‘дзяржанне, ручка’, гл. *пуп₃*, параўн. рус. дыял. *пуп* ‘ручка ў дзвярах’ і ‘ручка ў касе’; відаць, другасна збліжанае з *пуп* (на целе), параўн.: *pupok u kasie musia być na vyšyni kascovaha pupa* (Варл.) і *лу́чак мераюць да клуба* (Цых.).

**Пупо́нчык** ‘агурочак’ (б.-каш., калінк., хойн., Мат. Гом.), *пупо́ньчык* ‘завязь у агурках’ (брагін., Нар. словатв.). Ад *пуп* ‘патаўшчэнне’, магчыма, працяг дыялектнага прасл. **pǫp-ъnь*, параўн. макед. *пупунок* ‘каробачка (бавоўны); пупышка, бутон’, рус. *пупо́нчик* ‘пампон у дзіцячай шапачцы; пышка’ (другаснае?), параўн. *пампон, пончык* (гл.).

**Пупро́** ‘пуп, страўнік у птушак’ (баран., ЛА, 1; лях., барыс., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *пуп*, да словаўтварэння параўн. гродз. *купро́* ‘грыўка (у каня)’ і іншыя назвы птушынага страўніка ад *пуп-* (*пупок, пупо́віна, пу́пэц* і пад.).

**Пу́прык** ‘малое дзіця’ (Цых.), ‘празмерна малы ростам’ (драг., З нар. сл.). Гл. *по́ўпрык* ‘тс’, магчыма, збліжанае да *пуп, пупыр* (гл.); да фанетыкі параўн. *пухір/паўхір, пупрыца/паўпрыца* і пад. Сюды ж, магчыма, укр. *пу́рик* ‘нізкі ростам, тоўсты чалавек’, паводле ЕСУМ (4, 636), няяснае па паходжанні.

**Пупры́ца** ‘дэталь у жорнах у выглядзе металічнай планкі, насаджанай на шпянёк, на якой трымаецца верхні камень’ (Скарбы; свісл., Шатал.), *пупры́ця* ‘тс’ (драг., Жыв. сл.), *пярплíца* ‘тс’ (рас., Шатал.). Гл. *папрыца, парпліца*; паводле Банькоўскага (2, 497), польск. *paprzyca* ‘тс’ гукапераймальнага паходжання (узыходзіць да **pur-pur-*); малаверагоднае па лінгвагеаграфічных прычынах запазычанне з літ. *pumpurìkė, pumpurýtė,* памянш. ад *pumpùrė, pumpurė* ‘жалезная планка на верхнім камяні жорнаў, куды ўстаўляецца млён; вось, на якой трымаецца верхні камень’ (насуперак Лаўчутэ, Балтизмы, 49). Калі прыняць у якасці зыходнай форму з *пуп-*, то магчыма ўзвесці да **pǫpъ* ‘пуп’, параўн. балг. *пъп* ‘кол у сярэдзіне току, да якога прывязаны коні, што ходзяць па кругу, малоцячы збожжа; стажар’.

**Пу́псік** ‘нешта маленькае, падобнае на шарык’ (мсцісл., Мат. Маг.), ‘пампон’ (Яўс.). Хутчэй за ўсё, запазычанне з рус. разм. *пупс*, *пу́псик* (пра нешта малое, надутае), што з ням. *Puppe* ‘лялька’, франц. *pupée* ‘тс’ (гукапераймальнага паходжання), набліжанае да *пуп* (гл.). Не выключаны балтыйскі ўплыў, параўн. лат. *pūpsóti* (*pūpso*) ‘тырчаць, выступаць’, *pūpsnis* ‘пукатасць, уздуцце’.

**Пупуро́к** ‘пупышка’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Магчыма, з літ. *pùpuras* ‘тс’ (там жа); параўн., аднак, рус. дыял. *пупу́рушка* ‘бутончык’, *пупу́рушек, пу́прушек* ‘прышчык’, што дапускае самастойнае фанетычнае развіццё памяншальнай формы ад *пупыр* (гл.).

**Пупу́шка** ‘пупышка’ (Гарэц.; ашм., Стан.; лоеў., жытк., Мат. Гом.), *пу́пушка, пу́пшык* ‘тс’ (Др.). Гл. *пу́пышка*.

**Пупы́р**$_1$ ‘уздуцце, пухір’ (Цых.), *пупы́рка* ‘бародаўка’ (Яўс.), *пупы́рышка* ‘маленькі бугорчык, звычайна на скуры; пупышка’ (ТСБМ), рус. *пупы́рь* ‘прышч; пухір; пупышка; грыб’, *пупы́рка* ‘завязь агуркоў’, польск. *pępyrz* ‘пухір’ (1136 г., *pampir* у запісе, гл. Банькоўскі, 2, 539). Прасл. дыял. **pǫpyrъ* (< **pǫpъ*), гл. *пуп* (Фасмер, 3, 408).

**Пупы́р**$_2$ ‘сава’ (Сцяшк. Сл.). Гукапераймальнае (ад *пу́пу!* ‘крык птушкі’), параўн. укр. *пупенак, пупник* ‘від птушкі’, балг. *пу́панец* ‘сава, Upupa epops’, *пу́па* ‘крычаць *пупу!* (пра саву)’ і лац. назву птушкі *upupa*.

**Пупы́рка** ‘бародаўка’ (Яўс.), *пупы́рышка* ‘ўздуцце, бугарок, выступ’ (ТСБМ). Гл. *пупы́р*.

**Пупышы́,** мн. л. *пупушы́* ‘дзьмухаўцы’ (свісл., Шатал.), мн. л. *пупшэ́* ‘пупышкі; сукараткі’ (дзятл., Сл. ПЗБ), *пу́пышка* (у раслін) (ТСБМ), *пупы́шка* ‘тс’ (Нас., Мядзв., Бяльк.), ‘мякіш, кончык пальца’ (гом., Мат. Гом.), *пу́пашка* ‘пупышка; сасок’ (ТС), *pupúška* ‘пупышка; сасок; мяккая частка канца пальца’ (Варл.), *пыпашка* ‘кончык пальца’ (віл., Шатал.), *пу́пушок* ‘пупышка; кончык пальца’ (Сл. ПЗБ), рус. *пу́пыш* ‘прышч; сасок; пупышка’. Звязана з *пуп* (Фасмер, 3, 408), варыянтнасць вакалізму тлумачыцца ўплывам акружэння губных зычных. Параўн. *пу́пях, пупах*.

**Пу́пэц** ‘удод’ (Дразд.). Гукапераймальнае, гл. *пупыр*$_2$; Драздовіч падае і іншую назву — *дудо́к* (ад гукапераймання *уд-уд*), параўн. *удод* ‘тс’.

**Пупя́лькі** 'палявы хвошч, Equisetum arvense L.' (воран., ЛА, 1). Хутчэй за ўсё запазычана з літоўскай мовы, пра што сведчыць акцэнтуацыя; параўн., аднак, польск. *pąpel, pępel* 'вадыр на скуры' (< **pǫp-ylь*, Банькоўскі, 2, 521), што можа адпавядаць балтыйскай форме тыпу *pupẽlė* 'фасоля' (параўн. *pupa* 'боб', *pùpuolė* 'пупышка') — для расліны характэрна патаўшчэнне на канцы сцябла, якое нагадвае шышачку.

**Пу́пях** 'пупышка; невялікі плод' (Сцяц.; слонім., Нар. словатв.), *пу́пах, пу́паха* 'пупышка; коцік на дрэве; кутас' (ТС), *пупе́х* 'пупышка' (в.-дзв., Шатал.), *пупэ́х* 'тс' (Сл. Брэс.), *пупе́х*, мн. л. *пупяхе́* 'саскі грудзей' (Скарбы), *пупэ́х* 'тс' (пін. Шатал.), сюды ж *пу́пішак* 'пупышка' (карэліц., Нар. лекс.), укр. *пу́плях, пу́п'яшок* 'бутон; завязь', рус. зах.-бранск. *пу́плух, пу́плушек* 'бутон; малое дзіця'. Да *пуп* 'набухшая пупышка' з рэдкай суфіксацыяй, магчыма, палаталізаваны варыянт да *пу́паха* 'тс' (Мат. Гом.). Параўн. *пу́пышы*.

**Пур**, *пу́ра* 'мера сыпкіх рэчываў, роўная тром пудам; пасудзіна, якая змяшчае тры пуды' (в.-дзв., брасл., глыб., Сл. ПЗБ; Касп.; Шатал.; полац., Нар. лекс.; добр., карм., Мат. Гом.), *пу́ра* 'мера сыпкіх рэчываў, большая за чацвярык' (Мядзв.), *пур* 'мера, роўная тром чацвярыкам' (дзісн., Яшк. Мясц.), *пу́ра* '36 гарцаў' (ковен., Яшк. Мясц.), рус. пск. *пу́ра* 'мера сыпкіх рэчываў у 3,5 чацвярыка', польск. дыял. *pur* ("w Inflantach" з канца XVI ст., Вольніч-Паўлоўска, Зб. Абрэмбскай-Яблонскай, 189). Лічыцца балтызмам, параўн. літ. *pū́ras* 'тс', лат. *pũrs* 'тс' (Блесэ, SB, 5, 17; Лаўчутэ, Балтизмы, 32); апошняе, паводле Мацэнаўэра (LF, 14, 411), выводзіцца са значэння 'лубяны кубел з пасагам'. Гл. таксама Фасмер, 3, 408.

**Пура́ць** 'кідаць' (ветк., Мат. Гом.). Гл. *пурну́ць*, *шпурну́ць*.

**Пурга́** 'завіруха, мяцеліца' (ТСБМ; ЛА, 1; Бяльк.; ТС). З рус. *пурга́* 'тс', што выводзяць з карэл. *purgo* 'тс', фін. *purku* 'тс', параўн. ханты *purke* 'дым' (Фасмер, 3, 408), фін. *purkaa* 'выліваць; разбіраць; распускаць (напр., косы)' і пад. (Чарных, 2, 84). Далейшыя збліжэнні гл. Анікін, 458 (з уральск. *purkl* 'мяцеліца', ст.-цюрк. *bor* 'бура' і пад.).

**Пу́ргаць** 'сёрбаць, есці' (Бяльк., Юрч.). Гукапераймальнае, "глухі" варыянт — *пуркаць* 'тс' (гл.), гл. таксама Гарачава, Этимология—1985, 69: да прасл. **pъrgati* са значэннем хуткага ру-

ху, параўн. каш. *purgac* ‘хутка ехаць’, сюды ж серб.-харв. *pȑgav* ‘шустры, нецярплівы’, балг. *пъргав* ‘хуткі, лоўкі’ і інш.

**Пурзго́ліцца** ‘боўтацца ў месцы з ежай’ (мядз., Нар. словатв.), *пурзо́ліцца* экспр. ‘неахвотна есці; пэцкацца’; перан. ‘дурэць’ (мядз., брасл., паст., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае, параўн. *пу́ргаць* ‘сёрбаць’, рус. смал. *пу́рзацца* ‘марудна і неакуратна есці’, *пурзо́ніцца* ‘тс’. Грынавяцкене (Сл. ПЗБ) лічыць запазычаным з літ. *purzlóti, burzlóti* ‘тс’, што цяжка давесці.

**Пу́рзнуць** ‘пырснуць, моцна паліцца’ (ТС). “Звонкі” варыянт гукапераймальнага *пы́рснуць*, гл. (*у* < *ы* пасля губнога).

**Пу́ркаць** ‘пырскаць’ (лід., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае, параўн. “звонкі” варыянт *пу́ргаць* (гл.); сюды ж іранічнае *пурка-вэ́тка* ‘матацыкл’ (лун., Сл. Брэс.); не выключана сувязь з літ. *pur̃kšti* ‘пырскаць; фыркаць’, якое, улічваючы лінгвагеаграфію, магло быць крыніцай запазычання. Аднак параўн. прасл. **pъrkati*, якое Трубачоў (Зб. памяці Талстога, 1, 312) ставіць у адзін рад з аднакарэннымі, як правіла пашыранымі, дзеяслоўнымі асновамі **pъrk-*, **pъrl-*, **pъrsk-* ‘пырскаць’.

**Пурля́ць** экспр. ‘кідаць’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа), з літ. *purlióti* ‘ірваць, дзерці’, што малаверагодна па семантычных прычынах. Параўн. *шпурля́ць* ‘кідаць’ (гл.), а таксама *пурну́ць/шпурну́ць* ‘кінуць’. Хутчэй за ўсё, гукапераймальнага (“гукаімітатыўнага”) паходжання; да словаўтварэння параўн. *пу́ргаць* ‘сёрбаць’ і балг. *хвъргам/хвърлям* ‘кідаць’. Параўн. і папярэдняе слова.

**Пурну́ць** ‘шпурнуць, кінуць’ (слонім., Нар. словатв.; ТС): *пурні мне праз плот яблака* (ветк., Мат. Гом.). Відаць, гукапераймальнае, параўн. рус. дыял. *пу́рыць* ‘мачыцца; ліць струменем’, *пу́рить* ‘кідаць’, укр. *пурну́ти* ‘даць нырца’ і пад. Гл. *пу́рыць*.

**Пу́рны** ‘пульхны; пышны (пра хлеб)’ (ТС), ‘порысты, падышоўшы (пра хлеб)’ (стол., Жыв. НС). Відаць, утворана на базе прасл. **puriti sę* ‘падымацца, уздымацца’, параўн. чэш. мар. *púřit sa* ‘надувацца ад злосці’, ст.-чэш. *purný,* чэш. *vzpurný* ‘ўпарты’, серб.-харв. *напу́рити* ‘раззлаваць’, *напу́рити се* ‘зазлавацца, надуцца; пасварыцца’, *на̀пурен* ‘надзьмуты, самазадаволены’, якія Белецiч (ЈФ, 49, 120) збліжае з *пу̏рити* ‘жарыць, пячы’, што ўзыходзяць да і.-е. *pūr-* ‘агонь’. Звязана з *пурыць* ‘гнаць, выганяць’, (гл.) перан. ‘хутка падымацца, расці’ з дадатковым адценнем

‘станавіцца рыхлым, кволым’, параўн. балг. дыял. *пу́рек* ‘слабое, хілае і анемічнае дзіця’, рус. дыял. *пу́рско* ‘мякка, рыхла’ і пад., генетычна звязаныя з літ. *purė̃ti* ‘станавіцца рыхлым’.

**Пу́рпур** ‘ярка-чырвоны колер, фарба’ (ТСБМ), ст.-бел. *пурпура* ‘тс’; сюды ж *пурпуро́вачка* (пра дзяўчыну) (карэліц., Марц.). Запазычана з ням. *Purpur* праз рус. *пу́рпур* ‘тс’, або з лац. *purpura*, магчыма, праз польск. *purpura* (параўн. Булыка, Лекс. запазыч., 111), вядомага з XVI ст. (Банькоўскі, 2, 966), што ўзыходзяць да грэч. πορφυρα ‘фарба з соку мідыі; тканіна, афарбаваная гэтым сокам’, што ў сваю чаргу паходзіць з невядомай палеабалканскай мовы.

**Пурто́к** ‘тканы настольнік з узорамі’ (драг., Сл. Брэс.), ‘абрус’: *ма́тэ купэ́ла пуртка́* (малар., Сіг.). Да *парток* ‘тс’ (гл.) з уканнем, параўн. *порт* ‘палатно’.

**Пу́рха** ‘перхаць, паршы ў жывёлы’ (кобр., ЛА, 1), *pirxa* ‘яйка без шкарлупіны’ (КАБ). Да *парх*, *пу́рхаць, пе́рхаць* (гл.) < прасл. **pьrchati* ‘ляцець, бегчы’; сюды ж *пу́рхаўка* ‘порхаўка’ (мядз., Шатал.; кам., іван., пін., беласт., Жыв. сл.; ЛА, 1), *пурхо́ўка* ‘тс’ (рас., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *пу́рхватка* ‘тс’ (Бес.; беласт., Сл. ПЗБ), *пу́рхаўка, пурхо́ўка* ‘суквецце рагозу’ (жлоб., Мат. Гом.), *пурхо́ўка* ‘тс’ (докш., бярэз., барыс., в.-дзв., Сл. ПЗБ; ЛА, 1): *пурхоўкі етыя ў падушку абрывалі* (б.-каш., Мат. Гом.), параўн. рус. *пу́рхавица, пурха́вка* ‘порхаўка’, польск. *purchawka* ‘тс’, а таксама ‘валляк’, ст.-польск. *parchawka*; варыянтнасць вакалізму тлумачыцца экспрэсіўным характарам і “гукаімітатыўным” паходжаннем асновы слоў. Паводле Пельцовай (Зб. Абрэмбскай-Яблонскай, 144), назва для ‘порхаўкі’ — арэальнае беларуска-ўкраінска-ўсходнепольскае ўтварэнне на праславянскай аснове.

**Пу́рхаць** ‘пырскаць вадой з рота’ (навагр., З нар. сл.), ‘бурчаць, лаяцца’ (Юрч.), укр. *пу́рхати* ‘пырхаць’, рус. *пу́рхать* ‘тс’, *пу́рхаться* ‘пялёскацца (у вадзе, снезе, пыле і пад.)’. Гукапераймальнага паходжання, параўн. рус. смал. *пурх!* ‘пырх!’, укр. *пурх!* ‘тс’, гл. *пы́рхаць*. Паводле Варбат (Балто-слав. этнояз. отнош., 7), рэфлекс *-ur* на месцы *-ъr-*, параўн. рус. *порха́ть* ‘пырхаць’, чэш. *prchati* ‘пырскаць’ — фанетычная анамалія, узнікшая пад уплывам балтыйскіх моў, параўн. літ. *pur̃kšti* ‘марасіць’, што, улічыўшы імітацыйны характар слова, неабавязкова.

**Пу́рхлы** ‘наздраваты, порысты’: *пурхлы хлеп, увесь у дзюрках* (швянч., Сл. ПЗБ; Цых.), а таксама пра хваравітага, вялага, пухлага (ушач., Пан. дыс.); *пу́рхны* ‘пухкі’ (Сл. ПЗБ) параўноўваецца з літ. *purknùs* ‘тс’ (там жа). Звязана з *пу́рха* (гл.).

**Пурхо́тына** ‘пясчаны, неапрацоўваны участак’ (бяроз., Выг.), параўн. рус. дыял. *пурхо́вище* ‘месца з пясчанай і рыхлай глебай, дзе любяць “пурхаться” (= пялёскацца) глушцы і рабкі’. Звязана з *пу́рха*, *пу́рхаць* (гл.).

**Пурша́ць** ‘чмыхаць, злоснічаць’ (ТС). Гл. *пу́рхаць*; не выключана сувязь з літ. *purkšéti* ‘шыпець, фыркаць (пра ката)’, параўн. *purkšlỹs* ‘нястрыманы чалавек; гарачка’.

**Пуры́м** ‘прыпар, гарачы час’ (полац., Жыв. НС), *пуры́мы* ‘яўрэйскае свята’: *пурымы не свято, а трасца не хвароба* (Сержп.), ст.-бел. *пуримъ* ‘тс’; сюды ж *пуры́мэц* ‘невялікая булачка’ (пін., Сл. Брэс.). Запазычана з яўр. *purim* ‘свята’ (Булыка, Лекс. запазыч., 184) < іўрыт. *pur* ‘жэрабя’, сюжэт узнікнення свята гл. у кнізе “Эсфір” у Скарынаўскім перакладзе Біблії: *И для того названи суть дневе тые фуримъ. То есть дневе жребиевъ. Прото иже фуръ, еже исказуетсѧ жребеи вовержен есть до сосуда*; параўн. укр. *пу́рім* ‘тс’, польск. дыял. *purim*: *pan Wojciech już purum, już sobie podchmielil* (паводле Крэмера, Słowniczek, 311, — з лацінскай). На семантыку слова, магчыма, паўплывала *пу́рыць* ‘гнаць, падганяць’ (гл.).

**Пу́рын** (*pùryn*) ‘малочніца, хвароба немаўлят (soer)’ (слонім., Машынскі, Atlas), іншыя назвы хутчэй за ўсё ўзніклі пад уплывам народнай этымалогіі: *kuryny* (баран., там жа), *kurynny mołočaj* (івац., там жа), параўн. польск. дыял. *prym*, *prymka* ‘тс’. Няясна, магчыма, звязана з літ. *pùrinti* ‘рабіць рыхлым’.

**Пуры́ны** ‘чорныя парэчкі’ (пін., Шатал.). Балтызм (Лаўчутэ, Балтизмы, 127); паводле меркаванняў, крыніцай паслужыла слова тыпу літ. *puríena* ‘расліна мокрых лугоў’, звычайна ‘лотаць’, што патрабуе дадатковых тлумачэнняў. Магчыма, звязана з папярэднім словам (гл.), параўн. *пурышка* (гл.).

**Пу́рыць** ‘гнаць’: *сонца шчэ вісока, а ён ужо авечкі пурыць дадому* (дзярж., Нар. сл.), *пуры́ць* ‘гнаць хутка’ (Шат.), рус. дыял. *пу́рить* ‘кідаць, закідваць, скідваць; мачыцца’, серб.-харв. *пу̏рити* ‘пячы, смажыць; дуць’, чэш. *pýřiti se* ‘надувацца’ і інш. Да прасл. **puriti* ‘пячы, грэць’, што генетычна звязана з адной

з індаеўрапейскіх назваў агню, звычайна захаванай у славян у доўгай ступені *pyr- (гл. *пырнік₂* і пад.), выступае таксама ў прыставачных утварэннях тыпу рус. дыял. *опу́ри́ться* 'надарвацца; стаміцца, перанапрэгчыся' і пад., гл. Трубачоў, Зб. памяці Талстога, 1, 309.

**Пуры́шка** 'парэчка' (Адм.): *заружавеўшыся, маўляў, пурышкі на ясным сонцы* (Лёсік) сюды ж, магчыма, і рус. *пуры́ш* 'індык'. Відаць, узыходзіць да **pyriti/ *puriti* 'смажыць, пячы', параўн. серб.-харв. *пу̏рити* 'падсмажваць', укр. *пі́рити* 'чырванець ад гневу', славен. *piriti se* 'чырванець (ад злосці)', польск. *zapyrzyć się* 'зачырванецца', в.-луж. *pyrić* 'паліць', што да **pyrь* 'агонь' (Куркіна, Этимология—1994—1996, 202—203); інакш адносна рускага слова Фасмер, 3, 410 (< рус. *пы́рить* 'тапырыць пер'е'). Паводле Трубачова (Зб. памяці Талстога, 1, 309), зыходнае **puriti* з першапачатковым значэннем 'пячы, грэць' захавалася толькі ў прыставачных утварэннях, куды адносяцца рус. дыял. *опу́ри́ть* 'абдаць мачой' і пад. Параўн., аднак, рус. дыял. *пу́рить* 'мачыцца' і папярэдняе слова. Не выключана, што з'яўляецца адаптаваным паланізмам, параўн. польск. *porzeczki* 'парэчкі' (Арашонкава — Чабатар, Адм.).

**Пурэ́й** 'пырнік' (петрык., Мат. Гом.), *пура́й* 'тс' (брагін., Мат. Гом.). Фанетычныя і акцэнтуацыйныя варыянты з дыялектнай зменай *ы* > *у* пасля губных да *пы́рай* 'тс' (гл. *пырнік₁*).

**Пус-пус** 'словы для падклікання кароў' (ДАБМ, камент., 895), рус. дыял. *пус-пус* 'словы для падклікання авечак', параўн. таксама *пусе́нька, пусёнушка* ласк. 'кароўка'. Няясна; магчыма, звязаныя з *пшэ́йка, псе́йка* 'тс', утвораных ад *пшэ-пшэ*, варыянт *псе-псе* (словы для падклікання кароў), гл.

**Пуска́ць** 'перастаць утрымліваць, дазваляць пайсці, зайсці і пад.' (Нас., ТСБМ, Бяльк., Варл., ТС), 'кідаць' (Варл.), *пуска́тэ* 'адступаць (пра зіму)' (малар., Нар. лекс., Сіг.); у спалучэннях: *пуска́ць ікру* 'нераставаць' (ЛА, 1), *пуска́ты рошч* 'пачынаць расці, пайсці ў рост' (Клім.), *пуска́ць дзе́раво* 'сплаўляць лес' (навагр., Нар. лекс.), *пуска́ць агіта́цыю* 'агітаваць', *пуска́ць вайну́* 'пачынаць вайну' (уздз., Жд. 3), укр. *пуска́ти* 'выпускаць, адпускаць, упускаць', рус. *пуска́ть* 'прапускаць, адпускаць', дыял. *пуска́ть икру́* 'нераставаць', балг. *пу́скам* 'вызваляць, дазваляць пайсці, зайсці і пад.', макед. *пуска* 'тс'. Лічыцца

новаўтварэннем у адносінах да *пусціць* (< **pustiti*) у выніку другаснай імперфектывацыі (так ужо Брант, РФВ, 24, 143) па ўзору *лушчыць/лускаць* і пад.; рэгулярныя формы: рус. *пущáть*, польск. *puszczać,* серб.-харв. *пу̏штати*, славен. *púščati*, балг. *пýщам*, чэш. *pouštěti*, славац. *púšťat',* в.-луж. *puščeć,* н.-луж. *puščiś* (< **pustjati*). Гл. *пусціць*.

**Пýсла** 'ўнутраны паветраны пузыр у рыбы': *оконь мая пусла, у карпа пусла моцная* (воран., Сцяшк.). Паводле Цыхуна (Лекс. балт., 52; гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 71), з літ. *puslė* 'тс' (< *pũsti* 'дуць'), што зусім верагодна па лінгвагеаграфічных прычынах; аднак параўн. балг. дыял. *пýска* 'мачавы пузыр у парасяці і мяса, якое складваюць у яго' (< **пус(т)ка?*, інакш гл. БЕР 5, 860), што дае падставы для рэканструкцыі дыялектызма **pustъ-lo* (ад **pustъ*, гл. *пусты*), параўн. рус. дыял. *пуслослóвье* (< *пустословье*). Ст.-бел. *пусилиско* 'рэмень ад сядла', *пуслиско* 'тс' не звязаны з папярэднім словам і, паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 121), запазычаны з польск. *puślisko* 'рэмень, што злучае стрэмя з сядлом'. Сучаснае польск. дыял. *pusło* 'тс', ст.-польск. *puślisko* 'тс' Калашнікаў (Этимология—1994—1996, 71) у сваю чаргу лічыць запазычаннямі з усходнеславянскіх моў, што выводзяцца з прасл. **pǫtslo* (ад **pǫtati* 'путаць'); гэта дапускае і Банькоўскі (2, 966). Да сказанага можна дадаць, што выкарыстанне путаў у блізкай да названай функцыі назіраецца сярод вяскоўцаў і зараз.

**Пýста** 'нежылое памяшканне, пустата' (Ян.); параўн. серб.-харв. *пу̏ста* 'стэп', макед. *пуста* 'тс', славен. *pusta* 'стэп; пустэльня', пра старажытнасць якіх сведчыць і запазычанае венг. *puszta* 'тс', што, відаць, дае падставы для рэканструкцыі прасл. **pusta* 'бязлюднае месца, пустэльня' (субстантываваны прыметнік ад **pustъ*, гл. *пусты*).

**Пустабрэ́х** 'балбатун, пляткар' (ТСБМ; шчуч., Нар. лекс.; карм., Мат. Гом.), *пустабрóх* 'сабака, што без патрэбы брэша; пляткар, абманшчык' (Варл.), рус. *пустобрéх* 'балбатун, пляткар'. Да *пусты* (у значэнні 'непатрэбны, бессэнсоўны') і *брахаць* (гл.).

**Пустабя́ка** 'пусты чалавек, што робіць пустое і гаворыць пустое' (Варл.), *пустабéка* 'пусты чалавек' (лаг., Стан.), укр. *пустоб'я́ка* 'пусты, разбэшчаны чалавек', рус. *пустобя́ка* 'той,

хто гаворыць пустое'. Да *пусты* ў значэнні 'несур'ёзны, легкадумны' і *бя́ка* 'дрэнь' або *бя́каць* (*бе́каць*) 'плявузгаць, балбатаць'. Інакш ЕСУМ (4, 639—640): з рус. *вя́каць* 'плясці, плявузгаць'.

**Пустава́ць** (*пустоваць*) 'быць пустым': *пуня пустуець* (Нас., ТСБМ, Шат.), 'гультаяваць, рабіць бескарысную справу' (Нас.), *пустава́ць* 'быць незанятым' (Варл.), *пустова́ць* 'быць незасеяным (пра поле)' (Выг.), 'быць пустым, нявыкарыстаным, бязлюдным' (ТС), укр. *пусто́вати* 'паводзіць сябе несур'ёзна, гарэзнічаць', рус. *пустова́ть* 'не працаваць; распуснічаць', польск. *pustować* 'стаяць пустым; жыць легкадумна, распусна; сваволіць'. Да *пусты́* 'незаняты; непатрэбны', з якога выводзяцца ўсе астатнія значэнні; для польск. *pustować* 'жыць легкадумна, распусна; сваволіць' Банькоўскі (2, 966) дапускае зыходную форму **pusto(to)wać* (ад *pustóta* 'легкадумнасць, свавольнасць', гл. *пусто́та* 'тс'). Пра старажытнасць значэння 'быць (стаць) незанятым, бязлюдным' сведчыць балг. *пусто́свам* 'праклінаць, прамаўляць кляцьбу *Да опустее! Пусто да стане!* і пад.' (параўн. Тодараў, Stud. Etym. Brun., 1, 124).

**Пустагало́вак** 'бесталковы чалавек' (Жд. 2). Ад *пустагало́вы* (гл. *пусты́: пуста́я галава́),* аформлена па прадуктыўнай мадэлі на *-ак*, параўн. *пустаду́мак* 'неразумны чалавек' і пад.

**Пустаглі́нішча** 'суглінак' (чач., Мат. Гом.). Да *пусты́* (гл.) у значэнні 'неўрадлівы' і *гліна* (гл.).

**Пустаглу́м** 'хто бескарысна марнуе грошы ці іншыя каштоўныя рэчы' (Варл.). Да *глумі́ць* 'псаваць, марнаваць', параўн. *по́пусту, упусту́ю* (траціць грошы і пад.).

**Пустагра́к** (*pustohrāk*) 'чалавек ні да чога не здатны; непрыдатная рэч; самахвал, хвалько' (Чач.). Чачот (там жа) адносіць да *грак* ("gawron, ptak"), відаць, пад уплывам слоў тыпу *сівагра́к* 'від птушкі'; параўн., аднак, бранск. *пустогря́ка* 'гультай', рус. дыял. *пустограй* 'балбатун, насмешнік', *пустогра́йничать* 'гультаяваць', што дазваляе суаднесці з *пусты́* 'непатрэбны, несур'ёзны' і *граць* 'гуляць' або *гра́каць* 'шумець, крычаць' (< **grajati*?).

**Пустагро́м** (*пустогро́м*) 'балбатун' (свянц., Мат.). Да *пусты́* (гл.) у значэнні 'бескарысны, непатрэбны' і *грыме́ць, гром* (гл.), зыходным мог быць выраз **пусты гром*, г. зн. 'без наступстваў, без дажджу'.

**Пустадóлле** ‘абложная зямля’ (ДАБМ, камент., 858). Да *пусты́* (гл.) ‘незаняты, незасеяны’ і *дол* ‘нізіна’, або, хутчэй, да *дóля* ‘частка’.

**Пустадóмак** ‘бестурботны чалавек, які не дбае пра дом, сям’ю, гаспадарку’ (ТСБМ, Янк. 1, Шат., Жд. 2; ушац., Пан. дыс.), ‘член сям’і, які не спрыяе дому, а цягне з яго’ (Варл.), *пустадóмец* ‘тс’ (Юрч.), *пустадóмка* ‘нядбайная гаспадыня’ (рагач., Нар. Гом.). Утворана ад *пустадóм* ‘бестурботны, не дбаючы пра гаспадарку’ (Нас., Бяльк., Касп., Гарэц.), першапачаткова, відаць, кароткі прыметнік на базе спалучэння *пусты дом* (гл. *пусты́),* параўн. сучаснае *пустадóмы* ‘нядбайны, ветраны’: *зараз багато маладых пустадомых* (ветк., Мат. Гом.), параўн. рус. дыял. *пустодóм, пустодóмок, пустодóмник* ‘тс’, укр. *пустодóмок* ‘тс’, паралельнае макед. *пустокуќникъ* (*пустокукьникъ*) < *пуст* + *куќа* ‘дом, хата’ (охрыдск., Макед. сб., 15, 59); у такім выпадку прыметнік *пустадóмны* (Нас.) — другасны.

**Пустаду́мак** ‘чалавек, што робіць неабдумана, легкадумны’ (Мат. Маг.). Відаць, пераасэнсаванае папярэдняе слова, параўн. *пустоду́мок* ‘пустадомак’ (хойн., Мат. Гом.).

**Пустадэ́ліна** ‘пусты, недалёкі чалавек, пустамалот’: *пірьстань тьбаліць, пустадэ́ліна* (міёр., Нар. словатв.). Зыходны дзеяслоў **пустадэ́ліць* ад *пусты́* (гл.) і **дэліць* няяснага паходжання, магчыма, экспрэсіўны варыянт ад дыял. *дзéлаць*, *дзела*, параўн. рус. дыял. *пусты́м дéлом* ‘хутка’, *с пустóго дéла* ‘з-за дробязей, без прычыны’.

**Пустазвóн** ‘балбатун, несур’ёзны чалавек’ (ТСБМ). Відаць, да *пусты́* (гл.) і *званіць* у значэнні ‘гаварыць, брахаць’, параўн. рус. дыял. *пустозвóнка* ‘пра сабаку, які пастаянна брэша’.

**Пустазéлле** ‘самарослыя расліны ў супрацьлегласць культурным, агародным’ (ТСБМ), літаратурны адпаведнік рус. *сорняки́*, польск. *chwasty* ‘тс’. Ад *пусты́* (гл.) у значэнні ‘непатрэбны, шкодны’ і *зéлле* ‘дзікарастучыя некарысныя расліны’ (у супрацьлегласць зёлкам, якім прыпісваюцца лекавыя ўласцівасці).

**Пустальга́**$_1$ ‘легкадумны, пустагаловы чалавек’ (Нас., ТСБМ, Др-Падб., Гарэц., Ян.), ‘балбатун’ (Жд. 3), ‘асоба з недарэчнай пустой гутаркай’ (Варл.), ‘пустадомак’ (клец., Нар. лекс.), ‘пустыя размовы’: *пустольгу несець* (Нас.), ‘пустая справа’: *ён толькі пустальгой займаецца* (ветк., Мат. Гом.), *пустóльга* ‘нядбайны

чалавек, гультай' (ПСл), 'свавольнае дзіця' (лун., Шатал.), *пустэльга* 'пустагаловы, несур'ёзны чалавек', параўн. рус. дыял. *пустольга́* 'легкадумны чалавек; нешта несур'ёзнае'. Усё да *пусты́* (гл.), параўн. Фасмер, 3, 410; незвычайнае заканчэнне слова можна патлумачыць "пеяратыўным *-l-* суфіксам" (Бязлай, 3, 138), што выступае ў славен. *pustę̑la* 'пусты чалавек' і экспрэсіўнай фіналлю *-га́* (параўн. і рус. дыял. *пустольга́, пустерга́, пустерьга́* 'тс'). Зрэшты, знешняе падабенства да харв. *pustolegija, pustelegija* 'нязносны сельскі хлапчук; авантурыст, разбэшчаны чалавек', а таксама *pustelekati* 'сноўдацца' дапускае і іншыя тлумачэнні.

**Пустальга́$_2$** 'пусташ' (гродз., навагр., бабр., ЛА, 2), *пустэ́льга* 'пустэча; запушчаны, занядбаны кут' (Др.-Падб.), рус. дыял. *пустельга́* 'неапрацаваная, незасеяная зямля'. Да *пусты́* 'неапрацаваны, незагаспадараваны' (гл.), параўн. серб. *пу̏столина* 'дзікае месца, пустэча', якое Сной (516) узводзіць да рэканструяванага **pustol* 'тс'; суфіксацыя як у папярэднім слове; для *пустэ́льга* можна дапусціць азванчэнне суфіксальнага зычнага (*пустэ́ля* > **пустэлька* > *пустэ́льга*).

**Пустальга́$_3$** 'драпежная птушка' (ТСБМ), 'птушка Falco tinnunculus': *пустальга́ як той каршун* (петрык., калінк., рэч., Мат. Гом.), параўн. укр. *постильга́, постільга́* 'тс', рус. *пустельга́, пустерга*, смал. *пу́стольга́* 'тс', польск. *pustułka, pustółka, postołka* 'тс', славац. *postolka, pustovka* 'тс', чэш. *poštolka* 'тс', славен. *postólka, pustólka, pustolȏvka* 'тс', серб.-харв. *по̏столка* 'тс'. Слова няяснага паходжання. Меркаванні пра славянскае паходжанне звязваюць яго з **pustъ* 'пустынны' (ад месца распаўсюджання) або фармальна атаясамліваюць з *пустальга$_1$* і *пустальга$_2$* (Фасмер, 3, 410), адсюль і абагуленая форма *pustelьga* (Копечны, Zakl. zásoba, 349). Банькоўскі (2, 966) для польскай і чэшскай назвы прапануе зыходнае **postola*, **postolъka* (ад **po-stl-a-ti* 'паслаць') з другаснай адідэацыяй да **pusty* 'пусты', што семантычна цяжка давесці. Прапанаваная Ніканавым (ЭИРЯ, 2, 90—92) версія запазычання з цюркскіх моў (параўн. хакас. *постаргай* 'жаўранак', алт. *босторкой*, нагайск. *бозторгъай* 'тс') не тлумачыць заходнеславянскія і паўднёваславянскія формы.

**Пустамало́т** 'балбатун; чалавек, які без сэнсу гаворыць, крычыць' (ТСБМ, Шат., Варл.; бялын., Янк. Мат.; міёр., З нар.

сл.; карм., гом., Мат. Гом.), *пустамало́ціць* 'балбатаць, плявузгаць' (Шат.). Ад *пусты́* (гл.) і *малаціць*; параўн. апісальнае народнае *пуста́я малата́рня* пра такога чалавека.

**Пустаме́ля** 'балбатун, несур'ёзны чалавек' (ТСБМ; міёр., З нар. сл.), *пустоме́ля* 'тс' (ТС), а таксама *пустамо́л* 'тс' (Цых.), сярод пісьменнікаў апошнюю форму ўжываюць М. Лупсякоў, І. Шамякін; сюды ж укр. *пустомо́лка* 'ханжа', рус. *пустоме́ля* 'балбатун'. Ад *пусты́* (гл.) і *мало́ць* (гл.); паводле Сабалеўскага (Лекции, 186), **меля* — дзеепрыметнік ад *малоць*. Гл. Фасмер, 3, 411; параўн. наступнае слова.

**Пустамлі́н** 'балбатун, несур'ёзны чалавек' (слонім., Жыв. сл.), *пустамлён* 'тс' (ашм., Стан.). Ад *пусты́* (гл.) і *млін* 'млын', да ўнутранай формы параўн.: *лапочаш, як пусты млын* (стаўб., Матус.); другасна зблізжанае з *млён* 'кій у жорнах, якім іх прыводзяць у рух'.

**Пустапаро́жні** разм. 'неабгрунтаваны, беспадстаўны, нікчэмны' (ТСБМ). На базе фразеалагізма *пераліваць з пустога ў парожняе*, г. зн. рабіць бескарысную справу; параўн. іншыя падвойныя "сінанімічныя" ўтварэнні тыпу *нагалабо́ску* 'на босую ногу' — паводле ўстойлівага спалучэння *го́лы і бо́сы*, г. зн. зусім бедны, і пад.

**Пустапа́сам** 'без пастуха (пра жывёлу), без нагляду старэйшых (пра дзяцей і моладзь)' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Варл.; карэліц., Жыв. сл.), сюды ж *пустопа́сть* 'самапасам' (кам., Жыв. сл.), *у пусто́паш* 'на самапас, у распусту (пусціць)' (ТС), *у пу́стапаш* 'тс': *пусцілі быдло і коні ў пустапаш* (слонім., Арх. Бяльк.), *пусто́паш* 'абложная зямля' (ДАБМ, камент., 858), 'пусташ' (бяроз., ЛА, 2), *пу́стопась* 'тс' (малар., ЛА, 2), укр. *пусто́паш* 'без пастуха'; серб.-харв. *пу̏стопа̂ш* 'дзе кожны можа пасвіць'. Ад *пусты́* 'бязлюдны' і *пасці* 'пасвіць'; у адносінах зямлі, якая "гуляе", магчымы ўплыў дзеяслова *паха́ць* 'абрабляць, даглядаць'.

**Пустапо́ле**, *пустапо́ліца* 'няўдобіца' (ЛА, 2), *пустапо́ля* 'тс' (воран., Сл. ПЗБ). Ад *пусты* 'неўрадлівы, пусты' (< **pustъ* 'тс') і *поле*; кампазіту, вядомаму на паўднёвым захадзе Беларусі, адпавядае на поўдні *пустое поле* 'тс' (там жа), відавочна, старажытныя аграрныя тэрміны, параўн. беласт. *прастапо́ле,* ваўк. *прастапо́ль* 'няўгноеная глеба', адзначанае ў Статуце ВКЛ (Ластоўскі, Выбр. тв., 391); серб.-харв. *пусто́пол̂е, пусто̀пол̂ина*

‘пустка’. Семантычны паралелізм гл. у рус. дыял. *пустоква́ша*/ *простоква́ша* ‘кіслае малако’.

**Пустасме́х** ‘несур’ёзны чалавек, што часта і без прычыны смяецца’ (ТСБМ, Сцяц., Бяльк.; в.-дзв., Шатал.; стаўб., Нар. сл.; бялын., Янк. Мат.), ‘жартаўнік’ (ЛА, 3), *пустосме́х* ‘тс’ (ТС). Ад *пусты́* ‘бессэнсоўны’ і *смех* (гл.), магчыма, праз стадыю ўстойлівага словазлучэння *пусты смех* ‘несур’ёзны, беспрычынны смех’: *і возьме нейкі пусты смех* (Колас) з пераносам назвы з’явы на яе носьбіта.

**Пустахо́д** ‘чалавек, які ходзіць бязмэтна; валацуга’ (Варл.). Ад *пусты́* ‘бязмэтны’ і *ход*, *хадзіць* (гл.).

**Пустацва́н** ‘шавецкія абцугі’ (Скарбы). Запазычанне з рамесніцкай тэрміналогіі нямецкай мовы (з ідыш?); канец слова прыпамінае ням. *Zwang* ‘прыцягненне, прыціск’, што адпавядае прызначэнню (“скуру нацягвалі, бо ў яго захват шырокі”, там жа).

**Пустацве́т** ‘кветка без завязі’ (ТСБМ, Варл., Бяльк., Цых., Сл. ПЗБ), *пустоцве́т* ‘тс’ (ТС), параўн. рус. *пустоцве́т*, дыял. *пустокве́т* ‘тс’, укр. *пусто́цвіт* ‘тс’. Ад *пусты́* ‘бясплодны’ і *цвет* (*квет*) (гл.).

**Пу́сташ** ‘пустка, незанятае месца’ (ТСБМ, Нас., Бяльк.), ‘незасеянае поле’ (Ян.), ‘няўдобіца’ (ЛА, 2; Сл. ПЗБ), ‘абложная зямля’ (ДАБМ, камент., 858), ‘вытаптанае месца’ (добр., Мат. Гом.), ‘неўрадлівае поле’ (чавус., Мат. Маг.), *пусто́ша* ‘запушчанае, занядбанае месца’ (Гарэц., Др.), *пусташа́* ‘пустэча’ (бялын., Нар. сл.), укр. *пу́стош* ‘тс’, рус. *пустошь* ‘тс’, польск. *pustosz* ‘тс’, чэш. *pustoš* ‘тс’, серб. *пу̏сто̂ш* ‘тс’, харв. *pústoš* ‘тс’, балг. *пу́стош* ‘тс’, макед. *пустош* ‘пустыннае, бязлюднае месца’, ст.-слав. **поустошь** (Супрасльскі рук.). Прасл. **pustošь* утворана ад **pustъ* ‘пусты’ (гл.); дзеясловы *пусто́шыць* ‘апусташаць, прыводзіць да запусцення’ (Нас., Шат.), *pustašýć* ‘знішчаць’ (Варл.) хутчэй за ўсё вытворныя, таксама як і ўкр. *пусто́шити* ‘апусташаць’, польск. *pustoszyć* ‘тс’ выводзяць з **pust-* або як запазычанне з чэш. або ўсх.-слав. (Банькоўскі, 2, 966), чэш. *pustošiti* ‘тс’ (ад *pustoš,* Махэк$_2$, 501), серб.-харв. *pustȍšiti* ‘тс’, славен. *pustōšiti* (< харв., Сной, 516), балг. *пусто́ша* ‘тс’, макед. *пустоши* ‘тс’. Аднак *пусташэ́ць* ‘пусцець’ (Нас.) па фанетычных прычынах лічыцца запазычаннем з польск. *pustoszeć,* гл. Цвяткоў,

Запіскі, 2, 56; апошняе, паводле Банькоўскага (2, 966), "даробленае" да *pustoszyc* 'апусташаць'. Падрабязна Куркіна, Зб. памяці Слаўскага, 155.

**Пу́стка** 'пусташ, няўдобіца; зямля, якая не апрацоўваецца' (ТСБМ; палес., ЛА, 2; ТС, Сл. ПЗБ, Шат., Бяльк.), 'нежылое, пакінутае памяшканне' (Жд. 1, ПСл), 'арэндны ўчастак зямлі, на якім няма ніякіх "дваровых выгод" (дома, хлявоў, агароджы і г. д.)' (Яшк. Мясц.), *pústka* 'апусцелая сяліба' (Варл.), *пу́сткі* 'адсутнасць жывой істоты; ураджанне нежылога памяшкання' (Мядзв.), *пустке́* 'пустая зямля' (Сцяц.), *пу́стка* 'беспарадак' (Нік. Очерки), 'пусты арэх' (Нас.), *пу́сткі* 'глупствы; пустата, адсутнасць грошай': *пу́стки в кише́ни* (Нас.), укр. *пу́стка* 'нежылы, пакінуты дом; участак зямлі, які належыць асобе, што выбыла з сельскай абшчыны', рус. дыял. *пу́стка* 'пусташ; пустое, закінутае жыллё', польск. *pustka* 'бязлюднае месца; нежылы дом; разваліна', чэш. *poustka* 'пустое месца, адлог', ст.-чэш. *pústka* 'пусташ'. Утворана ад *пусты́* 'парожні, бязлюдны, непатрэбны' (**pustъ*); параўн. *пу́ста* 'нежылое памяшканне; пусташ; пустата' (гл.).

**Пусто́та** 'пусты, легкадумны чалавек' (ТС), параўн. укр. *пусто́та* 'свавольства'; збор. 'гарэзнікі', польск. *pustota* 'пустата ў галаве, легкадумнасць, свавольства'. Арэальнае семантычнае ўтварэнне ад *пусты́* 'несур'ёзны, легкадумны', цэнтр якога з акцэнталагічнага пункту погляду, магчыма, знаходзіўся на польскай тэрыторыі, параўн., аднак, у польскай падольскай гаворцы "swawola w znaczeniu tak obszérném i niewłasciwém, że i wybicie okna i ukradzenie koni lub opalenie domu zarówno pustotą nazywają" (Крэмер, Słowniczek, 311), што сведчыла б пра ўсходнеславянскі цэнтр інавацыі; паралельнае да *пустата́* 'пустая, парожняя прастора' (ТСБМ, Нар. словатв.), 'неўрадлівае поле' (шкл., Мат. Гом.), укр. *пустота́* 'тс', рус. *пустота́* 'тс', польск. *pustota* 'тс', в.-луж. *pustota* 'тс', чэш. *pustota* 'тс', славен. *pustóta* 'неапрацаванае, закінутае поле' (з 1286 г., гл. Бязлай, 3, 138), балг. *пустота́* 'пустая, незанятая прастора', макед. *пустотија* 'тс'. Усё да **pustъ,* ад якога, магчыма, прасл. **pustota.* Параўн. *пустэча* (гл.).

**Пусто́ўшчына** экспр. 'негаспадарлівы чалавек' (ПСл). Архаізм, параўн. ст.-бел. *пустовщина/пустовщына* 'неапрацаваны кавалак зямлі', *земля пустовская* 'пустэча, пустка' (Статут 1588), *пустовщина* 'незаселены, неапрацаваны ўчастак зямлі' (Ст.-бел.

лексікон), *пустовщизна* 'тс' (< польск., Булыка, Лекс. запазыч., 78), *пустоўская* (*пустовскія*) тлумачыцца як "выморочные имущества", укр. *пустовщина* 'апусцелая сяліба, пусташ', параўн. рус. *пустовóй* 'пусты, вольны, нікім і нічым не заняты'. Да *пуставáць, пусты́* (гл.).

**Пустрэ́к** 'урок' (ПСл). Гл. *прыстрэ́к.*

**Пусты́** — у розных значэннях (ТСБМ), паводле Шымкевіча (Покажчик, 228), 'нічога не ўтрымліваючы ў сабе, нічым не заняты, парожні'; 'благі, кепскі, дрэнны' (ТС), 'парожні; неўрадлівы, нядобраякасны; галодны; легкадумны' (Ян., Сл. ПЗБ), 'слабы' (лельч., Нар. лекс.), 'худы' (петрык., Мат. Гом.), 'неўрадлівы' (ПСл), 'бесталковы' (Жд. 2), 'неаплоднены' (ТС), *pustý* 'незаняты; непатрэбны, некарысны' (Варл.), *пустóе* 'дрэннае ў паводзінах' (Ян.); сюды ж спалучэнні: *пустáя глíна* (у ганчарстве) 'недастаткова вязкая гліна' (клец., Нар. словатв.), *пусты́ дзень* 'час, неспрыяльны для ўраджаю' (Сцяшк. Сл.), *пусты́я дні* 'апошняя квадра месяца' (астрав., іўеў., Сл. ПЗБ), *pustója žýta* 'жыта, у якім не налiліся каласы' (Варл.), *пустóе пóле* 'няўдобіца' (ЛА, 2; гл. *пустапóле*), *пустэ́е слóво* 'лаянкавае, дрэннае слова' (ТС), ст.-бел. *пустая рука* 'асоба, якая не мае законнных спадчыннікаў' (Гарб., Ст.-бел. лексікон), паводле Статута 1588, 'уласнік маёмасці, які не меў наследнікаў па закону' (пры адсутнасці тэстамэнту маёмасць лічылася вымарачнай і пераходзіла ў дзяржаўную казну, гл. *пустоўшчына*); *пустая вдова (жона)* 'бяздзетная жанчына' (Гарб., Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *пустúй* 'парожні; пусты, дрэнны, бессэнсоўны, легкадумны; непатрэбны, бескарысны', рус. *пустóй*, польск. *pusty*, чэш., славац. *pustý,* в.-луж., н.-луж. *pusty*, славен. *pust*, серб.-харв. *пуст*, балг., макед. *пуст* 'пусты, парожні; пракляты', ст.-слав. **поустъ** 'закінуты, бязлюдны'. Прасл. **pustъ* 'пусты, бязлюдны, закінуты' параўноўваюць са ст.-прус. *pausto-* 'дзікі' (у кампазіце *pausto-catto* 'дзікі кот'), роднасным ст.-прус. *paustre* 'дзікае месца, пушча', што ўзыходзяць да і.-е. **paųsto-*, дзеепрыметнік ад **paųse/o*, што захавалася ў грэч. *παύω* 'спыняю, затрымліваю' (адсюль і лац. *pausa*, гл. *паўза*), гл. таксама *пусціць* (Сной, 516; Фасмер, 3, 411; Чарных, 2, 85; Глухак, 513 і інш.). Мартынаў (Этимология—1982, 9) дадае сюды ст.-прус. *paustocaican* 'дзікі конь' і ўзводзіць **pustъ* да і.-е. **peų-/ poų-* з дэтэрмінантам *-s-*,

як у лац. *pūrus* < **pausos* ‘чысты; пусты; цнатлівы; дзікі’, што, мажліва, адлюстраваліся ў чэш. *pouchlý* ‘пусты’, славен. *puhel* ‘тс’. Жуйкова (Беларусіка, 19, 102) рэканструюе зыходную семантыку **pustъ* ‘неасвоены, дзікі, неўпарадкаваны’, на базе якіх развілося значэнне ‘парожні’ праз прамежкавую ступень ‘які не адчуў уплыву людзей; чужы; варожы’. Спецыяльна гл. Куркіна, Зб. памяці Слаўскага, 155.

**Пусты́ннік** ‘посуд, іншы раз плецены’ (горац., Дзіц. фальк., 631). Магчыма, звязана з літ. *pūstìnis* ‘выдуўны, дуты’, параўн. *pūstìnės kélnės* ‘галіфе’, г. зн. шырэйшы ў сярэдзіне, пукаты.

**Пусты́ня** ‘бязлюдная і бязлесная прастора’ (ТСБМ, Варл.), ‘пусташ, няўдобіца, неўрадлівае поле’ (ЛА, 2; ПСл; бялын., Мат. Маг.; Ян., Жд. 1), ‘некранутая мясціна’ (ТС), ‘няўгноенае поле; пустыр’ (Сл. ПЗБ), ‘хата, у якой не жывуць’ (ПСл); ‘пусты, несур’ёзны, распушчаны чалавек’ (пін., Нар. лекс.; Жд. 1), ‘негаспадарлівы чалавек, пустадомак’ (ПСл, Нас., ТС), ‘лгун, балбатун, жартаўнік’ (Варл.; паст., глыб., Сл. ПЗБ), ‘воўк, звер’ (Бяльк.), ‘пушча’: *Царскія палацы оставил еси/Густую пустыню возлюбил еси* (рэч., Груз.), *пусты́нь* ‘неўрадлівая глеба’ (бярэз., Сл. ПЗБ); параўн. укр. *пусти́ня* ‘бязлюдная мясціна; глупства’, рус. *пусты́ня* ‘бязлюдная мясціна’, польск. *pustynia* ‘бязлюдная мясціна, пустка’, чэш. *pustina* ‘пусташ’, в.-луж., н.-луж. *pusćina* ‘бязлюдная мясціна’, славен. *pustínja* ‘пустое, бязлюднае месца’, серб.-харв. *пу̏стиња* ‘тс’, балг. *пусти́ня* ‘вялікая прастора з беднай расліннасцю; пракляцце’, макед. *пустина*, *пустиња* ‘тс’, ст.-слав. **поустыни** ‘бязлюддзе’. Прасл. **pustynji* ад прыметніка **pustъ*, гл. *пусты* ‘дзікі, бязлюдны’; паводле Жуйковай (Беларусіка, 19, 103), архаічным было і ацэначнае значэнне ‘паганы’, адлюстраванае, напрыклад, у *пусты́ня* ‘воўк’ і балг. дыял. *пусти́ня* ў адносінах да жывёлы: “Зашто биеш кравата?”. А она ре́кла: “Зашто да е не бием таа̌ пустин’а” (Сб.НУ, 38, 56).

**Пусты́р** ‘абложная зямля; незасеянае месца’ (ДАБМ, ТСБМ, Цых.), ‘голае поле’ (брасл., Сл. ПЗБ); сюды ж *пусты́рнік* ‘пустка’: *у нас і добрая зямля, і пусты́рнікі* (светлаг., Мат. Гом.). Ад *пусты́* (< **pustъ*), паралелі: рус. *пусты́рь* ‘закінуты куток, пусташ’, серб.-харв. *пу̏стара* ‘пусташ, стэп’, ст.-прус. *paustre* ‘пусташ, дзікае месца’, параўн. таксама Мартынаў, Этимология—1982, 9.

**Пусты́рнік** ‘сардэчнік’ (в.-дзв., смарг., лудз., Сл. ПЗБ), ‘чорны паслён’ (ТС). Запазычана з рус. *пусты́рник* ‘сардэчнік’ (ад *пусты́рь* ‘закінуты куток, пусташ’, дзе расце), параўн.: *пустырнік у нас называюць глухая крапіва* (смарг., Сл. ПЗБ).

**Пустэ́льнік** ‘самотнік, пустыннік’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, Шат., Яруш., Бяльк.): *аб’явіўса ў лесе велікі пустэльнік* (Сержп.), ст.-бел. *пустелникъ* ‘тс’. Запазычанне з польск. *pustelnik* ‘тс’, гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 57 (рэфлекс *э́* на месцы ъ); Булыка, Лекс. запазыч., 175; польск. *pustelnik* < *pustylnik*, *pustynnik* (*l* у выніку дысіміляцыі *ln* < *nn*) ад *pustynia* (Банькоўскі, 2, 966); спецыяльна гл. таксама Дэптухова, ЈР, 1972, 207—211. Іншага паходжання *пусце́льніца* ‘пустадомка’ (ТС), гл.

**Пустэ́льня** ‘адасобленае месца, пустка, пустыня’ (Нас., Бяльк.; Шат.), ‘закінуты, занядбаны куток, месца толькі для пустынніка’ (Др.), ‘вялікі будынак’ (Жд. 1), *pustélnia* ‘вялікая і няўтульная хата’ (Варл.). Запазычана з польск. *pustelnia* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 57), апошняе, паводле Банькоўскага (2, 966), наватвор Славацкага (1847) на базе *pustelnik*, гл. папярэдняе слова.

**Пустэ́ча** ‘пустата’ (Шат.), *пусце́ча* ‘пустка, пусташ, пустаполіца’ (ТСБМ; ЛА, 2; чэрв., Сл. ПЗБ; любан., Нар. словатв.; Сл. Брэс.), ‘неўрадлівае поле’ (Янк. 1, Жд. 1), *пустэ́ча* ‘адзіноцтва, несуцешнасць’ (Варл.), ‘несамастойны, несур’ёзны, пусты чалавек’ (маг., Янк. Мат.; Жд. 1., Янк. 1), *пусце́ча* ‘пусты, бяздумны чалавек; распуста’ (ТС, Ян.). Трубачоў (Слав. языкозн., V, 182, 187—188) на аснове адпаведнасці серб.-харв. *пустоћа* ‘пустата’, славен. *pustoča* ‘тс’ рэканструюе **pustotja* ў якасці праславянскага дыялектызма; формы з палаталізацыяй, распаўсюджаныя пераважна на ўсходнім Палессі, хутчэй за ўсё, другасныя, узнікшыя ў выніку адштурхоўвання ад украінскай дэпалаталізацыі.

**Пусце́льніца** ‘пустадомка’ (ТС). Ад *пусты́* ‘несур’ёзны, бяздумны’ (< **pustъ*), зблíжанае з *пустэ́льня* (гл.); параўн. укр. *пусте́льниця* ‘самотніца, пустынніца’.

**Пусце́ля** ‘абложная зямля’ (ДАБМ, камент., 858), параўн. укр. *пусте́ля* ‘пустыня’, славен. *pustela* ‘пусты чалавек’, макед. *пустелија* ‘пустое месца, пусты край’. Утворана ад *пусты* ‘незаняты’ (< **pustъ*), адносна суфіксацыі гл. Слаўскі, SP, 1, 109.

**Пусці́ць** ‘дазволіць рухацца; кінуць; пакінуць у спакоі; адпусціць, адлажыць’ (Сл. ПЗБ, Сержп., ТС, Яруш., Бяльк.), ‘даць,

вызваліць месца, праход, дарогу' (кір., Нар. сл.) у спалучэннях: *пусціць го́лас* 'падаць голас' (Гарэц.), *пусціць на вецер* 'зачараваць, праклясці, выкарыстоўваючы вецер як сродак пераносу праклацця' (мін., Жыв. сл.), сюды ж *пусціцца* 'пайсці; дазволіць сабе нешта; пачаць расці' (Сл. ПЗБ), *пусціцца ў абу́зу* 'пайсці ў блуд' (Бяльк.), *пусціцца сарама́* 'згубіць сорам' (Шат.), параўн. укр. *пусти́ти*, рус. *пусти́ть*, польск. *puścić*, чэш. *pustiti*, славац. *pustit'*, в.-луж. *pusćić*, н.-луж. *pušćiś*, славен. *pústiti*, серб.-харв. *пу̏стити*, балг. *пу́сна*, макед. *пушти*, ст.-слав. **поустити.** Прасл. **pustiti* ад **pustъ* (гл. *пусты*), гл. Фасмер, 3, 405; Бязлай, 3, 138; Шустар-Шэўц, 2, 1194; першапачатковае значэнне 'зрабіць вольным, вызваліць' (Чарных, 2, 84) або 'кінуць, пакінуць без людзей', што, на думку Сноя (516), адлюстроўвае качавы спосаб жыцця; апошняе можна аднесці і да прымітыўнага (падсечнаагнявога) спосабу апрацоўкі зямлі, якую пакідалі без увагі пасля выкарыстання, бо яна ўжо была пустая, неўраджайная (Махэк$_2$, 501). Гл. таксама *пуска́ць*.

**Пусцява́ць** (*pusciewáci*) у формуле звароту пад час куцці: "gospodarz stuka w ścianę chaty i odwraca się do okna z wołaniem: Moróz, moróz, chodzí kuciu pusciewáci (a. kuciowaci)!" (Маш.). Няясна; відаць, вытворнае ад *пусты* (гл.), г. зн. 'апусташаць'; магчыма, у формуле захавалася архаічная семантыка **pustiti* 'зрабіць пустым', адпаведна, як вынік імперфектывацыі, *пусцява́ць* 'рабіць пустым'.

**Пусця́к** 'нежылое памяшканне' (шчуч., Сл. ПЗБ), *на пусцяка́* 'ўпустую' (Ян.), параўн. рус. *пустя́к* 'дробязь, глупства' і бел. *пусцяко́віна* 'тс' (< рус.). Ад *пусты́* (гл.).

**Пу́ся** 'дрэнны чалавек' (хоцім., Мат. Маг.). Няясна; магчыма, звязана з літ. *pùsė* 'палавіна', *pusė́tinas* 'звычайны, пасрэдны', да семантыкі параўн. *нічо́гі* 'ніякі, дрэнны' (гл.); параўн. таксама рус. дыял. *пу́тя* 'разгублены чалавек', што, магчыма, звязана з *пу́тька* 'індык', параўн. драг. *пу́тя* (дзіцячае) 'курыца' (тады *пу́ся* < *пу́ця*, як *ко́ся* 'конік' і інш. дзіцячыя словы са "спешчанай" палаталізацыяй).

**Пу́та** 'вяроўка, якой звязваюць пярэднія ногі каня, калі ён пасецца' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ), *пу́то* 'тс' (Нас., ТС; мазыр., З нар. сл.; Бес.), мн. л. *пу́ты* 'тс' (Гарэц.), 'аковы, кайданы' (Булг.), *пу́та* 'нізка (грыбоў, рыбы і інш.)' (ЛА, 1; Сл. ПЗБ),

‘непісьменны чалавек’ (Жд. 3), *пýто*, мн. л. *пýта* ‘жалезныя хамуцікі, якімі прымацоўваецца вось да насаду ў возе’ (Сіг.), *píto* ‘рэгулятар на канцы дышла плуга; жэрдкі, што звязваюць крохвы вышэй паловы іх даўжыні’ (Тарн.), у выразе *нáша пýто пасцí* — пра чаргу пасвіць карову і інш. (тут *пута* перадаецца як знак чаргі) (жытк., Мат. Гом.); параўн. укр. *пýто*, мн. л. *пýта* ‘пута, кандалы’, рус. *пýто*, мн. л. *пýты* ‘пута; бесталковы чалавек’, польск. *pęto*, мн. л. *pęta* ‘аковы, кайданы’, чэш. *pouto*, мн. л. *pouta* ‘тс’, славац. *púto* ‘тс’, в.-луж. *puto*, н.-луж. *pyto* ‘тс’, славен. *pǫ́ta* ‘спражка’, серб.-харв. *пӯто* ‘пута’. Прасл. **pǫto*, мн. л. *pǫta*, вытворнае ад **pęti, *pьnǫ* ‘нацягваць, напінаць’, гл. *пяць*, *пну*, роднаснае ст.-прус. *panto* ‘пута, кайданы’, літ. *pántis* ‘тс’, лат. *pineklis* ‘пута, аковы’, літ. *spándyti* ‘нацягваць’, ням. *spannen* ‘тс’, *spinnen* ‘прасці’ (Фасмер, 3, 412; Бязлай, 3, 95 і інш.). Гл. таксама *путаць*.

**Пýтала** ‘пута’ (свісл., Сцяшк. Сл.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *пýтаць* (гл.) — ‘тое, чым путаюць’; параўн. рус. *путлó* (ад *пýто*, Праабражэнскі, 2, 155; Фасмер, 3, 412).

**Пýтаніна** ‘блытаніна’ (Гарэц., Шат.). Да *пýтаць* ‘путаць; блытаць’ (гл.).

**Пýтаніца** ‘курыца, якая нясе яйкі ў розных месцах’ (ст.-дар., Жыв. НС). Хутчэй за ўсё, ад *пýтаць* ‘блытаць; уводзіць у зман’, магчыма, на базе пераасэнсаванага *пýтачка* ‘курачка’, *пýця* ‘курыца’ (гл.).

**Пýтанка** ‘рыбалоўная сетка’ (гом., нараўл., Мат. Гом.), *путáнка* ‘хустка’ (ДАБМ, камент., 946), параўн. таксама рус. смал. *пýтаніца* ‘доўгая сетка’ (Мат. Смал.), *пýтка, пýтанка* ‘тонкая сетка’. Да *пýтаць* ‘блытаць’.

***Пýтаўка** (*пýтоўка*) у выразе *нема путоўкі* — пра адсутнасць карысці, выніку (ТС). Да *пуць* ‘дарога; лад, парадак’ (Нас.), параўн. *без пуцярежывé* ‘бесталкова’ (Ян.) і пад.

**Пýтацца** ‘шумець, пеніцца’ (іўеў.). Лаўчутэ (Балтизмы, 49), са спасылкай на Вяржбоўскага, выводзіць з літ. *putóti* ‘пеніцца’. Гл. таксама *пýты* ‘пена’.

**Пýтаць** ‘звязваць ногі путам; блытаць’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк., ТС), ‘збіваць з толку; гаварыць блытана, непаслядоўна’ (Нас., Бяльк., Шат.), ‘пятляць’ (ТС), укр. *пýтати* ‘надзяваць путы’, рус. *пýтать* ‘путаць, блытаць’, польск. *pętać* ‘надзяваць пу-

ты, кайданы’, чэш. *poutati* ‘тс’, славац. *putat’* ‘тс’, в.-луж. *putać* ‘тс’. Арэальная паўночнаславянская інавацыя ад **pǫto*, гл. *пу́та*, другасныя значэнні, магчыма, пад уплывам **pǫtь* ‘пуць, шлях; толк’; параўн. фразеалагізм *зводзіць з пуці* ‘збіваць з толку, блытаць’, сюды ж *пу́тацца* ‘сноўдацца; блытацца’, рус. *пу́таться* ‘тс’, польск. *pętać się* ‘настойліва нечым займацца; поўзаць, блытацца пад нагамі’ (апошняе значэнне, паводле Банькоўскага, 2, 539, — з рускай).

**Пу́тачка** ‘курачка’: *пу́тачка, пу́тачка, се́ла прр прр* (гавораць, калі хочуць злавіць курыцу (барыс., LKK, 16, 187)). Грынавяцкене і інш. (там жа) звязваюць з літ. *putùtė* ‘тс’; Лаўчутэ (Балтизмы, 147) адносіць да слоў, балтыйскае паходжанне якіх недастаткова аргументаванае. Гл. *пу́ця* ‘курыца’.

**Пу́тка** ‘пяцелька (у адзенні)’ (добр., Мат. Гом.). Гл. *путца* ‘тс’.

**Пу́тнік** ‘баравік, які расце пры дарозе’ (ельск., Жыв. сл.), рус. дыял. *пу́тник* ‘ядомы грыб’. Да *пуць* ‘дарога’, параўн. *трыпу́тнік* ‘расліна Plantago L.’ (< **прыпутнік*), рус. *подоро́жник* ‘тс’. Магчыма, ад *путны₁* ‘каштоўны, сапраўдны’, параўн. *праўдзівік* ‘баравік’ (гл.).

**Путні́на** ‘гультайка’ (чач., Мат. Гом.), ‘сваволькік’ (Юрч. Фраз. 1), *пу́тніца* ‘тс’ (там жа), рус. *пу́тница* ‘распутная жанчына’. Ад *пу́тны* ‘спраўны, здольны’ (гл.) з супрацьлеглым значэннем, параўн. смал. *путни́на* ‘штосьці добрае, прыдатнае для працы’, магчыма, у выніку збліжэння з *пу́тацца* ‘бадзяцца’, гл. *пу́таць*.

**Пу́тны₁** ‘талковы, разумны, здатны, кемлівы’ (ТСБМ; Ян.; Сл. ПЗБ; стаўб., Нар. сл.; гом., Нар. словатв.; бялын., Янк. Мат.), ‘спраўны, слушны, выгодны’ (Нас., Яруш.), ‘разважлівы’ (жлоб., Мат. Гом.), ‘варты, каштоўны, добры’ (ТС), *пу́тній* ‘здольны, спраўны’ (Юрч. Фраз., 1), сюды ж *пу́тна* ‘слушна, добра, дарэчы’ (Гарэц., Др.-Падб., Бяльк.), *путне́й* ‘талковей, ясней’ (рагач., Сл. ПЗБ), ‘зручней, лепш’ (чач., Мат. Гом.), параўн. укр. *пу́тній* ‘талковы, прыстойны, слушны’, рус. *пу́тний* ‘разумны, спраўны, прыстойны, карысны’, польск. *pątny* ‘падарожны’, чэш. *poutní* ‘вандроўны, багамольны’, в.-луж. *pućni* ‘дарожны’, славен. *póten* ‘падарожны, дарожны’, серб.-харв. *путни* ‘тс’, балг. *пъ́тен* ‘тс’, макед. *патен* ‘тс’. Да **pǫtь* ‘шлях, дарога’ (гл. *пуць*), усходнеславян-

ская семантычная інавацыя ‘разумны, талковы’ на базе ўтварэнняў тыпу рус. *путём* ‘так, як трэба’ (Мяркулава, Этимология—1986—1987, 145), фразеалагічных спалучэнняў *без пуця́* ‘бязладна, неразумна’ (Нас.), параўн. *бяспу́тны* ‘непрыстойны, распусны’, з чаго выводзяць значэнне ‘лад, парадак; толк, розум’, *пуцьцё* ‘дабро’ (Бяльк.); параўн., аднак, серб. *пу̏тан* ‘правільны, справядлівы, разумны’ (Вук), якое можа разглядацца як русізм. Грынавяцкене і інш. (LKK, 16, 187) у ашм. *пу́ць* ‘галава, розум’ (*о́семьдзесяць ма́іць, а пу́цю ма́іць*) бачаць запазычанне з літ. *pùtė* ‘курыца’, перан. ‘разуменне’, што вельмі сумнеўна, гл. таксама *пуціць*, *пуццё* і пад.

**Пу́тны$_2$** ў спалучэннях тыпу ст.-бел. *путный слуга* ‘слуга пры каралеўскім двары; чыноўнік, які выконваў розныя даручэнні’ (Ст.-бел. лексікон), *путные бояры* і пад. Ад *пуць*, параўн. ст.-бел. *путь* ‘паход; дарога’ і польск. *służka putny* ‘ў ВКЛ чалавек, які быў пасыльным’; паводле Карскага (1, 282), узыходзіць да ст.-слав. **пѫтьнъ** у выніку зацвярдзення зычнага *т* перад суфіксам *-ьн-*.

**Пу́тня$_1$** ‘вядро, у якім трымаюць ваду ў хаце’ (кобр., Жыв. сл.), параўн. укр. *пу́тня* ‘бочка’, *пути́на* ‘пасудзіна для малака, цэбар для прыгатавання авечага сыру’, польск. *putnia* ‘вялікае драўлянае вядро, цэбрык’, чэш. *putna* ‘тс’, славац. *putn’a* ‘тс’, харв. *putna* ‘тс’, серб. *пу̀туња* ‘скрынка з дошак для пераносу гною, вінаграду, попелу’. Запазычанне, у якасці крыніцы падаюць ням. *putina* ‘тс’ (Брукнер, 449) або ням. бавар. *putten* (літаратурнае *Bütte*) (Махэк$_2$, 501); паводле Банькоўскага (2, 968), “pasterskie słowo karpackie”, што разам з венг. *puttony* паходзіць з рум. *putină* ‘цэбар’, той жа корань у рум. *putinei* ‘маслабойка’; апошнія суадносяцца з с.-лац. *butina* ‘цэбар’ (< лац. *buttis* ‘пасудзіна’, Фурлан—Бязлай, 3, 139); Скок (3, 87) у якасці крыніцы дапускае як ст.-в.-ням. *putinna*, *budina*, так і грэч. πυτίνη, βυτίνη, або іх кантамінацыю, аднак абедзве формы ўзыходзяць да грэч.-лац. *butina*.

**Пу́тня$_2$** ‘скрутак накроеных лык’ (ТС), ‘лыка ці лазовая кара для падплятання лапцей’ (ТС). Гл. *пуцня́* ‘тс’.

**Пу́тра$_1$** ‘кіслая мучная страва, саладуха’ (ТСБМ, Яруш.; в.-дзв., паст., брасл., віл., Сл. ПЗБ; мядз., Нар. словатв.; полац., Нар. сл.; Янук.; Нік., Очерки; Касп., Бяльк., ТС), ‘цура’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), ‘нясмачная, няякасная страва’ (брасл., в.-дзв., Сл. ПЗБ), ‘страва

з прасеянай жытняй мукі, заквашаная і запраўленая расцёртымі ягадамі' (Малч.), 'усё, што робіць ежу крухмалістай' ("как бы пудрит") (Шн., 3), 'рэдкая гразь, балота', 'раска на вадзе, якую ядуць качкі' (гродз., ABSl, 9, 118), н. р. *пу́тро* 'саладуха' (ТС), сюды ж *путра́ны* 'саладушны, зроблены з путры' (Касп.), *путря́нъй* 'густы' (гарад.; Нар. лекс.), параўн. укр. *пу́тря* 'страва з варанага ячменю і салодкага квасу', рус. *пу́тра, пу́тря*, *путро́* 'пойла з мукой; пшонная каша з маслам'. Запазычанне, у якасці крыніцы часцей за ўсё называецца літ. *putrà* 'рэдкая каша; поліўка; пойла', лат. *putra* 'тс' (Блесэ, SB, 5, 17—18, з літ-рай; Фасмер, 3, 413; гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 21, з літ-рай); бел. *путра* ("родъ худаго супа") зблiжаў з эст. *pudder*, *puddro* 'каша' яшчэ Шымкевіч (Шымк. Собр.), параўн. таксама фін. *puuro* 'страва з мукі', крыніцай запазычання якіх лічацца балтыйскія словы, што выводзяцца ад *pùsti* 'ўздувацца, набухаць' (Фрэнкель, 681). Паводле Непакупнага (ABSl, 9, 118), гэта матывацыя пацвярджаецца ў адносінах да геаграфічных тэрмінаў, параўн. палес. *здýховіна* 'дрыгва'; Тапароў зыходным для гідронімаў з элементам *put-r-* лічыць значэнне 'нешта разлезлае, няўстойлівае, нізкаякаснае' і адносіць сюды літ. *pùtryti, putróti* 'чмякаць', *pùtarnoti* 'плявузгаць', лат. *putrât, putruôt* 'тс', а таксама рус. *пу́трить* 'лаять' ("что-то вроде 'разнести в пух и прах', 'стереть в порошок', 'размазать'"), што ўзыходзяць да і.-е. *peu̯-, *pou̯-, *pū̆-* з элементам *-r-* і семантыкай 'успухаць, раздавацца, разрэджвацца' і 'гніць, раскладацца' (Балто-слав. иссл., 1988—1996, 277). Параўн., аднак, заўвагу Віцьбіча: "Путра — усяго толькі нацыянальная латышская *зацірка*, якую часта можна спаткаць на стале латышскіх беднякоў" (Полымя, 1998, 3, 258), а таксама гродз. *пу́тра* (Цых.), *по́тра* (Скарбы) 'пацяруха': *перацерлі мышы зерне ў кублі, адна путра*, што дазваляе хаця б для часткі слоў дапусціць сувязь з *церці*, *тру* (гл.).

**Пу́тра₂** 'лёгкія' (мазыр., Шатал.). Няясна; магчыма, звязана з **ǫtrь* 'унутранасці', параўн. *нутро́* 'сярэдзіна, вантробы' (гл.), *вагку́ша* 'пячонка', *лёгку́ша* 'лёгкія'.

**Пу́тра₃** 'пацяруха' (Цых.). Гл. *по́тра* 'тс'.

**Пу́трыць** 'біць, даваць прачуханку' (віц., Нар. сл.); сюды, відаць, *putryć:* Światyj Alaksiej lemiaszy putryć, Błahawieszczenie

zorywajeć (леп., Федар. 8), якое памылкова тлумачыцца як 'падрыхтоўваць, рыхтаваць' (там жа, 307), параўн. укр. *пу́трити* 'валіць (пра дым); лаяць, распякаць', рус. *пу́трить* 'лаяць, выгаворваць'. Няясна; магчыма, звязана з *путра*$_1$ (гл.).

**Путры́ш** 'шворан' (слонім., Сл. ПЗБ). Няясна; як тэхнічная дэталь хутчэй за ўсё запазычана з нямецкай, параўн. с.-в.-ням. *puterich* 'шланг' і пад.

**Пу́тца** 'прывязка ў цэпа' (ашм., Сл. ПЗБ), *путцо́* 'тс' (ДАБМ, камент., 829), *пуццо́* 'тс' (смарг., Сцяшк. Сл.), *пу́цца* 'тс' (Бяльк.), *пу́тца* 'гафтачка' (Ян.), *пу́цца* 'пяцелька' (ветк., Мат. Гом.), 'вешалка (у паліто)' (Мат. Гом.), параўн. рус. *пу́тце, путцо́, пу́ца, пуцо́* 'прывязка ў цэпа; раменьчык на нагах лоўчых птушак', польск. *pętca, pęca* 'раменьчык на ножках лоўчага сокала', ст.-польск. *pęczca* 'тс' (XVI ст.), ст.-чэш. *pútce* 'кайданкі', н.-луж. *pyśco* 'тс', харв. *pȕce*, мн. л. *pȕca* 'перавязка на нозі авечак, кароў; пяцелька' (памянш. ад *pȕto* 'пута', Скок, 3, 65). Гл. *пута*.

**Путч** 'мяцеж, рокаш' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *путч* 'тс' з ням. *Putsch* 'тс', упершыню ў значэнні 'дзяржаўны пераварот' адзначана ў Швейцарыі (1431 г.); паходзіць ад гукапераймання, першапачаткова 'штуршок, удар', параўн. харв. *državni udar, puč* 'тс' (Глухак, 510).

**Пу́ты** 'пена' (іўеў.), польск. дыял. *puty* 'тс'. Лаўчутэ (Балтизмы, 49) са спасылкай на Вяржбоўскага выводзіць з літ. *putà,* мн. л. *pùtos* пена'.

**Пу́ўка** 'ёрш, Acerina cernua L.' (леп., ЛА, 2). Няясна, відаць, гукапераймальная назва, параўн. літ. *pū̃kis, pūkỹs* 'тс', ням. прус. *Peike* 'тс', укр. *пу́кавка* 'альхоўка, Rhodeus sericeus amarus', польск. *pukawka* 'тс' і пад. Матывацыю гл. пад *пукас*.

**Пух**$_1$ 'мяккія варсінкі; падсцілка шэрсці, поўсць' (ТСБМ, Нас., Сцяшк. МГ, Бес., Сл. ПЗБ; ельск., Мат. Гом.), 'пер'е наогул': *гэто пух, у нас пе́р'е не кажуць* (ТС), 'пер'е (гусінае)' (гом., Мат. Гом.), 'адходы пры паланні, мякіна' (Нас.; ЛА, 2; Выг.; петрык., лун., брагін., Шатал.), 'абдзіркі ад круп, высеўкі' (ПСл; ветк., Мат. Гом.), 'пушны хлеб' (Нас. Сб.), мн. л. *пу́ш'е* 'пер'е' (ТС), параўн. укр. *пух* 'пух, дробныя валаскі', рус. *пух* 'пух; шалупінне з проса, мякіна', польск. *puch* 'мяккае, дробнае пер'е, валаскі', чэш. *puch* 'дробнае пер'е', славен. *puh* 'пух, пушок; галаўня ў збожжы', балг. *пух* 'пух', макед. *пувка* 'чубок'. Прасл.

**pихъ* — аддзеяслоўны назоўнік, семантыка зыходнага дзеяслова 'дуць, дзьмуць', параўн. *пýхаць* 'выпускаць паветра; ферментаваць' (гл.), польск. *puchać* 'пыхаць, пускаць дух', харв. *púhati* 'тс', славен. *pūhati* 'пыхаць, дуць, дымець' (<**pихati*); літаральна 'тое, што адлятае пры подыху (дыхання, ветру)'. Узводзяць да і.-е. **p(h)eu̯s-* 'пыхаць, пухкаць' імітатыўнага паходжання (Бязлай, 3, 134; Скок, 3, 70), параўн. санскр. *púšyati* 'паспяваць', грэч. φῦσα 'пухір', лац. *pussula, pustula* 'тс'; параўнанне з літ. *paustìs* 'шэрсць жывёлы', зафіксаваным на Віленшчыне (гл. Фасмер, 3, 414; Сной, 514 і інш.), сумнеўнае, паколькі апошняе хутчэй за ўсё запазычана з бел. *поўсць* 'тс' (< прасл. **pьlstь* або **pl̥stь*).

**Пух₂** 'агаткі, Antennaria dioica Gaertn.' (віц., Кіс.). Да *пух₁*, параўн. укр. *пух* 'расліна Eriophorum vaginatum L.' і чэш. дыял. *peři* 'тс', названых так з-за знешняга выгляду пладоў.

**Пух₃** — выклічнік, імітуе лопанне, стрэл і пад. (ТСБМ, ЭШ, Сл. ПЗБ; полац., мсцісл., Нар. лекс.). Гл. *пýхаць*.

**Пухá** 'тупы канец яйца' (ЛА, 1, Ян., Жд. 2, Сцяц., Янк. 2; в.-дзв., Шатал.; Сл. Брэс., ТС; карэліц., Жыв. сл.; глыб., беласт., Сл. ПЗБ; брагін., З нар. сл.; Некр., Мат. Гом.), *пýха* 'тс' (Нас.; добр., светлаг., Мат. Гом.), *пухá* 'задняя частка лодкі' (ТС; полац., Янк. 2; ПСл), 'пустата ў пятцы яйца; частка яйца, запоўненая паветрам' (Шат., Сцяц.), сюды ж выраз *добíцца пухí* 'давесці справу да канца', *добíць до пухí* 'даламаць, дабіць канчаткова' (ТС), а таксама *пух* 'тупы канец яйца' (смарг., Сл. ПЗБ); параўн. укр. *пухá* 'тс': *добúти до пухú,* рус. дан. *до пухú* 'зусім, абсалютна ўсё', польск. *pucha* 'тоўсты твар', серб. *пу̏ха* 'пухір'. Прасл. **pиха*, вытворнае ад **pихati* 'дуць, дзьмуць', значэнне лепш за ўсё тлумачыцца славен. *púhel* 'пусты, парожні' (якое Мартынавым разглядаецца як "загадочное в этимологическом отношении", гл. Этимология—1982, 9), г. зн. 'напоўнены (духам, паветрам)' > 'пусты ў сярэдзіне' (так Сной, 514), гл. *пýхаць*, *пух*. Рус. *пýга* 'пустата ў курыным яйцы', хутчэй за ўсё, у выніку азванчэння зычнага ў інтэрвакальным становішчы, параўн. памянш. *пýшка* 'тс' (а не **пýжка*, гл. СРНГ), або ў выніку кантамінацыі з *пýга* 'ўзгорак круглай формы', 'падушка для пляцення карункаў', адносна апошняга гл. Фасмер, 3, 399. Параўн. таксама харв. *puš* 'тупы канец яйца', *pȕšiti* 'дыміць; выпускаць паветра' (адмаўленне сувязі гл. Скок, 3, 85).

**Пухава́ць** ‘абіваць ячмень’ (бярэз., Сл. ПЗБ). Да *пукаць₂* ‘тс’, зблiжанае з *пух* ‘мякіна’ (гл.).

**Пу́халь** ‘пухліна’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё, адваротны дэрыват ад *пухлі́на*, характэрны для поўначы Беларусі прадуктыўны суфікс *-іна* ўспрымаецца як паказчык адзінкавасці (параўн. *тополь* > *то́пъліна* ‘адно дрэва таполі’), экспрэсіўнасці (параўн. *горла* > *гърля́ціна*, асудж.) ці адцягненага дзеяння (параўн. *ру́гань* > *руганíна*), (гл. Крыўко, Нар. словатв., 152—165) і можа быць адкінуты. Гл. таксама *пухло́, пухнуць*.

**Пухаме́ля** ‘слабасільны чалавек’ (Бяльк.). Да *пух* (гл.), у тым ліку і ‘мяккае ахвосце з аўсу і пшаніцы’ (параўн. у Насовіча: *Ухъ! Ѣла баба пухъ*) і *мало́ць*, па тыпу *пустаме́ля* (звяртае на сябе ўвагу субстытуцыя **puchъ/*pustъ*, параўн. славен. *púhel* ‘пусты, парожні’).

**Пуха́р** ‘дзьмухавец, адуванчык, Taraxacum officinale Web.’ (Касп.), *пуха́рка* ‘порхаўка’ (даўг., Сл. ПЗБ), рус. *пуха́рка* ‘тс’. Да *пух* (гл.).

**Пу́хаць** ‘брадзіць, кіснуць; бурчаць’ (шчуч., лід., Сл. ПЗБ), ‘пыхкаць, сапці’: *наесца да пухае* (ТС), ‘лопацца’: *порхаўка пухаіць* (круп., Сл. ПЗБ), *пухаюць пупышкі* (брасл., там жа), *пу́хкаць* ‘тс’ (там жа), укр. *пу́хкати* ‘пыхкаць’, рус. *пу́хать* ‘тс’, польск. *puchać* ‘выпускаць дух; распаўсюджваць водар, смурод’, в.-луж. *puchać* ‘пыхкаць’, н.-луж. *puchaś* ‘цяжка дыхаць; дуць, выдуваць’, славен. *púhati* ‘пыхкаць; дзьмуць; курыць’, серб.-харв. *пу́хати* ‘дуць; смуродзіць’, балг. *пу́хам, пу́хкам* ‘узбіваць; пыхкаць, выпускаць з шумам паветра, дым’, макед. *пуфка* ‘ўздыхаць; фыркаць; вуркатаць’. Прасл. **puxati* ад гукапераймальнай асновы **pux-* (гл. *пух*), якую узводзяць да і.-е. **pou-s-*, што імітуе рэзкі выхлап, выдых і пад.; роднаснае літ. *pũsti, pùsti* ‘дуць, надувацца; сапці’, лат. *pùst* ‘тс’ (Фасмер, 3, 414; Скок, 3, 70; Шустар-Шэўц, 2, 1188), параўноўваюць таксама з грэч. φῦσάω ‘тс’ (Фурлан—Бязлай, 3, 134; Сной, 514). З іншым варыянтам кораня гл. *пы́хаць*.

**Пухачы́** ‘лотаць, Calta palustris L.’ (брасл., Сл. ПЗБ). Відаць, утворана ад *пу́хаць* ‘лопацца, распуквацца’, што адлюстроўвае хуткае раскрыццё бутонаў.

**Пухі́р** ‘уздуцце на скуры; прышч; пузыр’ (ТСБМ; слуц., Нар. словатв.; Клім.; ПСл; ЛА, 3), *паўхі́р* ‘тс’ (Скарбы; зэльв., навагр.,

дзятл., валож., ЛА, 3), *панхір, панхéр* 'тс' (брасл., ашм., смарг., бераст., шчуч., там жа), *пухéр, пухіэр* 'тс' (Сцяшк. Сл., Бес.; пруж., ЛА, 3), *пукір* 'тс' (Сл. Брэс.), *пухір* 'бурбалка' (ТСБМ, іўеў., ЛА, 2), 'высушаны і надзьмуты мачавы пузыр парсюка' (Скарбы; слуц., Нар. словатв.; лях., Янк. Мат.; капыл., Жыв. сл.), 'паветраны пузыр у рыбы' (ЛА, 1), ст.-бел. *пухиръ* 'пузыр'; параўн. укр. *пухíр, пухúрь* 'тс', польск. *pęcherz* 'уздуцце скуры, пузыр', чэш. *puchýř* 'тс', славац. *puchar*, *puchor* 'пузыр, валляк', в.-луж. *pucher* 'пузыр, бурбалка', н.-луж. *puchoŕ* 'тс', славен. *pihȏr* 'тс'; магчыма, сюды таксама серб. *пу̏хор* 'узняты ў паветра попел'. У сувязі з рознай суфіксацыяй лічыцца самастойным утварэннем у славянскіх мовах ад асновы прасл. **puch-*, гл. *пухаць*, *пухнуць* (Шустар-Шэўц, 2, 1188; Бязлай, 3, 135). Банькоўскі (2, 536) рэканструюе заходнеславянскую інавацыю **pǫxyrь* па ўзору **pǫpyrь* 'тс' пад уплывам сінанімічнага **mĕxyrь* (гл. *мяхір*), адкуль фіналь *-xyrь* ("w prasłow. -x- po -ǫ- niemożliwe"). Па фанетычных прычынах (спалучэнне *-xi-* < *-chy-* і інш.) беларускія словы запазычаны з польскай, параўн. таксама Булыка, Лекс. запазыч., 193; Станкевіч, Зб. тв., 1, 39, 50, 407.

**Пýхкі** 'пышны, пульхны, порысты' (ТСБМ; Шат., Др.-Падб.; лаг., Сл. ПЗБ; Воўк-Лев., Татарк., 182); *пýхкы* 'тс' (Клім.), *пухкí* 'пульхны, мяккі, дрыгвяністы' (ТС), параўн. укр. *пухкúй* 'порысты, мяккі'. Ад *пýхаць, пýхкаць* 'брадзіць, ферментаваць', па узору *мя́ккі, лёгкі* і пад.; параўн. падобныя дэрываты з іншай семантыкай: славен. *pȗhek* 'рэдкі; абвіслы (пра адзенне)', славац. дыял. *puchký* 'вільготны, мокры' і інш.

**Пухлéц** 'попельна-шэрая глеба; пясчаная ці падзолістая глеба з неперагніўшымі часткамі расліннасці' (Хрэст. дыял.; полац., Нар. лекс.). Ад *пýхлы* 'рыхлы, порысты'.

**Пухлíна** 'напухлае месца; гуз' (ТСБМ, Шат.; міёр., Нар. словатв.; глыб., воран., шчуч., докш., Сл. ПЗБ; ЛА, 3). Адносна новае ўтварэнне, магчыма, запазычана з польск. *puchlina* 'тс' (з XVIII ст., ад *puchły* 'ўздуты', Банькоўскі, 2, 963), параўн. іншыя народныя назвы: *пýхла, пухля́ціна, вóпух* (ЛА, 3).

**Пухлó$_1$** 'дрыгва, багністае месца' (ТС). Відаць, ад *пýхаць* 'брадзіць; пускаць бурбалкі, пузырыцца', параўн. палес. *уздýхавіна* 'дрыгва'.

**Пухло́₂** ‘пухір у рыбы’ (бяроз., ЛА, 1). Да *пу́хаць* ‘пыхкаць, пшыкаць; лопацца’, аднак не выключана сувязь з *пусты́,* параўн. *пу́сла* ‘паветраны пузыр у рыбы’ (гл.) і славен. *púhel* ‘пусты, парожні’.

**Пухле́ць** (*пухлѣць*) ‘пухнуць’ (Нас.). Ад *пу́хлы*, г. зн. ‘рабіцца пухлым’, параўн. *ста́лы — стале́ць* і пад.

**Пу́хлы** ‘поўны, тоўсты, мяккі’ (ТСБМ), ‘апухлы’ (ТС), ‘пульхны, пышны (пра хлеб)’ (брасл., дзятл., Сл. ПЗБ), ‘пухкі’: *падушка пухлая, пухлы снег* (брасл., в.-дзв., там жа), укр. *пу́хлий* ‘поўны, апухлы’, рус. *пу́хлый* ‘тоўсты, поўны, раздуты’, ст.-чэш. *pouchlý* ‘бясплодны; пусты’, харв. чак. *pûhal* ‘пусты, уздуты, раздуты’, славен. *púhel* ‘тс’, ст.-слав. **пѹхлъ** ‘пусты’. Прасл. **puxlъ* ‘надуты’, прыметнік ад **puxati sę* ‘надувацца’ (гл. *пухаць*), параўн. Сной, 514; Фурлан—Бязлай, 3, 135. Чарных (2, 85) лічыць усх.-слав. словы новаўтварэннямі на аснове **puxnǫti* (гл. *пухнуць*).

**Пухля́к** (*puchlák*) ‘тоўсты, пухлы чалавек’ (Варл.), ‘той, хто мае наліты ад нездароўя твар’ (Нас.), ‘азызлы чалавек’ (ТС, ельск., рэч., Мат. Гом.), ‘падасінавік’ (дзятл., Сцяшк. Сл.), ‘падбярозавік’ (шчуч., Нар. лекс.). Да *пу́хлы* ‘надуты’, што характарызуе знешні выгляд асобы або прадмета.

**Пухна́ч** ‘тоўсты, пульхны чалавек’, ‘мякіннік, хто харчуецца пушным хлебам’ (Нас.), *пухна́цік* ‘пра поўнага, пухлага, пушыстага’ (слонім., Роднае слова, 2001, 5, 89). Да *пу́хнуць* ‘таўсцець, надувацца’, магчыма, ад *пу́хны* ‘пышны’ (гл.).

**Пухне́ць** ‘пышэць, раз’ядацца’ (слонім., Роднае слова, 2001, 5, 89). Ад *пу́хны* ‘пышны’ (гл.) па тыпу *цёмны* > *цямнець* і пад.

**Пухно́** ‘пушны хлеб’ (Нас.). Ад *пу́хны* ‘пышны’, гл. таксама *пушно́* ‘мякіна, хлеб з мякінай’.

**Пу́хнуць₁** ‘распухаць, разбухаць’ (ТСБМ, Гарэц., Шат., Сл. ПЗБ, ТС), ‘апухаць’: *пухнуць людзі ад голаду* (Сержп.), *по́хнуць* ‘тс’: *шчыка похніць* (дрыс., Хрэст. дыял.); параўн. укр. *пу́хнути*, рус. *пу́хнуть*, польск. *puchnąć,* чэш. *puchnouti*, в.-луж. *puchnyć* ‘пыхнуць, дунуць’, н.-луж. *puchnuś se* ‘ўздуцца’, славен. *púhniti* ‘дунуць; ударыць, піхнуць’, серб.-харв. *пу̏хнути* ‘дунуць; сапсаваць паветра’, балг. *пу́хна* ‘пыхнуць; узбіць, выбіць’, макед. *пувне* ‘глуха стукнуць’. Прасл. **puxnǫti* суадноснае з **puxati* (гл. *пу́хаць*, параўн. *цягаць/цягнуць* і пад.); значэнне ‘ўздымацца,

разбухаць’ характэрна для паўночнаславянскіх моў, грунтуецца на семантыцы ‘брадзіць’ (“o skutkach fermentacji, gnicia, rozkładu” гл. Банькоўскі, 2, 963), а форма незак. тр. на *-nǫ-* другасная да **puxъti*, гл. *пухці*, і ў паўднёваславянскіх мовах у дзеясловах зак. тр. са значэннем аднакратнага дзеяння пераважала зыходная семантыка імітацыі раптоўнасці руху, выбуху (гл. *пух₁*), параўн. Фурлан—Бязлай (3, 135), дзе зроблена спроба звязаць паўднёваславянскія формы з **pьchati* (гл. *піхаць*, *пхнуць*). Гл. таксама Куркіна, Этимология—1994—1996, 204.

**Пу́хнуць₂** ‘многа спаць, дрыхнуць’ (ТС; ушац., Нар. лекс.; уздз., Жд. 3; светлаг., Мат. Гом.), ‘спаць без просыпу’ (Ян.), параўн. польск. арг. *puchnąć* ‘заспаць’. Метафарычнае ўтварэнне на базе *пухнуць₁*; зыходнае значэнне ‘брадзіць, гнісці, раскладацца’, параўн. тыпалагічную паралель: серб. дыял. *ква̏сити* ‘ляжаць доўга ў ложку, гультайнічаць’ і ‘кіснуць’.

**Пу́хны** ‘пышны’: *пухныя пончкі* (гродз., Сл. ПЗБ). Прыметнік на *-н-* (*-ъn-*) ад *пу́хаць* (**puxati*), паралельны да *пу́хлы* (суф. *-л-*), гл. таксама *пухо́ны*, *пушо́ны*.

**Пухны́р** ‘паўнатвары чалавек’ (Шат.). Да *пу́хнуць* ‘распухаць, разбухаць’; сюды ж, відаць, і другаснае *пухны́р* ‘пухір’ (карэліц., Нар. лекс.). Гл. *пухны*.

**Пухня́к** (*пухніэк*) ‘падбярозавік’ (беласт., Ніва, 1979, 28 кастр.). Ад *пухны* (гл.), параўн. *пухля́к* ‘тс’.

**Пухо́вы₁** ‘зроблены з пуху’ (ТСБМ, Бяльк.). Ад *пух* ‘падшэрстак, ворс, дробнае пер’е’.

**Пухо́вы₂** ‘неправеяны, неачышчаны, з мякінай’: *пуховая мука, хлеб пуховы* (Арх. Федар., Жд. 2), ст.-бел. *пуховый* ‘тс’, рус. *пухо́вый* ‘перамолаты разам з мякінай (пра муку); пышны, рыхлы і лёгкі (пра хлеб)’. Ад *пух* ‘мякіна, адходы пры веянні, паланні’.

**Пухо́ны** ‘пухлы, пышны (пра хлеб, булкі, аладкі)’ (Шат.; бярэз., Сл. ПЗБ), *пуха́ны* ‘тс’: *пуханы хлеп у дзірачках* (віл., Сл. ПЗБ). Дзеепрыметнік ад *пу́хаць* або прыметнік ад *пух* ‘мякіна, высеўкі’ (< **pux-ъnъ*), параўн. *пушо́ны* (гл.).

**Пухо́ўка** ‘рагоз, катах рагозу’ (Нас.; дзісн., Жыв. сл.; Кіс.; Гарэц.), ‘порхаўка’ (Нас., Бяльк.). Да *пуховы₁*, параўн. *пухо́ўка* ‘пуховая падушка’ (Нас.), сюды ж, відаць, і *пухо́ўка* ‘гатунак яблыкаў’: *пухоўкі растуць вялікія* (Янк. 1).

**Пухтава́ць** (*пухтоваць*) 'валіць (пра дым)' (ганц., Сл. ПЗБ). Відаць, "інтэнсіўны" ітэратыў да *пу́хаць* 'пыхаць' (гл.), параўн. *пухць* (гл.).

**Пу́хці** 'пухнуць' (Шат.). Гл. *пухнуць*.

**Пухць** — выклічнік 'бух' (шальч., Сл. ПЗБ), сюды ж *пухчэ́ць*, *пухцёць* 'брадзіць; бурчаць' (в.-дзв., паст., рас., Сл. ПЗБ). Аўтары названага слоўніка параўноўваюць з літ. *pũkt* 'тс', *pukšė́ti* 'тс', аднак, хутчэй за ўсё, гэта вытворнае ад гукапераймальнага *пу́хаць* (гл.), параўн. серб.-харв. *пухтати/пу̏ктати*, *пу̏кћем* 'біць ключом, бурліць', у якіх Скок (3, 69) бачыць анаматапеізмы.

**Пу́хця** (*пухтя*) 'той, хто надзьмуў шчокі' (кобр., Нар. лекс.), укр. *пухтя́* 'таўсцяк'. Аддзеяслоўны назоўнік, параўн. *пухти́ты* 'ўспыхваць, гудзець (пра агонь)' (Клім.). Рус. *пухте́ть* 'паднімацца, падходзіць (пра цеста); брадзіць', серб.-харв. *puhtati* 'пускаць бурбалкі, бурліць' і асабліва *пу̏хор* 'попел, што ўздымаецца ўверх'; усё да **puxati* 'пыхаць, дзьмуць' (Скок, 3, 69). Гл. *пу́хаць*.

**Пуц₁** 'сякера з доўгім тапарышчам; калун' (ЛА, 2; ТС; Сл. Брэс.; Янк. 1; петрык., Шатал.; слуц., Нар. словатв.; ПСл; Нар. Гом., Сл. ПЗБ), *пуцо́* 'тс' (Сл. ПЗБ), *пуц* 'сякера з малым тапарышчам' (Сцяшк. Сл.). Запазычанне з ням. *Putz* 'тс', параўн. *putzen* 'чысціць, прыбіраць' і тлумачэнне Янкоўскага: "цяслярская прылада, цяжкая сякера, якой ачэсваюць тоўстыя бярвенні" (Янк. 1).

**Пуц₂** 'тугадум' (клец., Нар. лекс.), 'глупства (са зладзейскага жаргону)' (Полымя, 2001, 6, 204). Метафара да *пуц₁*, параўн. 'тупая сякера' (ст.-дар., Сл. ПЗБ) і перан. *калу́н* 'тупы чалавек'.

**Пуц₃** 'ногаць' (карэліц., Шат.). Няясна.

**Пуц₄** — выклічнік для імітацыі лёгкага падзення (Нас.), прысядання: *я лаўлю курыцу, а яна пуц — і села* (ЭШ), раптоўнага спынення: *пуц — ды стаў конь* (Шат.), сюды ж *пу́цнуць* 'упасці': *пуцнуло яблоко* (Нас.), 'упасці ад стомы, зваліцца' (слонім., Жыв. НС). Паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 168), адзін з варыянтаў "навейшага гукапераймання" для імітацыі раптоўнага дзеяння, параўн. укр. *пац, пэц, пуц, пуць*, польск. *puc, pęc, pac*: *puc go na ziemię*, а таксама выклічнік для нацкоўвання сабакі: *puc go!*, тое ж і серб.-харв. *puc* (адносна апошняга Скок, 3, 65: Путанец, там жа, параўноўвае са ст.-слав. **ѹстити** 'incitare', серб.-харв. *usta* і пад.).

**Пýца** 'морда, пыса' (Ян.), 'твар з поўнымі шчокамі' (шчуч., З нар. сл.), *пýцы* 'шчокі': *набіваць пуцы* (астрав., Сл. ПЗБ; шчуч., Даніл. Сл.), *пýцка* 'шчака, шчочка' (Сцяшк. Сл.; маладз., Янк. Мат.; мядз., Жд. 3), *пýцкі* 'адутлаватыя шчокі' (Мядзв.), 'ружовыя плямы на твары' (ЛА, 3; навагр., Нар. сл.); 'губы': *надуць пуцкі* (рас., Сл. ПЗБ), 'костачкі пальцаў' (шчуч., там жа), *пýцькі* 'тс' (дзятл., там жа), *пýцкаць* 'размазваць па твары' (Цых.); *пýцкала* 'мурза' (дзятл., Сл. ПЗБ), *пуцáйла* 'таўстаморды чалавек' (Нас.), сюды ж *пуцáты* 'мардаты, паўнашчокі' (шчуч., З нар. сл.; драг., Нар. лекс.; шальч., Сл. ПЗБ), *пуцавáты* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *пуцкаваты* (*пуцковатый*) 'з адутлаватымі шчокамі' (Мядзв.), *пуцкувáты* 'з вялікімі губамі' (полац., Нар. лекс.), *пуцукавáты* (*пуцуковатый*) 'таўставаты, мускулісты' (Нас.); параўн. укр. *пýцка* 'membrum virile', рус. ласк. *пýцынький* 'кароценькі', польск. *puca* 'тоўсты, надуты твар; выцягнутыя вусны для пацалунку', *puc* 'шчака, губа, рот; пучка (у пальцы); мардаты або губаты чалавек; вялікі кавалак чаго-небудзь тоўстага', *pucka* 'паўнатварая дзяўчына; цяльпук; таўкач', чэш. *pucek* 'тоўстая шчака ці іншая тоўстая дэталь ці прадмет', *pucka* 'паўнатварая дзяўчына', мар. дыял. 'шар; гула', славац. дыял. *pucka* 'вялікі молат з тоўстым канцом; таўсташчокае дзіцяі; кулак', в.-луж. *puck* 'клубок', н.-луж. *puck, pucka* 'пупышка, бутон'. Адносна беларускіх слоў, у якіх можна бачыць заходнеславянскі рэфлекс *-c-* (замест *-č-*), Цвяткоў (Запіскі, 2, 75), параўнаўшы з польскімі словамі, выказаў меркаванне, што ў аснове разгледжаных формаў ляжыць "перайманьне гуку, які ўтвараецца ад надзіманьня шчок і выпусканьня потым паветра з роту"; гукапераймальнае паходжанне прымаецца і для іншых слоў, параўн. Махэк$_2$, 74 (паралельныя экспрэсіўныя ўтварэнні да *bucati* < выкл. *bu(n)c*); Шустар-Шэўц, 2, 1187 (аснова **puc-/ *pęc-* на базе гукапераймальнага *pu-*, пры гэтым *-c-* мае старажытнае паходжанне, як у рус. *бацать/ботать*); Скок, 3, 67 (экспрэсіўная метафара *pàpucati se* 'наесціся, нарэзацца', што ўзыходзіць да **pǫk-*). Звязана з *пýчыць, пýкаць*, параўн. *пуцалаваты* (гл.).

**Пуцавáць$_1$** 'прагна есці' (гродз., Жыв. НС), *пуцовáць* 'злавацца' (жытк., там жа). Відаць, да папярэдняга слова (гл.); параўн., аднак, польск. *pucować* 'жэрці', чэш. *spucovati* 'з'есці', якія аўтары Варшаўскага слоўніка (Варш. сл., 5, 426) і Махэк$_2$ (475) выво-

дзяць з польск. *pucować* 'чысціць', чэш. *pucovati* 'тс' < ням. *putzen* 'тс', г. зн. 'пакідаць посуд чыстым'.

**Пуцава́ць**$_2$ (*пуцэва́ць*) 'абчэсваць бярвенні' (ПСл). Ад *пуц* 'цяслярская сякера' (гл.).

**Пу́цак** 'таўсцяк', памянш. *пу́цачак* (*пу́цочек*) 'поўненькае, тоўсценькае дзіця' (Нас.), сюды ж польск. *pucek* 'тс', якое Банькоўскі (2, 962) лічыць утварэннем няпэўнага паходжання. Да *пу́ца* (гл.).

**Пуца́к** 'пацук' (віц., беш., Нар. сл.; в.-дзв., рас., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *пуцу́к* 'тс' (глыб., ЛА, 1). Аналагічнае да *пува́к* 'павук' (гл.), магчыма, пад уплывам *пуцукава́ты* 'таўставаты' (Нас.). Гл. *пуцук*.

**Пуцалава́ты** 'круглатвары, з тоўстым, шырокім тварам' (Скарбы, Чэрн.), 'з адвіслымі шчокамі' (слонім., Нар. лекс.), *пу́цалаваты* 'мардаты' (Сцяц.), *пуцалава́ценькі* 'пухленькі' (астрав., Сл. ПЗБ), параўн. польск. *pucołowaty* 'з тоўстымі шчокамі', паводле Банькоўскага (2, 963), ад ст.-польск. дыял. *pucoł,* адлюстраванага ў анамастычных назвах. Да *пу́ца* 'морда', *пу́цы* 'шчокі' (гл.); пытанне пра запазычанне застаецца нявырашаным, параўн. і *пуца́йла* 'таўстаморды чалавек'.

**Пуцга́н** 'пузаты' (Стома-Сініца). Гл. *пузган* 'тс'.

**Пуце́ль** 'кісель на малацэ' (жлоб., Мат. Гом.). Няясна, канец слова нагадвае *кісе́ль*.

**Пуцёвы** 'добры, спагадлівы' (ст.-дар., Жыв. НС), *пуця́шчы* 'добры' (карм., Мат. Гом.). Да *пуць* 'лад, парадак' (гл.).

**Пу́цікі** 'пацёкі, рагі (поту, слёз, дажджу і пад.)' (Бяльк., Шымк. Собр., Касп.; рас., Шатал.; круп., шуміл., Сл. ПЗБ; ЛА, 3), 'ледзяшы' (ЛА, 3; ушац., Нар. лекс.). Ад **пуцік* 'дарожка', памянш. да *пуць* 'шлях, дарога', параўн. укр., рус. *пу́тик* 'дарожка', в.-луж. *pućik* 'дарожка, сцежка' і пад.

**Пуці́на**$_1$ 'сцежка' (Жд. 1), рус. *пути́на* 'дарога'. Да *пуць* 'тс'.

**Пуці́на**$_2$ 'каліна; ягады каліны' (навагр., шчуч., Сл. ПЗБ; лід., Сцяшк. Сл.), памянш. *пуці́нка* (Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене і інш. (там жа), запазычанне з літ. *pùtinas* 'тс', параўн. літ. *putinúoti* 'чырванець'.

**Пуці́нка** 'сорт яблыні, якая дае зялёныя кісла-салодкія яблыкі, і яе плады' (ТСБМ; жлоб., б.-каш., нараўл., лоеў., Мат. Гом.), *пуці́нька* 'тое, што і пепін' (Мат. Гом.), *путі́мка* 'сорт яблыкаў' (Сіг.), укр. *пути́вка* 'сорт невялікіх круглых яблыкаў', рус. *пу-*

*тйвка* ‘сорт паўночнарускіх яблыкаў’; магчыма, сюды ж польск. *pucierka* ‘сорт дзікіх сліў’. Няясна; магчыма, ад месца выявдзення сорту, параўн. назву горада *Путивль* ад гідроніма *Путивка* (першапачаткова **Путивъ*, гл. Фасмер, 3, 412), тыпалагічна *антó-наўка* ад назвы горада *Антонава* (там жа, 1, 80).

**Пуціў** (*пуціў*) ‘адзінка меры каля сямі кілаграм’ (малар., Нар. лекс.). Няясна.

**Пýціць** ‘прыводзіць у парадак’ (бялын., Мат. Гом.). Да *пуць* ‘лад, парадак’.

**Пýцкала** ‘мурза, бруднюха’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Ад *пýцкаць* ‘размазваць па твары’, гл. *пýца*.

**Пýцкела** ‘перапёлка’ (воран., Шатал.). Паводле Лаўчутэ (Балтызмы, 127), запазычана з літ. *pùtpelė, pùtpela* ‘тс’, хаця неарганічная для беларускай мовы субстытуцыя *tpe-* > *цке-* застаецца невытлумачальнай; хутчэй за ўсё, з **пуцькала* ад *пýцькаць* у выніку “пераносу” мяккасці (гукаперайманне *пуць-пуць*) у спалучэнні *-цьк-* > *цк*’, магчыма, пад уплывам балтыйскіх назваў. Параўн. таксама харв. *pućka* ‘перапёлка’ і пад., в.-луж. *pocpula*, н.-луж. *paćpula* ‘тс’.

**Пуцня́** ‘пук, вязка (пянькі, лык, ільну)’ (Нас., Мядзв.), ‘старая мера льну, роўная 12 кг’ (іўеў., Сл. ПЗБ), *пуцéнька*, памянш. ад *путня* ‘скрутак лазовай кары’ (ТС), *пуцэ́нька* ‘пучок лык, дзесяць лык’ (Бяльк.), ‘пучок змятай пянькі’ (Нас.), *пуцэ́нічкі* ‘пучкі’ (паст., Сл. ПЗБ). Рэдкая паралель серб.-харв. *pucenka* ‘пятля, пяцелька’, а таксама *pȕce* ‘гузік’, мн. л. *pùca* ‘путы на нагах авечак, кароў’, якія Скок (3, 65) выводзіць ад **pǫto* (гл. *пута*), дае падставы бачыць у беларускім слове архаізм на базе першапачатковага дэмінутыва *пýтца* (гл.), варыянт *пýцца* з семантыкай ‘нешта зблытанае’: *пýтца* > *пуцэнька* > *пуцня*, з аднаўленнем матывацыі — *путня́* ‘пук, вязка’ (гл.). Зрэшты, нельга выключыць магчымасць сувязі з *пýца* (гл.) з абагульненым значэннем ‘нешта круглае, надутае’, пра што сведчыць брэсц. *пуцэнька* ‘таўстушка’ (Бел. мова і літ-ра ў ВНУ. Брэст, 1971, 202).

**Пуцóк** ‘penis’ (КСТ). Магчыма, фанетычны варыянт да *пыцóк* (гл.), параўн., аднак, укр. *пýцка* ‘membrum virile’, арг. *пýца* ‘тс’ (< рум. *puța* ‘penis’), славен. *puca* ‘penis (у малых дзяцей)’ (< істрыйск. *puță* ‘тс’), апошняе Скок (2, 88) выводзіць з лац. **pūttium* ад *puttus* ‘дзіця’. Параўн. таксама *пéцік* ‘penis (у дзяцей)’.

**Пуцо́ліць** ‘прагна есці’ (свісл., Сцяшк. Сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *пуцава́ць* ‘тс’.

**Пуцу́к** ‘таўстатвары чалавек; пацук’ (Нас.; в.-дзв., глыб., Сл. ПЗБ). Кантамінацыя *пуца́ты* ‘мардаты’ і *пацу́к*, гл. *пуца*, *пуцак*.

**Пуццё** ‘толк, карысць’ (Ян.), дабро’ (Бяльк.), ‘толк, лад’; ‘балаўнік’ (Юрч. Фраз. 1), параўн. укр. *пуття́* ‘толк, карысць’. Форма зборнага назоўніка ад *пуць₂* ‘лад, парадак’.

**Пуць₁** ‘дарога, шлях’ (ТСБМ, Нас., Яруш., Сл. ПЗБ), ‘чыгунка’ (Жд. 1, Сл. ПЗБ)’, ‘пуцявіна, пуціна, жыццёвы шлях’ (ТС, Сл. ПЗБ), а таксама *пуць*, ж. р. *пуця́* (Янк. 2, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *путь* ‘паход; дарога’ (Ст.-бел. лексікон), сюды ж *пуці́на*, *пуцяві́на* ‘дарога’ (Яруш.), *пуці́нка* ‘сцежка’ (барыс., Шн. 2), укр. *путь* ‘шлях, дарога’, рус. *путь*, польск. *pąć* ‘падарожжа, дарога’, чэш. *pout’* ‘багамольства, пяльгрымка’, славац. *pút’* ‘праход, шлях’, в.-луж. *puć*, н.-луж. *puś* ‘дарога, чыгунка; падарожжа’, палаб. *pǫt* ‘дарога’, славен. *pọ̑t* ‘шлях, дарога’, серб.-харв. *пу̑т*, балг. *път*, макед. *пат*. Прасл. **pǫtь* ‘шлях, дарога’ звязана з асновай і.-е. **pent-* ‘ступаць, ісці, знаходзіцца’ і суадносіцца з назвамі дарог ад кораня **pont-/ pn̥t-*: ст.-інд. *pánthāḥ*, грэч. πόντος ‘марскі шлях, мора’, πάτος ‘сцежка’, лац. *pons* ‘гаць, мост’, ст.-в.-ням. *pfad* ‘сцежка’, з іншым вакалізмам прус. *pintis* ‘шлях’ (Фасмер, 3, 413; Скок, 3, 86—87; Шустар-Шэўц, 2, 1187; Глухак, 513; Сной, 477; Чарных, 2, 85 і інш.).

**Пуць₂** ‘лад, парадак, мера’ (Нас.), ‘толк, розум’ (Ян.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), ‘памяць’ (паст., шальч., шчуч., Сл. ПЗБ), ‘дабро’: *ні будзіць зь цібе пуці* (Бяльк.), сюды ж *пуця́чы* ‘варты, каштоўны, добры’ (Бяльк., Ян.), *пу́тны* ‘талковы’ (гл.), параўн. укр. *путня́* ‘шлях; толк’, рус. *без путя́* ‘без толку, дарэмна, без прычыны, карысці’. Утворана на базе пераноснага ўжывання *пуць* ‘дарога; жыццёвы шлях’, г. зн. ‘правільны шлях’ у выніку пераасэнсавання пад уплывам фразеалагізмаў і выразаў тыпу *пуця ни въ чомъ не знаешъ*, *безъ пуця сваволитъ* (Нас.), *бяспу́тны*, *непуцёвы* і пад.; меркаванне Грынавяцкене і інш. пра запазычанне з літ. *pùtė* ‘курыца’; перан. ‘разуменне’ (LKK, 16, 187), паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 147), недастаткова аргументаванае.

**Пуць-пуць** — выклічнік для падзывання курэй (Сцяц., Дразд.; швянч., Сл. ПЗБ), *путь-путь* ‘тс’ (Сл. Брэс.; пін., Шатал.),

17. Зак. 1697.

*пу́тю-путь-пу́тька* ‘тс’ (пін., Нар. лекс.), параўн. укр. *путь-путь*, літ. *put’-put’*, лат. *put-put* і пад. Гукаперайманне, якое перадае галасы розных птушак, параўн. Смаль-Стоцкі, Приміт., 170; Скок, 3, 66. Лучыц-Федарэц (БЛ, 17, 66—67) адносіць да балтызмаў, што сумнеўна. Гл. *пуця*.

**Пуцэ́лцал** ‘шавецкая прылада для навядзення на рантах і абцасах глянцу’ (Скарбы). З нямецкага (пасрэдніцтва ідыш?) *Putzholc*, параўн. польск. *piculec* ‘дошка для ачышчэння нажоў’, або з ням. *Putzhubel*, параўн. польск. *puchubel* ‘гэблік для канчатковага выгладжвання паверхні дрэва да бляску’ (Варш. сл.).

**Пуцэ́нька** ‘пучок лык, пянькі’ (Нас., Бяльк.). Гл. *пуцня*.

***Пу́ця**$_1$, дзіц. *пу́тя* ‘курыца’ (Клім.), *пу́тачка* ‘курачка’ (барыс., LKK, 17, 187), *пу́ценькі* ‘кураняткі’ (Сцяц.), в.-луж., н.-луж. дзіц. *puta* ‘курыца’, польск. вілен. *put’a* ‘курыца’, славен. *pùta* ‘тс’. Паводле Турскай (Powstanie, 106), польскае слова ўтворана ад выгуку *put’-put’*, якім клічуць курэй, тое ж датычыць беларускага (гл. *пуць-пуць*), лужыцкага і славенскага слоў (ад *put-put*), гл. Шустар-Шэўц, 2, 1194; Сной, 517. Грынавяцкене і інш. (LKK, 17, 187) выводзіць *пу́тачка* з літ. *putùtė* ‘курачка’, што сумнеўна.

***Пу́ця**$_2$, *пу́тя* ‘cunnus’ (драг., БЛ, 17, 67), польск. сейн. *put’a*, *put’ka* ‘pudmen muliebre’, дыял. *puta*, *putka* ‘penis; cunnus’. Меркаванне пра балтыйскае паходжанне, параўн. літ. *pùtė* ‘pudmen muliebre’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 83; Лучыц-Федарэц, БЛ, 17, 67), якое грунтуецца на фармальным атаясамліванні *пу́ця*$_1$ і *пуця*$_2$, недастаткова абгрунтаванае, бо табуізаванне назваў геніталій праз назвы хатніх птушак вядомае значна шырэй, параўн. *ку́рыца*$_2$, *пятух* (гл.), балг. *кур* ‘penis’, *пу́тка* ‘cunnus’ і пад.; спасылка на вакалізм пачатку слова *pu-*, прысутны ў літ. *putýtis* ‘птушка’, лат. *putns* ‘тс’ пры прасл. **pъta* (Лучыц-Федарэц, там жа), не пераконвае, бо ў аснове назвы *пуця*$_1$ ляжыць гукаперайманне; палаталізаваны варыянт канца слова характэрны для т. зв. дзіцячых слоў, параўн. *ко́ця* ад *кот*, *ву́ця* ад *вутка* і пад. Да *пуця*$_1$ ў выніку табуізацыі ці эўфемізацыі зыходнай назвы.

**Пу́чка**$_1$ ‘костачка, сустаў на пальцы’ (Сцяц., ЛА, 3; брагін., Шатал.; лід., свісл., іўеў., беласт., Сл. ПЗБ; слонім., Нар. лекс.), ‘костачка на ступні нагі’ (Жд. 2), ‘кончык, падушачка на пальцы’ (ТС; шчуч., свісл., лях., Сл. ПЗБ, Сцяшк., ПСл, Мат. Гом.), ‘невялікая колькасць чаго-небудзь, узятая кончыкамі пальцаў, шчо-

пацьʼ (лун., Шатал.; ТС; жытк., нараўл., Мат. Гом.), ‘скула на твары; ружовыя месцы на шчацэʼ (ЛА, 3; барыс., віл., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), *пу́чкі* ‘пальцы на рукахʼ (Растарг.), параўн. укр. *пу́чка* ‘кончык пальца, палец; шчопацьʼ, рус. *пу́чка* ‘палец, мяккая частка пальцаʼ. Да *пук* ‘выпукласць, пукатасцьʼ (гл.), параўн. польск. *рис*, *риска* ‘падушачка пальцаўʼ (Брукнер, 447: да *pęc, pęk*), славац. *риска* ‘кулак, сціснутая рукаʼ. Сюды таксама *пучо́к* ‘падушачка на пальцы, мякішʼ (свісл., Шатал.).

**Пу́чка$_2$** ‘пятка яйцаʼ (ЛА, 1; астрав., Сл. ПЗБ). Ад *пу́шка* ‘тсʼ (< *пуха*, гл.), зafterненае ў выніку семантычнай блізкасці з *пу́чка$_1$*. Параўн., аднак, рус. дыял. *пу́ка* ‘тупы канец яйцаʼ, што не выключае паходжання ад *пук* ‘выпукласць, пукатасцьʼ.

**Пу́чка$_3$** ‘бурачнік, баршчэўнік без лісця — сцяблінкаʼ (Мар. дыс.), рус. *пу́чка* ‘баршчэўнік, Heracleum; дзягіль, Archangelica officinalis Hoffm.ʼ. Да *пук* ‘кветаноснае сцябло’ і назвы іншых раслін з патоўшчанай верхняй часткай, напрыклад: *пук* ‘дзягільʼ (гл.), насуперак Фасмеру (3, 415), які выводзіць рускае слова з эст. *put'k* ‘баршчэўнік, трубкаʼ, фін. *putki* ‘тсʼ.

**Пучо́к$_1$** ‘лыткаʼ (ЛА, 3). Ад *пук* ‘выступʼ, параўн. спалучэнне *пучок лыткі* ‘мяккая частка лыткіʼ (там жа).

**Пучо́к$_2$** ‘верацяно пражыʼ (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *пук* ‘пукатасць, выпукласцьʼ, што характарызуе знешні выгляд напрадзенага.

**Пучо́к$_3$** ‘сноп сцяблоў (ільну, канапель і інш.); мера канапляўʼ (Яшк. Мясц.; Сл. ПЗБ), сюды ж *пучкі́* ‘паплаўкі, зробленыя з бізунніку і прыстасаваныя для плавання на іхʼ (Янк. 1). Памянш. да *пук* ‘вязка, снопʼ.

**Пучо́к$_4$** ‘драўляная або металічная падстаўка ў падсядзёлкуʼ (Касп.; рагач., Сл. ПЗБ), *пучкі́* ‘падсядзёлакʼ (Янк. 1). Да *пук* ‘выступʼ.

**Пучо́к$_5$**: *шляхтичей крестьяне зовутъ пучками, если они живут на одзиночцы* (віц., Шн. 3), параўн. *пучо́к* ‘заможны селянінʼ (Мат. Смал.). Да *пук* (гл.), паралельнае да рус. дыял. *пу́чка* ‘поўны, тоўсты чалавекʼ.

**Пучы́на** ‘ўздухавіна, крынічная мясцінаʼ (гарад., Нар. лекс.). Рэлікт прасл. **pǫčina*, што захаваўся з такім значэннем на ўсходнеславянскай тэрыторыі, гл. Борысь, БЛ, 15, 52. Рус. *пучи́на* ‘глыбіня, бездань, прорва; мораʼ, укр. *пучи́на* ‘марская глыбіня, без-

дань', ст.-рус. *пучи́на* 'мора; бязмежжа; прорва, невычэрпная крыніца', ст.-бел. *пучина*: *в черъмнѣмъ мори, пучинои покри ихъ* (Скарына), Бярында тлумачыць як "глубо́кост(ь) морска ... или широкость морскихъ водъ", што сведчыць пра ненароднасць слова (Німчук, Давньорус., 127). Усе названыя формы запазычаны са ст.-слав. **пѫчина** 'марская прастора, глыбіні мора, акіян; бездань, прорва', параўн. таксама балг. *пучи́на* 'бездань, прорва; цясніна', макед. *пучина* 'адкрытае мора, марская прастора', серб.-харв. *пу̏чина* 'адкрытае, шырокае мора; небасхіл; поле; сярэдзіна лета, зімы', славен. *pǫ̑čina* 'адкрытае мора' (запазычана са ст.-слав. або серб.-харв., гл. Бязлай, 3, 67). Выводзіцца з **pǫk*- (гл. *пук*) як абстрактны назоўнік з суфіксам *-ina* (Скок, 3, 66), параўн. бел. *пук неба* (Нар. Гом.), *пук зімы* (Варл.), а таксама серб.-харв. *пу̏котина* 'шчыліна' (Фасмер, 3, 415); звязана з *пу́чыць* (гл.) < **pǫčiti* 'павялічвацца, пашырацца; трэскацца' (Глухак, 511; Чарных, 2, 86); семантычна блізкія ўтварэнні харв. *puč* 'шчыліна, правал', рум. *puț* 'яма; студня' (< слав.).

**Пучы́нкі** 'калматка, Filago arvensis L.' (Кіс.). Да *пук* 'пупышка (на сцябле)', параўн. *пучы́нкі папу́каліся* (шчуч., ваўк., Сл. ПЗБ).

**Пу́чыць** 'раздуваць, уздымаць' (ТСБМ), *пу́чыцца* 'ўздувацца, узнімацца ўгору', параўн. укр. *пу́чити* 'тс', рус. *пу́чить, пу́читься* 'тс', польск. *pęczyć* 'рабіць выпуклым, надуваць', серб.-харв. *на̀пучити се* 'надуцца, раззлавацца', славен. *pǫ́čiti* 'лопнуць, трэснуць, разарвацца', балг. *пъ́ча* 'выпучваць, настаўляць', *пъ́ча се* 'надувацца, рабіцца важным'. Прасл. **pǫčiti* 'павялічвацца, пашырацца; трэскацца' суадносіцца з **pǫkati*, гл. *пу́каць*. Падрабязней Куркіна, Этимология—1982—1984, 13—24; Скок, 3, 67; Банькоўскі, 2, 536. Гл. таксама *пя́каць*.

**Пучэ́лька** 'невялікая звязка тытуню' (ПСл). Да *пучо́к, пук* 'вязка, сноп', параўн.: *рэжэм цюцюн у пучэчкох* (там жа).

**Пу́шка₁** 'пятка яйца' (Нас.; ЛА, 1; смарг., ігн., лудз., в.-дзв., Сл. ПЗБ; б.-каш., Мат. Гом.). Памянш. ад *пуха* (гл.); магчыма, звязана з харв. *pȗš* 'тс', якое Путанец (гл. Скок, 3, 85) лічыць запазычаннем з італьянскай мовы.

**Пу́шка₂** 'кончык пальца, мякіш' (ТС; петрык., Шатал.; пухав., З нар. сл.; мазыр., карм., ельск., Мат. Гом., ПСл), 'сустаў пальца,

костачка, знешняя паверхня суставаў пальца' (хойн., Шатал.; слуц., Нар. словатв.; слуц., Жыв. сл.; ст.-дар., асіп., Сл. ПЗБ; Некр.; Сержп. Грам., светлаг., Мат. Гом.), сюды ж і *пу́шка* 'лытка' (ЛА, 3), 'таўстуха' (івац., Жыв. НС), 'шчопаць' (ТС). Першапачаткова *пу́чка* 'тс' ад *пук* 'выпукласць', зменённага пад уплывам *пу́хлы*, параўн. *пу́шка* 'порхаўка' (рэч., Нар. сл.; лельч., Жыв. сл.), балг. *пу́шка* 'мачавы пузыр' і пад.

**Пу́шка₃** 'каробка, скрыначка' (ТСБМ; Мядзв.; Шат.; Некр.; Бяльк.; Ян.; брагін., Нар. словатв.; Сл. Брэс.; пін.,. Нар. лекс.; Янк. 1.; Мат. Гом.), 'вытачаны з дрэва невялікі кубел з накрыўкай для захавання дробных рэчаў' (Нас.), 'збанок, гаршчок з вузкім горлам' (кобр., Сіг.; малар., Сл. Брэс.), 'шклянка': *пушка гарэлкі* (брагін., Мат. Гом.), ст.-бел. *пу́шка* 'скрынка'. Лічыцца запазычаннем праз польск. *puszka* 'тс', чэш. *puška* 'тс' са ст.-в.-ням. *buhsa* < народнае лац. *buxis*, грэч. πυξίς 'каробка з самшыту' (< πυχος 'самшыт'), гл. Фасмер, 3, 415; Булыка, Лекс. запазыч., 190. На прышлы характар рэаліі і слова ўказвае Растаргуеў: *пу́шка* (выключна ў гарадах) "небольшая деревянная круглая с крышкой коробка от халвы; употреблялась главным образом для хранения мелкой монеты" (ст.-дубск., Растарг.). Пра магчымасць народнаэтымалагічнага асэнсавання слова гл. у Насовіча: "от Пустой, но лит. Puszka" (Нас.).

**Пу́шка₄** 'гармата' (ТСБМ, Янк. 1): *зробіў скрыпочку і сталяную пушку* (гродз., Шн. 2), ст.-бел. *пушка* 'тс'. Запазычана праз польск. *puszka* (паводле Банькоўскага, 2, 967: "pożyczka wędrowna") са ст.-чэш. *puška*, першапачаткова абазначала як ручную агнястрэльную зброю, так і гармату, што адлюстравалася і ў сучасных славянскіх мовах, параўн. балг. *пу́шка* 'стрэльба, ружжо', серб.-харв. *пу̏шка*, першапачаткова *пу̏кша* 'тс'; крыніцай славянскіх слоў лічаць сярэднебаварскую форму **pukse* 'агнястрэльная зброя', сучаснае ням. *Büchse* 'гармата' < ст.-в.-ням. *buhsa* 'трубка; ступка, цыліндр', адкуль і значэнне 'каробка', гл. *пушка₃*. Параўн. Брукнер, 449; Фасмер, 3, 415; Скок, 3, 71—72; Сной, 516—517; Булыка, Лекс. запазыч., 190; Патры-Тамушанскі, JBS, 4, 3—4, 120; Адзінцоў, Этимология—1978, 113—133; Этимология—1984, 172. Нельга выключыць народнаэтымалагічнае збліжэнне з *пу́хаць, пу́каць, пуска́ць* (*пушча́ць*) і пад., параўн. Чарных, 2, 86.

18. Зак. 1697.

**Пу́шкаць** ‘ласкатаць’ (ПСл.). Магчыма, гукапераймальнае ад *пу́хаць, пу́хкаць* ‘дуць’.

**Пушны́₁**, *пушо́н* ‘з прымессю мякіны, вотруб’я’ (ТСБМ, Ян., Малч.): *кыли хлѣбушка пушонъ — могу выпылаць* (маг., Шн.), *пу́шны* (*пушный*) ‘тс’ (Нас.), сюды ж *пушно́, пухно́* ‘мякіна’ (Нас.). Ад *пух* ‘адыходы пры веянні, мякіна’, параўн. *пу́хны* (гл.).

**Пу́шны₂** ‘пульхны, мяккі; смачны’ (Бяльк., ТС), *пушны́* ‘тс’: *пушныя бліны* (ашм., пухав., Сл. ПЗБ), *пуша́ны* ‘тс’ (віл., там жа), *pušány* ‘мяккі, дзіркаваты; угноены, апрацаваны’: *пушаная зімля* (Варл.), сюды ж *пушно́* ‘пульхнае дзіця’ (Бяльк.). Да *пушы́ць* ‘надуваць, рабіць пульхным, пышным’.

**Пуштэ́нт** ‘камень, якім народаюць боты для глянцу’ (Бяльк.). Запазычанне, крыніца невядомая.

**Пу́шча** ‘густы, непраходны лес; нетры’ (ТСБМ, ТС, Шат., Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Мядзв., Яруш.), ‘пусташ, бязлюднае месца’ (ЛА, 2), ‘заразлі ў забалочанай мясцовасці’ (валож., ЛА, 1), *пу́шча-драму́шча* ‘дзікі лес, пра які гаворыцца ў беларускіх казках’ (Мядзв.), ст.-бел. *пуща* ‘пустыня, пустка’ (Нас. гіст.), укр. *пу́ща* ‘дрымучы лес, лясныя нетры’, польск. *puszcza* ‘бязлюднае месца; пустка’, харв. *pûšća* ‘пустая мясцовасць’ (Скок, 3, 82), славен. *pušča* ‘папар; дзікая мясцовасць; пустэча’. Прасл. **puštja* (< *pustъ*, гл. *пусты́*); паводле Банькоўскага (2, 967), *пушча* абазначала спрадвечна бязлюднае месца ў адрозненне ад *пусты́ня* (гл.), што абазначала месца, пакінутае людзьмі, параўн., аднак, славен. *puščava* ‘пустыня’.

**Пушча́ць** ‘пускаць’ (Шат., Бяльк.), ‘браць кватарантаў; кідаць’ (Сл. ПЗБ), ‘раставаць’: *снег пушчае* (дзятл., там жа), рус. *пуща́ть* ‘пускаць’, польск. *puszczać,* чэш. *pouštěti* ‘выпускаць, пускаць’, славац. *pušt’at’,* в.-луж. *pušćeć,* н.-луж. *pušćaś*, серб.-харв. *пу̏штати*, славен. *púščati*, балг. *пу́щам*, ст.-слав. **поуштати**. Прасл. **pustjati* суадноснае з **pustiti*, ва ўсходніх славян звычайна **puskati* (< **pus(t)kati*, Банькоўскі, 2, 967), гл. *пускаць.* Усё да **pustъ* (гл. *пусты*), паводле Сноя (516), першапачаткова ‘рабіць бязлюдным, пакідаць’, гл. таксама Фасмер, 3, 416; Скок, 3, 82; Шустар-Шэўц, 2, 1194. Адсюль *пушча́й* ‘няхай’ (Ян.; смарг., Сл. ПЗБ), параўн. рус. *пуска́й* ‘тс’ (ад *пускать*).

**Пу́шчы** (*пущи, пущій*) ‘горшы’ (Нас.; дзісн., Рам. 8; Дэмб., Растарг.), ‘горш’ (Нас.), *пушчэ́й* ‘мацней’ (Нас.), *пу́шчэ* ‘мацней,

больш' (Кос., Растарг.), *пушчэ́йшы* 'горшы' (Сл. рэг. лекс.), *puščejšy* 'трохі горшы' (Варл.), *пу́шчыць* 'рабіцца горшым' (Нас.), *пушчэ́ць* 'мацнець, узмацняцца' (Нас.), 'худзець' (віл., Сл. ПЗБ); сюды ж ст.-бел. *пущий* 'жвавы, руплівы' (Ст.-бел. лексікон). Вышэйшая ступень параўнання ад *пусты́* (гл.), супрацьлеглыя значэнні звязаны з градацыйнай функцыяй і дэтымалагізацыяй, параўн. рус. *пу́ще* 'лепш, больш'.

**Пушчы́ны** 'смецце, амецце' (ТС). Да *пусты́* 'непатрэбны, дрэнны'.

**Пушы́ць₁** 'раздуваць, надуваць' (Арх. Федар.; мсцісл., З нар. сл.; Шымк. Собр.; Шат.; Янк. 1; Некр.; ТС), 'брадзіць' (Жд. 1), 'пучыць' (Сцяц.), *пу́шыць* 'апухаць, рабіць пухлым' (Ян., ПСл), 'веяць' (паст., Сл. ПЗБ), параўн. укр. *пу́шити* 'рабіць поўным, надуваць; узрыхляць', польск. *puszyć* 'раздуваць', славен. *pušiti* 'рыхтавацца да раення (пра пчол)', серб.-харв. *пу̏шити* 'дыміць, пыліць', балг. *пу́ша* 'тс' і пад. Да *пу́хаць, пухнуць* (гл.).

**Пушы́ць₂** 'рабіць пушыстым; абсыпаць пухам'; перан. 'моцна лаяць, распякаць' (ТСБМ, ТС, Юрч.). Да *пух* (гл.), пераноснае значэнне, магчыма, на базе гукапераймальнага *пу́хаць* 'дуць', параўн. *пу́шыцца* 'дуцца на каго-небудзь', *пушы́сты* 'пушысты; той, хто ў выпадку незадавальнення дзьмецца ("пушыцца")' (Янк. 1).

**Пфэ** — выклічнік, які перадае агіду, няпрыязь, абурэнне: *мы проціў его — пфэ!* (Сержп.). Гл. *фэ* 'тс'.

**Пхаць** 'піхаць, штурхаць' (ТСБМ, Нас., ТС, Бес., Шат., Гарэц.), 'напіхваць' (Нас.; воран., Сл. ПЗБ), *пха́цца* (*пхацьца*) 'штурхацца, ціснуцца' (Нас.; лоеў., Мат. Гом.; іўеў., Сл. ПЗБ), 'павольна ехаць' (клец., Жыв. сл.), сюды ж *пхну́ць, пхну́цца* 'штурхануць; павольна ехаць' (ТС, Сл. ПЗБ, Гарэц., Мат. Гом.), а таксама *пхену́ць* 'штурхануць, піхануць' (ТС), *пхану́ць* 'тс' (брагін., Мат. Гом.). Гл. *піхаць*.

**Пхімкаць** 'румзаць, хныкаць': *пхімкае дзіця* (ТС; слонім., Нар. словатв.), *пхы́нькаты* 'тс' (пін., Нар. лекс.), параўн. укр. *пхи́кати*, *пхе́нькати*, *пхика́ти* 'тс'. Паводле Смаль-Стоцкага (Приміт., 170), дзеясловы ўтвораны ад "прыродных выгукаў".

**Пцель** 'струхнелыя, напаўгнілыя дровы, якія тлеюць пры гарэнні', *пце́лы* 'струхнелы, напаўзгнілы (пра лесаматэрыялы)', *пцець* 'гніць, трухлець' (Нік. Оч.). Гл. *псель*.

**Пча́йка**, варыянты *пша́йка, ша́йка, ча́йка* ‘страказа’ (брагін., Нар. словатв.; ЛА, 1). Няясна; параўн. *пшча́лка* ‘пчала’ (воран., Шатал.). Гл. таксама *псайка*.

**Пчала́** ‘пчала’ (ТСБМ, ЛА, 1; паст., З нар. сл.; Сл. ПЗБ, Бяльк.), *пчола́* ‘тс’ (ТС), *пшчала́* ‘тс’ (ЛА, 1; воран., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), *пшчола́* ‘тс’ (ЛА, 1; Бес.), *пшчо́ла* ‘тс’ (іўеў., З нар. сл., Сл. ПЗБ), *пшчо́лка* ‘чмель’ (трак., Сл. ПЗБ), ласк. *пчы́лка* ‘пчолка’ (Дразд.), *пшча́лка* ‘тс’ (воран., Шатал.), укр. *пчола́, бджола́,* рус. *пчела́*, польск. *pszczoła*, в.-луж. *pčoła*, н.-луж. *coła*, чэш., славац. *včela*, серб.-харв. *пчѐла, чѐла*, славен. *čebẹ̑la*, балг. *пчела́*, макед. *пчела*, ст.-слав. **бъчєла, бьчєла**. Разглядаюцца дзве версіі: згодна з першай, прасл. **bъčela* ад гукапераймальнага дзеяслова тыпу *буча́ць* ‘гудзець’, першаснае значэнне ‘гудлівая кузурка’ (SP, 1, 456); другая версія зыходзіць з рэканструкцыі прасл. **bьčela* < і.-е. **bhei̯-*, што адлюстравалася ў ст.-ірл. *bech*, літ. *bìtė*, ст.-в.-ням. *bini*, швед. *bi*, англ. *bee* ‘пчала’, лац. *fūcus* ‘труцень’ (Фасмер, 3, 416; Саднік—Айцэтмюлер, 6, 481—482; Сной, 67; Банькоўскі, 2, 523). Варбат (гл. Чарных, 2, 86, дзе аддаецца перавага першай версіі) прапануе выводзіць **bьčela* з **bъčela* ў выніку міжскладовай асіміляцыі *ъ : е > ь : е.* Беларускія назвы з пачатковым *пшч-* запазычаны з польск. *pszczoła* (Карскі, 1, 390), параўн. ст.-польск. *pczoła*. Сярод дэрыватаў уяўляе цікавасць *пчаладзёр* ‘той, хто выдзірае пчолы, мёд; злодзей’ (Янк. 3, Пятк.) — несумненны архаізм на аснове спалучэння *драць пчолы* ‘красці мёд, рабаваць вуллі’ (ТС), а таксама *пчалі́на* ‘асобная пчала’ (Бяльк.), *пчаліна́* ‘тс’ (докш., Янк. Мат.; віл., лаг., в.-дзв., Сл. ПЗБ) з суфіксам адзінкавасці *-іна*, што сведчыць аб генералізацыі назвы мн. л. *пчо́лы* ‘рой, пчаліная сям’я’.

**Пшак** ‘гаспадарчы нож’ (дзятл., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Пшані́ца** ‘пшаніца, ярыца, Triticum aestivum L.’ (ТСБМ, Кіс., Сл. ПЗБ), ‘пшаніца звычайная, Triticum vulgare Vill.’ (Шат.), *пшэні́ца* ‘пшаніца’ (ТС; вільн., Сл. ПЗБ), *пшанэ́ця* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ), *пышані́ца* ‘тс’ (Бяльк.), *пшані́чка* (*pszeníczka*) ‘кукуруза’ (Пятк. 1), ст.-бел. *пшеница* ‘пшаніца’, укр. *пшени́ця*, рус. *пшени́ца*, польск. *pszenica*, чэш. *pšenice*, славац. *pšenica*, в.-луж. *pšenca*, н.-луж. *pšenica*, серб.-харв. *пшѐница, шѐница*, славен. *pšeníca*, балг. *пшени́ца*, макед. *пченица*. Прасл. **pьšenica*, вытворнае ад **pьšeno*, гл. *пшано*.

**Пшанó** ‘вымалачанае проса’ (Шымкевіч, Покажчик), ‘прасяныя крупы’ (Воўк-Лев., Татарк.), *пшонó* ‘тс’ (ТС), ж. р. *пшана* ‘проса (?)’: *jak na poli pszaniú pażnu* (Федар. 6, 188); ‘пшаніца (?)’: *кормиця вы ихъ ярой пшеной* (смал., Шн. 2, 524), *пшóнка* ‘проса (?)’: *за рѣченкою пшенку жну* (гродз., Крачк.), ‘каша з проса’ (хойн., Мат. Гом.), *пшы́нка* ‘прасяныя крупы’ (жлоб., там жа), *пшанча́нка* ‘проса’ (Ян.), сюды ж *пшóнка* ‘пшанічная салома’ (Сцяшк. Сл.), *пшóны, пшóнны, пшэ́ны, пшэ́нны* ‘пшанічны’ (Сл. ПЗБ), *пшэ́нный* ‘тс’ (Бяльк.), *пшóнны* ‘тс’ (Сцяц.), *пшанóвы* ‘прасяны’ (шкл., Мат. Маг.), *пшаня́ны* ‘тс’ (жытк., добр., ельск., Мат. Гом.), *пшоня́ны* ‘тс’ (ТС), *пшэня́ны* ‘тс’ (ПСл), параўн. укр. *пшонó* ‘прасяныя крупы’, рус. *пшенó,* польск. *pszono*, чэш., славац. *pšeno*, харв. *pšèno* ‘зерне’, славен. *pšéno* ‘прасяныя крупы’, макед. *пченка* ‘кукуруза’, ст.-слав. **пьшено** ‘ячныя крупы’. Прасл. **pьšeno* ўтворана ад прасл. **pьxati* (гл. *піхаць, пхаць*), першапачаткова ‘тое, што вымалачана, абтоўчана, абабіта’, з якога развілося значэнне ‘крупы’, ‘проса’ і пад. Гл. Фасмер, 3, 417; Чарных, 2, 86—87; Сной, 513; Глухак, 508—509 (падаюцца паралелі аналагічных утварэнняў ад і.-е. **pei̯s-/ *pis-* ‘таўчы, драбіць, малоць’), Банькоўскі, 2, 960.

**Пшык** — выклічнік для перадачы інтэнсіўнага згарання (Шымк. Собр.), імітуе гукавы эфект ад запаленага пораху, гарачага жалеза, апушчанага ў ваду; выпусканне газаў (Нас.): *зрабіў пшык* (Сержп.), ‘нічога, пустата’ (ТСБМ, Сцяшк.), *пшы́каць* ‘рабіць успышку порахам; ціха выпускаць газы’ (Нас.), *пшы́чыць* ‘сіпець (пра гадзюку)’ (ЛА, 1), сюды ж *пшы́каўка* ‘порхаўка’ (ЛА, 1; смарг., Сл. ПЗБ). Гукаперайманне, параўн. укр. *пшик*, якое Смаль-Стоцкі (Приміт., 170) трактуе як “стары выгук”.

**Пшы́кі** ‘іголкі хвоі’ (дзятл., Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, звязана з літ. *pušìs* ‘сасна’ або з гукаперайманнем *пшык!*, што імітуе хуткае згаранне.

**Пшэні́чка** (*pszeníczka*) ‘кукуруза’ (Пятк.). Да *пшаніца*, *пшанó* (гл.), дэмінутыўная форма выкарыстана для называння новай рэаліі, параўн. макед. *пченка* ‘тс’.

**Пшэ-пшэ** — выгукі, якімі падзываюць кароў (ТС), авечак (ДАБМ, камент., 896), *пшэ́йка* ‘падзыўное слова для кароў; ласк. кароўка’ (ТС, Маш.; жытк., ельск., петрык., Мат. Гом.). Няясна; магчыма, звязана з падзыўнымі словамі для парасят і авечак,

параўн. чэш. *pušіт*, якое Махэк$_2$ (501) параўноўвае з рум. *puš* — падзыўное слова для кароў, або *paš-paš, pašu-pašu* (там жа, 67). Гл. таксама *пус-пус, псе-псе*.

**Пыж$_1$** 'драўляная затычка для круглай адтуліны' (Нас.), 'кавалачак дрэва, які закладваецца ў вугал зруба пры спалучэнні бярвенняў' (жабін., Нар. сл.), *пыжч* 'тс' (кам., там жа), *пыж* 'калок, якім прымацоўваецца ярмо да дышля воза або саней' (Бес.), 'невялікі драўляны шар або абрубак ад палкі (пры гульні "ў пыжа")' (Нас.; БНТ, Гульні), 'затычка з лямцу, шэрсці або картону ў патроне для паляўнічай стрэльбы' (ТСБМ), 'малеча, карапуз' (Бяльк.), мн. л. *пыжэ́* 'стрыжні птушыных пер'яў' (карэліц., Сл. ПЗБ), 'бутоны' (навагр., Жыв. сл.), *пы́жык* 'кароценькая затычка; тоўсценькае дзіця' (Нас.), 'тоўсты блін з кіслага цеста; булачка' (рас., Шатал.; шальч., Сл. ПЗБ), 'хлопчык, які слаба расце, малы' (Бяльк.), параўн. укр. *пиж* 'від дзіцячай гульні', рус. *пыж* 'затычка ў патроне; пустое, няўсхожае насенне; шар або абрубак (у дзіцячай гульні); папярочны брусок у носе і карме лодкі; булачка', *пы́жык* 'маларослы, надуты чалавек'; адносяць сюды і балг. *пи́жо* 'нехрышчонае дзіця'. Значэнне гэтай групы слоў канцэнтруецца вакол паняццяў 'затычка, шпунт, калодачка', 'неразвіты плод', 'пышка, булачка', што дае магчымасць далучыць сюды бел. *пужо́к* 'схованка для рыбы ў канцы лодкі' і *пужы́на* 'пустое зерне' (гл. зыходныя формы, хутчэй за ўсё, **пыжок*, **пыжына* з тыповым для тураўскай гаворкі пераходам *ы>у* пасля губных). Роднаснае літ. *paugžlỹs, pūgžlỹs* 'апалонік', *pùžas* 'брухаты', *pùžti* 'аслабець', узыходзіць да і.-е. **pōu̯-*, **pū-* 'дуць, надувацца', што дае падставы для рэканструкцыі асновы прасл. **pyž-* (Куркіна, Этимология—1971, 71—72); Тапароў (Балтийские яз., 45) лічыць рус. маск. *пыж* 'бясплоднае, няўсхожае насенне' балтызмам, што малаверагодна па лігвагеаграфічных прычынах; па семантычных і лінгвагеаграфічных прычынах сумнеўна вывядзенне рус. арх. *пыж* 'папярочны брусок, устаўлены ў нос лодкі', параўн. пск. *носовой пыж*, кастр. 'нос судна' з комі, удм. *piž* 'лодка', мар. *puš* 'тс' (Фасмер, 3, 417).

***Пыж$_2$**, *пуж* 'гарнастай', памянш. *пы́жык*: *раншы дорогі буў пыжык* (ТС), *пы́жык* 'паўночны алень ва ўзросце да двух месяцаў, а таксама футра з яго' (ТСБМ). Выводзяць з удм. *pižej* 'паўночны алень', комі *pež* 'аляня, якое яшчэ не мае рагоў' і пад.

(Фасмер, 3, 417: лічыць гэтую этымалогію “безукоризненной”); іншая версія — аднясенне *пыж₂* да *пыж₁* (Праабражэнскі, 2, 159 і інш.) па лінгвагеаграфічных і семантычных прычынах, параўн. рус. дыял. *пы́жик* ‘шкура невялікага мядзведзя’, ‘птушка Vanellus gregarius Pall.’, ‘стэпавы кулік, Charadrius’ (адносна апошняй гл. Фасмер, 3, 418), здаецца больш прымальнай. Чарных (2, 87) мяркуе, што фіна-угорскія словы запазычаны з рускай мовы, аналагічна Анікін (416—417), які схіляецца да версіі паходжання ад рус. *пыж* ‘камяк’, *пы́жить* ‘настаўляць, растапырваць’, гл. *пыж₁*.

**Пы́жма** ‘крываўнік’ (Мат. Гом.). Гл. *піжма*.

**Пы́жня** ‘падпрыпечак’ (ашм., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, да польск. *perz* ‘тлеючыя вуглі, жар’.

**Пы́жыцца** (*пыжицьца*) ‘надувацца ад фанабэрыі’ (Нас.), ‘напружвацца, дбаць’ (ваўк., Сцяшк. Сл.), укр. *пі́зитися* ‘надувацца, фанабэрыцца’, рус. *пы́житься* ‘старацца нешта зрабіць з празмернымі намаганнямі; фанабэрыцца’, н.-луж. *pyzeliś se* ‘пускаць бурбалкі, бурліць, тужыцца’. Вытворнае ад *пыж₁* (< **pyž-*), гл. Куркіна, Этимология—1971, 72; Чарных (2, 87) мяркуе пра першаснае значэнне ‘раздувацца, каб выпіхнуць пыж’, што неабавязкова.

**Пы́згры** ‘мыса, пярэдняя частка галавы ў коней, кароў і інш.’ (глыб., Жыв. св.). Ад *пу́здра* ‘ноздры, храпа’ (гл. *пуздро*); у абедзвюх формах, магчыма, знайшло адлюстраванне чаргаванне асноў прасл. **pug-(z)*: **pyž-*, гл. Куркіна, Этимология—1971, 70—72.

**Пы́зі** ‘нюні’, *пы́зя* ‘плакса’ (Клім.), параўн. *пізі* (*пізікі*) *пускаць* ‘плакаць; распускаць нюні’ (ТС). Першаснае значэнне, хутчэй за ўсё, ‘надутыя губы, пакрыўджаны выраз твару’, што дазваляе звязаць слова з *пы́згры* ‘мыса’ (гл.), польск. *pyzaty* (гл. *пызы*). Параўн. *пы́са*, *пы́ца* (гл.). Да гукапераймання *пиги* (перадае плач) адносіць укр. *пі́зі* ‘румзанне’ ЕСУМ (4, 367), параўн. *пігутка*, гл.

**Пы́зы** ‘бульбяныя клёцкі з мясам’ (Скарбы), *пы́за* (*ру́za*) ‘страва даўніх часоў, прыгатаваная з канаплянага малака’ (Варл.), *пэ́за* ‘булачка, начыненая салам’ (Нас.), укр. *пі́зи* ‘вараныя галушкі з кіслага грачанага цеста, ядуць з часныком і алеем’, польск. *pyza* ‘від клёцак’; перан. ‘круглая, тоўстая шчака’. Няясна; паводле Банькоўскага (2, 972), рэгіянальнае старажытнае слова (Мазоўша, Вялікапольшча), з якога выводзіцца прыметнік *pyzaty*

‘таўсташчокі’, Брукнер (450) апошняе слова звязвае з *ryzać* ‘рыць зямлю; перабіраць у ядзе’, *puzdro*, *puzo* і параўноўвае з рус. *пыж* ‘пусты арэх’, *пыжить* ‘уздуваць’. Гл. папярэдняе слова.

**Пы́ка** ‘твар; морда, пыса’ (Нас., Ян., Растарг.): *у саба́кі чорна пыка* (Сцяшк.), *пы́кі* экспр. ‘губы’ (Сл. Брэс.), сюды ж *пы́ктарацца* ‘тыкаць мордай’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *пи́ка* ‘морда’, рус. *пи́ка* ‘морда, рыла’, *пи́квица* ‘нос, кончык носа’. Паводле ЕСУМ (4, 367), са зменай галосных ад *пу́кати* ‘трэскаць, лопаць’; беспадстаўна беларускія формы выводзяцца з украінскай, чаму пярэчыць перш за ўсё геаграфія слоў. Відаць, звязана чаргаваннем з *пы́ца* ‘морда’ (гл.).

**Пы́каць** ‘пукаць губамі, курыць люльку, запінацца пры размове ці чытанні’ (Нас., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Варл.), ‘гаварыць невыразна, неразборліва’ (ТСБМ, Ян., Сл. ПЗБ), ‘марудна рабіць’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *пы́кнуць* ‘пікнуць’ (Яруш.), *пык, пыкмык* — імітуе плямканне губамі, заіканне, курэнне (Нас.; мсцісл., Нар. лекс., Растарг.), *пэк-мэк* ‘тс’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *пыкі* ‘ціхая, патайная размова’ (Нас.), *пыклі́вы, пуклі́вы* ‘марудны’ (паст., в.-дзв., рас., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае, сюды ж *пік* ‘становішча таго, хто хацеў апраўдацца, але раптам змоўк’ (Нас.), *пі́кавы, пы́кавы* ‘заіка’ (пін., кам., З нар. сл.).

**Пыл** ‘найдрабнейшыя часцінкі ў паветры і на паверхні’ (ТСБМ, Нас., Ян., Шат., Кос., Растарг., Бяльк., Гарэц., Мал.), *пул* ‘тс’ (ТС; люб., Сл. ПЗБ), *пыл* ‘лёгкія адходы пры веянні’ (Нас.), *пыл*, *пэл* ‘пушок, што адлятае пры тканні’ (Уладз.), ‘жар, раздражненне’: *в пылу сказавъ* (Нас.), укр. *пил*, рус. *пыл, пыль* ‘жар, полымя; пыл, пылок; снег, пена’, польск. *pył* ‘пылок’ (з усх.-слав., Банькоўскі, 2, 969), чэш. *pyl* ‘пылок з кветак’, славац. *pyl*. Дакладных адпаведнікаў няма; узводзяць да і.-е. *pū-* ‘дуць’, параўн. літ. *pū̃sti*, лат. *pùst* ‘дуць’ (гл. *пухаць, пыхаць*), грэч. πῦρ ‘агонь’ і пад. (Фасмер, 3, 418); Банькоўскі (2, 969) мяркуе пра першаснае значэнне ‘дробнае парахно’ і структуру **pū-l-*, параўн. літ. *pū́ti* ‘ператварацца ў пыл, гніць’, *pū̃liai* ‘гной (у скуле)’, лац. *pūs, puris* ‘тс’, і ў такім выпадку — значэнне ‘жар, агонь; запальчывасць’ ад *пылаць* ‘гарэць’ (гл.).

**Пыла́ць** ‘гарэць полымем’: *дровы пылаюць у печы* (Некр.). Русізм? Гл. *палаць* ‘тс’.

**Пыль-пыль**, *пы́лі-пы́лі* — падзыўныя словы для куранят (Мядзв., Шымк. Собр., Гарэц., Шат., Жд. 1, Янк. 2, Мат. Маг.,

Мат. Гом., Сл. ПЗБ), ‘падзыўныя словы для качак, качанят і гусянят’ (беласт., Ніва, 1980, 14 вер.), *пы́ля* ‘тс’ (там жа), *пы́люш* ‘вокліч, якім адганяюць курэй’ (клім., Мат. Маг.), *пыляня́* ‘кураня’ (Шпіл.), *пы́лька* ‘тс’ (Шат.; петрык., Мат. Гом.), *пыля́ты* ‘кураняты’ (Мат. Маг.), рус. *пы́лі-пы́лі* ‘падзыўныя словы для курэй’, *пы́ля-пы́ля* ‘падзыўныя для індыкоў’, *пы́ля* ‘курыца, кураня’, польск. *pyli-pyli,* чэш. *pili-pili, pyl'a-pyl'a, pile* ‘гусяня’, в.-луж. *pila* ‘качаня, гусяня’, н.-луж. *pile-pile, pile* ‘гусяня’, балг. *пили-пили* ‘падзыўныя для куранят’, *пи́ле* ‘кураня’, серб.-харв. *пȉле* ‘тс’, макед. *пиле* ‘кураня, птушачка’. Паводле Махэка$_2$ (449), “старажытнае даіндаеўрапейскае слова”, параўн. крым.-тат. *pili* ‘кураня’, тамільск. *piḷḷai* ‘птушаня’. Прасл. **pilę*, параўн. літ. *pỹlė,* лат. *pile* ‘качка’, лац. *pullus* ‘маладая жывёліна’, гоц. *pula* ‘жарабя’, інд. *pillika* ‘птушаня’. Гл. таксама *пуль-пуль, пуляня.*

**Пы́льхаўка** ‘грыб порхаўка’ (гродз., Сл. ПЗБ). Паралельныя ўтварэнні тыпу *пу́рхаўка* ‘тс’ ад *пу́рхаць* (гл.) даюць падставы ў якасці зыходнага прыняць незафіксаваны дзеяслоў **пыльхаць* (ад гукапераймальнага **пыльх* ‘пырх’ і пад.); магчыма, пад уплывам *пыл* (гл.).

**Пылю́шнік** ‘расліна Thalictrum L.’. Няясна, магчыма, да *пыліць* ‘пускаць пылок’; адносна гэтай і іншых назваў расліны гл. Кісялеўскі, Аб нек. асабл., 26—27.

**Пы́ля** ‘каля, побач’ (Бес.), параўн. укр. *пі́ля́* ‘тс’. Усе да укр. *біля* ‘тс’ або старaж.-рус. *подьлѣ* ‘тс’.

**Пыля́ць**$_1$ ‘кідаць з сілай, біць’ (навагр., Жыв. НС; глыб., Наша ніва, 2001, 24 вер.), *пыльну́ць* ‘ударыць’ (паст., Сл. ПЗБ, Шат.), ‘кінуцца, хутка пабегчы’ (бераст., Сцяшк. Сл.; Шат.). Параўноўваюць з літ. *pìlti* ‘біць, ліць, сыпаць’ (Грынавяцкене і інш., Сл. ПЗБ, 4, 206), іншае значэнне суадносіцца з літ. *pùlti* ‘кінуцца’, але параўн. *пуляць* ‘кідаць’ (гл.) і іншыя экспрэсіўныя дзеясловы такога тыпу, у аснове якіх ляжаць імітатывы тыпу *пуль! піль! пур!* і пад.

**Пы́ні** ‘маўляў, моў’ (Яруш., Гарэц., Бяльк.), выклічнік (націск залежыць ад папярэдняга слова) ‘та, вось, моў’’: *я пыни не таковскій*; ‘прыяцель, вашэць’: *тобе, пыни, можно гето сказаць* (Нас.). Магчыма, гукапераймальнае, параўн. рус. *пынь-пынь* ‘пра чалавека, які гаворыць невыразна, заікаючыся’, або дэфармаванае слова-паразіт, што ўзыходзіць да звароту *пане* ці *васпане* (гл.), пра гэта сведчыць заўвага Ярушэвіча “гор.” (гарадское).

**Пыні́ць** ‘хутка нешта рабіць, чыніць’: *жнеі пыняць жыта* (ашм., Стан.), ‘рабіць усё неабходнае па гаспадарцы, даглядаць’ (ТСБМ, Жд. 1, Сцяшк. Сл.), ‘знаходзіцца, праводзіць час’ (Сцяшк.), ‘затрымліваць, перашкаджаць’ (Яруш.), ‘збіраць ягады, грыбы’ (Яўс.), *пыні́цца* ‘ўпраўляцца па гаспадарцы’ (ТСБМ), ‘знаходзіцца’ (карэл., Сцяшк. Сл.). Параўн. *спыні́ць* ‘хутка нешта зрабіць, скончыць’ (ашм., Стан.), укр. *пини́ти* ‘замаруджваць, перашкаджаць’. Да *пяць, пну* (**pęti, *pьnǫ*), варыянт кораня (з падаўжэннем) **pīn-*, параўн. *апыніцца, апынуцца* ‘знайсціся ў пэўным месцы або становішчы’ (гл.), фармальна і семантычна суадносіцца з літ. *pìnti* ‘плясці’, лат. *pît, pinu* ‘тс’, грэч. πένομαι ‘працую’, нова-в.-ням. *spinnen* ‘прасці’, *spannen* ‘напружваць, нацягваць’. Гл. таксама ЕСУМ, 4, 370—371.

**Пыня́лка** ‘кіёк для перайманне кацёлкі (у гульні)’ (Шат.), параўн. укр. *піня́ти, пійня́ти* ‘пераняць’. Да *-няць* (прасл. **jęti*), суф. *па-*; магчыма, кантамінацыя з *пыніць* (гл.), ці ад *паганя́ць*, параўн. *пыня́ть* ‘паганяць’ (Растарг.).

**Пы́па** дзіц. ‘вада’ (Клім.). Гукаперайманне, гл. *пу́па, піпа* ‘тс’.

**Пы́пець** ‘ціпун, нарасць на языку ў курэй’ (Шымк. Собр.), *пы́пец* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ), *пы́паць* (*пы́поць*) ‘тс’ (Нас.), *pу́peć* ‘любая нарасць, вырастак на целе чалавека; чырвоныя вырасты на дзюбе індыка; хвароба языка ў хатніх птушак’ (Чач.), *пы́пыць* ‘птушыны страўнік’ (іван., Жыв. НС), *пи́путь* ‘ціпун’ (Растарг.), памянш. *пы́пцік* ‘выступ’ (Лёсік), ст.-бел. *пыпеть* ‘кудахтанне курэй’, укр. *пи́поть* ‘хваравіты нарост на языку курэй, ціпун’, памянш. *пи́птик*, рус. смал. *пы́пить* ‘попел’: *ссохнуць на пыпить* ‘схуднець’, польск. *pypeć* ‘засохлыя соплі ў носе; ціпун’, ст.-польск. *pipeć* (з XV ст.) ‘ціпун’, чэш. мар. *pipec, pípec* ‘тс’, славац. *pipet', pipet, pipec* ‘тс’, балг. *пи́пка* ‘тс’, макед. *пипка* ‘тс’. Прасл. **pitъt'ь* ад і.-е. *pītu-* ‘слізь, смала’, роднаснае лац. *pītuīta* ‘слізь, насмарк’, пазней у асобых славянскіх мовах асіміляванае ў **pīpъ* або з метатэзай у *tīpъ-*, гл. *ціпун* (Махэк$_2$, 643; паводле яго, насуперак Фасмеру, 4, 60, фармальна блізкія ням. *Pips*, англ. *pip* ‘ціпун’ запазычаны са славянскіх); Банькоўскі (2, 969) пярэчыць запазычанню з захаду, прапануючы рэканструкцыю **tipъtь*, параўн. літ. *piepū̃tys* ‘ціпун’, *piẽpti* ‘пішчаць’. Урэшце, нельга выключыць другасную сувязь з *пы́пкаць* ‘заікацца’, *пуп*, *пупе́ц* ‘вы-

раст' (гл.). Шырокая семантыка ('кудахтанне', 'курыны страўнік' і пад.) не выключае магчымай сувязі з гукаперайманнем *pipati 'ціўкаць', літ. *pỹpti* 'тс', параўн. славен. *pîpec* 'сцізорык', якое Бязлай (3, 38) лічыць метафарычным ўтварэннем ад *pipa* 'кураня' (< *pî-pî* 'падзыўныя словы для курэй').

**Пыпкаць** 'заікацца' (Нас.), *пыпка* 'панурысты чалавек' (там жа). Гукаперaймальнае, на базе імітатываў *пып-* (запінанне, заіканне), *пык-* (плямканне губамі) і пад.

**Пыпла**₁ 'цяльпук, непаваротлівы, павольны ў дзеянні чалавек' (Бяльк.), 'няўмека' (Юрч.), *пыпля* 'маруда, нерашучы чалавек' (Нас.). Меркаванні пра балтыйскае паходжанне *пыпля* 'маруда' (Байк. і Некр.) з лат. *pipéle* 'penis' (Блесэ, SB, 5, 18—19) ці з літ. *pyplỹs* 'плакса; дзіцяня' (ад *pỹpti* 'пішчаць', Лаўчутэ, Балтызмы, 72) патрабуюць дадатковага абгрунтавання. Нельга разглядаць асобна ад *пыпліць* 'дрэнна рабіць', параўн. у запісах фальклору: *А сваттюхны пыплёхи / Пыплють, пыплють, ну умѣють / А нам сказать ня смѣють* (віц.).

**Пыпла**₂ (*пыпло*) 'ціпун у птушак' (Нас.). Да *пыпець* (гл.), магчыма, збліжанае з гукаперайманнем, якое перадае адпаведны характар гукаў пры хваробе, параўн. чэш. *tipati* 'выдаваць голас пры хваробе ціпун (пра курэй)'; *pípati* 'пікаць, пішчаць', славен. *tipati* 'дакранацца', *pipati* 'торкаць, калупацца ў зубах'; балг. *фъфля* 'прышапётваць, чапляць кончыкам языка зубы пры размове' і пад., што дае падставы бачыць у названым слове няпоўнае падваенне кораня. Гл. наступнае слова.

**Пыпліць** 'марудзіць, марудна прымацца за справу' (Нас.), 'марудна рабіць' (Шымк. Собр.), *пыпліцца* 'марудзіць' (Бяльк.), сюды ж *пепліць* 'тс', *пеплецца* 'паволі рабіць', *піплівы* 'карпатлівы, нудны (пра работу)': *ваша такая піплівая работа, піша і піша* (ашм., LKK, 16, 186). Традыцыйна параўноўваюць з балтыйскімі адпаведнікамі: лат. *pipelētiês* 'корпацца, марудзіць' (Блесэ, SB, 5, 18; Кіпарскі, Лекс. балтызмы, 14), літ. *pìplioti* 'карпатліва, старанна працаваць', *pyplỹs* 'слабы, нядужы чалавек' (Грынавяцкене і інш., LKK, 16, 186), *pẽpti* 'слабець, чэзнуць', *pépis* 'вялы чалавек, мямля, размазня' (Санька, Kryуja, 1996, 1, 91), што дае падставы адносіць беларускія словы да балтызмаў. Аднак балг. *пъпля* 'поўзаць (пра насякомых, малых жывёлак), рухацца паволі, з цяжкасцю, чуць варушыцца; рабіць нешта, але без

выніку' (Младэнаў, 538: інтэрпрэтуе як слова з няпоўнай рэдуплікацыяй) прымушае прыняць гукапераймальнае паходжанне (таксама Фасмер, 3, 419, адносна беларускіх слоў); паводле Сноя (гл. Бязлай, 3, 38), у аснове самастойных утварэнняў — рэдуплікацыя імітатыўнага кораня і.-е. *$p\bar{\breve{\imath}}$-p-*, параўн. польск. дыял. *pyplić* 'мяць, рабіць нядбала, дрэнна, корпацца', в.-луж. *piplić* 'саматужнічаць; калупацца ў носе', н.-луж. *pimpliś* 'марудна рабіць, корпацца', чэш. *piplat* 'рабіць марудна, корпацца, калупацца', славац. *piplat' sa* 'марудзіць, рабіць павольна і нерашуча'.

**Пы́пніць** 'запінацца, гаварыць з перапынкамі; рабіць нядбала, абы-як' (вілен., Нас.), 'рабіць павольна, марудна, неахайна' (Чач.: "używany w Litwie w polszczyźnie"), 'няўмела прасці' (пруж., Сл. ПЗБ), *пы́пніцца* 'рабіць вельмі марудна' (клец., Жыв. сл.). Лічыцца балтызмам, у якасці крыніцы падаецца літ. *pýpnioti* 'корпацца, марудзіць; з цяжкасцю выбірацца з хваробы', *pipnóti* 'марудна вастрыць касу' (Лаўчутэ, Балтизмы, 127); аднак фармальная і семантычная блізкасць з *пыпліць* (гл.) дазваляе лічыць больш пераканаўчай версію пра імітатыўны характар дзеяслова (заіканне, пыхканне і пад.), параўн. лат. *pîpinât* 'курыць'; балг. *пи́пна, пипну́вам* 'дакранацца пальцам, хутка рабіць', *пипне́ж* 'марудная работа', *пипни́в* 'марудны' і пад. (гукаперайманне, гл. БЕР, 5, 246).

**Пы́пскаць** 'курыць' (ігн., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае, параўн. рэканструяванае Махэкам$_2$ (450) "*sk*-intensivum" у чэш. **pip-skati* 'мазаць, замазваць'.

**Пы́пці** 'кіпці, вялікія кіпцюры' (Бяльк.), *пы́пти* 'пальцы на руках' (Растарг.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *пы́пець* 'нарост; ціпун' (гл.), збліжанае з *кі́пець* 'пазногаць, кіпцюр' (гл.), параўн. і *кі́піць* 'ціпун' (гл.). Звяртае на сябе ўвагу паралелізм слоў балг. *пи́пам* 'дакранацца пальцам' і *пи́па, пи́пка* 'ціпун', паводле БЕР, 5, 245, не звязаных паміж сабой.

**Пыр**$_1$ (*пыръ*) 'вецер' (Шпіл., у прыпісцы): *чы пыр, чы негода, чы будзеш заўтра пагода?* (Нік. Посл), параўн. рус. урал. *пыря́ть, пырну́ть* 'дунуць, падуць (пра вецер)'. Няясна. Магчыма, да *пыр*$_2$, гукаперайманне, імітуючае пырханне, лёгкі подых, параўн. таксама стараж.-рус. *пърѣ* 'ветразі' ("Аповесць мінулых гадоў" пад 907 г.), тады звязанае таксама з **por-*, **per-* ("o locie", Брукнер, 438), якія выступаюць у *прапар, перапёлка* (гл.). Інакш адносна

старaж.-рус. слова Фасмер, 3, 392 (запазычанне з фінскай); адзінкавыя фіксацыі і адсутнасць тлумачэння семантыкі слова ў дзіцячай помаўцы (‘спёка, гарачыня’?) не выключаюць сувязі з **pyrь* ‘агонь’, параўн. рус. урал. *пы́рья* ‘напор, струмень паветра (з мяхоў у кузні)’: *огонь горит под пырьей* (СРНГ). Зрэшты, гэта можа сведчыць пра вельмі даўняе змяшэнне асноў са значэннем ‘раздуваць’, параўн. *пы́рыць* (гл.), і ‘гарэць’ (гл. *пырнік*$_2$).

**Пыр**$_2$ — гукаперайманне, імітацыя ўзлёту, палёту: *пыр-пыр* ‘пырх’ (шальч., Сл. ПЗБ), ‘пра ўзмахванні крылцамі птушкі” (Шат.), *пы́ркаць* ‘падлятаць, скакаць’ (пух., З нар. сл.; ашм. Стан.), ‘парушыць’ (смарг., Сл. ПЗБ). Гукаперaймальнага паходжання, параўн. *пырх* (гл.).

**Пыр-пыр** ‘падзыўныя словы для курэй’ (Гарэц.), *пырь-пырь* ‘тс’ (Нас., мсцісл., З нар. сл.; Растарг.), *пы́ра-пы́ра* ‘тс’ (Растарг.), *пы́ря*, *пы́рка* ласк. ‘назва курыцы’ (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), ‘нейкая птушка, магчыма, чыранка’ (Турска ў Федар. 7), рус. *пырь-пырь* ‘падзыўныя словы для курэй, індыкоў’, *пы́ря* ‘курыца, індычка; слова, якім падзываюць авечак’; паводле матэрыялаў АЛА, суадносіцца з падзыўнымі для куранят на поўдні Славіі: славен., макед. *pyri*, *pire*, *pira*. Гукаперaймальнае, гл. Фасмер, 3, 420; БЕР, 5, 254; Махэк$_2$ (449) ідэнтыфікуе з *пыль-пыль* (гл.), бо ў аснове слоў ляжыць першаснае гукаперайманне **pi-pi*, што імітуе голас куранят у большасці славянскіх моў, параўн. Фалінская, Зб. Сяткоўскаму, 159. Гл. *пі-пі*, параўн. літ. *pỹpti* ‘пішчаць’, *ру́-ру́*, а таксама рум. *piri-piri*, венг. *piri-piri* і пад.

**Пы́раць**: *пыраць бялізну пранікам* ‘праць бялізну пры дапамозе прача’ (Мат. Гродз.). Звязана з *праць* ‘сціраць, выбіваць прачом’ (гл.) чаргаваннем вакалізму, параўн. *пе́рыць* ‘тс’.

**Пыра́ць** ‘пароць, тыкаць, калоць’ (Сяржп.), *пырну́ць* ‘біць чым-небудзь вострым’ (ТСБМ, Сержп.), *пырну́тэ* ‘парнуць, ткнуць, кальнуць’ (драг., Нар. лекс.), выклічнік *пырь* ад *пароць* (мсцісл., Нар. лекс.), рус. *пыря́ть*, *пырну́ть*. Звязана чаргаваннем галосных з *паро́ць* (гл.), гл. Праабражэнскі, 2, 160; паводле Фасмера (3, 420), грунтуецца на анаматапеічным утварэнні.

**Пы́ргаць** ‘скакаць’ (Жд. 2), параўн. рус. *пры́гать* ‘тс’. Нельга аддзяліць ад *пы́ркаць* ‘падлятаць, скакаць’, *пы́рхаць* ‘тс’, гл. *пыр*$_2$, і іншых блізкіх па семантыцы слоў, што маюць у аснове гукаперaймальнае **pr̥-* з рознымі пашыральнікамі асновы (*-g-*, *-k-*, *-x-*

і пад.). Параўн. Копечны, Зб. Младэнаву, 373; пра роднасныя формы гл. Фасмер, 3, 390—391.

**Пы́рка** 'кукіш': *дай яму пырку* (шальч., Сл. ПЗБ). Няясна, магчыма, пераноснае ад *пы́рка* 'курыца' (гл. *пыр₂*), параўн. рус. *пы́рка* 'penis' (гл. Фасмер, 3, 420, ад *пыря́ть, пыр*, гл. таксама Этимология—1997—1999, 50) і 'курыца', што звязана з *пы́рыць* 'распіраць, пучыць' (гл.), пра аднакарэнныя пашыраныя асновы **pъrk-*, **pъrski-* і пад. гл. Трубачоў, Зб. памяці Талстога, 1, 312.

**Пы́рнік₁** 'расліна Agropyron Gaertn.' (Нас., Гарэц., Кіс., Бяльк., Мат. Гом., Воўк.-Лев., Татарк.), 'расліна Triticum repens L.' (Мядзв., Шат.), 'расліна ажыка, Luzula pilosa (L.) Wild.' (маг., Кіс.), 'пустазелле, метлюжок' (Сцяшк.), 'род мнагалетніх раслін сямейства злакавых, пустазелле' (ТСБМ; дзісн., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ), *пы́рай* 'тс' (Янк. 1, Сцяшк., Скарбы), *пырэ́й* 'тс' (Сцяц., Ян.; ЛА, 1; Сл. Брэс., Мат. Гом.), *пыра́й* 'тс' (Мат. Гом.), *пу́рэй* 'тс' (ТС; ЛА, 1), *пірэ́й* 'тс' (Бес., ПСл), *пы́рава* 'тс' (ЛА, 1), *пыраві́ца* (лід., карэл., Сл. ПЗБ), *пы́раў* 'тс' (любч., Нар. словатв.), *пыр'як* 'пырай паўзучы, Agropyron Gaertn. repens P.B.', *пы́рын* 'тс' (навагр., Жыв. сл.), зборн. *пу́р'е, пур'ё* 'пустазелле' (ТС; свісл., Шатал.; Янк. 2), *пуры́на* 'адно сцябло пырніку', параўн. укр. *пирі́й, пері́й*, рус. *пыре́й*, польск. *perz*, чэш. *pýr, pýř,* славац. *pýr*, в.-луж. *pyr*, н.-луж. *pyŕ,* славен. *pira*, *pírnica*, харв. *pȉr*, *pirevina*, балг. *пи́рей*, макед. *пир*, *пиреј*, ст.-слав. **пъіро** 'проса'. Прасл. **pyrь* роднаснае ст.-прус. *pure* 'каласоўнік, касцёр', літ. мн. л. *pūraĩ* 'азімая пшаніца', *pũras* 'зерне азімай пшаніцы', лат. мн. л. *puŗi* 'пшаніца', грэч. πῦρός 'тс', англ.-сакс. *furs* 'пырнік', што ўзводзяць да і.-е. *pūro* 'зерне', гл. Бязлай, 3, 39; Фасмер, 3, 419; Шустар-Шэўц, 2, 1197; Сной, 445; Банькоўскі, 2, 532. Параўн. *пур* (гл.).

**Пы́рнік₂** 'аладка з тварагом' (лід., Сцяшк. Сл.). Утварэнне на базе прасл. **pyrь* 'тлеючыя вуглі', параўн. укр. *пире́й, пері́й* 'жар, попел', *пи́рний* 'востры, пякучы', рус. *пы́рей* 'загнетка ў печы', польск. *perz* 'тлеючыя вуглі, жар; рэшткі гарэлага', *perzyna* 'тс', ст.-польск. *pyrz* 'тс', чэш. дыял. *pýř* 'жар', ст.-чэш. *pýřie* 'гарачае вуголле', славац. *pýr* 'чырвань на твары', *pyrina* 'попел', н.-луж. *pyrina* 'попел ад выкуранага тытуню', сюды ж в.-луж. *pyrić* 'паліць у печы', славен. *pírav, perav* 'тленны', харв. *pirjan* 'вэнджанае мяса', балг. *пържен* 'смажаны, пражараны'. Магчыма, архаізм, гл. ст.-слав. **пырѣнъ** 'ляпёшка з оркішу (пала-

віцы)', славен. *píren* 'пшанічны', якія выводзяць з прасл. **pyrъ*/ **pyro*, параўн. серб.-харв. *pȉr* (Вук: "некакво жито"), *pȉro*, славен; *píra* 'оркіш', што можа быць звязана з **pyrъ* 'агонь'. Параўн. тыпалагічную паралель: *ватрушка* 'піражок з тварагом' ад *ва́тра* 'агонь' (Фасмер, 1, 279). Больш падрабязна адносна ст.-слав. слова гл. ESJSt, 12, 736. Параўн. папярэдняе слова (гл.).

**Пы́рса** 'пілавінне, апілкі' (шчуч., Сл. ПЗБ; парыц., Янк. Мат.; б.-каш., жлоб., Мат. Гом.), параўн. укр. *пи́рса* 'тс'. Відаць, да *тырса́* 'тс' (гл.) пад уплывам *пы́рскаць*, параўн. *пірса*, *пярса́* (гл.).

**Пы́рскаць** 'крапіць' (Нас., Шымк. Собр., ТСБМ, Шат., Бяльк.; брасл., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.; Растарг.), 'гаварыць з запалам' (Жд. 2), 'пырхаць, ціха смяяцца' (Жд. 3), *пы́рскацца* 'задавацца' (смарг., Сл. ПЗБ), *пы́рскнуць* 'пакрапіць' (Шат.), 'кінуцца' (шальч., Сл. ПЗБ), выклічнік *пырсь* (Нас.; мсцісл., Нар. лекс.), *пы́рскі* 'дробныя кроплі вады' (ТСБМ, Варл., Шат., Бяльк., Стан.), *пырсклівы* 'гультаяваты' (смарг., Сл. ПЗБ), *пыршча́ць* 'імжэць (пра дождж)' (Шат.), укр. *пи́рскати* 'пырскаць, пырхаць', рус. *пы́рскать* 'тс', польск. *parskać* 'тс', чэш. *prskati* 'тс', славац. *prskat'* 'тс', в.-луж. *porskać* 'тс', н.-луж. *parskaś* 'тс', славен. *pŕskati* 'пырскаць (слінай), пырхаць', серб.-харв. *пр́скати* 'тс', балг. *пръскам* 'тс', макед. *прска* 'пырскаць, крапіць; узрывацца'. Прасл. **pъrskati* 'пырскаць, пырхаць' чаргуецца з **porskati* (гл. *порскаць*), параўн. літ. *pur̃kšti* 'пурхаць, фыркаць, імжаць', лат. *pùrskât* 'тс'; узыходзіць да асновы і.-е. **per-s-* 'імжаць, пырскаць' (Бязлай, 3, 129; Фасмер, 3, 334; 420); Банькоўскі (2, 504) мяркуе пра зыходнае прасл. **pr̥-sk-*, што тлумачыць варыянтнасць ст.-польск. *pyrskać,* другасных *pryskać, parskać.* Смаль-Стоцкі (Приміт., 169) гукаперайманне для "хуткага акраплення" укр. *прись-прись* трактуе як выгук пастухоў (няўпэўнена звязвае з *пріч* 'прэч'), што дазваляе пагадзіцца з Трубачовым аб магчымай "ранняй семантыцы" 'апладняць' для дзеясловаў з асновамі **pъrk-*, **pъrl-*, **pъrsk-* (Зб. памяці Талстога, 312), параўн. рус. *при́скать* 'тс', серб.-харв. *пр̏скати* 'тс', славен. *pŕskati* 'спарвацца (пра коз)', чэш. мар. *prskati se* 'тс'. Бязлай (3, 129) лічыць **pъrskati* 'тс' інтэнсівам да прасл. **pъrkati* 'тс'.

**Пы́рта** груб. 'нос' (шчуч., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, ад *пы́рыць* 'выпіраць, пучыць' (гл.) з рэдкай суфіксацыяй *-та* (-**ъta*), параўн. *пырка* (гл.).

**Пы́рхаць** ‘пералятаць з месца на месца; з шумам выпускаць паветра’ (ТСБМ; Нас.; Шымк. Собр.; Шат.; Гарэц., шальч., Сл. ПЗБ), *пы́рхнуць* (Федар. 1; Сержп.) ‘пырскаць, крапіць, імжаць’: *пырхае дошч* (ашм., Сл. ПЗБ), выкл. *пы́рх* (*пырьх*) (ЭШ; мсцісл., Нар. лекс.), *пырхун* ‘хто фыркае, пакашлівае’ (Шымк. Собр.), укр. *пи́рха́ти* ‘ўзлятаць; фыркаць’, рус. *пы́рхать* ‘фыркаць, кашляць’. Гукапераймальнае, суадноснае з *пу́рхаць* (гл.); паводле Смаль-Стоцкага (Приміт, 168), стары выгук, імітуючы фырканне і адлёт птушкі, прадстаўлены варыянтамі ўкр. *пирх*, *перх*, *порх*, *пурх*; польск. *pierzchać* ‘пырскаць, сыпаць іскрамі’, перан. ‘уцякаць’, славен. *prhati* ‘фыркаць, трапятаць’, чэш. *prchati* ‘ўцякаць’ і інш. даюць падставы Сною (497) бачыць супадзенне дзвюх асноў: прасл. **pъrxati* ‘пырхаць, узлятаць’ і **pьrxъ* ‘нешта распыленае’ (гл. *перхаць*), што зусім не абавязкова, улічыўшы анаматапеічны характар слоў, параўн. Банькоўскі, 2, 562 (рэканструюе **pr̥̄xati* ітэратыў да **pr̥̄xnǫti*); параўн. таксама Куркіна, Этимология—1994—1996, 199; ЕСУМ, 4, 374.

**Пыршча́ць** ‘імжаць (пра дождж)’ (чэрв., Сл. ПЗБ), сюды ж, відаць, і *пыршчэ́ць* ‘блішчаць’ (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *пырскаць* (гл.).

***Пыры́ца**, *пыры́ця* ‘страказа’ (Сіг.), параўн. укр. лемк. *пи́риця* ‘матылёк’. Відаць, утворана ад *пы́рыць* ‘растапырваць (крылцы і пад.)’ (гл.).

**Пы́рыць** (*пы́риць*) ‘распіраць, пучыць’ (Нас.), *пы́рыцца* ‘надувацца, растапырваць пер’е; пышна апранацца’ (Нас.), *пы́ріць* ‘турбаваць, не даваць спакою’ (Бяльк.), параўн. рус. *пы́рить* ‘расстаўляць пер’е, тапырыцца’, чэш. *pouřiti* ‘надувацца’, серб.-харв. *пи́рити* ‘дуць’. Праслав. **pyriti* ‘надувацца’, роднаснае літ. *išpur̃ti* ‘расстаўляць пер’е; надувацца, тапырыцца’, *pũrinti* ‘скубаць (валасы, воўну)’, *pỳrtyti* ‘трасці’, лат. *pũrt* ‘кашлаціць, рабіць нягладкім’, нарв. *föyrast* ‘рабіцца пухкім, мяккім’, гл. Фасмер, 3, 420, з літ-рай. Цвяткоў (Запіскі, 2, 55) бачыць у *пы́рыцца* адлюстраванне польскай фанетыкі (“нахіленне”: *ы* на месцы *é*, параўн. *perzyć się* ‘пушыцца, натапырвацца’), што зусім не абавязкова, параўн. ст.-польск. *pyrzyć się* ‘натапырвацца, стырчаць (пра ўсходы, рунь)’, якое Банькоўскі (2, 533) выводзіць са ст.-польск. *pyrz*, сучаснае *perz* ‘пырнік’, роднаснае рус. *пы́рить пе́рья*, чэш. *pýřiti* ‘прарастаць’, што можа быць звязана з літ. *pùrti* ‘на-

тапырвацца'. Зусім верагоднае другаснае збліжэнне некалькіх этымалагічна адрозных асноў у сувязі з блізкасцю семантыкі, параўн. Белецiч, Зб. Івічу, 120.

**Пы́са** 'ніжняя частка галавы жывёліны (з губамі і ноздрамі)'; груб. 'твар' (ТСБМ, Сцяшк.), 'мы́са ў каровы, цяляці' (ЛА, 1; Бяльк., Мат. Гом.), 'храпа ў каня' (ЛА, 1; Бяльк.), 'морда' (Некр., Ян., Растарг.), *пы́сы* 'канец морды з губамі' (Шат.; чэрв., Сл. ПЗБ), параўн. укр. *пи́сьо* 'тварык'. Хутчэй за ўсё, адваротны дэрыват ад *пы́сак*, *пы́ска* (гл.), пад уплывам *мы́са* 'морда свойскай жывёлы' (гл.); бадай, не звязана з усх.-славац. *pusa* (< польск. *buzia*, балг. *бу́за,* карпатызм, гл. Клепікава, Исслед. по слав. диал., 5, 208).

**Пы́сы** 'нявымалачаныя каласы' (чэрв., Нар. лекс.), *пы́сікі* 'асцюкі' (барыс., Сл. ПЗБ). Грынавяцкене і інш. (там жа) параўноўваюць з літ. *paisaĩ* 'тс'.

**Пы́сак** 'морда, мыса ў каровы' (ЛА, 1; паст., ігн., шальч., Сл. ПЗБ), *пы́скі* 'тс' (віл., зэльв., там жа; Сцяц., Варл.; Сержп., ЛА, 1), *пы́сак* 'дзюба' (швянч., Сл. ПЗБ), *пы́ска* 'вісок са шчакою; поўха' (Нас.), *пы́ські* 'шчокі, шчочкі' (Мал.), *пыск* 'морда ў рагатай жывёлы' (ашм., дзісн., Стан.; ЛА, 1), 'пашча звера' (Сцяшк. Сл.), груб. 'рот, вусны' (Скарбы, Даніл. Сл.), 'скроні, твар; вісок са шчакою' (Нас., Бес.), ст.-бел. *пысокъ* 'дзюба (у птушкі)', укр. *пи́сок* 'твар, морда; дзюба касы; мыс на рэчцы', рус. дыял. *пы́ска* 'насмешлівая назва тонкай і кароткай жаночай касы', польск. *pysk* 'лыч свінні; морда сабакі', чэш., славац. *pysk* 'губа', в.-луж., н.-луж. *pysk* 'дзюба, лыч', славен. *piski* 'alae matricis', макед. *писки* экспр. 'тоўстыя губы'. Прасл. **pyskъ* 'морда, губы', этымалагічна ідэнтычнае **pych-*, ад **pyxati* 'дуць, моцна дыхаць', гл. *пыхаць*; параўноўваюць з ц.-слав. *напыштити* 'надувацца' (Міклашыч, 268), ст.-рус. *пысканити* 'насміхацца' ('строить рожи', гл. Трубачоў, Зб. памяці Талстога, 1, 310), а таксама з літ. *pūkšlẽ* 'пухліна, гула', *pùškas* 'пухір', *puškúoti* 'цяжка дыхаць' (Фасмер, 3, 420), ст.-інд. *puccha-* 'хвост' (Махэк$_2$, 503; так і Трубачоў, Зб. памяці Талстога, 1, 311; супраць БЕР, 5, 261). Без падстаў лічаць выключна заходнеславянскім *pysk* Брукнер (450) і Баньkоўскі (2, 969), паводле апошняга — няяснае па паходжанні, параўн. таксама *pyskla* (упершыню зафіксаванае ў буллі пад 1136 г. у форме *piscla*) — лічыцца эпітэтам свінні, што рые

(ад *pyskać, pysklać* ‘рыць лычом’, там жа). Будзішэўская (Балк. Ез., 36, 1, 35—37) далучае сюды ж балг. *пи́сък* ‘выступ, каса’ ў якасці паралелі да **ръть* ‘нос, выступ, пік’ (ад **ryti*).

**Пы́таль** (*пытэль*) ‘машына для апрацоўкі зерня’: *пшеницу ободрали на пытэль* (Нас.), ‘пытля, вальцы, вальцавы млын’ (лун., Шатал.; чэрв., астрав., беласт., Сл. ПЗБ; Нар. лекс.; Мат. Гом.), ‘лепшага гатунку мука з папярэдне ачышчанага зерня’ (Шат.), *пытль* ‘тс’ (Касп.), *пы́цель* ‘вальцы, вальцавы млын; вальцаваная мука’ (ТСБМ), сюды ж *пытлява́ць* ‘дробна размолваць і прасейваць зерне’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), *пытлёўка* ‘пытляваная мука’ (Шат., Мат. Маг., Сл. ПЗБ), *путлёўка* ‘тс’ (ТС), *даць пы́тлю* ‘даць наганяй, вылаяць, пабіць’ (Янк. БФ.; люб., Жыв. НС), *пы́цялям* ‘вельмі хутка’ (навагр., Жыв. НС). Са ст.-в.-ням. *būtil* (> с.-в.-ням. *biutel*, ням. *beutel* ‘мяшок’), мяркуецца, праз пасрэдніцтва чэш. *pytel* ‘мяшок з палатна’ і польск. *pytel* ‘сіта ў выглядзе мяшка з тонкага льнянога палатна для ачышчэння мукі ад вотруб’я’ (фіксуецца з 1393 г., вытворнае *pytlować* з 1463 г., гл. Банькоўскі, 2, 971), параўн. ст.-бел. *пытель, пытлевати* (Булыка, Лекс. запазыч., 93—94); пра фанетычныя прыкметы запазычання гл. Цвяткоў; Запіскі, 2, 57.

**Пыта́льнік** ‘знак прыпынку пры запытанні’ (Гарэц., Др.-Падб., ТСБМ). Наватвор пачатку XX ст., таксама ў форме *пыта́ннік* (Красней, Бел. лекс., 90); параўн. польск. *pytajnik* ‘тс’ (з 1861 г. замест *znak pytania*, гл. Банькоўскі, 2, 971); *пыта́льны*: *пытальны сказ*, як і польск. *pytajny*: *zdanie pytajne*, штучна ўтвораныя прыметнікі ад *пыта́ць* (*pytać);* параўн., аднак, выяўленае ў Кітабе XVI—XVII ст. (т. зв. Кітаб Луцкевіча) слова *пытальнік* ‘той, хто пытае’, што магло паслужыць узорам для ўтварэння лінгвістычнага тэрміна.

**Пыта́нне** ‘запытанне, дапытванне’: *безъ пытання прызнався* (Нас.). Ад *пытаць, пытацца* (гл.), у сучасным абстрактным значэнні ‘задача, праблема’ (ТСБМ), відаць, еўрапеізм, утвораны на роднай глебе, параўн. Векслер, Hist., 149.

**Пыта́ць** ‘звяртацца з пытаннямі; прасіць дазволу’ (ТСБМ, Шымк. Собр., Нас., Шат., Сл. ПЗБ, Растарг., Мал.), *пыта́цца* ‘тс’ (ТСБМ, Нас., Мядзв., Гарэц., Чуд.; Воўк.-Лев., Татарк.; Сл. ПЗБ), *пута́ць* ‘тс’ (маз., Шн. 3; ТС), сюды ж *пытальнік* ‘той, хто пытае, дапытваецца’: *прыйдуць страшныя пытальнікі* (Кітаб XVI—

XVII ст., Стан.), *пы́цік* 'цікаўны, хто пытаецца пра тое, што яму не трэба знаць' (Нас.), *пы́тма пыта́ць* 'дапытвацца, паўтараць пытанні' (Нас.), укр. *пита́ти,* рус. *пыта́ть* 'праводзіць допыт; катаваць', *пыта́ться* 'старацца, спрабаваць', польск. *pytać,* чэш. *ptáti se*, славац. *pytat'* 'прасіць', *pytat' sa* 'пытацца', в.-луж. *pytać* 'шукаць, расшукваць', н.-луж. *pytaś* 'тс', дыял. 'пытаць', славен. *pítati* 'пытаць, дапытваць', серб.-харв. *пи̏тати*, балг. *пи́там*, макед. *пита*, ст.-слав. **пытати** 'тс'. Прасл. **pytati* 'пытаць, шукаць', параўноўваюць з лац. *putāre* 'абдумваць, меркаваць; рэзаць', тахар. A *put-k* 'судзіць, раздзяляць, адрозніваць'. Гл. Фасмер, 3, 421, з літ-рай; Бязлай, 3, 43—44; Шустар-Шэўц, 2, 1199; БЕР, 5, 266. Паводле Варбат (Этим. иссл., 6, 16—17), развіццё значэння ад 'рэзаць' да 'думаць, меркаваць', магчыма, звязана са старажытным земляробчым тэрмінам, пра што сведчыць рус. дыял. *вы́пытаць* 'выкарчаваць'.

**Пы́тка** 'біч, сплецены з раменьчыкаў' (смарг., Сл. ПЗБ). Відаць, кантамінацыя (*плётка* 'тс' і рус. *пыта́ть* 'фізічна ўздзейнічаць'?).

**Пытле́ць** 'малаціць' (лід., Сцяшк. Сл.). Няясна, магчыма, да *пы́таль* (гл.).

**Пы́ха** 'фанабэрыстасць, ганарыстасць' (ТСБМ, Нас., Яруш., Бес., Касп., Др.-Падб., Гарэц., Варл.), 'задаванне, амбіцыя' (ашм., Стан.), 'дастатак' (ваўк., Сл. ПЗБ), сюды ж *пыхамо́рды* груб. 'ганарысты' (астрав., там жа), *пыхова́ты* 'ганарыста падціскаць губы' (Клім.), *пыхаце́ць* 'рабіцца фанабэрыстым' (Стан.), *надымаць пыхаю* 'рабіць ганарыстым' (Нас.). Арэальная інавацыя, цэнтр якой хутчэй за ўсё знаходзіўся ў Чэхіі, параўн. чэш. *pýcha* 'ганарыстасць, фанабэрыя', паводле Махэка$_2$ (502), ад *pýchati* 'рабіцца пышным, пышнець', першапачаткова 'дуць, надувацца', перанесенага ў маральна-этычную сферу ('nadýmati se pýchou'), гл. *пыхаць*; у Беларусь трапіла праз польск. *pycha* 'пышнасць, ганарыстасць', занесенага з Чэхіі ("drogą kościelną", Банькоўскі, 2, 969), параўн. запазычанае ст.-бел. *пыха* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 134).

**Пы́хаць** (*пы́хаті*) 'пырскаць, апырскваць' (беласт., Сл. ПЗБ), 'часта, моцна дыхаць' (Нас., Гарэц.), 'бухаць (пра агонь, полымя), абдаваць гарачынёй' (Нас., ТСБМ), 'выяўляць моцнае пачуццё, гневацца' (Нас., ТСБМ), *пы́хнуць* 'хутка знікнуць; пачыр-

ванець' (Бяльк.), 'хутка ўзняцца' (Ян.), *пыхнуті* 'ўдарыць' (беласт., Сл. ПЗБ), *пых* — выклічнік, імітуючы раптоўнае ўзгаранне, пачырваненне (Нас., мсцісл., Нар. лекс.), сюды ж *пыхаўка* 'морда, мыса' (ушац., Нар. лекс.), укр. *пихáти* 'пыхцець', рус. *пыхáть, пы́хать* 'гарэць, палаць; курыць', н.-луж. *pychaś* 'цяжка дыхаць', славен. *píhati* 'дуць, раздуваць агонь', харв. чак. *pīhȁt* 'цяжка дыхаць, сапці', балг. *пи́хам* 'цяжка дыхаць', ст.-слав. **пыхати** 'тс'. Прасл. **pyxati* 'дуць, дыхаць', ітэратыў да **pъxati*, параўн. балг. *пъ́хам* 'храпець' (гл. *пхаць, піхаць*), Бязлай, 3, 34; БЕР, 5, 268; чаргуецца з **puxati* (гл. *пухаць*). Гл. таксама Фасмер, 3, 421; Шустар—Шэўц, 2, 1196—1197; Чарных, 2, 88 (рэканструюе старое значэнне 'надувацца; аддувацца'); Глухак, 511 (узводзіць да і.-е. **pū -s-*).

**Пыхце́ць** 'курыць' (ваўк., Сл. ПЗБ), 'праяўляць запальчывасць' (Жд. 2). Да *пыхаць* (гл.), *пыхкаць* з "інтэнсіўным" суфіксам *-t-*.

**Пы́ца** груб. 'морда, твар' (Ян.), 'чалавек з вялікім непрыгожым тварам' (Растарг.), сюды ж *пыця́тый* 'мардаты, пухлашчокі' (пін., Нар. лекс.), *пыца́н* 'тоўсты чалавек' (Бяльк.). Хутчэй за ўсё, адваротны дэрыват ад *пы́цка, пы́цак* (гл.).

**Пы́ці-пы́ці** — падзыўныя словы для курэй (ашм., Стан.), параўн. рус. *пыть-пыть, пы́тя-пыти* — падзыўныя словы для індычак. Магчыма, у выніку перараскладання *ціп(ы)-ціп(ы)*, падзыўныя для курэй (гл.), параўн. рус. *ба́ська-ба́ська* < *каба́сь-каба́сь* (ад *кабан*), гл. Германовіч, Междом., 74. Сюды ж *пы́цька* (*pyt'ka*) 'курыца' (Арх. Федар.).

**Пы́цка** старое 'шчака', мн. л. *пы́цкі: даць па пыцках* (Даніл. Сл.), *пы́цак: даць па пыцку* (там жа, па твары?), сюды ж *пыцо́к* 'penis' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), параўн. польск. дыял. *pycek* 'кавалак', магчыма, сюды ж і славен. *pîcek* 'penis'. Утворана ад імітатыўнага **pykъ*, гл. *пы́цнуць*, зыходная форма *пы́цкаць* 'дакранацца'; не выключана сувязь з **pyskъ*, гл. *пысак*.

**Пы́цнуць** 'дакрануцца' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Імітатыўны дзеяслоў ад **пыц*, паралельнага да *пуц* (гл.), *пац* (гл.) і пад., палаталізаваны варыянт да *пык* (гл.), параўн. *тыц* (< *тык*) і *тыцнуць* 'ткнуць, торкнуць'.

**Пы́ць** 'лапаць': *рыстыптаўсь мой пыць* (Бяльк.). Усечанае *ла́пыць* 'тс' (там жа), гл. *лапаць*.

**Пыч** ‘верхняя частка парастка’ (карэліц., З нар. сл.). Магчыма, адваротны дэрыват ад *пы́чка* (гл.), параўн., аднак, балг. *пич* ‘адростак на вінаградпай лазе, тытуню; новая маладая галінка, што вырасла на месцы зрэзу’, якое БЕР (5, 269) выводзяць з тур. *piç* ‘расток, адростак’.

**Пы́чка** ‘дзюба’ (Ян.), ‘мордачка, мыса’ (слонім., Сл. ПЗБ), *пычэ́к* ‘біч у цэпа’ (ДАБМ, камент., 828), параўн. укр. *пи́чка* ‘мордачка’, рус. *пы́чки* ‘бранно о глазах человека’, *пы́чка* ‘penis’, польск. *py(t)ka* ‘кароткі жорсткі хвост каня; penis’. Паводле Махэка$_2$ (502), апошнія словы з’яўляюцца трансфармацыямі пад уплывам табу першаснага **pysk* (гл. *пысак*), якое мела зыходнае значэнне, блізкае да ст.-інд. *puččha-* ‘хвост, канец’.

**Пыш** ‘прысак’: *колькі пышу!* (слонім., Нар. лекс.), рус. *пыш* ‘тс’, сюды, відаць, і *пыш, пышь* ‘мякіна ад грэчкі, канапель’; параўн. таксама славен. *piš* ‘бура, навальніца, дождж з ветрам’. Прасл. **pyšь* утворана ад **pychati* ‘дуць, узлятаць ад подыху’, што пацвярджае і славен. *piš* ‘подых, дыханне’, а таксама рус. *пыша́ть* ‘дыхаць, рабіць уздыхі і выдыхі’, гл. Фурлан—Бязлай, 3, 43; Фасмер, 3, 422; іншыя фанетычныя варыянты ў рус. арл. *пыс* ‘прысак, попел’, яросл. *пыск* ‘лёгкі налёт на вуглях’.

**Пышані́ца** ‘пшаніца’, *пышані́шній* ‘пшанічны’ (Бяльк.). Фанетычныя варыянты да *пшані́ца* (гл.), магчыма, пад уплывам *пашня́, пашні́ца* ‘збажына, збожжавыя’ (гл.).

**Пы́шка$_1$** ‘круглая пульхная булачка’ (ТСБМ; в.-дзв., калінк., Сл. ПЗБ; Бяльк.), ‘печыва з мукі і бульбы’ (лід., Сл. ПЗБ), ‘мёрзлая, перазімаваўшая на полі бульба’ (слуц., Жыв. сл.; пух., Сл. ПЗБ), *пы́шка* ‘тс’ (Жд. 2; Жд. 3), рус. *пы́шка* ‘пышка, пампушка’. Утворана ад *пы́шкаць* ‘брадзіць, пухкаць (пра цеста)’, параўн.: *подходзіць хлеб да пушкае* (ТС), гл. *пы́хаць, пышэ́ць*.

**Пы́шка$_2$** ‘ганарлівец, надуцік; пястун, раскошнік’ (Нас.), сюды ж *пы́шыцца* (*пы́шицьца*) ‘надзімацца’ (Нас.), *пы́шаны* (*пы́шенный*) ‘фанабэрысты, непадступны’ (там жа). Ад *пыхаць, пышны* (гл.).

**Пы́шкаць** ‘брадзіць; пухцець, пыхцець’ (шальч., Сл. ПЗБ), *пу́шкаць* (**пышкаць*) ‘цяжка дыхаць, пыхкаць’ (ТС), *пы́шкаць, пшы́каць* ‘шыпець’ (там жа), ‘шумець’: *пышкая ў вушах* (шальч., Сл. ПЗБ), сюды ж *пу́шкнуць* ‘шыкнуць’, *пушкоце́ць* ‘пыхцець’, *пушко́рыцца* ‘шамацець’ (ТС), параўн. рус. *пы́шкать* ‘пыхцець;

шыпець', балг. *пѝшкам, пъшкам* 'пыхцець; стагнаць' і пад. Прасл. **pyšьkati*, вытворнае ад **pyxati* (БЕР, 5, 276), гл. *пыхаць*. Грынавяцкене і інш. (Сл. ПЗБ) параўноўваюць *пы́шкаць* 'брадзіць, шумець' з літ. *pyškė́ti* 'тс', што хутчэй за ўсё з'яўляецца роднасным утварэннем, чым крыніцай запазычання.

**Пы́шны** 'раскошны, прыгожы; горды, фанабэрысты, непадступны' (Нас., ТСБМ), 'напышлівы': *пышна цешча пышна, што къ зяцю не вышла* (Нас., з вясельнай песні), *пы́шны* 'паважны, велічны, магутны' (Варл.), 'пышлівы, ганарлівы': *баба тады пышна, як замуж вышла* (Стан.), сюды ж *пышне́ць* 'рабіцца ганаровым, напышлівым' (Нас., Гарэц.), *пы́шніцца* 'пахваляцца, фанабэрыцца' (Др.), *пышно́та* 'чалавек, пераборлівы ў ежы' (кобр., Нар. лекс.), ст.-бел. *пышнитися* 'тс'. Нельга аддзяляць ад *пы́шны* 'мяккі, пульхны': *пышны хлеб* (ТСБМ, шальч., Сл. ПЗБ); параўн. укр. *пі́шний* 'горды, важны; раскошны, багаты', рус. *пы́шный* 'тс', дыял. 'поўны, круглы', польск. *pyszny* 'фанабэрысты, напышлівы, надуты; раскошны, цудоўны, велічны, прыгожы', чэш., славац. *pyšný* 'напышлівы, ганарысты, надуты', в.-луж., н.-луж. *pyšny* 'раскошны, пышны, прыгожы', балг. *пѝщен* 'раскошны, надуты' (з рус. *пышный, т* устаўное, гл. БЕР, 5, 279). "Станоўчыя" значэнні развіліся самастойна на базе *пы́хаць* 'дуць, уздуваць, надуваць', параўн. ст.-інд. *púṣyati, pṓṣati* 'працвітаць', *puṣṭas* 'адкормлены, багаты, раскошны' (Фасмер, 3, 492). Банькоўскі (2, 970) лічыць пеяратыўнае ("адмоўнае") значэнне першасным, што захавалася як адзінае ў чэш. *pyšný< pycha* 'гордасць, гонар' (гл. *пыха*), паколькі апошняе "dla Niemców i Czechów grzech główny", у той час як у Польшчы лічылася галоўнай вартасцю (годнасцю); сумнеўна, хутчэй наадварот: пеяратыўнае значэнне — чэшская семантычная інавацыя, што распаўсюдзілася на польскую і беларускую тэрыторыю; адтуль і ст.-бел. *пышнитися* (< польск. *pysznić się* < чэш. *pyšniti se*, Банькоўскі, 2, 970).

**Пышы́** 'калючыя вырасты на раслінах, калючкі' (Ласт.). Ад *пы́шыцца* 'надувацца, надзімацца' (гл.), г. зн. 'растапырвацца'; не выключана метатэза з *шыпы́* 'калючкі'.

**Пы́шыцца** 'надзімацца' (Нас.), *пыша́цца* 'выстаўляцца, фанабэрыцца' (Ласт.), параўн., чэш. *pýšiti se* 'тс'. Да *пыхаць*, *пы́ха* (гл.).

**Пышэ́ць**$_1$ 'раз'ядацца, таўсцець' (Жыв. НС). Ітэратыў да *пы́хаць* у значэнні 'ўздымацца, надзімацца' (гл.).

**Пышэ́ць**$_2$ (*пъшэ́ць*) ‘пашчыпваць (у роце)’ (ушац., Нар. лекс.). Ітэратыў да *пы́хаць* (гл.), у значэнні ‘гарэць, палыхаць’, параўн. *пыш* ‘прысак’ і *пры́шчыць* ‘шчыпаць, балець (пра рану)’.

**Пэ́за** ‘піражок, начынены салам’ (Нас.), параўн. польск. *peza* ‘клёцка з мясам’. Гл. *пыза*.

**Пэйс**, часцей мн. л. *пэ́йсы* ‘валасы на скронях у выглядзе скручаных локанаў, што адпускалі прававерныя яўрэі’ (Нас., Сержп.), ‘доўгія пасмы валасоў ля скроняў’, разм. ‘раскручаныя доўгія валасы’ (ТСБМ, Жд. 3, Шат., Сл. ПЗБ, Яруш.), ‘непрыбраныя, распушчаныя валасы’ (лях., Янк. Мат.; Сцяшк.), *пэ́йсахі* ‘тс’ (Нас., Скарбы, Сцяшк.), *пэ́йса* ‘дзявочая каса’, *пэ́йсік* ‘локан’ (Нас.), параўн. укр. *пейс,* мн. л. *пе́йси* ‘доўгія валасы на скронях у яўрэяў’, польск. *pejs*, мн. л. *pejsy* ‘тс’, чэш. *pejz*, *pejzy* ‘тс’, славац. *pajes* ‘тс’. Запазычанне з ідыш *pejes* < ст.-яўр. *pē’ōth* ‘скроні’ (мн. л. ад *pē’ā* ‘бакі’), гл. Вінер, ЖСт., 1895, 1, 65; Фасмер, 3, 225; Махэк$_2$, 441; супраць Банькоўскі (2, 524): выводзіць з ням. дыял. мн. л. *peissen* ‘бічыкі’, параўн. ням. *peitsche* ‘пуга, бізун’, што, у сваю чаргу, лічыцца запазычаным са ст.-чэш. *bič* ‘тс’; калі прыняць рэалію ў якасці архаізма, то такое тлумачэнне малаверагоднае.

**Пэ́йсах** ‘яўрэйскае свята Праснакоў’ (Нас.), ‘рэлігійнае свята ў яўрэяў (Вялікдзень)’ (Скарбы), *пэйсахо́ўка* ‘спецыяльны гатунак гарэлкі, якую яўрэі пілі ў час сваіх святаў’ (Нас., Скарбы), *пэйсахо́вы* ‘звязаны са святам’ (Нас.); укр. *пе́йсах* ‘яўрэйскае свята’. Ад ст.-яўр. *pasáh* < арам. *pasah* ‘праходжанне’, адно са старажытнаяўрэйскіх святаў у памяць аб зыходзе яўрэяў з Егіпту (Праабражэнскі, 2, 26; БЕР, 5, 88).

**Пэ́каць** ‘дрэнна чытаць’ (Мат. Маг., Шат.), ‘курыць люльку’ (Шат.), ‘біць не вельмі моцна, пляскаць’ (Бяльк.), *пэ́кнуць* ‘выцяць злёгку, пляснуць’ (Бяльк.). Гукапераймальнае.

**Пэ́кун** ‘бакас, Capella gallinago’ (ЛА, 1), *пэ́кач* ‘начная птушка “баран”’ (Дразд.). Гл. *пе́кун* (гл.).

**Пэ́лах** ‘сполах’ (Жд. 1). Ад *по́лах* (гл.), варыянт слова з пераходам *о* > э пад націскам, параўн. *по́трах*//*пэ́трахі* (гл.); параўн. таксама чаргаванне галосных у *крык*//*крок*//*крэч* ‘крык’, якому Асоўскі (Stud. slawist., 159) прыпісвае праславянскі характар.

**Пэ́лех** ‘пушок, поўсць’ (дзярж., Жыв. сл.), *пэ́лях* ‘вантробы (?)’: *зьélі ваўкé сабáку й пэ́ляхоў ні асталося* (нясвіж., Жд. 2);

хутчэй за ўсё, 'скура, поўсць', параўн. укр. *пéлех* 'касмыль валасоў, шэрсці; стары дзед', польск. *pelechy* 'бярлога, непрыбраны ложак', *pelesz* 'логава, гняздо', чэш. *pelech*, *peleš* 'логава дзікіх звяроў; непрыбраны ложак', славац. *pelech*, *peleš* 'тс', ст.-луж. *peleš* 'бярлога, логава, пячора', серб.-харв. *пѐлеш* 'чуб, касмыль', балг. *пéлéш* 'мякіш вуха; звісаючыя ўпрыгожанні на галаве', *пелешé* 'выраcты скуры пад барадой у казы'. Прасл. **pelexъ*, **pelešь* параўноўваюць з лац. *pellis* 'скура, скура жывёлы, поўсць', грэч. В. скл. мн. л. *πέλλας* 'скуры' і звязваюць з польск. *pieluszki*, што выводзіцца з **pelena*, *plěna*, гл. *пéляна* (Брукнер, 408; Младэнаў, 417; БЕР, 5, 140); паводле Махэка$_2$ (442), няяснага паходжання; Скок (2, 639) аб'ядноўвае серб.-харв. *пéлеш* 'чуб, касмыль' з харв. *peleš* 'ручка казана' (гл. *пелюсць*) і пад., што сумнеўна, параўн. Борысь, SFPS, 23, 103—109; Банькоўскі (2, 550) рэканструюе экспрэсіўнае **pelexa*/ **pele-ga*, звязанае з польск. *pielegować* 'нянчыць (дзіця)', г. зн. 'спавіваць у пялюшкі' (гл. *пялегаваць*).

**Пэ́мкнуць** экспр. 'пекануць, ляснуць' (ельск., Мат. Гом.). Імітатыўны дзеяслоў (параўн. *пэ́нснуць, пэрнуць* і пад.).

**Пэнд**: *адным пэндам* 'адразу, хутка' (навагр., свісл., ашм., Даніл. Сл.). З польск. *pęd* 'хуткасць', параўн. *пэ́ндзіць* 'гнаць' (гл.).

**Пэ́ндзаль** 'квач, шчотка для малявання, бялення' (Нас., ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ), *пэ́ндзэль* 'тс' (Сл. Брэс.), *пэ́нзаль* 'тс' (Бяльк.), *пэнзэль* 'тс' (Мядзв.), *пэ́ндаль*, *пэ́ндэль* 'тс' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *пéнзыль* (Шымк. Собр.), сюды ж *пэ́ндзліць* 'маляваць, бяліць' (Сцяшк. Сл.). Запазычана праз польск. *pędzel, pęzel, penzel* 'тс' з ням. *Pinsel* 'тс', паводле Цвяткова (Запіскі, 2, 57), пра гэта сведчыць фанетыка (э пад націскам); Банькоўскі (2, 537) дапускае пасрэдніцтва чэш. *penzlik*, ст.-чэш. *penzl* і выводзіць са ст.-франц. *pincel*, што ўзыходзіць да лац. *pēnīcillus, pēnīculus* (літаральна 'хвосцік'), памянш. ад *pēnis* 'хвост'; польскія насавыя пад уплывам *pędzać, pędzić* 'паганяць, гнаць' (там жа).

**Пэ́ндзіць** 'гнаць, даганяць; хутка ісці, бегчы' (Жд. 2; любч., Нар. словатв.; Скарбы), *пэ́ндыты* экспр. 'нясці, цягнуць, валачыць' (Клім., Сл. Брэс.), *пэ́ндзіцца* 'прытрымлівацца моды' (астрав., Сл. ПЗБ), *пэ́ндытысь* экспр. 'насіцца, несціся' (Клім., Сл. Брэс.), сюды ж *пэнд* 'парастак': *новыя пэнды парэчак* (ваўк.,

Сл. ПЗБ). Запазычанне з польск. *pędzić* ‘прымушаць да хуткага руху, падганяць; несціся’, параўн. *пудзіць* (гл.); значэнне ‘цягнуць, валачыць’ — вынік экспрэсіўнага пераасэнсавання па прынцыпу кантраснасці; тэрмін для ‘парастка’ запазычаны са штучна створанага польск. *pęd* ‘атожылак’ у якасці калькі з ням. *Trieb* (ад *treiben* ‘гнаць’, гл. Банькоўскі, 2, 537), параўн. батанічнае *вы́ганка* ‘вырошчванне пасынкаў’, чэш. *vý́hon* ‘адростак’, рус. *побе́г* і пад.

**Пэ́нкнуць** ‘трэснуць, лопнуць, раскалоцца’ (любч., Нар. словатв.; слонім., Нар. лекс.; шчуч., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), *пэ́ньк-нуць*, *пэ́нкнуты*, *пэ́ньекнутэ* ‘тс’ (Сл. Брэс., Сл. ПЗБ), *пэ́нкаць* ‘лопаць, трэскацца, пускаць’ (Сцяшк., Сцяц., Сл. ПЗБ), *пэ́нкацца* ‘лопацца’ (Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *pęknąć, pękać* ‘тс’, паводле Банькоўскага (2, 538), чэшска-польскай арэальнай інавацыі ад **ǫkъ* ‘бутон, пупышка’, не звязанай з **pukati* (гл. *пукаць*) і не вядомай іншым славянскім мовам; інакш Брукнер, 403. Параўн. *пукаць*, *пукнуць* (гл.).

**Пэнс** ‘урок, навука’: *гето тобѣ пэнс, в другій разъ не будеш такъ дзѣлаць* (Нас.). Няясна, магчыма, звязана з *пэ́нся* ‘плата, утрыманне’ (Шат.), *пэ́нсія, пе́нсія* ‘пенсія’ (Сл. ПЗБ), пераносна ‘ўзнагарода, адплата’ (гл. *пенсія*); фанетыка сведчыць пра запазычанасць (< польск. *pensja* ‘ўтрыманне духоўнай асобы, якая не прыпісана да пэўнай функцыі’ з лац. *pēnsus* ад *pendere* ‘важыць’, перан. ‘плаціць’).

**Пэ́нснуць** ‘стукнуць, ударыць, пляснуць’ (Скарбы; шчуч., З нар. сл.), *пэ́нцнуць* ‘тс’ (любч., Нар. словатв.). “Глухі” варыянт імітатыўнага дзеяслова *бэ́нцнуць* ‘тс’ (гл.), параўн. форму без назалізацыі (сведчанне запазычанасці з польск. *bęcnąć* ‘тс’) — *пэ́цнуць* ‘тс’ (Цых.).

**Пэнсо́вы** (*пэнсовый*) ‘тлуста-чырвоны’ (Бяльк.). Запазычана праз польск. *ponsowy*, *pąsowy* ‘ярка-чырвоны’ з франц. *ponceau* ‘палявы мак, колер яго кветак’, ст.-франц. *poncel* ‘палявы мак’ — няяснага паходжання (звязваюць з франц. *ponceau*, *poncel* ‘масток’, лац. *ponticellus*, *pons* ‘мост’, Банькоўскі, 2, 521; параўн. фальклорныя ўстойлівыя выразы *калінавы мост* і *чырвоная каліна*). Гл. *пунсовы*.

**Пэ́ньдзік** ‘мясцовая назва печкура’ (д.-гарад., Звязда, 1995, 21 сак.). Лакальнае ўтварэнне ад *пэ́ндзіць* ‘гнаць, даганяць’

(гл.), магчыма, пад уплывам *пу́дзіць* ‘палохаць’, параўн. *пу́дзік* ‘верабей’.

**Пэ́пінка** ‘гатунак яблыкаў’ (б.-каш., Мат. Гом.). Гл. *пепін*.

**Пэ́пка** ‘пыса (у каровы)’ (драг., ЛА, 1). Няясна. Магчыма, фанетычны варыянт да *пі́пка* ‘кончык (носа)’; параўн. таксама польск. *papa* ‘морда’, *pypka* ‘сасок’ і пад.

**Пэ́пці** ‘вяровачны самаробны абутак’ (трак., Сл. ПЗБ). Відаць, ад *папу́ці* ‘тс’ (гл.) пад уплывам *тэ́пці* ‘лёгкі хатні абутак’ (ад *тэ́паць* ‘дыбаць, хадзіць’).

**Пэ́рга** ‘пчаліны хлеб’ (гродз., Сцяшк. Сл.), *пэ́рфа* ‘пярга’ (свісл., Сл. ПЗБ). “Абеларушаны” паланізм *pierzga* ‘тс’ або *pierzch* ‘пыл, луска’, гл. *пярга*.

**Пэ́ркаль** ‘лёгкая баваўняная тканіна, паркаль’ (бых., Янк. Мат.), *пэ́ркыль* ‘тс’ (Бяльк.). Па фанетычных прычынах (акцэнтуацыя), відаць, запазычана з польск. *perkal* ‘тс’ (< ням. *perkal* або франц. *percale* з англ. *percale*, што, магчыма, з перс. *pärgālá* ‘ануча’, Банькоўскі, 2, 530). Параўн. *парка́ль* (гл.).

**Пэ́рла** ‘ячныя крупы, панцак’ (глыб., Сл. ПЗБ). Па фанетычных прыкметах (спалучэнне *пэ-*), відаць, запазычана з ням. *Perlgraupen* ‘тс’ (магчыма, пад уплывам польск. *kasza perłowa*). Гл. *пярло́ўка*.

**Пэ́рнуць** ‘пекануць, стукнуць’: *добро пэ́рнуў* (рагач., Мат. Гом.). Імітатыўны дзеяслоў, параўн. *пэ́цнуць*, *пэ́мкнуць* ‘тс’ і пад. Параўн. *пе́рыць* (гл.).

**Пэ́рса** (*pėrsa*) ‘адрэзак поля, шырэйшы за загон’ (беласт., SOr, 17, 244), *pėrs, bėrs* ‘тс’ (там жа). Рэлікт на базе кораня і.-е. **perk’-*, **pr̥k’-*, параўн. літ. *praparšas* ‘роў, акоп’, *s* на месцы *š* тлумачыцца ўплывам “мазурэння” на поўначы Беласточчыны (гл. Абрэмбская-Яблонская, Зб. Аванесаву, 200—204; Śladami, 406—412); не выключана народнаэтымалагічнае пераасэнсаванне ў назвах палёў тыпу *Perša, Perše* (параўн. парадкавы лічэбнік *першы*, польск. *pierwszy*), літ. *Péršiekščis* (Słownik nazw terenowych póln.-wsch. Polski, Warszawa, 1992, 354—355), гл. Цыхун, Зб. Абрэмбскай-Яблонскай, 47. Гл. таксама *перс*.

**Пэ́ртацца** ‘рабіць няякасна, з агрэхамі, без ведання справы’ (Скарбы). Няясна; параўнанне з *пэ́ркало* ‘капун, капуха’ (карэліц., Жыв. сл.), польск. *pertać,* варыянт *pyrtać* ‘піхаць, тыркаць’, дазваляе звязаць усе названыя формы з **pyriti*, параўн. *растапы́-*

*рыць* і *пырта* 'нос' (гл.) (рус. *распы́рить ноздри*); у такім выпадку беларускія словы з *пэр-* — вынік польскага ўплыву, параўн. *perzyć się* 'натапырвацца'. У аснове, магчыма, імітатыў тыпу *тыр-пыр* (пра няўклюднае і няўмелае дзеянне), што звязаны чаргаваннем з *паро́ць* і рус. *по́ртить* (**pъrtiti*), параўн. *партá́ч*, *партá́чыць* (гл.). Меркаванне Банькоўскага (2, 531) пра паходжанне польскіх формаў з *pyr(s)tać* (**parstać*) 'штурхаць пальцам' ад ст.-польск. *parst* 'палец' здаецца менш верагодным. Гл. таксама *поркацца*.

**Пэ́ртыкі** 'калкі, на якія вешалі калыску ў полі' (трак., Сл. ПЗБ). Нагадвае польск. *pręciki* 'пруткі, кіёчкі', памянш. ад *pręt* 'кіёк', гл. *прут* 'тс'; пачатак слова, магчыма, трансфармаваны пад уплывам літоўскіх слоў тыпу *pértįs* 'даўгавязы', *pértįsti* 'расцягнуцца' і пад. Міжмоўная інавацыя на беларуска-літоўска-польскім сумежжы?

**Пэ́руч** 'спачатку, раней' (пруж., Сл. Брэс.). Гл. *перуч* 'тс'.

**Пэ́рхаль** 'мядовая раса' (астрав., ЛА, 1), *пэ́рхель* 'падзь' (астрав., Сл. ПЗБ). Відаць, звязана з *пэ́рхаць* 'кашляць' (карэліц., Жыв. НС), што ўзыходзіць да імітатыўнага **pr̥̆xati*, гл. *пы́рхаць, пу́рхаць, пе́рхаць* і пад., параўн. польск. *pierzch* 'луска, пыл'.

**Пэ́сткі** 'семя сланечніка; семачкі' (Скарбы, Сл. Брэс., Сцяшк.), 'гарбузовае насенне' (баран., Жыв. сл.). Хутчэй за ўсё, па лінгвагеаграфічных і фанетычных прычынах, запазычана з польск. *pestki* 'семачкі; костачкі (у раслінах)', паводле Банькоўскага (2, 533), польск. *pestka* — штучны наватвор (1564 г.) замест *pecka* (*-st-*, як у *kostka* 'костачка'); параўн. чэш. *pecka*, славен. *pečka*, харв. кайк. *pečkȁ*, н.-луж. *packa* (гл. Махэк$_2$, 440—441; Бязлай, 3, 19). Куркіна (Этимология—1994—1996, 202) збліжае са славен. *peski* 'маладыя адросткі часныку', рус. дыял. *пе́ски* 'кончыкі пальцаў на нагах' і ўзводзіць да прасл. **pěstь* (роднаснае літ. *piestà* 'ступка' і звязанае з *піхаць*, *пшано*, гл. Фасмер, 3, 250), што па вышэйназваных прычынах малаверагодна.

**Пэ́тлахі** груб. 'непрычасаныя валасы' (дзятл., Сцяшк. Сл.), фразеалагізм *згарэць з пэтлахамі* 'згарэць датла' (зэльв., Жыв. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *па́тлы* 'доўгія неахайныя валасы' (гл. *патла́ты*) пад уплывам *пэ́йсахі* 'тс'. (гл. *пэйс*).

**Пэ́трахі** 'вантробы' (гродз., Жыв. НС), перан. 'шматкі' (нясвіж., Сл. ПЗБ), *пэ́трах* 'ашмётак' (Цых.), *на пэтрах: патрушчыў на*

*пэтрах* ‘ушчэнт’ (Шляхам гадоў, Мн., 1990, 145). Экспрэсіўны варыянт да *патрахі́* ‘вантробы’ (гл.), параўн. польск. *patrochy* ‘вантробы; неядомыя абрэзкі і адходы з іх’.

**Пэ́ўнік** ‘аксіёма’ (Бел. нав. тэрм., 1). Наватвор 20-х гадоў XX ст. ад *пэ́ўны* ‘вызначаны, дакладны, бясспрэчны’ (гл.), мяркуецца, што ўведзены ва ўжытак Байковым (Германовіч, Бел. мовазнаўцы. Мн., 1985, 98).

**Пэ́ўны** ‘дакладна вызначаны, акрэслены, канчатковы; некаторы; пераканаsuccessfully, надзейны, упэўнены, цвёрды’ (ТСБМ), ‘праўдзівы, акуратны, адпаведны, сапраўдны’ (Цых.), ‘дабраякасны (пра насенне)’ (Жд. 2), *пэ́ўный* ‘надзейны, праўдзівы, дакладны’ (Бяльк.), ‘праўдзівы, верагодны’ (Яруш.), *пе́ўны* ‘пэўны, сапраўдны’ (ТС), *пе́ўный* (*пе́вный*) ‘праўдзівы, бясспрэчны’ (Нас.), ‘надзейны, праўдзівы, дакладны’ (Мядзв.), ‘пэўны, сталы’ (Бяльк.), ст.-бел. *певный* ‘вядомы, дакладны, пэўны’ (Ст.-бел. лексікон), ‘упэўнены, перакананы; праўдзівы’ (Сл. Скарыны); сюды ж *пэ́ўна* ‘напэўна, несумненна’ (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ), *пэ́ўно* ‘тс’ (Цых., Сл. ПЗБ), *пэ́ўне, пэ́ўня* ‘верагодна, напэўна, бясспрэчна’ (Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ, Мал., Шат.; шчуч., З нар. сл.), *пе́ўне, пе́ўня* ‘тс’ (Сержп., Бяльк., Шпіл.), ст.-бел. *певне* ‘вядома, бясспрэчна’ (Ст.-бел. лексікон). Запазычана з польск. *pewny* ‘бясспрэчны, надзейны, верагодны, бяспечны’, *pewno*, *pewnie* ‘бясспрэчна, надзейна, верагодна’, гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 58 (рэфлекс э на месцы *ъ*; формы з *е* — вынік другаснай адаптацыі); прасл. **pъv-ьnъ* ад рэліктавага **pъva* ‘пэўнасць, давер’, параўн. санскр. *pavate* (корань *pū-*) ‘бачыць выразна’, гл. Махэк$_2$, 447 (пра чэш., славац. *pevný* ‘моцны, цвёрды, устойлівы’); Банькоўскі, 2, 535, 968.

**Пэ́ўхнуць** ‘пыхнуць, лопнуць’: *порхаўка пэ́ўхне, як на яе наступіш* (маст., Сл. ПЗБ). Імітатыўны дзеяслоў, у аснове гукаперайманне **пэўх! < пух!,* гл. *пу́хаць*.

**Пэ́ханік** ‘смольны корч’ (гродз., Сцяшк. Сл.). Ад *пэ́хаць, пэ́хкаць* ‘пыхаць, пыхкаць’, гукапераймальнага паходжання, параўн.: *папяросай рабіць пэх-пэх* (Янк. 1).

**Пэ́цкаць** ‘мазаць, брудзіць; рабіць няўмела, неахайна’ (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Шат.), ‘ляпіць глінаю, мазаць; брудзіць’ (Нас.), *пе́цкаць* ‘брудзіць, мазаць’ (ТС), *пэ́цнуць* ‘мазануць; стукнуць’ (ТСБМ), ‘гучна ўдарыць; кінуць чым-небудзь ліпкім; упасці’ (Нас.), вытворныя: *пэ́цкала, пэ́цкало* ‘няўмека, неакуратны

ў рабоце чалавек, бракароб, партач' (Сцяц., Сцяшк. Сл., Скарбы; любч., Нар. словатв.; міёр., З нар. сл.), *пэ́цкаль* 'хто любіць пэцкацца, неахайны, паскуднік' (Шпіл., Чач., Гарэц., Шат.; брасл., Сл. ПЗБ), 'няўмека, дрэнны майстар' (ТСБМ; маладз., Янк. Мат.; Яўс., Шат., Бяльк.; міёр., З нар. сл.). Паводле Насовіча, утворана ад гукапераймальнага *пэц!* 'тое, што і *пац*!' ("от звука брошенной на что либо грязи или брошенного чего въ грязь", Нас., 543); нягледзячы на фанетычныя прыкметы запазычання з польск. *peckać* 'вэдзгаць, перабіраць, корпацца', параўн. рус. *па́чкать* 'пэцкаць', да вышэйназванай версіі схіляецца Цвяткоў (Запіскі, 2, 75) і канстатуе, што слова не выводзіцца ад кораня **pak-* (дапускаючы для рускага слова сувязь з *пакость* 'паскудства', інакш гл. Фасмер, 3, 223); наяўнасць славен. *pecati*, *peckati*, *pečkati* 'даваць аплявуху; біць па вушах' і *pə̀čka*, *pəčkálo* 'хто ляніва, марудна і дрэнна працуе' ўзмацняе прынятую версію. Пра магчымую сувязь названых слоў з *pečkȁ* 'ядро, костачка', што дае падставы для семантычнага пераходу 'ўздуцце, разбуханне' > 'слабы, дрэнны', гл. Бязлай, Etyma, 163; Куркіна, Этимология—1984, 113; гл. таксама спецыяльна Куркіна, Этимология—1988—1990, 61. Атаясамліванне з укр. *пі́цькати* 'дрэнна працаваць, корпацца', якое выводзіцца праз польск. *pyćkać, peckać* 'тс' з ням. *patschen* 'плёскаць (па вадзе)' (гл. ЕСУМ, 4, 382), здаецца, не мае падстаў.

**Пю́пікі** 'маладая асака' (Сцяшк. Сл.). Гукапераймальнае ўтварэнне (з кончыкаў маладой асакі дзеці робяць пішчалкі), параўн. *нюнькі* 'лотаць балотная' (гл.), зыходным можа быць прасл. **pipa* 'пішчалка', **pipati* 'пішчаць, пікаць', параўн. літ. *pỹpti* 'тс' і пад.

**Пю́рнік** 'пенал' (Сл. Брэс.). З польск. *piórnik* ад *pióro* 'пяро, ручка (для пісання)'.

**Пю́сіць** 'мачыцца, сікаць ("слово детское")': *нехай пюсіць* (Нас.). Гл. *пісяць* 'тс'.

**Пяве́ц** (*певе́ц*) 'журавель' (петрык., Мат. Гом.). Табуізаваная назва жураўля, від слоўнай магіі, параўн. *весяле́ц* 'тс' (*коб не журыліс цальны год, то мы зовом іх весельцэ*, КСТ); ад *пявец* 'пявун', *пецъ* 'співаць' (гл.), параўн. ст.-бел. *пѣвец, певе́ц* 'пеўчы': *послухати гудебъ и певъцовъ царевыхъ* (Сл. Скарыны).

**Пяву́н**$_1$ ‘спявак, аматар спеваў’ (ТСБМ, Бяльк., Гарэц.; светлаг., б.-каш., Мат. Гом.), *пяву́ння* ‘спявачка, аматарка спеваў’ (Бяльк.; жытк., Мат. Гом.), сюды ж *пяву́ха* ‘тс’ (ветк., добр., Мат. Гом.). Аддзеяслоўныя назоўнікі з рэдкай суфіксацыяй ад асновы **pěv-*, параўн. *спевы, спяваць* (гл.), серб.-харв. *пе̏вати, pjȅvati* і пад.

**Пяву́н**$_2$ ‘певень’: *хадзілі куры з певунамі* (Колас, Сержп., ДАБМ; петрык., Мат. Гом.), сюды ж *пявуне́ц* ‘дрозд’ (рэч., Мат. Гом.). Лакальнае ўтварэнне (гл. ДАБМ, к. 294) на мяжы *пяту́х* і *пе́вень* (гл.). Гл. папярэдняе слова.

**Пяга́рка** (*пега́рка*), мн. л. *пе́гаркі* ‘бульба з прыгаркамі’ (барыс., Шатал.), *пыга́рка* ‘трохі падсмажаная ці падпечаная корка густой стравы або плеўка ў вадкай страве’ (драг., З нар. сл.), параўн. рус. калуж. *пяга́рка* з няясным значэннем. Відаць, ад *пяга́ць* ‘пячы’: *цэлы дзень пякотка пяга́е* (жлоб., Мат. Гом.), дзе выступае варыянт кораня *пяк-* (гл. *пекці, пячы*) з азванчэннем у інтэрвакальным становішчы; менш верагодна сувязь з *пе́га* ‘пляма, рабацінне’, гл. *пе́гаркі, пе́гі*, або як вынік “спешчанага” (дзіцячага) вымаўлення прыстаўкі *пры-*, параўн. *піга́рка* (гл.).

**Пяда́** ‘ступня’: *пядою наступіла на шышку* (швянч., Сл. ПЗБ). Грынавяцкене і інш. (там жа) выводзяць з літ. *pėdà* ‘тс’.

**Пядзень** ‘пядзя; мера’ (Шымк. Собр.). Беларуска-руска-славенска-харвацкая ізаглоса, параўн. рус. *пя́день* ‘мера рукой (указальным і вялікім пальцамі)’ (алан., валаг., Раманава, Меры, 88—89), славен. *péden, pedȃnj* ‘пядзя, прамежак’, харв. *pȇdanj, pēdenj* ‘пядзя’, утворана пры дапамозе суфікса *-ьnъ* ад **pędь* (Куркіна, Диал., 157), гл. *пядзя*, сюды таксама энтамалагічныя тэрміны: *пя́дзенік* ‘матыль-шкоднік, яго вусень’, рус. *пя́деница* ‘тс’ (бо вусень перасоўваецца шляхам выгібання спіны, як бы мераючы пядзямі).

**Пядзь** ‘падзь, салодкая раса на лісцях дрэў’ (чэрв., З нар. сл.). Вынік рэгрэсіўнага змякчэння, гл. *падзь*$_2$.

**Пя́дзя** ‘адлегласць паміж канцамі расстаўленых вялікага і ўказальнага пальцаў рукі; старая мера даўжыні’ (ТСБМ; барыс., шальч., беласт., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), *п’я́дзя* ‘тс’ (ТС), *пядзь* ‘тс’ (Шымк. Собр., Ян., Сцяшк.; чэрык., Мат. Гом.), *п’ядзь* ‘тс’ (ТС), *п’ядь* (*пи́ядь*) ‘тс’ (Бес.), *пядь* ‘тс’ (Бес.), *пя́дя* ‘тс’ (Растарг.), ст.-бел. *пядь*, сюды ж *пядень* ‘тс’ (Шымк. Собр.), *пя́да* ‘мера адлегласці ад верху вялікага пальца да канца сярэдняга (роўная 3 кархам

або 1/2 локця)' (свянц., Крывіч, 1926, 12, 106). Параўн. укр. *п'ядь*, рус. *пядь*, дыял. *пя́да, пя́дя*, польск. *piędź,* чэш. *píd',* славац. *piad',* в.-луж. *pjedź,* н.-луж. *pěź,* славен. *pę̂d*, серб.-харв. *пе̑д*, балг. *пе́дя*, макед. *педа*, ст.-слав. **пѧдь**. Прасл. **pędь* суадноснае з **pęti* (суфікс **-dь*, SP 1, 64), гл. *пяць* 'цягнуць, напружваць'; роднаснае да літ. *spęsti, spéndžiu* 'расстаўляць сіло, лавіць у пастку', *spiñdis* 'пастка', ст.-літ. *spándyti* 'нацягваць', лат. *spanda* 'перавязь у плузе', параўн. таксама лац. *pendēre* 'вісець', ст.-в.-ням. *spanna* 'пядзя' (Фасмер, 3, 423; Бязлай, 3, 20; Шустар-Шэўц, 2, 1075; Махэк$_2$, 448; Скурат, Меры, 17—18).

**Пяка́рня** 'памяшканне, дзе выпякаюць хлеб' (ТСБМ), *пекарня* 'памяшканне для службы ў маёнтку з вялікай печчу для выпечкі хлеба' (Сержп.). Вытворнае ад *пе́кар* 'хлебапёк' (гл.), параўн. *пя́кар* 'тс' (івац., Сл. ПЗБ), ці хутчэй запазычанне з польск. *piekarnia*, адкуль паходзіць і складаны суфікс *-арня* для ўтварэння назоўнікаў — назваў памяшканняў для пэўнай дзейнасці. Першаснай крыніцай лічыцца с.-в.-ням. бавар. *peck* 'пекар', с.-в.-ням. *bẹcke* 'тс', сучаснае ням. *Bäcker* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 226; Сной, 434 і інш.), аднак наяўнасць ст.-слав. **пекарь, пекаръница** 'хлебная печ', а таксама адпаведных слоў у большасці сучасных славянскіх моў ставіць пад сумненне апошняе меркаванне, гл. БЕР, 5, 133.

**Пя́кацьı** 'падаць (пра плады); стукаць, пукаць, ляпаць' (бых., Жыв. НС; Шат., Бяльк., Растарг.), *пя́кнуць* 'упасці; стукнуць' (Бяльк., Пал., Растарг.), 'упасці': *пякнула яна з печы* (рагач., Сл. ПЗБ), *пя́кнуцца* 'ўпасці, ляпнуцца аб зямлю' (Бяльк.), *пяк* — выклічнік для перадачы гуку падзення на зямлю пладоў і дробных прадметаў або тупога ўдару (Нас., Растарг., Шат.), сюды ж, відаць, і *пе́кнуць* 'ударыць, грукнуць, ляснуць, сцёбнуць': *пе́кнуў во́ўка копу́там* (ТС). Гукапераймальнае, параўн. славен. *pekȅt* 'тупат', *peketáti* 'тупат, цоканне (капытоў)', якія Сной (435) выводзіць ад гукаперайманні *pek*, што імітуе ўдары капытам або нагой; параўноўваюць з бел. *пя́кацъ* 'стукаць', рус. *упека́ть* 'выгнаць', роднаснымі да лат. *pękât* 'дыбаць, тупаць', *pęka* 'лапа, нага', гл. Бязлай, 3, 22; Сной$_2$, 504. Гл. таксама *пекаць*, *покаць*, *пукаць*, *пэкаць*.

**Пя́кацьı** 'класці, валіць адно на адно; замяшчаць, упіхваць' (Нас.), *пя́късь, пя́кцца* 'працаваць празмерна, цяжка' (міёр.,

Нар. лекс.), *пя́кацца* 'лезці, пхнуцца': *дзе ні трэба пя́каецца* (Цых.); сюды ж, відаць, і рус. дыял. *упя́кать* 'паставіць каго-небудзь у непрыемнае становішча, увесці ў бяду'. Няясна, хутчэй за ўсё да *пякаць₁* (гл.).

**Пяке́лка** (*пеке́лка*) 'шынок, дом распусты (у Віленскай губ.)' (Нас.). З польск. *piekiełko*, памянш. ад *piekło* 'пекла' (Банькоўскі, 2, 549) з пераноснымі значэннямі, у тым ліку 'крыкі, сварка, лаянка і пад.' (Варш. сл.).

**Пяке́льны** (*пякѣльный*) 'звязаны з пеклам; страшны, страшэнны, жахлівы, нясцерпны' (Нас., Шымк. Собр., Гарэц., Шат.): *пяке́льны аго́нь* (лаг., Сл. ПЗБ), сюды ж *пяке́льнік* 'чорт у пекле' (Нік., Няч.), 'кат' (Нас.), 'той, хто выконвае цяжкую працу' (брасл., Сл. ПЗБ), *пяке́льніца* 'жанчына, што выконвае цяжкую працу; кепскае жыццё, пекла' (брасл., Сл. ПЗБ; Сцяц.), 'халадэча' (мядз., Жыв. сл.). Запазычана з польск. *piekielny* 'пякельны, страшэнны', гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 71 (мяккі *к* перад ъ, "які праясніўся", параўн. **ръкъlъ*, гл. *пекла*). Параўн. польск. *piekielnik* (1471, < ст.-чэш. *pekelník*), *piekielnica* (1564), гл. Банькоўскі, 2, 549.

**Пяко́лак** 'прымурак, выступ у печы' (ТСБМ; паст., смарг., астрав., Сл. ПЗБ; в.-дзв., Шатал.; Мат. Маг.), 'пячурка ў сцяне печы' (Бяльк.; мядз., Нар. словатв.; круп., Нар. сл.), 'прыпечак; ніша збоку прыпечка, куды зграбаюць вуголле' (ТСБМ, лаг., трак., Сл. ПЗБ; Мат. Маг.; Ян.; Нас.: "у Магілёўскай і Віцебскай губернiях"), 'камінак' (Сцяшк.; Нас.: "у Мінскай і Гродненскай губернiях"), *пяко́лка* 'гзымс, карніз зверху печы' (Бяльк.), 'ямка для заграбання жару на прыпечку' (Арх. Федар.). Утворана ад *пе́кла* разм. 'вельмі моцная гарачыня', магчыма, пад уплывам польск. *piekiełek* 'запечак, месца паміж печчу і сцяной', *piekiełko* 'прыпечак, прымурак перад уваходам у печ', паводле Банькоўскага (2, 549), з першаснага **piekłek/ *pkiełka*, памянш. ад ст.-польск. *pkieł* 'пекла'.

**Пяку́р** 'пячнік' (ЛА, 3). Няясна. Магчыма, з *пячку́р* 'тс' (гл.) з пропускам *ч*, каб адрозніць ад *пячкур* (назва рыбы, гл.), або з *пячкур* 'пячнік' (гл.).

**Пякці́** гл. *пячы́*. Другасна адноўленае *-к-* пад уплывам *пяку́, пяку́ць* (Карскі, 1, 376).

**Пякэ́льня** 'скаварада, патэльня' (Сцяшк.). Гл. *патэ́льня*. Народнаэтымалагічна збліжанае з *пяку́, пячы́* 'смажыць, скварыць' (гл.) (< **pekti*).

**Пя́ла** ‘галіна, дубец; жэрдачка ў варотцах’ (Сцяшк. Сл.), звычайна ў мн. л. *пя́лы* экспр. ‘ногі’ (ветк., Мат. Гом.), *пя́ло* ‘планка ў баране, у якую ўбіваюць зубы’ (петрык., Шатал.), *п’я́ло* ‘трыножка, на якую вешалі калыску ў полі; распорка’ (ТС), ‘кроква ў будане’ (лельч., Нар. сл.), *пя́лы* ‘косці тазасцёгнавага сустава’ (калінк., Сл. ПЗБ), *п’я́лы* ‘прыстасаванне для вышывання ў выглядзе рамы’ (Ян.), ‘дужкі ў кошыку’, ‘дужкі ў рыбалоўнай снасці’, ‘прыстасаванне для прымацавання сотаў у калодачным вуллі’ (светлаг., SOr, 39, 356), укр. *п’я́ло* ‘распорка для расцягвання скуры’, рус. *пя́ло* ‘тс’, ст.-чэш. *padla* ‘прылада для катаванняў’, чэш. мар. *padlo*, *piadlo* ‘рамка для вышывання; дошка, на якой расцягваюць скуру’, славац. *piadlo* ‘распорка, якую ўстаўляюць у рот жывёле, каб не ссала, не кусала і пад.’. Сюды ж серб.-харв. *пропе́ло* ‘распяцце’, славен. *razpélo* ‘тс’. Прасл. **pędlo*, утворана ад **pęti* ‘нацягваць, расцягваць’, як *шыла* ад *шыць* і пад., гл. *пяць*, *пну*, роднаснае літ. *pinklas* ‘павязка’, лат. *pineklis* ‘путы, кайданы’ (Фасмер, 3, 423; Махэк$_2$, 425). Параўн. *пя́льцы* (гл.) і іншыя прыстасаванні для расцягвання, распінання, растапыраныя, тырчачыя прадметы. Сумнеўнае выводзенне Грынавяцкене і інш. *пя́лы* ‘ногі’ з літ. *piaũlai* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), хутчэй наадварот.

**Пяле́гаваць** (*пеле́говаць*) ‘калыхаць на руках, няньчыць, песціць’ (Нас., Бяльк., Гарэц.), *пяле́гваць* ‘тс’ (Шат.), *пяле́гъвъць* ‘вельмі пеставаць, даглядаць’ (беш., Нар. сл.). Разам з *пяленгаваць* ‘песціць, даглядаць’ (Нас.; слонім., Жыв. НС), дзе захавалася назалізацыя, лічыцца запазычаннем з польск. *pielęgować* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 65, 68); апошняе, паводле Банькоўскага (2, 551), з першаснага *pielengować* ‘закручваць немаўля ў пялёнкі’, якое разам з рус. дыял. *пеле́говать* ‘даглядаць’, *пелёжить* ‘пакрываць саломай знешнія сцены хаты на зіму’ ад рус. дыял. *пелега́* ‘пакрыццё, заслона’ (першапачаткова пра кару і пра пялёнкі) і ст.-польск. *pielega* ‘пялёнка’, што звязана з **pelena* ‘пялюшка’, насуперак Брукнеру (408), які выводзіць названыя польскія словы з ням. *pflegen* ‘даглядаць, песціць’.

**Пяле́жыць** (*пеле́жыць*) ‘паласаваць’ (Нас.). Магчыма, звязана з рус. дыял. *пелега́* ‘кара дрэва, лыка’, першапачаткова ‘абдзіраць кару, пакідаючы палосы’, якое Праабражэнскі (2, 33) параўноўвае з літ. *palegas* ‘саламяная страха’, *palagà* ‘саламяная

паветка', што прымае і Фасмер (3, 228), улічваючы рус. дыял. *пелёжить* 'абкладваць сцены саломай на зіму'; Банькоўскі (2, 550) рэканструюе **pelega* 'пялюшка' (і пра кару дрэва), суадноснае з **pelena* (гл. *пелена*).

**Пялéка** 'пясчаная, неўрадлівая зямля, залеж, незасеянае поле' (дзятл., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), *пялéчына* 'тс' (гродз., пух. Сл. ПЗБ), *пя́ла* 'тс' (дзятл., Сцяшк. Сл.), сюды ж *пялекавáты, пелякавáты* 'пясчаны' (дзятл., чэрв., Сл. ПЗБ), *пялёта* 'пясчаная, неўрадлівая зямля' (барыс., там жа). Грынавяцкене і інш. (Сл. ПЗБ) выводзяць з літ. *pelė̃kas* 'шэры, мышасты', што зусім верагодна па лінгвагеаграфічных меркаваннях. Відаць, чыста выпадковае фармальнае супадзенне з славен. *pȅlek* 'зярнятка', якое выводзіцца з **pelъ* 'пыл, мякіна, палова' (Бязлай, 3, 23), што суадносіцца з літ. *pelaĩ* 'мякіна, палова'. Гл. *пéліка.*

**Пялёнка**. Гл. *пелена.*

**Пялёскацца** 'плюхацца, купацца, мыцца' (ТСБМ; полац., Янк. 2; трак., Сл. ПЗБ), *пялéскацца* 'тс' (Нас.; ашм., Сл. ПЗБ), *пляскáцца* 'тс' (Бір. Дзярж.), *пелескáцца* 'паласкацца' (ПСл), *пеляскáць* 'паласкаць, муціць, боўтаць', *пелéскаць* 'разліваць, плюхаць, пляскаць' (Нас.), *пялескáць* 'паласкаць, пялёхаць' (Бяльк.), сюды ж *пéлеск* 'плёск, плёскат' (Нас.), *пялёсканне* 'тс' (ТСБМ), параўн. славен. *pelískati* 'пляскаць, плюхаць'. На базе гукапераймання, параўн. *плёск*, *пляск*, *плюск* (гл.) і дзеясловы *плёскаць*, *пляскаць*, *плю́скаць* і пад., якім адпавядаюць літ. *plekšė́ti* 'ляпаць, плюхаць', *plaskúoti* 'пляскаць' і пад. (Міклашыч, 236; Бязлай, 3, 23). Паводле Векслера (Hist., 89), у слове *пялёсканне* выступае другаснае псеўдапоўнагалоссе на фоне рус. *плескание*, падобнае да *серабро*, *сярэ́бро*, *серебрыны* (ст.-бел., 1405 г.), дзе *ь* у **sьrbro* асімілюецца да *е* ў наступным складзе. Інакш (вынік кантамінацыі *полоскаться* і *плескаться*) для смал. *пелескáться* Шахматаў (Очерк древн., 153) і Фасмер (3, 229). Сюды ж *пялéскацца* 'пераліваца бліскучымі палосамі' (Нас.), *пілі́скувáцца* 'зіхацець яркімі колерамі' (Бяльк.).

**Пялёстак** 'асобны лісток з вяночка кветкі' (ТСБМ, Гарэц., Др.), мн. л. *пялёсткі* перан. 'губы': *пялёсткі развесіць* іран. 'ныць, румзаць' (Даніл. Сл.). Няясна. Магчыма, метатэза з рус. *лепестóк* 'асобны лісток з вяночка кветкі'; аднак не выключана сувязь з *пéлесць* 'вуха (канец) у ночвах або карыце; пласт'

(Нас.), з унутранай формай ‘пласток; перыферыйная плоская частка прадмета’, сюды ж, магчыма, польск. мазав. *pieleść* ‘хвост бабра’ (1472), якое Банькоўскі (2, 551) ідэнтыфікуе з бел. *пелесць* (пра “хвост” ночваў) і чэш. дыял. *pelest* (пра “хвост” ложка, печы, карыта), якія разглядаюцца як “рэліктавыя” словы няяснага паходжання (гл. таксама Махэк$_2$, 443). Борысь (SFPS, 23, 106) з далучэннем паўднёваславянскіх фактаў, параўн. балг. радопск. *пе́лест, пелестьо́* ‘выступаючая частка хаты, дзе сушаць адзенне, плады і інш.’ рэканструюе **pelestъ*, **pel'ustь* ‘канец, край чаго-небудзь’, якое абагульняецца як ‘выступаючая ці прыпаднятая частка чаго-небудзь’ (БЕР, 5, 139). Параўн. і *пе́лясць* ‘біла ложка’ (Сцяшк. Сл.), *пе́лішчы* (*piélišču*) ‘папярочныя канцы начовак, карытаў і чаўноў’, *пе́люшчы* ‘закраіны ў начоўках’ (ТСБМ, Варл.). Гл. таксама Куркіна, Этимология—1991—1993, 32—45. Гл. *пялюстка, пелюсць.*

**Пялёсы** — часцей у прыставачных утварэннях *-пялёсы*, гл. *перапялёсы*, параўн. укр. *перепеля́стий* ‘шэры, які мае колер перапёлкі’. Гл. *пяля́сы.*

**Пялётка** ‘бярэт’ (паст., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *pilotka* ‘пілотка’, ад *pilot* ‘пілот’, г. зн. ‘шапка, першапачаткова характэрная для пілотаў’, параўн. *піло́тка* ‘від вайсковай шапкі’ (запазычана з рус. *пило́тка* ‘тс’, ад *пило́т* ‘лётчык’).

**Пялёхаць** ‘плюхаць, плёскаць’ (Юрч. Вытв.), *пялёххаць* ‘тс’ (там жа), *пялёххацца* ‘плюхацца ў вадзе; няўмела і доўга мыць бялізну’ (Наша Слова, 2000, 6 вер.), *пялёхнуцца* ‘зваліцца’ (Жд. 3), сюды ж *пялёх* ‘пра пялёсканне, наліванне’ (мсцісл., Нар. лекс.). Ад гукапераймальнага па паходжанні слова, суадноснага з гукаперайманнямі на *-с*, параўн. *пялёсь*, гл. *пялёскацца.*

**Пяліна́** ‘палова’ (лудз., Сл. ПЗБ). Выводзяць з літ. *pelaĩ* ‘тс’ з суфіксацыяй зборнасці (Грынавяцкене і інш., там жа). Магчыма, самастойнае ўтварэнне ад *пялі́ць* ‘палоць’ (Сцяшк.), дзе выступае аснова **pel-*, параўн. рус. дыял. *пела́, пелы́* ‘палова, мякіна, шалупінне’, што прадстаўлена таксама ў **pelti*, **pelvǫ*, параўн. ст.-слав. **плѣти, плѣвѫ** і пад., гл. *палоць, палова.* Паводле Куркінай (Этимология—1981, 15), для гэтых асноў характэрныя цесныя семантычныя адносіны: ‘рваць пустазелле’ — ‘палова, шалупінне, адкіды’, інакш Фасмер, 3, 227, 312, 317; ESJSt, 11, 657—658, з літ-рай.

**Пя́ліць** звычайна ў выразах: *пя́ліць во́чы (зе́нкі)* (Юрч. Фраз. 2), *пя́ліць пя́ля* 'вытарашчваць вочы' (ТС), параўн. укр. дыял. *п'яли́ти* 'нацягваць, расцягваць', рус. *пя́лить* 'раздзіраць, разрываць; выстаўляць', *пялить глаза* (бельмы, рот, рожу і пад.) 'напружваць; напружана глядзець, крычаць, дэманстраваць', польск. дыял. *piądlić* 'распінаць скуру для прасушкі; прымушаць, прыціскаць', чэш. дыял. *padlit' sa* 'напружвацца, успінацца, выпінацца', славац. *piadlit' sa* 'лезці, узмоцнена імкнуцца', славен. *pę́liti* 'напінаць, расцягваць (пра адзенне)', харв. *péliti* 'навязваць, рэкамендаваць'. Прасл. **pędliti* 'напінаць, напружваць' < **pędlo* 'прылада для расцягвання скуры' (гл. *пя́ла*), утворана ад **pęti* 'цягнуць, напінаць', гл. *пяць* (Бязлай, 3, 23; Махэк, 426; Шустар-Шэўц, 2, 1076: далучае сюды і *-pjel*, што выступае ў в.-луж., н.-луж. *srokopjel* 'птушка Lanius collurio', што сумнеўна).

**Пялу́н** 'палын' (іўеў., трак., паст., беласт., Сл. ПЗБ; астрав., Сцяшк. Сл.), *пелу́н* 'тс' (смарг., Шатал.). Гл. *палын* 'тс'.

**Пя́лца** 'прылада да нацягвання малых скурак пры сушцы' (глыб., Стома-Сініца). Да *пяльцы* (гл.) з ацвярдзеннем *-ль-* перад *ц* "у зьмяншальных імёнах назоўных ніякага і мужчынскага роду", гл. Станкевіч, Запіскі, 2, 246; Зб. тв., 1, 106; паводле апошняга, з'ява дыспалатызацыі *l* вядома на ўсёй беларускай моўнай тэрыторыі, што не дае падстаў бачыць у названым слове "фанетычны балтызм", як сцвярджае Саўка (Запісы, 23, 56).

**Пя́лька** 'тарфянік' (швянч., Сл. ПЗБ). Выводзіцца з літ. *pélkė* 'тс' (Грынавяцкене і інш., там жа), сюды ж лат. *pel̃ce*, *peļ̃ķe* 'балота', прус. *pelky* 'тс', суадносныя з *pìlkas* 'шэры' (Фрэнкель, 567), *пялёсы* (гл.), параўн. Неўская, Балт. терм., 111.

**Пя́лы** 'трывалы, устойлівы': *пялы хлопяц* (свісл., Сцяшк. Сл.). Відаць, ад *пяць* 'напружваць, напінаць' (гл.), параўн. *чу́лы* ад *чуць* і пад.

**Пя́льцы** 'прыстасаванне для вышывання' (ТСБМ, ТС), 'чатырохгранны брусок для падвешвання зарэзанай жывёлы' (пін., Шатал.). Памяншь. да *пя́ла* 'распорка, рамка' (гл.), параўн. мн. л. *пя́лы* 'тс' (Ян.), *пя́лачкі* 'тс' памяншь. да *пя́лы* (Растарг.), паводле Бязлая (Eseji, 127), суадноснае са славен. *péliti* 'напінаць, нацягваць'.

**Пялю́венька** 'прыбудова да хлява, дзе ляжаць дровы, сена' (дзятл., З нар. сл.), параўн. укр. *пеле́вня* 'від свірна ці адрыны,

дзе захоўваецца салома, мякіна, сена, таксама збожжа', *пелéвень, пелéвнак* 'тс', рус., дыял. *пелéвня* 'мякіннік', параўн. польск. дыял. *plewnia* 'мякіннік', *plewnik* 'тс', ст.-чэш. *plévně, plevník* 'тс', чэш. дыял. *plévňa, plíveň* 'тс', серб.-харв. дыял. *пљȅвња* 'тс', балг. *плéвня* 'памяшканне для захавання мякіны, саломы, сена; хлеў для жывёлы, аўчарня', макед. *плевна* 'тс', ст.-слав. **плѣвьница** 'свіран'. Беларускае слова ўтворана ад асновы **pelev-*, паралельнай да **pelv-*, параўн. рус. *пелёва/полова* 'мякіна', што ўзыходзіць да **pelti* 'палоць', **polti* 'палаць, веяць', роднасных ст.-прус. *pelwo* 'мякіна', ст.-літ. *pẽlūs,* лат. *pęlus*, мн. л. *pęlavas, pęlevas* 'мякіна, палова', ст.-інд. мн. л. *palā́vāh* 'мякіна', лат. *palea* (< *palēva*) 'тс' (супраць збліжэння з апошнімі пярэчыць Банькоўскі, 2, 608; гл. Фасмер, 3, 227, 312; Махэк$_2$, 459; БЕР, 5, 386). Да семантыкі параўн. *калóшанка* 'прыбудоўка пры адрыне для захоўвання мякіны і сечкі' (Скарбы) < *кóлас, калóссе*.

**Пялю́га** 'пустазелле' (Скарбы). Суфіксальнае ўтварэнне ад *пéліць* 'палоць' (< **pelti*), параўн. *пéліва* 'поліва, палаццё'.

**Пялю́ннік** 'хлеў' (баран., Сл. Брэс.). Няясна, магчыма, звязаны з *пялінá* 'палова', параўн. тыпалагічную паралель: балг. *плéвник* 'хлеў' і *плéва* 'палова, мякіна'. Параўн. *пялювéнька* (гл.).

**Пялю́стка** 'качан капусты' (лях., Сл. ПЗБ; ЛА, 2), *пелю́стка* 'капусны ліст' (ПСл), 'пялёстак' (вілен., Спадчына, 2002, 4, 60), *пелю́сткі* 'ягадзіцы' (ТС), параўн. укр. *пелю́стка* 'капусны ліст; галубцы; частка валасоў, што прыкрывае касу; шырокі зубец з краёў грэбеня для прадзення', рус. дыял. *пелю́стка* 'ручка пасудзіны'. Гл. *пéлюсць* 'лопасць і пад.'.

***Пялю́тка**, *пелю́тка* 'палавіна качана, гарбуза' (ТС), 'ягадзіцы; вульва' (там жа), *пэлю́тка* 'ягадзіца; гузно' (пін., Нар. лекс., Дразд.), 'сцягно' (пін., Шатал.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *палутка* (*полутка, полудка*) 'палавінка (звычайна качана)' (ТС), што ўзыходзіць да **polъtь* 'палова тушы' (Фасмер, 3, 316), гл. *польць, полец*; фармальна і семантычна збліжана з *пялюстка*, гл. *пелюсць*.

**Пялю́х** 'назва вялікага пальца ў вязанай рукавіцы' (Мядзв.). Няясна, магчыма, ад *палюх* 'палец' (гл.) у выніку асіміляцыі па мяккасці, верагодна, пад уплывам *пяць* 'расстаўляць, распінаць'.

**Пялю́шка**. Гл. *пелена.*

20. Зак. 1697.

**Пя́ля**$_1$ ‘проламка’ (петрык., Шатал.). Відаць, ідэнтычнае з *пе́ль* ‘палонка’ (гл. *пелька*), афармленае паводле распаўсюджанай формы назоўнікаў ж. р.

**Пя́ля**$_2$ ‘зенкі?’ (ТС). Аддзеяслоўны назоўнік, параўн.: *пя́ліць пя́ля* ‘вытарашчваць вочы’ (тамсама), рус. *пя́лить глаза́* ‘тс’, гл. *пяць* ‘напружваць’. Зыходная форма **пяль?*

**Пяля́** ‘рэшткі паселішча, земляны вал’ (радун., Мястэчка, 1999, 4). Балтызм, параўн. літ. *pylà* ‘вал, насып’, *piliãkalnis* ‘гарадзішча’, *pilis* ‘замак’, *pỳlimas* ‘вал, насып’ (< *pilti* ‘сыпаць, ліць’).

**Пяля́сы** (*пеля́сый*) ‘паласаты, з белымі па цёмнаму або чорнаму полю ці чорнымі па светламу полю палосамі’ (Нас.), *пілясый* ‘тс’ (Бяльк.), сюды ж *пелесова́ць* ‘сцябаць пугай, паласаваць скуру біццём; вытоптваць (пра луг або пасевы)’, *пелесо́ваный* ‘жорстка пакараны’ (Нас.), *пялёсіны* ‘пісягі ад дубцоў’ (Наша Слова, 1992, 12 лют.), параўн. рус. *пелёсый* ‘плямісты (пра жывёл)’, польск. *pelasy* ‘тс’, славен. *pelésast* ‘тс’. Роднаснае ст.-слав. **пелѣсъ** ‘пярэсты, у кропачкі’, чэш. *pelesa* ‘від кузуркі’, славен. *pelès* ‘гатунак вінаграду’ і пад., якія параўноўваюць з літ. *pelėsis*, мн. л. *pelẽsiai, pelesiaĩ* ‘плесня’, грэч. πελιδνος, πελιτνός ‘цёмны, шэры, бледна-сіні’, гл. Фасмер, 3, 229; Махэк$_2$, 445; Бязлай, 3, 23; ESJSt, 11, 635. Параўн. *перапялёсы, пялёсы* (гл.).

**П’ян** м. і ж. р., *п’яна́* ‘ап’яненне’ (смарг., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Адад’ектыўныя ўтварэнні, гл. *п’я́ны*; назоўнік м. р., хутчэй за ўсё, другасны, параўн. м. і ж. р. *пьянь* ‘п’янства’ і іншыя назоўнікі з тэматычным суф. **-ь*: *бель, гніль* і пад., што тлумачыцца генералізацыяй родавых паказчыкаў у выніку выцяснення н. р. на беларуска-балтыйскім пагранічча. Магчыма дапусціць адваротныя дэрываты ад *п’я́нка* ‘ап’яненне’ (шальч., Сл. ПЗБ).

**Пяне́ўе** ‘маладое пер’е, адросткі пер’яў пасля лінькі’ (Жд. 2; кам., ЛА, 1), *пяне́ўя* ‘тс’ (віл., Сл. ПЗБ; мсцісл., З нар. сл.), *пнеўе* ‘тс’ (ЛА, 1). Зборны назоўнік ад *пень* (гл.), параўн. *пні* ‘адросткі пер’яў’ (ЛА, 1), *пену́шкі* (*піну́шкі*) ‘пачаткі росту пер’я ў птушак’ (Бяльк.) і пад.

**П’я́ніца**$_1$ ‘аматар выпіць, алкаголік’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк.), *п’яні́ца* (*пьяні́ца*) ‘тс’ (Нас.); параўн. рус. *пья́ница*, польск. *pijanica*, серб.-харв. *пѝјаница*, балг. *пия́ница*, ст.-слав. **пьꙗница, пьѣница**. Прасл. **pьjanica*, **pijanica*, вытворнае ад **pijanъ(jь)* (БЕР, 5, 285), гл. *п’яны*.

**П’я́ніца$_2$** ‘спарынне’: *п’я́ніца ў ячмені, у пшаніцы* (віл., Сл. ПЗБ). Да *п’я́ны* (гл.), у тым ліку са значэннем ‘адурманьваючы’, параўн. славен. *pìjan* ‘тс’; вырабы з мукі, змолатай са збожжа, заражонага спарыннёй, маюць ап’яняючы эфект, параўн. балг. *пия́но жи́то* ‘спарынне’.

**П’я́ніца$_3$** ‘расходнік, Sedum L.’ (Кіс.). Да *п’яны* (гл.); паводле Ластоўскага, расліну Sedum acre ‘расходнік едкі’ “ужываюць з гарэлкай ад болі жывата” (Ласт., 799); параўн. фармальна блізкае балг. *пияница* ‘расліна Lolium temulentum’, у аснове назвы прызнак ‘адурманьваючы’, як і ў серб.-харв. *пиjана трава* ‘тс’, ням. *Schwindelkorn* ‘тс’ і пад.

**П’яні́ца** ‘сіло’: *зрабіў п’яні́цу і пыставіў на сініц* (в.-дзв., Шатал.). Да *пяць, пну* ‘распінаць, напінаць, нацягваць’; параўн. рус. дыял. *пень* ‘вяроўка’, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **рьпь* ‘вяроўка’, параўн. лат. *pīne, matu pīne* ‘каса (валасоў)’ (Мяркулава, Этим. иссл., 6, 16—17).

**П’яні́цы** ‘буякі’ (Сл. ПЗБ), *пія́ніцы* ‘тс’. Да *п’яны* (гл.), паводле першасных уяўленняў, названы так з-за ап’яняючых, адурманьваючых уласцівасцяў, параўн. рус. дыял. *пьяни́ка, пьяни́ца, пья́ная я́года, дурни́ка* і пад., хаця ачмурэнне выклікае расліна багун, якая расце разам з буякамі: *п’яні́цы ядуць, але ад багуна ап’янееш* (астрав., Сл. ПЗБ). Меркаванне Грынавяцкене (LKK, 30, 122) пра ўплыў літ. *girtuõkles* (< *gìrtas* ‘п’яны’) па лінгвагеаграфічных прычынах (фіксацыя назвы *пьяная ягода* на поўначы Расіі, гл. Мяркулава, Очерки, 234), хутчэй за ўсё, не мае падстаў.

**Пяно́к** ‘загваздка’ (ЛА, 2). Да *пень* (гл.) са стратай мяккасці зычным кораня, параўн. *пянёк* ‘невялікі пень, абрубак’, магчыма, пад уплывам *клíно́к* (ад *клін*, гл.).

**П’янто́с** лаянк. ‘п’яніца’ (лаг., Жд. 2; слуц., Жыв. НС). Вытворнае ад *п’я́ны* (гл.) пры дапамозе экспрэсіўнага фарманта *-(т)ос*, параўн. *фіго́с* (ад *фі́га*) у выразе: *фіґос пад нос* (Воўк-Лев., Татарк., 155).

**Пянту́х** ‘вялікі палец на руцэ’ (швянч., Крывіч, 1926, 12, 106). Відаць, ад *пяць, пя́ты* (гл.) з экспрэсіўнай назалізацыяй (магчыма, пад уплывам польск. *piąty*), калі мець на ўвазе спосаб падліку на пальцах шляхам іх загібання, пачынаючы ад мізінца. Да словаўтварэння і семантыкі параўн. наступнае слова.

**Пянцю́х** (*пенцюхъ*) 'абрубак дрэва'; перан. 'таўстун' (Нас.). Да *пень* (гл.), параўн. рус. *пе́нтюх* 'няўклюда' (Праабражэнскі, 2, 36; Фасмер, 3, 232). Гл. таксама *пенцюха́йла*.

**П'янчу́га** 'горкі п'яніца' (ТСБМ; мазыр., Грыгор'еў, пісьмовае паведамл.), сюды ж *п'яню́га* 'тс' (Нас., Ян., Сл. ПЗБ); параўн. рус. разм. *пьянчюга*, балг. *піянчу́га, пиенчу́га*. Утворана ад **pьjanъ*, **pijanъ*, гл. *п'яны*, пры дапамозе экспрэсіўнай суфіксацыі *-уга* (*-юга*); формы з *-ч-* у якасці прамежкавай ступені маглі мець утварэнні на *-чо*, параўн. *свінчо* < *свіння, свінка,* а таксама балг. дыял. *пиянчо́га* (гл. БЕР, 5, 285).

**Пянчу́к**, *пяньчу́к* 'пянёк, рэшткі камля ссечанага ці зламанага бурай дрэва; адно дрэва' (ТСБМ, Нас.), *пеньчучо́к* 'аб'едзенае шкоднікамі сцябло бульбы' (пух., Сл. ПЗБ). Утворана ад *пень* (гл.) пры дапамозе складанага інавацыйнага суфікса *-чук*, які ўзнік шляхам спалучэння суфіксальнага або каранёвага элемента *-ч-* (параўн. *свіння* > *свінчо́* 'парася, парсючок', *дзеўка* > *дзяўчо́, плячо́* і пад.) і суфікса *-ук*, што, магчыма, звязана з пераходам назоўнікаў н. р. у м. р. пад уплывам балтыйскіх моў, дзе н. р. адсутнічае, параўн. адпаведныя дыялектныя формы *дзяўчук*, *плячук* (Грынавяцкене і інш., SOr, 39, 312). Меркаванні пра "турэцка-татарскі" характар патранімічнага суфікса *-чук* (гл. Бяднарчук, Stosunki 120; Ліндэрт, ZPSS, 4, 81—87) не пераконваюць, бо зыходныя кампаненты названага суфікса вядомыя шырока ў славянскіх мовах, параўн. балг. *Пе́търчо* (памянш. ад *Пе́тър*) і ўласныя імёны тыпу *Грыцу́к*, *Пятру́к* і пад.

**П'я́ны** 'які знаходзіцца ў стане ап'янення, нецвярозы' (ТСБМ). Укр. *п'яни́й*, рус. *пьян*, *пья́ный*, польск. *pijany* 'тс', чэш. *pijan* 'п'яніца', славац. *pijan* 'тс', *pijany* 'п'яны', в.-луж. *pjany*, н.-луж. *pijany*, палаб. *pajonĕ*, серб.-харв. *пјȁн, пѝјан* 'тс', славен. *pijàn* 'п'яны; адурманены', балг. *пия́н* 'п'яны', макед. *пијан* 'тс', ст.-слав. **пиѩнъ** 'тс'. Праслав. **pьjanъ(jь), *pijanъ(jь)* 'п'яны; адурманены', параўноўваюць са ст.-інд. *pyānā-* 'поўны, надуты' ('напіты і наеты'), вытворнае ад прасл. **pijǫ, *piješь* або **pьjǫ, *pьješь* < і.-е. **pī-*, гл. *піць* (Фасмер, 3, 422; Зубаты, 2, 162; БЕР, 5, 285; Махэк$_2$, 452; Банькоўскі, 2, 576).

**Пянька́** 'канаплянае валакно' (ТСБМ; віл., рагач., Сл. ПЗБ; Бяльк.), сюды ж *пянько́ўка* 'крамная хустка; вялікая хустка сваёй работы' (в.-дзв., Шатал.; маладз., Янк. Мат.; Жд. 1; валож., Жд. 3),

*пінькучы́* ‘лапці, падплеценыя вяроўкамі’ (Бяльк.), *пянько́вішча, пянькýчышча, пінькамо́чча* ‘месца, дзе мочаць каноплі’ (тамсама). Яшчэ Шымкевіч (Покажчик, 2, 13) параўноўваў з рус. *пенька́* ‘ачышчаныя ад кастрыцы канапляныя мочкі, валокны’; польск. *pieńka* ‘тс’. Банькоўскі (2, 555), “гандлёвую назву канаплянага валакна ў ВКЛ” выводзіць з літ. *penkì* ‘пяць (верацён)’, што зусім неверагодна; рус. *пенька́* ‘каноплі’ лічыць запазычаннем “z Litwy”. Фасмер (3, 233) выводзіць са ст.-інд. *bhaŋgas, bhaŋgā* ‘каноплі’, таксама Махэк$_2$ (443, пад *pěnek* ‘мужчынскія асобіны канопляў, плоскуні’, *pěnka* ‘жаночыя асобіны канопляў’), што на сучасным этапе этымалагізацыі здаецца найбольш прымальным, улічваючы пераважна ўсходнюю арыентацыю ў распаўсюджанні назвы.

**Пяня́га** ‘кавалак скуры’ (Ян.); сюды ж *пяня́шкі* (*пеня́шки*) ‘заднікі ў ботах і чаравіках’ (Нас.). Апошняе, паводле Насовіча, памяншальнае ад *пе́нязь* ‘скура ад падпяткаў у ботах і чаравіках’ (гл.) замест **пяня́жкі*, што магло пры ўзнаўленні формы адз. л. даць утварэнне на *-га*.

**Пяня́цца** (*пеня́тца*) ‘папікаць, дакараць, выгаворваць’ (Нар. Гом.), параўн. укр. *пеня́ти* ‘наракаць; быць няўклюдным’, *пеня́* ‘бяда’, рус. *пеня́ть* ‘закідаць камусьці нешта; скардзіцца’, *пеня́* ‘папрок’, польск. *pieniać się* ‘абвінавачваць адзін аднаго; судзіцца’, *pienia* ‘абвінавачванне ў судзе’. Апошняе з канцылярскай мовы ВКЛ (вядомае з 1392 г.): *аже вчыниться пеня гостю в Литве* (дамова Казіміра Ягайлавіча з Ноўгарадам і Псковам 1440 г.), лічыцца літуанізмам, параўн. літ. *páinė, páiniava* ‘складаная, заблытаная справа’, у адрозненне ад *пе́ня* ‘штраф’ (гл.), якое праз польск. *pena* з лац. *poena* ‘кара’ (Банькоўскі, 2, 553; гл. таксама Фасмер, 3, 233). Дзеяслоў, відавочна, ад першага назоўніка, параўн. літ. *páinioti* ‘блытаць, заблытваць; ублытваць, умешваць’.

**Пяра́варацень** ‘няўстойлівы ў сваіх поглядах і паводзінах’ (Арх. ГУ), *пе́рэваратень* ‘тс’ (Растарг.). З рус. паўд. *пе́ревертень, пере́вертень, переве́ртень, пе́реваротень* ‘той, хто перайшоў у іншую веру, пераняў іншыя звычкі і мову’, ‘чалавек, які рэзка мяняе свае погляды’, ‘здраднік’, ‘няверны ў каханні’ < *переворо-ти́ть* ‘перавярнуць’. Беларускім паводле паходжання з’яўляецца *пярэ́варацень* ‘той, хто з чалавека пераўтвараецца ў жывёлу’ (гл.) ці ‘той, хто змяніў сваю веру’ (Нас.). Да *вярнуць, варочаць* (гл.).

**Пя́раз** ‘праз, цераз’: *пяраз плот скочыў* (Шат.). Да *пераз* (гл.) з няясным пераходам *е* > *я* пад націскам.

**Пяраí** мн. л. ‘валакно, сплеценае ў выглядзе касы’ (астрав., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, звязана з польск. *pierzeja,* першапачаткова пра кожны са “сцяжкоў” пяра (ад *pióro*, гл. *пяро́,* Банькоўскі, 2, 562), параўн. *перыя*, *пе́рая* ‘бок вуліцы’ (гл.). Малаверагодная па семантычных прычынах сувязь з літ. *pérėja* ‘пераход’, нягледзячы на геаграфічную блізкасць.

**Пяра́к** ‘градкі бульбы, размешчаныя ўпоперак’ (Жд. 1). Гл. *пе́рак*.

**Пярве́й** ‘раней’ (мядз., Жд. 3; в.-дзв., ашм., смарг., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *первѣи* ‘хутчэй, раней’ (Альтбаўэр). Вышэйшая ступень параўнання ад прыслоўя *пе́рва* ‘спачатку’ (гл.), параўн. балг. *пъ́рвей* ‘калісці; нядаўна’ (ад *пръв* ‘першы’).

**Пярвёснікі** ‘падснежнікі’ (паст., Сл. ПЗБ). З польск. *pierwiosnek* ‘першацвет, прымула’, адкуль і чэш. *prvosenka* (< **pьrvo-vesnьka*, Махэк$_2$, 488), параўн. *первы* і *вясна* (гл.); аднак збліжэнне з **vesna* можа быць другаснае, параўн. польск. *pierwiasnek* ‘чалавек-навічок’, ‘пачатак’, ‘першацвет’, якое ўзыходзіць да **pervěst(ь)пъјь* ‘першасны’. Параўн. *пе́рвісінка* ‘першацёлка’ (гл.) і пад.

**Пярвіна́** ‘аблога, цаліна’ (Мат. Маг.). Да *первы* ‘першы’ (гл.), відаць, ‘які апрацоўваецца ўпершыню’.

**Пярво́сцінка**, *пярву́сценка* ‘карова першага ацёлу’ (маг., віц., ЛА, 1), *пярву́шчанка* ‘тс’ (гом., ЛА, 1, Нар. сл.), *пярву́стка* ‘тс’ (клім., ЛА, 1), *пярву́сцінак* ‘тс’ (Мат. Гом.), *пярэ́сцінка* ‘тс’ (тамсама), *пярві́сенка*, *пярве́сянка* ‘тс’ (Шатал.); рус. *пе́рве́стинка* ‘тс’, макед. *првости́нка* ‘авечка, якая акацілася першы раз’, ‘першароднае дзіця’, *првостин* ‘першае дзіця’. Паводле Трубачова (Проспект, 75—76), да праслав. **pervest(ь)пъјь* < **pervěstь* ‘першасць’, параўн. укр. *пе́рвісний* ‘першапачатковы’, рус. *пе́рвостный* ‘тс’ і пад. Гл. таксама *пе́рвісінка.*

**Пярвя́стак** (*первя́сток*) ‘першы пачатак чаго-небудзь’, ‘першынец’ (Нас.), ст.-бел. *первя́стка* ‘першародка’ (1627). Запазычана з польск. *pierwiastek*, ст.-польск. *pierwiastka* паводле фанетычнай прыкметы — *ѣ* > *я* (Цвяткоў, Запіскі, 2, 54), зыходны назоўнік **pьrvěstь* ‘першасць’ адлюстраваны ў прыметніках тыпу ўкр. *пе́рвісний* ‘першапачатковы’.

**Пяргá** ‘пылок з кветак, сабраны пчоламі і прынесены ў вулей для падкормкі маладых пчол’ (лід., слуц., Сл. ПЗБ; Скарбы), *пергá* ‘тс’ (дзятл., барыс., рагач., Сл. ПЗБ; петрык., калінк., Шатал.; брэсц., навагр., ЛА, 1), ‘пылок, перамешаны з мёдам’ (ПСл, Ян.), *пэргá, пыргá* ‘пылок, корм для маладых пчол’ (Сл. Брэс., Клім.), *pýrha* ‘пылок, якім пчолы засыпаюць соты’ (Маш.); сюды ж *пярхá* ‘ношка на лапках пчалы’ (ЛА, 1), укр., рус. *пергá,* польск. *pierzga* ‘тс’, дыял. *percha* ‘тс’ (відаць, з укр.). Мяркуецца, што не можа разглядацца асобна ад *пергá* ‘перхаць’ (лельч., петрык., ЛА, 1; ТС), *пéргоць* ‘тс’ (ТС), рус. *пергá* ‘парша, перхаць, кароста’, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **pьrga* з агульным значэннем ‘тое, што аддзяляецца, адскоквае’, хутчэй за ўсё, аддзеяслоўны назоўнік да **pьrgati*, **pьrgnǫti* ‘растрэсквацца (пра скуру, кару), лушчыцца, абсыпацца’, параўн. польск. *pierzgnąć* ‘абсіверацць, стаць шорсткім (пра скуру)’, магчыма, і *pierzchnąć* ‘стаць шорсткім, лушчыцца (пра скуру)’, а таксама ‘пырснуць, адляцець; уцячы’ (Брукнер, 405, 411); паводле Банькоўскага (3, 562), апошняе з **pьrxati, pьršeti*, гл. *пярхаты.* Суадносяцца з літ. *spìrgti* ‘трэскацца, распадацца’, лац. *spergere* ‘аддзяляць, раскідваць, рассыпаць’, што да і.-е. **(s)perg-* ‘адлучаць, рассыпаць’ (Банькоўскі, 2, 563), прадстаўленага і ў *піргáць* ‘штурхаць’, гл. (Гарачава, Этимология—1985, 69—70; Варбат, Этимология—2000—2002, 24—25). Можна супаставіць з **pьrxa* як варыянтам ад і.-е. **per-* з іншым дэтэрмінатывам (Траўтман, 206; Шульгач, RS, 51, 96). Сувязі з серб.-харв. дыял. *пр̏га* ‘мука з расліны Sorghum; каша з такой мукі’, славен. *pŕga* ‘казіныя бубачкі; насенне’ і ‘мука з сушанай садавіны; ляпёшка’ (разглядаюцца як амонімы, гл. Фурлан—Бязлай, 3, 118—119, на думку Куркінай, Этимология—1994—1996, 200, беспадстаўна, бо ўзыходзяць да **pьrga* ‘нешта дробнае’ ), балг. *пърга* ‘жыта, якое пачало толькі спець, але яшчэ не зацвярдзела’, ст.-слав. **пръга** ‘пражмо’, старaж.-рус. *перга* ‘тс’, чэш. *prha* ‘расліна Arnica; хлеб з мукі, змолатай з падсушанага новага зерня’, што параўноўваюцца з літ. *spirgà* ‘гарачыня’, *spirgéti* ‘пражыцца, пячыся’, *spróga* ‘адростак, атожылак’, *spùrgas* ‘пупышка’, грэч. ασπάραγος ‘парастак’ і інш., акрамя ст.-інд. *parāgas* ‘пылок з кветак’ (гл. Фасмер, 3, 235; Махэк$_2$, 483; Скок, 3, 38—39; БЕР, 6, 77), застаюцца семантычна далёкімі. Гл. і *пéрга, пярхá.*

**Пярдзе́ць** ‘pedere’ (Федар. 6), сюды ж *пярдзіна* ‘від грыбоў’: *ета пярдзіна, ён — як атрава* (Бяльк.), укр. *пердíти* ‘pedere’, рус. *перде́ть*, польск. *pierdzieć,* палаб. *pohrde*, чэш. *prděti*, славац. *pdiet’,* в.-луж. *pjerdźeć,* н.-луж. *pjerźeś,* серб.-харв. *пр̏дети*, славен. *prdẹ́ti*, балг. *пърдя́,* макед. *прди* ‘тс’. Прасл. **pьrděti*, параўн. літ. *pérsti*, *pérdžiu*, лат. *pir̃st, pę̃rdu*, ням. *furtzen*, ст.-інд. *párdatē,* грэч. πέρδομαι ‘тс’ (Фасмер, 3, 235—236; Скок, 3, 29—30; Шустар-Шэўц, 2, 14, 1080; Махэк$_2$, 482—483; БЕР, 6, 81; Банькоўскі, 2, 557).

**Пярло́ўка**, *парло́ўка* ‘ячныя крупы’ (в.-дзв., бярэз., Сл. ПЗБ). Да *пе́рл* ‘жэмчуг’ (гл.) з-за падабенства колеру круп да жэмчуга, хаця больш праўдападобна запазычанне з рус. *перло́вка* ‘ячныя крупы’, што як і польск. *kasza perłowa* з ням. *Perl-graupen* ‘ячныя крупы’, гл. *пе́рла* (*пэ́рла*) ‘тс’. *Пярловыя мацiцы* ‘каралі з жэмчуга ці падробак пад жэмчуг’ (Малч., 162) таксама з’яўляюцца дакладным перакладам ням. *Perlemutter*, гл. *перламутр*.

**Пярна́т** (*перна́т*) ‘пухавік’ (Нас.), ‘пярына’ (Бяльк.), *pirnát* ‘вялікая падушка з пер’я на ўвесь ложак’ (Варл.), *пярна́ты* ‘падушкі’ (Шат.), *пырна́ты, перна́ты* ‘пярына’ (Булг.). Запазычана з польск. *piernat* ‘матрац, напоўнены пер’ямі’ (Кюнэ, Poln., 86), што, відаць, уяўляе субстантываваную кароткую форму прыметніка **perьnatъ*, параўн. ст.-бел. *пернатыи* (Скарына), укр. *перна́ткий* ‘пакрыты пер’ямі’, рус. *перна́тый* ‘тс’, чэш. *pernatý*, ст.-чэш. *peřnatý*, славен. *pernat*, балг. *перна́т* ‘падобны да пяра’, ст.-слав. **перьнатъ** ‘пакрыты пер’ямі’. Польскае слова, паводле Банькоўскага (2, 558), выводзіцца з дыял. *piernaty*, *pierznaty* < **pierzynaty*, ад **perina*, гл. *пяры́на* ‘пяро’, што неабавязкова, параўн. балг. *пе́рен* ‘перысты’ (< **perьnъ*) з далучэннем суфікса носьбіта прыкметы — *перна́тка*; у народнай песні: *патки пернатки* ‘пёрыстыя качкі’ (БЕР, 5, 177).

**Пярну́ць** ‘моцна ўдарыць’ (бялын., Янк. Мат.; Яўс.), *пя́рнуць* ‘тс’ (круп., Жыв. сл.). Аднакратны дзеяслоў да *пе́рыць* ‘біць’ (гл.).

**Пяро́** ‘пяро птушкі; пяро для пісання; зялёны ліст цыбулі ці часнаку; лопасць у інструментах’ (ТСБМ), ‘птушынае пяро’ (Шымк. Собр., Яруш., Бяльк., Сл. ПЗБ), ‘плаўнік’ (свісл., Шатал.), *перо́* ‘пяро ў птушкі’ (Сержп., Каз.), ‘лапатка ў вясле; пёрыстая трава; плаўнік у рыбы’ (ТС), ‘лускавінка ў шышцы; сцябло

цыбулі' (ПСл), *пэро́* 'шырокая частка вясла' (Маслен.), ж. р. *пяра́* 'птушынае пяро' (даўг., Сл. ПЗБ), *пяры́на* 'адно птушынае пяро' (ТСБМ), *пяры́нка* 'пёрка' (Бяльк.), укр. *перó* 'птушынае пяро; пяро для пісання; плаўнік', *піри́на* 'адно пяро', рус. *перó* 'птушынае пяро; пяро для пісання; плаўнік; шырокая частка вясла', польск. *pióro* 'птушынае пяро; крыло; пяро для пісання; лопасць', чэш. *pero, péro* 'птушынае пяро; пяро для пісання; плаўнік; лопасць', славац. *pero* 'птушынае пяро; пяро для пісання', палаб. *perü* 'птушынае пяро; пяро для пісання; плаўнік; лопасць', в.-луж. *pjero* 'пяро; плаўнік', н.-луж. *pjero* 'птушынае пяро; пяро для пісання', славен. *perȏ* 'птушынае пяро; пружына гадзінніка; пяро для пісьма; вастрыё пілы; язычок ключа', серб.-харв. *пѐро* 'птушынае пяро; плаўнік; ліст', балг. *перó* 'птушынае пяро; пяро для пісання; ліст расліны; лопасць; зялёны ліст цыбулі', макед. *перо* 'птушынае пяро; восць коласа; ліст кукурузы; пяро для пісання'. Праслав. **pero* 'пяро', роднаснае літ. *spar̃nas* 'крыло, лопасць', лат. *spàrns* 'тс', ст.-інд. *parnám* 'крыло, пяро', авест. *parəna-* 'пяро, крыло', перс. *parr* 'тс', ням. *Farn* 'папараць', што ўзыходзяць да і.-е. **per-/*sper-* гукапераймальнага (імітатыўнага) паходжання (перадае трымценне), параўн. Фасмер, 3, 243; Шустар-Шэўц, 2, 1081; Глухак, 475. Менш верагодная іншая версія, згодна з якой праславянская форма параўноўваецца з грэч. πτερόν 'пяро, крыло', πέιομαι 'ляцець', ст.-інд. *pátram* 'крыло, пяро', лац. *penna* 'тс', ст.-в.-ням. *fedara* 'пяро', ням. *Feder* 'тс', што да і.-е. **ptero* < **pet-* 'ляцець', параўн. Бязлай, 3, 27; Сной$_2$, 507; БЕР, 5, 179, насуперак ESJSt, 11, 636, дзе па словаўтваральных крытэрыях аддаецца перавага апошняй версіі.

**Пяро́д** 'вузгалоўе (у возе)' (ЛА, 2), *пэро́д* 'раней' (пін., Сл. ПЗБ), *перэ́д* 'перадок (ботаў)' (ПСл). Гл. *перад*.

**Пяро́чка** 'папярочка' (Шат.; пух. Сл. ПЗБ). Гл. *пе́рак*.

***Пярса́** (*перса́, пірса́*) 'пілаванне' (ПСл). Гл. *пырса́*.

**Пярсты́** 'выступы ў бярвеннях сцяны, якія ўваходзяць у праём' (Мат. Маг.); сюды ж, відаць, ст.-бел. *персть* 'адзінка вымярэння даўжыні, роўная 2,7 см' (Ст.-бел. лексікон). Несумненна, да прасл. **pьrstъ* 'палец', параўн. укр., рус. *перст*, польск. *parst*, чэш., славац. *prst*, в.-луж. *porst*, серб.-харв. *пр̏ст*, славен. *pȓst*, балг. *пръст*, макед. *прст*, ст.-слав. **пръстъ** 'тс', да семантыкі

параўн. *па́лец* 'палец', 'выступ, які заходзіць у паз' (ТС). Роднаснае літ. *pir̃štas* 'палец', лат. *pirsts, pìrksts* 'тс', ст.-прус. *pirsten* 'тс', што дае падставы для рэканструкцыі балт.-слав. **prstos* (Глухак, 507). Казлова (БЛ, 22, 105) на падставе роднасных ст.-в.-ням. *first* 'вастрыё, вільчак', лац. *postis* 'слуп', авест. *paršta-* 'спіна' прапануе ўзнаўленне першаснага значэння 'выступ'. Рэканструкцыя семантычнага рэгіяналізма ў якасці будаўнічага тэрміна здаецца праблематычнай.

**Пярсце́ц₁** (*пярсьцэ́ц*) 'безыменны палец' (Ласт., Стан.). Памянш. да **pьrstъ* (гл. *пярсты*), параўн. ст.-польск. *pierściec* 'палец' у складзе батанічных назваў *piącipierściec, pięćpierściec* (1437 г.) 'дуброўка, Potentilla L.' (**pьrst-ьcь*, гл. Банькоўскі, 2, 559), балг. *пръсте́ц* 'від грыбоў; узор на кажуху' (ад *пръст* 'палец') і пад.

**Пярсце́ц₂** (*персцэ́ц*) 'яма на тарфянішчы пасля пажару' (ТС). Відаць, да прасл. **pьrstь* 'попел, прах', параўн. ст.-бел. *персть* 'зямля', укр., рус. *пе́рсть* 'тс', польск. *pierść* 'сухая сыпкая зямля, пыл', чэш., славац. *prst'* 'зямля, верхні пласт глебы', в.-луж. *pjeršć* 'тс', славен. *pȓst* 'тс', серб.-харв. *пр̑ст* 'тс', балг. *пръст* 'выкапаная зямля; попел, пыл', макед. *прст* 'зямля, пыл', ст.-слав. **прьсть, пръсть** 'прах', роднасныя літ. *pir̃kšnys* мн. л. 'жар, прысак', лат. *pìrkstis* 'прысак', ст.-інд. *pṛ̥ṣan* 'плямісты, стракаты', ст.-ісл. *fors* 'вадапад' (Фасмер, 3, 245; Шустар-Шэўц, 2, 1082; БЕР, 5, 829; Скок, 3, 57; Сной₂, 589; ЕСУМ, 4, 355). Да семантыкі параўн. балг. *пръстник* 'заглыбленне, яма', *пръстница* 'месца, дзе капаюць гліну' і пад.; тапонім польск. *Pierściec* (1550 г.) у Сілезіі (Банькоўскі, 2, 559). Матывацыйна звязана з *порах, перхаць* (гл.).

**Пярсцёнак** 'упрыгожанне на пальцах' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Нік. Очерки, Бяльк., ТС; ашм., Стан.). З польск. *pierścionek* 'тс' (Кюнэ, Poln., 86), што да **pьrstъ, *pьrstьnь* 'тс' (Банькоўскі, 2, 559). Параўн. *персцень* (гл.).

**Пяру́н** 'удар маланкі з громам' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат.; Бяльк., Сцяшк.; ашм., Станк; вільн., паст., брасл., смарг., шальч., Сл. ПЗБ), 'бог грому і маланкі' (ТСБМ, Ласт.), *перу́н* 'гром з маланкай' (беласт., Сл. ПЗБ), 'нячысцік' (ТС), *пе́рун* 'гром з маланкай' (чэрв., пух., ст.-дар., Сл. ПЗБ; Воўк-Лев., Татарк.), сюды ж *пяру́нбо́жжая стрэ́лка* 'белемніт, чортаў палец' (барыс., Ляц.),

*сперуне́ць* ‘спрахнуць, згінуць’ (слонім., Жыв. НС). Укр. *Перу́н* ‘бог грому, маланкі і дажджу’, *пе́ру́н, пе́рім, пе́рум* ‘гром’, рус. *Перу́н, перу́н* ‘бог грому; гром; маланка’, польск. *Piorun, piorun* ‘тс’, каш. *ṕorën, ṕorun, paro̊n* ‘злы дух; пярун (лаянка)’, чэш. *Perun, perun* ‘міфічная істота; гром’, славац. *Perun, pierun, perún, paron* ‘тс (лаянка)’, палаб. *Peräunedo̊n* ‘чацвер’ (калькуе ням. *Donnerstag*). У паўднёваславянскіх мовах толькі ў вытворных і тапонімах: славен. *perunovi kamni* ‘чортаў палец, белемніт’, харв. *perùnika* ‘касач, Iris’, славен. *perúnika* ‘тс’ (магчыма, запазычана з харвацкай; звязана з *Perun* ‘бог грома і маланкі’, бо мае доўгія і вострыя лісты, што напамінаюць стрэлы, Сной$_2$, 508), балг. *перуни́ка* ‘расліны ятрышнік, Orchis; касач, Iris’, макед. *перунига* ‘касач, Iris’ (паводле БЕР, 5, 182, звязаны з імем бога грому, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. дыял. **perunika*); горы *Pèrun* у Харватыі (Глухак, 475), назвы вяршыняў гор у Македоніі і Балгарыі *Перун*, *Перен, Пирин* (Вражиновски, Народна митологија на Македонците, 1. Скопје—Прилеп, 1998, 22—23). Прасл. **Perunъ* (тэонім) і **perunъ* ‘той, хто б’е, паражае’, апошняе матывуецца дзеясловам **perti, *pьrati* (гл. *перыць, праць*) і выступае ў якасці канкрэтнага, рэчыўнага (з элементамі адушаўлёнасці, параўн. суфікс nomina agentis *-unъ*) абазначэння грому з маланкай (Трубачоў, Этногенез$_2$, 197), што, аднак, не выключае ўспрыняцця яго ў якасці бога, параўн. прыведзеную вышэй назву белемніта. Пра гэта сведчыць таксама табуізацыя назвы, параўн. каш. *paro̊n, taro̊n, ṕornëk* (SEK, 4, 168 і інш.). Бліжэйшымі роднаснымі лічацца літ. *Perkū́nas*, лат. *Pḗrkūns*, літ. *perkū́nija* ‘навальніца з громам і бліскавіцамі’, прус. *percunis* ‘пярун’, што дае падставы Іванову і Гамкрэлідзе (Индоевр., 615) дапусціць варыянтнасць асновы і.-е. *$p^{(h)}eru$ і *$p^{(h)}erk^{(h)}u$; акрамя названых параўн. яшчэ алб. *Perëndi* ‘бог неба, якога просяць пра дождж’ і “яцвяжскае” *Pjarkus* ‘пярун’ (гл. Зінкявічус, Балто-слав. исслед., 1983), ст.-інд. *Parjánya-* ‘бог дажджу; дажджавое воблака’. Гл. Фасмер, 3, 246—247, з літ-рай (адмаўляе роднаснасць славянскіх і балтыйскіх форм); Бязлай, 3, 27; БЕР, 5, 182; Глухак, 475—476; Махэк$_2$, 445. Пра сувязі назваў бога грому з назвамі дуба (“перунова дрэва”) і скалы (“месцазнаходжанне бога грому”) гл. Іванаў—Тапароў, Иссл., 76, 123; Мартынаў, Этимоло-

гия—1997—1999, 103; Марчэўска, Etnolingwistyka 9—10, 122; Шустар-Шэўц, SlW, 34; Іванаў, Зб. Бернштэйну, 1991, 27. Да семантыкі тэонімаў у сувязі з назвамі бога грому параўн. Алінеі, Зб. Івічу, 87. Банькоўскі (2, 584) неперაканаўча разглядае беларускія, украінскія і славацкія назвы як запазычанні з польскай, а літ. *perkū́nas* 'пярун' лічыць роднасным прасл. **perkъ* (гл. *перак*) з першасным значэннем 'той, хто валіць дрэвы папярок дарогі' (там жа, 848).

**Пяруны́** 'клёцкі з цёртай бульбы, начыненыя мясам' (Сцяшк. Сл.). Рэгіяналізм на базе папярэдняга слова (гл.) па ўзору *калдуны́* 'тс', аднак матывацыя застаецца нявысветленай.

**Пярха́** 'ношка на лапках пчалы' (ЛА, 1), 'пылок (у кветках)' (Ласт.), сюды ж *пярхóта* 'перхаць' (ЛА, 1). Апошняе не можа быць аддзелена ад *пярхóта* 'сухі кашаль ад казытання ці раздражнення ў горле' (Стан.), што да *пéрхаць* 'пакашліваць' (гл.). Той жа корань **pьrx-* выступае і ў *пéрхаць* 'дробныя лускавінкі ў валасах галавы' (гл.), у семантыцы якіх аб'ядноўваюцца як сам выніковы працэс, так і тое, што яго выклікае. Параўн. таксама *пярхля́к* (*пірхля́к*) 'чалавек, які ўвесь час кашляе; фізічна слабы чалавек' (Пан.; маладз., Янк. Мат.) і рус. дыял. *перхля́к* 'пухкі, падаючы снег'. Сюды ж *пярха́ць* 'кашляць' (Юрч., Сл. ПЗБ, Жд.), параўн. укр. *перха́ти* 'тс', рус. *перха́ть* 'пакашліваць', польск. *pierzchać* 'сыпацца, лушчыцца (пра скуру)' і пад., што, хутчэй за ўсё, маюць гукапераймальны (імітацыйны) характар, параўн. Фасмер, 3, 247. Да семантыкі параўн. польск. *pierzch* 'адлятаючы пыл'. Гл. таксама Банькоўскі, 2, 562; ЕСУМ, 4, 374; Траўтман, 206 (для славянскіх і балтыйскіх лексем прапануюцца тры агаласоўкі кораня **pьrx-, *pъrx-, *porx-*). Гл. *пяршыць*.

**Пяршы́ць** 'казытаць, скрабці, раздражняць (у горле)' (ТСБМ; астрав., Сл. ПЗБ), 'пячы, свярбець' (паст., брасл., Сл. ПЗБ), 'пыліць' (Ласт.), *пяршэ́ць* 'казытаць, непакоіць (у горле)' (Шат.), рус. *перши́ть* 'тс', польск. *pierszeć* 'сыпацца, парашыць (пра снег, іскры, пыл)', *pierszyć* 'тс', чэш. *pršeti* 'імжэць, сыпацца (пра дождж, снег і інш.)', славац. *pršat'* 'тс', славен. *pršẹ́ti* 'тс', серб.-харв. *pр̏šiti* 'тс', балг. *пършóли* (< **първи*, гл. БЕР, 6, 114) 'тс'. Прасл. **pьršeti, *pьršiti* 'сыпаць, рассыпаць' (Махэк$_2$, 487; Сной$_2$, 589; Банькоўскі, 2, 559 — без усходнеславянскіх слоў).

Да семантыкі параўн. папярэдняе слова (гл.), а таксама літ. *peršěti* ‘шчымець, свярбець’, *peȓši gérklę* ‘пяршыць у горле’, якія разам з *perštéti* ‘тс’ лічаць (гл. Сл. ПЗБ) крыніцай запазычання беларускіх слоў, што па лінгвагеаграфічных прычынах цяжка давесці; паралелі, хутчэй за ўсё, сведчаць пра гукапераймальны (імітацыйны) характар слоў.

**Пяры́ла**$_1$ (*пеpы́ло*) ‘аер, плюшнік’ (мазыр., Жыв. сл.), сюды ж, відаць, *пяры́льцы* ‘хваснік, Hippuris’ (Кіс.). Параўн. укр. *пери́ла, пери́ля* ‘расліна Perilla’, рус. *пери́лла* ‘тс’, чэш. *perilla* ‘тс’. Фармальная тоеснасць назваў дазваляе дапусціць перанос лацінскай назвы на іншыя расліны, магчыма, з-за знешняга падабенства: новалац. *perilla* ўзыходзіць да *pira* ‘груша’ (плод-арэшак прыпамінае плод грушы), параўн. ЕСУМ, 4, 348. Больш верагодна да *пяро́* ‘доўгі ліст’ (гл.), параўн. *перо́* ‘перыстая трава’: *накосіў колеснік сена, одно перо* (ТС).

**Пяры́ла**$_2$ ‘прыстаронак’ (палес., Бел.-укр. ізал.), параўн. укр. бойк. *пери́ло* ‘адгародка ў хляве для сена, саломы, збожжа’. Відаць, да *пе́рыць* ‘біць’, параўн. *пераბо́йка* ‘перагародка’, *перабі́ць* ‘адгарадзіць’ (гл.), польск. *przepierzenie* ‘лёгкая перагародка’ ад *przepierzyć* ‘перагарадзіць, раздзяліць’, паводле Банькоўскага (2, 887), з не зусім празрыстай семантыкай (< польск. *pierzyć* ‘аздабляць пер’ем’).

**Пяры́на**$_1$ ‘пухавік; пухавая коўдра’ (ТСБМ, Нас., Ян.; віл. Сл. ПЗБ; Варл., міёр. Нар. словатв.; Сержп.), *пеpы́ны* ‘тс’ (ТС), *перына́* ‘тс’ (ашм., Стан.); укр. *пери́на* ‘тс’, рус. *пери́на*, польск. *pierzyna*, каш. *ṕéřena, ṕeřna*, чэш. *peřina*, славац. *perina*, серб.-харв. *пѐрина*, славен. *perína*, балг. *пери́на*. Прасл. **perina*, вытворнае ад **pero* (гл. *пяро*), параўн. Фасмер, 3, 241; Махэк$_2$, 363; БЕР, 5, 173.

**Пяры́на**$_2$ ‘асобнае пяро; ліст цыбулі; плаўнік’ (паст. Сл. ПЗБ; Жд.; астрав. Сл. ПЗБ), *пеpы́на, пэры́на* ‘тс’ (ТС; лун., Шатал.). Да *пяро* (гл.) з суфіксам адзінкавасці *-іна/-ына*.

**Пя́рыць** ‘перыць, біць пранікам (бялізну, палатно)’ (Варл., Сл. ПЗБ; докш., маладз., Янк. Мат.; ЛА, 3), ‘біць, лупцаваць’ (докш., Янк. Мат.; паст., Сл. ПЗБ), ‘мяць, драць’: *мядзьвѐдзь давай пярыць чорта* (барыс., Шн. 2), *пя́ръць* ‘працаваць празмерна многа, цяжка’ (міёр., Нар. лекс.), сюды ж *пя́раны* ‘мыты, памыты (пра бялізну)’ (астрав., Сл. ПЗБ). Гл. *пе́рыць*; паўночна-заходняя

арыентацыя варыянта з *пя-* сведчыць аб магчымым балтыйскім фанетычным уплыве (т. зв. гіпер'яканні), параўн. Левін, American Contrib. to the 13 Intern. Congr. of Slavists, 2003, 142—143.

**Пярэ́бірак** 'ахапак, пласт сена, набраны граблямі' (ТСБМ, Касп.; барыс., лях., пух., ганц., Сл. ПЗБ; Жд.; карэл., Янк. Мат.; Янк. 1), *парэ́біранка* 'награбленае ("перабранае") да нагі граблямі сена або салома' (Шат.), *пярэ́бірка* 'перабранае граблямі сена для больш зручнага складання яго ў капу' (Некр., Касп., Сл. Брэс.), *пярэ́барка* 'тс' (Жд.), *пярэ́бярня* 'ахапак дроў', *перэ́бер* 'пласт сена' (петрык., Шатал.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *перабіра́ць, перабра́ць*, гл. *біра́ць, браць*.

**Пярэ́варацень**. Гл. *пяраварацень*.

**Пярэ́вітка**, *перавіцце*, *перавіткі* 'вітка, галіны хмызняку, якімі перавіваюць калкі плота', 'перавязь, на якую кладуцца жэрдкі' (ЛА, 4), *перавіца* 'лазовыя прывязкі, якімі замацоўваецца салома на страсе' (Інстр. 1), *перавіць* 'тс' (Шушк.). Да *пера-* і *віць*$_2$ (гл.).

**Пярэ́гад** 'перыяд пагодлівага надвор'я паміж дажджамі' (глус., Янк. Мат.), *пярэ́гадам* 'з перапынкамі' (Сцяшк.; ст.-дар., Сл. ПЗБ). Да *перагада́ць* 'перадумаць, памяняць намер', што да *гада́ць* 'мець намер, меркаваць, збірацца зрабіць' (гл.).

**Пярэ́звы** 'ўзаемнае запрашэнне ў госці; запрашэнне ўсёй бяседнай кампаніі ў другі дом на пачастунак' (ашм., Стан.; Хрэст. дыял.), 'заключны этап вяселля — прыезд бацькоў маладой у госці да яе мужа або наведванне нявесты з мужам яе бацькоў пасля вяселля' (Шат., Ян., Жд., Сцяц., Янк. 2). Ад *паразыва́ць*, параўн. *пярэ́звы* 'пеазыванне гасцей для пачастункаў' (Некр.), што ад *зваць* 'клікаць, запрашаць' (гл.). Множналікавая форма характэрна для называння абрадаў і іншых этапаў вяселля, гл. *сваты́* 'сватанне', *аглёдзіны, зару́чыны* і пад.

**Пярэ́зімак**, *перазімак,* лун. *пэрэзімок*, мазыр. *перэ́зімок,* хоцім. *пірязімык*, лаг. *піразімак*; лід., чэрв., ашм., зэльв. *пярэ́зімак*, шчуч., беласт., шальч., ашм. *пярэ́зімка*; гродз., мін., віц. *перазімка, перазімо́вак, перазімачак*, мсцісл. *пірязімывік* 'маладая жывёла (цялё, жарабя і інш.), якая перазімавала сваю першую зіму' (Шатал., Бяльк., 3 нар. сл., КЭС, Сл. ПЗБ; ЛА, 1; Юрч. СНЛ). Укр. зах. *пере́зімча* 'тс', рус. прыбалт. *перезимка* 'цялушка, якая перазімавала адну зіму'; цвяр., пск., новасіб. *перезимок* 'перазі-

мак', польск. паляўнічае *przezimek* 'гадавалая жывёліна', *przezim(a)* 'перазімаванне, зімовая пара́, зімовая лежня', 'зімовыя кватэры'. Прасл. **per-zimovati*, укр. *перезимувати*, рус. *перезимова́ть*, польск. *przezimować*, н.-луж. *(pśe)zymowaś*, в.-луж. *přezymować*, чэш. *přezimovati*, славац. *prezimovat'*, славен. *prezimováti*, серб.-харв. *прези́мити*, макед. *презими, презимува*, балг. *презиму́вам*. Да *пера-* і *зімава́ць* < *зіма́* (гл.).

**Пяро́ж** (*пере́жъ*) 'раней', *пяро́жні* (*пере́жній*) 'ранейшы, былы; пярэдні' (Нас.), ст.-бел. *перѣже* (XIII ст., Карскі, 1, 248), *переже* 'раней, спачатку' (Ст.-бел. лексікон), укр. *періже*, рус. *прежде* 'тс' (з ц.-слав. *прѣжде*), ст.-слав. прѣжде. Ступень параўнання ад *перад* (гл.), першапачаткова **perdje* (< *perdъ*), параўн. укр. *передше* 'тс'. Гл. Міклашыч, 241; Праабражэнскі, 2, 40; Фасмер, 3, 357; ЕСУМ, 4, 340.

**Пяро́йд** 'пераход; праход' (Нас., Гарэц., Стан.). Бяссуфікснае ўтварэнне ад *перайсці*, 1 ас. адз. л. *перайду́* (гл. *ісці*), параўн. *пярэйсьце* 'тс' (Гарэц.). У падобным польск. *przedejdę* 'пайсці ўперад', якое Банькоўскі (2, 829) лічыць багемізмам, параўн. чэш. *předejdu* 'апярэджу', інфінітыў *předejíti* 'апярэдзіць', выступае варыянт прыстаўкі (прыназоўніка) **perdъ* (*przede-*, гл. *перада-*, *перад*).

**Пяро́кулі** 'від ткання' (Ян.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *пяро́куль* 'перакульваючыся, куляючыся' (Шат.; ашм., Стан.), *пяро́кулам* 'перавалам' (Нас.), што да *куля́цца, куля́ць* (гл.); магчыма, пры тканні парушаецца звычайны парадак дзеяння. Гл. таксама *перакулам* 'дагары нагамі'.

**Пяро́ліўкі**: *не(ні) пяро́ліўкі* 'дрэнь справы' (Жд.; Сержп.). Гл. *непераліўкі*, *пераліўкі*.

**Пяро́мут**: *пярэмутам ляцець* 'стрымгалоў, без аглядкі' (Наша Ніва, 1999, 12 ліп.), *пыро́мытуш* 'тс' (Клім., Сл. Брэс.), *пяро́мяццю* 'тс' (Сцяшк.). Відаць, звязана з *мітусі́цца, мятушы́цца* 'кідацца, мільгаць', параўн. *мі́тусь, мята́ць* (гл.), польск. *przemiatać* 'перакідаць', з палескай дыялектнай фанетыкай (*і* > *ы; ы* > *у*).

**Пяро́слюга** (*пыро́слюга*) 'грузкая мясціна' (кам., ЖНС), укр. *пересл́юга* 'паласа, смуга, лінія'. Сюды ж, магчыма, харв. *prȅslijež* 'даліна паміж двух узгоркаў'. Няясна. Аўтары ЕСУМ (4, 346—347) звязваюць украінскае слова, а таксама укр. *пе-*

*реслю́гуватий, перешлю́говатий* ‘няроўнамерны; з прагалінамі; няпоўны’, з *слюга́* ‘непагадзь, макрэча, слата’, што не здаецца пераканальным; больш верагодная сувязь з лат. *sluogsne, sluõksne* ‘вузкая паласа’. Апошняе дазваляе далучыць сюды і рус. *пересле́га, пересле́жина* ‘брак у пражы’ (‘тонкае месца ў пражы’?), славен. *preslȩ̂gast* ‘з прасветамі, няроўнамерна размеркаваны’, *preslegasto platno* ‘працёртае палатно, у якім відаць ніткі’, сувязь якіх з папярэднімі не здаецца відавочнай. Адносна апошніх гл. Фасмер, 3, 239. Бязлай (3, 115) далучае сюды і рус. *пересле́га* ‘перакладзіна ў страсе’ і рэканструюе прасл. **per-slěg-* (**per-sъlěg-*), што да **leg-ti* (гл. *ляжаць, лажбіна*)). Скок (3, 35) харвацкае слова ўзводзіць да **pręslo* (гл. *прасла*), што ў выпадку абгрунтаванасці гэтай версіі выводзіць яго за межы ўсходнеславянскіх геаграфічных тэрмінаў. Параўн., аднак, балг. дыял. *прешлу́га* ‘тоўстае месца на нітцы’, *прешлю́га* ‘хвошч’, *прешлю́гав* ‘няроўна спрадзены’, якія БЕР (5, 671) узводзіць да **pręsti* (гл. *прасці*), што малаверагодна пры ідэнтыфікацыі названых слоў з адпаведнымі ўсходнеславянскімі (балг. *пре-* = рус. *пере-*).

**Пярэ́смуржкі** ‘адходы валакна пры часанні льну грэбнем’ (Жд.). Гл. *перасмуры́жыць, смуры́жыць*.

**Пярэ́сна** ‘расліна Trollius europaeus L.’ (Кіс., ТСБМ). Няясна.

**Пярэ́спа** ‘каса, мыс; насыпная дарога праз балота’ (Стан.); параўн. укр. *пере́спа* ‘пярэсып, земляны насып’, польск. *przespa* ‘нешта перасыпанае’, балг. *пре́спа* ‘сумёт’, макед. *преспа* ‘тс’. Вытворнае ад *сы́паць*, з іншай прыстаўкай гл. *вы́спа, на́спа* і пад.

**Пярэ́ступ** ‘расліна Bryonia L.’ (Кіс.), *перэ́ступ* ‘расліна, якая, падобна да хмелю, абвівае платы ў агародах’ (ТС). Параўн. укр. *пере́ступ, пере́ступень* ‘тс’, рус. *переступе́нь* ‘тс’, польск. *przestęp* ‘тс’. Выводзіцца ад *пераступі́ць* ‘перамясціцца, перайсці’, бо расліна “пераступае” (= пералазіць) праз плот, параўн. ЕСУМ, 4, 346; Банькоўскі, 2, 908.

**Пярэ́сты** ‘шматколерны, пярэсты’ (ТСБМ; гродз., брэсц., мін., ЛА, 1; Шат., Гарэц.; Мал.), ‘стракаты, рабы’ (Сцяшк.), ‘назва масці: з вялікімі белымі і чорнымі, белымі і чырвонымі ці бурымі плямамі’ (Янк. 3), *пярэ́сты, пяро́сты, парэ́сты* ‘рабы; брудны’ (дзятл., лід., лях., ганц., нясвіж., ваўк., Сл. ПЗБ), *перэ́сты* ‘стракаты’ (ТС), *пыры́стый* ‘з белымі палосамі на спіне і баках’ (пра жывёлу) (Клім., Сл. Брэс.); укр. *пері́стий, пери́стий,*

*пера́стий* ‘стракаты’, чэш. *peřestý* ‘тс’, славац. *perestý* ‘тс’, балг. пірдопск. *пе́реста* (*коза*) ‘з белымі палосамі па баках і на жываце’, макед. *перјест* ‘пёрысты’. Прасл. дыял. **perestъjь* ‘стракаты’, вытворнае ад **pero* ‘пяро’ (гл. *пяро́*) з семантычным развіццём ‘пёрысты, колеру пер’я’ — ‘стракаты’ (Трубачоў, Этимология—1972, 35), параўн. і славен. *peresast* ‘пёрысты, пер’епадобны’. Інакш Махэк$_2$, 445 (< **pelestъ* пад уплывам **pьstrъ* ‘стракаты, шматколерны’, гл. *пялёсы*), Бязлай, 3, 25.

**Пяр́эсціць** ‘рабіць пярэстым’; экспр. ‘біць, сцябаць, лупіць’ (ТСБМ, люб., Жыв. сл.; Сержп.), ‘біць дубцом, палкай, рабіць пісягі’ (Некр.), ‘збіваць паленам, палкай’ (Шат.), ‘секчы дубцом; лаяць’; параўн. укр. *пері́щити* ‘моцна біць, секчы; моцна, бесперапынна ісці (пра дождж)’, балг. *пера́стим* ‘біць; сварыцца’, *пере́стим* ‘лаяць’. Вытворнае ад *пе́рыць* ‘біць; лупцаваць’ (гл.), аналагічна тлумачацца ўкраінскае (< *пе́рити* ‘тс’, ЕСУМ, 4, 350) і балгарскае (< *пе́ря* ‘біць, лупцаваць’, ‘праць’, БЕР, 5, 167) словы. На семантыку, магчыма, паўплывала *пярэсты* (гл.).

**Пяр́эсцюгі** (*пэр́эсцюгі*) ‘ніткі неаднолькавай таўшчыні’ (івац., Жыв. НС). Магчыма, ад *перасцігнуць* ‘перапыніць, пераняць’ (гл.).

**Пяр́эплат** ‘азярод’ (Касп.; ашм., Стан.). Да *плот* (гл.).

**Пяр́эчынак** (*пэр́эчынок*) ‘ахапак сена’ (івац., Жыв. НС). Гл. *перачынак*.

**Пяр́эчыць** ‘выказваць нязгоду; спрачацца; быць неадпаведным’ (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Бяльк.), ‘забараняць, перашкаджаць’ (Нас., чэрв., Сл. ПЗБ), ‘працівіцца, супрацьпастаўляць’ (Варл.), *перачы́ць* ‘выказваць нязгоду’ (Воўк-Лев., Татарк.). Дзеяслоў да *пе́рак* (гл.), зыходным можна лічыць адно са значэнняў дзеяслова *пяр́эчыць* ‘перасякаць дарогу’ (Нас.), параўн. укр. *пере́чити* ‘выказваць нязгоду, супярэчыць’, рус. *пере́чить* ‘перасякаць папярок; супярэчыць’, польск. *przeczyć* ‘перашкаджаць, выказваць нязгоду’, чэш. *příčiti* ‘супрацьстаяць’, славен. *prẹ̑čiti* ‘пярэчыць’, серб.-харв. *пре́чити* ‘перашкаджаць, ствараць перашкоды’, балг. *пре́ча* ‘тс’, макед. *пречи* ‘тс’, што ўзыходзяць да прасл. **perčiti*, вытворнага ад **perkъ*, першапачаткова ‘паставіць папярок’, далей ‘успрацівіцца’ (Сной$_2$, 562; БЕР, 5, 685; Баньkоўскі, 2, 823). Таго ж паходжання царкоўнаславянізм *папрака́ць*, параўн. *папро́к* і *папяро́к* (гл.), параўн. Фідроўская, Зб. Багародзіцкаму, 145.

**Пяскíж** ‘рыба пячкур’ (Мат. Маг.). Гл. *піскіж*.

**Пясля́к** (*песля́къ*) ‘стары грыб; старэча’ (Нас.), *песля́к* ‘стары грыб’ (Дабр.), *песлячо́к* ‘дзядок (пра хлопца); слабы, нядужы’ (Нас.). Паводле Мяркулавай (Очерки, 188), утворана ад *пес* (гл.) па ўзору іншай назвы грыбоў — *казля́к* (ад *казёл*) са значэннем ‘дрэнны, неядомы грыб’, параўн. рус. *пе́сьи гу́бы*, сюды ж, магчыма, і славен. *pěšak* ‘стары грыб’. Для значэнняў ‘слабы, нядужы’ можна дапусціць утварэнне ад *пе́стлівы* ‘спешчаны, распешчаны’ (Ласт.): *пяс(т)ляк*, параўн. і польск. *pieskliwy, pieścliwy* ‘тс’. Нельга выключыць таксама сувязь з серб.-харв. *песичаво* ‘слабое, якое не расце (пра дзіця)’, балг. *пе́сец*, *песи́ца* ‘хвароба дзяцей, пры якой яны слабеюць і пакрываюцца шэрым пушком’, якія народная этымалогія звязвае з *пес* (БЕР, 5, 186—187).

**Пясня́р** ‘спявак’ (Некр. і Байк.; мазыр., ГЧ), ‘спявак; паэт’ (ТСБМ, Гарэц.), *песьня́р* ‘спявак’ (Бяльк.), укр. *пісня́р* ‘тс’, польск. *pieśniarz* ‘тс’, в.-луж. *pěsnjer* ‘шансанье’, славен. *pesmár* ‘пеўчы’. Утворана ад *пе́сня* (гл.) па тыпу *гусля́р*; магчыма, арэальная інавацыя для перадачы франц. *chansonnier* (Банькоўскі, 2, 567).

**Пясо́га** ‘брудная ільснівая пляма на каўнеры ці адваротах адзення’ (Касп.). Звязана з *пiся́г* ‘пацёк, рага’ (гл.), параўн. *пісо́га* (*pisóha*) ‘вузкая і прадаўгаватая чорная пляма’ (Варл.), *піцо́га* ‘пісяг’ (Жд.).

**Пясо́к** ‘пясок, пясчаная глеба’ (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, Бяльк.), ‘пясчанае поле’ (ЛА, 2), *песо́к* ‘тс’ (ТС); укр. *пісо́к*, рус. *песо́к*, польск. *piasek*, чэш. *písek*, славац. *piesok*, в.-луж., н.-луж. *pěsk*, серб.-харв. *pijȅsak*, славен. *pẹ́sek*, балг. *пя́сък*, макед. *песок*, ст.-слав. **пѣсъкъ**. Прасл. **pěsъkъ*, памянш. да **pěsъ*, параўн. *пясы́* ‘пяскі’ ў фальклоры: “Мяне лісіца нясець... за цёмныя лясы, за жоўтыя пясы” (докш., Януковіч, Слоўнік в. Заборцы, рук.). Суадносна з санскр. *pḁ̄msuka-* ‘пясчаныя буры’, *pḁ̄msu-* ‘пясок, пыл, які нясе вецер’, авест. *pąsnu-* ‘тс’ (Фасмер, 3, 249—250; Бязлай, 3, 28; Банькоўскі, 2, 541; БЕР, 6, 132). Малапераканальна Путанец (Rasprave, 25, 302—303) выводзіць з і.-е. **bhes-* ‘церці’ (у выніку асіміляцыі *bs* > *ps*: **psēsŭ-*, **psēsĭkŭ* > *pēsъkъ*). Крытычны разгляд версій гл. ESJSt, 11, 639—640.

**Пясту́к** ‘вялікі палец’ (Стан.), параўн. укр. *п’ясту́к* ‘кулак’. Хутчэй за ўсё, да *пяць* ‘расцягваць, напінаць’ (гл.) у сувязі з вы-

мярэннем, пры якім выцягнуты вялікі палец ўтварае пядзю (гл. *пядзя*); параўн. ЕСУМ, 4, 651.

**Пясту́н** 'спешчаны, раздураны хлопчык' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Варл., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'аднагадовы воўк (у мове паляўнічых)' (Арх. Федар.; Варл.; віл., смарг., брасл., Сл. ПЗБ), 'аднагадовы мядзведзь, што застаўся пры матцы' (Арх. Федар., прыпіска Пяткевіча), 'мядзведзь, які даглядае дзяцей чужой мядзведзіхі' (Шымк. Собр.), 'аднагадовы мядзведзь, што даглядае за малымі мядзведзянятамі' (Мядзв.), *пе́стун* 'распешчанае дзіця' (Касп., Бяльк.), укр. *песту́н, пісту́н* 'выхавальнік; песта', рус. *песту́н* 'выхавальнік', польск. *piastun* 'служка, што даглядае панскіх дзяцей; выхавальнік', чэш. *pěstoun* 'выхавальнік, апякун; настаўнік; захоплены якой-небудзь справай чалавек', в.-луж. *pěston* 'абаронца, апякун', славен. *pestûn* 'выхавальнік', ст.-слав. **пестоунъ** 'тс'. Прасл. **pěstunъ*, вытворнае ад **pěstati* або **pěstiti* (гл. *песціць*), **pěstovati* (гл. *пеставаць*), далей звязаных з **pěstъ* 'таўкач, мяла', што вобразна перадаюць падкідванне дзіцяці на руках (Варбат, Slavia, 63, 137—139, з літ-рай версій). Пра сувязь з *пясць* ("часто поднимать ребенка пястью, т. е. нянчить") гл. Шымкевіч, Покажчик, 228. Гл. таксама Бязлай, 3, 29; Шустар-Шэўц, 2, 1059; ESJSt, 11, 639. Адносна спецыяльнага ўжывання ў мове паляўнічых: "Паводле народнага веравання — старыя ваўкі трымаюць пры сабе леташняе ваўчаня малых ваўчанят даглядаць, якога завуць пястун" (Варл.).

**Пясць** 'кісць рукі' (ТСБМ, Нас., Стан., Ласт.), сюды ж *пясць*, *пя́стка* 'жменя' (даўг., Сл. ПЗБ; віц., Шн.), укр. *п'ясть* 'кісць рукі; кулак', рус. *пясть* 'кісць рукі', польск. *pięść* 'кулак', чэш. *pěst* 'тс', славац. *päst'* 'тс', в.-луж. *pjasć* 'тс'. н.-луж. *pěsć* 'тс', палаб. *pǫst* 'тс', славен. *pẹ̑st* 'кулак; прыгаршчы', серб.-харв. *пêст, пе̏ст* 'кулак', балг. *пе́стник* 'кулак'. Прасл. **pęstь* 'кулак; сціснутыя пяць пальцаў рукі', далей звязваюць з і.-е. **penku̯e* 'пяць' (Снóй$_2$, 508; Фасмер, 3, 424). Роднаснае ст.-в.-ням. *fūst* 'кулак', ням. *Faust* 'тс', ст.-англ. *fyst* 'тс', гл. Траўтман, 218; Шустар-Шэўц, 2, 1072. Сумнеўная сувязь з *пядзя* (гл.), літ. *kùmstė* 'кулак', якую дапускае Брукнер (412); гл. пярэчанні ў Фасмера (там жа), Скока (2, 645). Агляд версій гл. ESJSt, 11, 642.

**Пята́**, *п'ята́* 'задняя частка ступні, пятка' (ТСБМ, Ласт., Варл., Сцяшк.; ашм., Стан.; віл., Сл. ПЗБ), 'абух у сякеры', 'зад-

няя частка касы', 'тупы канец яйца', 'карма лодкі' (Варл.; Сцяшк.; навагр., полац., Сл. ПЗБ), *п'етá* 'пятка нагі, пятка ў касе, сасе і інш.; межавы знак на вуглу поля' (ТС), *пя́та* 'пятка' (беласт., Сл. ПЗБ), *п'ядá* 'тс' (драг., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *пята* 'месца (пункт), з якога пачынаецца вымярэнне зямлі'; укр. *п'ятá* 'пятка', рус. *пятá,* польск. *pięta*, чэш. *pata*, славац. *päta*, в.-луж. *pjata*, н.-луж. *pěta*, палаб. *ṕǫta*, славен. *pẹ̑ta*, серб.-харв. *пета*, балг. *петá,* макед. *пета,* ст.-слав. **пѧта**. Прасл. **pęta* 'нага, капыт, ступак', роднаснае літ. *péntis* 'абух, задняя частка касы і інш.', лат. *piête, pietis* 'абух, аснова грабель, заднік, запатылак', ст.-прус. *pentis* 'пята', афг. *pūnda* 'пята', што ўзыходзяць да кораня і.-е. **pent-* 'ісці, хадзіць' (Скок, 2, 648; Сной$_2$, 510). Іншая, менш верагодная версія звязвае праславянскае слова з **pęti* 'напінаць' (гл. *пяць*), **pǫto* 'пута' (гл. *пута*), параўн. Шустар-Шэўц, 2, 1072; БЕР, 5, 192; ЕСУМ, 4, 651; пад сумненнем Фасмер, 3, 424. Абедзве версіі лічыць прыймальнымі ESJSt, 11, 643. Збліжэнне з польск. *piękny* (гл. *пекны*) з больш ранняга *pięk(r)ny* 'выступаючы, выпуклы', здавальняючае семантычна, вядзе да сумнеўнай рэканструкцыі **penktā,* гл. Банькоўскі, 2, 573.

**Пя́тка$_1$** 'пята; задняя частка касы; тупы канец яйца; запятак; задні капыток у каровы' (Нас., Касп., Шат.; Бяльк.; докш., смарг., бярэз., лях., лід., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *пята* (гл.).

**Пя́тка$_2$** 'пяцёрка' (астр., швянч., Сл. ПЗБ; Стан.), 'пяць рублёў' (Касп.). Форма з першым значэннем, напэўна, пад уплывам польск. *piątka* 'пяцёрка (у тым ліку адзнака)', другое значэнне на базе ўтварэння ад *пяць* (гл.) па тыпу *пята́к* 'дробная манета' і пад.

**Пятля́$_1$** рухомае кальцо з вяроўкі, сіло; пяцелька (у адзенні)' (ТСБМ, Нас., Ласт., Стан.; Сцяшк.; мсцісл., Жыв. сл.; даўг., Сл. ПЗБ), *петля́* 'тс' (ТС), сюды ж *пятле́йка, петле́йка* 'пяцелька, пятліца, гафтачка; почапка' (баран., Сл. ПЗБ; ПСл; лун., Шатал.), *пяце́лька* 'тс' (ТСБМ, Ласт.), *пятлю́шка* 'гафтачка' (Жд.), ст.-бел. *петелка* 'тс' (Скарына). Укр. *петля́,* рус. *пе́тля́,* польск. *pętla*, ст.-польск. *petlica*, чэш. *petlice*, славен. *pentlja*, *pétlja* 'пятля', серб.-харв. *пѐтља* 'гаплік', балг. *петля*, *пе́телка* 'пяцелька з ніткі; гузік', макед. *петелка* 'гузік', ст.-слав. **петлıа** 'пятля'. Прасл. **petьlja* не мае агульнапрынятай этымалогіі. Лічыцца запазычаннем з невядомай германскай крыніцы, параўн. ням. *fessel*,

ст.-в.-ням. *fezzil*, ст.-ісл. *fetill*, ст.-анг. *feter* ‘сіло, путы’ і інш. (Фасмер, 3, 252; Бязлай, 3, 32; Банькоўскі, 2, 534; БЕР, 5, 202). Сной$_2$ (505) рэканструюе прасл. **pętъl’a*, якое ўзводзіцца да **pętъ* ‘нацягнуты, напяты’; яшчэ раней Махэк$_2$ (447) звязваў з **pęti* (гл. *пяць*), **ǫto* (гл. *пута*).

**Пятля́$_2$** ‘дзетародны орган самкі жывёлы’ (Нас.), *пяцэ́лька* (*piecièlka*) ‘vulva’ (Нас.; Сержп.). Відаць, эўфемізм (гл. *пятля$_1$*), параўн. *пу́тка* ‘пятля, пяцелька (у мове шаўцоў)’: *здзелай трохі шэрэйшае путка* (добр., Мат. Гом.) і балг. *пу́тка* ‘vulva’.

**Пятні́к** ‘гняздо, у якім паварочваецца вось варот’ (Нас., Касп., Нік. Очерки), ‘прыстасаванне, пры дапамозе якога дзверы прымацоўваліся да вушакоў’ (Варл.), *пя́тнік* ‘вушак, да якога прымацоўваюцца дзверы завесамі; вушак наогул’ (Бяльк., Мат. Маг.), укр. *п’ятни́к* ‘крук, на які навешваюцца дзверы’, рус. дыял. *пятни́к* ‘прыстасаванне для навешвання дзвярэй, варот’, славен. *petník* ‘завесы ў варотах; вушак; парожак’. Прасл. дыял. **pętьnikъ*, якое Бязлай (2, 32) параўноўвае з ц.-слав. *пятьно* ‘шпора, астрога, пыж’, літ. *pentìnas* ‘шпора’, *ùžpentis* ‘шпора ў пеўня’, лат. *piêsis* ‘шпора’. Міклашыч (239) выводзіў з **pęta* ‘пята’ (гл. *пята́),* Фрэнкель (571) меркаваў пра кантамінацыю **pęta* і **pęti* (гл. *пяць*). Гл. таксама *напіта*.

**Пя́тніца$_1$** ‘пяты дзень тыдня’ (ТСБМ, Ласт., ашм., Стан.; брасл., астрав., шчуч., Сл. ПЗБ). *п’я́тніца* ‘тс’ (Бес., ТС), памянш. *пя́ценка* ‘тс’ (Ян.), укр. *п’я́тниця*, рус. *пя́тница*, стараж.-рус. *пятьница* ‘тс’. Вытворнае ад **pętь* (гл. *пяць*); лічыцца частковай калькай з грэчаскай мовы, параўн. н.-грэч. πέμπτη ‘чацвер’, паколькі, паводле візантыйскай хрысціянскай традыцыі, тыдзень лічыўся пачынаючы з нядзелі. Лічэнне ад панядзелка, пры якім пятніца была пятым днём, як мяркуецца (гл. Машынскі, Зб. Шымчаку, 283), увёў Мяфодзій. Параўн. *пято́к* (гл.).

**Пятніца$_2$** ‘кураслеп, Anemone ranunculoides L.; чубатка, Corydalis Medis.’ (Бейл.). Няясна. Магчыма, народнаэтымалагічнае асэнсаванне (табуізацыя?) адной з народных назваў кураслепу — *пянікніца* (Кіс.), няяснага паходжання.

**Пятно́** ‘пляма на адзенні’ (ЛА, 3; баран., Сл. ПЗБ), ‘радзімка, знак на целе, сіняк’ (віл., воран., Сл. ПЗБ), сюды ж *пе́тня* (*piétnia*) ‘чырвоная плямка на скуры’ (Варл.), *пяцьмо́* ‘пляма на адзенні’ (Ян.), *пятня́к* ‘тс’ (лях., Сл. ПЗБ), *пя́тнашка* ‘сіняк’

(шчуч., Сл. ПЗБ), *пятло́* 'ружовае месца на шчацэ' (ЛА, 3); укр. *п'ятно́, петьмо́* 'пляма, знак', рус. *пятно́* 'тс', польск. *piętno, piątno* 'таўро, пячатка, кляймо', балг. *петно́, пьекно́* 'пляма; карычневая плямка на скуры ад старасці'. Прасл. **pętьno* 'след, знак' (спачатку ў мове паляўнічых), што ад **pęta* (гл. *пята́*) (Фасмер, 3, 425; БЕР, 5, 203). Паводле Банькоўскага (2, 543—544), толькі ўсходнеславянскае, у іншых мовах — запазычанне з усходнеславянскіх, пра спецыфічнае паходжанне слова, на яго думку, сведчыць рус. *гнаться по пятам* 'ісці па следу'.

**Пято́к**$_1$ (*piatók*) 'пятніца' (Варл.), сюды ж *пятко́вы* (*пятко́вый*) 'пятнічны' (Нас.), ст.-бел. *пятокъ* 'пятніца'; укр. *пято́к* 'тс', польск. *piątek*, чэш. *pátek*, славац. *piatok*, в.-луж. *pjatk*, н.-луж. *pětk*, славен. *pẹ́tek*, серб.-харв. *пѐтак*, балг. *пе́тък*, макед. *петок*, ст.-слав. **пѧтъкъ**. Звязана з *пяты*, *пяць* (гл.), гл. *пятніца* 'тс'. Паводле Німчука (Давньорус., 95), запазычана са стараславянскай і падтрымлівалася польскім уплывам.

**Пято́к**$_2$ 'пяць' (ТСБМ, Бяльк.; Сержп.); укр. *п'я́ток* 'пяцёрка (грошай)', рус. *пято́к* 'пяць (штук)'. Вытворнае ад *пяць* (гл.).

**Пя́тра**, *п'я́тра* 'вышкі ў хляве або гумне; ярус' (Стан., мазыр., З нар. сл.; ПСл), *piátro*, *p'átro, p'étro* 'тс' (Маш., Тарн.), *пя́тра, п'ятро́* 'курасадня, куратнік' (Мат. Маг.; мазыр., Шатал.), *пя́тры* 'столь у асеці з жордак' (Бяльк.), *пйа́тро, пя́тро* 'гара ў хаце; старана ў гумне; прасла' (палес., Нар. сл.), 'раскладка снапоў для малацьбы' (жытк., ДАБМ, камент., 872), 'пустоты пад вісячым ільдом на вадаёмах' (ТС), *п'я́тра* 'тс' (парыц., Мат. Янк.), ст.-бел. *пятро* 'паверх, ярус'. Укр. *п'я́тра* 'ярус', рус. *пя́тра* 'вышкі; павець', польск. *piętro* 'паверх', чэш. *patro* 'паверх, вышкі ў хляве', славен. *pétro* 'столь з брусоў, пуня', серб.-харв. *пѐтар* 'верхні паверх, вышкі', макед. *петар* (*petar*) 'столь, гарышча' (Hendriks, The Radožda-Vevčani Dialect of Macedonian Lisse, 1976). Звычайна выводзяць прасл. **pętro* ад **pęti* (гл. *пяць*$_2$) з рэдкім суфіксам **-tro*, гл. Фасмер, 3, 426; для паўднёваславянскіх слоў мяркуецца суфікс **-rъ* (**pęt-rъ*, гл. Заімаў, SlW, 172). Словаўтваральныя цяжкасці Банькоўскі (2, 574) прапануе перададолець рэканструкцыяй прасл. **prętro*, параўн. каш. *přątro* 'столь, вышкі; паднябенне', ст.-польск., а таксама дыял. *przętro* 'паверх, тэраса', в.-луж. *přatr* 'мацаванне даху ў адрыне, свіран', н.-луж. *pšětš* 'вышкі', палаб. *prǫtrü* 'вышкі ў адрыне', што да

*prent-* ‘размяшчаць гарызантальна, насцілаць’ (гл. *пратаць, прут, прасла*), гл. таксама Гомалкава, Stud. Etym. Brun., 1, 70 (мяркуецца пра зыходную семантыку ‘вышкі з насланых жэрдак’). Пра заходнеславянскія формы падрабязна Шустар-Шэўц, 2, 1168 (супастаўляюцца з літ. *sprę̃sti* ‘расцягваць, распіраць’, *sprindỹs* ‘пядзя’); SEK, 4, 121—122 (формы з **prętr-* з’яўляюцца праславянскім дыялектызмам на фоне формаў з **pętr-*).

**Пятро́** ‘божая кароўка, Coccinella’ (ЛА, 1), *пятра́-па́ўла* ‘тс’ (брасл., Сл. ПЗБ), *пятру́к* ‘тс’ (швянч., Сл. ПЗБ), *пятру́шка* ‘тс’ (паст., Сл. ПЗБ; Жд.). Гл. *пе́трык*.

**Пятру́шка** ‘пятрушка, Petroselinum crispum (Mill.) Nym.’ (Кіс., ТСБМ; смарг., Сл. ПЗБ), ‘Petroselium sativum’ (Ласт.), ст.-бел. *петрушка* ‘тс’ (1571 г.); укр. *петру́шка*, рус. *петру́шка*, польск. *pietruszka*, в.-луж. *pětruška* ‘тс’. Зыходным словам лічыцца польскае, якое праз дыял. *piotruszka*, *piotružka* памянш. ад *piotružela* (XV ст.), што са ст.-чэш. *petruželě*, с.-в.-ням. *petersilje*, лац. *petroselīnum* з грэч. πετροσέλῑνον, літаральна ‘горны сельдэрэй’ (Фасмер, 3, 253; Банькоўскі, 2, 567; ЕСУМ, 4, 362). Віцьбіч (Спадчына, 2000, 5—6, 167) сцвярджае, што ўпершыню Рэч Паспалітую пазнаёміла з пятрушкай каралева Бона Сфорца.

**Пятрэ́ць** ‘сохнуць, высыхаць (на сонцы, ветры і пад.)’ (ТСБМ), ‘жыць надгаладзь, прычым працяглы час’ (Янк. 1), *пя́трацъ* ‘сохнуць, знясільваць’ (Шат., Нас.). Дубоўка (Узвышша, 1929, 8, 105) выводзіў ад *пя́тра* ‘вышкі ў асеці для сушкі снапоў’, ‘паліцы ў ганчароў, на якіх сушаць вырабы з гліны’. Паводле Янкоўскага, “трэба думаць, ад назвы летняга посту — пятроўка” (Янк. 1, 158), што сумнеўна. Спецыяльна гл. Коген, Узвышша, 1929, 8, 102. Гл. *пе́трацъ*.

**Пяту́н** ‘певень’ (Анім.; брасл., Жыв. НС). Відавочна, кантамінацыя *пяту́х* і *пяву́н* ‘певень’ (гл.).

**Пяту́х** ‘певень’ (Касп.; в.-дзв., Шатал.; віц., Жыв. НС; віл., дзятл., брасл., шчуч., шальч., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.; Сцяц., Сцяшк., Сержп., Ян.), ст.-бел. *петухъ* ‘тс’; у ВКЛ Бярында лічыў слова характэрным для гістарычнай Літвы, г. зн. паўночна-заходняй Беларусі: *волынски — певень, литовски — петухъ* (Лексиконъ, 11). Больш поўны малюнак распаўсюджання назвы на беларускай моўнай тэрыторыі гл. Жыв. св., 52; на тэрыторыі Украіны, Расіі і Польшчы гл. Фалінска, Leksyka hodowli, 1, 62—63. Сюды ж таксама

памянш.-ласк. формы *пéця, пéцька* (гл.). Параўн. адзначанае яшчэ Ягічам харв. чак. *petèh* 'тс'; а таксама *petȅh* (Црэс), славен. *pę̣teh* 'тс' (Слаўскі, Slavica, 99); харвацкія формы Борысь (Czak. stud., 152) разглядае як праславянскія дыялектызмы ці вытворныя ад праславянскіх слоў. Адносна славенскага слова гл. Бязлай, 3, 30. Вытворнае ад **pěti* 'спяваць' (гл. *пець*) з рэдкім суфіксам *-ихъ*, параўн. *пастýх* ад *пасці* 'пасвіць' (параўн., Фасмер, 3, 253).

**П'я́ўка₁** 'прэснаводны чарвяк, Hirudo medicinalis; sanguisuga' (ТСБМ, Бяльк., Ласт., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *пья́ўка* 'тс' (Дразд., Бес.), *пля́ўка* 'тс' (ЛА, 1); укр. *п'я́вка, пля́вка* 'тс', рус. *пья́вка, пия́вка* 'тс'; параўн. польск. *pijawka* 'тс', чэш. *pijavka* 'тс', славен. *pijávka*. Прасл. **pьjavka* звязана з **pьjati*, ітэратыў ад **piti* 'піць' (гл. *піць*), паралельнае ўтварэнне да **pьjavica*: *п'я́віца, п'я́выца* (ЛА, 1; Дразд.), сюды ж *п'я́вычнык* 'рачныя ракавіны, чаропкі' (Дразд.), укр. *п'я́виця*, рус. *пия́вица*, польск. *pijawica*, палаб. *pagaweicia*, в.-луж. *pijelca*, чэш. *pijavice*, славац. *pijavica*, серб.-харв. *пи̏јавица*, славен. *pijávica*, балг. *пия́вица*, макед. *пијавица* (Фасмер, 3, 271; ЕСУМ, 4, 649; Шустар-Шэўц, 2, 1062; БЕР, 5, 284; Бязлай, 3, 34). Паводле Німчука (Давньорус., 229), формы з суфіксам *-к-а* з'яўляюцца пазнейшай інавацыяй на ўсходнеславянскай глебе, што цяжка давесці. Гл. таксама *п'еўгá, п'éўка*.

**П'я́ўка₂** 'скаба': *п'яўкамі прысцегваюць сцены* (ТС). Няясна; магчыма, да *п'яць* 'напінаць, сцягваць' (ТС), гл. *пяць₂*.

**Пяхóта**: *на пяхóту* 'пехатой, пешшу' (Цых.), 'род войска' (ТСБМ, Ласт.), *пяхóтай* 'пешшу' (валож., Жыв. сл.), *пяхóтам* 'тс' (Жд.), *пехотóм* 'тс' (ПСл), *пяхтóм* 'тс' (Сцяшк. Сл.), укр. *піхóта* 'пяхота', рус. *пехóта* 'тс', польск. *piechota* 'хаджэнне пешкі; пешае войска', чэш. *pěchota* 'пешае войска'. Прасл. дыял. **pěxota*, вытворнае ад **pěxъ* 'пешы' (Фасмер, 3, 254), гл. *пехата*. Відаць, не можа разглядацца асобна ад славен. *pehóta* 'стома', якое Бязлай (3, 21) параўноўвае з харв. дыял. *pijèhati* 'дыхаць, храпці'. Тады, відаць, першапачаткова гукапераймальнае, параўн. чэш. *pěch* 'трамбоўка', *pěchovati* 'трамбаваць, піхаць'. Банькоўскі (2, 546) прапануе выводзіць з **pěxъ* 'павольнае і мернае апусканне таўкача ў ступе', што адлюстравалася ў *пех* 'чалавек, якога трэба папіхаць да справы' (Нас.), чэш. *pěchem* 'паволі', балг. *пех* 'марудны, цяжкі' і звязана з *пхаць, піхаць* (гл.). Па семантычных і фармальных прыкметах цяжка выводзіць з і.-е. **pēd-s*, параўн.

і.-е. *$p\bar{e}d$- ‘нага, ступак’, параўн. Махэк$_2$, 446; Варбат, Этимология—1971, 18. Гл. таксама *пешы* (*ш* < *х*, параўн. *пéхам* ‘пешкі’, гл.). У значэнні ‘род войска’ запазычана праз польскую з чэш. *pěchota* або непасрэдна з рус. *пехóта*, што замянілі ў XVIII ст. германізм *інфантэрыя* (з ісп. *infantería*, ад *infante* ‘хлопец, пахолак, які пешкі суправаджаў рыцара на кані’).

**Пяхóтка** ‘фасоля, якая не ўецца’ (слонім., Расл. св.), *пехóтка* ‘тс’ (ПСл), параўн. укр. *піхóта* ‘тс’, польск. *piechota* ‘тс’, балг. *пешáк* ‘тс’ і ‘пешаход’, што семантычна выводзяцца з ‘прыземлены, прыбіты, прыціснуты да зямлі; пешы’ (ЕСУМ, 4, 419). Гл. *пéшка*, *пехатá*.

**Пяхцéль** (*piachciél*) ‘сеткавы мяшок для сена карміць каня ў дарозе’ (Варл.), *піхцéль* ‘вяровачны мяшок для сена’ (Нік., Очерки; Касп.), *піхцель* ‘кашэль для носкі сена’ (мядз., Жд.), ‘кашэль з бяросты для харчу ў дарозе’ (Нік. Очерки). Відаць, да наступнага слова.

**Пяхцéр** ‘кашэль, торба; пра нязграбнага, непаваротлівага чалавека’ (ТСБМ; Нас., Растарг., Мядзв., Мат. Гом.), *пéхцер* ‘гультай’ (Мат. Гом.), *піхцéр* ‘вяровачны мяшок; няўклюда’ (Нік. Очерки; Касп.), *пяхтэ́р, піцер, піхтóр, пэхтýр, пяхтýр* арг. ‘мяшок’ (Рам. 9), сюды ж *пяхцéрыць* ‘набіваць, напіхваць’, *пяхцéрыцца* ‘наядацца’, *пяхцéрны* ‘сетачны’, *пехцярóм* ‘апрануўшыся неахайна’ (Нас.). Укр. *пихтíр, пухтíр, пухтíер* ‘мяшок для корму каня ў дарозе’, рус. *пéхтéрь* ‘кашэль для сена; тоўстае, пражэрлівае дзіця’; сюды ж, відаць, і *пéстер, пестéрь, пéщерь, пéще, пищéр, пéщур* ‘заплечная вярэнька, рагожа’, ‘няўклюда’. Дакладнай этымалогіі не мае. Варыянтнасць формы, хутчэй за ўсё, сведчыць аб запазычанні. Да той жа высновы схіляе і шырокае ўжыванне ў традыцыйных усходнеславянскіх арго. Анікін (446) рус. *пéстер, пехтéрь* і пад. на падставе неўласцівай славянскім мовам варыянтнасці *-хт-/-ст-* разглядае следам за Вострыкавым (Этим. иссл., 1981, 23—24) як субстратныя фіна-ўгорскія элементы, звязаныя з марыйск. *пӧштыр*, *пешыр* ‘тс’, параўн., аднак распаўсюджанасць ва Украіне, што, магчыма, пярэчыць такой крыніцы. Зближэнне з *піхаць* (Нас., 413) можа мець другасны характар; агляд ранейшых версій гл. Фасмер, 3, 250, 254, 428; ЕСУМ, 4, 381. Гл. таксама *пяхцéль*.

**Пя́ценка** — памянш.-ласк. форма ад *пя́тніца* (гл.): *пяценка святая* (Нас.), ‘багіня жыцця і смерці’, параўн.: “Пяценка-Пят-

ніца была багіняй добрага... Устаноўшчыкі хрысціянства шмат уступілі на карысць Пяценцы. Яны падмянілі яе святой велікамучаніцай Параскай. Нібы Параска — гэта тая самая Пяценка" (Дзядзька Квас, Роздум на калёсах. Беласток, 1995, 167—168). Няясна, магчыма ўзыходзіць да ст.-слав. **пѧтъка** 'імя каляндарнай святой', што лічыцца калькай с.-грэч. *παρασκευή*, параўн. балг. *Света Петка* 'тс', рус. *Святая Параскева Пятница* і пад. Магчыма, атаясамліванне паганскай багіні *Мокашы* з названай святой (ABSl, 22, 19; Успенскі, Филолог. разыскания в области слав. древностей. М., 1982, 136; Страхаў, Этимология—1997—1999, 160—162).

**Пяць₁** 'лічба пяць' (ТСБМ, Нас., Ласт., Стан., Сл. ПЗБ), *п'яць* 'тс' (ТС), укр. *п'ять*, рус. *пять*, польск. *pięć*, чэш. *pět*, славац. *päť*, каш. *ṕińc*, в.-луж. *pjeć*, н.-луж. *pěś*, палаб. *pąt*, славен. *pȩ̑t*, серб.-харв. *pȇt*, балг. *пет*, макед. *пет*, дыял. *пент*, ст.-слав. **пѧть**. Прасл. **pętь* 'пяцёрка', лічыцца вытворным ад **pętъ* 'пяты'; роднаснае прус. *penckts* 'пяты', літ. *penkì* 'пяць', лат. *pìeci* 'тс', гоц. *fimf*, ст.-в.-ням. *fimfto*, ням. *fünfte* 'тс'; сюды ж таксама ст.-інд. *páñca*, грэч. *πέντε*, лац. *quīnque* 'тс' (Фасмер, 3, 426; Шустар-Шэўц, 2, 1074; Махэк₂, 447; БЕР, 5, 191; Глухак, 476—477; Сной₂, 509—510; ESJSt, 11, 643—644; ЕСУМ, 4, 652—653). Пра першасны назоўнікавы характар лічэбніка, на думку Банькоўскага (2, 569), сведчаць фразеалагізмы — польск. вілен. *ni pięć, ni dziewięć*, адпаведна *ні ў пяць, ні ў дзесяць* 'дрэнна і непапраўна (зрабіць)' (Шат.), паралельныя да літ. *nei penki, nei devyni* 'ні тое, ні сёе'.

**Пяць₂** 'напружваць, напінаць' (ТСБМ), 'ціснуць, перці; пнуць, піхаць' (Нас.), *пя́цца* 'напружвацца; праціскацца; тужыцца' (Нас.; Сержп.; смарг., Сл. ПЗБ), *п'я́цца* 'пнуцца' (ТС), *пя́стысь, пясты́сь* 'напружвацца' (Сл. Брэс.); укр. *п'я́сти* 'нацягваць', рус. *пять*, польск. *piąć*, чэш. *píti*, славац. *pnúť*, в.-луж. *pjeć*, н.-луж. *pěś*, серб.-харв. *пе́ти* 'ўзнімаць', славен. *pẹ́ti* 'нацягваць', балг. *пъ́на*. Прасл. **pęti, *pьnǫ* 'напружваць, напінаць', роднаснае літ. *pìnti* 'плясці, скручваць', лат. *pît* 'тс', грэч. *πένομαι* 'працаваць', гоц. *spinnan* 'прасці', на аснове якіх рэканструюецца і.-е. **(s)pen-* 'цягнуць, нацягваць' (Махэк₂, 447; Фасмер, 3, 292; Шустар-Шэўц, 2, 1075; Глухак, 477—478; Сной₂, 510—511). Мартынаў (Язык, 81) лічыць, што першапачатковае тэрміналагічнае значэнне 'зві-

ваць, прасці', змененае пад уплывам прасл. **plesti* (гл. *плясці*), што пераняло першаснае значэнне. Гл. таксама і *пнуць, пнуцца.*

**Пя́цьміна** 'пляма' (Ян., Юрч. Сін.). Вытворнае ад *пяцьмо́* (гл. *пятно*). Гл. таксама *пе́цьміна.*

**Пяча́йка** 'пякотка' (ТСБМ; Гарэц.; дзятл., карэл., лях.,. свісл., смарг., астрав., Сл. ПЗБ; Янк. 3; Жд.; Сцяц.; слонім., Нар. лекс.; навагр., Жыв. сл.), *піча́йка, пычя́йка* 'тс' (віл., Жыв. сл.; Сл. Брэс.; Сл. ПЗБ). Гл. *печая́* 'тс'.

**Пяча́ла** 'чапяла' (Жд.). Да *чапяла́* (гл.) з метатэзай, выкліканай збліжэннем з *печ*, параўн. палес. *чепері́ця* 'грыб Agaricus' пры зыходным *пячурыца* 'тс' (гл. *пячурка*), што, паводле Непакупнага (Связи, 36, 41), адбылося пад уплывам усходнебалтыйскай фанетычнай інавацыі, параўн. *пе́кці* 'пячы', літ. *kèpti*, лат. *cept* 'тс'.

**Пяча́ць** 'уласны знак фізічнай або юрыдычнай асобы; адбітак' (ТСБМ, Гарэц.), *пяча́тка* 'тс' (ТСБМ, Нас., Шат.), 'кляймо' (Нас.); укр., рус. *печать*, польск. *pieczęć*, чэш. *pečeť*, славац. *pečať*, в.-луж. *pječat*, серб.-харв. *пѐчат*, славен. *pečȃt*, балг. *печа́т*, макед. *печат*, ст.-слав. **печать**. Прасл. **pečatь*, традыцыйна звязваецца з **pek-ti* 'пячы' і першасным значэннем 'таўро (на скуры жывёлы)', якое рабілася выпальваннем, літаральна "выпечаны знак". Паходжанне ад грузінскага *beč'edi* 'пячатка', што ўзыходзіць да славяна-каўказскіх паралеляў Мара (Абаеў, Зб. Младэнаву, 327), патрабуе дадатковага абгрунтавання. Гл. Фасмер, 3, 255; Махэк$_2$, 441; БЕР, 5, 212; Сной$_2$, 501; Глухак, 473; Банькоўскі, 2, 547; ЕСУМ, 4, 363—364; ESJSt, 11, 633—634.

**Пячка́р** (*печка́р*) 'пячнік'. Ад *пе́чка* (гл. *печ*) па тыпу *лажка́р* 'майстар па вырабу ложак' і пад., параўн. аналагічнае балг. *печка́р* 'чалавек, які робіць ці рамантуе печкі'.

**Пячку́р**$_1$ 'невялікая рачная рыба, Gobio gobio(L.), Cottus gobio L.' (Жук., ТСБМ, Янк. 1), *печку́р* 'тс' (ТС); сюды ж *пячку́рыцца* 'жыраваць'; параўн. укр. *пічку́р* 'тс', рус. *печку́р* 'тс', славен. *piškúr* 'рыба Cobitis fossilis, Petromyzon fluviatilis', серб. *пȕшкур* 'тс'. Відаць, у выніку збліжэння *пяску́р* ці *піску́р* (гл.) да *пячо́ра, пячу́ра* 'ямка ў рацэ; падмыты бераг': *ракі і рыбы вядуцца ў печорах* (Бір.), параўн. аналагічнае *пячку́р, печку́р* 'берагавая ластаўка', *пячу́рка, пячу́рнік* 'тс' (ТС; ЛА, 1), гл. таксама ЕСУМ, 4, 420. Паўднёваславянскія словы ў выніку фанетычных дыя-

лектных змен першапачатковага **piskor'ь* ад **piskati* (гл. *пішчаць*, *піск*), параўн. Бязлай, 3, 43; Сной$_2$, 518. Гл. *пяшкур*.

**Пячку́р$_2$** 'пячнік' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Касп., Др.-Падб., Юрч., Мат. Маг.); параўн. укр. *пічку́р* 'качагар, апальнік'. Паводле Блесэ (SB, 5, 17), з літ. *pečkuris* 'качагар', што цяжка давесці (Лаўчутэ, Балтизмы, 147). Відаць, нельга разглядаць асобна ад *пячку́р, печку́р* 'хто любіць ляжаць на печы' (Сцяшк., Др.-Падб., ТС), *пячку́р* 'лянівы кот, які не ловіць мышэй' (дубр., ушац., Жыв. НС); хутчэй за ўсё, ад *пе́чка,* памянш. да *печ* (гл.) пад уплывам *пячу́рка* 'ніша ў печы для сушэння', параўн. *пячу́рнік* 'хто любіць ляжаць на печы' (Варл.), *пячу́р* 'тс' (Сцяцко. НЛС). Гл. *пячка́р.* Украінскае слова выводзяць з *печ* і *ку́рити* (гл. *курыць*), параўн. і *смалаку́р*, гл. ЕСУМ, 4, 420.

**Пячо́нка**, *печо́нка* 'смажаніна, свежаніна' (Шн. 3, ТС), 'бульба, спечаная ў прыску' (Сцяц.), 'печаны гарбуз' (Сл. Брэс.), 'пячэнне' (Мат. Маг.), 'печань жывёлы як прадукт харчавання' (ТСБМ), 'печань' (Шат., Сл. ПЗБ, Маш.), *пячо́нкі* 'печань, печані' (Бяльк.); укр. *печі́нка* 'пячонка, вантробы', польск. *pieczonka* 'печань', чэш. *pečenka* 'смажаніна', *pečėnky* 'печань', славац. *černa pečenka* 'тс', славен. *pečenka* 'смажаніна', серб.-харв. *пѐченка* 'смажаніна; печань', балг. *пече́нка* 'печань; печаная кукуруза', макед. дыял. *печенка* 'печаная кукуруза'. Вытворнае ад **pekti* (гл. *пячы*), дзеепрыметніка **pečenъ(jь)* 'печаны'; да семантыкі параўн. літ. *kẽpenos* 'печань, печані' ад *kèpti* 'пячы'. Гл. *печань.*

**Пячо́ра** 'нара; падземны ход' (ТСБМ, Нас.; Яруш., Шат., Сержп.; асіп., Сл. ПЗБ), *печо́ра* 'тс' (ТС) 'ямка ў рацэ, вымытая вадою' (ПСл), *пычо́ра* 'нара' (Сл. Брэс.), *пячэ́ра* 'тс' (рагач., Сл. ПЗБ), *пячо́ры* 'норы ў абрыве пад берагам' (Мат. Маг.), *пяча́ры* 'пячоры' (трак., Сл. ПЗБ), *пяшчо́ра, пешчо́ра, пешчэ́ра* 'пячора; нара ў беразе ракі' (Сцяшк., Мат. Маг.; ТС); укр. *пече́ра, пече́ря* 'пустота ў зямлі з выхадам на паверхню; нара', рус. *пеще́ра* (з ц.-слав.), *печо́ра*, польск. *pieczara* (з усх.-слав., гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 413—414; Цыхун, Acta Albaruthenica, 3, 93), *piecora* 'глыбокая яма ў рацэ, дзе рака заварочваецца', балг. *пещера́,* макед. *пештера*, ст.-слав. **пєштєра** 'пячора'. Прасл. **pekt'era* 'пячора, яма', суфіксальнае вытворнае ад **pektь* (гл. *печ*), параўн. з іншай суфіксацыяй серб.-харв. *пѐћина* 'пячора'. Адпаведна формы са *-шч-*

запазычаны з царкоўнаславянскай. Гл. Фасмер, 3, 256; ЕСУМ, 4, 364; БЕР, 5, 223; Банькоўскі, 2, 547; Німчук, Давньорус., 112; ESJSt, 11, 636.

**Пячу́рка**, *пячо́рка* 'грыб шампіньён' (ЛА, 1; лях., Янк. Мат.; Жд., Скарбы), *печу́рка, пычу́рка, пэчу́рка* 'тс' (палес., Жыв. сл., Нар. словатв.); укр. *печі́рка*, дыял. *печу́рка*, польск. *pieczarka*, чэш. *pečárka*, славац. *pečiarka*, серб.-харв. *пѐчурка* 'грыб', славен. *pečȗrka* 'грыб Boletus lactifluus', балг. *печу́рка, печо́рка* 'шампіньён, грыб', макед. *печурка* 'грыб'. Прасл. **pečerъka* або **pečurъka*, звычайна звязваюць з **pekti* (гл. *пячы*) ад магчымасці ўжываць грыбы печанымі, параўн. Сяржаніна, Грыбы, 542; Мяркулава, Очерки, 171; Фасмер, 3, 246. Іншыя назвы: *пячуры́ца, пэчэры́ца* 'шампіньён' (Жыв. сл.), укр. *печери́ця*, рус. *печери́ца*, даюць падставы для рэканструкцыі прасл. **pečerica* (Глухак, 473).

**Пячы́** 'скварыць, смажыць, пячы, прыпякаць' (ТСБМ, Нас.; Яруш.; ашм., Стан.; Сцяшк., Шат.; Сл. ПЗБ), *печ* 'тс' (Бяльк.); рус. *печь*, польск. *piec*, чэш. *péci*, в.-луж. *pjec*, н.-луж. *pjac*, палаб. *piet*, славен. *pȇči*, серб.-харв. *пѐћи*, балг. *пека́*, макед. *пече*, ст.-слав. **пєшти**. Прасл. **pekti* (гл. *пекці*), першаснае значэнне 'пячы на адкрытым агні', параўноўваюць са ст.-інд. *pácati* 'гатуе, смажыць', алб. *pjek* 'пячы', грэч. πεσσω 'варыць', з метатэзай сюды ж літ. *kèpti*, лат. *cept* 'пячы' (Глухак, 474; Шустар-Шэўц, 2, 1073; Бязлай, 3, 19; БЕР, 5, 132; ESJSt, 11, 636). Формы з *-ч-* па аналогіі з формамі цяп. ч. *пячэ́ш, пячэ* і пад.

**Пячы́на** (*печы́на*) 'абломак поду ў печы' (ТС). Да *печ* (гл.); рэалія мела засцерагальныя функцыі, параўн.: *у нас ек едуць венчацца, то беруць гэту печыну* (там жа).

**Пяя́ць** 'спяваць' (ТСБМ, Гарэц., Касп., Кос., Жд., Сл. ПЗБ, Стан.), *пêяць* 'тс' (ГЧ), укр. дыял. *пі́яти*, рус. пск. *пая́ць* 'тс', польск. *piejać* 'тс', серб.-харв. *pȍjati* 'спяваць у царкве'. Прасл. **pějati*, ітэратыў да **pěti* (гл. *пець*); першапачаткова апошняе было зак. тр., а форма *pějati* — незак. тр. (Шаўр., Etym. Brun., 1, 84). Паводле Карскага (2—3, 392), адносіны аналагічныя да *ленава́цца* і *ляні́цца*; *а (я)* замест *ѣ* ў *пяю́ць* узнікла ў гаворках з моцным аканнем у пераднаціскных складах на месцы другаснага *ѣ* з **pějǫtь* (Карскі, 1, 215).

Даведачнае выданне

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Том 10**

**П**

**Укладальнікі:**

**Малько** Раіса Мікалаеўна
**Антропаў** Мікола Паўлавіч
**Цыхун** Генадзь Апанасавіч

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*

Мастак *А. А. Кулажэнка*

Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*

Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*

Камп'ютэрная вёрстка *Л. В. Харытонава*

Падпісана ў друк 30.05.2005 г. Фармат 60×90 $^1/_{16}$. Папера афс. № 1. Гарнітура Times New Roman. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 20,5. Ум. фарб.-адб. 20,5. Ул.-выд. арк. 19,4. Тыраж 1000. Заказ 1697.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Выдавецкі дом "Беларуская навука".
ЛИ № 02330/0056800 ад 30.04.2004 г.
220141. Мінск, Старабарысаўскі тракт, 40.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Типография «Победа».
ЛП № 02330/0056832 ад 30.04.2004 г. 222310. Маладзечна, Таўлая, 11.



**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 10. П /
Э 93 НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад. Р. М. Малько, М. П. Антропаў, Г. А. Цыхун; рэд. Г. А. Цыхун. — Мн.: Бел. навука, 2005. — 325 с.

ISBN 985-08-0651-6.

Чарговы том слоўніка, як і папярэднія тамы, мае на мэце даследаванне гісторыі развіцця лексікі беларускай мовы і яе суадносін з лексікай іншых славянскіх і неславянскіх моў.

Папярэдні том слоўніка выйшаў у 2004 годзе.

У дзесятым томе завяршаецца этымалагічны аналіз беларускіх слоў на літару П. Вялікая ўвага ўдзяляецца лінгвагеаграфіі слоў, словаўтварэнню, семантычным зрухам.

Разлічаны на філолагаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і ўсіх, хто цікавіцца сувязямі беларускай мовы з іншымі славянскімі і неславянскімі мовамі.

**УДК 811.161.3'373.6'374**
**ББК 81.2Беи-4**

**Выдавецкі дом**

**“БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА”**

*прапануе кнігу:*

**Стараславянская** мова: вучэб. дапам. / А. А. Каўрус, М. М. Круталевіч. — Мн.: Бел. навука, 2005. — 386 с.

У кнізе выкладзены адзін з самых цяжкіх лінгвістычных курсаў. Складаецца з уводзін (кароткі гістарычны нарыс) і чатырох раздзелаў: лексіка і словаўтварэнне, фанетыка, марфалогія, сінтаксіс. У канцы змешчаны тэксты з найбольш вядомых помнікаў стараславянскага пісьменства і слоўнік.

Адрасуецца студэнтам філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў, выкладчыкам, вучоным — мова- і літаратуразнаўцам.

*Адрас выдавецкага дому:*
*220141. г. Мінск, Старабарысаўскі тракт, 40.*
*Тэл. 263-23-27*